УДК 947.6
ББК 63.3 (4 Беи ) 5
К-90

Рэцэнзенты:
доктар гістарычных навук, дацэнт кафедры гісторыі Беларусі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы А.К.Краўцэвіч;
кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры новай і найноўшай гісторыі Белдзяржуніверсітэта В.А.Цяплова.

Навуковы рэдактар: доктар гістарычных навук П.І.Брыгадзін

Куль-Сяльверстава С. Беларусь на мяжы стагоддзяў і культур: Фармаванне культуры Новага часу на беларускіх землях (другая палова XVIII ст.-1820-я гады); Навук. рэд. П.І.Брыгадзін - Мн.: Белдзяржуніверсітэт, 2000. - 265 с.

ISBN

У манаграфіі разглядаюцца асаблівасці гісторыка-культурнага працэса на беларускіх землях у другой палове XVIII ст.-1820-я гады. На падставе работ айчынных і замежных аўтараў, архіўных матэрыялаў, мемуарных і эпісталярных крыніц асвятляюцца умовы фармавання культуры Новага часу і яе месца ў грамадстве; аналізуюцца ідэйна-сутнасны лад і нацыянальнае аблічча культуры.
Для навуковых супрацоўнікаў, выкладчыкаў і студэнтаў ВНУ, усіх, хто цікавіцца гісторыяй і культурай нашай Бацькаўшчыны.

УДК 947.6
ББК 63.3 (4 Беи ) 5
К-90

ISBN

**З М Е С Т**

## Уводзіны

Другую палову XVIII - першыя дзесяцігоддзі XIX стст. у гісторыі культуры беларускіх земляў можна акрэсліць як пераходны перыяд, у час якога кшталтуецца новы тып культуры. Менавіта ў такім сэнсе характэрызуюць гэтыя гады ў стасунку да беларускіх земляў беларускія навукоўцы і вядучыя паланісты.[1] Пераходныя этапы маюць найважнейшае значэнне ў гісторыка-культурным працэсе[2], яны, як правіла, надзвычай складаныя для даследвання. Многія з'явы ў гэты час маюць характар тэндэнцый, іх цяжка ўявіць ва ўсёй паўнаце, не прасочваючы далейшае развіццё і ператварэнне тэндэнцыі ў тыпалагічную рысу. Асаблівасцю такога этапу ў гісторыка-культурным працэсе з'яўляецца перапляценне старых, ужо выканаўшых сваю ролю культурных з'яў з новымі, якія будуць акрэсліваць накірунак развіцця культуры ў наступный перыяд. Шмат якія працэсы могуць быць расцягнуты на дзесяцігоддзі, таму эвалюцыя з'яў і характэрных рыс культуры можа быць заўважана толькі пры аналізе іх развіцця на працягу доўгага адрэзку часу. Для беларускіх земляў даследванне культурнага жыцця другой паловы XVIII-першых дзесяцігоддзяў XIX стст. ускладняецца яшчэ і поліэтнічным і поліканфесійным абліччам культуры, а таксама багаццем палітычных падзей і сацыяльных працэсаў, што накладвалі на яе свой адбітак.

Перыяд, які з'яўляецца полем даследвання, уваходзіць у межы эпохі Асветніцтва, аналіз тыпалагічных рысаў якога ўжо прадпрымаўся ў працах беларускіх гісторыкаў, літаратуразнаўцаў і філосафаў.[3] На

---

[1] Гл.напрыкл: Дорошевич Э.К. Содержание понятия «эпоха Просвещния» в Белоруссии// Философская и общественно-политическая мысль Белоруссии и Литвы. - Мн,1987. - С.260-261; Очерки истории русской культуры XVIII века.В 2-х ч. - Ч.1 - М., 1985. - С.10; Камёнкова-Страшакова Я. Популярная литература в Польше в первой половине XIX в.// Культура народов Центральной и Юго-Восточной Европы XVIII-XIX вв. Типология и взаимодействия. - М., 1990. - С.147.

[2] Важнасць пераходных этапаў для гісторыі культуры, у якіх культурныя працэсы па тэмпам і радыкальнасці не супадаюць са зменамі ў сацыяльна-эканамічным жыцці грамадства, адзначае М.С.Каган, падкрэсліваючы, што менавіта пры іх вывучэнні найбольш яскрава праяўляецца адрозненне культуры ад іншых бакоў жыцця чалавецтва. - Каган С.М. Философия культуры.- СПб, 1996. - С.137-138.

[3] Мальдзіс А.І.На скрыжаванні славянскіх традыцый. Літаратура Беларусі пераходнага перыяду (другая палавіна XVII- XVIII ст.) - Мн., 1980; Дорошевич Э.К. Содержание понятия» эпоха Просвещения» в Белоруссии//Философская и общественно-политическая мысль Белоруссии и Литвы- Мн., 1987. - С.257-275; Дорошевич Э.К. Философия эпохи Просвещения в Белоруссии - Мн., 1971; Конон В.М. От Ренессанса к классицизму. Становление эстетической мысли Белоруссии в XVI- XVIII вв.- Мн., 1978 і інш.

жаль, гэтыя даследванні датычаць або асобных галін культуры, або даюць толькі агульныя ўяўленні аб некаторых працэсах, што адбываліся ў межах дадзенай гісторыка-культурнай з'явы. У сусветнай гістарыяграфіі межы эпохі Асветніцтва да гэтага часу з'яўляюцца прадметам дыскусіі. Так, у фундаментальнай працы французскага гісторыка П.Шані еўрапейскае Асветніцтва, уключаючы Рэч Паспалітую і Расію, акрэсліваецца 1680-1770 гг., хаця аўтар пазначае, што ягоны ўплыў адчуваецца і ў XX стагоддзі.[1] Л.Кертман карыстаецца тэрмінам «Асветніцтва» у дачыненні да гісторыка-культурнай сітуацыі другой паловы XVIII ст.[2] Беларуская філасофская і гістарычная думка прыняла ў большасці меркаванне аб завяршэнні эпохі Асветніцтва ў першай чвэрці XIX ст.[3] Часам вышэйшай цэзурай беларускія навукоўцы абіраюць канец XVIII ст.[4] У дадзенай рабоце гаворка ідзе аб другой палове XVIII ст.-першых дзесяцігоддзях XIX ст., калі Асветніцтва найбольш выразна праявілася на беларускіх землях.

Храналагічнымі цэзурамі работы з'яўляюцца 1772-1820-я гады, але яны дапоўнены разлеглымі экскурсамі ў больш раннія і пазнейшыя часы. Апошняе тлумачыцца неабходнасцю прасачыць генезіс і развіццё асобных з'яў і тэндэнцый, пазначаўшых тыпалагічныя асаблівасці культурнага працэса ў даследуемы перыяд. Храналагічная дакладнасць цэзуры - рэдкая з'ява ў гісторыка-культурных даследваннях, паколькі культура схільна да эвалюцыйнага шляху развіцця. У дадзеным выпадку (1772 г.) яна абумоўлена тым, што першы падзел Рэчы Паспалітай быў паваротным пунктам не толькі сацыяльна-эканамічнага і палітычнага, але і культурнага жыцця беларускіх земляў, стварыўшы глебу для шырокага пранікнення сюды расійскай культуры. Сярэдзіна трэццяга дзесяцігоддзя XIX ст., у адрозненні ад ніжняй цэзуры даследвання, не пазначана ніякой лёсаноснай падзеяй ні ў сусветнай, ні ў беларускай гісторыі. Мяжу гэтую стварае сукупнасць абставін, якая абумовіла якасна новую сітуацыю ў гісторыка-культурным працэсе. Важнейшымі з іх у эканамічным і палітычным жыцці былі пачатак прамысловага перавароту і завяршэнне эвалюцыі ўрадавай палітыкі ад рэфарматарства да рэакцыі ў апошнія гады царавання Аляксандра I. Што ж датычыць уласна культурнага жыцця - 1820-я гады, як гэта будзе паказана ў

[1] Chaunu P. Cywilizacja wieku Oњwiecinia. - Warszawa, 1989. -S. 15.
[2] Кертман Л.Указ.соч. - С.82-87.
[3] Дорошевич Э.К. Содержание понятия «эпоха Просвещения» в Белоруссии// Философская и общественно-политическая мысль Белоруссии и Литвы. - С.260-265; Ён жа. Философия эпохи Просвещения в Белоруссии; Асветніцтва//Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі - Т.1 - Мн., 1984. - С.201-202.
[4] Нарысы гісторыі Беларусі. У 2-х ч. Ч.1. - Мн, 1994. - С.259-266.

далейшым, з'явіліся завяршальным дзесяцігоддзем аднаго з этапаў фармавання культуры Новага часу на беларускіх землях.

У падмуркі прадпрынятага даследвання пакладзены падыход да культуры, як сістэмы, якая мае адмысловую стуктурную пабудову і ўласныя законы функцыянавання. Найбольш блізкія тэарэтычныя падставы такога падыходу распрацоўваюцца культуралагічнай школай М.С.Кагана.[1] Сярод глабальных вымярэнняў, уласцівых культуры беларускіх земляў канца XVIII ст.-першых дзесяцігоддзяў XIX ст., выбраны тыя, што, згодна з метадалогіяй культуралагічных даследванняў, дазваляюць вызначыць тып культуры.[2] Разгляд інстытуцыянальнай структуры і духоўна-змястоўнай сутнасці культуры дапоўнены аналізам яе марфалагічнай пабудовы, высвятленнем сацыяльных і палітычных фактараў, што абумовілі з'яўленне адметных яе рысаў. Спосаб функцыянавання культуры ў грамадстве і асаблівасці яе ўзаемадзеяння з эканамічнай і сацыяльнай структурай апошняга раскрываецца на падставе аналізу культурнага жыцця сацыяльных варстваў - спажыўцоў культурных каштоўнасцей.

Культура Новага часу ў большасці еўрапейскіх краін з'яўлялася прадуктам дзейнасці трэццяга саслоўя і тых прадстаўнікоў іншых варстваў грамадства, што працавалі ў рэчашчы ягоных памкненняў.[3] Ці так сама адбывалася гэта на беларускіх землях, а калі не - то чаму і якія варствы грамадства былі стваральнікамі новай культуры? Адказаць на гэтыя пытанні можна толькі даследуючы ролю, якую адыгрывалі ў культурным жыцці сяляне, мяшчане, святарства і набілітэт Беларусі. Пастаноўка і высвятленне дадзенай праблемы, акрамя іншага, дапамагае акрэсліць прычыны і крыніцы з'яўлення своеасаблівага ідэйна-сутнаснага ладу новай культуры, што фармавалася на беларускіх землях у другой палове XVIII-першых дзесяцігоддзях XIX стст.

У шэрагу разнастайных і складаных сацыяльных працэсаў, якія характарызавалі беларускае грамадства на мяжы стагоддзяў, вылучаны і прааналізаваны пачатак кшталтавання інтэлігенцыі, як варствы фармуючагася буржуазнага грамадства. Сацыяльны воблік, ступень ангажаванасці ў палітычнае жыццё, характэрныя рысы яе менталітэту даюць, як выдаецца, не толькі магчымасць прасачыць калізіі нараджэння новай структуры грамадства, але таксама ствараюць уяўленне аб месцы

---

[1]Каган М.С. Указ.соч.- С. 416; Художественная культура в докапиталистических формациях. Структурно-типологическое исследование./ Под ред.М.С.Кагана.- Л., 1984.

[2] Художественная культура в докапиталистических формациях.- С.72-95.

[3] Кертман Л.Е. История культуры стран Европы и Америки.1870-1917.- М., 1987. - С.51-67.

культуры ў тагачасным сусвеце і ролі ў ім стваральнікаў духоўных каштоўнасцей.

Сярод шматлікіх вымярэнняў гісторыка-культурнага працэса нас будзе цікавіць і тое, якое М.С.Каган назваў «антрапалагічным».[1] Серцавінай кожнага культурна-гістарычнага тыпа з'яўляецца народжаны ўзроўнем грамадскай вытворчасці тып чалавечай асобы, якому ўласцівыя каштоўнасныя характарыстыкі - светаадчуванне, погляд на навакольную рэчаіснасць і адэкватная яму ацэнка, сацыяльная псіхалогія, формы грамадскай свядомасці.[2] Культура ў дадзеным выпадку выступае ў ролі аднаго з важнейшых фактараў, які фармуе гістарычны тып асобы. Але роля чалавека не пасіўная - ён сам з'яўляецца стваральнікам культурных каштоўнасцей, адбірае ў шматлікіх культурных з'явах тое, што найбольш адпавядае ягонай свядомасці. Дыялектычная сувязь культуры і асобы, такім чынам, пакладзена ў падставы зробленага ніжэй даследвання.

«Антрапалагічнае» вымярэнне культуры абумоўлівае зварот да праблем ментальнасці, якія пакуль што толькі пачынаюць цікавіць беларускіх навукоўцаў. Спроба рэканструкцыі шляхецкага менталітэту мела месца ў рабоце А.І.Мальдзіса[3], але аўтар грунтаваўся выключна на мемуарыстыцы і ахопліваў усё XVIII ст. Варта згадаць цікавыя работы Э.Дубянецкага, якія ніжэй будуць намі выкарыстаны, а таксама матэрыялы канферэнцыі, спецыяльна прысвечанай пытанням менталітэту.[4]

У замежнай навуцы праблемы гістарычнай псіхалогіі, менталітэту сацыяльнай групы і г.д. маюць досыць працяглую традыцыю. Адзначым цікавыя і стасоўныя для пастаўленых намі мэт работы польскай даследчыцы М.Асоўскай, якая лічыцца адной з пачынальніц некалькіх накірункаў у сацыялогіі культуры і гісторыі нораваў.[5] Яе распрацоўкі тыпалагічных рысаў рыцарскага і мяшчанскага этасу цікавыя самі па сабе, але таксама могуць служыць метадалагічным падмуркам, бо вырашаюць праблему падыходу да пытанняў менталітэту.

Трывалы грунт вывучэнню праблем менталітэту польскай шляхты часоў Асветніцтва закладзены на працягу многіх дзесяцігоддзяў

---

[1] Каган М.С.Указ.соч. - С.110.

[2] Мыльников А.С. О некоторых культурологических аспектах изучения русско-французских книжных связей эпохи Просвещения. // Книга в России в эпоху Просвещения. Сборник научн. трудов.- Л.,1988. - С.8.

[3] Мальдзіс А.І. Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII ст.- Мн., 1982.

[4] Беларусіка= Albarutenika: Кн.2- Мн., 1993. - С.3-324.

[5] Ossowska M.Podstawy nauki o moralnoњci - Warszawa, 1947; Taïe. Moralnoњж mieszczacska -Wrociaw i in., 1985; Taïe. Ethos rycerski i jiego odmiany- Warszawa, 1957; Taïe. O pewnych przemianach etyki walki. -Warszawa, 1957 etc.

польскімі гісторыкамі. Разважанні над асаблівасцямі нацыянальнага характару палякаў і іх уплывам на лёсы Рэчы Паспалітай у другой палове XVIII ст. пакінулі ў сваіх работах І.Лялевель, Ю.У.Нямцэвіч і іншыя гісторыкі, пісьменнікі і публіцысты эпохі рамантызму. Аналіз поглядаў еўрапейскіх, у тым ліку, польскіх гісторыкаў мінулага стагоддзя на гэтую праблему зроблены ў класічнай працы М.Х.Сярэйскага.[1] Неабходна згадаць грунтоўныя распрацоўкі ў гэтай галіне С.Кяневіча[2], Ю.Бардаха[3], А.Кемпіньскага[4], Р.Вапіньскага[5] і іншых іншых польскіх навукоўцаў. На жаль, засяроджваючы ўвагу на «пераварoце ў розумах», што адбываўся ў часы Асветніцтва, польскія даследчыкі абмяжоўваюцца выключна тэрыторыяй Рэчы Паспалітай, якая памяньшалася ад падзелу да падзелу. Гэта ўласціва не толькі разгляду праблем менталітэту, але ўвогуле польскай гістарыяграфіі падзелаў Рэчы Паспалітай. У лепшым выпадку згадваюцца захады расійскага, прускага і аўстрыйскага ўрадаў у сацыяльна-эканамічным і культурным жыцці, але «самапачуцце» і светаўспрыманне трапіўшага пад іншае панаванне насельніцтва застаецца па-за абсягам навуковых інтарэсаў польскіх гісторыкаў. Да гэтай праблематыкі польская гістарычная навука звяртаецца пры вывучэнні першых дзесяцігоддзяў XIX ст. і паўстанняў. Але і тут пераважна дзейнічае так званы «народ палітычны», г.зн. шляхта, інтэлігенцыя і святарства былога ВКЛ.

Свядомасць насельніцтва цікавіць нас не як асобны прадмет даследвання, а таму, што менавіта ў ёй адкладваліся духоўныя здабыткі і ў адпаведнасці з ёй ствараліся культурныя каштоўнасці. У якасці асноўнага прадмета даследвання выступае гісторыка-культурны працэс на беларускіх землях у другой палове XVIII - першых дзесяцігоддзях XIX ст. Вынікам працы павінна стаць вызначэнне тыпалагічных рысаў культуры беларускіх земляў, а таксама найбольш лёсаносных тэндэнцый і з'яў у яе развіцці. З гэтага пункту гледжання аўтарку цікавіць высвятленне дзвюх больш канкрэтных праблем:

- уплыў палітычнай сітуацыі, што склалася на беларускіх землях у другой палове XVIII ст., на фармаванне тыпалагічных рысаў культуры эпохі Асветніцтва;
- найбольш значныя працэсы і тэндэнцыі, якія былі ўласцівы культуры беларускіх земляў другой паловы XVIII ст.-першых

[1] Serejski M.H. Europa a rozbiory Polski. Studjum historiograficzne. - Warszawa, 1970. - S. 449- 457.
[2] Kieniewicz S. Historyk a њwiadomoњж narodowa. - Warszawa., 1982.
[3] Bardach J. O dawnej i niedawnej Litwie - Poznac, 1988. - S. 191- 238.
[4] Kкpicski A. Lach i Moskal. Z dziejyw stereatypu. - Warszawa-Krakyw,1990.
[5] Wapicski R. Polska i maie ojczyzny polakyw.- Wrociaw i in.- 1994.

дзесяцігоддзяў XIX ст., і вызначэнне на падставе іх аналіза тыпалогіі гэтага перыяду.

Адным з выніковых пытанняў, што павінна быць вырашана ў працэсе даследвання, высоўваецца праблема вызначэння тых змен у культуры, найперш, прафесійнай і ардадамінантнай, якія зрабілі магчымым узнікненне першай хвалі беларускага нацыянальнага адраджэння[1], падрыхтавалі глебу да прафесіяналізацыі традыцыйнай беларускай культуры.

Спецыяльна неабходна спыніцца на паняційным апараце работы, паколькі некаторыя ўжываныя ў ёй дэфініцыі з'яўляюцца адносна новымі для гістарыяграфіі культуры Беларусі, шэраг жа выкарыстоўваюцца беларускімі даследчыкамі без належнага абгрунтавання і канкрэтызацыі.

Выдаецца, што найбольш шматзначнымі тэрмінамі ў дадзеным даследванні з'яўляюцца «Усход» і «Захад», якія ўжываюцца тут у цывілізацыйным значэнні. Антытэза «Усход-Захад» шырока выкарыстоўваецца ў еўрапейскай гістарыяграфіі і культуралогіі на працягу многіх дзесяцігоддзяў, але, бадай што, кожная гістарычная школа ўкладвае ў гэтыя паняцці свой сэнс. Польскі гісторык А.Вяржбіцкі, прысвяціўшы адмысловую работу аналізу канкрэтна-гістарычнага і геаграфічнага зместу антытэзы, канстатуе дэтэрмінаванне гэтых паняцяў пунктам гледжання, у тым ліку, так бы мовіць, геаграфічным.[2] У гэтым выпадку мяжа «Усхода» і «Захада» перасоўваецца адпаведна з месцапалажэннем «назіральніка». Часцей за ўсё мяжу паміж «Усходам» і «Захадам» праводзяць, зыходзячы з рэлігійнай прыналежнасці краін і народаў. У гэтым сэнсе хрысціянскі Захад можа супрацьпастаўляцца мусульманскаму і буддзісцкаму Усходу, або Захад каталіцкі - Усходу праваслаўнаму. На гэтых супрацьпастаўленнях базуецца ў разуменні гісторыкаў і культуролагаў розніца дзвюх цывілізацый - усходняй і заходняй, пры чым у расійскай гістарыяграфіі Расія - ад пачаткаў гісторыі да сучаснасці - можа ўваходзіць як у склад «Захада», калі яе супрацьпастаўляюць нехрысціянскаму «Усходу», так і «Усхода» - калі яе параўноўваюць з каталіцкімі і пратэстанцкімі краінамі.

Антытэза «Усход-Захад» знайшла трывалае месца і ў беларускай гістарыяграфіі. Большасць беларускіх даследчыкаў грунтуюцца на базе супрацьпастаўлення каталіцкага і праваслаўнага сусветаў,

---

[1]Конан Ул. Беларускае нацыянальнае адраджэнне.Гістарычна-тыпалагічны аналіз паняцця.// Беларусіка= Albarutenika: Кн.1- Мн., 1993. -С.31.
[2] Wieribicki A. Wschyd i Zachyd w koncepcjach dziejyw Polski. - Warszawa, 1984.

падкрэсліваючы прамежкавае становішча беларускіх земляў.[1] Бадай што, у найбольш абагульненым выглядзе, калі не зважаць на некаторую тэндэцыйнасць работы, гэты пункт гледжання прадстаўлены ў працы І.Абдзіраловіча (І.Канчэўскага) «Адвечным шляхам».[2] «...Беларусь ад X веку і да гэтай пары, - піша аўтар,- фактычна з'яўляецца полем змагання двох кірункаў эўрапейскай, пеўна арыйскай, культуры - заходняга і ўсходняга...Мы не зрабіліся народам Усходу, але не прынялі й культуры Зах.Эўропы».[3] У сучаснай беларускай гістарыяграфіі праблему сутнасці паняццяў «Усход» і «Захад» найбольш выразна пазначыў А.Мальдзіс. «Усход» і «Захад» паводле ягонага меркавання - дзве галіны еўрапейскай цывілізацыі, дзве гісторыка-культурныя мадэлі чалавечага грамадства, мяжа якіх праходзіць па беларускіх землях. «Што ж датычыць мяжы ў Еўропе паміж Усходам і Захадам, - піша навуковец, - дык яна - паняцце не столькі застыглае, сколькі рухомае, дынамічнае, не столькі геаграфічнае, колькі гісторыка-культурнае».[4]

У большасці салідарызуючыся з пазіцыяй сваіх суайчыннікаў, лічым неабходным удакладніць вышэй названыя тэрміны на падставе склаўшыхся ў беларускай гістарыяграфіі ўяўленняў, прадствіўшы іх у выглядзе цывілізацыйных мадэляў. Апошнія маюць аксіёматычны і схематычны характар, канкрэтнагістарычнае гучанне: Усход і Захад разглядаюцца ў кантэксце гісторыі Новага часу і адносна еўрапейскага рэгіёну.

Ва ўяўленні даследчыкаў заходняя цывілізацыя ахоплівае еўрапейскія каталіцкія і пратэстанцкія краіны, у тым ліку, Польшчу. Мяркуецца, што гэтай частцы Еўропы быў уласцівы дынамізм развіцця, заснаваны на ўдасканаленні сродкаў і метадаў вытворчасці, большая, у параўнанні з іншымі рэгіёнамі, лабільнасць сацыяльнай структуры, «класічнае» развіццё гісторыка-культурнага працэса (ад антычнасці, да сярэднявечнай культуры, Рэнесансу, барока, Асветніцтва і г.д.). Усход, гэта, найперш, праваслаўная Расія, якую ад заходняй цывілізацыйнай мадэлі адрознівала жорсткая сацыяльная структура, дамінацыя дзяржавы ў грамадскіх адносінах, устойлівыя да кансерватызму культурныя

---

[1] Гл., да прыкладу, матэрыялы II Міжнароднага кангрэсу беларусістаў: Беларусь паміж Усходам і Захадам. Праблемы міжнацыянальнага, міжрэлігійнага і міжкультурнага ўзаемадзеяння, дыялогу і сінтэзу. У 2 ч.// Беларусіка= Albarutenika: Кн.6 - Мн., 1999.

[2] Абдзіраловіч І. Адвечным шляхам. Даследзіны беларускага сьветагляду. - Мн.,1993.

[3] Там жа., С.8.

[4] Мальдзіс А.І. Беларуская культура барока як пасрэдніца паміж заходнеславянскім і ўсходнеславянскімі светамі. Даклад на XI Міжнародным з'ездзе славістаў - Мінск, 1993. -С. 4.

традыцыі, запаволенасць эканамічнага развіцця. Дзве цэвілізацыйныя мадэлі найбольш выразна, на наш погляд, пазначыліся ў часы Асветніцтва, калі развіццё еўрапейскага грамадства набыло паскораны характар.

У абедзвюх дзяржавах, у склад якіх уваходзілі беларускія землі ў другой палове XVIII ст., Асветніцтва мела свае тыпалагічныя асаблівасці, абумоўленыя спецыфікай палітычнага, эканамічнага і сацыяльнага ладу, культурнымі традыцыямі, суадносінамі з еўрапейскімі краінамі, ментальнасцю насельніцтва. І ў Рэчы Паспалітай, і ў Расійскай імперыі ідэі Асветніцтва былі ўспрыняты амаль адначасова, але ступень іх адаптацыі была рознай. Рэч Паспалітая мела больш працяглыя і трывалыя сувязі з Еўропай, узровень адукаванасці быў вышэйшы, а грамадскія інстытуты больш прыдатныя для мадэрнізацыі. У абедзвюх краінах носьбітамі новай ідэалогіі выступілі найбольш адукаваныя прадстаўнікі прывілеяваных саслоўяў, але ў Рэчы Паспалітай сацыяльная глеба для распаўсюджання гэтай ідэалогіі была больш спрыяльная: не толькі вярхушка адукаваных магнатаў і шляхты, але таксама некаторая частка каталіцкага і уніяцкага святарства і мяшчан. У Расіі працэс «вестэрнізацыі» пачаўся толькі ў XVIII ст., не існавала развітай сеткі навучальных установаў, значную ролю ў жыцці грамадства адыгрывала кансерватыўная праваслаўная царква, імперскі характар дзяржавы і абсалютная манархія рабілі немагчымым развіццё многіх грамадскіх інстытутаў. Ступень пранікнення асветніцкай ідэалогіі ў расійскае грамадства з’яўляецца прадметам дыскусіі. Паводле некаторых даследчыкаў Асветніцтва ўвогуле не мела тут належных умоў для распаўсюджання і засталося з’явай маргінальнай.[1] Параўнаўчы аналіз культурнага развіцця абедзвюх краін у другой палове XVIII ст. патрабуе адмысловых грунтоўных даследванняў, якія б улічвалі таксама асаблівасці сацыяльна-эканамічнага і палітычнага ладу Расійскай імперыі і Рэчы Паспалітай і мелі распрацаваную методыку і метадалогію такога параўнання[2]. Пакуль што такой работы, на жаль, не існуе. Не імкнучыся вычарпальна паказаць розніцу паміж дзьвюма

[1] Гл. напр.: Худушина И.Ф. Царь.Бог.Россия. Самосознание русского дворянства. Конец XVIII-первая треть XIX вв. - М.,1995. - С.26-57. «Механічны перанос ва ўмовах Расіі заходнееўрапейскіх традыцый, - писаў аб гэтым Л.Гумилёў,- даў мала добрага і гэта не здзіўляе...Наш узрост, наш узровень пасіянарнасці прадугледжвае цалкам іншыя імператывы паводзін». - Гумилев Л. Этногенез и биосфера земли. - Л, 1979. - С.45.

[2] Пытанне аб неабходнасці і прадуктыўнасці такіх даследванняў не аднойчы ўжо ўздымалася расійскімі, польскімі, беларускімі і другімі навукоўцамі: Миллер И.С. Исследования по истории народов Центральной и Восточной Европы XIX в. - М.,1980. - С.439.

цывілізацыйнымі мадэлямі, аўтарка, вызначыла ў якасці адной з задач вылучэнне і аналіз тых адрозненняў паміж імі, якія найбольш адбіваліся ў духоўным жыцці беларускага грамадства.

Больш канкрэтны характар мае тэрмін «беларускія землі», які ўжыты ў рабоце. У дадзеным кантэксце ён азначае ўласна этнічную Беларусь, уключаючы рэгіёны, якія сёння не ўваходзяць у склад беларускай дзяржавы. У беларускай гістарыяграфіі культуры доўгі час па-за геаграфічнымі межамі даследванняў пакідаліся Вільня і Беласточчына. Гэта, да прыкладу, уласціва абагульняючым работам па гісторыі тэатра, архітэктуры, асветы.[1] Такі падыход уяўляецца неправамоцным, паколькі пакідае па-за межамі даследвання арганічна звязаныя з тэрыторыяй распаўсюджання беларускага этнасу часткі. Што ж датычыцца Вільні, то выключэнне сталіцы культурнага жыцця краю з поля навуковага аналізу прыводзіць да скажэння ўсёй карціны развіцця гісторыка-культурнага працэсу.

У даследванні, пэўна, упершыню ў беларускай гістарыяграфіі, выкарыстоўваецца тэрмін «ардадамінантная субкультура». Паводле А.Мыльнікава, ардадамінантная культура - культура пануючых класаў і адукаваных варстваў грамадства.[2] Яна не тоесная афіцыйнай культуры, паколькі ўключае ў сябе апазіцыйныя апошняй ідэі і з’явы, а таксама культуры элітарнай, якая з’яўляецца толькі яе часткай. Адначасова - у саслоўным грамадстве - ардадамінантная субкультура выразна адрозніваецца ад традыцыйнай, народнай субкультуры. Стваральнікамі і носьбітамі ардадамінантнай субкультуры могуць быць і выхадцы з непрывілеяваных варстваў грамадства, атрымаўшыя адукацыю. Паняцце «ардадамінантная субкультура» разглядаецца ў канкрэтнагістарычным значэнні, як частка духоўнага жыцця падзеленага па саслоўнаму прынцыпу грамадства.

---

[1] Гісторыя беларускага тэатра. У 3 т.- Т.1. Беларускі тэатр ад вытокаў да кастрычніка 1917 г. - Мн., 1983; Чантурыя В.А.История архитектуры Белоруссии.В 2 т. Т.1 (Дооктябрьский период). - Мн., 1985; Нарысы гісторыі асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі. - Мн., 1963.

[2] Мыльников А.С. О некоторых культурологических аспектах изучения русско-французских книжных связей эпохи Просвещения. - С. 11.

Дыскусійным як у беларускай, так і ў суседніх ёй гістарыяграфіях з'яўляецца паняцце інтэлігенцыі. Да сённяшняга часу не акрэслена, прадстаўнікоў якіх прафесіянальных груп аб'ядноўвае гэтае паняцце, тэрмін не прывязаны жорстка да гістарычнага кантэксту - часам інтэлігенцыю шукаюць нават у сярэднявеччы, або гавораць аб ёй толькі ў стасунку да ўсходнеславянскіх земляў.[1]

Стваральнікі культурных каштоўнасцей ва ўсе часы не ўяўляюць сабой адзіную, выразна акрэсліваемую групу грамадства. Гэта натуральна, зважаючы на шматграннасць і рознаўзроўневасць культурнага жыцця. У кожны перыяд стваральнікі культурных каштоўнасцей адрозніваюцца месцам на сацыяльнай лесвіцы, ступенню ангажаванасці ў грамадскае і палітычнае жыццё, узроўнем адукаванасці, у тым ліку прафесійнай і г.д. Крытэрыі, што ляжаць у аснове вылучэння з ліку інтэлектуалаў той асобнай грамадскай варствы, што звыкла называюць інтэлігенцыяй, і якая разглядаецца намі як адна з сацыяльных груп, уласцівых сацыяльнай структуры буржуазнага грамадства, разнастайныя. С.Кяневіч, да прыкладу, лічыць інтэлігенцыяй варству грамадства, крыніцай для ўтрымання якой служыць інтэлектуальная праца, у тым ліку, чынавенства, інжынераў, адвакатаў, доктараў і інш.[2] Расійская даследчыца В.Лейкіна-Свірская, адносячы час кшталтавання інтэлігенцыі да другой паловы ХІХ ст., не ўключае ў гэтую варству чынавенства, аднак далучае да яе працаўнікоў медыцыны і спецыялістаў у галіне прамысловасці. Яна не падае дакладных крытэрыяў, па якіх вызначае гэтую варству грамадства ў асобную групу.[3] К. Зялінская, услед за яе суайчыннікамі Г.Чапуліс-Растэніс і С.Кяневічам, лічыць інтэлігенцыяй «варству, прадстаўнікі якой жывуць, галоўным чынам за кошт інтэлектуальнай працы, валодаюць акрэсленым, гістарычна абумоўленым узроўнем прафесійнай адукаванасці і маюць такім самым чынам абумоўленыя ўзровень жыцця і сацыяльны статус».[4] На яе думку, інтэлігенцыя становіцца асобнай сацыяльнай варствай тады, калі выпрацоўвае ўласную сістэму сацыяльных стасункаў і сувязей. У большасці згаджаючыся са сваімі польскімі калегамі, лічым неабходным удакладніць асобныя з гэтых палажэнняў.

Выдаецца, што найбольш вызначальным крытэрыем для акрэслення інтэлігента з'яўляецца крыніца сродкаў ягонага існавання - асноўныя даходы паступаюць ад ягонай інтэлектуальнай працы. Пры

---

[1] Zieckowska K. O prekursorach inteligencji polskiej uwag kilka// Inteligencja Polska XIX i XX w. Stud.5. -Warszawa, 1987. - S. 9-31.

[2] Kieniewicz S. Rodowyd inteligencji polskiej.// Historyk a њwiadomoњж narodowa. - S.13-31.

[3] Лейкина-Свирская В.Р. Русская интеллигенция в 1900-1917 годах. - М., 1981. - С.3.

[4] Zieckowska K. O prekursorach inteligencji polskiej uwag kilka. - S.10.

гэтым інтэлігенцыя становіцца асобнай варствай грамадства не толькі, калі выпрацоўвае ўласную сістэму стасункаў, але тады, калі юрыдычна замацоўваецца яе сацыяльны статус, г.зн. дзейнасць працаўнікоў інтэлігенцкіх прафесій рэгламентуецца існуючымі ў дадзеным грамадстве заканадаўчымі нормамі, атрымліваюць прававое афармленне ўзаемастасункі гэтай варствы з іншымі класамі або саслоўямі грамадства, дзяржавай і ў межах самой групы. Не менш важным выдаецца таксама існаванне сістэмы аднаўлення інтэлігенцкіх кадраў, якую могуць складаць спецыяльныя навучальныя ўстановы, інстытут мэтраў і настаўнікаў, хатнее навучанне ў мастацкіх сем'ях і інш. Інтэлігенцыю, як асобную групу, могуць таксама характарызаваць сувязі, якія складваюцца паміж самімі прадстаўнікамі інтэлігенцкіх прафесій. Да іх належыць далучыць прафесійныя саюзы і таварыствы; спецыфічную іерархію, у якой месца дадзенай асобы вызначаецца ў адпаведнасці з талентам, творчым даробкам, вопытам і іншымі абставінамі; асабістыя стасункі (шлюбы паміж прадстаўнікамі інтэлігенцкіх прафесій, настаўніцтва і г.д.). Вызначэнне ступені сфармаванасці рысаў, што вылучаюць інтэлігенцыю з навакольнага грамадства, дазваляе акрэсліць, на якім этапе знаходзіцца працэс яе фармавання і функцыянавання. Згодна з мэтамі даследвання сярод прадстаўнікоў інтэлігенцкіх прафесій намі вылучаны толькі стваральнікі духоўных каштоўнасцей. Такім чынам у дадзеную групу не трапілі адвакаты, медыкі, спецыялісты-тэхнікі. Праблематычным уяўляецца ўключэнне ў шэрагі інтэлігенцыі чынавенства, асабліва чынавенства Расійскай імперыі: вышэй азначаныя крытэрыі «не спрацоўваюць» у дачыненні да гэтай групы.

Патрэбы айчыннай гістарыяграфіі культуры прымусілі зрабіць ніжэй прадстаўленую працу ў пэўнай ступені гістарыяграфічным даследваннем. Кожная ўзнятая праблема дапаўняецца невялікім гістарыяграфічным экскурсам, у каторым праводзіцца аналіз найбольш распаўсюджаных або арыгінальных поглядаў на яе айчынных і замежных даследчыкаў. Увесь спектр меркаванняў, якія датычаць узнятай намі праблематыкі, у сціслым даследванні прааналізаваць немагчыма. Але агульнае ўяўленне аб існуючых у беларускай і суседніх ёй гістарыяграфіях поглядах аўтарка намагалася прадставіць.

Высновы, зробленыя ў выніку працы, абапіраюцца не толькі на даследванні калег, але і на архіўныя і апублікаваныя крыніцы. Факталагічны матэрыял далі дзесяць архіўных сховішчаў: Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску (далей НГАБ у Мінску); Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродна (далей - НГАБ у Гродна); Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі (Государственный архів Российской Федерации - далей ГАРФ), Расійскі дзяржаўны ваенна-

гістарычны архіў (Российский государственный военно-исторический архив - далей РГВИА), Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў (Российский государственный архив древних актов - далей РГАДА), якія знаходзяцца ў Маскве; Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў у Санкт-Пецярбургу (Российский государственный исторический архив - далей РГИА); Галоўны архіў старажытных актаў у Варшаве (Archiwum Giuwny Akt Dawnych - далей AGAD), Літоўскі дзяржаўны гістарычны архіў (Lietuvos valstybinis istorios archyvas - далей LVIA), Літоўскі архіў літаратуры і мастацтва (Lietuvos literat?ros ir meno archyvas - далей LMA), Рукапісны аддзел бібліятэкі Вільнюскага універсітэта (Vilniaus universiteto bibliotekos Rankra??u skyrius - далей VUBRS) у Вільнюсе. Пераважная частка архіўных крыніц упершыню ўводзіцца аўтаркай у навуковы зварот. Сярод фондаў, якія падаліся найбольш інфарматыўнымі, адзначым фонды Віленскага універсітэта (LVIA, f.721), Міністэрства паліцыі (ГАРФ, ф.1165), Віленскага і Віцебскага генерал- губернатараў (LVIA, f.378, НГАБ у Мінску, ф.1416), гродзенскага грамадзянскага губернатара (НГАБ у Гродна, ф.1). Частку факталагічнага матэрыяла далі даследванню зборнікі дакумантаў.

Асобную скібу крыніцавай базы склалі мемуары і лісты. Частка іх ужо апрацавана беларускімі навукоўцамі, найперш, А.Мальдзісам.[1] XVIII ст. прадстаўлена ў рабоце нататкамі і мемуарамі Г.Дабрыніна, С.Богуша-Сестранцэвіча, М.Залескага, Я.Д.Ахоцкага, Г.Дзяржавіна і інш. У XIX ст. найбольш інфарматыўнымі выдаюцца мемуары С.Мараўскага, які, нягледзячы на ягоны крытыцызм, быў вельмі ўважлівым назіральнікам. У працы выкарыстана тагачасная прэса, найперш, часопісы «Dzieje Dobroczynnoњсі» і «Dziennik Wilecski».

Аўтарка выказвае шчырую падзяку за падтрымку і дапамогу дактарам гістарычных навук П.І.Брыгадзіну (Беларускі дзяржаўны універсітэт), Л.Я.Гарызонтаву (Інстытут славяназнаўства РАН), А.К.Краўцэвічу (Гродзенскі універсітэт), В.Слівоўскай (Інстытут гісторыі ПАН), дактарам філалагічных навук А.І.Мальдзісу (Культурна-асветніцкі цэнтр імя Ф.Скарыны) і Л.А.Сафронавай (Інстытут славяназнаўства РАН), кандыдату гістарычных навук В.А.Цяпловай (Беларускі дзяржаўны універсітэт), рэктару Гродзенскага універсітэта доктару фізіка-матэматычных навук С.А.Маскевічу.

## Глава 1.Новыя формы арганізацыі культурнага жыцця.

### У часы падзелаў.

[1] Мальдзіс А.І. Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII ст.

Падзел беларускіх земляў ў 1772 г. на дзве часткі дзяржаўнай мяжой абумовіў уплыў на іх развіццё дзвюх тыпаў Асветніцтва, не супадаючых цалкам па тэмпам, па глыбіні адбываючыхся змен, па нацыянальнай афарбоўцы. Гэтая розніца прасочвалася ва ўсіх вымярэннях культуры, але найбольш выразна ў яе інстытуцыянальнай пабудове.

Стартавыя ўмовы для развіцця культуры ў заходняй і ўсходняй частках Беларусі не былі аднолькавыя. Усход, як памежная частка Рэчы Паспалітай, дзе амаль пастаянна вяліся ваенныя дзеянні, быў горш за захад заселены, менш адукаваны (у гэтым сваю ролю адыгрывалі канфесійныя асаблівасці), тут амаль не было буйных магнацкіх сядзібаў, якія патэнцыяльна маглі стаць цэнтрамі культурнага жыцця.

Асновай ідэалогіі Асветніцтва, што закладзена ўжо ў самой яе назве, была думка аб першаснасці адукацыі і выхавання для лёсаў грамадства: толькі асвета народа і тых, хто ім кіруе можа прывесці да агульнага дабрабыту і шчасця.[1] Змены ў сістэме асветы і адукацыі былі найбольш радыкальнымі і давалі штуршок да развіцця другім галінам культуры. Таму не дзіўна, што гісторыя асветы, апрача іншага, стала адмысловым накірункам у гістарыяграфіі Асветніцтва. Сёння ён налічвае некалькі соцен прац, ад фундаментальных даследванняў І.Шыбяк, Е.Паплатка, Ю.Бялінскага, М.Балінскага і іншых, да невялікіх артыкулаў, прысвечаных гісторыі асобных навучальных установаў. На фоне прац польскіх калег, якія доўгі час былі манапалістамі ў вывучэнні гісторыі асветы на землях Рэчы Паспалітай, дасягненні беларускіх гісторыкаў выглядаюць пакуль што даволі сціпла. Найбольш папрацаваў на гэтай глебе У.Пасэ, пяру якога належаць раздзелы ў абагульняючых працах па гісторыі адукацыі на Беларусі, некалькі артыкулаў і дысертацыя на ступень кандыдата гістарычных навук.[2] У апошнія гады з'явіліся дысертацыі А.Гурэцкага і А.Самусіка, храналагічныя межы якіх уключаюць і згаданы перыяд.[3] З гэтага пераліку толькі апошні робіць спробу параўнаць асаблівасці развіцця асветы па абодвух баках мяжы, аднак не засяроджвае на гэтым адмысловую ўвагу.

---

[1] Кертман Л.Е. Указ.соч. - С.85.

[2] Нарысы гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі Беларусі. - С.90-101. Асвета і педагагічная думка ў Беларусі: Са старажытных часоў да 1917 г. - Мн., 1984. - С.168-200; Поссе В.С. Просвещение в Белоруссии в конце XVIII - первой половине XIX в.- Дисс... канд. ист.наук. - Мн., 1963.

[3] Гурецкий А.А. Политика царизма в области образования в Белоруссии в конце XVIII-первой четверти XIX в. (1772-1825): Автореф.дис...канд.истор.наук - Мн.,1996; Самусік А.Ф. Развіццё сістэмы асветы на беларускіх землях у сямідзесятых гадах XVIII -трыццатых гадах XIX стагоддзяў. Аўтарэф.дыс...канд.гістар.навук. - Мн., 1998.

Дадатным бокам шматлікіх абагульняючых прац, прысвечаных гісторыі асветы, з'яўляецца багаты і сістэматызаваны статыстычны матэрыял, які ўтрымлівае пералік навучальных установаў, колькасць вучняў і настаўнікаў у розныя гады. Бадай што, найбольш карысная ў гэтым сэнсе манаграфія І.Шыбяк[1], а з работ беларускіх навукоўцаў - праца А.Самусіка, не пазбаўленая, аднак, некаторых недахопаў.

Улічваючы распрацаванасць факталагічнага боку праблемы, спынімся толькі на найбольш агульных тэндэнцыях у развіцці сістэмы асветы паабапал мяжы 1772 г. і паспрабуем зрабіць іх параўнанне.

Да 1773 г. амаль уся сістэма адукацыі ў Рэчы Паспалітай знаходзілася ў веданні каталіцкіх законаў і базыльян. Школы праваслаўных братстваў, пратэстантаў былі нешматлікімі і давалі галоўным чынам пачатковую адукацыю, а сістэма яўрэйскіх навучальных установаў мела ярка акрэслены рэлігійны характар. Рэформа іезуіцкіх калегіюмаў і школ і прадпрынятае Ш.Канарскім ў сярэдзіне XVIII ст. пераўладкаванне піярскіх навучальных установаў не паўплывала кардынальна на стан асветы і адукацыі. «Выхаванне моладзі было ў нас рэчай настолькі нязначнай, што не заслугоўвала найменьшай увагі грамадства». - Пісаў аб гэтых часах Г.Калантай.[2]

Выгнанне іезуітаў з Францыі ў 1762 г. паставіла тут пытанне аб арганізацыі свецкай школы. Але «педагагічная манія» (па акрэсленню М. Грыма) ахапіла не толькі Францыю. Неабходнасць рэфармавання і, найперш, секулярызацыі сістэмы адукацыі была надзённым пытаннем для многіх еўрапейскіх краінаў. У Рэчы Паспалітай яшчэ да скасавання закону іезуітаў абмяркоўваліся планы карэннай яе змены. Адукаваныя магнаты (А.Чартарыйскі, А.Замойскі і інш.) яшчэ ў часы Аўгуста III пачалі распрацоўваць асноўныя прынцыпы новай сістэмы выхавання і адукацыі. На канвакацыйным сейме ў 1764 г. А.Замойскі абвясціў агульны план яе пераўладкавання - секулярызацыю, стварэнне міністэрства асветы, наданне адукацыі нацыянальнага характару, сувязь выхавання з патрабаваннямі эканамічнага і палітычнага жыцця краіны.[3] Адкрыцце ў 1765 г. свецкага Кадэцкага корпусу (Рыцарскай школы) у Варшаве, у праграме навучання якога гэтыя прынцыпы знайшлі ўвасабленне, паклала пачатак пераўладкаванню сістэмы асветы ў краіне.

Ужо праз тры месяцы пасля скасавання закону іезуітаў - 14 кастрычніка 1773 г. была створана Камісія Народнай Адукацыі (КНА),

---

[1] Szybiak I. Szkolnictwo Komisji Edukacji Narodowej w Wielkim Kskstwie Litewskim. - Wrociaw, 1973.

[2] Koii№taj G. Stan oњwiecenia w Polsce w ostatnich latach Augusta III (1750-1764). - T.1. - Poznac, 1841 - S. 135.

[3] Kurdybacha L. Powstanie i giuwne kierunki dziaialnoњci Komisji Edukacji Narodowej// Borelly J.A. Plan reformy nauczania elementarnego- Warszawa, 1973 - S.8

аўтаномная ў стасунку да караля ўстанова, куды ўвайшлі найбольш аўтарытэтныя палітычныя і грамадскія дзеячы Кароны і Літвы. Дзейнасць КНА добра вывучана польскімі даследчыкамі[1], таму адзначым толькі найбольш важныя яе рысы.

Работа па пераўладкаванню сістэмы асветы вялася вельмі аператыўна і ахоплівала ўсе накірункі: паралельна са складаннем і выданнем праграм, статутаў, падручнікаў (Камісія для элементарных кніг) ішло рэфармаванне ўжо існуючых навучальных устаноў і адкрыццё новых, рыхтаваліся настаўніцкія кадры. Насуперак кансерватыўна настаўленай частцы набілітэту і святарства даволі актыўна адкрываліся школы для падатных саслоўяў.

Практычнае ажыццяўленне педагагічных праектаў асветнікаў упершыню вялося на дзяржаўным узроўні. Ніводная еўрапейская краіна ў той час не магла даць Рэчы Паспалітай узор такой рэформы. Арыгінальны характар пераўладкавання асветы ў Рэчы Паспалітай усведамлялі самі ягоныя распрацоўшчыкі. Г.Пірамовіч, бадай што, найбольш актыўны дзеяч КНА, выказваючы думкі большасці сваіх калег і караля, падкрэсліваў неабходнасць асцярожнага перанясення на мясцовую глебу найноўшых педагагічных і дыдактычных распрацовак, абавязковы іх адбор і адаптацыю ў сувязі з асаблівасцямі краіны.[2] Уся літаратура для навучальных устаноў незалежна ад таго, на якой мове яна была складзена, друкавалася па-польску і перапрацоўвалася.[3]

У распараджэнні КНА былі значныя фінансавыя сродкі. Нягледзячы на раскраданне часткі паезуіцкага маёнтку ў часы дзеяння раздатачных камісій[4] і пасля гэтага, фундушы, якія прызначаліся на асвету былі такімі ж значнымі, а часам нават пераўзыходзілі сумы, што ішлі на ўтрыманне ўзброеных сіл Рэчы Паспалітай. Рэальнае фінансаванне асветы не заўсёды адпавядала планаванаму - асабліва адчувальна гэта было напярэдадні другога падзелу і ў часы Таргавіцы.

---

[1] Гл. напрыкл.: Lewicki J. Ustawodawstwo szkolne za czasyw Komisji Edukacji Narodowej (1773-1793) - Krakyw, 1925; Lubieniecka J. Towarzystwo do Ksi№g Elementarnych - Warszawa, 1960; Mizia T. Szkolnictwo parafjalne w czasach Komisji Edukacji Narodowej. - Wrociaw, 1964; Popiatek J. Komisja Edukacji Narodowej. Udziai byiych jezuityw w pracach Komisji Edukacji Narodowej. - Krakyw, 1973 і інш.

[2] Kurdybacha L. Dz.cyt. - S.11.

[3] З трыццаці падручнікаў, выданых КНА ў 1773-1793 гг., толькі шэсць былі распрацаваны замежнымі аўтарамі - па матэматыцы і фізіцы С. Ла Гілера і Ю. М. Хубе. Іх пераклалі на польскую мову Ю.Гаўронскі і Ю.Коц. - Popiatek J. Dz. cyt. - S.55.

[4] У першыя гады дзеяння КНА была расцягнута амаль трэць паезуіцкага маёнтку.- Pidlipczak-Majerowicz M. Bazylianie w Koronie i na Litwie. Szkoiy i ksi№їki w dziaianiu zakonu. - Warszawa-Wrociaw -1986. - S.39.

Пашырэнне асветы разглядалася большасцю палітычных дзеячоў краіны як адзін са сродкаў ратавання дзяржавы і нацыі. Таму яно было ўзведзена ў ранг дзяржаўнай палітыкі. Статус КНА быў замацаваны ў Канстытуцыі 3 траўня 1791 г. Г.Калантай, натхніцель і стратэг не толькі рэформы асветы, але і ўсяго пераўладкавання дзяржавы, на сейме 28 чэрвеня 1791 г. прапанаваў да абмеркавання, у працяг ужо прынятай 3 траўня, тэзісы будучай Маральнай канстытуцыі - укшталтаваць характар паляка з дапамогай грамадскай адукацыі, а таксама «нацыянальных святаў, публічных практыкаванняў, гульняў і разнастайных спраў грамадскага жыцця, прыстасаваных да абавязкаў сумлення».[1]

На працягу дваццаці год у Рэчы Паспалітай была амаль цалкам пераўладкавана сістэма адукацыі. Не ўсё, што планавалі асветнікі, удалося здзейсніць. Многае засталося ў планах і праграмах, разнастайных распрацоўках. Гэта быў велізарны патэнцыял, з якога маглі скарыстаць і карысталі нашчадкі.[2]

У Расійскай імперыі неабходнасць рэфармавання сістэмы адукацыі не падштурхоўвалася канкрэтнай прычынай (скасаванне закону іезуітаў), а таксама неадкладнымі задачамі ратавання дзяржавы і нацыі. Патрэба ў пашырэнні асветы тут, акрамя неабходнасці яе для эканамічнага развіцця, была выклікана актыўнай знешняй палітыкай, якая была гарантыяй існавання імперыі, павелічэннем бюракратычнага апарату для кіравання ўсё больш разлеглай дзяржавай. Важную ролю адыгрываў таксама працэс фармавання рускай нацыі, развіццю якой неабходна была інтэлігенцыя.

З першых крокаў правядзення рэформы асветы ў Расійскай імперыі ў ліку яе ініцыятараў і распрацоўшчыкаў пераважалі іншаземцы, як тыя, што жылі ў імперыі (Кацярына II, Мілер, Дзюмарэск, Урсінус і інш.), так і за яе межамі (Дзідро, Лок, Бюшынг і інш.). Выключэннем былі Шувалаў і Бецкі, што ўзяліся за гэтую работу па даручэнню імператрыцы.

Рэформа асветы ў імперыі зацягнулася на доўгія гады і завершана была толькі пры Аляксандры I. Каля дваццаці год пайшло на складанне разнастайных праектаў і работу камісій[3]. Рэальнае пераўладкаванне

---

[1] Rostworowski E. Maj 1791 - maj 1792. Rok monarchii konstytucyjnej. - Warszawa, 1985. - S.12.

[2] Матэрыялы КНА яшчэ ў часы яе дзейнасці з цікаўнасцю вывучаліся ў Расіі. У 1793 г., калі над КНА навісла пагроза скасаваня з-за адмоўнай паставы таргавічан, Я. Снядэцкі і М. Пачобут-Адляніцкі звярнуліся па дапамогу да расійскага пасла Сіверса. Для яго яны пераклалі на рускую мову асноўныя дакументы і праграмы КНА. - Popiatek J. Dz. cyt. - S.343.

[3] У сярэдзіне 1770-х гадоў у лісце да М.Грыма Кацярына II пісала: «Кацярына Другая, нягледзячы на сваю магутнасць і добрую волю, не ў стане, не маючы

пачалося толькі ў 1780-я гады, калі за справу ўзяўся накіраваны да Кацярыны II Іосіфам I сербскі педагог Ф.Янкавіч дэ Мірыева.

Расійскі ўрад, у адрозненні ад сваіх заходніх суседзяў, не прызначыў на рэформу асветы значных фундушаў, што рабіла яе запаволенай і часта дэкларатыўнай.[1] «Наказ Уложенной комиссии», каторы можна разглядаць як сваеасаблівую праграму рэформаў, толькі дэкларaваў неабходнасць асветы для насельніцтва, не канкрэтызуючы гэтае ўсталяванне.[2] За ўсе гады рэформы так і не было распрацавана заканадаўства ў галіне асветы.

Беларусь, падзеленая ў 1772 г. на дзве часткі, таксама апынулася падзеленай і паміж дзьвума рэформамі.

Напярэдадні 1773 г. на Беларусі дзейнічалі Віленская іезуіцкая акадэмія з бурсай, тут жа два канвікты для бедных шляхцічаў, школа; вышэйшыя іезуіцкія школы ў Брэсце, Драгічыне, Гродна, Мінску, Нясвіжы, Пінску, Станіслававе, Віцебску, Дынабургу, Мсціславе, Оршы, Полацку. Частка навучэнцаў з Беларусі вучылася ў вышэйшых школах у Коўне і Крожах. Ніжэйшыя іезуіцкія школы працавалі ў Бабруйску, Слоніме, Жодзішках. Вышэйшыя і пачатковыя школы ўтрымлівалі піяры ў Лідзе, Любешове, Лужках, Расіенах (Расіеняе), Шчучыне[3], Воранава. Базыльяне вучылі ў канвіктах у Вільні, Полацку, Жыровіцах, Барунах, Магілёве, Мінску і Наваградку; у Лаўрышаве, Полацку і Віцебску яны

---

памочнікаў, зрабіць для Расіі многіх карысных спраў, у тым ліку, не можа адкрыць вучылішчаў пачатковых, сярэдніх і вышэйшых». - Сборник материалов для истории просвещения в России, извлеченных из Архива Министерства народного просвещения. - Т. 1.- С.XXXIII; у 1780 г. яна пісала таму ж адрасату: «...не яе (Кацярыны II - С.К-С.) віна, калі справа не рухецца... Яблык, пакуль не паспеў, нічога не варты... Перад богам тысяча год - як адно імгненне. Адным годам раней ці пазднеей - нішто для дзяржавы». - Там жа. С. XXIV.

[1] У большасці праектаў рэформы, а таксама ў Статуце народных вучылішчаў крыніцамі існавання навучальных установаў прызначаліся бюджэты прыказаў грамадскай апекі. Па дадзеным С.Раждзественскага з 1786 г. па 1803 г. у найбольш задбанай ў гэтым сэнсе Пецярбургскай губерні на асвету было выдаткавана толькі 27,8 тыс. рублёў.- Рождественский С.В. Очерки по истории систем народного просвещения в России в XVIII- XIX веках. - Т.1. - СПб, 1912. - С.599.

[2] «Жадаеце папярэдзіць злачынствы? Зрабіце так, каб асвета распаўсюдзілася паміж людзьмі».- Адзначалася ў арт. 245 «Наказа». Артыкулы 348-356 былі прысвечаны выхаванню ў сем'ях і вучылішчах. Асноўная мэта яго: «...дзяцей належыць выхоўваць ў пакорнасці Богу, прывучаць да выканання 10 запаветаў і пастаноў Усходняе Грэчаскай веры і развіваць у іх любоў да айчыны і паслухмянасць законам і ўладам». - Полное Собрание Законов Российской империи (ПСЗРИ), Т.XVIII, № 12949.

[3] Адпаведна справаздачы Літоўскага генерал-губернатара за 1801 г. школа ў Шчучыне была адкрыта ў жніўні 1776 г., але, магчыма, гэтая дата не дакладная. - Сборник материалов для истории просвещения в России. - Т.1 - С. 222.

ўтрымлівалі вышэйшыя школы-калегіюмы, а ў Вільні, Наваградку, Мінску, Свержані, Полацку і Ушачах - семінарыі для будучых святароў[1]. У Глыбокім дзейнічала пачатковая школа кармелітаў. Навучальныя ўстановы мелі місіянеры, дамінікане, трынітарыі, францішкане і інш. Існавалі парафіяльныя школы, дзе выкладалі катэхізіс і пачатковыя веды, прафесійныя школы, працавалі хатнія настаўнікі.[2]

Рэформа асветы, якая праводзілася ў ВКЛ, не ва ўсіх праявах супадала з дзеяннямі КНА ў Кароне. Сваю ролю тут адыгрывалі этнічныя і канфесійныя адметнасці, а таксама асабістыя якасці мясцовых асветнікаў. У 1773 г. для работы ў КНА на сем гадоў абраны былі віленскі біскуп Ігнацi Масальскі, літоўскі падканцлер Яўхім Храптовіч, сенатар Адам Чартарыскі і пісар літоўскі Ігнаці Патоцкі.

Склад літвінскай часткі КНА не быў аднастайным на працягу дваццацігоддзя яе дзейнасці, як не быў аднастайным яе статус. Пасля другога падзелу паўстала пытанне аб існаванні самой КНА і вяртанні адукацыі ў рукі іезуітаў. Калі гэты праект не знайшоў прыхільнікаў, таргавічане высунулі прапанову вылучыць для ВКЛ асобную Камісію. Аднак гэта выклікала супраціў найбольш аўтарытэтных ў краіне асветнікаў, найперш, з Кароны. Агульная для Рэчы Паспалітай КНА была захавана, але дзейнічала пасля гэтага толькі год.[3]

За два дзесяцігоддзі (да 1793 г.) у заходняй і цэнтральнай частках Беларусі была створана даволі стройная і разгалінаваная сістэма навучальных установаў. Згодна з рашэннем аб стварэнні КНА тэрыторыя Вялікага княства была падзелена на чатыры аддзелы (акругі ): Літоўскі з Гродна, Рускі з Наваградкам, Палескі з Брэстам і Жмудскі з Крожамі. У межах Літоўскай правінцыі КНА дзейнічаў піярскі навучальны аддзел (з 1790 г.- акруга),[4] які ахопліваў усе падпарадкаваныя гэтаму закону навучальныя ўстановы на тэрыторыі ВКЛ[5]. На чале стаяла былая Віленская акадэмія, пераўладкаваная ў Галоўную Літоўскую школу.[6]

[1] Pidlipczak-Majerowicz M. Dz. cyt. - S.38.
[2] Lukaszewicz J. Historja szkyi w Koronie i w Wielkim Kskstwie Litewskim od najdawniejszych czasyw aï do roku 1794.- Poznac, 1851. - S. 1-278.
[3] Kot S. Dz. cyt. - S. 53.
[4] У адрозненні ад Польшчы, дзе піярскія школы мелі аўтаномію і складалі асобную акругу, у ВКЛ яны ўваходзілі ў склад Літоўскай правінцыі КНА.- Самусік А.Ф. Згад.твор. - С.9. Часам аддзел піяраў у межах Літоўскай правінцыі КНА вылучаецца даследчыкамі ў якасці асобнай акругі, хаця афіцыйна яна існавала толькі з 1770 г.
[5] М.Підліпчак- Маеровіч, спасылаючыся на дакументы КНА, падае іншы падзел - Навагрудскі, Гродзенскі, Літоўскі, Мінскі, Жмудскі і піярскі аддзелы.- Pidlipczak-Majerowicz M. Dz.cyt. - S.40.
[6] Гісторыя ГЛШ грунтоўна распрацавана польскімі і літоўскімі навукоўцамі. Прыгадаем толькі найбольш значныя даследванні: История Вильнюсского

Пасля скасавання закону іезуітаў у Вільні з сарака прафесароў засталося пятнаццаць, у тым ліку французы Брыатэ (Briotet), Ранье (Regner)[1], і Шавалье (Chevalier), які да 1780 г. займаў пасаду рэктара.[2] Пераўладкаванне былой іезуіцкай акадэміі ў свецкі універсітэт было праблемай, у большасці, не толькі і не столькі з-за неабходнасці абнаўлення методыкі выкладання і ягонага зместу, сколькі ў сувязі з агульнай палітычнай і эканамічнай сітуацыяй. У пачатковы перыяд (1773-1777 гг.) не хапала грошаў на аплату працы прафесароў і другія матэрыяльныя патрэбы школы, што, найперш, тлумачылася раскраданнем паіезуіцкіх фундушаў. Справы, аднак, паправіліся пасля візітацыі Ю. Выбіцкага, калі апошнія былі перададзены ў непасрэднае веданне ГЛШ. Менавіта 1781 г., калі ГЛШ атрымала фінансавую незалежнасць і распачала рэфармаванне сістэмы выкладання, лічыўся ў наступныя дзесяцігоддзі афіцыйнай датай яе аднаўлення.[3]

У складзе Галоўнай школы першапачаткова было два факультэты - маральных і фізічных навук, але з прыбыццём у Вільню ў 1781 г. Ж.Э. Жылібера і С.Л. Бізіа стала магчымым на новай падставе аднавіць медыцынскі факультэт. Фармаванне выкладчыцкага калектыву працягвалася каля дзесяці год, да сярэдзіны 1790-х гг. амаль усе кафедры былі запоўнены. Адметным быў нацыянальны склад прафесароў ГЛШ. У ліку сарака выкладчыкаў, што ў выніку шматлікіх замен засталіся працаваць тут да 1801 г., былі: ірландзец, два французы, тры немцы, турак, аўстрыец, чатыры палякі з Кароны і дваццаць восем ураджэнцаў ВКЛ - з Валыні, Гродна, Мсціслаўля, Вільні і інш.[4] Такім чынам, па складу выкладчыцкага калектыву ГЛШ мела фармальныя прыкметы нацыянальнай школы.

Якасць выкладання ў ГЛШ і матэрыяльная база, якіх удалося дасягнуць за дзесяцігоддзе яе існавання, ставілі гэтую навучальную ўстанову ў шэраг найлепшых еўрапейскіх універсітэтаў. Тут была адзіная на ўсе дзейнічаючыя ў краіне навучальныя ўстановы астранамічная абсерваторыя, абноўленая дзякуючы намаганням

---

университета. 1579-1979 гг. - Вильнюс, 1979; Balicski M. Dawna Akademja Wilecska - Petersburg, 1862; Bielicski J. Uniwersytet Wilecski (1579- 1831). - T. 1 - Krakyw,1899; Janowski L. Wszechnica Wilecska 1578-1842.- Wilno, 1921.

[1]Абодва гэтыя медыкі не мелі вышэйшай адукацыі і належнай падрыхтоўкі. - Грицкевич В. С факелом Гиппократа. Из истории белорусской медицины. - Мн., 1987. - С.140.

[2] Beauvois D. Szkolnictwo polskie na ziemiach litewsko-ruskich. 1803-1832. - T. 1. Uniwersytet Wilecski. - Rzym-Lublin, 1991. - S.19.

[3] ПСЗРИ, Т.XXVII, № 2071.

[4] Сборник материалов для истории просвещения в России, извлеченных из Архива Министерства народного просвещения. - Т. 1. - С. 201-216

М.Пачобута-Адляніцкага сучасным абсталяваннем з Францыі. Былая іезуіцкая бібліятэка пастаянна папаўнялася. Па прапанове КНА 2 лістапада 1780 г. на Варшаўскім сйме быў прыняты закон аб павелічэнні фондаў грамадскіх бібліятэк, згодна з якім сігнальны асобнік кожнай выдадзенай у ВКЛ кнігі павінен быў дасылацца ў бібліятэку ГЛШ.[1] Аб прафесіяналізме выкладчыкаў ГЛШ напісана ўжо многа. Дастаткова сказаць, што ўсе яны мелі вышэйшую адукацыю, прафесара Страйноўскі, Пачобут-Адляніцкі, Нарушэвіч, Нарвойш, Шпіцнагель, Лебенвейн, Бякю, О'Конар, Бізіа, Жылібер і іншыя, працаваўшыя тут ў 1773-1795 гг., атрымалі ступені навук у лепшых еўрапейскіх універсітэтах - у Парыжы, Рыме, Вене, Празе, мелі сусветную вядомасць як навукоўцы. На трох факультэтах ГЛШ у сярэдзіне 1790-х гадоў вучылася каля 200 студэнтаў.

Пад кіраванне ГЛШ былі перададзены ўсе існаваўшыя дагэтуль у ВКЛ навучальныя ўстановы. Былыя іезуіцкія калегіюмы перайшлі пад непасрэднае веданне ГЛШ, з астатнімі каталіцкімі законамі існавала дамова аб сумесных дзеяннях і справаздачнасці. На базе былых калегіюмаў утвараюцца ваяводскія[2] школы ў Брэсце, Крожах, Гродна. Гэтыя школы мелі семігадовы тэрмін навучання, размеркаваны на 6 класаў (першы клас - два гады). Ваяводскае вучылішча было адкрыта пры ГЛШ у Вільні. Паіезуіцкія школы ў Бабруйску, Драгічыне, Мінску, Нясвіжы, Пінску і Слоніме пераўтвараюцца ў павятовыя вучылішчы. Статус павятовых атрымалі піярскія вучылішчы ў Любешаве, Лужках, Расіенах, Шчучыне і Воранава.[3] У павятовых школах навучанне працягвалася ў трох класах шэсць год. Пры ГЛШ па ініцыятыве біскупа Масальскага была адкрыта семінарыя для настаўнікаў, якая да 1795 г. паспела зрабіць два выпускі. Забеспячэнне школ настаўніцкімі кадрамі ажыццяўлялася радыкальнымі метадамі - выпускнікі семінарыі і бакалаўры ГЛШ павінны былі пасля заканчэння курса адпрацаваць акрэслены тэрмін у павятовых і ваяводскіх школах.

Такім чынам, на тэрыторыі цэнтральнай і заходняй Беларусі за два дзесяцігоддзя дзеяння КНА з'явілася 16 ваяводскіх і больш за два

---

[1] Петраускене И.С. Обязательный экземпляр в Литве в XVI-XVIII веках// Книга в России XVII-начала XIX вв. Проблемы создания и распространения. Сб.научн. трудов.- Л., 1989. - С.89.

[2] Пазней ваяводскія школы былі пераіменаваны ў акруговыя, а павятовыя - у падакруговыя, але іх навучальныя планы не змяніліся.

[3] Lukaszewicz J. Dz. cyt. - S.48-278. Пералічаная структура і месцазнаходжанне навучальных установаў не былі аднолькавыя на працягу дваццацігоддзя дзейнасці ГЛШ. Так, ваяводская школа ў Наваградку была пераўладкавана ў школу акруговую, падакруговая (павятовая) школа ў Жодзішках была зліквідавана, а замест яе па хадайніцтву Храптовіча адкрыта такая ж ў Вішняве і г.д.

дзесяткі павятовых школ. Акрамя таго, па-ранейшаму заставаліся школы базыльянаў, кармелітаў, былі таксама свецкія прафесійныя школы (накшталт адкрытых А.Тызенгаўзам у Гродна), духоўныя семінарыі (дзве каталіцкія і адна праваслаўная), элементарныя школкі для сялян і мяшчан пры касцёлах і кляштарах, жаночыя школы марыявітак [1] і інш. Колькасць школ змянялася кожныя некалькі год. Па падліках Л.Заштаўта ў другой палове 1780-пачатку 1790-х гг. у ВКЛ функцыянавала 39 сярэдніх школ усіх тыпаў, з якіх 32 былі падпарадкаваны КНА, на 1795 г. ён называе 48 школ, з якіх 20 утрымлівалі каталіцкія законы і базыльяне.[2] Вагалася і колькасць вучняў. У 1790-я гг. у сярэдніх навучальных установах усіх тыпаў вучылася каля 2,5 тыс. хлопцаў штогод.[3] Кантроль КНА за дзейнасцю школ ажыццяўляўся праз візітацыі, выданне падручнікаў, навучальныя праграмы і г.д. Адметнасцю гэтай сістэмы была пераемнасць курсаў розных тыпаў устаноў і строгая іх іерархія. Адукацыя была аўтаномнай ад караля, паколькі літоўская частка КНА была фінансава незалежнай і давала справаздачы аб сваёй дзейнасці толькі сейму. Стройнасць сістэмы парушалася, аднак, свавольствам каталіцкага манаства. Насуперак рашэнням КНА законы адкрывалі «нелегальныя» школы на падставе старых праграм, якія канцэнтравалі да 1\5 часткі ўсіх вучняў.[4]

Разам з новай структурай навучальных устаноў зменены быў змест навучання. Адукацыя станавілася свецкай, прыярытэт атрымалі натуральныя і грамадскія навукі, сучасныя мовы, тэалагічныя дысцыпліны былі выведзены па-за школьныя муры.

Супрацьдзеянне пэўнай часткі эксіезуітаў і некаторых прадстаўнікоў каталіцкага святарства марудзіла ўвядзенне новых прынцыпаў і метадаў выкладання.[5] Сармацкая ментальнасць

---

[1] Паводле звестак першай даследчыцы дзейнасці марыявітак на землях ВКЛ, напярэдадні першага падзелу яны мелі невялікія школкі пры кляштарах у Вільні, Мсціславе, Мінску, Коўне, Слоніме, Полацку, Оршы, Крожах, Галоўчыне, Наваградку, Валкавыску, Мазыры, Пінску, Халапенічах і Бабруйску. Але пасля першага падзелу на тэрыторыі Рэчы Паспалітай закон апынуўся ў няміласці і значна скарацііў сваю дзейнасць. - Krytka historya zgromadzenia siostr Mariae Vitae, napisana przez jedn№ Maryawitkк.// Dzieje dobroczynnoњci - 1820 - №1. - S.17-24.

[2] Zasztowt L. Kresy.1832-1864. Szkolnictwo na ziemiach litewskich i ruskich dawnej Rzeczypospolitej. - Warszawa, 1997. - S.41-42.

[3] Szybiak I. Szkolnictwo Komisji Edukacji Narodowej w Wielkim Ksкstwie Litewskim - S.135-138.

[4] Самусік А.Згад. твор. - С.9.

[5] На пазіцыю эксезуітаў у дачыненні да новай сістэмы асветы існуюць розныя погляды. У адрозненні ад В. Смаленьскага, С.Кота, А.Самусіка і некаторых іншых аўтараў, Я. Паплатак гаворыць аб станоўчай ролі былых іезуітаў у выкананні планаў КНА.

правінцыйнай шляхты, асабліва ў першае дзесяцігоддзе рэформы, таксама замінала павелічэнню колькасці вучняў у навучальных установах, перададзеных пад кіраванне КНА. Перашкоды рабіліся і адкрыццю парафіяльных сялянскіх школ. Пэўна, найвялікшай заганай рэформы было менавіта занядбанне асветы сялян. Захады КНА ў гэтым накірунку адбываліся часцей насуперак жаданням большасці шляхты. У 1777 г. віленскі біскуп Масальскі скардзіўся на некаторых мясцовых землеўласнікаў і прапанаваў Пастаяннай Радзе стасаваць жорсткія меры супраць тых, хто не дазваляе вучыцца сваім прыгонным.[1] Дзякуючы намаганням біскупа, а таксама частцы асветленых магнатаў у першыя гады рэформы ў ВКЛ працавалі больш за 300 прыходскіх школ, але з-за супраціву абскурантаў у 1780-я гг. іх колькасць скарацілася амаль на сотню.[2] Поспехі рэформы, нягледзячы на ўсе перашкоды, былі значнымі. Заходняя і цэнтральная Беларусь мела цяпер разгалінаваную сетку свецкіх навучальных установаў, передавую для таго часу канцэпцыю навучання, настаўніцкія і выкладчыцкія кадры, і, што вельмі важна, зрухі ў ментальнасці насельніцтва, якое за два дзесяцігоддзі прызвычаілася да новага тыпу навучальных установаў.

Пераўладкаванню асветы на ўсходзе Беларусі прысвечаны лічаныя працы. Падмуркі беларускай гістарыяграфіі пытання закладваліся ў той час, калі ў беларускай гістарычнай навуцы панавала выключна дадатная ацэнка «уз’яднання» Беларусі з Расіяй, што абумовіла адпаведны падыход да вырашэння праблемы. Найбольш рупліва распрацоўваў гэтую праблематыку Ул. Пасэ. Аднак, паклаўшы ў падставы сваіх даследванняў дакументы і канцэпцыю карнілаўскага «Сборника материалов для истории просвещения в России..». і не праводзячы параўнання ступені развіцця асветы на ўсходзе і захадзе Беларусі, даследчык не здолеў зрабіць дастаткова абгрунтаваныя высновы[3]. Больш цікавай з канцэптуальнага боку, на наш погляд, выглядае распрацоўка дадзенай праблемы ва ўжо згаданай рабоце А.Самусіка.[4]

На ўсходзе Беларусі рэформа пачалася толькі цераз два дзесяцігоддзі з пачатку дзеяння КНА. Першапачаткова тутэйшы стан асветы выклікаў занепакоенасць у расійскіх уладаў, але не сваёй занядбанасцю, а канфесійнай прыналежнасцю навучальных установаў. Каталіцкія школы і калегіюмы патэнцыяльна стваралі небяспеку антырасійскага выхавання моладзі. У «Наказе» Пскоўскаму і

[1] Beauvois D. Dz.cyt.- T. II. - S.384.
[2] Wierzbowski T. Szkoiy parafjalne w Polsce i na Litwie za czasyw Komisji Edukacji Narodowej. - Krakyw,1922. - S..81-88.
[3]Нарысы гісторыі народнай асветы.. . - С.90-101.
[4] Самусік А.Ф.Згад.твор. - С.10-11.

Магілёўскаму генерал-губернатарам ад 28 траўня 1772 г. Кацярына II даручала: «іезуіцкім кляштарам, школам і вучылішчам зробіце адмысловы перапіс. Вы за імі найбольш дбайна сачыць мусіце, як за надзвычай вераломнымі з усіх іншых лацінскіх законаў».[1] Але калі іезуіты першымі з каталіцкіх законаў прынеслі прысягу на адданасць імператрыцы, сітуацыя змянілася. Прычыны захавання закону іезуітаў у Расійскай імперыі добра асветлены ў гістарыяграфіі [2] Прывядзем толькі трапнае іх акрэсленне, зробленае М. Абаленскім: «Кацярына, насуперак Рыму, падтрымліваючы гэтую сілу каталіцтва, набывала ў ёй новую для сябе зброю, нешкадлівую пад кіраваннем яе законаў».[3] Свае стасункі да іезуіцкіх навучальных устаноў імператрыца выказала пры стварэнні Беларускай каталіцкай епархіі: « усякага закону каталіцкія святары, што ў падданстве нашым знаходзяцца і нанова для жыцця ў беларускія губерніі прыязджаюць і жадаюць застацца ў нашым падданстве, са сваімі кляштарамі, школамі, рознымі вучылішчамі. .. павінны быць нетыкальнымі».[4] Дзякуючы пратэкцыі расійскіх уладаў іезуіты на ўсходзе Беларусі здолелі ўзмацніць свае пазіцыі. Пачынаецца рэканструкцыя Полацкага іезуіцкага калегіюма: узводзяцца новыя школьныя і гаспадарчыя памяшканні, ў тым ліку будынак музея (калекцыя манет, усходнія і антычныя рэдкасці, больш чатырох тысяч адлівак з бронзы), карціннай галерэі і тэатра,[5] адкрываецца абсерваторыя, абсталёўваюцца лабараторыі. Павялічваецца колькасць вучняў у калегіюмах Дзінабурга і Віцебска. Праграма навучання, аднак, не дазнала значных перамен. Новым у ей было выкладанне рускай мовы і крыху пашыраныя курсы фізікі і матэматыкі. Іезуіты на тэрыторыі Расійскай імперыі, у адрозненне ад сваіх экскалег за заходняй мяжой, вельмі трымаліся за старыя традыцыі і методыкі выкладання. Не-гледзячы на абскурантызм выкладчыкаў, іезуіцкія навучальныя ўстановы карысталіся папулярнасцю ў навакольнай шляхты, паколькі

[1] Белоруссия в эпоху феодализма. Сборник документов и материалов. - Т.III. - Мн., 1961. - С. 27
[2] Записки о том, как было сохранено в Белоруссии общество Иисуса. Публикация// Европейский альманах. История. Традиции. Культура. - 1991. - С.163-171; Михневич Д.Е. Очерки из истории католической реакции (Иезуиты). - М.,1955. - С. 299-301;
[3] Оболенский М.А. Переписка по делу об открытии в Белоруссии иезуитского новициата// Сборник Императорского Русского исторического общества (СИРИО). - Т.1. - СПб, 1867. - С.423.
[4] ПСЗРИ - Т. XIX, № 14122.
[5] Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. - С. 240.

захоўвалі даўнейшыя традыцыі, што, дарэчы, расійскія ўлады добра разумелі.[1]

Кацярына II пакуль што не ставіла мэтай русіфікаваць і аправаславіць беларускую шляхту, некаторыя захады ў гэтым накірунку рабіліся ў той час толькі ў дачыненні да мясцовага мяшчанства і сялян. Важная роля ў гэтым адводзілася школам, якія існавалі пры праваслаўных прыходах. Яшчэ да першага падзелу расійскі ўрад аказваў грошавую падтрымку Магілёўскай семінарыі Рыгора Каніскага, заснаванай ў 1757 г., і іншым праваслаўным школам.[2] Пасля падзелу ўлады настойліва заахвочваюць праваслаўнае святарства займацца адукацыйнай справай, вылучаючы дзеля гэтага спецыяльныя сродкі.[3] Такое заахвочванне адпавядала і прынятаму ў 1775 г. «Усталяванню для кіраўніцтва губерняў Расійскай імперыі», згодна з якім гарадавому самакіраванню прадпісвалася на ўласныя грошы адкрываць пачатковыя школы для мяшчан. [4] Паколькі свецкіх асоб, якія маглі бы працаваць у іх, не хапала, гарадскія школы адкрываліся з дапамогай святарства. Але нягледзячы на падтрымку, колькасць вучняў у іх была нязначнай, а ўзровень выкладання нізкі.[5] Як паведамляе У.Пасэ, у 1784 г. у такіх

---

[1] Пасля пратэсту Пия VI з нагоды адкрыцця іезуіцкага навіцыята ў Полацку канцлер Панін пісаў ў Варшаву расійскаму паслу Штакельбергу: «..абавязкі ў гэтай справе (асветы -С. К-С.), ускладзеныя на святарства, дагэтуль выконваліся задавальняюча, таму на якіх падставах імператрыца адабрала б у сваіх падданых звычайныя сродкі іх выхавання?»- Оболенский М.А. Указ. соч. - С.434.

[2] Паводле загаду ад 16 красавіка 1758 г. на іх ўтрыманне выдавалася 400 руб. штогод.- Грыгаровіч Г.Г. Беларуская іерархія.- Мн, 1992. - С.33.

[3] У час падарожжа ў Магілёў на сустрэчу з Іосіфам II расійская імператрыца ахвяравала на праваслаўныя навучальныя ўстановы Полацкай губерні 1200 руб. - Дневная записка о путешествии Ее Императорского Величества через Псков и Полоцк в Могилев, а оттуда обратно через Смоленск и Новгород. // СИРИО. - Т.1- Спб., 1867. - С. 401-402. З 1780 г. на праваслаўную семінарыю ў Магілёве, у дадатак да папярэдне выдаваных грошаў, прызначана было штогод 2000 руб. - ПСЗРИ,- Т.XX, №15017.

[4] ПСЗРИ, Т. XXII,№ 14392.

[5] Вельмі яскрава гэта пакзваюць ваяводскія і магістрацкія справаздачы за 1778-1785гг. «У мясцечку Яновічах.. . навучае тагож мясцечка дзячок Стукаліч у сваёй хаце 4 дзяцей сялян графа Пацея па-руску і па-польску чытаць. У мясцечку Калышках... вучыць дзячок Баберня 7 дзяцей у сваёй хаце па-руску і па-польску чытаць». - Паведамляе Віцебскі ваявода ў 1778 г. «У першай школе пры царкве Уваскрасення Хрыстова Заручэўскай у настаўніка Савіцкага купецкіх дзяцей 4, мяшчанскіх - 18... вучаць буквар рускі, Часаслоў, Псалтыр, буквар польскі, пісаць па-руску і па-польску». - Рапартаваў у 1784 г. віцебскі магістрат. Праграма гэтай апошняй школы была агульнапрынятай ў большасці гарадскіх і ўтрымліваемых праваслаўным святарствам школ. - Сборник материалов для истории просвещения в России, извлеченных из Архива Министерства народного просвещения. - Т. 1. - С. 885-886, 889-893.

школах вучылася 126 дзяцей[1]. Беднасць гарадской казны часта прымушала гэтыя школы весці жабрацкае існаванне.[2]

Да канца 1780-х гг. колькасць навучальных установаў і вучняў у іх на ўсходзе Беларусі павялічылася, але нязначна. Якасць жа выкладання заставалася далёкай ад патрабаванняў часу.

Пасля сустрэчы Кацярыны II з Іосіфам II у Магілёве, калі аўстрыйскі варыянт рэфармавання асветы быў прыняты як найбольш адпаведны ўмовам Расійскай імперыі, пачалася падрыхтоўка настаўніцкіх кадраў і распрацоўка навучальных праграм і падручнікаў. Для Беларусі першымі дзяржаўнымі настаўнікамі павінны былі стаць выхаванцы праваслаўных семінарый Кіева і Магілева, якім належала прайсці тэрміновую падрыхтоўку ў Пецярбургу.[3]

У параўнанні з іншымі губернямі імперыі Магілёўская і Полацкая былі нядрэнна забяспечаны навучальнымі ўстановамі. Таму, мабыць, адкрыццё народных школ меркавалася тут у другую чаргу разам з іншымі ўскраіннымі губернямі: Выбаргскай, Рэвельскай, Іркутскай, Табольскай, Каўказскай і г.д. За школьную рэформу на Беларусі ўлады ўзяліся пасля таго, як Галоўнае вучылішча ў Пецярбургу падрыхтавала першы выпуск настаўнікаў.

У 1789 г. у Магілёве і Полацку былі адкрыты галоўныя народныя вучылішчы, праз два гады ў Мсціславе, Оршы, Копысі, Чэрыкаве і Чаўсах пачалі працаваць малыя народныя вучылішчы.[4] У 1793 г. адкрылася 4-х класнае вучылішча ў Віцебску. У Веліжы і Невілі, дзе таксама планавалася адкрыць вучылішчы, гэта было зроблена толькі ў 1799 г.[5] Адкрыццё галоўных вучылішчаў звычайна набывала ўрачысты характар: на ім прысутнічалі губернатары і мясцовае святарства. Гэтыя

---

[1] Нарысы гісторыі народнай асветы... - С.91.

[2] У 1784 г. веліжскі гараднічы Карнееў пісаў: «... у веліжскай гарадавой школе з сіротаў вучні дзесяць чалавек знаходзяцца без усякага ад гарадскога галавы і магістрата дагляду, не маючы сабе харчавання, вопраткі і абутку, ходзяць амаль голыя і басанож у школу і жабруюць..». - Там жа, С. 887.

[3] ПСЗРИ - Т.XXII - № 16342. Першымі настаўнікамі, пасланымі з Беларусі на вучобу ў Пецярбург былі выхаванцы Магілёўскай семінарыі Р.Каніскага І.Захаржэўскі і В.Вяжак.- Сборник материалов для истории просвещения в России, извлеченных из Архива Министерства народного просвещения. - Т. 1.- С.11.

[4] М.Доўнар-Запольскі называе датай адкрыцця малых вучылішчаў 1790 г., але гэта не адпавядае рэчаіснасці. - Доўнар-Запольскі М. Гісторыя Беларусі. - Мн., 1994. - С. 255. Паводле справаздачы губернатара П.Б.Пасека аб стане школ за 1791 г. у Оршы народнае вучылішча было адкрыта 28 студзеня 1791, у Копысі - 30 студзеня 1791 г., у Мсціславе - 4 лютага 1791 г., у Чэрыкаве 6 лютага 1791 г., у Чаўсах - 9 лютага 1791 г. - Сборник материалов для истории просвещения в России, извлеченных из Архива Министерства народного просвещения. - Т. 1.- С. 97.

[5] Там жа. С. 338.

навучальныя ўстановы атрымлівалі найбольшую падтрымку дзяржавы - падручнікамі[1], абсталяваннем, грашыма. Што ж датычыцца малых - яны часта ўяўлялі сабой «пацёмкінскія вескі», бо грошы на іх павінны былі выдавацца з гарадскіх даходаў пасля ўсіх неабходных гораду выплат. Гэтых грошаў не хапала не толькі на школьныя будынкі, але нават на абсталяванне, часцей за ўсё яны проста не дахадзілі да школы. Скарбавых сродкаў на народныя школы ўвогуле вылучалася вельмі мала. У Віцебскай губерні з пачатку рэформы і да 1803 г. на гэтыя мэты дзяржава не выдала ні рубля.[2]

У народных школах Віцебшчыны і Магілёўшчыны ніколі не было многа вучняў. У 1797 г. шэсць народных школ Беларускіх губерняў наведвалі 515 чалавек[3]. Нават калі дадаць сюды хлопчыкаў, што набывалі сярэднюю адукацыю ў калегіюмах Полацка, Віцебска, Дынабурга (399 чалавек), колькасць вучняў не перавысіць паказчыкі адной толькі Гродзеншчыны гэтага ж часу.[4]

Адкрываючы народныя школы, урад не пакінуў без увагі і ўжо існуючыя навучальныя ўстановы. Каб зрабіць аднастайнасць у змесце навучання і нейкім чынам прыстасаваць каталіцкія і базыльянскія школы і калегіюмы да патрабаванняў часу, ім загадана было перайсці да «нармальнай» (г. зн. распрацаванай для народных школ) сістэмы выкладання. Але з яе сюды былі перанесены толькі некаторыя фрагменты - выкладанне рускай мовы, як асобнага прадмета, невялікія курсы натуральнай гісторыі і інш.

Вынікі школьнай рэформы на ўсходзе Беларусі нельга ацаніць адназначна. У яе былі свае здабыткі і свае страты. Самым важным вынікам з’явілася стварэнне свецкай школы, фактычна ўсесаслоўнай па свайму характару (выключэннем былі прыгонныя сяляне). Тут было ўведзена сумеснае навучанне дзяўчынак і хлопчыкаў, да чаго «не дадумаліся» нават асветнікі з КНА. Праўда, дзяўчынак у народных вучылішчах было мала: на 1797 г., напрыклад, тут вучылася толькі 46 вучаніц, галоўным чынам, мяшчанак.[5] Упершыню былі падрыхтаваны свецкія настаўнікі з мясцовых ураджэнцаў, настаўнік стаў дзяржаўным служачым і атрымаў у грамадстве больш высокі статус. Разам з тым, рэформа не выканала свае галоўныя мэты. Не была створана стройная

---

[1] Для галоўных вучылішчаў Камісія аб народных школах прызначыла 2821 асобнік разнастайных падручнікаў і дапаможнікаў, але школы мусілі іх выкупіць.- Там жа.- С.33-35.

[2] Рождественский С.А. Указ. соч. - С.599.

[3] Сборник материалов для истории просвещения в России, извлеченных из Архива Министерства народного просвещения. - Т. 1.- С.475.

[4] Там жа. С. 557.

[5] Там жа. С. 142.

сетка навучальных установаў. Бадай што найвялікшым недахопам рэформы была адсутнасць вышэйшай ступені - універсітэта ці акадэміі. Полацкія іезуіты, нягледзячы на некаторую мадэрнізацыю калегіюма, не маглі запоўніць гэтую нішу. Не мог умясціць у сваіх сценах усіх адукаваных юнакоў з усходу Беларусі і Шклоўскі кадэцкі корпус. Да таго ж вайсковая кар'ера на расійскай службе была прывабнай далёка не для кожнага. У такіх умовах выхаванцы народных школ не бачылі перспектывы сваей вучобы - большасць з іх, перш за ўсё выхадцы з дробнай шляхты і мяшчанства, не мелі сродкаў, каб працягваць навучанне за межамі Беларусі, а Галоўная Літоўская школа была да 1795 г. на тэрыторыі іншай дзяржавы і, хоць блізкая - недасяжна. Гэта была адна з прычын таго, што год ад году памяньшалася колькасць жадаючых заканчываць старэйшыя класы народных школ. Адсутнасць вышэйшай навучальнай установы не давала праявіцца духоўнаму патэнцыялу насельніцтва ўсходняй Беларусі - узровень адукаванасці тут не мог быць у агульнай масе высокім.

Другой заганай рэформы было стварэнне канкурэнцыі паміж свецкімі і духоўнымі навучальнымі ўстановамі. Калі школы, што ўтрымлівала праваслаўнае святарства, былі пачатковымі і малакамплектнымі, то калегіюмы і школы іезуітаў і базыльян не толькі не згарнулі сваю дзейнасць, але нават павялічылі колькасць вучняў. У спаборніцтве са свецкімі народнымі школамі яны адназначна перамагалі.[1] Праграма навучання ў іх, нягледзячы на рапарты аб увядзенні «нармальнай сістэмы», мала адпавядала прынцыпам Асветніцтва і тагачаснаму ўзроўню навуковых ведаў. Такім чынам секулярызацыя асветы, што ў той час было гарантыяй больш паступовага яе развіцця, адбылася толькі часткова. Народныя школы ствараліся як усесаслоўныя і даступныя ўсім канфесіям, але ўрэшце пачалі канцэнтраваць у сваіх сценах праваслаўных, бо каталікі часцей абіралі іезуіцкія калегіюмы, а уніяты - базыльянскія школы.[2] Улічваючы, што канфесійнаму падзелу ў большасці адпавядаў падзел сацыяльны (каталіцкая шляхта, праваслаўныя мяшчане і сяляне), такая структура адукацыі паглыбляла падзел беларусаў на каталіцкую шляхту і праваслаўныя ці уніяцкія падатныя саслоўі. Гэты падзел выразна

[1] У 1798 г. Беларускі губернатар Жыгулін вымушаны быў хадайнічаць аб закрыцці вышэйшых класаў у Віцебскім галоўным вучылішчы, паколькі вучыцца ў іх выказала жаданне толькі два чалавекі- пасля заканчэння другога класа вучні ішлі да мясцовых базыльян» з прычыны агульнай усіх мясцовых жыхароў прыхільнасці рэлігіі уніяцкага закону».- Там жа. С. 155.

[2] Па падліках А.Самусіка, шляхцічы складалі ў народных вучылішчах толькі трэць ад агульнай колькасці вучняў, у манаскіх жа навучальных установах - каля 90%. - Самусік А.Ф. Згад.твор. - С.10.

праявіўся праз два дзесяцігоддзі і стаў адной з праблемаў у справе русіфікацыі мясцовага насельніцтва.[1]

Параўнаўчы аналіз вынікаў рэфармавання сістэмы асветы на беларускіх землях выпадае не на карысць расійскаму варыянту. Ён быў палеатыўны і запознены. У адрозненні ад захаду Беларусі, дзе створаны быў моцны падмурак новай школы і фактычна ў далейшым патрэбны былі толькі ўдасканаленні існуючай сістэмы, на ўсходзе народныя школы апынуліся «пятым колам у возе», бо праз дзесяць год ужо не ўкладываліся ва ўведзеную расійскім міністэрствам асветы сістэму навучальных установаў. Галоўныя вучылішчы на ўсходзе, якім па сваіх функцыях належала адпавядаць ваяводскім школам на захадзе, не маглі спаборнічаць з апошнімі па шырыні і ўсебаковасці навучальных праграм, па ўзроўню выкладання і адукаванасці настаўнікаў. Магчыма, адкрываючы свецкія навучальныя ўстановы на ўсходзе Беларусі, расійскі ўрад клапаціўся не столькі аб адукацыі сваіх новых падданых, сколькі аб стварэнні ўражання на Еўропу. Маўляў, Кацярына II клапоціцца аб «вернутых» тэрыторыях не меньш, чым заходні сусед[2]. Улічваючы, што рэформа асветы праводзілася ў часы падзелаў Рэчы Паспалітай, і ў якасці галоўнай іх прычыны імператрыца называла няздольнасць урада заспакоіць інтарэсы жыхароў, такое меркаванне можа мець рацыю.

Запозненнасць рэформы сістэмы асветы на ўсходзе паглыбіла дэсынхранізацыю гісторыка-культурнага працэсу ў дзвюх рэгіёнах Беларусі. Захад абганяў усход мінімум на два дзесяцігоддзі, і гэты разрыў з цягам часу павялічваўся. Адно пакаленне жыхароў Беларусі, якое сталела ў 1770-я-1790-я гг., ва ўсходніх рэгіёнах было пазбаўлена паўнавартаснай адукацыі і не дазнала такога ўплыву Асветніцтва, як іх землякі за мяжой. Акрамя таго, выразна акрэсліўся сацыяльны падзел навучальных установаў на захадзе і ўсходзе: у вучылішчах на захадзе дамінавала шляхта, у школах на ўсходзе - мяшчане.[3]

---

[1] У 1827 г. віцебскі губернатар Хаванскі, канстатуючы прыхільнасць мясцовай шляхты да каталіцкіх і базыльянскіх навучальных установаў нават у тых месцах, дзе ёсць дзяржаўныя гімназіі, бачыў у гэтым пагрозу для выхавання мясцовай шляхты ў адданасці прастолу і Расіі і прапанаваў прыняць шэраг неадкладных захадаў, каб змяніць становішча. - НГАБ у Мінску, ф.1297, воп. 1, спр.1849, арк. 13-24.

[2] «Паказны сэнс» асветніцкага курса Кацярыны II быў заўважаны яшчэ сучаснікамі. У прыватнасці, аб гэтым пісаў у сваіх нататках І.Штэрнберг.- Мыльников А.С.Указ. соч. - С.8. Гэтую тэзу на падставе сваіх даследванняў высоўвае і Ю.Лотман - Беседы о русской культуре. Быт и традиции русского дворянства (XVIII - нач. XIX вв.). - СПб. - 1994. - С.77.

[3] У дзесяці навучальных установах Гарадзеншчыны, напрыклад, на 1800 г. вучылася 1248 чалавек, з іх - 973 шляхціча, 137 дзяцей святароў, 17 дзяцей чынавенства і толькі некалькі дзесяткаў мяшчан. Сборник материалов для истории просвещения в

Ва ўмовах існуючага сацыяльнага ладу перавага прадстаўнікоў трэццяга саслоўя ў народных вучылішчах не магла мець вялікага значэння для культурнага жыцця рэгіёну - працягваць сваю адукацыю ў вышэйшых навучальных установах, каб затым працаваць на ніве культуры, з іх маглі адзінкі. У той жа час адукацыя шляхецкай моладзі дала свае плёны ўжо ў першыя дзесяцігоддзі XIX ст., праявіўшыся ў інтэнсіўным развіцці ардадамінантнай культуры заходняга рэгіёну Беларусі і стварэнні варствы «праінтэлігенцыі».

Вышэй праведзены аналіз паказвае, што закладванне падмуркаў новай інстытуцыянальнай пабудовы сістэмы асветы адбывалася і на захадзе Беларусі, і на яе ўсходзе. Аднак у Рэчы Паспалітай гэтыя падмуркі былі здольныя ў далейшым прыняць на сябе «цяжар будынку» новай асветы, на ўсходзе жа яны былі кволыя і патрабавалі перабудовы.

Ступень развіцця асветы накладвала свой адбітак на фармаванне іншых галін культуры, але найбольш яна ўплывала на навуку, бо моцна была звязана з ёю.

На тэрыторыі Беларусі, пакінутай ў складзе Рэчы Паспалітай, рысы, характэрныя для навукі эпохі Асветніцтва, праявіліся надзвычай ярка. Меньш яны закранулі інстытуты, выпрацаваныя навукай для свайго функцыянавання, больш адбіліся на змесце навуковых пошукаў. Асноўныя навуковыя сілы групаваліся тут вакол ГЛШ, у сценах якой паступова сабралося сапраўднае сузор’е еўрапейскіх славутасцей у галіне медыцыны, астраноміі, матэматыкі, біялогіі, хіміі і іншых навук. Пералічаць ўсе адкрыцці, публікацыі і здабыткі навукоўцаў ГЛШ няма патрэбы, бо амаль па гісторыі кожнай са згаданых галін навукі існуюць спецыяльныя працы, ці асобныя раздзелы ў работах аб ГЛШ.[1] Для нашай праблемы важна адзначыць навацыі і ацаніць узровень развіцця навуковай дзейнасці.

Адной з новых з’яў можна лічыць стварэнне навуковых школ у натуральных навуках: даследванні выкладчыкаў ГЛШ па медыцыне,

---

России, извлеченных из Архива Министерства народного просвещения. - Т. 1.- С.249-250. У народных школах на той самы навучальны год вучылася 432 чалавекі, з іх 201 - мяшчане і купцы, 68 - салдацкія дзеці, 50 сялян, 18 выхадцаў са святарства і 140 шляхцічаў. - Нарысы гісторыі народнай асветы... - С.92. Такім чынам, прадстаўнікі прывілеяваных саслоўяў складалі сярод вучняў народных вучылішчаў толькі чацьвертую частку, а ў школах КНА рэдкасцю былі вучні з падатных саслоўяў.

[1] Апрача вышэй згаданых прац Ю.Бялінскага, В.Грыцкевіча, М.Балінскага, А.Мальдзіса, Д.Бавуа і іншых адзначым: Historja nauki polskiej. -Т. II - Wrociaw, 1970. - S.294-462; Stasiewicz I. Poglondy na naukk w Polsce okresu Oњwiecenia na tle ogulnoeuropiejskim.-Wrociaw, 1967; і адпаведныя артыкулы ў Polskim siowniku biograficznym, Siowniku bio-bibliograwicznym dawnego Uniwersytetu Wilecskiego Л.Яновскага (Wilno, 1939), Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі (ЭЛіМ).

астраноміі былі працягнутыя іх вучнямі. Новыя адкрыцці хутка знаходзілі шлях у жыццё. Гэта адбывалася праз выданне навуковых прац вялікімі для тых часоў накладамі, праз падручнікі і лекцыйныя курсы, практычныя заняткі студэнтаў ГЛШ у лабараторыях і г.д. Укараненне найноўшых навуковых здабыткаў у школьныя курсы было гарантавана падпарадкаваннем усіх навучальных устаноў ВКЛ Галоўнай школе. Менавіта віленскія навукоўцы сачылі за адпаведнасцю школьных праграмаў апошнім дасягненням навукі і праз візітацыі ажыццяўлялі кантроль за выкананнем гэтых праграм.

Галоўная Літоўская школа не была адзіным навуковым асяродкам на тэрыторыі ВКЛ. У бытнасць гродзенскім старастам А.Тызенгаўза значным цэнтрам асветы і навукі з'яўлялася Гродна, дзе да пераезду ў Вільню працавалі Ж.Э.Жылібер, Нарвойш і інш. Адной з характэрных рысаў новай культуры было развіцце натуральных навук у гарадах пры падтрымцы дзяржаўных і паіезуіцкіх фундушаў (Гродна,Вільня), у сваю чаргу, гісторыя і крыніцазнаўства развіваліся ў магнацкіх сядзібах на базе бібліятэк і калекцый, у тым ліку ў Радзівілаў у Нясвіжы, Храптовічаў у Шчорсах, Тышкевічаў у Лагойску, Сапегаў у Дзярэчыне і інш. Такое становішча, пэўна, можна патлумачыць тым, што натуральныя навукі - хімія, медыцына, астраномія - вымагалі, у адрозненні ад гуманітарных навук, значных фінансавых сродкаў, прафесіяналізма.

Навуковае жыццё заходняй Беларусі развівалася ў межах агульнай для Рэчы Паспалітай навуковай прасторы - здабыткі навукоўцаў Варшавы, Кракава і другіх буйных асяродкаў культуры добра былі тут вядомы, яны выкарыстоўваліся ў навуковых даследваннях, мясцовыя навукоўцы вялі палеміку са сваімі калегамі з Кароны. Такімі ж шчыльнымі былі сувязі з еўрапейскімі навуковымі школамі.

Параўнанне навуковага жыцця ўсходняй і заходняй Беларусі на працягу дваццацігоддзя паміж першым і другім падзеламі Рэчы Паспалітай уяўляецца цяжкім па некалькіх прычынах. У адрозненні ад захада, дзе навуковае жыццё, так бы мовіць, віравала, на ўсходзе можна адзначыць толькі некалькі з'яў гэтай галіны чалавечай дзейнасці, якія стасуюцца, найперш, да вывучэння края расійскімі навукоўцамі. У 1773 г. адбылася экспедыцыя акадэміка географа І.І.Ляпёхіна[1], па заданню імператрыцы ў 1770-я- пачатку 1790-х гадоў працаваў над архіўнымі матэрыяламі, якія датычылі Беларусі, расійскі гісторык і археограф

[1] Каханоўскі Г.А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI- XIX стст. - Мн., 1984. - С.20.

М.М.Бантыш-Каменскі [1]. Як адзначае Д.Караў «Апошняя чвэрць XVIII- пач. XIX стст. былі для рускага навуковага сусвету перыядам «першага знаёмства» з Беларуссю і мела пераважна азнаямленчы натуральна-навуковы характар».[2] Некалькі падобных прац падрыхтавалі і мясцовыя жыхары. Гістарычную работу аб Беларусі « О Западной Руси» надрукаваў у Полацку ў 1793 г. каталіцкі біскуп С.Богуш-Сестранцевіч.[3] Пошукам і вывучэннем крыніц па гісторыі краю займаўся Румянцаў. Можна назваць яшчэ некалькі работ па медыцыне і філасофіі, у тым ліку, падрыхтаваных выкладчыкамі калегіюмаў. Але, ў параўнанні з захадам усход у інтэнсіўнасці навуковага жыцця, безумоўна, адставаў. Такое становішча было натуральным, бо на ўсходзе не мелася значных навуковых асяродкаў, якім на захадзе з'яўлялася ГЛШ, не было буйных магнацкіх сядзібаў, апрача аддадзеных Кацярынай II Зорычу, Румянцаву, Чэрнышаву, уладальнікі якіх не захапляліся натуральнымі навукамі. Бадай што, найбольш яскравай праявай Асветніцтва на ўсходзе была спроба выкарыстання навуковых здабыткаў у асвеце: у праграмах народных школ прадугледжана была натуральная гісторыя, геаграфія, свецкая гісторыя, курсы якіх былі пабудаваны на падставе найноўшых ведаў, а ў іх бібліятэкі дасланы былі шматлікія творы расійскіх і заходнееўрапейскіх асветнікаў.[4]

Падобным чынам складваліся абставіны і ў літаратуры. Гэтая галіна культуры, якая раней была, па трапнаму акрэсленню А.І.Мальдзіса, «terra incognita»[5], цяпер ужо з'ўляецца добра асвоеным архіпелагам. Другая палова XVIII ст. была часам інтэнсіўнага літаратурнага жыцця, перыядам масавай мемуарыстыкі[6], захаплення перакладчыцкай дзейнасцю, публіцыстыкай. Паказальна, што пры аналізе літаратурных здабыткаў гэтай эпохі, літаратуразнаўцы засяроджваюць увагу на творчасці літаратараў, дзейнічаючых, або паходзячых з заходніх і цэнтральных рэгіёнаў Беларусі. Пералічаюцца дзесяткі прозвішчаў, сярод якіх такія буйныя пісьменнікі, як Ф.Князьнін, Ф.Багамолец, А.Нарушэвіч, Ю.Нямцэвіч, І.Быкоўскі, Ф.Карпінскі і многія іншыя. А.Мальдзіс, спасылаючыся на падлікі Э.Александроўскай, падкрэслівае, што з тэрыторыі Беларусі паходзіла каля 50 пісьменнікаў

---

[1] Карев Д.В.Белорусская историография конца XVIII- нач. XX веков (политика царизма и формирование исторической науки Беларуси)// Наш радавод, Кн.5, ч.2.- Гродна, 1993. - С.275.

[2] Там жа.- С.278.

[3] Каханоўскі Г.А. Адчыніся таямніца часу. - Мн., 1984. - С.69-74.

[4] Нарысы гісторыі народнай асветы... - С.99.

[5] Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. - С. 3.

[6] Масавы характар гэтага тыпу літаратуры добра паказаны А.І.Мальдзісам: Мальдзіс А.І.Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIIIстагоддзя.

эпохі Асветніцтва, з іх 48 нарадзіліся ў Брэсцкім, Троцкім (куды ўваходзіла тэрыторыя Гродзеншчыны) і Наваградскім ваяводствах.[1] Што ж датычыцца пісьменнікаў, якія працавалі на ўсходзе, тут называюць С.Богуша-Сестранцэвіча, І.Сакольскіага, К.Жэру і яшчэ некалькіх мемуарыстаў з расійскіх чыноўнікаў, асобна вылучаючы рускіх пісьменнікаў-асветнікаў, якія некаторы час з розных прычынаў былі звязаны з Беларуссю.[2] Колькаснае параўнанне не выпадае на карысць усходняга рэгіёну. Немагчыма таксама паставіць на адзін узровень і значнасць створаных на ўсходзе і на захадзе літаратурных твораў.

Таксама, як і ў навуцы, у літаратуры змены захапілі не столькі форму яе функцыянавання, сколькі змест. Новым у інстытуцыянальнай пабудове гэтай галіны культуры было з’яўленне мастацкіх твораў у перыядычных выданнях, якія самі былі часткай новай культуры. Прыярытэт тут належаў Вільне і Гродна, мясцовыя літаратары друкаваліся і ў варшаўскіх выданнях.

І ў Расійскай імперыі, і ў Рэчы Паспалітай на другую палову XVIII ст. прыпадае пачатак перавароту ў друкарстве, які пазначыўся не толькі ў павелічэнні памераў друкаванай прадукцыі, большай разнастайнасці яе рэпертуару, але таксама ў пераходзе ад рамеснай да мануфактурнай формы вытворчасці. У абедзвюх краінах неабходнасць павелічэння аб’ему друкаванага слова вымагалася развіццём асветы і адукацыі, патрабаваннямі палітычнага развіцця.

Да пачатку падзелаў Рэчы Паспалітай у Расіі існавала дзесяць друкарняў. Акрамя Наварасійска яны месціліся ў сталіцах і належалі дзяржаве і царкве.[3] Дзве друкарні дзейнічалі на далучаных да імперыі тэрыторыях - у Рэвелі і Рызе. У імперыі яшчэ не было масавага попыту на кнігі, не склаўся кніжны рынак.[4] У 1769 г. пачынаюцца першыя зрухі ў выдавецкай справе - дазваляецца пры набыцці згоды імператрыцы і

[1] Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый.- С.256-257.

[2] Там жа.- С.278; Мальдзіс А.І. З літаратуразнаўчых вандраванняў. Нарысы, эсэ, дзённікі. - Мн., 1987.- С.39-47; Букчин С.. ..Народ, издревле нам родной. Русские писатели и Белоруссия. - Мн.,1984. - С.7- 47.

[3] У некаторых выданнях названа сем друкарняў - Россия. Энциклопедический словарь. - Ф.А.Брокгауз, И.А.Ефрон. - СПб, 1898. - С.415. Дакладная іх лічба пададзена ў дакумантах - Сборник материалов для истории просвещения в России, извлеченных из Архива Министерства народного просвещения. - Т.ІІ - СПб - 1897. - С. 60-65.

[4]Вялізарныя наклады пятроўскіх выданняў, напрыклад, так і не разышліся за поўстагоддзя. Многія з гэтых кніг у 1750-я-1760-я гг. перамалолі на папяровую муку.- Баренбаум И.Е. Книжный Петербург. - М., 1980. - С. 32. У сінадальнай друкарні таксама назапасілася столькі кніг, што іх загадана было браць на абгортку або прадаваць на папяровыя млыны.- Книга в России.От начала письменности до 1800 года./ Под ред.Адарюкова В.Я. - М., 1924. - Ч.1.- С. 215

Сената адкрываць вольныя друкарні. Але да 1776 г. гэты ўказ заставаўся на паперы - 22 жніўня гэтага году Кацярына II дазволіла Вайбрэхту і Шнору адкрыць прыватную друкарню ў сталіцы.[1] Сапраўдны рост выдавецкай справы пачынаецца з 1782-х г., калі было дазволена адкрываць прыватныя друкарні ва ўсіх гарадах імперыі пры цэнзурным наглядзе управаў дабрачыннасці.[2] Найвялікшы ўздым выдавецкай справы ў імперыі прыпадае на 1786-1790 гг. З 1785 па 1790 гг. колькасць кніг, выдаваемых штогод, павялічылася ў параўнанні з пачаткам царавання Кацярыны II ў 3,5 раза[3] і складала ў сярэднім 362 выдання ў год.[4] Да 1796 г. тут, апрача сталічных, адкрыты былі дзяржаўныя друкарні яшчэ ў васьмі гарадах. У літаратуры шмат напісана аб дзейнасці расійскіх выдаўцоў-асветнікаў М.Новікава, А.Радзішчава, Ф.Галчанкава, І.Рахманінава і інш., якія адкрывалі прыватныя друкарні, ці арэндавалі дзяржаўныя. Безумоўна, друкарская справа ў Расійскай імперыі мела высокі тэмп развіцця. Але ахапіць друкаваным словам усю імперыю нават пры такім узросце друкаванай прадукцыі ў той час было немагчыма. У расійскай правінцыі яшчэ не склалася традыцыя шырокага выкарыстання друкаванага слова[5]. Цяжка разыходзіліся кнігі і ў сталіцы. Амаль пагалоўная непісьменнасць ніжэйшых і сярэдніх саслоўяў значна звужала кніжны рынак. Нягледзячы на ўсе намаганні выдаўцоў і ўрада (у Пецярбургу кнігі нават прадаваліся ўразнос) да пачатку XIX ст. выданні 1780-х гг. яшчэ не разышліся.[6]

У Рэчы Паспалітай друкарства мела больш працяглыя і глыбокія трыдыцыі, чым у Расійскай імперыі. Не спыняючыся на іх пераказе[7], адзначым, што друкаванае слова мела тут больш спрыяльную глебу для распаўсюджання з-за больш высокай адукаванасці набілітэту. Яшчэ з XVIст. склалася практыка друкавання найважнейшых дзяржаўных

---

[1]ПСЗРИ- Т.XX, № 14495. В.Я.Адарукоў называе яшчэ прыватную друкарню Гартунга, адкрытую ў 1771 г.- Там жа.- С.250.

[2] ПСЗРИ - Т.XXI, № 15634.

[3] Книга в России. От начала письменности... - Ч.1. - С. 251.

[4] Россия. Энциклопедический словарь. - С.415.

[5] «Галоўная дваранская патрэба, або, як сёння гавораць, галоўны ідэал, заключаўся тады ў паляванні з сабакамі». - Пісаў аб першай чвэрці XIX ст. Н.Макараў, што таксама ўласціва і для больш ранейшых часоў.- Сизинцева Л.И. Хронотоп провинциала// Русская провинция. Культура XVIII-XX вв. - М.1992. - С.34.

[6] У 1808 г. Акадэмія Навук прадавала выданні французскіх энцыклапедыстаў на вагу.- Книга в России. От начала письменности...... - Ч.1.- С.220.

[7] Тэма друкарства XVI -XVII стст.- адна з найлепш апрацаваных у беларускай і польскай літаратуры. Гл. напр.: Голенченко Г.Я. Идейные и культурные связи восточнославянских народов в XVI - XVII вв. - М., 1989; Лабынцаў Ю. Пачатае Скарынам. - Мн., 1990; Malieczycska K. Ksi№ųki i biblioteki w Polsce okresu zaboryw - Wrociaw- 1987 і інш.

дакумантаў і судовых спраў, што было замацавана ў заканадаўстве. Друкарні дзейнічалі пры буйных іезуіцкіх калегіюмах, базыльянскіх манастырах, праваслаўных брацтвах.

Напярэдадні падзелаў Рэчы Паспалітай усход і захад Беларусі неаднолькава былі забяспечаны друкарнямі. На ўсходзе яшчэ ў XVII ст. была заснавана друкарня магілёўскага праваслаўнага брацтва пры Багаяўленскім мужчынскім манастыры. Пасля заняпаду ў 1736 г. яе аднавіў у 1758 г. Рыгор Каніскі. Ці працавала гэтая друкарня ў пачатку 1770-х гг., дакладна невядома.[1]

На захадзе значным асяродкам друкарскай справы заставалася Вільна. У 1754 г. пры мясцовым піярскім калегіюме найбуйнейшую і найлепш уладкаваную ў ВКЛ на той час друкарню заснаваў рэктар М.Догель. Тут жа мелі свае друкарні базыльяне, францысканцы і іезуіты.[2] Актыўна працавала ў гэты час друкарня Радзівілаў у Нясвіжы, адкрытая ў 1750 г.; да сярэдзіны стагоддзя дзейнічала іезуіцкая друкарня ў Пінску,[3] базыльянская друкарня ў Супраслі ў гэты час пашырае сваю дзейнасць, выконваючы заказы старавераў.[4]

Ужо цераз два гады пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай на ўсходзе Беларусі пачала дзейнічаць друкарня ў Полацку. Паказальна, што ініцыятыва яе адкрыцця належала не дзяржаве, а полацкаму каталіцкаму біскупу С.Богушу-Сестранцевічу, які ўладкаваў яе «по прежнему обычаю» і за свой кошт.[5] Хаця гэта была першая ў імперыі каталіцкая друкарня, улады не вельмі турбаваліся зместам таго, што яна друкуе. Толькі ў 1776 г., калі С.Богуш-Сестранцэвіч выказаў жаданне пачаць друкаванне рускамоўных выданняў «дабы юношеству подать знание российского языка», друкарня каталіцкай кансісторыі прыцягнула да сябе ўвагу Сената і імператрыцы. У сувязі з гэтай справай упершыню была прадпрынята спроба ўсталявання дзяржаўнай цэнзуры на ўсходзе Беларусі. Указам ад 17 кастрычніка 1776 г. прадпісвалася не друкаваць нічога супраць дагматаў праваслаўнай царквы і царскіх загадаў. Цэнзура рускамоўных выданняў была даручана мясцоваму генерал-губернатару.[6]

Друкарня С.Богуша-Сестранцэвіча працавала даволі актыўна. Кнігі друкаваліся тут на трох мовах - польскай, лацінскай і рускай, сярод выданняў былі календары, багаслоўская літаратура, некаторыя

---

[1] Грыгаровіч І.І. Згад.твор. - С.55
[2] Szwiejkowska H. Ksi№ïka drukowana XV-XVIII w. Zarys historyczny.-Wrociaw-Warzsawa,1961. - S.217-218.
[3] Белоруссия в печати XVIII столетия. - Мн., 1985. - С.261-263.
[4] Pidlipczak-Majerowicz M. - Dz.cyt.- S.64.
[5] ПСЗРИ, Т. XX, № 14520.
[6] Там жа.

дзяржаўныя акты, што датычылі Полацкага намесніцтва, некалькі твораў С.Богуша-Сестранцэвіча. Да канца стагоддзя тут было надрукавана больш за два дзесятка выданняў.[1]

У 1787 г. пачала працаваць друкарня іезуітаў у Полацку. Гэта была самая буйная друкарня на ўсходзе Беларусі. Па падліках А.Мальдзіса тут да канца стагоддзя было надрукавана 82 выданні.[2] Рэпертуар іх быў дастаткова разнастайны: не толькі багаслоўская літаратура і падручнікі, але таксама некалькі прац па медыцыне, геаграфіі, гісторыі, філасофіі.[3]

Трэццяй з тых, што дзейнічалі на ўсходзе Беларусі, была друкарня Цэйтліна ў Шклове, адкрытая ў 1780-я гг. пасля загаду аб вольных друкарнях. Яна друкавала на іўрыце.[4]

Усе вышэй згаданыя друкарні адкрываліся і дзейнічалі без падтрымкі дзяржавы. У дадзеным выпадку яна клапацілася не аб фінансаванні, а толькі аб наглядзе за імі. Іх адкрыццё і дзейнасць былі працягам даўнейшых традыцый, што, дарэчы, падкрэслівалася і ў дакументах. Менавіта іезуіты, каталіцкі біскуп і мясцовыя яўрэі традыцыйна мелі на Беларусі ўласныя друкарні. Апошняе ўплывала на рэпертуар і мову выданняў. Значную частку іх складалі падручнікі і багаслоўская літаратура. Друкарні на ўсходзе Беларусі, за выключэннем, бадай што, шклоўскай, не сталі па форме сваей арганізацыі буржуазнымі прадпрыемствамі, застаючыся яшчэ цалкам на ўзроўні феадальнай вытворчасці: друкавалі тое, што заказваў уладальнік, мелі мала друкарскіх варштатаў і не працавалі на рынак.

На захадзе Беларусі развіццё друкарскай справы пайшло па шляху адкрыцця прыватных і дзяржаўных друкарняў. Апрача вышэй згаданых, друкарскія варштаты пачалі працаваць у Слоніме ў Агінскага і ў Гродна. Па-ранейшаму дзейнічалі друкарні каталіцкіх законаў у Вільні, хаця акадэмічная друкарня іезуітаў была перафарміравана.[5] З 1790 г. пачала працаваць друкарня базыльян ў Мінску.[6] Клопат дзяржавы аб развіцці

---

[1] У друкарні меўся адзін варштат і два майстры - друкар і прэсаўшчык (набор і цісненне рабілі розныя асобы). Яны, хутчэй за ўсё, былі вольнымі, бо атрымлівалі аплату за працу. У канцы 1790-х гг. С.Богуш-Сестранцэвіч выпісаў для сваей друкарні з Лейпцыга новы друкарскі варштат, але з-за некамплектнасці ўсталявання не змог яго выкарыстаць. - Дневник Сестренцевича...- С.205-208.

[2] Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. - С.242.

[3] Белоруссия в печати XVIIIстолетия. - С.263-267.

[4] Цинберг С. Шклов и его «просветители» конца XVIII в.// Еврейская старина, 1928. - Т. 12. - С.17-44.

[5] Г.Швайкоўская падае, што яна засталася ў Вільні і працавала як друкарня ГЛШ пад кіраўніцтвам М.Пачобута-Адляніцкага.- Szwiejkowska H. Dz. cyt. - S.217. Па другіх звестках частка яе варштату была перавезена ў Гродна і стала падмуркам друкарні Тызенгаўза.- Jodkowski J. Grodno. - Wilno,1923. - S. 36.

[6]Мінск// ЭЛіМ- Т.3 - М.,1983. - С.534.

друкарскай справы,  пэўна, найбольш яскрава праявіўся ў гісторыі гродзенскай друкарні, якая была адкрыта ў 1775 г. як дзяржаўная па прапанове гродзенскага старасты Тызенгаўза і пры падтрымцы караля.[1] Работа гродзенскай друкарні часоў Тызенгаўза знайшла добрае асвятленне ў гістарычнай літаратуры.[2] Стараста Тызенгаўз быў не ўладальнікам яе, а толькі арэндатарам, хаця ўкладываў у развіццё друкарскай справы  уласныя грошы. Пры друкарні была заснавана словалітня, куды па запрашэнню Тызенгаўза (ужо пасля яго адстаўкі) у 1785 г. прыехаў з Галіцыі  вопытны гісер Нахім.[3] Гэта было буйное прадпрыемства, дзе працавала каля 30 чалавек, у тым ліку два карэктары, пераплётчыкі і рэдактар. Падкрэслім, што друкарня  адразу закладвалася як камерцыйнае прадпрыемства, паколькі прадугледжваўся штогадовы даход ад яе ў памеры 400 злотых (у хуткім часе ён павялічыўся ўтрая). Па колькасці і разнастайнасці выданняў Гродна ў той час, бясспрэчна, займае першае месца сярод іншых гарадоў Беларусі побач з Вільняй. Друкаванне тут вялося на польскай, лацінскай, французскай мовах.[4]

Сярод выданняў, якія ўбачылі свет у друкарнях заходняй і цэнтральнай частак Беларусі, першынства належыць свецкай літаратуры. У адрозненні ад магілёўскай, полацкай і шклоўскай друкарняў тут друкавалася багата палітычнай літаратуры, у тым ліку пастановы сеймаў і канфедэрацый, сеймавыя і судовыя прамовы, памфлеты, палітычная палеміка. У 1794 г. шэраг друкарняў - найперш, базыльянскіх - былі  аддадзены ў распараджэнне паўстанцкіх уладаў і друкавалі палітычную літаратуру і адозвы.[5] Значна больш выходзіла тут арыгінальных твораў мясцовых навукоўцаў і літаратараў.[6] Перакладной

---

[1] Аб гэтым, у прыватнасці, піша сын гродзенскага друкара Нахіма  Зымель.  - VUBRS,  F2, KC.57, lp.7.

[2] Гл. напр.: Гостев А.П. Швед В.В.Кронон. Летопись города на Немане (1116-1990 гг.) - Гродно, 1993. - С.42-43; Мальдзіс А.І. Кнігадрукаванне Беларусі ў XVIII стагоддзі// Книга, библиотечное дело и библиография в Белоруссии. - Мн., 1974.- С. 145-148; Гродненская типография// Гродно. Энцикл.  справ.- Мн.,1989. - С.160 і інш.

[3] Сын Нахіма Зымель Нахімовіч падае  дакладную дату пераезду - 22 лютага 1785 г.- VUBRS, F2, KC. 57, lp.7-8.

[4] Часам называюць яшчэ царкоўнаславянскую.- Гродно.Энцикл.  справ. - С.160. Але хутчэй за ўсё, да гродзенскіх выданняў далучаюць выдадзеныя стараверамі ў мясцечку Клінцы Чарнігаўскай губ. пазацэнзурныя кнігі, на якіх у мэтах канспірацыі ставіліся памылковыя месцы выдання, у тым ліку даволі часта - Гродна.- Книга в России. От начала письменности...... - Ч.1.- С.251.

[5] Базыльянская друкарня ў Вільні, да прыкладу, надрукавала каля 100 такіх выданняў.- Pidlipczak-Majerowicz M. - Dz. cyt.- S.60.

[6] Друкарня ў Слоніме, напрыклад, адразу была створана М.К.Агінскім,  каб друкаваць ягоныя  драматычныя і паэтычныя творы.

літаратуры былі адзінкі, галоўным чынам, творы антычных аўтараў, некалькі французскіх раманаў. Зусім новай з'явай у культурным жыцці быў перыядычны друк: «Gazeta Grodziecska», «Kurjer Litewski» і інш. На ўсходзе ў гэты час меліся толькі рукапісныя газеты і альманахі, якія ладзіліся вучнямі ў калегіюмах і вучылішчах.

Параўнальны аналіз колькасці выданняў і іх рэпертуару паказвае, што захад і цэнтр Беларусі былі лепш за ўсход забяспечаны друкаваным словам. Рэпертуар кнігадрукавання на тэрыторыі ВКЛ больш адпавядаў ідэалогіі Асветніцтва, а перавага арыгінальных сачыненняў сведчыла аб культурнай, палітычнай і сацыяльнай актыўнасці і дастатковай адукаванасці мясцовага насельніцтва, найперш шляхты і магнатаў. Адрозніваецца тут і роля дзяржавы. На ўсходзе мы зноў сустракаем «рэпрэзентатыўную» паставу царскага ўрада да пытанняў культуры. У правінцыі ён пакідаў за сабой ролю цэнзара і наглядчыка, не клапоцячыся аб сапраўдным развіцці друку.[1] Тут асноўным фундатарам выдавецкай справы, насуперак антыклерыкальным ідэям Асветніцтва, апынулася каталіцкая царква. У дадзеным выпадку асаблівасці ўзаемаадносін дзяржавы і праваслаўнай царквы ў Расійскай імперыі згулялі супраць палітыкі падтрымкі праваслаўя на « вернутых ад Польшчы» землях. Паводле ўказаў Пятра І, падцверджаных ягонымі наступнікамі, тэалагічную літаратуру і малітоўнікі можна было друкаваць толькі з дазволу Сынода. Таму, менавіта, былая друкарня Р.Каніскага не магла працягваць сваю дзейнасць.[2] Каталіцкія ж законы і беларускі каталіцкі біскуп яшчэ не былі «упісаны» у расійскую сістэму дзяржаўнага заканадаўства і мелі ў дадзеным выпадку развязаныя рукі.

Адным з новых інстытутаў была дзяржаўная цэнзура, што прыходзіла на змену былой царкоўнай. Інстытут дзяржаўнай цэнзуры, калі абстрагіравацца ад функцый, якія яму надаваліся ў палітычных мэтах, з'яўляецца неабходным элементам функцыянавання культуры Новага часу. У ідэале, цэнзура павінна была грунтавацца на дэмакратычным заканадаўстве і развітай судовай сістэме. Але пры адсутнасці гэтых прававых інстытутаў яна ператваралася ў орган неабмежаванага ідэалагічнага кантролю. На захадзе ўпершыню цэнзураванне было прадпрынята ў стасунку да «Gazety Grodziecskiej» - ад караля быў прызначаны цэнзар Сухадолец, які павінен быў сачыць, каб ў газеце не друкаваліся занадта вострыя артыкулы аб знешняй

[1] У 1773 г. убачыў свет указ Кацярыны ІІ аб адкрыцці друкарняў пры губернскіх праўленнях, але сродкі на гэтую справу з дзяржаўнага скарбу не былі прызначаны. Указ, фактычна, застаўся на паперы.- Книга в России. От начала письменности... - Ч.1.- С. 250.

[2] ПСЗРИ - Т.ХХ, № 15019.

палітыцы  краіны і суседзяў. Але да цэнзуры мясцовыя выдаўцы ставіліся, маўляў, з гумарам. Калі пасля другога падзелу таргавічане паспрабавалі ўзяць пад цэнзурны нагляд усе друкарні ў краіне, пачалі выдаваццa кнігі з падкрэслена скажонымі звесткамі аб месцы выдання. А у час Чатырохгадовага сейму і паўстання Касцюшкі свабода слова ў Рэчы Паспалітай увогуле не мела ніякіх абмежаванняў. Больш ліберальнай у гэты час была і царкоўная цэнзура: хаця ў канцылярыях каталіцкіх біскупаў і уніяцкіх мітрапалітаў прадугледжвалася пасада цэнзара, ягоныя функцыі часцей былі толькі фармальнымі.

У Расійскай імперыі цэнзура адразу будавалася як важны дзяржаўны інстытут.[1] Пасля 1789 г., калі ў адказ на падзеі ў Францыі пачалася змена асветніцкага курсу ў бок рэакці, цэнзурныя ганенні, асабліва ў сталіцах, набываюць шырокі размах. Цэнзурныя функцыі ў правінцыі былі даручаны губернатарам, а з 1789 г. да нагляду, у тым ліку, за тэатральнымі паказамі далучыліся управы дабрачыннасці. «Водблескі» гучных спраў Радзішчава, Новікава і другіх пісьменнікаў і публіцыстаў далятталі і да Беларусі. Не бракавала і мясцовых,  накшталт справы шляхціча Д.Юрэвіча, пасаджанага ў астрог за абразлівыя для мясцовага начальства вершы.[2]

Радыкальныя змены перажывае ў гэты час арганізацыя мастацкага жыцця. Мастацтва, і ў першую чаргу, тэатр, давала магчымасць уздзейнічаць на пачуцці чалавека, выхоўваць асобу ў адпаведнасці з патрабаваннямі новага часу. На мастацтва пакідаюць глядзець як на забаву, яно адыгрывае ўсё большую ролю не толькі ў культурным, але і ў палітычным жыцці, становячыся сродкам распаўсюджвання палітычных ідэй, месцам ідэалагічнай і палітычнай барацьбы. Такая функцыя мастацкай культуры ажыццявілася дзякуючы ўзнікненню новых форм арганізацыі мастацкага жыцця.  Прыкметамі  культуры новай фармацыі можна лічыць тэатр прыватнай антрэпрызы,  працу мастака на рынак, з’яўленне тыпавых архітэктурных праектаў і інш.

Розніца ў ступені трансфармацыі інстытутаў мастацкай культуры на захадзе і ўсходзе Беларусі надзвычай выразная. Важную ролю ў гэтым адыгрывала не толькі глыбіня засваення асветніцкай ідэалогіі, але таксама  канфесійныя асаблівасці рэгіёнаў. Каталіцкая царква,  меўшая перавагу на захадзе і ў цэнтры Беларусі, не прытрымлівалася, у адрозненні ад праваслаўя, строгай кананічнасці ў стасунку да выкарыстання мастацтва ў выхаванні вернікаў, яна была больш здольнай

---

[1] Гл.: Сяльверстава С.Я. Фармаванне сістэмы нагляду за культурай Беларусі ў канцы ХIII-першай палове ХIХ стст.// Беларусіка -3. - Мн.,1994 - С.39-41.
[2] Анішчанка Я.К. Беларусь у часы Кацярыны II. - Мн,1998. - С.93-94.

да адаптацыі новых тэндэнцый у мастацкім жыцці.[1] Каталіцкая ментальнасць большай часткі насельніцтва заходняй і цэнтральнай Беларусі, зважаючы на традыцыі, лепш была падрыхтавана для ўспрыняцця новых мастацкіх форм і стыляў.

Залежнасць ад мецэната, як дзяржаўнага, так і прыватнага яшчэ не была цалкам пераадолена. Таму развіццё мастацтва ў абодзвюх рэгіёнах Беларусі акрэслівалася, апрача іншых фактараў, асаблівасцямі - колькасцю, ангажаванасцю, заможнасцю, асветленасцю і г.д. - мясцовых мецэнатаў. Не апошнюю ролю гуляла ступень іх звязанасці з дадзеным рэгіёнам - паходжанне, прывязанасць да мясцовых традыцый.

З усіх відаў мастацкай культуры гэтых часоў, бадай што, найлепей даследваны архітэктура і горадабудаўніцтва. Шматлікія працы беларускіх і польскіх даследчыкаў, прысвечаныя не толькі архітэктурным комплексам, але і асобным пабудовам, даюць магчымасць правесці параўнанне галоўных тэндэнцый і асаблівасцей, характэрных для гэтай галіны культуры абодвух рэгіёнаў.[2]

І на ўсходзе, і на захадзе Беларусі няцяжка заўважыць сціслае вонкавае падабенства ў працэсах, якія адбываюцца ў архітэктуры: пераход да планавай пабудовы гарадоў, ужыванне тыпавых праектаў, разбудову магнацкіх сядзібаў, паступовае выцісканне баракальных традыцый класіцыстычнымі ў планіроўцы будынкаў і дэкоры, выкарыстанне новых прыёмаў у дойлідстве і г.д. Адрозненні ляжаць тут у іншай плоскасці - хто, чаму, як, з якім размахам і з якой мэтай будаваў.

У Расійскай імперыі традыцыі рэгулярнай гарадской забудовы былі больш даўнія, чым у Рэчы Паспалітай, паколькі мелі свой пачатак у пятроўскіх часах. Як адзначае Ю.Лотман, памкненне да «рэгулярнай дзяржавы», характэрнае для Імперыі з пачатку XVIII ст., адбівалася на горадабудаўніцтве ў выглядзе геаметрычна простых планаў новых гарадоў, жадання дасягнуць аднастайнасці і сыметрычнасці размяшчэння будынкаў і г.д.[3] Пры Кацярыне II на гэтую тэндэнцыю накладваліся ідэі Асветніцтва - ідэальнаму чалавеку патрэбны быў ідэальны горад. Другая палова XVIII ст. была часам змены знешнега

[1] Л.А.Сафронава падае ў якасці тыпалагічных рысаў гэтых культур памкненне першай з іх да захвання традыцый, і другой - да эвалюцыі. - Софронова Л.А. Старинный украинский театр. - М., 1996. - С.12. Нагадаем, што менавіта з каталіцкага касцёла выйшла батлейка, школьны тэатр, інструментальная музыка, каталіцкі свет актыўна развіваў мастацтва скульптуры, алтарны абраз, фрэску і інш.

[2] Чантурия В.А. История архитектуры Белоруссии (дооктябрьский период) - Т.1. - С.111-214; Кулагин А.Н.Архитектура дворцово-усадебных ансамблей Белоруссии - Мн.,1981; Квитницкая Е.Д. Строительство Тизенгауза в Гродно// Архитектурное наследство.- М., 1958. - Вып.11. - С. 145-155.

[3] Лотман Ю.М. Указ.соч. - С.21-22.

вобліку гарадоў расійскай правінцыі. Пачынаецца масавая перапланіроўка, распаўсюджваюцца адміністратыўныя забудовы, некаторыя дамы будуюцца па новых праектах, у тым ліку (што было дагэтуль з'явай дастаткова рэдкай) з цэглы і каменю.[1] Менавіта дзяржава адыгрывала ў гэты час дамінуючую ролю ў пераўладкаванні гарадской забудовы. Гэтыя тэндэнцыі выразна праявіліся на ўсходзе Беларусі.

Ужо ў першыя гады пасля далучэння беларускіх земляў тут пачынаецца мэтанакіраванае і актыўнае будаўніцтва. Захады ўлад у гэтым накірунку мелі пад сабой у большасці стратэгічныя і, так бы мовіць, бюракратычныя мэты. Апошняе, найперш, датычыць ўпарадкавання шляхоў і пабудовы адміністратыўных будынкаў. Да 1775 г. былі пабудаваны паштовыя станцыі ва ўсіх мястэчках Пскоўскай і Магілёўскай губерній і пракладзены новыя, ці спраставаны старыя дарогі.[2] «Дарогі больш падобныя на садовыя алеі, - выказваўся ў 1786 г. аб новых беларускіх шляхах праваслаўны епіскап Кірыл Сеўскі.- Я мяркую, што яны каштуюць працы і пота тутэйшым сялянам».[3] Пабудова новых шляхоў і ўладкаванне паштовай службы давала магчымасць не толькі хутка перамяшчаць войскі, але і больш аператыўна кіраваць, паколькі ва ўмовах цэнтралізаванай абсалютысцкай імперыі праблемы правінцыі вырашаліся ў Пецярбургу.

З 1770-х гадоў, калі беларускія землі былі ўключаны ў агульнарасійскі план пераўладкавання гарадоў, пачынаецца вельмі хуткая і радыкальная перапланіроўка гарадской забудовы. У гэтай дзейнасці, што пераважна адзначалася на тым этапе, калі праекты распрацоўвалі ў Пецярбургу, не ўлічваліся не толькі традыцыі мясцовага дойлідства і горадабудаўніцтва, але нават часам і асаблівасці рэльефа.[4] У 1778 г. былі складзены і ўхвалены Кацярынай II планы Бабінавіч, Беліцы, Быхава, Віцебска, Гарадка, Клімавіч, Копысі, Магілёва, Мсціслаўля, Оршы, Полацка, Рагачова, Суража і яшчэ некалькіх гарадоў. Гэта была самая буйная акцыя ў горадабудаўніцтве

---

[1] Рабинович М.Г. Очерки материальной культуры русского феодального города.- М.,1988. - С.84.

[2] Толькі ў Магілёўскай губерніі за два гады было пабудавана 12 паштовых станцый, у тым ліку адна мураваная ў Магілёве - РГАДА, ф.12, оп.1, д. 159, л.156 об.

[3] Добрынин Г. Истинное повествование или жизнь Гавриила Добрынина им самим написанная в Могилеве и в Витебске. 1752-1823. - СПб., 1872. - С. 277.

[4] У большасці праектаў улічвалася толькі размяшчэнне галоўных плошчаў і магістраляў, а таксама водныя артэрыі. Уся астатняя забудова, асабліва ў невялікіх гарадах, планавалася адпаведна патрабаванням строгай геаметрычнасці: проставугольныя ці многавугольныя комплексы кварталаў, роўныя шырокія магістралі і г.д. У некаторых невялікіх гарадах - Бабінавічах, Копысі, Дуброўне, Чэрыкаве і інш. не ўлічваўся нават рэльеф.- Чантурия А.В.Указ.соч.- С.220-223.

ўсходняй Беларусі на працягу некалькіх стагоддзяў. Не ўсе планы былі выкананы, у большасці - што было ўвогуле характэрна для многіх пачынанняў Кацярыны II - яны ажыццявіліся фрагментарна. Але знешні выгляд беларускіх гарадоў стаў больш адпавядаць агульнарасійскаму «сярэднестатыстычнаму» уніфікаванаму гораду. Гэтаму спрыяла таксама шырокае ўжыванне тыпавых і паўторных праектаў для адміністратыўных будынкаў, стрыманых і аднастайных па дэкору.

Змены ў знешнім вобліку гарадоў і мястэчак усходняй Беларусі, апрача іншага, былі праявай агульнарасійскай палітыкі ў дачыненні да трэццяга саслоўя.[1] Найбольш актыўна яна праводзілася да канца 1770-х гг. У губернскіх гарадах у гэты час будуюцца пошты, бальніцы і прытулкі, будынкі ўрачэбных управ, пераўладкоўваюцца ці будуюцца (у Магілёве, Чачэрску ) будынкі гарадского самакіравання.

Прыватная ініцыятыва ў горадабудаўніцтве на ўсходзе Беларусі была значна меньшай, чым захады дзяржавы. Характэрна, што яе выказалі новыя гаспадары - расійскія магнаты і вышэйшыя саноўнікі - Чарнышоў, Румянцаў і Зорыч. Мясцовая шляхта ў дадзеным выпадку не выказала ніякіх значных памкненняў, што было абумоўлена не толькі яе фінансавай нясталасцю, але і агульнай разгубленасцю ў новых палітычных умовах. Будаўніцтва Чарнышова ў Чачэрску і Пепінбергу, Зорыча ў Шклове, Румянцава ў Гомелі не выйшла за межы, уласцівыя палацава-сядзібнаму комплексу.

Адметнасцю архітэктурнага развіцця ўсходняга рэгіёну Беларусі ў гэты час было актыўнае будаўніцтва, рэканструкцыя і перабудова культавых будынкаў. Будавалі ўсе канфесіі - каталікі, уніяты, праваслаўныя. Але толькі апошнія мелі ў гэтай справе дзяржаўную падтрымку. Размах культавага будаўніцтва на ўсходзе Беларусі можа тлумачыцца некалькімі прычынамі: зробленай Кацярынай II дэкларацыяй аб свабодзе веравызнанняў, стасунку ўлад да рэлігіі, якая (незалежна ад канфесіі) лічылася адным са слупоў абсалютысцкай дзяржавы, павольнасцю працэса секулярызацыі грамадскага і культурнага жыцця.

На захадзе і ў цэнтры Беларусі пальма першынства ва ўкараненні навацый ў горадабудаўніцтва і архітэктуру належала не дзяржаве (хоць кароль і з'яўляўся часам фармальным заказчыкам будоўлі), а прыватнай ініцыятыве. На першы погляд тут назіраюцца амаль тыя самыя тэндэнцыі, што і на ўсходзе - уладкаванне шляхоў, перапланіроўка гарадоў, узнікненне новых тыпаў будынкаў і інш. Аднак мэты, з якімі гэта рабілася, а таксама вынікі гэтай працы маюць значныя адрозненні.

[1] Тарловская В.Р. Указ.соч. -С.40.

Пабудова новых шляхоў, якая актыўна праводзіцца на тэрыторыі ВКЛ, у адрозненні ад усходу Беларусі, мела не столькі стратэгічныя і бюракратычныя, колькі эканамічныя мэты. Пры адсутнасці моцнай цэнтралізаванай улады не было значнай патрэбы ў надзейнай сувязі паміж правінцыяй і сталіцамі. Пабудова новых шляхоў дыктавалася, найперш, патрэбамі гандлю. Яскравы прыклад гэтага - канал, пабудаваны ў 1767-1783 гг. па ініцыятыве М.Агінскага, які, злучыўшы Ясельду і Шчару, спраставаў гандлёвыя шляхі Рэчы Паспалітай. У гэты час узнікаюць першыя праекты Аўгустоўскага каналу. Размах дарожнага будаўніцтва тут быў меньшы, чым на ўсходзе і не такі планамерны.

На захадзе перапланіроўка гарадоў і мястэчак была з'явай дастаткова рэдкай і праводзілася, пераважна, у прыватнаўласніцкіх населеных пунктах. Памкненне да пабудовы «ідэальнага горада», характэрнае для асветнікаў, знайшло свае ўвасабленне і на захадзе Беларусі. Але праявілася яно ў розных абліччах. На ўсходзе яно, спалучаючыся з тэндэнцыямі рэгламентацыі разнастайных галін гарадскога жыцця, закранула большасць гарадоў і многія мясцечкі. Але ажыццяўленага ўзора накшталт расійскай Цьвяры, дзе была ў гэты час зроблена спроба пабудаваць на месцы згарэлага новы «ідэальны» горад, на ўсходзе Беларусі не было.[1] На захадзе мы маем прыклад такой спробы - будаўніцтва Тызенгаўза ў Гродна. Гэты феномен мае распрацаваную гістарыяграфію і не патрабуе падрабязнага разгляду.[2] Адзначым толькі, што гродзенскі стараста не імкнуўся перабудаваць ужо склаўшуюся гарадскую забудову, а пачаў будаўніцтва на новым месцы - у прыгарадзе Гродна Гарадніцы. Нельга пагадзіцца з Е.Квітніцкай, якая разглядае комплекс Гарадніцы як тыповую магнацкую сядзібу.[3] Гэтая забудова цалкам адпавядала патрабаванням, высунутым асветнікамі для ідэальнага горада: адмыслова размешчаныя прамысловая, рэкрэацыйна-прадстаўнічая і акадэмічная зоны, строгая геаметрычнасць і сіметрыя ў планіроўцы вуліц і кварталаў, «ідэальныя» дамы рамеснікаў, распрацаваная гарадская інфраструктура. Спецыяльна адзначым, што ў плане Гарадніцы адсутнічалі культавыя пабудовы.

У тым жа накірунку, але з меньшым размахам дзейнічаў Тызенгаўз у Паставах, Агінскі ў Слоніме, Сапега ў Дзярэчыне, Храптовіч у Шчорсах. Тут таксама, як і на ўсходзе Беларусі, пачынаюць выкарыстоўвацца тыпавыя праекты, але не для адміністратыўных

---

[1] Тарловская В.Р.Указ.соч. - С.40. У Беліцы, якая была заснавана на новым месцы, будаўніцтва не набыло буйных масштабаў.

[2] Гл. напрыкл.:Końciaikowski St. Antoni Tyzengauz, podskarbi nadworny litewski.- T.1-2. - Londyn, 1970-1971.; Квитницкая Е.Д. Указ.соч.

[3] Квитницкая Е.Д. Указ соч.

будынкаў, а для жылых дамоў. Нельга адзначыць з'яўлення тут новых тыпаў пабудоў, накшталт «присутственных мест» - яны тут былі непатрэбныя. Іх месца займаюць палацы магнатаў і караля, магістраты, будынкі кляштараў - менавіта гэтыя памяшканні выкарыстоўваліся для органаў кіравання.[1] Калі і будаваліся спецыяльныя дамы для адміністрацыі - як гэта было ў Гродна - яны адразу планаваліся як жыллё з памяшканнем для аўдыенцый і асабістымі пакоямі.

У адрозненні ад усходу, на захадзе і ў цэнтры Беларусі не назіраецца ў гэтыя часы буйнае сакральнае будаўніцтва. Архітэктура мае тут пераважна свецкі характар, што, пэўна, тлумачыцца большай ангажаванасцю грамадства ў свецкія справы, а таксама насычанасцю гэтай тэрыторыі такога тыпа пабудовамі.

Заходняя частка беларускіх земляў выразна апярэджвала ўсход у развіцці выяўленчага мастацтва. Асноўнымі прычынамі гэтага, хутчэй за ўсе, з'яўляліся канфесійная адметнасць дадзеных земляў, наяўнасць тут заможных мецэнатаў і большая глыбіня пранікнення ідэй Асветніцтва. Мясцовая шляхта, лепей адукаваная, больш заможная, чым яе ўсходнія кампатрыёты, ствapaлa хаця і вузкі, але ўсё ж такі рынак для працы мастакоў. Не бракавала тут і дзяржаўных заказаў (аднаўленне Новага замка ў Гродна, над якім працаваў Ф.Смуглевіч).

Менавіта захад даў у той час першых свецкіх прафесійных мастакоў, якія працавалі не толькі на мецэната - Ф.Смуглевіча, Ю.Пешку, Я.Рустэма і інш. Усход Беларусі ў гэты час не даў ніводнага імя, якое можна было б паставіць на адну лінейку з вышэй згаданымі. Вынікам развіцця выяўленчага мастацтва на захадзе Беларусі было заснаванне ў 1797 г. у ГЛШ кафедры жывапісу, малюнку і гравюры, якую ўзначаліў Ф.Смуглевіч - першы прафесар жывапісу не толькі на былой тэрыторыі ВКЛ, але ва ўсёй Рэчы Паспалітай.[2]

Найбольш уяўныя адрозненні ў глыбіні засваення новых павеваў на захадзе і ўсходзе Беларусі дало ў гэты час тэтральнае мастацтва.

---

[1] Каралеўскія палацы выкарыстоўваліся для сеймаў Рэчы Паспалітай; памяшканні касцёлаў, у тым ліку віленскі Вострабрамскі кармелітаў босых, віленскі бернардзінскі і інш. - для паседжанняў ваяводскіх сеймікаў.- Zakrzewski A. Sejmiki Wielkiego Ksikstwa Litewskiego epoki stanisiawowskiej (do 1788 r.). Zmiany w ustroju i funkcjonowaniu.// Ziemie Pyinocne Rzeczypospolitej Polsko-Litewskiej w dobie rozbiorowej.1772-1815.- Warszawa-Toruc, 1996. - S.60.

[2] Гісторыя выяўленчага мастацтва эпохі класіцызма, у тым ліку, творчасць класіка класіцызма Ф.Смуглевіча, грунтоўна вывучана польскімі навукоўцамі - Malarstwo polskie.Oњwiecenie, klasycyzm, romantyzm.- Warszawa, 1977; Bartnicka K. Polskie szkolnictwo artystyczne na przeiomie XVIII-XIX w. 1764-1831.-Wrociaw;1971; Klasycyzm. Studia nad sztuk№ polsk№ XVIII-XIX w.- Warszawa, 1968 і інш.

Для ўсхода Беларусі другая палова XVIII ст. была яшчэ часам прыгонных тэатраў. Добра вядома аб дзейнасці прыгонных труп Чарнышова ў Магілёве, Зорыча ў Шклове. Гэтыя тэатры былі цалкам залежныя ад уладальніка і выконвалі рэпрэзентатыўную і рэкрэатыўную ролі. З нагоды важных падзей - як, напрыклад, прыезд на Беларусь Кацярыны II, - «выпісваліся» сталічныя трупы. Адметным у гэтым сэнсе быў рэпертуар тэатраў, якія дзейнічалі на ўсходзе Беларусі: тут ставіліся італьянскія і французскія п’есы забаўляльнага характару, балеты, пантамімы, невялікія оперы[1] (выключэннем можа быць спецыяльна напісаная С.Вязьміцінавым да прыезду Вялікага князя Паўла Пятровіча п’еса «Новае сямейства», пастаўленая ў Чачэрску прыгоннай трупай Чарнышова[2]). Тэатры расійскіх вяльможаў, якія дзейнічалі на ўсходзе Беларусі, нягледзячы на размах, з якім яны ствараліся (у гэтым сэнсе паказальны тэатр Зорыча, меўшы некалькі труп, спецыяльныя памяшканні, замежных мэтраў і г.д.) засталіся з’явай маргінальнай. Яны існавалі толькі пакуль былі жывыя іх уладальнікі, не былі агульнадасяжнымі, іх дзейнасць так і не была ўключана ў «тканіну» культурнага жыцця рэгіёна. Тэатр тут не эвалюцыянаваў - ад прыгоннага да камерцыйнага, ад заходнееўрапейскага рэпертуара да нацыянальнай драматургіі - а заставаўся статычным у сваіх формах і эстэтыцы. Паказальна, што мясцовая шляхта, нават людзі заможныя, такія як Шчыт, Корсак і інш. не важыліся ў той час заводзіць прыгонных акцёраў. У развіцці тэатральнага мастацтва, бадай што, найбольш адчуваецца, што новадалучаныя да Імперыі тэрыторыі - правінцыя, «глубинка», якой далёка да асветленага тэатральнага Пецярбурга і дзе тэатры дзейнічаюць толькі тады, калі сюды завітваюць важныя сталічныя асобы. Прыезд на ўсход вандроўных тэатраў, пераважна, невялікіх польскіх, ці яўрэйскіх труп, быў у той час з’явай рэдкай[3].

Захад Беларусі перажывае ў часы Асветніцтва сапраўдную тэатральную манію, што ўвогуле было характэрна для Рэчы Паспалітай гэтага часу. Развіцце тэатральнага мастацтва, як і ўдасканаленне сістэмы асветы, было тут пастаўлена асветнікамі ў шэраг дзяржаўных задач. Тэатр павінен быў, выконваючы грамадскі заказ, выхоўваць

---

[1] Так, у час наведвання Кацярынай II Магілёва былі паказаны італьянскія оперы» La finta amante»,» La Fraskatura» і» Astrologus imaginerie» -Дневная записка путешествия Ее Императорского Величества через Псков и Полоцк в Могилев. - С.406-408;
[2] Няфёд Ул. Гісторыя беларускага тэатра.- Мн.,1982 - С.47.
[3] Аб адным з такіх фактаў ужо ў паўлаўскія часы піша ў сваіх мемуарах Г.Дабрынін, дадаючы, што «у тых месцах ці гарадах, дзе тэатральны парадак не ўладкаваны, або дзе наезжыя бываюць акцёры, заўсёды для адкрыцця відовішча замест гадзінніка стасуюцца з начальнікам» - пасля яго з’яўлення пачынаўся паказ. - Добрынин Г. Указ.соч. - С.319.

грамадства, асобу. У каталіцкім сусвеце ён быў арганічнай з'явай, меў трывалыя шматстагоддзевыя традыцыі і сваё сталае месца ў культурным працэсе.

У 1765 г. у Варшаве пастаноўкай нацыянальнай п'есы « Natrkncі» адкрыўся агульнадасяжны прафесійны тэатр.[1] З гэтага часу развіццё нацыянальнага тэатру становіцца пастаянным клопатам караля і большасці асветнікаў. Рэцэнзіі на паказы, тэатральную палеміку, тэатразнаўчыя артыкулы пастаянна змяшчаюць на сваіх старонках газеты, у тым ліку, варшаўскі «Monitor». Вельмі хутка - за некалькі дзесяцігоддзяў - складваецца нацыянальны рэпертуар, куды ўваходзяць не толькі пераробкі французскіх п'ес, але і арыгінальныя творы польскіх драматургаў. Памеры тэатральнай дзейнасці ў той час, апрача іншага, прывялі да стварэння цэлага накірунку ў сучасным тэатразнаўстве, які налічвае дзесяткі работ.[2]

Буйныя тэатры дзейнічалі ў той час амаль ва ўсіх магнацкіх рэзідэнцыях заходняй і цэнтральнай Беларусі - Слоніме, Нясвіжы, Гродна, Ружанах і інш. Гэтыя трупы не з'яўляліся ў поўнай меры прыгоннымі. Як правіла, іх аснову першапачаткова складалі наёмныя акцеры, выпісаныя ўладальнікам з-за мяжы. Сярод прыгонных тэатраў, безумоўна, вылучаецца тэатр Тызенгаўза ў Гродна - не толькі колькасцю і прафесіяналізмам акцёраў, але і наяўнасцю дастаткова буйной тэатральнай школы, якая давала і прафесійную, і агульную адукацыю. Паказальна, што вучнямі школы, акрамя прыгонных, былі дзеці шляхцічаў, у тым ліку, знакамітыя Сітанскія.

Прыгонныя тэатры былі важнай рысай культурнага жыцця заходняй і цэнтральнай Беларусі другой паловы XVIII ст., але не яны акрэслівалі сутнасць навацый ў гэтай галіне мастацтва. Яны рыхтавалі глебу для больш прагрэсіўнай з'явы - камерцыйнага агульнадасяжнага, дэмакратычнага тэатра. З'яўленне прыватнай антрэпрызы, якое адбылося на землях Рэчы Паспалітай ў тыя часы, было адзнакай пранікнення ў тэатр буржуазнага прадпрымальніцтва і магло адбыцца толькі тады, калі грамадства адчула патрэбу ў пастаянных тэатральных паказах. Узнікненне камерцыйнага тэатра азначала падрыхтаванасць гледача, наяўнасць своеасаблівай традыцыі публічных відовішчаў. Патрэба грамадства ў тэатральным мастацтве акрэсліла эвалюцыю ад прыгоннага да камерцыйнага тэатра некаторых з маёнткавых труп, як,

---

[1] Софронова Л.А.Указ.соч. - С.13-14.

[2] Гл.напр.: Klimowicz M.Pocz№tki teatru stanisiawowskiego (1765-1773).- Warzawa,1965; Raszewski Z. Bogusiawski.- T. 1-2. -Warszawa, 1982; Teatr Narodowy w dobie Oњwiecenia. -Wrociaw, 1967; Wierzbicka-Michalska K. Aktorzy cudoziemcy w Warszawie w XVIII wieku -Wrociaw-Warszawa-Krakyw-Gdacsk, 1975; Raszewski Z Krytka historia teatru polskiego- Warszawa, 1990. - S.59-79 і інш.

напрыклад, тэатра Тызенгаўза ў Гродна. Яшчэ да з'яўлення мясцовых тэатраў прыватнай антрэпрызы, на захадзе Беларусі выступалі прыезжыя замежныя трупы, найперш, французскія і італьянскія. [1]

Першыя камерцыйныя тэатры на захадзе Беларусі з'яўляюцца ў 1780-я гады. У 1784 г. з гастролямі ў Гродна прыяжджае В.Багуслаўскі з часткай варшаўскай трупы Тэатра Нарадовага[2], а затым ён перабіраецца ў Вільню. Напрыканцы стагоддзя прыватныя антрэпрызы адкрываюць у Гродна, Мінску, Вільні Кажынскі, Мараўскі, Шыманскі і інш.

Дзяржаўнае значэнне тэатра ў гэты час падкрэслівалася не толькі ў выглядзе скарбовага фінансавання, але і шляхам арганізацыі нагляду за прыватнай антрэпрызай.[3] Пытанні падтрымкі тэатральнага мастацтва ў Рэчы Паспалітай неаднаразова абмяркоўваліся на сеймах і паседжаннях Вышэйшай нацыянальнай Рады ў час паўстання 1794 г.

Такім чынам, у развіцці тэатральнага мастацтва на ўсходзе і на захадзе Беларусі складваюцца дзве вельмі непадобныя да сябе мадэлі. На ўсходзе ён застаецца з'явай шляхецкай культуры, выконваючы забаўляльную і рэпрэзентатыўную ролі. Гэта ўсе яшчэ прыгонны тэатр, часам з элементамі школьнага і аматарскага (у Шклове), які цалкам залежыць ад жаданняў уладальніка і, застаючыся з'явай маргінальнай, не ўплывае значна на культурнае асяроддзе. На захадзе Беларусі тэатральнае мастацтва развіваецца імклівымі тэмпамі. Тут тэатр становіцца з'явай паўсядзённага жыцця, ён выконвае не толькі забаўляльную, але і грамадска-палітычную функцыю.

У шчыльнай сувязі з тэатральным развівалася музычнае мастацтва. Другая палова XVIII ст. была часам нараджэння «чалавека музычнага», для якога асноўныя мастацкія каштоўнасці засяродзіліся менавіта ў галіне музыкі, а часцей музычнага тэатру. Асаблівасці развіцця музычнай культуры Беларусі гэтага перыяду вельмі дакладна акрэслены ў працах В.Дадзіёмавай.[4] Характэрна, што, аналізуючы развіццё музычнага мастацтва на Беларусі, даследчыца ў якасці факталагічнага матэрыялу выкарыстоўвае ў большасці з'явы музычнага жыцця заходняй і цэнтральнай Беларусі. Што ж датычыцца ўсходу - тут ізноў

---

[1] Часцей за ўсё гэта адбывалася ў час соймавых паседжанняў, як гэта было ў 1784 г.: адразу дзве з такіх труп выступалі ў Гродна. - Rulikowski M. Teatr polski na Litwie.1784-1906. - Wilno,1907. - S.17.

[2] Ibidem.

[3] Гл. аб гэтым: Сяльверстава С. Фармаванне сістэмы нагляду за культурай Беларусі ў канцы XVIII - першай палове XIX стст.// Беларусіка -3 - Мн., 1994. - С.41-42.

[4] Дадзіёмава В. Музычная культура Беларусі XVIII ст. у агульнаеўрапейскім кантэксце: Адзінства і адметнасць, мясцовыя рэаліі і еўрапейскі канон.// Беларусіка - 6. - Т.1.- Мн., 1997. - С.226-232; Яна ж. Гісторыя музычнай культуры Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII ст.- Мн.,1994. - С.23-78.

прыгадваюцца тэатры Зорыча і Чарнышова, а таксама царкоўная музыка - у касцёлах, уніяцкіх і праваслаўных царквах, музычная адукацыя ў іезуіцкіх калегіюмах і базыльянскіх школах і г.д. Захад і цэнтр Беларусі далі ў гэты час некалькіх кампазітараў і выканаўцаў еўрапейскага класа - М.К. Агінскіх, М.Радзівіла, Л.Сітанскага і інш. Менавіта яны паклалі пачатак фармаванню літвінскай музычнай школы, у якой вылучаюцца ўжо некаторыя тыпалагічныя адрозненні - вакальна-інструментальныя цыклы, сваеасаблівая трактоўка папулярных еўрапейскіх тэм і г.д.[1]

Як адну з тыпалагічных рысаў развіцця музычнай культуры на захадзе і ў цэнтры Беларусі адзначым яе пераход да публічных выкананяў музычных твораў. Музыка станавілася не столькі звязанай з акрэсленымі цырымоніямі, як гэта назіралася яшчэ ў першай палове стагоддзя, сколькі набірала ўласную каштоўнасць. Публічныя канцэрты, оперы, за наведванне якіх трэба было плаціць, паступова становяцца звыклым элементам культурнага жыцця. Аб'явы аб іх друкуюць газеты[2], складваецца практыка раздрукоўкі афіш і анонсаў аб канцэртах і музычных паказах.

Многае ў развіцці музычнага мастацтва ў гэты час закладзена было ў выглядзе тэндэнцый, якім належала ажыццявіцца праз некалькі дзесяцігоддзяў: свецкая музычная адукацыя, распаўсюджанне музычнага аматарства, жаночае музыцыраванне, музычная крытыка і інш.

Вышэй праведзены агляд форм арганізацыі культурнага жыцця дзвюх рэгіёнаў Беларусі ў перыяд падзелаў Рэчы Паспалітай прыводзіць да некалькіх больш агульных высноваў. Магістральнай тэндэнцыяй у іх быцці было закладванне падмуркаў культуры Новага часу. На працягу апошняй трэці XVIII ст. усе віды мастацтва, літаратура, навука і асвета выпрацавалі элементы сваёй новай інстытуцыянальнай пабудовы. Беларускія землі, што заставаліся ў складзе Рэчы Паспалітай, зрабілі на гэтым шляху больш рашучыя крокі, чым тэрыторыі, трапіўшыя ў склад Расійскай імперыі. За гэта быў адказны шэраг акалічнасцяў, як аб'ектыўнага (стартавыя ўмовы эканамічнага, сацыяльнага і культурнага развіцця абодвух рэгіёнаў), так і суб'ектыўнага характара (палітыка дзяржавы, тып Асветніцтва, становішча рэгіёна ў краіне і г.д.). Правамоцным можа быць тэзіс аб тым, што ўсход Беларусі ў гэты час увогуле не здолеў стварыць патрэбную для функцыянавання культуры Новага часу інстытуцыянальную пабудову: новыя элементы прысутнічалі тут толькі ў сістэме асветы і часцей мелі «рэпрэзентатыўны» характар і не аказвалі

[1] Дадзёмава В. Музычная культура Беларусі.. . - С. 227-230.

[2] Аб такім канцэрце паведамляла ў 1776 г. «Gazeta Wiliecska» - Rulikowski M. Dz.cyt.- S. 17.

значнага ўплыву на стан асветленасці грамадства. У іншых галінах новыя інстытуты або мелі спарадычны, ці маргінальны характар (тэатр, літаратура), або выклікаліся не столькі патрэбамі самаго культурнага асяроддзя, сколькі палітычнымі ці бюракратычнымі памкненнямі (горадабудаўніцтва, цэнзура). Захад і цэнтр Беларусі такім чынам высоўваюцца на ролю лідэра ў працэсе кшталтавання культуры Новага часу, што ў будучым абумовіла не толькі іх дамінаванне ў распаўсюджанні новых культурных інстытутаў, але і новай ідэалогіі.

Падзел беларускіх земляў дзяржаўнай мяжой у 1772 г. меў не толькі палітычнае значэнне, гэта быў не толькі падзел на два рэгіёна - захад і ўсход Беларусі, гэта быў падзел на Захад і Усход у сэнсе цывілізацыйным.

Магілёўшчына і Віцебшчына, апынуўшыся ў складзе Расійскай імперыі, трапілі ў становішча далёкай правінцыі (у тым сэнсе, які набыло гэтае слова ў расійскім грамадстве напрыканцы XVIII ст.[1]).З гэтага часу самаўладдзе становіцца наймацнейшым сістэмаўтваральным фактарам у жыцці беларускіх земляў. Цэнтралізацыя і рэгламентацыя культурнага і грамадскага жыцця, магутная ўлада бюракратыі, характэрная для імперыі, абумоўліваюць пачатак нівеліроўкі соцыякультурных асаблівасцяў рэгіёну. Найяскравей гэта акрэслілася ў горадабудаўніцтве і школьнай справе. Разам з тым, урад вымушаны быў у асобных выпадках захоўваць ужо існуючыя культурныя інстытуты, што выклікалася, найперш, палітычнымі матывамі. Менавіта таму былі захаваны каталіцкія і базыльянскія навучальныя ўстановы: іх закрыццё паставіла б у апазіцыю да ўрада шляхту і шматлікае мясцовае святарства, а праз яго - вернікаў. Падрыў уплыву царквы, незалежна ад яе канфесійнай прыналежнасці, не ўваходзіў ў планы ўрада.

Культура ўсходняга рэгіёну Беларусі, у дадатак да ўжо існуючага падзелу па сацыяльнаму і канфесійнаму прызнакам, набывае ў гэты перыяд «дабудову» у выглядзе сядзібнай культуры расійскіх вяльможаў, якая мела тут маргінальны характар і не была ўключана ў «тканіну» склаўшагася соцыякультурнага асяроддзя.

Правінцыяльнае становішча рэгіёну ў межах Расійскай імперыі абумовіла глыбіню і характар пранікнення на гэтыя тэрыторыі навацый. Расійскае Асветніцтва мела, так бы мовіць, сталічны характар - менавіта ў Пецярбургу і Маскве яно было адаптавана з найбольшай глыбінёй і

---

[1] Пагардлівае стаўленне да правінцыі, супрацьпастаўленне яе асветленай сталіцы, якое складваецца ў расійскім грамадстве ў XVIII ст., было абумоўлена цэнтралізаваным характарам кіравання абсалютысцкай імперыяй. Лепшыя сілы краіны - дваранская моладзь, майстры і мастакі - збіраліся ў Пецярбургу і Маскве, не вяртаючыся, узбагачаныя новым вопытам, на радзіму. - Сизинцева Л.И. Указ.соч. - С.35.

дало там адчувальны плён. У беларускую правінцыю далятали толькі «водблескі» сталічнага Асветніцтва, не заўсёды знаходзячы тут спрыяльную глебу для распаўсюджання. Замаруджанае ўкараненне новых культурных інстытутаў было абумоўлена таксама напоў-ваенным становішчам гэтых тэрыторый, інэртнасцю мясцовай шляхты і мяшчанства, дэзарыентаваных у новый палітычнай сітуацыі. У шэрагу выпадкаў элементы новай інстытуцыянальнай пабудовы культуры, ствараемыя па ініцыятыве ўлад, заставаліся незавершанымі і не маючымі перспектыў далейшага развіцця (народныя вучылішчы).

Ці было Асветніцтва значнай з'явай у культурным быцці ўсходніх рэгіёнаў Беларусі? Пэўна, у дачыненні да другой паловы XVIII ст. можна гаварыць толькі аб некаторых элементах гэтай сацыякультурнай плыні, якія не далі тут яркіх узораў і не зрабілі «перавароту ў розумах», які б адбіўся на інстытуцыянальнай пабудове культуры. Вынікам гэтага было запаволенае развіцце культуры рэгіёна ў наступныя дзесяцігоддзі.

Сацыякультурнае развіццё заходніх і цэнтральных земляў Беларусі развівалася па іншай мадэлі. Адсутнасць цэнтралізаванай дзяржавы, ярка акрэсленых супрацьлегласцей паміж сталіцай і перыферыяй вызначылі поліцэнтрычнасць культурных працэсаў. Беларускія (літвінскія) землі не былі ў Рэчы Паспалітай на становішчы правінцыі. Яны ўтваралі дастаткова развіты рэгіён, са сваімі гісторыка-культурнымі традыцыямі, дзе было некалькі буйных культурных цэнтраў (Вільня, Гродна), магнацкіх сядзібаў, якія ў часы Асветніцтва сталі асяродкамі інтэнсіўнага культурнага жыцця (Нясвіж,Слонім).

Захад і цэнтр Беларусі здолелі за тры дзесяцігоддзі ўтварыць арганічнае культурнае асяроддзе з поўнавартаснай структурай, у патэнцыяле нясучай праваобраз інстытуцыянальнай пабудовы культуры Новага часу. Гэта, апрача іншага, можа сведчыць, што сацыякультурнае развіццё рэгіёну ішло па шляху Захада. Апошняе ўвасабляецца не столькі ў арыентацыі культурных сувязей і выбары ўзораў для наследвання (вестэрнізацыі), колькі ў адпаведнасці мясцовых тэндэнцый заходнееўрапейскаму працэсу развіцця культуры.

## У складзе Імперыі.

У часы падзелаў Рэчы Паспалітай быў закладзены падмурак новай інстытуцыянальнай пабудовы культуры. Працяг гэтага працэса прыпадае на канец XVIII - першую палову XIX стст.

Бадай што, найбольш няпроста гэта адбывалася ў сістэме асветы.

Даследчыкі на працягу амаль дзвюх стагоддзяў утваралі гістарыяграфію асветы на беларускіх землях у завяршальны этап Асветніцтва. Пералік прозвішчаў навукоўцаў, якія так ці інакш прычыніліся да гэтага, мог бы заняць некалькі абзацаў дадзенай работы.[1] Тут шмат грунтоўных прац, прысвечаных асобным навучальным установам, найперш, Віленскаму універсітэту і некаторым гімназіям (мінская, свіслацкая, магілёўская, віцебская[2]) і вучылішчам (барунскае); асобным дзеячам асветы (Я.Снядэцкі, К.Падчашынскі, І.Лялевель і інш.); добра прадстаўлены і абагульняючыя работы.

Як правіла, большасць навукоўцаў вылучаюць у гісторыі асветы канца XVIII - першых дзесяцігоддзяў XIX стст. дзве- «паўлаўскую» і «аляксандраўскую» - эпохі. Прынцып такога падзелу проста прачытваецца ва ўжытых назвах. У адрозненні ад гэтага адзінадушша, верхняя цэзура перыяду выклікае дыскусію, паколькі ў якасці яе абіраюць 1825 г. (А.Гурэцкі), 1824 г.(А.Самусік), або ўвогуле - што характэрна для польскай гістарыяграфіі - працягваюць яго да паўстання 1830 г. У дадзеным выпадку важным з'яўляецца вызначэнне крытэрыя для пазначэння цэзуры. Усё ж такі 1824 г. выдаецца больш прыдатным на гэтую ролю, паколькі змена кіраўніцтва Віленскай навучальнай акругі і універсітэта паклала пачатак далейшай перабудове ўсёй сістэмы асветы ў краі, найперш, змены яе ідэалагічнага падмурка.[3]

Яшчэ адной асаблівасцю, якая характэрна для беларускай гістарыяграфіі праблемы, з'яўляецца канцэнтрацыя ўвагі навукоўцаў на зменах у інстытуцыянальнай пабудове асветы. З аднаго боку, гэта пагаршае стан распрацаванасці іншых аспектаў пытання - становішча настаўнікаў, змест навучання, стасунак грамадства да асветы і г.д.; з другога, дае магчымасць зрабіць некаторыя абагульненні.

---

[1] Бібліяграфія прац, прысвечаных у 1945-1982 гг. гісторыі Віленскага універсітэта ад заснавання акадэміі да 1939 г., у якой перыяд 1803-1832 г. займае найвялікшае месца, складзена Х.Бараноўскім і налічвае больш за сотню старонак. − Baranowski H. Uniwersytet Wilecski 1579-1939. Bibliografia za lata 1945-1982.- Wrociaw, 1983. - 133 S.

[2] Адо Н. Краткий исторический очерк Минской мужской гимназии. Ч.1 (до 1831 года) - Мн., 1903; Глебов И.А. Историческая записка о Слуцкой гимназии с 1617-1630- 1901 гг. - Вильня, 1903.; Сапунов А. Историческая записка 75-летия Витебской гимназии.- Витебск, 1984; Созонов М.П.Историческая записка о Могилевской мужской гимназии (за столетний период ее существования, 1809-1909).- Могилев, 1909 і інш.

[3] Дэталёвае абгрунтаванне гэтага гл.:Сяльверстава С.Я. Палітыка царызма ў галіне культуры Беларусі ў першай палове XIX ст.// Гістарычная навука і гістарычная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь. - Т.1 - Мн., 1994. - С.145-151.

Супярэчлівасць працэсу фармавання новай сістэмы асветы была абумоўлена шэрагам прычнаў аб’ектыўнага і суб’ектыўнага характару. У шэраг першых варта аднесці агульны стан грамадства, у тым ліку ўзровень развіцця эканомікі і сацыяльных інстытутаў; вайну 1812 г. Суб’ектыўнымі ж прычынамі, пэўна, з’яўляліся асаблівасці разумення мэтаў выхавання, якія склаліся ў тагачасным грамадстве, а таксама ступень зацікаўленасці ўлад развіццём асветы. Апошняе ва ўмовах Расійскай імперыі гуляла надзвычай важную ролю, зважаючы на месца, якое займала тут дзяржава ў фармаванні культурнага асяроддзя.[1]

Магістральныя працэсы - секулярызацыя і дэмакратызацыя, што вызначалі пастунальнае развіцце асветы і адукацыі з сярэдзіны XVIII ст., не змяніліся. Але ўвасабленне іх у жыццё адбывалася, так бы мовіць, «хвалямі» - замаруджванне ў апошнія гады царавання Кацярыны II і паўлаўскія часы; уздым у эпоху «дзён александраўскіх прыўкраснага пачатку» і зноў «адкат» ў другой палове ягонага царавання.

Натуральнае і раптоўнае ўключэнне спадчыны КНА ў існуючую расійскую сістэму адукацыі аказвалася цяжкім[2]. Таму новай праблемай ва ўладкаванні сістэмы асветы на беларускіх землях, апынуўшыхся пасля апошняга падзелу Рэчы Паспалітай у адзінай палітычнай прасторы, стала яе уніфікацыя. Гэты працэс расцягнуўся на дзесяцігоддзі і прайшоў некалькі этапаў. Першы з іх ахоплівае 1795-1801 гг., калі прынцып ніверліравання сістэмы асветы канчаткова не быў абраны і прадпрымаліся палеатыўныя меры. Другі распачаўся рэформай асветы пачатку стагоддзя і завяршыўся закрыццём навучальных установаў ордэна іезуітаў. Трэці, галоўным зместам якога была ніверліроўка адрозненняў сістэмы адукацыі ў межах Віленскай акругі ад прынятай у Імперыі, уключае ў сябе ўвядзенне школьнага статута 1828 г., закрыццё манаскіх навучальных установаў пасля паўстання 1830 г. і выходзіць за храналагічныя межы нашага даследвання.

Пасля апошняга падзелу Рэчы Паспалітай у расійскіх уладаў хапала клопатаў з больш, на іх погляд, істотнымі, чым асвета, праблемамі - уладкаваннем расійскай адміністрацыі, суцішэннем

[1] У дадзеным выпадку, пэўна, можна пагадзіцца з характарыстыкай, дадзенай інстытуту дзяржавы ў Расійскай імперыі Р.Пайпсам, які падкрэслівае яе дамінуючую ролю ў кіраванні ўсімі галінамі жыцця грамадства. - Пайпс Р. Россия при старом режиме. - М., 1993. - С.44-185.

[2] Літоўскі генерал-губернатар, шукаючы пунктаў сутыкнення расійскай і мясцовай сістэм асветы, звярнуўся за даведкай аб расійскай сістэме адукацыі ў Камісію па ўсталяванню народных вучылішчаў. Міністр П.В.Завадоўскі адказаў, што фактычна народныя вучылішчы даюць базавую адукацыю і прымеркаваць іх да гімназій (якімі па сваім праграмам з’яўляліся ваяводскія школы КНА) немагчыма.-Рождественский С.В. Указ.соч. - Т.1. - С.663.

канспірацый, якія ўзнікалі ў Вільні і Гродна, раздачай канфіскаваных і старасцінскіх земляў і г.д. Таму пачаткова быў абраны шлях захавання існуючай структуры навучальных установаў з падпарадкаваннем іх пільнаму нагляду ўлад і паступовым пераглядам праграм і падручнікаў. У Мінскай губерні навучальныя ўстановы разам з адукацыйнымі фундушамі былі перададзены пад нагляд управам дабрачыннасці, якім перадаваліся паіезуіцкія фундушы.[1] Для нагляду за асветай і разбору адукацыйных фундушаў у Літоўскім генерал-губернатарстве была заснавана часовая камісія пад кіраўніцтвам генерал-губернатара.[2]

Асобную ўвагу ўлад прыцягнула, у адпаведнасці з загадам імператрыцы, ГЛШ, уладкаваннем якой асабіста заняўся М.Рапнін.[3] З пад яе ведання былі выключаны ўсе правінцыяльныя школы, распрацаваны новы штат, пачалася рэвізія фундушаў. [4]

Усе прапановы і праекты, што высоўваліся літоўскім генерал-губернатарам, пачалі здзяйсняцца толькі пасля смерці Кацярыны II. Для ўладкавання, найперш, фінансавых справаў і нагляду за школамі ў Літоўскай і Слонімскай губернях замест былой часовай была ўтворана Літоўская камісія адукацыі, старшынёй якой стаў Віленскі біскуп Касакоўскі, але фактычна кіраваў ёй літоўскі губернатар М.Рапнін і яго наступнікі на гэтай пасадзе Б. Дэ Ласі, І.Горыч, М.Галеніцчаў-Кутузаў.[5]

Такім чынам, на працягу дзесяці год - з 1793 па 1803 г. на тэрыторыі Беларусі існавалі тры (улічваючы ўсход з народнымі школамі) розных сістэмы ўладкавання асветы. Па-за межамі гэтай сістэмы знаходзіліся ГЛШ, Шклоўска-Гродзенскі кадэцкі корпус (пераведзены ў Гродна ў 1800 г.[6]), школы марыявітак для жанчын і навучальныя ўстановы для святарства, яўрэйскія школы.

Рэформы 1803-1804 гг. радыкальна пасунулі справу уніфікацыі. Іх галоўнай мэтай, што дэкларавалася ў кіруючых дакумантах і праектах,

---

[1] Тое самае прапанаваў зрабіць М.Рапнін і ў падуладнай яму губерні, падпарадкаваўшы каталіцкія школы управам, але апошнія ў той час яшчэ не былі тут створаны, і прапанова не была прынята.- Там жа. С.447.

[2] Камісія займалася, галоўным чынам, інвентарызацыяй фінансавых справаў КНА, патрабаваўшы ад арэндатараў, пасесараў і іншых асоб, у руках якіх былі паіезуіцкія ўладанні, унесці ў дзяржаўны скарб запазычаныя за некалькі год грошы.- Там жа. С. 260-262.

[3] Генерал-губернатар, пазнаёміўшыся з выкладчыкамі ГЛШ і ўзроўнем выкладання, склаў аб ёй добрае ўражанне і паведаміў аб гэтым у Пецярбург.- СИРИО. - Т.16. - С.65.

[4] Рождественский С.В. Указ.соч. - С. 637.

[5] РГИА, ф. 1374, оп.3, 1800, д.2428, л.10.

[6] Брыгадзін П. Лукашэвіч А. Як шклоўскія кадэты ў Маскву трапілі// Беларуская мінуўшчына. - 1997 - № 6 - С.64.

была «асвета юнацтва і распаўсюджанне навук».[1] Апошняе, у сваю чаргу, абумоўлівалася тымі ж прычынамі, што і пераўладкаванні кацярынінскіх часоў, паколькі попыт грамадства на адукаваныя кадры так і не быў задаволены.

Ход падрыхтоўкі рэформы ў вышэйшых эшалонах улады, у тым ліку, Негалосным камітэце, асветлены ў гістарыяграфіі і не з'яўляецца прынцыпова важным для нашага даследвання за выключэннем, бадай што, аднаго моманта - удзела ў гэтым працэсе маладых польскіх сяброў Аляксандра І, найперш, А.Чартарыйскага.[2] На падставе аналізу эпісталярных крыніц, дакумантаў справаводства і тэксталагічных росшукаў даследчыкі амаль адзінагалосна падкрэсліваюць значны ўплыў спадчыны КНА на праект рэформы асветы ў Імперыі, які адбываўся пры пасярэдніцтве А.Чартарыйскага, С.Патоцкага і інш.[3] Безумоўна, расійская рэформа не была простай кампіляцыяй распрацаваных КНА форм і метадаў арганізацыі навучальнага працэса. Але ў некаторых прынцыповых момантах - пераемнасці паміж рознымі тыпамі навучальных установаў, строгай іх іерархіі, падпарадкаванні ўсёй асветы ў акругах вышэйшай школе і інш.- падабенства абедзвюх праграмаў не выклікае сумневу.

На беларускіх землях правядзенне рэформы асветы адбывалася на падставе палажэнняў, распрацаваных для Віленскай навучальнай акругі, куды ўвайшлі Віленская, Гродненская, Віцебская, Мінская, Магілёўская, Падольская, Кіеўская і Валынская губерні, і не адрознівалася такім радыкалізмам, як у іншых рэгіёнах Імперыі. Галоўнай прычынай гэтага была наяўнасць тут падмурка, закладзенага ў часы КНА.

Начале навучальнай акругі стаяў універсітэт, за дзейнасцю якога сачыў куратар, каторы з'яўляўся адначасова папячыцелем акругі. Універсітэт праз навучальныя праграмы, візітацыі і іншыя формы кіраваў гімназіямі. Дырэктар губернскай гімназіі ажыццяўляў нагляд за дзейнасцю уездных вучылішчаў, а тыя - за працай прыходскіх школ. Мелася пераемнасць у курсах навучання паміж вучылішчамі, гімназіямі

---

[1] Сборник постановлений по Министерству народного просвещения. Изд.2 - Т.1. - СПб,1875. - С.4-6.

[2] На жаль, у сваіх мемуарах будучы куратар Віленскага універсітэту апісаў гэтую падзею вельмі сцісла - Czartoryski A.J. Pamiktniki i memoriaiy polityczne. 1776-1809.- Warszawa, 1986. - S.361-362.

[3] Truchim S. Wspyipraca polsko-rosyjska nad organizacj№ szkolnictwa rosyjskiego w pocz№tkach XIX w. - Jydџ, 1960; Woioszycski R. Polsko-rosyjskie zwi№zki w naukach spoiecznych. 1801-1830. - Warszawa, 1974. - S.402-403; Beauvois D. Dz. cyt. - T.2 - S.20-21; Zasztowt L. Dz. cyt. - S.44-45; Очерки истории школы и педагогической мысли народов СССР XVIII в.-первая половина XIX в.// Под ред. О.Шибаевой - М., 1973. -С.198.

і універсітэтам. Прыходскія (парафіяльныя) школы не былі уключаны ў гэты цыкл. Да стрыжнявой лініі сістэмы асветы дадаваліся іншыя навучальныя ўстановы, разнастайныя па формам, метадам навучання, арганізацыі вучэбнага працэса і прызначэнню: пансіёны, хатняе навучанне, кадэцкія карпусы, семінарыі і інш.

У адпаведнасці з «Актам зацверджання для імператарскага універсітэта ў Вільні», ухваленым Аляксандрам I 4 красавіка 1803 г., Галоўная Літоўская Школа набыла статус універсітэта з гарантыяй ад цара «забяспечыць назаўсёды» існаванне яго на гэтых землях.[1] Універсітэт пераўтвараўся ў аўтаномную структуру, якая мела ўласныя крыніцы фінансавання на падставе адданай яму часткі паезуіцкіх фундушаў, права юрысдыкцыі ў адносінах да сваіх супрацоўнікаў, выдавецкую базу, цэнзурныя прэрагатывы, магчымасць надання навуковых ступеняў у галіне права, філасофіі, медыцыны, багаслоўя і г.д. Міністэрства асветы мела ў стасунку да універсітэта права зацверджання рашэнняў ягонага савета, кантрольныя ж функцыі пецярбургскіх чыноўнікаў былі абмежаваныя дзякуючы існуючаму інстытуту куратарства.

Напярэдадні рэформы ў Галоўнай Літоўскай школе дзейнічалі тры факультэты - медыцынскі, маральна-палітычны з аддзяленнем тэалогіі і фізіка-матэматычны.[2] Згодна са «Статутам» універсітэта да іх дадаваўся факультэт літаратуры і прыгожых мастацтваў. Пры універсітэце з 1810 г. працавала настаўніцкая семінарыя[3], меліся друкарня, кнігарня, астранамічная абсерваторыя. Найлепш забяспечанымі выкладчыцкімі кадрамі, лабараторыямі, падручнікамі і іншымі метадычнымі сродкамі былі тут медыцынскі і фізіка-матэматычны факультэты, на іх жа вучылася і асноўная маса студэнтаў. Колькасць выкладчыкаў вагалася: па падліках Л.Заштаўта за тры дзесяцігоддзі на кафедрах у Вільні пабывала 135 чалавек.[4] Большасць з іх складалі ўраджэнцы тэрыторыі былога ВКЛ. Лік студэнтаў павялічваўся на працягу першых дзвюх дзесяцігоддзяў і складаў у канцы гэтага перыяду каля 500 чалавек. Па колькасці студэнтаў Віленскі універсітэт займаў першае месца ў імперыі і знаходзіўся на адным узроўні з лепшымі еўрапейскімі вышэйшымі школамі.[5] Адметнасцю універсітэта быў высокі ўзровень выкладання, што забяспечвалася высокаадукаванымі кадрамі і добрай матэрыяльнай базай.

---

[1] ПСЗРИ.- Т.XXVII, № 20701.

[2] Забулис Г. Указ.соч.- С.28.

[3] Материалы для истории просвещения.. .- Т.2. - С. 434.

[4] Zasztowt L. Dz. cyt. - S. 47.

[5] Beauvois D. Dz. cyt. - T.1. - S.271-366.

20 жніўня 1804 г. убачыў свет праект пераўладкавання сярэдняй школы, складзены кіраўніцтвам Віленскага універсітэта пры падтрымцы польскіх асветнікаў, у тым ліку С.Сташыца і Т. Чацкага. Шлях, абраны складальнікамі праекту, можна было б акрэсліць як эвалюцыйны: большасць навучальных установаў, існуючых на тэрыторыі акругі, была пакінута, мяняліся толькі праграмы іх навучання, колькасць класаў, штат, акрэслівалася іх месца ў агульнай сістэме асветы. Згодна з планам пераўладкавання па праграмам гімназій павінны былі працаваць віленскае вучылішча пры універсітэце, гродзенскае дамініканскае, жыровіцкае базыльянскае, мінскае гарадское, віцебскае піярскае, полацкі іезуіцкі калегіюм. Універсітэт прапанаваў таксама адкрыць гімназіі ў Наваградку і Брэсце. Што ж датычыцца уездных вучылішчаў, папярэдняе жаданне размясціць іх ў кожным уездзе не магло быць ажыццяўлена з-за недахопу сродкаў. Таму, напрыклад, для Ваўкавыскага, Пружанскага і Кобрынскага уездаў прапанавана было адкрыць адно вучылішча, тое самае меркавалася зрабіць для Себежскага, Люцынскага і Копыскага уездаў.[1] Ва ўсіх вучылішчах і гімназіях, незалежна ад крыніц іх утрымання, павінны былі выкарыстоўвацца аднастайныя навучальныя праграмы і штаты.

Складзеныя планы і праграмы пераўладкавання асветы вельмі марудна і з вялікімі цяжкасцямі праводзіліся ў жыццё. Супярэчнасці гэтага працэсу бліскуча паказаў у сваей кнізе Д.Бавуа. Большасць задуманага кіраўніцтвам Віленскай навучальнай акругі ўдалося ажыццявіць толькі часткова. Найвялікшай перашкодай гэтаму быў недахоп фінансаў. За грошы, прызначаныя на ўтрыманне акругі - 105 тыс. рублеў штогод - удавалася толькі падтрымліваць існуючае становішча. Што ж датычыцца пабудовы школьных гмахаў, замены абсталявання і папаўнення бібліятэк - тут можна было разлічваць, найперш, на мецэнатаў і каталіцкія законы. Кепскі стан большасці уездных вучылішчаў, асабліва ў невялікіх дзяржаўных мястэчках, штогод адзначалі візітатары. Крыху лепшым было становішча гімназій і вучылішчаў, знаходзячыхся на ўтрыманні базыльян і каталіцкіх законаў. Многае залежала таксама ад шчодрасці мецэната, калі гімназія ці вучылішча месцілася ў прыватнаўласніцкім мястэчку.[2]

---

[1] ПСЗРИ.- Т.XXVII, № 20701.

[2] У гэтым сэнсе паказальны прыклад Свіслацскай гімназіі, адкрытай у 1805 г. В.Тышкевіч, уладальнік маентку Свіслач, прызначыў на яе фундуш у 200 тыс. злотых (каля 13, 3 тыс руб.), прадаставіў матэрыялы для будаўніцтва гмаху і штогод пастаўляў дровы для ацяплення. Апрача таго, свіслацкі мецэнат прызначаў некалькі стыпендый для немаёмасных гімназістаў і папаўняў бібліятэку гімназіі.- Potocki L. Wspomnienia o Swisioczy Tyszkiewiczowskiej, Dereczynie i Ryïanie.- Wilno, 1910. - S.148-149.

Першапачаткова вызначаная праграма стварэння вучэбных пляцовак дазнавала змены кожныя некалькі год. Прынцып « у кожнай губерні - па гімназіі, у кожным уездзе - па вучылішчу» аказаўся амаль недасяжным. Адкрываць гімназіі і вучылішча кіраўніцтва Акругі прымушана было там, дзе меўся будынак, ахвяраваны мецэнатам (Паставы, Свіслач), ці прапанаваны горадам або законам; дзе была дастатковая колькасць шляхты, дзеці якой з’яўляліся патэнцыяльнымі наведвальнікамі навучальнай установы, і г.д. Частка навучальных установаў на працягу першай чвэрці стагоддзя мяняла свой статус з-за недахопу фінансаў, з-за недабору вучняў (як гэта было, напрыклад, у Лідзе), з-за нязручнага месцапалажэння і г.д. Нягледзячы на гэта, колькасць навучальных установаў у краі павялічвалася. Грунтуючыся на матэрыялах Л.Заштаўта, на беларускіх землях Віленскай навучальнай акругі, уключаючы Вільню, Беласточчыну, Веліж і Дынабург, мелася ў канцы даследуемага перыяду 60 сярэдніх навучальных установаў розных тыпаў і прыналежнасці.[1]

Пераадоленне розніцы ў сістэме навучальных установаў усхода і захада Беларусі адбылося толькі пасля выгнання з імперыі ў 1820 г. іезуітаў і перадачы іх калегіюмаў і акадэміі іншым каталіцкім законам. Разам з тым, «унутраная» структура сістэмы не дасягнула пажаданай рэфарматарамі-асветнікамі стройнасці. Яе парушала, перад усім, наяўнасць манаскіх навучальных установаў, якія прэтэндавалі на аўтаномію ад кіраўніцтва Віленскай акругі[2], а таксама іншых адукацыйных інстытутаў, вучэбныя праграмы якіх толькі ў агульных рысах нагадвалі распрацоўкі віленскіх асветнікаў (хатняе навучанне, прыватныя пансіёны, юнкерскія школы і інш.). Цалкам па-за гэтай сістэмай засталіся шматлікія яўрэйскія школы розных тыпаў (талмуд-торы, ешыботы і г.д.).

Калі ўніфікацыя сістэмы асветы ў большасці пасоўвалася наперад, то з яе секулярызацыяй справы складаліся не так бліскуча.

Апошні год імператрыцы Кацярыны ІІ на беларускіх землях прынес святарству першыя «дывідэнты». Кіраўніцтва навучальнымі ўстановамі на большай частцы тэрыторый другога і трэццяга падзелаў было па настойліваму хадайніцтву Віленскага капітула аддадзена - пад наглядам М.Рапніна - у рукі манаству: у склад вышэй названых часовай, а затым пастаяннай камісіі ўвайшлі брат віленскага біскупа святар

[1] Zasztowt L. Dz. cyt. - S.380-383.

[2] А.Самусік указвае на адметны для Беларусі тып сярэдніх навучальных установаў - 6-класныя манаскія павятовыя вучылішчы з гімназіяльным курсам навук (8 школ на 1809 г.). - Самусік А.Указ. твор. - С.11-12. Гэтыя школы засноўваліся манаствам не зважаючы на першапачатковыя планы Віленскай навучальнай акругі, часам - як і ў папярэднім стагоддзі - самавольна.

Касакоўскі, рэктар ГЛШ эксіезуіт М.Страйноўскі, канонікі Длускі і Кантрым.[1] Найбольш адчувальны ўдар атрымаў дэклараваны асветнікамі «непарушны» прынцып свецкасці школы у гады царавання Паўла І, калі на беларускіх землях назіраўся сапраўдны «каталіцкі рэнесанс».

Прыхільнасць імператара да каталіцкіх законаў, найперш, іезуітаў, зафіксавана сучаснікамі і добра прадстаўлена ў гістарыяграфіі.[2] Патуранне імператара іезуітам, між іншым, акрэслілася не толькі ў вывядзенні каталіцкіх законаў з-пад улады каталіцкага архіепіскапа і передачы ім сталічных касцёлаў, але і ў дазволе адкрываць навіцыяты ва ўсіх месцах пражывання католікаў[3]. Апрача іншага, гэта выклікала павялічэнне колькасці навучальных установаў для падрыхтоўкі каталіцкіх святароў: да канца паўлаўскага царавання ў краі дзейнічала ўжо 5 семінарый, 30 навіцыятаў і студый.[4]

З адноўленых да 1797 г. 12 школ, што перапынілі сваю дзейнасць у часы апошніх падзелаў, засталіся свецкімі толькі школы ў Мазыры, Вільні, Слуцку, Бабруйску, астатнія ж апынуліся ў веданні каталіцкіх законаў[5]. Павал І настойліва прапанаваў каталіцкаму святарству павялічыць колькасць школ для бедных дзяцей.[6]

Асабістая пазіцыя імператара магла ўрэшце вырашыць і лес Галоўнай Літоўскай школы. У 1800 г. па ініцыятыве Г.Грубера[7] пры падтрымцы тагачаснага генерал-губернатара, будучага героя вайны 1812 г. М.Галеніщчава-Кутузава быў распрацаваны праект перадачы гэтай навучальнай установы іезуітам. З Полацка павінны былі прыехаць

---

[1] Beauvois D. Dz. cyt. - T.1. - S. 19. Безумоўна, гаварыць аб абскурантызме сяброў Камісіі немагчыма, улічваючы іх дзеянне і ў палітыцы, і ў сферы навукі, аб чым яшчэ пойдзе гаворка. Але сам факт вылучэння выключна святароў у такі прадстаўнічы ворган красамоўна сведчыць аб намерах улад.

[2] Эйдельман Н.Я. Грань веков. Политическая борьба в России.Конец XVIII-начало XIX столетия.- М.,1982. - С.56-86; Михневич Д. Указ.соч. - С.303-306; Ільяшэвіч М. Расейская палітыка на землях былага Беларуска-Літоўскага гаспадарства за панавання Кацярыны ІІ і Паўлы І. (1772-1801). - Вільня, 1933. - С.16-17; Батюшков П.Н.Белоруссия и Литва.Исторические судьбы Северо-Западного края.- Спб,1890.- С.322-324. і інш.

[3] ПСЗРИ - Т.XXVI, № № 19596,19608, 19684.

[4] Самусік А. Указ.твор. - С.11.

[5] Zasztowt L. Dz. cyt. - S.373-374; Рождественский С.В.Указ.соч. - С.637.

[6] ПСЗРИ - Т. XXVI, № 19335.

[7] Габрыель (Гаўрыіл) Грубер (1740-1805 гг) - іезуіт, архітэктар, рыхтаваўся да місіянерскай дзейнасці ў Кітаі, пасля скасавання закона знаходзіўся на Беларусі, быў загадчыкам кафедры архітэктуры, рэктарам Полацкай іезуіцкай акадэміі. У паўлаўскія часы перабраўся ў Пецярбург. З'яўляючыся гросмайстрам закону у канцы панавання Паўла І стаў адным з ягоных фаварытаў, фактычна адыгрываў ролю духоўніка імператара. Загінуў у час пажара іезуіцкага дома ў Пецярбургу.- Гранат. Энцикл.слов.- Т.17.- М.,1883. - С.183.

святары для выкладання на ўсіх факультэтах, апрача медыцынскага і астранамічнай абсерваторыі (заўважым, што апошняй займаўся эксіезуіт М.Пачобут-Адляніцкі). Статут універсітэта мусіў быць дапоўнены правіламі, існаваўшымі ў калегіюмах. Прафесары, якіх адпраўлялі ў адстаўку, маглі выкарыстаць права атрымання пенсіі[1]. Гэты праект быў ухвалены імператарам і павінен быў пачаць ажыццяўляцца з верасня 1801 г. Але раптоўная змена самаўладцы перапыніла планы іезуітаў. 11 траўня 1801 г. у загадзе, акрэсліваючым становішча іх у імперыі, Аляксандр І адмяніў рашэнне свайго папярэдніка[2].

Нязначна пахіснулі пазіцыі святарства ў сістэме асветы рэформы 1803-1804 гг.: навучальныя ўстановы, што знаходзіліся да пачатку рэформы на ўтрыманні каталіцкіх законаў і базыльян, не змянілі сваіх гаспадароў. Праўда, дэкларавалася, што яны забяспечваюць толькі фінансаванне школ, а змест навучання акрэслівае кіраўніцтва Віленскай акругі і універсітэт. Перадача часткі навучальных установаў каталіцкім законам і базыльянам аказалася, так бы мовіць, «траянскім канём»: звонку прызнаючы першынства кіраўніцтва Віленскай навучальнай акругі, настаўнікі-святары імкнуліся самастойна вызначаць падставы навучання, у тым ліку колькасць класаў, штат, методыку выкладання і г.д.[3] Яшчэ горш паводзілі сябе іезуіты. Іхнія навучальныя ўстановы, фармальна ўключаныя ў склад Віленскай навучальнай акругі, на практыцы так і засталіся аўтаномнымі, не падпарадкоўваючыся рэкамендацыям і загадам універсітэта. Кіраўнікі закона ўвесь час яго існавання ў Імперыі інтыгавалі супраць Віленскай акругі, адстойваючы сваю незалежнасць у выбары зместу і методык навучання і ўмешваючы ў гэтую справу ўлады, уключаючы Аляксандра І.[4] Пасля пераўтварэння ў 1812 г. Полацкага іезуіцкага калегіюма ў акадэмію яна зусім выйшла з-пад улады кіраўніцтва Віленскай навучальнай акругі. Амаль цалкам (народныя школы, пераўтвораныя ва ўездныя вучылішчы забяспечвалі адукацыяй не больш некалькіх дзесяткаў дзяўчын штогод[5])

---

[1] РГИА, ф. 1374, оп.3, 1800, д.2428, л.10-30.

[2] «. . . не ўводзячы іезуітаў у Віленскі універсітэт,- адзначалася ў загадзе, - пакінуць яго на былых падставах і ў існуючым добраўладкаваным становішчы».- ПСЗРИ, T.XXVI, №19865.

[3] Так, напрыклад, у піярскім вучылішчы ў Лужках курс навук замест рэкамендаваных універсітэтам чатырох год мог цягнуцца пяць ці шэсць год, паколькі класы падзелены былі на аддзяленні, для кожнага з якіх была свая праграма. Тое самае зроблена было піярамі і ў Полацку пасля перадачы ім іезуіцкага калегіюма. - Beauvois D. Dz. cyt. - T.2 - S.173-174.

[4] Ibidem. - S. 162-168. Нарысы гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі.- С.136.

штогод[1]) святарству была аддадзена публічная адукацыя жанчын, якую забяспечвалі марыявіткі і іншыя каталіцкія і базыльянскія законы. У руках святарства - да стварэння ланкастарскіх школ - знаходзілася асвета сялянства, найперш прыгоннага.

Згортванне працэсу секулярызацыі асветы, якое пазначылася ўжо на першых кроках правядзення адукацыйнай рэформы, з цягам часу станавілася ўсё больш відавочным. Сваю ролю тут адыграла змена ў настроях манарха, які ў другой палове свайго царавання ўсе больш пераходзіў на пазіцыі ахоўніцтва і схіляўся да рэлігійнасці. Перадача паіезуіцкай спадчыны не ў рукі свецкіх асветнікаў, а іншым каталіцкім законам, апрача іншага, абумоўлена была і гэтай прычынай.

Такім чынам, стварэнне свецкіх навучальных установаў хаця і дэкларавалася асветнікамі як адзін з непарушных прынцыпаў іх дзеяння, на справе адсоўвалася ў бок і пад насціскам улад, і з-за кан'юктурных, у тым ліку, палітычных і меркантыльных прычын. Савецкія даследчыкі, скрайне адмоўна ацэньваючы гэты бок рэформы, тлумачылі яго «нацыяналістычнымі і рэлігійнымі памкненнямі» аўтараў праекта.[2] Залішне катэгарычная ацэнка не пазбаўлена, аднак, пэўнага сэнсу. Захаванне навучальных установаў у руках каталіцкіх законаў, апрача «карысці для скарбу» (як тлумачылася ў праекце), падмацоўвалася жаданнем польска-літвінскіх патрыётаў начале з А.Чартарыйскім узмацніць пазіцыі каталіцызма ў далучаных да Імперыі землях. Як паказаў вопыт КНА, супрацоўніцтва каталіцкага святарства з асветнікамі пры кіруючай ролі апошніх магло прынесці дадатныя вынікі, тым больш, што выкладанне ў манаскіх установах павінна было весціся па праграмах, распрацаваных універсітэтам. Дзеля палітычных мэтаў можна было забыцца на абскурантызм ксяндзоў-саюзнікаў, ставячы выхаванне патрыятызму вышэй за асветніцкія ідэалы. Аўтары праекта ўлічылі ў дадзеным выпадку настроі мясцовага насельніцтва, найперш шляхты, каторая ў новых палітычных умовах слушна глядзела на касцёл, як на аднаго з захавальнікаў традыцый былой Рэчы Паспалітай і давярала святарству.[3]

---

[1] Так, напрыклад, сярод 18-22 вучняў, што наведвалі Чэрыкаўскае вучылішча ў 1816-1820 г., было толькі 5 дзяўчынак, з іх адна шляхцянка. - НГАБ, ф.2277, воп.1, спр. 2,3,4. Такая ж прапорцыя існавала ў ланкастарскіх школах. - НГАБ у Гродна, ф. 1, воп.1, спр. 1801.

[2] Очерки истории школы и педагогической мысли народов СССР.XVIII- первая половина XX в. - С.423.

[3]Так, напрыклад, напярэдадні рэформы народнае вучылішча ў Веліжы было перададзена місіянерам па просьбе мясцовых гараджан і шляхты, якія, як паведамлялі ўлады, больш давяралі святарам ў справе выхавання дзяцей-католікаў. - ПСЗРИ - Т. XXVIII, № 21428. У 1820 г. настойлівае хадайніцтва мясцовай шляхты

У першай чвэрці XIX ст. былі зроблены значныя крокі на шляху дэмакратызацыі асветы. У адрозненні ад часоў КНА, калі галоўны націск рабіўся на адукацыю «палітычнага народа», а вышэйшая адукацыя аказвалася амаль недасяжнай для прадстаўнікоў непрывілеяваных варстваў грамадства, цяпер прынцып агульнадасяжнасці ведаў пачынае пастуdespite пераўтварацца ў жыццё. Іншая справа, што адбывалася «дазаванне» ведаў у адпаведнасці з сацыяльным статусам вучня, яго будучай роллю ў грамадстве. Прыкметамі дэмакратызацыі асветы стала дэкларацыя агульнадасяжнасці сярэдняй і вышэйшай адукацыі, пашырэнне колькасці парафіяльных школ, з'яўленне школ узаемнага навучання (ланкастарскіх), пэўныя зрухі ў арганізацыі жаночай адукацыі. Многае тут закладвалася як патэнцыял, ці выступала ў выглядзе тэндэнцыі. Таксама, як і ў выпадку секулярызацыі, шмат якія дэмакратычныя пачынанні тармазіліся палітычнай кан'юктурай і недахопам сродкаў.

Віленскі універсітэт першапачаткова закладваўся як навучальная ўстанова, прыналежная культуры новай фармацыі, у якой няма саслоўных перагародак і ідэалагічнага кантролю царквы. Дэмакратызм у наборы студэнтаў абвяшчаўся «Актам зацверджання» Віленскага універсітэта, які высоўваў задачу адукацыі «карысных грамадзян для ўсіх станаў і радоў дзяржаўнай службы».[1] Ніякіх сацыяльных абмежаванняў статутавыя дакументы універсітэта не прадугледжвалі. Агульнадасяжнай у сацыяльным плане, згодна з дакумантамі, павінна была стаць і сярэдняя школа. Першапачаткова гэты прынцып сапраўды праводзіўся ў жыццё: пры паступленні ва універсітэт неабавязковым было прад'яўленне дакумантаў аб шляхецкім паходжанні, тое ж датычыла гімназій, а ў стасунку да уездных вучылішчаў такія дакументы цалкам былі непатрэбныя.[2] Але ўжо праз шэсць год пасля прыняцця «Акту зацверджання» і «Перадначартання»[3] распараджэнні міністэрства асветы пачынаюць пастуova ліквідаваць гэтае становішча. У 1811 г.

---

прымусіла ўрад пасля выгнання іезуітаў перадаць іх навучальныя ўстановы другім каталіцкім законам.- НГАБ, ф.1297, воп. 1, спр.253, арк. 1-2.

[1]ПСЗРИ.- Т.XXVII, № 20701.; Beauvois D. Dz. cyt. - T.1 - S.280-283.

[2]«. . . у мае часы, - піша С.Мараўскі ва ўспамінах,- у школах публічных яўрэйчык ў сурдт убраны, сын шаўца ці краўца, сын бурмістра або ратмана не толькі ў навуках пераўзыходзілі падкаморцаў і іншых панічаў, але з німі як роўныя з роўнымі ў бойках браліся за чупрыны».- Morawski S.Kilka lat miodoњci mojej w Wilnie.(1818-1825) - Warszawa, 1924 - S. 95.

[3] Поўная назва дакумента «Предначертание устроения училищ в Округе Императорского Виленского университета, сообразно с Высочайше утвержденными предварительными правилами Народного просвещения и общим Уставом того же университета и училищ его округа». - ПСЗРИ - Т. XXVIII, № 21428.

з'яўляюцца распараджэнні аб парадку вызначэння асоб на дзяржаўную службу і залічэнні на службу студэнтаў універсітэта, ставячыя права на атрыманне чына ў залежнасць ад сацыяльнага паходжання. У гэтым жа годзе Аляксандр I зацвярджае прапанову міністра асветы аб здачы ў салдаты «скарбовых выхаванцаў і студэнтаў з разначынцаў за разбэшчаныя паводзіны і важныя злачынствы».[1] Згодна з растлумачэннем міністэрства доступ у гімназію асоб нешляхецкага паходжання быў значна абмежаваны. Прыгонныя маглі вучыцца толькі з дазволу сваіх уладальнікаў, а ў дачыненні да мяшчан уведзена была квота. Нягледзячы на абурэнне кіраўніцтва універсітэта (Я.Снядэцкі некалькі разоў прасіў міністра А.К.Разумоўскага адмяніць гэтае распараджэнне), у 1814 г. пры паступленні ва універсітэт прадпісана было абавязкова прад'яўляць дакументы аб шляхецкім паходжанні. З гэтага часу ў кнігах запісу студэнтаў, дзе яны пазначалі курсы, якія жадаюць наведваць ва універсітэце, уводзіцца спецыяльная графа для азначэння сацыяльнага стану і наяўнасці адпаведных дакумантаў.[2]

На працягу першых дзвюх дзесяцігоддзяў XIX ст. найбольшую ўвагу кіраўнікоў Віленскай навучальнай акругі і міністэрства асветы прыцягвала да сябе сістэма сярэдняй і вышэйшай адукацыі. Што ж датычыцца прыходскіх школ, планы іх распаўсюджання ў той час[3] не маглі быць вельмі шырокімі. Інтарэсы прывілеяванага саслоўя, нягледзячы на дэмакратызм поглядаў многіх дзеячоў асветы, ва ўмовах існуючага прыгонніцтва і саслоўнага падзелу грамадства пераважалі над асветніцкімі ідэаламі. Каб распаўсюдзіць асвету сярод ніжэйшых станаў, трэба было, найперш, даць ім час на вучобу, гэта значыць паменьшыць ці цалкам знішчыць павіннасці. Хаця на беларускіх землях у той час былі асобы, гатовыя палегчыць стан прыгонных, але гэта былі адзінкі ў масе прыгоннікаў. Існаванне прыходскіх школ на вёсцы амаль цалкам залежала ад прыватнай паставы памешчыка. Самі сяляне, часцей за ўсё, не былі здольныя ўтрымліваць школу і дасылаць туды дзяцей, адрываючы іх ад хатніх абавязкаў. Багатыя ж мецэнаты, зразумела, жылі

---

[1] Гэтае палажэнне было, у прыватнасці, ужыта ў справе вучняў Свіслацкай гімназіі Антона Глазера і Паўла Зямковіча, закрэсліўшых слова» гасудар» у размешчаным у класным памяшканні тэксце малітвы, што чыталася перад заняткамі.- НГАБ у Гродна, ф. 1, воп. 2, спр.246, арк. 144.

[2] VUB RS, F. 2, KC. 73, KC. 74, KC. 75, KC. 76, KC. 76, KC. 77, KC. 78, KC. 79, KC. 80, KC. 81, KC. 84.

[3] Адзін з такіх планаў склаў Т. Чацкі ў 1807 г. Ён не толькі вызначаў абавязкі ксяндза, які працаваў у прыходскай школе, але таксама колькасць зямлі, якую памешчык павінен быў прызначыць для школы, грошавы фундуш і г.д. - Beauvois D. Dz. cyt. - T.2 - S.384

не ў кожнай сялянскай акрузе і не кожны з іх быў падобны на Храптовічаў ці І.Карпа.

Дзейнасць прыходскіх школ рэгламентавалася з 1804 г. «Статутам для прыходскіх вучылішчаў у губернях Валынскай, Кіеўскай і Падольскай», распаўсюджаным і на тэрыторыю Віленскай навучальнай акругі.[1] Згодна з ім гэтыя школы адкрываліся на сродкі сялян у дзяржаўных маёнтках, памешчыка - у прыватнаўласніцкіх і мяшчан - у мястэчках і гарадах. Адкрыццё іх маглі фінансаваць таксама святары, якія з'яўляліся ў іх настаўнікамі, не атрымоўваючы за гэта дадатковай платы ад дзяржавы. Прыходскія вучылішчы, не маючы, такім чынам, скарбовага фінансавання, за рэдкім выключэннем, знаходзіліся ў занядбалым стане.[2] Па звестках Д.Бавуа напярэдадні рэформы 1804 г. на тэрыторыі Віленскай навучальнай акругі знаходзілася 245 прыходскіх школ, з іх 224 - у Віленскай, Гродзенскай, Магілёўскай, Мінскай і Віцебскай губернях.[3] Колькасць іх за два дзесяцігоддзі вагалася, аднак не перавышаючы значна першапачатковай лічбы, а ў некаторыя гады нават была меньш за яе (да прыкладу, у 1819 г. было 225, а ў 1820 г. 182 школы.[4]). Улічваючы, што на тэрыторыі Беларусі ў гэты час жыло каля 3 млн. сялян і мяшчан, такая колькасць прыходскіх школ была мізэрнай.

Адкрыццё прыходскіх школ ускладнялася не толькі фінансавымі цяжкасцямі, але і недахопам настаўніцкіх кадраў[5]. Да 1820 г. спецыяльнай навучальнай установы для іх не існавала. Згодна са «Статутам» настаўнік прыходскай школы павінен быў мець адукацыю не ніжэйшую, чым курс уезднага вучылішча. На практыцы гэтае палажэнне выконвалася спарадычна. У 1820 г. пры Віленскім універсітэце пачала працаваць семінарыя для настаўнікаў прыходскіх

---

[1] Нарысы гісторыі народнай асветы... - С. 134.

[2] Для прыкладу прывядзем адно са сведчанняў сучаснікаў. Аб стане Аршанскага прыходскага вучылішча ў той час піша саборны протаіерэй Страціновіч:» месцілася яно ў адным, вельмі нязручным пакоі яўрэйскага дома, у якім раней быў гарадскі астрог, так што ў клас, што быў аддзелены ад яўрэйскай жылой горніцы адной толькі перагародкай, належыла праходзіць цераз... яўрэйскія сені, а пасля, калі яўрэй, гаспадар вышэй названага дома... не атрымаў ад Думы дамоўленай платы, закрыў яго (памяшканне - С.К-С.) і ад уваходу ў яго як вучням, так і настаўнікам адмовіў, таму.. настаўнік Цэханоўскі для працягу навучання вымушаны быў збіраць вучняў у сваёй кватэры..». - НГАБ, ф.1297, воп.1, спр.253, арк.11.

[3] Beauvois D. Dz. cyt. - T.2 - S.376.

[4] Ibidem.

[5] У 1818 г. у праекце заснавання семінарыі для прыходскіх настаўнікаў адзначалася: « утварэнне прыходскіх вучылішчаў не толькі не можа быць удасканалена, пакуль не асэнсуюцца дастатковыя сродкі для пыдрыхтоўкі настаўнікаў ўласна для такіх установ, якія бы па аднолькавым правілам маглі выхоўваць сельскую моладзь адпаведна яе стану». - LVIA, f. 567, ap. 2, b.730, lp. 23.

школ і арганістаў, у якую ў першы год быў залічаны 21 чалавек.[1] Праграма школы ахоплівала чатыры гады і ўключала пачаткі навукі і музыкі.[2] Вынікі адкрыцця семінарыі не маглі адчувальна паўплываць на стан прыходскага навучання, найперш, з-за малалікасці семінарыстаў у ёй. Толькі ў 1850-я гг., калі напярэдадні адмены прыгоннага права ўстала пытанне аб лёсах непісьменных сялян, якія ў хуткім часе павінны былі стаць паўнапраўнымі грамадзянамі, пачалося масавае адкрыццё народных школ на беларускіх землях.

Стасунак шляхты і расійскага ўрада да адукацыі дзяцей падатных саслоўяў вельмі яскрава прадстаўляе гісторыя ланкастарскіх школ. Ланкастарскія школы, а дакладней, бёль-ланкастарскія (па прозвішчах вынаходніка і папулярызатара гэтай сістэмы) ці школы ўзаемнага навучання, дазвалялі хутка павялічыць колькасць пісьменных ва ўмовах масавай непісьменнасць.[3] Зацікаўленне сістэмай Ланкастара ў кіраўніцтва Віленскага універсітэта, як паведамляе Д.Бавуа, пачалося яшчэ ў 1817 г.[4] Пасля ўдалай спробы адкрыцця першых школ узаемнага навучання пад эгідай міністэрства асветы і духоўных спраў у Пецярбургу ствараецца Таварыства ўзаемнага навучання - дабрачынная грамадская арганізацыя для збора сродкаў і папулярызацыі сістэмы Ланкастара. На заклік Таварыства падобныя арганізацыі ў 1820 г. пачалі ствараццa і на тэрыторыі Віленскай навучальнай акругі. Да гэтай справы спрычыніліся існуючыя на беларускіх землях Таварыствы дабрачыннасці, уводзячы ланкастарскую сістэму ў заснаваных імі школках для сірот і бедных.[5] Найбольш інтэнсіўна заснаванне ланкастарскіх школ ішло ў 1820-1821 гг., калі ўлады не толькі лагодна

---

[1] RSVUB, F. 2, KC 6, lp.239-240.

[2] На працягу ўсіх 4 год семінарысты пяць дзён на тыдзень мелі гадзінныя лекцыі музыкі, праходзілі геаметрыю, арыфметыку, пісьмо (польскае), чытанне, гісторыю, уводзіны ў сельскае гаспадаранне, малюнак і сістэму Ланкастара. - Ibidem, lp. 232.

[3] Звычайна адаптаванне ланкастарскай сістэмы ў Расійскай імперыі звязваюць з дзейнасцю супрацоўніка брытанскага музея Д.Герда, якога запрасіў у Гомель граф Румянцаў. (Герд Я.И.) Первая ланкастерская школа в России - Ист.вестн., 1903. - Т.94 - С.319-322.; Лухверчык В.М. Школы ўзаемнага навучання ў Беларусі.// Народная асвета, 1992, № 11. - С.75; Кузнеяева С., Філатава А. Ланкастарскія школы на Беларусі.// Настаўніцкая газета - 1992, 15 жніўня. Адначасова з гомельскай - у 1819 г. была адкрыта ланкастарская школа ў Ёханішкелях непадалек ад Шаўлеў, грошы на якую прызначыў у сваім тастаменце І.Карп.- Beauvois D. Dz. cyt. - Т.2 - S.385-386.

[4] Ibidem.

[5] У верасні 1819 г. сістэма Ланкастра была ўведзена ў віленскай школе Таварыства, у 1820 - у Наваградку і іншых гарадах. - Dzieje Dobroczynnoњсi - 1820 - №1 - S. 17.

ставіліся да гэтай ініцыятывы, але і актыўна яе падтрымлівалі.[1] Такую ж падтрымку ланкастарскаму руху аказвалі многія буйныя землеўладальнікі, якія такім чынам маглі разлічваць на хуткую падрыхтоўку пісьменнай вясковай адміністрацыі. Найбольшае распаўсюджанне атрымалі ланкастарскія школы на Гарадзеншчыне, дзе ідэі асвятлення сялянства былі цесна звязаныя з больш развітай таварнасцю панскай гаспадаркі і даўнімі традыцыямі. Але актыўная дзейнасць прыхільнікаў ланкастарскіх школ хутка сутыкнулася з амаль непераадольнымі цяжкасцямі. Школы павінны былі ўтрымлівацца за кошт грамадскіх грошаў. Фундушаў, якія збіраліся сябрамі Таварыства на гэтыя мэты, было недастаткова, а гараджане і сяляне часцей не хацелі ці не маглі сабраць адпаведную суму.[2] Найлепей былі ўладкаваны ланкастарскія школы ў маёнтку А.Храптовіча ў Шчорсах і Румянцава ў Гомелі, дзе мецэнаты не шкадавалі на іх грошаў і часу.[3] Але захапленне ланкастарскімі школамі цягнулася толькі тры гады. Ужо з пачатку іх узнікнення вакол школ узаемнага навучання распачалася паленіка, галоўным стрыжнем якой было пытанне аб неабходнасці асветы для сялянства. Урад слушна бачыў у гэтых школах небяспеку прыгонніцтву.[4] Пагромы універсітэтаў, у тым ліку Віленскага, кіраўніцтва якога акрэслівала педагагічны бок дзейнасці ланкастарскіх школ у акрузе, а таксама падзеі ў Сямёнаўскім палку, дзе хваляваўшыяся салдаты былі наведвальнікамі школ узаемнага навучання, прычыніліся і да заняпаду ланкастарскага руху на беларускіх землях. Першапачаткова міністэрствам асветы праведзена было цэнзураванне табліц, якія ўжываліся на ўроках чытання, а ў 1825 г. школы ўзаемнага навучання ўвогуле былі забаронены[5]. Ланкастарскія школы хаця і не давалі веды нават у аб'ёме пачатковай прыходскай школы, між тым маглі пры

---

[1] Да прыкладу, гродзенскі губернатар Андржэйковіч з уласных грошаў фінансаваў вучобу ў Пецярбургу дзвюх студэнтаў Віленскага універсітэту, якія затым вялі ў Гродна курсы для настаўнікаў ланкастарскіх школ. - НГАБ у Гродна, ф. 1, воп. 1, спр. 1801, арк. 45.

[2] У Брэсце, напрыклад, ніхто з мясцовых мяшчан не захацеў унесці грошы і даслаць дзяцей у школу, у Наваградку гарадскі магістрат згадзіўся вылучыць адпаведныя грошы толькі пасля пагрозы губернатара паддаць іх «экзыкуцыі», у Кобрыне гараднічы ў адказ на просьбу настаўніка дапамагчы з уладкаваннем школы палохаў яго астрогам і г.д. - Там жа., арк. 121, 142,182.

[3] «Бачыў я школу ў Вільні.- Пісаў філамат Францішак Малеўскі.- Пайшоў адтуль без вялікага ўражання, увогуле, прызнаюся, з нейкім нядобрым пачуццем, але калі я ўвайшоў у Шчорсаўскую школу, з першай хвіліны не мог прыйсці да сябе ад радасці і ўзрушэння. Калі б быў бюст Ланкастара (а будзе), пэўна бы пайшоў і шчасліва маліўся на яго..». - Korespondencja filomatyw. 1815-1823. T. 3 - Krakyw, 1913 - S. 389.

[4] Лухверчык В.А. Указ твор. - С. 77.

[5] НГАБ у Гродна, ф. 1, воп. 1, спр. 1801, арк. 216.

падтрымцы дзяржавы змяніць сітуацыю ў галіне асветы падатных саслоўяў. Але гэты шанец не быў выкарыстаны.

Прыкметай дэмакратызацыі асветы стала жаночая адукацыя, але, як і раней, яна ў значнай ступені канцэнтравалася ў руках святарства. Актыўна на гэтай глебе працуюць марыявіткі. [1] Пасля адмены забароны на іх дзейнасць на землях ВКЛ з усходу Беларусі, куды часова перабраліся марыявіткі, яны вяртаюцца ў Слуцк, Мінск, Вільню, Мазыр, Навагрудак, дзе зноў адкрываюць школы. Фундушы на адкрыццё школ і пенсіі для вучаніц ахвяруюць марыявіткам не толькі мясцовыя магнаты - Агінскі, Чайкоўскі, Валадковіч і іншыя, але і Аляксандр І.[2] Згодна са статутам закону яны абавязаліся бясплатна вучыць дзяўчынак « не зважаючы на ўзрост, стан і рэлігію». Паказальна, што насуперак дэклараванай усесаслоўнасці жаночай адукацыі, марыявіткі падзялялі сваіх вучаніц па сацыяльнаму стану, утвараючы пры школах спецыяльныя «аддзяленні адукацыі дзевак», якія рыхтавалі наймічак.

У гэты час з'яўляюцца першыя прыватныя пансіянаты для дзяўчынак, найперш, у Вільні.[3] Адкрыццё прыватных навучальных установаў было прадугледжана рэформай асветы і дакумантамі Віленскага універсітэта і Віленскай навучальнай акругі. Каб адкрыць пансіён дастаткова было здаць экзамен ва універсітэце і атрымаць дазвол мясцовых школьных улад. Па звестках Д.Бавуа, толькі ў Вільні ў 1820 г. дзейнічала 20 прыватных навучальных установаў для дзяўчынак, пераважна, шляхцянак, якія наведвалі 152 вучаніцы; тры было ў Мінску, па 1-2 пансіяната - у Полацку, Гродна і іншых буйных гарадах Беларусі.[4]

Безумоўна, трансфармацыя інстытуцыянальнай пабудовы асветы магла б пайсці больш шпарка, каб не вайна 1812 г. Яе вынікі неаднаразова ўжо прыцягвалі ўвагу гісторыкаў асветы. Падрабязны іх аналіз зроблены ў манаграфіі Д.Бавуа, піша аб іх і А.Самусік. Таму спынімся толькі на некаторых фактах, важных для нашай работы.[5]

[1] Krytka historya zgromadzenia siystr Mariae Vitae... - S.30.

[2] Імператар зацікавіўся дзейнасцю закона пасля наведвання ў 1802 г. Беларусі і ахвяраваў сестрам 4 тыс. рублёў золатам- Ibidem.

[3] А.Самусік сцвярджае, што прыватныя пансіянаты для дзяўчынак з'віліся на беларускіх зелях толькі ў 1830-я гг. - Самусік А. Ф.Згад. твор. - С.14. Аднак гэтая выснова не адпавядае рэчаіснасці.

[4] Beauvois D. Dz. cyt. - T.2 - - S.399-400.

[5] Цікавы агляд крыніц і літаратуры, што датычаць наступстваў вайны 1812 г. прадстаўлены ў працы: Смаленчук А.Дабрыян А. Вайна 1812 г. у Беларусі. Дакументы і матэрыялы.// Мінулае Гродзеншчыны. Вып.3.- Гродна, 1996. - С.14 - 41.

Спадзяванні на спрыяльныя адносіны французскіх улад да спраў культуры, якія былі ўласцівы многім з дзеячоў асветы[1], на практыцы аказаліся марнымі. У Вільні ў памяшканнях універсітэта і кватэрах прафесароў раскватаравана была французская гвардыя, пад шпіталь была забрана універсітэцкая клініка, двор і гаспадарчыя памяшканні ўжываліся як стайні і кухні.[2] Французы размясцілі свае войскі таксама ў будынку віленскай гімназіі[3], лазарэты працавалі ў гмахах віцебскай[4] і мінскай гімназій[5]. У сувязі з ваеннымі дзеяннямі значныя страты панёс адукацыйны фундуш - частка грошаў была вывезена ў тыл Імперыі,[6] частка згубілася. Усё гэта паўплывала на колькасць навучальных установаў, найперш, прыходскіх школ і вучылішчаў. Па звестках Д.Бавуа з 309 прыходскіх школ, што працавалі на беларускіх землях (уключаючы Віленскую губерню і Беластокскую вобласць) у 1811 г., на 1813 г. засталося толькі 157[7]; а колькасць вучняў паменьшылася з 10140 да 4234 чалавек.[8] У першыя паслеваенныя гады міністэрства фінансаў, спасылаючыся на значныя разбурэнні гаспадаркі, адмовіла кіраўніцтву акругі і універсітэта ў выплаце працэнтаў з прызначаных сум і дадатковага фінансавання. [9] У сувязі з гэтым аднаўленне нанесеных вайной страт зацягнулася на некалькі год.

Першая чвэрць стагоддзя, такім чынам, пазначана працягам магістральных працэсаў у пераўладкаванні сістэмы асветы - паступовай яе секулярызацыі, уніфікацыі і знясення саслоўных перагародак. Нягледзячы на часовыя адступленні ад гэтых галоўных накірункаў развіцця, у 1820 -х гг. акрэслілася ў асноўных рысах аблічча новай

---

[1] На наяўнасць такой пазіцыі указвае З.Кавалеўская - Kowalewska Z. Obrazki micskie. 1850-1863.- Wilno, 1912. - S.9; паказальным таксама з'яўляецца удзел рэктара універсітэта Я.Снядэцкага ў Часовым урадзе ВКЛ.

[2] РГИА, ф.733, оп. 62, 1812, д.219, л. 1-4.

[3] Там жа, л.3.

[4] Там жа, л.5об.

[5] Як паведамляе З.Кавалеўская, у Мінску напярэдадні прыходу французскіх войскаў будынак гімназіі быў вызвалены ад школьных прыналежнасцяў і бібліятэкі, якія былі складзены ў падвал, у гімназіі размясціўся лазарэт. Пад пастой быў таксама аддадзены так званы «зялёны дом», што належаў гімназіі. Узімку 1812 г. памерлых з-за вялікай іх колькасці не вывозілі на могілкі, а складвалі ў падвалінах гімназіі. Пасля вайны гімназію вымушаны былі перавесці ў іншае памяшканне.- Kowalewska Z. Dz.cyt. - S. 9, 13. А.Самусік адзначае, што мінская гімназія ў час вайны працягвала сваю дзейнасць, таксама, як гімназія ў Беластоку і шэраг павятовых вучылішчаў. - Самусік А. Указ.твор. - С.12.

[6] РГИА, ф.733, оп. 62, 1812, д.219, л.5-5об.

[7] Beauvois D. Dz. cyt. - T.2 - S. 376.

[8] Ibidem. - S. 401.

[9] Ibidem - S. 115-116.

сістэмы асветы, адпаведнай новаму тыпу культуры: трывалыя пазіцыі ў асвеце займаюць свецкія навучальныя ўстановы ўсіх узроўняў, ствараецца сістэма падрыхтоўкі кадраў для іх, распрацоўваецца метадычнае забеспячэнне і прававая база іх дзейнасці.

Падобна да становішча ў галіне асветы складвалася сітуацыя ў друкарскай справе. Тут, як і на пачатковым этапе Асветніцтва, працягвалася фармаванне сеткі дзяржаўных друкарняў, распачынаецца актыўная камерцыйная дзейнасць у гэтай галіне. Адметнасцю перыяду было канчатковае фармавання інстытута свецкай цэнзуры, якая ў гэты час паступова пачынае гуляць першасную ролю не толькі ў друкарстве, але наогул у духоўным жыцці грамадства.

У пачатку XIX ст. на тэрыторыі беларуска-літоўскіх губерняў дзейнічала 9 друкарняў: у Вільні універсітэтская, епархіальная (былая Гродзенская, перавезеная ў 1799г.) піярская і базыльянская; у Гродна Ясінскага, яўрэйская З.Нахімовіча[1]; мінская магістрацкая (былая базыльянская, перададзеная магістрату ў 1797 г.); полацкая іезуіцкая; магілёўская епіскапская[2]. Мовамі выданняў былі польская, іўрыт, латынь, французская, нямецкая, жмудская; па-руску друкаваліся тут падручнікі (Магілёў) і афіцыйныя матэрыялы.

Колькасць друкарняў ў першыя гады XIX ст. павялічвалася, найперш, за кошт адкрыцця прыватных прадпрыемстваў. Пальму першынства тут трымалі яўрэйскія друкары, што тлумачылася шырокім ужываннем духоўных кніг у яўрэйскім грамадстве згодна з канонамі іудаізму. У 1811 г. на беларускіх землях, уключаючы Вільню і Беластокскую вобласць, існавала 14 друкарняў, палова з іх належала яўрэям і працавала на іўрыце. З 42 друкарскіх варштатаў, што меліся ў друкарнях напярэдадні вайны 1812 г., чыннымі былі 34. (Гл. Табліцу).

Друкарні на беларускіх землях у 1811 г.[3]

| № | Месца знаход жання | Кольк. варшт. | Уладальнік | Сац. стан уладальн. | Мова выданняў (асноўн) |
|---|---|---|---|---|---|

[1] Друкарня З.Нахімовіча была адкрыта ў 1803 г. - НГАБ у Гродна, ф.1,воп.27, спр.277, арк.8. У іншых дакументах годам яе заснавання памылкова пазначаны 1808 г.- RSVUB -F2-KC 57, lp.8.
[2] Сборник материалов для истории просвещения в России, извлеченных из Архива Министерства просвещения- Т.II - СПб., 1897.- С.132-133. Я.Умецкая называе яшчэ Віцебскую губернскую друкарню, якая, па яе дадзеным, была адчынена ў 1797 г.(Віцебская губернская друкарня// Беларуская гістарычная энцыклапедыя. - Т.2 - Мн.,1994. - С.323-324.) Аднак у зводнай ведамасці, змешчанай у «Сборнике материалов..»., яна не пазначана.
[3] Табліца складзена па: ГАРФ, ф. 1165, оп. 1, д.245, лл. 1-69.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Беласток | 7(2*) | Эрбштэйн | мешчанін | іўрыт, польская |
| 2 | Вільня | 5 | базыльяне | святары | польская латынь |
| 3 | -« - | 4 | Даніловіч(Завадскі) | шляхціч | польская |
| 4 | -« - | 1 | Баруховіч(Завадскі) | мешчанін | іўрыт |
| 5 | -« - | 4 | уіверсітэт (Завадскі) | універсітэт (Завадскі) | польская латынь |
| 6 | Віцебск | 1 | губернскае праўленне | -« - | руская |
| 7 | Гродна | 2 | Нахімовіч | мешчанін | польская іўрыт |
| 8 | Копысь | 4 | Іцковіч | -« - | іўрыт |
| 9 | | 4 | Файбішовіч | - « - | іўрыт |
| 10 | Магілеў | 3(1 *) | Богуш-Сестранцевіч | святар | польская латынь руская |
| 11 | Мінск | 2 | губернскае праўленне | дзяржава | руская |
| 12 | | 1 | Гурвіч | мешчанін | іўрыт |
| 13 | Нясвіж | 1** | Хацкевіч | мешчанін | іўрыт |
| 14 | Полацк | 3 | іезуіты | святары | польская латынь руская |
| Усяго 42 (34*) | | | | | |

* працуючых ** у 1811 г.праца была спынена з-за судовага працэсу

У час вайны друкарні паменьшылі памеры сваёй дзейнасці. На жаль, пакуль мы маем у сваім распараджэнні толькі фрагментарныя звесткі аб іх лёсе ў перыяд французскай акупацыі. Вядома, што працаваў шэраг друкарняў у Вільні, ў тым ліку універсітэцкая, для патрэб мясцовых органаў самакіравання прыстасоўвалася друкарня іезуітаў у Полацку.[1] Друкарня працавала ў Мінску, дзе І.Брадоўскі выдаваў газету пад назвай «Tymczasowa gazeta Micska».[2] Пасля вайны большасць з друкарняў, што існавалі на беларускіх землях да 1812 г., працягвала сваю работу.

Буйнейшай на тэрыторыі Беларусі і Літвы была ў той час выдавецкая фірма Ю.Завадскага ў Вільні. Па звестках Р.Цыбульскага, Ю.Завадскі фактычна ў передваенны час валодаў трыма друкарнямі: універсітэтцкай, якая прададзена была яму ў крэдыт; філіялам для друку адміністратыўных дакумантаў і яўрэйскай, якую арэндаваў М.Баруховіч.[3] Яны друкавалі на адзінаццаці мовах, але асноўнай мовай выданняў была польская. Як адну з адметнасцяў інстытуцыянальнай пабудовы новай культуры ў гэты час можна, пэўна, адзначыць менавіта ўзнікненне буйных прыватных выдавецкіх фірм. Услед за Ю.Завадскім, друкарні якога ў год маглі выдаваць па 13 назваў кніг, а наклады

[1] ГАРФ, ф.1165, оп.1, д.128, лл.20-21, 67.
[2] Woioszycski R. Dz. cyt. - S.67.
[3] Cybulski R. Jyzef Zawadski - ksikgarz, drukarz, wydawca.- Warszawa, - 1972. - S.41.

некаторых з іх даходзілі да 2 тыс. асобнікаў, буйную выдавецку фірму паступова будуе друкар з Гродна З.Нахімовіч. Асаблівасцю ягонага прадпрыемства была наяўнасць словалітні, адной з найлепшых на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай. Нахімовіч, набыўшы частку варштату былой друкарні, што належала магістрату, а таксма новае абсталяванне, змог з часам адкрыць філіял сваей фірмы ў Езёрах, а затым на Украіне і ў Вільні.[1]

Кнігагандаль на беларускіх землях развіваўся ў гэты час тымі ж шляхамі, што і іншыя формы гандлю. Асноўнымі былі тры: стацыянарны (кніжныя крамы), развазны і гандаль па падпісцы цераз паштамты. Продаж кніг - пераважна, танных выданняў для народа, малітоўнікаў - ажыццяўляўся таксама на кірмашах. Стацыянарны гандаль толькі пачаў складвацца. Невялікая колькасць патэнцыяльных пакупнікоў у гарадах не пакідала прасторы для пашырэння аб’емаў кнігагандлю. Часцей за ўсё кнігі прадаваліся побач з іншымі таварамі і ў невялікім асартыменце. Развазны гандаль канцэнтраваў у сабе распаўсюджанне кніг, прызначаных для малаадукаваных варстваў грамадства - танных малітоўнікаў, падручнікаў, кніжак для дзяцей і малапісьменных. Гандаль па падпісцы, як можна меркаваць, быў распаўсюджанай формай пакупкі кніг у правінцыі. Дзеля гэтага друкаваліся каталогі кніжных крамаў і анонсы новых кніг у часопісах. Шмат кніг прывозілася з-за мяжы.

У першыя дзесяцігоддзі XIX ст. хуткімі тэмпамі пачынае развівацца перыядычны друк. Падмурак тут быў закладзены ў папярэднім стагоддзі выданнем газет. Цяпер гэтая справа набывае новы кшталт. У 1803-1806 гг. было тры перыядычных выданні - «Gazeta Litewska», «Kurier Litewski», «Tygodnik Wilecski». У 1815-1822 гг. іх было ўжо восем : « Kurier Litewski» пад рэдакцыяй А.Марціноўскага, «Tygodnik Wilecski», «Pamiktnik Magiczny Wilecski», «Wiadomoњsci Brukowe», «Pamiktnik Farmaceutyczny Wilecski», «Dziennik Wilecski», «Dzieji Dobroczynnoњsci Krajowej i Zagranicznej»[2], «Miesikcznik Poiocki».[3] Заснаванне перыядычнага выдання ў першыя дзесяцігоддзі XIX ст. не было абцяжарана такімі адміністратыўнымі абмежаваннямі, як у наступныя гады. Дастаткова было знайсці падпісчыкаў і атрымаць дазвол з Пецярбурга.

---

1 НГАБ у Гродна, ф.1,воп.27, спр.277, арк.8.
2 Cybulski R. Dz. cyt.- S.222.
3 Апошні выходзіў толькі два гады - 1918 і 1820. Падрабязны яго агляд зроблены Я.Умецкай.- Умецкая Е.С. Первый журнал дореволюционной Белоруссии// Из истории книги, библиотечного дела и библиографии в Белоруссии. - Мн., 1972. - Вып.2 - С.145

З’яўленне часопісаў змяніла ўмовы фармавання літаратурнага жыцця. Вакол найбольш папулярных з іх «Dziennika Wilecskitgo», «Tygodnika Wilecskiego», − складваецца акрэсленае кола аўтараў, якія друкуюць арыгінальныя творы і пераклады. Урэшце «Wiadomoњsci Brukowe» адразу ствараюцца для гэтых мэтаў віленскімі шубраўцамі. Часопісы становяцца месцам размяшчэння першых твораў літаратурнай крытыкі, літаратурных аглядаў, анонсаў кніг, якія павінны выйсці з друку; тут друкуюцца каталогі кнігарняў і інш. Папулярызацыя ведаў праз перыядычныя выданні стала адметным бокам навуковага жыцця краю. Да прыкладу, «Dziennik Wilecski» друкаваў на сваіх старонках парады па складанню гербарыяў, праграмы лекцый у Віленскім універсітэце, конкурсныя заданні Акадэміі Навук, навуковыя даклады і рэфераты віленскіх прафесароў, пераклады прац еўрапейскіх гісторыкаў і географаў і інш.

Кшталтаванне свецкай цэнзуры, як інстытута новай культуры, ішло адначасова з развіццём друкарства і нават часам яго апярэджвала. Менавіта цэнзура кшталтавала аблічча літаратурных твораў не толькі ў час выйсця іх з друку, але і ў час іх стварэння, абмяжоўваючы творчую лабараторыю аўтара.

У далучаных да імперыі паводле другога і трэццяга падзелу тэрыторыях расійскія ўлады ўпершыню сутыкнуліся з наяўнасцю вялікай колькасці друкарняў і вольнадумнай літаратуры, сярод якой меліся, паміж іншым, выданні антырасійскага характара. У імперыі ў гэты час не існавала разгалінаванай сістэмы цэнзурных ворганаў, не было ні заканадаўства, ні людзей, ні сродкаў, каб забяспечыць масавы перагляд маючыхся ў беларуска-літоўскіх губернях выданняў. У сувязі з гэтым Кацярына II знайшла за лепшае забараніць усё, што было надрукавана ў часы паўстання.[1] Перапынена была работа друкарняў, пачалося знішчэнне кніг, вываз каштоўных кнігазбораў і архіваў у Расію. Забарона дзейнасці друкарняў, абвешчаная Кацярынай II, павінна

---

[1] 30 кастрычніка 1794 года яна загадала літоўскаму генерал-губернатару: «Свавольнае і паўсяеместнае ў Літве друкаванне кніг, як зло, шматлікімі і яўнымі спосабамі паказанае, поўсюль дабранадзейнасць жыхароў і іх спакой парушаючае, павінна прыцягнуць адмысловую вашую ўвагу, і мы за лепшае вынаходзім, каб усе раскіданыя па Літве друкарні знойдзены і сабраны былі ў тое месца, дзе галоўнае праўленне нашае знаходзіцца, і каб для ўсіх у Літве, на ўсякай мове выдаваемых кніг, невялікіх сачыненняў і публічных паведамленняў заснавана была цэнзура, без ухвалення якой і без дазволу Галоўнага начальства нічога не друкаваць і ў народ выпускаць нельга, а належыць абавязкова знішчыць па ўсёй Літве ўсе надрукаваныя ў час закалота абуральныя акты і іншыя ўсякай назвы сачыненні і лісты».- Сборник документов, касающихся административного устройства Северо-Западного края при императрице Екатерине II (1792-1796). - С.29.

была прывесці не толькі да заняпаду культуры, але магла адчувальна закрануць іншыя важныя сферы жыцця літвінскага грамадства, найперш, судовае справаводства.[1] Ужо праз год загад аб закрыцці друкарняў быў адменены: 22 кастрычніка 1795 г. Кацярына II дазволіла адкрыць іх пры гарадскіх магістратах і іншых «присутственных местах», а таксама духоўных установах і ГЛШ. Адпаведна з гэтым загадам утвараліся цэнзуры ў сталіцах, Адэсе, Рызе і пры мытні ў Радзівілаве на захадзе Беларусі для цэнзуравання замежнай літаратуры, якая праходзіла цераз мяжу. У склад цэнзурных камітэтаў павінны былі ўвайсці тры асобы: святар па прызначэнню Сынода, чыноўнік ад Сената, і «навуковец», які прызначаўся Акадэміяй Навук, ці - у выпадку Радзівілаўскай цэнзуры - Маскоўскім універсітэтам[2]. Апошнія гады праўлення Кацярыны II, як ужо адзначалася вышэй, праходзілі пад знакам абмежавання свабоды слова, пачатак чаму быў пакладзены яшчэ ў канцы 1780-х гг. Таму дастаткова жорсткая цэнзурная палітыка ў дачыненні да навадалучаных тэрыторыяў не была чымсці экстраардынарным.

Цэнзурная палітыка Паўла I, у адрозненні ад іншых галін дзейнасці імператара, была працягам захадаў ягонай маці ў гэтай галіне, але адрознівалася яшчэ большай жорсткасцю. За пяць год паўлаўскага царавання было абвешчана больш забаронаў у галіне кніжнай справы, чым за ўсё папярэдняе трыццацігоддзе. Аб’ем друкаванай прадукцыі ў імперыі паменьшыўся амаль на трэць[3]. Для заходніх губерняў найбольш адчувальным было ўзмацненне цэнзуры замежных выданняў, якія кампенсавалі недахоп мясцовай друкаванай прадукцыі. У 1796 і 1798 гг. была абвешчана цэнзура перыёдыкі, што прывозілася з-за мяжы, якую разам з Маскоўскім і Санкт-Пецярбургскім паштамтамі павінен быў ажыццяўляць Літоўскі паштамт.[4] Адначасова абмяжоўваецца ўвоз замежных кніг. Створаныя ў часы Кацярыны II цэнзурныя камітэты былі пакінуты яе наступнікам і актыўна працавалі. У сталіцах гэтыя камітэты падпарадкоўваліся Сенату, а ў правінцыі - мясцоваму

[1] Згодна са Статутам 1588 г. усе судовыя матэрыялы - адвакацкія прамовы, судовыя рашэнні, позвы і г.д. - павінны былі распаўсюджвацца ў копіях.- Статут Вялікага княства Літоўскага. 1855 г. - Мн, 1989 - С. 155. Гэтая прававая норма няўхільна ажыццяўлялася на захадзе Беларусі і ў Літве, пры чым копіі найчасцей друкаваліся. Толькі за тры гады - з 1797 па 1799 гг.- у віленскіх і гродзенскіх друкарнях было надрукавана больш за пяцьдзесят разнастайных судовых актаў. - Белоруссия в печати XVIII столетия.- С.100-139. Такім чынам, разам з закрыццём друкарняў пад пытанне ставілася важная норма працэсуальнага права, што магло пацягнуць за сабой перагляд ўсяго заканадаўства былога ВКЛ.

[2] ПСЗРИ - Т.XXIII, № 17523.

[3] Эйдельман Н.Я.Указ.соч.-С.95-97.

[4] AGAD, Kancelaria Nowosilcowa, akt. 481, kart. 294.

начальству.[1] У 1800 г. імператар увёў дзвюхступенную цензуру айчынных выданняў і ўвогуле забараніў увоз кніг з-за мяжы.

Жорсткасць цэнзуры кампенсавалася актыўнай дзейнасцю кантрабандыстаў. Кантрабанда стала ў бліжэйшыя дзесяцігоддзі адной з важных крыніц даходаў памежных жыхароў, асабліва мясцовых яўрэяў. Змагацца з гэтым промыслам ва ўлад не было сілаў і сродкаў.[2] Плаваючы праз Нёман на прускі бок, кантрабандысты прывозілі разам з галантарэяй і іншымі таварамі кнігі, лісты і перыёдыку.

Вырашэнне лёсу друкаваных у заходніх губернях імперыі выданняў залежала, найчасцей, не толькі ад прынятых у дзяржаве цэнзурных правілаў, але і ад паставы мясцовага начальства, настрою самаго імператара, які у апошнія гады свайго панавання часта асабіста займаўся гэтымі справамі. У 1800 г., напрыклад, паўстала пытанне аб правамоцнасці друкавання ў беларуска-літоўскіх губернях календароў, якія карысталіся тут вялікай папулярнасцю. Іх цэнзурны нагляд узяў на сябе Павал І.[3] Другім прыкладам падобнага падыходу было цэнзураванне адзінага на той час у Беларусі і Літве перыядычнага выдання - «Kurjera Litewskiego», якое праводзіў асабіста Літоўскі генерал-губернатар.[4]

Першыя дні царавання Александра І прынеслі радыкальныя змены ў цэнзурную сістэму. Ужо ў пачатку сакавіка 1801 г. быў адменены загад аб забароне ўвоза з-за мяжы кніг і нот, зноў адчынены прыватныя друкарні. 9 лютага 1802 г. выдаецца указ аб скасаванні цензурных камітэтаў у партовых гарадах і на мяжы і аб перадачы цэнзуры ў правінцыі ў веданне губернатараў і дырэктараў народных вучылішчаў.[5]

---

[1] Скабичевский А.М. Указ.соч. - С.64.

[2] Аб гэтым, у прыватнасці, паведамляў Віленскі генерал-губернатар і губернатары памежных губерняў напярэдадні вайны 1812 г. - ГАРФ, ф. 1165, оп.2, д.д. 1, 240.

[3] Старшыня Акадэміі Навук барон Нікалаі патрабаваў для сваёй установы манаполіі на гэтыя выданні, спасылаючыся на наяўнасць у імперыі вялікага попыту, што выклікае спекуляцыю і пазбаўляе Акадэмію прыбыткаў. Між іншым, ён скардзіўся на дрэнны попыт календара на лацінскай мове, адмыслова выдадзенага Акадэміяй Навук для заходніх губерняў імперы, тлумачачы гэта канкурэнцыяй з боку выдаваемых у Вільні календароў на польскай мове. Павал адказаў, што з тых календароў, якія ён мае, адзін друкуецца ў Полацку іезуітамі, а два ў Вільні - астранамічны і палітычны. Пярэчанняў у імператара не выклікаў той факт, што ў апошнім з іх друкаваліся звесткі аб каралях Рэчы Паспалітай. Павел І, ухваліўшы прапанаваную баронам Нікалаі манаполію, не распаўсюдзіў яе, аднак, на заходнія губерніі. Каляндар, што выдавалі іезуіты, увогуле быў пакінуты без цэнзуры, а два апошнія імператар вырашыў» апрабіраваць» асабіста.- ПСЗРИ, т. XXVI, №19681.

[4] Kirkor A. Obrazki litewskie. - Poznac, 1874. - S. 63-64.

[5] Предтеченский А.В. Очерки общественно-политической истории России в первой четверти XIX века. - М-Л., 1957. - С.212.

Пасля адкрыцця Віленскага універсітэту сітуацыя ў галіне цэнзурнага нагляду карэнным чынам змянілася. Раздзел IX «Акта зацверджання» перадаваў універсітэту кантроль за працай усіх друкарняў у межах Акругі. Згодна §15 гэтага раздзела ў цэнзурны камітэт вучоным саветам універсітэта абіраліся чатыры прафесары-цэнзары.[1] Агульнае кіраўніцтва камітэтам ажыццяўляў куратар. У кампетэнцыю віленскай цэнзуры згодна са «Статутам універсітэта» ўваходзілі мастацкія і навуковыя выданні, перыёдыка, падручнікі.

У 1804 г. упершыню ў гісторыі Імперыі цэнзура была заканадаўча нармавана. Статут аб цэнзуры, выдадзены ў часы ліберальных пераўладкаванняў пачатку стагоддзя, аказаўся найбольш лагодным з усіх прынятых пазней у Расіі цэнзурных дакумантаў. Нягледзячы на выдаваныя ўздагон «Статуту» загады, цыркуляры і распараджэнні, якія абмяжоўвалі ягоны ліберальны дух, да сярэдзіны 1820-х гадоў цэнзурнае заканадаўства пакідала дастаткова прасторы для выдаўцоў і аўтараў.

Адпаведна Статуту 1804 г. Віленскі цэнзурны камітэт праз куратара быў падпарадкаваны міністэрству народнай асветы, але яно даволі рэдка ўмешвалася ў ягоную дзейнасць. За ўсе гады куратарства А.Чартарыйскага камітэт ніводнага разу не быў ініцыятарам гучнай палітычнай справы. Маўляў, віленскія цэнзары выконвалі, наўмысна, ці выпадкова, ролю Конрада Валенрода ў цэнзуры, абараняючы польскамоўных аўтараў (менавіта яны складалі большасць тых, хто звяртаўся ў камітэт) ад расійскіх улад. Віленская цэнзура часцей звяртала ўвагу на адпаведнасць рукапісаў нормам маралі, літаратурным правілам і канонам, іх навуковую кампетэнтнасць. Такая пазіцыя хутка выклікала насцярожанасць улад і нараканні ў бок цэнзараў.[2] Склад камітэта на працягу дваццацігоддзя неаднаразова мяняўся, што звязана было з абвінавачваннямі цэнзараў у парушэннях цэнзурных правілаў.

Напярэдадні вайны 1812 г. цэнзурная палітыка ўлад пачынае паступова станавіцца больш жорсткай. У 1807 г. замест ліберальнага

---

[1] Першымі цензарамі былі абраны прафесары Е. Снядэцкі, Багуслаўскі, Кундзіч и ксёндз Галянскі. - Beauvois D. Dz. cyt. - T. 1. - S. 164.

[2] У 1806 г. Віленскі цэнзурны камітэт атрымаў першую вымову ад улад за «политическую близорукость»: яго папракалі за пропуск у друк крытычных матэрыялаў, якія закраналі канкрэтных асоб, што было забаронена Статутам. Але галоўная памылка віленскіх цэнзараў заключалася ў дазволе перадрукоўваць у «Kurjerze Litewskim» палітычныя навіны з замежнай прэсы, якія былі забаронены для распаўсюджання ў Імперыі. Строга папярэдзіўшы цэнзараў, міністр асветы Закрэўскі загадаў рэктару праглядаць кожны нумар газеты да яе перадачы ў друк і прапанаваў Чартарыйскаму ажыццяўляць наступную цензуру гэтага выдання. - LVIA f. 721, ap. 1, b. 423, lp. 12.

П.Сперанскага начальнікам Галоўнага цэнзурнага камітэта быў прызначаны больш кансерватыўны М.Навасільцаў, які, як вядома, не любіў палякаў. На працягу пяці год віленскія цэнзары ўсе часцей станавіліся аб’ектам скаргаў МУС і мясцовага генерал-губернатара з-за іх палітычных поглядаў. У 1810 г. у выніку аднаго з такіх скандалаў віленскай прэсе прадпісана было друкаваць толькі тыя палітычныя навіны, што ўжо з’явіліся ў сталічнай прэсе.[1] Але і пасля гэтага на працягу дзвюх передваенных лет віленскі цэнзурны камітэт неаднаразова атрымліваў папярэджанні з боку ўлад за пропуск «непажаданых палітычных тэм».[2]

У 1811 г. упершыню на дзяржаўным узроўні быў створаны інстытут наступнай цэнзуры: узнікшаму за год да таго міністэрству паліцыі па прапанове міністра асветы даручана было наглядаць за пакінуўшымі друкарні кнігамі, аб’явамі, афішамі, сачыць за тэатральнымі паказамі. У сувязі з гэтым удакладнены былі кампетэнцыі Віленскага цэнзурнага камітэта і прынцыпы ягонай работы. Цяпер дзейнасць цэнзараў-прафесароў не распаўсюджвалася на навуковыя трактаты (іх разглядалі на вучоных саветах факультэтаў універсітэта); рэлігійную літаратуру (падлягала разгляду сынадальнай цэнзуры), замежныя перыядычныя выданні (імі займаліся ў Пецярбургу); кніжныя каталогі (былі ў веданні паліцыі) і г.д. Апарат цэнзуры станавіўся ўсё больш разгалінаваным і шматступенным, у яго, акрамя паліцыі, уключаны былі мясцовая адміністрацыя, Акадэмія Навук, Сынод, паштамты. У 1811 г. па прапанове міністра паліцыі Балашова быў створаны камітэт па нагляду за самой цэнзурай. Больш жорсткая цэнзурная палітыка ў гэты час абумоўлена была, як можна меркаваць, не толькі эвалюцыяй урада ад лібералізма да ахоўніцтва, але таксама павышэннем знешнепалітычнай напружанасці перад вайной 1812 г. З 1811г. на беларускіх землях міністэрства паліцыі праводзіла мэтанакіраваную і руплівую работу па высвятленню настрояў насельніцтва, выяўлення патэнцыяльных ворагаў Імперыі і прыхільнікаў Напалеона. Узмацненне цэнзурнага нагляду ішло ў адной плыні з пільным памежным і паштовым кантролем, арыштамі падазроных у шпіянажы замежных падданых і інш.

Паліцыя ажыццяўляла нагляд за зместам выданняў нават да іх надрукавання - гарантыяй лаяльнасці кнігавыдаўцы былі «пасведчанні аб добранадзейнасці», якія выдаваліся паліцыяй і без якіх нельга было адкрыць друкарню.[3]

---

[1] Ibidem, lp. 30.

[2] Beauvois D. Dz. cyt. - T. 1. - S. 166.

[3] LVIA, f. 721, ap. 1, b. 423, lp. 38.

Асобную турботу ўлад складалі выданні на іўрыце. Яўрэйскія кнігі масава друкаваліся на Беларусі, у тым ліку на вываз; увозіліся яны і з-за мяжы.[1] Прасачыць колькі і якія кнігі абрачаюцца ў яўрэйскім асяроддзі было для цэнзуры немагчыма. Віленскі генерал-губернатар двойчы - у 1815 і 1817 гг. - спрабаваў гэта зрабіць і абодва раза безвынікова.[2] Для цэзуравання яўрэйскіх кніг у 1808 г. у Віленскі цэнзурны камітэт быў прызначаны прафесар Бякю, але фактычна іх разглядаў старэйшына яўрэйскага кагалу, а ў пачатку 1820-х гг. - спецыяльны пазаштатны супрацоўнік.[3]

З канца другога дзесяцігоддзя цэнзурны нагляд паступова пачынае станавіцца ўсё больш жорсткім, што абумоўлена было ўзмацненнем рэакцыйных тэндэнцый у палітыцы ўлад. Пачатак 1820-х гг. пазначаны быў актыўнай дзейнасцю М.Навасільцава, які ўсе больш забіраў у свае рукі нагляд за друкаваным словам і асветай у Царстве Польскім, а затым і ў Віленскай навучальнай акрузе. 1821 г. можна лічыць канцом першага, найбольш ліберальнага перыяду ў фармаванні цэнзурнай сістэмы на тэрыторыі Беларусі. Цяпер ужо яна паўстае як дастаткова развітая сістэма, што мае свой разгалінаваны апарат, які аб'ядноўвае розныя па кампетэнцыі і паўнамоцтвам інстанцыі (цэнзурны камітэт, мясцовую адміністрацыю і інш.); дастаткова распрацаванае заканадаўства («Статут аб цэнзуры», разнастайныя распараджэнні, указы і цыркуляры, якія ў той час фактычна выконвалі ролю законаў, і інш.); а таксама вопыт нагляду за друкаваным словам, што мог прыдацца як падмурак для далейшага яе развіцця. Падкрэслім, што аб'ектыўна прагрэсіўны працэс - секулярызацыя цэнзуры - ва ўмовах Імперыі ў канцовым выпадку прыводзіў да адмоўных вынікаў. Друкаванае слова ўсё больш уціскiвалася ў жорсткія ідэалагічныя межы.

Такім чынам, у галіне друкаванага слова акрэсліліся з дастатковай паўнатой рысы, уласцівыя новай культуры. Амаль цалкам склаўся механізм рэгулявання друкарскай дзейнасці з боку дзяржавы, што ўключаў у сябе папярэднюю і наступную цэнзуру, паліцэйскі кантроль і г.д. У гэты час друкарства амаль цалкам пераходзіць на камерцыйныя рэйкі (камерцыйную дзейнасць вялі дзяржаўныя друкарні і архіепіскапская друкарня ў Магілёве) і ўяўляе сабой сфармаваўшыйся інстытут культуры Новага часу. Адзначым пры тым, што заходні і цэнтральны рэгіёны Беларусі па ступені развіцця камерцыйных

[1] Толькі адна купецкая фірма з Валыні ў гэты час штогод прадавала на гэтых землях кніжнай прадукцыі больш чым на 200 чырвонцаў.- Ibidem.
[2] НГАБ у Гродна, ф. 1, воп. 1, спр. 1041, арк. 1.
[3] Beauvois D. Dz. cyt. - T. 1. - S.168.

друкарняў значна пераўзыходзілі ўсход нават і праз чвэрць стагоддзя пасля апошняга падзелу Рэчы Паспалітай.

Развіццё прыгожага мастацтва, у адрозненне ад асветы і друкарства, меньш залежала ад дзяржавы, а звязана было ў большай ступені з мецэнатам і прадпрымальнай дзейнасцю саміх ягоных працаўнікоў. Падзел тэрыторыі Беларусі па прынцыпу "Усход і Захад", які акрэсліўся ў папярэднія дзесяцігоддзі, па-ранейшаму заставаўся адчувальным. Імпульс, дадзены развіццю тэатральнага мастацтва, архітэктуры, жывапісу ў другой палове XVIII ст., працягваў уздзейнічаць і выліваўся, найперш, у больш інтэнсіўнае фармаванне новай інстытуцыянальнай пабудовы гэтых галін мастацтва.

Для аналізу працэсаў, якія адбываліся ў тэатральным жыцці беларускіх земляў у першыя дзесяцігоддзі XIX ст. вялікую вагу маюць працы польскіх тэатразнаўцаў. Належыць пагадзіцца з меркаваннем, выказаным польскім даследчыкам Е.Цімашэвічам, што гісторыя тэатру гэтага перыяду, найперш тэатра ў Вільні, з'яўляецца, бадай што, адной з найбольш распрацаваных праблем польскага тэатразнаўства.[1] Услед за М.Руліkoўскім, чыя работа з'явілася яшчэ ў 1907 г., даследванні працягвалі А.Мілер,[2] С. Качыньскі[3], згаданы ўжо вышэй Е. Цімашэвіч, З.Ендрыхоўскі[4] і другія даследчыкі. Трэба таксама прыгадаць абагульняючую працу па гісторыі польскага тэатра З.Рашэўскага[5], а таксама біяграфічнае выданне «Siownik biograficzny teatru polskiego»[6], дзе надзвычай многа матэрыялаў, што датычаць гісторыі тэатральнага мастацтва на беларускіх землях. Гэтыя працы ўтрымліваюць багаты факталагічны матэрыял, але, як правіла, не злучаюць працэсы, якія назіраюцца імі ў развіцці тэатра, з агульнай карцінай культурнага жыцця Беларусі і Літвы. Беларускія даследчыкі маюць, пакуль што, не такі вялікі плён у даследванні гэтай праблемы. Работа Ул.Няфёда[7], які лічыцца пачынальнікам даследвання гісторыі тэатра першай паловы XIX ст. у беларускім тэатразнаўстве, вельмі сцісла асвятляе гэты перыяд і

---

1 Timoszewicz J. Z teki afiszyw Wilecskich. 1800-1863.// Pamiktnik teatralny - 1986. - Z.2-3 - S.221.
2 Miller A.Teatr polski i muzyka na Litwie jako straïnicy kultury Zachodu. - Wilno, 1936.
3 Kaszycski S. Uwagi o teatrze wilecskim w czasach Mickiewicza.// Prace poionistyczne- - T.XIII - Jydų, 1957.
4 Jkdrychowski Z. Aktorowie wilecscy w podryïy.// Pamiktnik teatralny - 1986 - Z.2-3 - S.207-220; Ten ïe.Budynki teatralne w Micsku Litewskim.// Pamiktnik teatralny - 1996 - Z.1-2 - S.118-128; Ten ïe. Antrepryza Jana Chelmikowskiego w Micsku Litewskim.// Notatnik teatralny. - 1996 -№12-13. - S.199-217.
5 Raszewski Z. Krytka historia teatru polskiego. - Warszawa, 1990.
6 Siownik biograficzny teatru polskiego. 1765-1965. - Warszawa, 1973.
7 Няфёд Ул..Згад.твор.

з'яўляецца не столькі навуковай манаграфіяй, сколькі падручнікам. Большай грунтоўнасцю, безумоўна, адрозніваецца першы том акадэмічнага выдання «Гісторыя беларускага тэатра», аўтары якога выкарысталі і архіўныя дакументы, і некаторыя работы польскіх даследчыкаў. [1]

У заходніх рэгіёнах Беларусі канец XVIII- першыя дзесяцігоддзі XIXст. ст. былі часам фармавання буйных антрэпрыз, складывання аб'яздной формы іх дзейнасці[2]. Тут ужо не існавала вялікіх прыгонных тэатраў, тэатральнае мастацтва ўсё больш набывала дэмакратычны характар, што адбілася як на тэатральных інстытутах, так і на рэпертуары. Нягледзячы на ваенныя завірушэнні, тэатры ў Вільні і Гродна нават у 1794-1795 гг. працягвалі працаваць. У Гродна, адтуль у Вільню ў гэты час з Варшавы перабіраецца знакаміты антрэпрынёр і акцёр Мараўскі. Тут таксама працуюць трупы Жулкеўскага і Шыманскага.[3] З 1801 г. (па іншых звестках - з 1802[4]) ў Гродна прыязджае і засноўвае пастаянную аб'яздную трупу Саламея Дзешнер[5]. Дзешнер[5]. У гэты ж час пачынае сваю працу на захадзе Беларусі антрэпрынёр М.Кажынскі, які выступаў у Гродна і на правінцыі, а з 1802 г. заснаваў буйную антрэпрызу ў Мінску[6]. На ўсход Беларусі таксама прыязджаюць з захаду некаторыя польскамоўныя трупы - Жукоўскага[7], Шыманскага-старога[8]. У адрозненні ад друкаванага слова, слова, для якога пранікненне цераз мяжу ў паўлаўскія часы станавілася праблематычным, для тэатральных калектываў гэтыя межы былі празрыстыя. Большасць труп, антрэпрынёраў і акцёраў, што працавалі на Беларусі ў той час, прыехалі сюды ўжо пасля трэцяга падзелу з прускай тэрыторыі.[9].

Бурлівае развіцце тэатральнага мастацтва ў гэты час можна тлумачыць некалькімі прычынамі. У адрозненні ад іншых галін культуры тэатр здолеў яшчэ ў папярэдні час перайсці на камерцыйныя

---

[1] Гісторыя беларускага тэатра. У 3-х т. - Т.1.

[2] Аб'яздны тэатр меў сталую базу ў губернскім цэнтры і выязджаў улетку на гастролі ў навакольныя мясцечкі і на кірмашы.

[3] Rulikowski M. Dz. cyt. - S.24-26.

[4] Ibidem. - S.31-32; Makomacka E. Afisze teatru w Grodnie z 1806 r.// Pamiktnik teatralny.-1972.-Z.2-3.- S.345.

[5] LVIA, f. 378, 1802, b. 307, lp.2.

[6] Skibicski K. Pamiktnik aktora. (1786-1858) / Oprac. I wyd. M.Rulikowski. - Warszawa, 1912. - S.31-38.

[7] Гісторыя беларускага тэатра.- Т.1. - С.212-215

[8] Rulikowski M. Dz. cyt. - S.24-26.

[9] Так, С.Дзешнер, каб сфармаваць у час распачаўшагася ўжо сезона трупу, пераманіла з-за прускай мяжы з Беластока акцёраў антрэпрызы І.Навіцкага. – LVIA, f. 378, 1802, b. 307, lp.2.

рэйкі, што дазволіла яму вытрываць у неспрыяльных умовах, нягледзячы на цэнзурны ўціск і ваенныя завірушэнні. Да гэтага далучылася таксама даўняя прыхільнасць каталіцкага сусвета да тэатральнасці, папулярнасць, якую набыло тэатральнае мастацтва ў эпоху Асветніцтва.

Вільня, якая дагэтуль станавілася тэатральнай сталіцай краю толькі калі сюды прыяжджалі варшаўскія ці замежныя трупы, набірае значэнне заканадацелькі мод у гэтай галіне мастацтва. Як буйнейшы горад заходніх губерняў Імперыі, а таксама адміністратыўная сталіца рэгіёна, ён прыцягваў да сябе ўвагу буйных антрэпрынераў. Буйная антрэпрыза несла з сабой больш разнастайны і сур’езны рэпертуар; дастатковыя ў вялікім горадзе прыбыткі ад паказаў дазвалялі мець добрыя дэкарацыі, касцюмы, рэквізіт, а таксама ўтрымліваць тэатральны будынак у добрым стане. Так, антрэпрынёр Мараўскі пасля некалькіх год трымання антрэпрызы ў Вільні меў ва ўласнасці акрамя дзвюхпавярховага дома, тэатральны будынак, бібліятэку, тэатральны гардароб, якія ацэнены былі пры продажы ў 1811 г. у 11 тыс. рублёў [1].

У канцы XVIII- першыя дзесяцігоддзі XIX стст. складваецца ў агульных рысах «механізм» дзейнасці камерцыйных тэатраў. Трупы, што выступалі на беларускіх землях у гэты час, маглі мець, за вельмі рэдкім выключэннем, адну з дзвюх формаў арганізацыі - прыватная антрэпрыза, або таварыства акцёраў. У першым выпадку антрэпрынёр выступаў прыватным прадпрымальнікам, які наймаў акцёраў за акрэсленую плату ў выглядзе грошаў («гажы») і бенефісаў. Ён забяспечваў памяшканне для выступленняў, касцюмы, дэкарацыі, спісы роляў і г.д. Ён жа абіраў і рэпертуар. Усе прыбыткі, а таксама і недастачы ў выпадку, калі тэатр «прагараў», належалі антрэпрынёру. Таварыства акцёраў ўяўляла сваеасаблівую арцель, дзе прыбыткі і ўбыткі размяркоўваліся адпаведна ўкладу кожнага з членаў трупы. Гэта, як правіла, была арганізацыя нятрывалая, якая існавала не больш, як адзін-два сезоны. У першыя дзесяцігоддзі XIX ст. яшчэ не існавала так званай біржы акцераў, яна склалася толькі ў 40-я-50-я гг., калі на кантрактавых кірмашах у Мінску і некаторых іншых гарадах антрэпрынёр мог набраць трупу. Таму дастаткова часта здараліся сваркі паміж тэатральнымі прадпрымальнікамі з нагоды «пераманьвання» здольных акцёраў. Па-ранейшаму ў тэатры практыкавалася сістэма амплуа, што склалася яшчэ ў папярэднім стагоддзі. Цяпер, праўда, яна не была такой жорсткай, асабліва ва ўмовах невялікіх правінцыяльных труп, налічваючых 10-15 акцёраў.

---

[1] Skibicski K. Dz. cyt. - S.43.

Менавіта ў першыя дзесяцігоддзі XIX ст. канчаткова складваецца практыка тэатральных сезонаў. У XVIII ст. тэатральныя паказы камерцыйных і прыгонных тэатраў наладжваліся пераважна ў часы збору сеймаў ці паседжанняў Трыбунала, а таксама ў святочныя дні. Цяпер тэатральныя сезоны мелі акрэсленыя ў часе межы: у буйных гарадах яны пачыналіся ў верасні, перапыняліся на час Вялікага паста, а затым зноў працягваліся да лета. Улетку трупы, як правіла, выяжджалі ў турнэ па навакольных мястэчках, буйных магнатскіх сядзібах, а таксама для выступленняў на кірмашах. Найбольш прывабным для гастроляў быў буйнейшы на Беларусі кірмаш у Зэльве. На працягу некалькіх год манаполіяй на гастролі ў кірмашовыя тыдні меў у гэтым мястэчку Віленскі тэатр. Аднак у 1803 г. прадпрымальная антрэпрэнерка з Гродна С.Дзешнер, дзякуючы асабістаму знаёмству з Аляксандрам І і віленскім генерал-губернатарам дабілася перадачы гэтай манаполіі сваёй трупе.[1]

Адметнасцю ўладкавання тэатральнай справы на беларускіх землях была амаль поўная адсутнасць у буйных гарадах, апрача Гродна, спецыяльных тэатральных будынкаў. У Гродна, дзякуючы таму, што закладзены ў часы А.Тызенгаўза тэатр яшчэ ў папярэднім стагоддзі быў перададзены гораду і выкарыстоўваўся ўвесь час па прызначэнню, трупы мелі неблагія ўмовы для работы. Наяўнасць тэатральнага будынка, побач з іншымі вартасцямі горада, прываблівала ў Гродна антрэпрынёраў. Некалькі сезонаў у Гродна выступалі запар дзве трупы, а каб не замінаць адна другой, антрэпрынёры С.Дзешнер і Шыманскі ўсталявалі своеасаблівы «графік» выступленняў.[2] У Вільні адначасова з залай у палацы Аскеркаў, што выкарыстоўвалася з 1789 г., для тэатральных паказаў у 1796 г. было прыстасавана памяшканне ў палацы Радзівілаў. Звонку яно было не вельмі аказалым, але змястоўным: даволі вялікая глядзельная зала мела партэр з лавамі, галерэю і тры яруса ложаў. Прыгожую заслону прывезлі сюды з прыгоннага тэатру Сапегаў у Дзярэчыне.[3] У Вільні, таксама, як і ў Гродна, маглі адначасова выступаць дзве трупы, як гэта было, напрыклад, у 1802 г., калі ў палацы Раздівілаў месціўся з трупай Мараўскі, а ў палацы Аскеркі - трупа А.Бончы-Тамашэўскага, складзеная з інжаню. [4] У Мінску ў 1801 г. да будынку губернскага вучылішча была прыбудавана невялікая тэатральная зала, якая выкарыстоўвалася для паказаў да 1806 г. Але ў сувязі з

[1] LVIA, f. 378, 1803, b.266, lp.1-2.
[2] LVIA, f. 378, 1802, b. 151, lp.2-8.
[3] Raszewski Z. - Dz. cyt.- S. 82.
[4] Skibicski K. Dz. cyt. - S.6.

«нестасоўнасцю» размяшчэння (вучні з большай ахвотай хадзілі глядзець рэпетыцыі, чым слухаць лекцыі), яна была пераўладкавана ў гімназічную аўдыторыю.[1] Праўда, час ад часу гэтае памяшканне выкарыстоўвалася для тэатральных рэпетыцый. У другіх буйных гарадах для тэатральных паказаў прыстасоўвалі больш-меньш прыдатныя залы ў прыватных дамах, а на кірмашах будавалі легкія «буданы» з дрэўна. У першыя дзесяцігоддзі XIX ст. паступова змяняе свой выгляд глядзельная зала: у партэры, дзе раней публіка стаяла, маючы магчымасць падыходзіць да ложаў, выходзіць у час паказу з зала і г.д., цяпер патроху з'яўляюцца крэслы.[2] У 1820-я гг. партэр звычайна меў ужо звыклы для сёняшняга гледача выгляд.

Тэатральнае мастацтва ў першыя дзесяцігоддзі XIX ст. фактычна ўжо сфармавала інстытуты, характэрныя для буржуазнай эпохі. Тэатр прыватнай антрэпрызы, з'яўляючыся адной з формаў буржуазнага прадпрымальніцтва, у далейшым патрабаваў толькі некаторых удасканаленняў асноўных прынцыпаў свайго функцыянавання. Прыватная антрэпрыза давала магчымасць аператыўна адгукацца на змену ідэйна-стылявых плыняў у культуры, улічваць настрой публікі. З'яўляючыся больш гнуткай формай, незалежнай ад мецэнату, яна давала магчымасць тэатральнаму мастацтву вытрываць нават у часы палітычных катаклізмаў. Аднак эканамічныя цяжкасці ўздзейнічалі на тэатр прыватнай антрэпрызы як і на любую форму буржуазнага прадпрымальніцтва, чаму прыклад далі паслеваенныя гады, калі разбурэнне гарадоў і эканамічны заняпад сталі прычынай перапынення тэатральных паказаў у большасці буйных тэатральных цэнтраў.

Музычнае мастацтва амаль не выпрацавала ў гэты час новых форм свайго функцыянавання. Пэўна, да іх належыць далучыць распаўсюджанне музычнай адукацыі, найперш, жаночай, а таксама свецкай, прадстаўленай выкладаннем музыкі ва універсітэце, гімназіях і вучылішчах. Музыка была цесна звязана з тэатрам: музычныя нумары гучалі ў антрактах, ці складалі адну з частак дывертысменту; оперы і музычныя камедыі складалі важную частку рэпертуара. Як і ў XVIII ст. працягвалася практыка канцэртных выступленняў музыкантаў-прафесіяналаў, часцей замежнага паходжання, друкаваліся афішы, водзывы аб канцэртах. Публічнымі сталі выступленні музыкантаў-аматараў, якія праводзіліся часцей з дабрачыннымі мэтамі.

Першую чвэрць XIX ст. можна было б назваць часам росквіту выяўленчага мастацтва на беларускіх землях. Вывучэнне яго развіцця ў першай палове XIX ст.у беларускім мастацтвазнаўстве звязана,

[1] Jkdrychowski Z. Budynki teatralne w Micsku Litewskim. - S.118-119.
[2] Raszewski Z. Dz. cyt.- S. 82.

найперш з іменамі М.С. Кацара і Л.М.Дробава.[1] На падставе іх работ у 1988 г. быў выдадзены адзін з тамоў «Гісторыі беларускага мастацтва», прысвечаны, між іншым, і акрэсленаму вышэй перыяду.[2] На жаль, гэтым работам уласціва адна вельмі істотная загана - у іх амаль адсутнічае навуковы апарат. Акрамя таго, паколькі яны належаць да мастацтвазнаўчых распрацовак, то выкарыстоўваюць адпаведны гэтай навуцы катэгарыяльны апарат і метадалагічны падыход, што выключае з далягляда даследвання соцыякультурныя працэсы. Больш каштоўнымі ў гэтым сэнсе з'яўляюцца працы расійскай даследчыцы І.І.Свірыды, найперш, манаграфія, прысвечаная польскаму мастацкаму жыццю першай трэці XIX ст, а таксама шэраг яе артыкулаў, дзе ўздымаецца дадзеная праблематыка.[3] Таксама, як і яе польскія калегі, якія багата зрабілі ў гэтай галіне[4], І.І.Свірыда адназначна разглядае Віленскую школу жывапісу, як адно з правінцыяльных адгалінаванняў польскага мастацкага жыцця.

У выяўленчым мастцтве, таксама як і ў тэатральным, кшталтаванне новай інстытуцыянальнай пабудовы культуры вельмі дакладна праявілася ў першыя дзесяцігоддзі XIX ст. Да іх належыць аднесці ўтварэнне першай у гісторыі культуры края свецкай навучальнай установы, дзе рыхтавалі мастакоў, скульптараў, гравёраў - аддзялення факультэта літаратуры і прыгожых мастацтваў Віленскага ўніверсітэта; першыя публічныя выставы, арганізаваныя напачатку 1820-х гг. ва універсітэце; пачатак фармавання мастацкага рынку работ прафесійных майстроў, што азначала паступовы адыход ад інстытута мецэната, уласцівага баракальнай культуры.

Ідэалагічныя падставы стварэння свецкай установы для падрыхтоўкі мастакоў і скульптараў закладзены былі на землях ВКЛ яшчэ ў другой палове XVIII ст. Асветніцтва прынесла новы погляд на функцыі і прызначэнне прыгожага мастацтва ў грамадстве, ствараючы такім чынам спрыяльную глебу для стварэння попыту на мастацкія

---

[1] Кацер М.С. Изобразительное искусство Белоруссии дооктябрьского периода. - Мн., 1969; Дробов Л.Н. Беларускія мастакі XIX стагоддзя - Мн.,1971; Ён жа. Живопись Белоруссии XIX- начала XX вв. - Мн., 1974.

[2] Гісторыя беларускага мастацтва. У 6-ці т./С.В. Марцэлеў і інш.- Т.2.- Мн., 1988.

[3] Свирида И.И. Польская художественная жизнь конца XVIII - первой трети XIX века. - М., 1978; Она же. Типы и направления национальных культурных процессов в Центральной и Юго-Восточной Европе// Культура народов Центральной и Юго-Восточной Европы XVIII - XIX вв. - М.,1990. - С.13-34; Она же. Концепции польской художественной культуры. От Просвещения к романтизму.// Концепции национальной художественной культуры народов Центральной и Юго-Восточной Европы XVIII - XIX вв. - М.1985 - С.23-54 і інш.

[4] Malarstwo polskie. Oњwiecenie, riasycyzm, romantyzm. - Warszawa,1976; Siownik artystyw polskich i obcych w Polsce dziaiaj№cych. - T. 1-6. - Wrociaw; 1971- 1996.

творы. Адным са следстваў гэтага было ўключэнне ўрокаў малюнка ў праграму сярэдніх навучальных устаноў яшчэ ў часы КНА, якое затым перанесена было ў навучальныя праграмы Віленскай акругі. Зразумела, што выкладанне малюнку патрабавала кваліфікаваных педагогаў, што таксама абумоўлівала неабходнасць стварэння прафесійнай школы.

Фармаванне Віленскай школы жывапісу распачалося з моманта запрашэння ў Вільню ў 1797 г. Ф.Смуглевіча і адкрыцця ў ГЛШ кафедры прыгожых мастацтваў пры фізіка-матэматычным факультэце. Пасля ўтварэння універсітэта яна была пераведзена на факультэт літаратуры і прыгожых мастацтваў. Галоўную ролю ў ёй адпаведна статуту універсітэта займаў клас малюнку. У яго задачы ўваходзіла не толькі падрыхтоўка прафесійных мастакоў і настаўнікаў, але і навучанне навыкам малюнку ўсіх жадаючых студэнтаў, незалежна ад абіраемага імі факультэта. Гравіравальны і скульптурны клас, як правіла, наведвалі тыя, хто бачыў у прафесіі скульптара і гравёра сродак для існавання. На працягу першых дзвюх дзесяцігоддзяў XIX ст. Віленская школа жывапісу перажывала перыяд фармавання: складваўся выкладчыцкі калектыў (прафесара жывапісу Ф. Смуглевіча ў 1811 г. змяніў Я.Рустэм; прафесара скульптуры А.Ле Бруна[1] у гэтым жа годзе ад'юнкт К.Ельскі, з 1810 г. па 1819 г. у Вільні па запрашэнню А.Чартарыйскага працаваў англійскі графік прафесар Дж.Саундэрс); распрацоўваліся праграмы выкладання; закладваўся матэрыяльны падмурак школы (мастацкія калекцыі А.Ле Бруна і Дж.Саундэрса, прыватныя ахвяраванні, пакупка карцін, зробленыя К.Ельскім мадэлі і г.д.). Нягледзячы на фармальны статус вышэйшай школы, за ўвесь час свайго існавання (скульптурны клас - да 1826, астатнія - да закрыцця універсітэта ў 1832 г.) Віленская школа жывапісу так і не стала фактычна яму адпавядаць. Для працягу вучобы студэнты мусілі ехаць або ў Пецярбургскую Акадэмію мастацтваў, або ў Еўропу. Прычыны такога становішча трэба, пэўна, шукаць у слабай матэрыяльнай базе факультэта.[2] І ўсё ж патэнцыял школы быў дастаткова моцны, хуткімі

[1] У расійскай і польскай літаратуры прозвішча гэтага выдатнага скульптара, які ў апошнія гады Рэчы Паспалітай працаваў для Станіслава Аўгуста Панятоўскага, аздабляючы варшаўскія палацы, прынята пісаць як Лябрэн (Лебрен, Lebren), аднак у дакумантах універсітэта яно фігуруе ў прыведзеным намі вырыянце. - Гл. напр. «Книгу заседаний отделения литературы и изящных искусств, писаную в 1805-1817 годах».- LVIA, f. 721, ap. 1, b. 1113.

[2] Штогод на аддзяленне прыгожых мастацтваў згодна штату Віленскага універсітэта вылучалася 500 руб. серабром. З іх на класы малюнку і жывапісу - 250 руб., 150 руб. - на клас гравёраў і 90 руб. - на скульптурны клас. Аднак, напрыклад, толькі адна карціна другараднага мастака фламандскай школы, якую наважваўся

былі тэмпы яе развіцця. У 1820/ 1821 навучальным годзе клас малюнку наведвала 48 чалавек, скульптурай займаліся 15 студэнтаў, а гравёрным майстэрствам - 5 чалавек.[1] Частка найлепшых гадаванцаў школы пераходзіла ў настаўніцкую семінарыю, каб пасля яе заканчэння працаваць у гімназіях акругі. Цераз іх, а таксама шляхам разнастайных візітацый і конкурсаў школьных малюнкаў Віленская школа жывапісу распаўсюджвала свой уплыў на навучальныя ўстановы, садзейнічаючы папулярызацыі выяўленчага мастацтва.

У гэты час практыка мастацкіх выстаў толькі пачала складвацца. Калекцыянерства, якое набыло шырокае распаўсюджанне ў папярэднім стагоддзі, пакуль мела, так бы мовіць, прыватны характар - зборы не выстаўляліся для шырокай публікі, хаця праекты стварэння агульнадасяжнага музея ўжо выспявалі ў асяроддзі адукаваных мецэнатаў[2]. Першая публічная выстава твораў жывапісу адбылася па ініцыятыве Я.Рустэма і Дж.Саундэрса ў 1820 г. - выстаўляліся работы настаўнікаў і вучняў Віленскай школы. Падзея была настолькі новай і значнай, што аб ёй з’явілася зацемка ў віленскай прэсе.[3] Аднак такая практыка не мела істотнага працягу - далейшыя выставы мелі меншы поспех і хутка сталі проста часткай навучальнага працэса.

У адрозненні ад працэсаў, якіяназіраліся ў асвеце і друкарскай справе, у выяўленчым мастацтве можна канстатаваць пачатак якасна новага этапу фрмавання яго інстытуцыянальнай пабудовы. Папярэдняе стагоддзе не пакінула ў спадчыну выяўленчаму мастацтву ні свецкіх навучальных установаў, ні практыкі публічных выставаў, ні рукапісных літаратурна-мастацкіх альбомаў, якія былі так шырока распаўсюджаны ў шляхецкіх дамах у пачатку XIX ст. Безумоўна, названыя з’явы былі яшчэ вельмі слабымі, рэпрэсіўная палітыка ўлад, як гэта паказала будучыня (закрыццё Віленскай школы жывапісу), магла перарваць іх развіццё, але само іх існаванне сведчыла аб фармаванні новай культуры і змене яе ролі ў грамадстве.

Новыя павевы адчуваліся і ў архітэктуры. Найбольш значным выдаецца тут з’яўленне інстытута губернскіх і гарадскіх архітэктараў, падпарадкаваных Дэпартаменту дзяржаўнай гаспадаркі і грамадскіх

---

Я.Рустэм купіць для фармуючайся ў той час універсітэтскай галерэі, каб было што капіраваць студэнтам, каштавала 1000 руб. серабром.- LVIA, f. 721, ap. 1, b. 241, lp.1-2.; b.721, lp.5.

[1] Ibidem, ap. 1, b.1119, lp.106-110.

[2] Гужалоўскі А.А. Вялікая Французская рэвалюцыя і ідэя Нацыянальнага музея.// Французская рэвалюцыя і лёсы свету: Мэтарыялы Міжнар. навук.-практ. канф., прысвечанай гадавіне Французскай рэвалюцыі (1789-1799 гг.) - Мн., 1999. -С.44-46.

[3] Дробов Л.Н. Живопись Белоруссии XIX- начала XX вв. - С.24-25.

забудоў Міністэрства ўнутраных спраў.[1] Дзяржава бярэ на сябе кантроль за якасцю і архітэктурным воблікам гарадской забудовы: архітэктары-чыноўнікі абавязаны былі кантраляваць рамонтныя работы скарбовых будынкаў, зацьвярджаць праекты прыватных пабудоў у гарадах, сачыць за адпаведнасцю іх патрабаванням пажарнай бяспекі і г.д. Таксама, як і ў папярэднія часы, у першыя дзесяцігоддзі XIX ст. працягваецца ўпарадкаванне гарадской забудовы, пашыраецца выкарыстанне тыпавых і паўторных праектаў.

У гэты час побач з існаваўшай ужо ў Полацкім калегіюме кафедрай архітэктуры развіваецца першая на беларускіх землях свецкая архітэктурная школа, выкладанне ў якой вялі спачатку Л.Гуцэвіч, затым М.Шульц, каторага змяніў К.Падчашынскі. Менавіта апошні заклаў найбольш трывалыя падмуркі гэтай школы ў Вільні, але росквіт ягонай дзейнасці прыпадае ўжо на больш позднія часы.

Усе галіны культуры у большай ці меньшай ступені перажылі ў канцы XVIII-пачатку XIX ст. працэс кшталтавання новых форм свайго функцыянавання. Адныя з іх (адукацыя, літаратура)працягвалі развіваць тое, што ў зародку было закладзена яшчэ ў першыя дзесяцігоддзі Асветніцтва. Іншыя (выяўленчае мастацтва, друкарства, тэатр) фармуюць новыя інстытуты ў першыя дзесяцігоддзі XIX ст. Безумоўна, пералічыць усе навацыі ў формах функцыянавання культуры немагчыма. Але нават тое нямногае, што паказана вышэй, дае падставы для дастаткова абгрунтаваных абагульненняў.

Да пачатку трэццяга дзесяцігоддзя XIX ст. на беларускіх землях сфармавалася ў агульных рысах структура культурных інстытутаў, больш прыстасаваная для патрэб грамадства буржуазнай эпохі. Найбольш радыкальныя змены перажываюць тыя галіны культуры, што давалі магчымасць для прадпрымальніцкай дзейнасці - тэатр і друкарская справа. Тут фактычна сфармаваліся формы культурнага жыцця, цалкам адпавядаючыя сацыяльным запатрабаванням буржуазнага грамадства. Больш марудна ішлі змены ў асвеце, што абумоўлена было, найперш, палітыкай ўлад у гэтай галіне. Правёўшы напачатку стагоддзя ліберальную па сваім прынцыпам рэформу асветы, урад паступова зводзіў на нішто першапачатковыя праграмы. Два дзесяцігоддзі перапрацоўвалася розніца паміж заходнім і ўсходнім варыянтамі сістэмы асветы, што па-ранейшаму выклікала разыходжанні ва ўзроўні асветленасці ўсходне- і заходнебеларускіх земляў. Не апошнюю ролю ў запаволенасці працэса перабудовы сістэмы адукацыі ігралі нацыянальныя і рэлігійныя прыхільнасці мясцовай шляхты, якія

[1] Ерошкин Н.П. История государственных учереждений дореволюционной России - М., 1983. - С.160.

спалучаліся ў адзінае ў справе каталіцкіх навучальных установаў. Палітычныя прычыны ў дадзеным выпадку «спрацавалі» супраць пастапальнага развіцца асветы па шляху яе секулярызацыі.

Менавіта тыя галіны культуры, што ў той час ужо здолелі перайсці на камерцыйныя рэйкі - тэатр, друкарская справа - лепш за іншыя адаптаваліся да змен у эканамічнай і палітычнай сітуацыі. Пэўную ролю тут, як можна меркаваць, адыграла і адносная незалежнасць іх ад дзяржавы і царквы.

Аналіз змен у інстытуцыянальнай пабудове культуры ў канцы XVIII-першыя дзесяцігоддзі XIX стст. паказвае, што працэсы, якія пачаліся яшчэ ва ўмовах Рэчы Паспалітай, не былі спыненыя, нягледзячы на змену палітычнай сітуацыі. Вектар іх развіцця - у бок пабудовы культурнага асяроддзя, уласцівага буржуазнаму грамадству, - па-ранейшаму заставаўся. Многія з'явы, што ў часы Рэчы Паспалітай мелі толькі характар тэндэнцый - камерцыйны тэатр, свецкая сістэма мастацкага навучання, журналістыка і інш. - цяпер цалкам кшталтуюць прынцыпы свайго існавання, выціскаючы на ўбочча культурнага жыцця больш архаічныя формы.

Важным паказчыкам пабудовы новага культурнага асяроддзя стала паступовае перамяшчэнне культурнага жыцця з магнацкіх сядзібаў у гарады. У часы барока менавіта магнацкія рэзідэнцыі акумулявалі на беларускіх землях лепшыя мастацкія сілы, тут была радзіма большасці навацый. Другім такім асяродкам у тыя часы былі сакральныя ўстановы - каталіцкія, базыльянскія і праваслаўныя манастыры. Цяпер буйнейшыя гарады становяцца сапраўднымі цэнтрамі культурнага жыцця не толькі ў час сеймаў і сеймікаў, як гэта было раней, а большую частку года - летам звычайна мясцовая шляхта ад'язджала ў маёнткі, каб праз некалькі месяцаў вярнуцца ў горад. Значэнне рэгіянальных культурных цэнтраў набываюць уездныя гарады і тыя мястэчкі, дзе месціліся вучылішчы і гімназіі (Свіслач).

Як і ў часы падзелаў Рэчы Паспалітай, інстытуцыянальная пабудова культурнага жыцця Беларусі «распадалася» на два акрэсленых рэгіёна, падзел на якія супадаў з мяжой 1772 г. У першыя дзесяцігоддзі розніца паміж імі пачала паступова нівеліравацца, пры чым шляхам «падцягнення» усходніх інстытутаў да тых, што існавалі на захадзе. Асабліва адчувальна гэта было ў сферы адукацыі (гімназіі) і тэатра (вандроўка на ўсход некалькіх камерцыйных труп). Але па-ранейшаму найбольш важныя і знаменальныя падзеі культурнага жыцця, у тым ліку і новыя з'явы ў інстытуцыянальнай пабудове культуры, нараджаліся ў заходнім рэгіёне (перыядычны друк, свецкая мастацкая школа, першыя кніжныя крамы і інш.). Менавіта ён, начале з Вільняй акумуляваў у сябе лепшыя культурныя сілы беларускіх земляў.

## Глава 2. Спажыўцы і ствральнікі культуры.

### Спажыўцы культурных каштоўнасцей.

Фармаванне культуры Новага часу аднім з магістральных сваіх працэсаў мела тэндэнцыю да знясення перагародак паміж субкультурамі розных сацыяльных варстваў дзеля ўтварэння адзінай соцыякультурнай прасторы. Кожная з субкультур - традыцыйная, ардадамінантная, элітарная - удзельнічалі ў гэтым працэсе з рознай ступенню інтэнсіўнасці. Навязванне сваеасаблівых культурных «мосцікаў», якія пракладваліся паміж рознымі варствамі грамадства на шляху фармавання адзінай культурнай прасторы, ішло марудна, але прасочвалася ва ўсіх галінах духоўнага жыцця.

Найвялікшую частку насельніцтва Беларусі складала сялянства. Паколькі менавіта яно ў той час з’яўляліся галоўнай прадукцыйнай сілай, «сялянскае пытанне» было стрыжнявым пытаннем эпохі. Сутнасць яго ляжала ў знаходжанні месца селяніна ў новым эканамічным і сацыяльным ладзе, які паступова пачынаў выспяваць у нетрах феадальна-прыгонніцкага грамадства. Ад часу і метаду вырашэння гэтага пытання залежаў поспех развязвання большасці астатніх набалелых праблемаў грамадскага жыцця. Сялянства патэнцыяльна магло стаць той варствай, якой дзеячы Асветніцтва, што імкнуліся да пераўладкавання грамадства на прынцыпах роўнасці, братэрства і свабоды, павінны былі несці святло асветы. Ці змаглі сяляне далучыцца да фармавання культуры Новага часу, і наколькі трывалымі і глыбокімі з’яўляліся парасткі новай культуры ў сялянскім асяроддзі? Адказ на гэтыя пытанні палягчаецца ў дадзеным выпадку выдатнай распрацаванасцю сялянскай праблематыкі ў беларускай гістарыяграфіі. Аграрная гісторыя, у адрозненні ад многіх іншых галін гістарычнай навукі, уваходзіла ў склад найбольш талераваных у савецкі час. Маюцца дзесяткі работ, якім уласцівы грунтоўнасць, салідная крыніцавая база, разнастайнасць падыходаў да вырашэння праблемы і аспектаў яе

асвятлення.[1] Падсумаваннем гэтай працы стала абагульняючая «Гісторыя сялянства Беларусі», аўтары якой прысвяцілі нашаму перыяду паўтары сотні старонак першага тома.[2] Апірышчам для разгляду сялянскай культуры другой паловы XVIII - першай чвэрці XIX стст. можа служыць адзін з раздзелаў «Гісторыі сялянства», напісаны Г.Галенчанкам. На жаль, аўтар канцэнтруецца, у большасці, на матэрыяле XVI-XVII стст., а пазднейшыя часы прадстаўляе фрагментарна.[3]

Беларусісты на працягу больш стагоддзя шмат парупіліся над вывучэннем фальклора і матэрыяльнай культуры сялян. На сёння гэты бок сялянскай культуры беларусаў вывучаны дасканала і ў дадзеным даследванні патрабуе, бадай што, толькі спасылак на прызнаныя аўтарытэты. Меньш распрацаванай выдаецца праблема сялянскай ментальнасці, што ў апошні час усё больш прыцягвае даследчыкаў.[4] Яе рэканструкцыя, аднак, не можа быць бездакорнай, паколькі для гэтага перыяду амаль не існуе пісьмовых дакумантаў асабістага паходжання,

---

1 Похилевич Д.Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы во второй половине XVIII в. - Вильнюс,1966; Мараш Я.Н. Из истории борьбы народных масс Белоруссии против экспансии католической церкви - Мн., 1969; Козловский П.Г. Крестьяне Белоруссии во второй половине XVIII - XVIII в.(по материалам магнатских вотчин)- Мн.,1969; Он же. Магнатское хозяйство Белоруссии во второй половине XVIII в. - Мн, 1974; Улащик Н.Н. Предпосылки крестьянской реформы в Литве и Западной Белоруссии- М:Наука, 1965; Чепко В.В. Классовая борьба в белорусской деревне в первой половине XIX в.- Мн.,1982; Голубеў В.Ф. Сялянскае землекарыстанне на Беларусі XVII- XVIII стст.- Мн., 1992; Анішчанка Я.К.Беларусь у часы Кацярыны II. - С.129-163.і інш.

2 Гісторыя сялянства Беларусі: У 3т. Т.1./Пад рэд. В.І.Мялешкі і інш. - Мн., 1997. - С.181-351.

3 Там жа.С.383-402

4 Спроба паказаць змены ў сялянскай свядомасці зроблена ў рабоце польскага даследчыка Ю.А.Героўскага, але яна стасуецца больш да польскіх сялян Рэчы Паспалітай. - Gierowski J.A. Dz.cyt. - S.37-41. Тое самае датычыць грунтоўнай работы польскіх гісторыкаў И.Ігнатовіча, А.Мончака, Б.Зентары и Я.Жарноўскага.- Ihnatowicz I.M№czak A.Zientara B. ?arnowski J. Spoieczecstwo polskie od X do XX wieku. - Warszawa, 1988. - S.382-403. Вывучэнне сялянскай ментальнасці ў беларускай гістарыяграфічнай традыцыі пакінута этнографам, што мае свае карэнні ў XIX ст., калі менавіта этнографы ўпершыню пачалі распрацоўку гэтай дзялянкі. Такая ж практыка склалася і ў расійскай гістарыяграфіі.(Гл.напрыкл.: Громыко.М.М.Традиционные нормы поведения и формы общения русских крестьян XIX в. - М., 1986) Змены ў светаўспрыманні польскага сялянства ў часы Асветніцтва знайшлі разгляд у рабоце расійскай даследчыцы Л.Вінаградавай, але і там яны ў большасці заснаваны на фальклорных назіраннях. - Виноградова Л.Н. Перестройка культурных стереотипов в жизни польского крестьянства в XVIII веке// Культура народов Центральной и Юго-Восточной Европы XVIII-XIX веков. - М., 1990. - С.242-251.

створаных сялянамі. Запоўніць гэтую нішу часткова могуць фальклор, афіцыйныя дакументы, статыстыка, у тым ліку, эканамічная. Задачы нашага даследвання прымушаюць абмежавацца толькі колам пытанняў, звязаных з удзелам сялянства ў фармаванні новай культуры, а таксама з уздзеяннем апошняй на іх сусвет.

Стрыжнявым пытаннем пераўладкавання культурнага побыту сялянства ў даследуемы час з'яўлялася, безумоўна, яго асвета. Гэта дыктавалася як нізкім узроўнем яго пісьменнасці, так і сутнасцю ідэалогіі Асветніцтва. Захады па ўладкаванню сялянскай адукацыі рабіліся на працягу ўсёй эпохі: парафіяльныя школы КНА, народныя вучылішчы і прыходскія школы на ўсходзе Беларусі, парафіяльныя школы Віленскай навучальнай акругі, ланкастарскія вучылішчы і г.д. Колькасць сялянскіх дзяцей, што наведвалі ўтвораныя асветнікамі школы, нават у самыя лепшыя гады не была значнай. На жаль, дакладныя падлікі тут немагчымы, паколькі размеркаванне дзяцей па саслоўнаму паходжанню ў значнай частцы школ, асабліва ў XVIII і напачатку XIX стагоддзя, не паказвалася ў справаздачах, ды і справаздачы носяць фрагментарны характар. Аднак, нават няпоўныя дадзеныя дастаткова красамоўныя. На ўсходзе Беларусі народныя вучылішчы наведвала штогод не больш за паўсотні сялянскіх дзяцей.[1] У 1826 г. у гімназіях Віленскай навучальнай акругі з 1,5 тыс. гімназістаў было толькі 57 сялян, з іх 18 атрымалі вольную ад сваіх гаспадароў, а астатнія вучыліся з дазволу памешчыка.[2] Што ж датычыцца пачатковых школ, яны, нягледзячы на параўнальна вялікую колькасць, былі малакамплектнымі (найбольш - два дзесяткі чалавек), ды і там сяляне складалі не больш паловы вучняў. Ланкастарскія школы, што мясціліся ў гарадах, у большасці збіралі ў сваіх сценах мяшчанскіх дзяцей, а сялян тут былі адзінкі.[3] Пераважна сялянскім быў склад прыватных ланкастарскіх школ Храптовіча ў Шчорсах, Румянцава ў Гомелі, Манюшкі ў Радкаўшчыне і іншых. Можна з упэўненасцю сказаць, што пачатковыя веды ў лепшыя для сялянскай асветы часы штогод атрымлівала не больш чым 1-2 тыс. сялянскіх дзяцей (уключаючы тых,

---

[1] У народных вучылішчах усходу Беларусі ў 1797 г. вучылася 415 хлопчыкаў і дзяўчынак, з іх сялянскіх дзяцей было толькі 68. - Материалы для истории просвещения в России, извлеченные из Архива Министерства народного просвещения. - Т.1 - С.139-142.

[2] LVIA, f. 721, ap.1, b.249, lp.61-64.

[3] Так, напрыклад, у Пружанах усе вучні ланкастарскай школы (11 чалавек) былі мяшчанамі, мяшчанамі былі ўсе пяць вучняў школы ў Слоніме,у Кобрыне з 24 чалавек толькі двое паходзілі з памешчыцкіх чалядні каў і г.д. - НГАБ у Гродна, ф.1, воп.1, спр.1801, арк.122,123,149,164-166,189.

што наведвалі буйныя ланкастарскія школы Храптовіча і Румянцава). Гэта была адукаваная кропля ў моры сялянскай непісьменнасці.

Веды, што атрымлівалі сялянскія дзеці ў пачатковых школах рознага тыпу, цяжка назваць нават элементарнымі: пачаткі пісьма, лічэння, катэхізіс, царкоўныя спевы, пачаткі агратэхнікі і рамяства. Такая праграма навучання абумоўлена была не столькі недахопам сродкаў на настаўнікаў, хаця і гэтая прычына была важнай. Больш істотную ролю адыгрывала эканамічнае і сацыяльнае становішча самаго сялянства. Масавы перавод на паншчыну, як адна з характэрных рысаў беларускай рэчаіснасці другой паловы XVIII-першых дзесяцігоддзяў XIX стст., павелічэнне сялянскіх павіннасцяў прымушалі рана ўключаць дзяцей у гаспадарчую дзейнасць. Для вясковага хлопца даросласць пачыналася з 12 год[1], і такім чынам вучоба заканчвалася. Нягледзячы на памкненне асветнікаў (гэта практыкавалі і Храптовічы, і М.Румянцаў, і шмат хто з віленскіх асветнікаў) прыстасаваць расклад заняткаў да рытму сельскагаспадарчых работ, цалкам пераадолець гэтае становішча яны не маглі. Дзеля гэтага, найперш, трэба было паляпшаць сялянскі дабрабыт, а значыць - адмяняць прыгон. Зразумела, што ва ўмовах, калі сяляне, па сведчанню Г.Дзяржавіна, «...не маюць хлеба і ядуць шчаўе, сныць...Самыя малыя дзеці гэтай жа стравай харчуюцца...»[2] - не магло быць размовы пра адукацыю, ці кшталтаванне таго «ідэальнага» селяніна, якога ўяўлялі сабе высакародныя асветнікі.

На беларускіх землях не бракавала асветленых філантропаў, што імкнуліся пераўладкаваць стасункі на весцы. Сярод беларуска-літвінскай шляхты, гаворачы словамі М.Улашчыка, былі не толькі эканомы-каты, але таксама паслядоўныя рэвалюцыянеры.[3]У дадзеным кантэксце гэтыя рэвалюцыянеры - тыя памешчыкі, якія імкнуліся пабудаваць сялянскае жыццё на падставе ўспрынятых імі ідэй Асветніцтва. На працягу паловы стагоддзя - з часоў дзейнасці КНА - не адзін дзесятак беларускіх шляхцічаў лічыў за асабісты абавязак палегчыць жыццё людзей, адданых лёсам ім пад уладу. Акрамя стаўшых ужо хрэстаматыйнымі прыкладаў Т.Касцюшкі і І.Карпа, што вызвалілі сваіх прыгонных, можна ўзгадаць Валерыяна Страмень-Страйноўскага, які не толькі сам вызваліў ад прыгону сваіх сялян, але настойліва заклікаў да гэтага ўсю шляхту, даказваючы большую эканамічную выгаду ад наемнай працы,[4] Д.Манюшку, які правеў парцэляцыю свайго маёнтка і надзяліў сялян

---

1 Гісторыя сялянства Беларусі. - Т.1 - С.185-186,305.
2 Цыт. па:Букчин С. «...Народ, издревле нам родной».. - С.39.
3 Улащик Н.Н. Указ.соч. - С.93.
4 О условиях помещика с крестьянами графа В.Стройновского. Перевод и предисловие В.Анастасевича. - Вильна, 1809. - С.8.

зямлей за невялікую плату і інш.[1] На заходніх землях Беларусі ідэя аб вызваленні сялян не была нязвыклай. Неаднаразова ў асяроддзі мясцовай шляхты нараджаліся праекты вырашэння гэтага пытання. Іх узнікненне было выклікана не толькі агульнай атмасферай першых дзесяцігоддзяў аляксандраўскага панавання, як гэта тлумачыць, да прыкладу, расійскі даследчык С.Міраненка,[2] але таксама традыцыямі, закладзенымі ў апошнія гады Рэчы Паспалітай, ідэалогіяй Асветніцтва, успрынятай часткай набілітэту. Да тых, хто імкнуўся знішчыць прыгон і такім чынам палепшыць становішча сялянства, належыць у якасці сялянскіх дабразычліўцаў далучыць яшчэ дзесяткі памешчыкаў, якія шчыра верылі, што сяляне патрабуюць апекі з боку асветленых уладароў і без іх проста разгубяцца ў жыцці. Апошні пункт гледжання быў вельмі распаўсюджаны сярод беларуска-літвінскіх нобіляў і дазваляў ім пагаджаць паміж сабой статус прыгонніка і свой дэклараваны гуманізм. Такія памешчыкі-філантропы імкнуліся весці сваю гаспадарку на падставе перадавых на той час метадаў, стараліся не абцяжарваць залішне сваіх прыгонных. У гэтым рэчашчы, да прыкладу, дзейнічалі на захадзе Беларусі Храптовічы і Тышкевічы, з гэтых пазіцый выступаў у сваёй праграме пашырэння парафіяльных школ біскуп Масальскі. У гэтых мэтах, апрача іншых, стваралася і Таварыства дабрачыннасці, аддзелы якога ў першыя дзесяцігоддзі XIX ст. актыўна дзейнічалі ў Вільне, Гродна, Наваградку, Слуцку, Мінску і некаторых іншых гарадах Беларусі. Менавіта з гэтага асяроддзя выходзілі пачынанні па адукацыі сялян: дапамога парафіяльным школам, заснаванне ланкастарскіх вучылішчаў, фундацыя стыпендыяў для выхадцаў з сялянскага асяроддзя і г.д. Памешчыкі-філантропы былі людзьмі сваёй эпохі і да сялянскай асветы ставіліся адпаведна з распаўсюджанымі ў той час меркаваннямі. Згодна з імі сялянская адукацыя для карысці саміх жа сялян павінна была адпавядаць іхняму стану. Ідэалогія фізіякратаў, якой захаплялася значная большасць асветнікаў, падводзіла пад гэтае меркаванне філасофскі падмурак. Менавіта гэтым у значнай ступені тлумачыцца абмежаванасць адукацыйных праграм для сялянства і ўключэнне ў курс пачатковай школы ўрокаў па агратэхніцы і рамяству.

Хапала сярод памешчыкаў беларуска-літвінскіх земляў і мясцовых салтычых, якія разбуралі сялянскую гаспадарку і здзекваліся над сялянамі. Такія паны былі звычайнай справай і ў апошнія гады Рэчы

[1] Beauvois D. Dz.cyt -T. II - S.389.
[2] Мироненко С.В.Самодержавие и реформы. Политическая борьба в России в начале XIX в. - М.,1989. - С.74-116.

Паспалітай, і ў пачатку XIX ст.[1] Пры чым імкненне выціснуць з сялян як мага болей прыбыткаў адрознівала не толькі маламаёмасных памешчыкаў і арандатараў, але часам і магнатаў.[2] Зразумела, што гэтая частка нобіляў не толькі не спрыяла асвеце сялянства, але імкнулася ёй пашкодзіць. Абурэнні цемрашальствам прыгоннікаў можна знайсці амаль у кожным рапарце візітатараў і ў часы КНА, і ў часы Віленскай навучальнай акругі.

Акрамя вышэй названых акалічнасцяў, што абмяжоўвалі распаўсюджанне асветы ў сялянскім асяроддзі, была яшчэ адна, бадай што, не меньш значная - стаўленне ўлад. Асветлены селянін, усведамляючы несправядлівасць свайго становішча, быў небяспечным для існуючага сацыяльнага ладу. Таму, менавіта, уводзіліся саслоўныя абмежаванні на набыцце сялянамі сярэдняй і вышэйшай адукацыі.

Але нават калі сялянскаму хлопцу давялося б нейкім чынам - ці пры дапамозе філантропа-памешчыка, ці іншага дабразычліўца, ці сваімі сіламі - скаштаваць святла асветы, у тагачасным грамадстве не было адпаведнай «нішы», дзе ён адчуваў бы сябе поўнавартасным грамадзянінам. Пашырэнне асветы сярод сялян мела б які-небудзь сэнс толькі ў тым выпадку, калі яны змаглі б рэалізаваць гэтыя веды ў паўсядзённым жыцці. Ва ўмовах сацыяльнага падзелу грамадства і наяўнасці прыгону іх чакаў лёс асуджанага на рэкрутчыну Паўлюка Багрыма, скончыўшага жыццё самагубствам Цітуса Бычкоўскага, прададзеных у Пецярбург сёстраў Азарэвіч ці падораных Станіславу Аўгусту прыгонных акцёраў трупы Тызенгаўза. «Дазаванне» ведаў, што практыкавалася ў вясковых школках, калі абстрагіравацца ад агульнага антыасветніцкага характару гэтай з'явы, у нейкай ступені «зберагала» селянскіх дзяцей ад гаротнага лёсу прыгоннага інтэлектуала. У лепшым

---

[1]Мноства прыкладаў такіх адносін памешчыкаў да сялян прыводзіць у сваей працы В.В.Чапко.- Чепко В.В. Классовая борьба в белорусской деревне в первой половине XIX века. - Мн.,1972.

[2] Агульна вядома жорсткае стаўленне да прыгонных Кароля Радзівіла, якога неаднаразова вінавацілі ў гэтым сучаснікі. К.Вянгерскі, адзін з найбольш таленавітых польскіх сатырыкаў нават заклікаў «прыкаваць ланцугом да сцяны» вяльможнага самадура, які «ужо 30 чалавек забіў..».- Бобрик Н.П. Польский поэт-просветитель Томаш Каетан Венгерский. 1755-1787. -М., 1981. - С.101. Улады ўзялі у апеку маёнткі Францішка Ксаверыя Агінскага, які стасаваў жорсткія і разбуральныя метады кіравання. На працягу трох няўрадлівых гадоў ён не толькі не дапамог сваім сялянам, але забраў у іх апошняе, не паклапаціўся аб запасных магазінах, нягледзячы на распараджэнне ўлад. Сяляне неаднаразова звярталіся ў ніжні суд, да губернскага начальства. Урэшце ў 1802 г. Залессе было аддадзена пад апеку пляменніку Ф.К.Агінскага - Міхалу Клеофасу Агінскаму, які быў спадчыннікам гаспадара. Рэальным уладальнікам Залесся М.К.Агінскі стаў толькі праз дзесяць год. - НГАБ у Мінску, ф.295, воп.1, спр.32, арк.1, 3, 7.

выпадку такі чалавек мог заняць нейкае месца ў вясковай адміністрацыі - у панскім маёнтку, калі гэта быў прыгонны, ці ў сялянскім самакіраванні, калі ён быў дзяржаўным селянінам. Улады свядома абмяжоўвалі доступ у дзяржаўныя ўстановы нават на ніжэйшыя пасады выхадцам з сялянскага саслоўя. [1]

Філантрапічныя захады асветленай шляхты не заўсёды лагодна ўспрымаліся не толькі ўладамі, але і самім сялянствам. Усё залежала ад асобы філантропа, а таксама ад вопыту стасункаў з панамі, які мелі самі сяляне.[2] Э.Дубянецкі на падставе назіранняў за вобразамі паноў у беларускім фальклоры акрэслівае, як адну з характэрных для беларускага менталітэту рысаў, «амбівалентнасць пачуццяў» [3]. Побач з нянавісцю і недаверам да пана-прыгонніка ў сялянскай свядомасці месцілася перакананне аб існаванні (можа быць, не ў іх ваколіцы, але недзе непадалёку) добрага пана, пана-абаронцы, шчодрага і памяркоўнага. Гэта ўяўленне падмацоўвалася наяўнасцю сапраўдных правобразаў, як у мінулым, так і ў тагачасным жыцці. Спагадлівае стаўленне сялянства да паноў-прыгоннікаў, асабліва тых, хто валодаў буйнымі спадчыннымі маёнткамі, зафіксавана сучаснікамі і адзначана даследчыкамі[4]. «Амбівалентнасць» пачуццяў у стасунку да пана-прыгонніка не была рысай выключна беларускага сялянскага менталітэту. Аб такіх жа стасунках украінскіх сялян са сваімі ўладальнікамі ў буйных латыфундыях згадвае ва ўспамінах Л.Сапега,[5] гэтую ж рысу характару ўбачыў А.Герцан у рускага прыгоннага.[6] Замацаваная на працягу стагоддзяў вера ў «добрага пана» у некаторых

---

[1] У 1810 г., да прыкладу, па загаду МВД была праведзена праверка ўстаноў мясцовай адміністрацыі ўсіх узроўняў на прадмет наяўнасці ў іх выхадцаў з падатных саслоўяў, на падставе падазрэнняў, што праз набыццё чыноў такія асобы імкнуцца пазбавіцца ад выканання павіннасцяў. У заходніх губернях, дзе ўлады разлічвалі знайсці найвялікшую колькасць такіх чыноўнікаў, іх было толькі некалькі дзесяткаў, часцей за ўсё, на пасадах кур'ераў, пісараў і іншых ніжэйшых служачых адміністрацыі.- НГАБ у Гродна, ф.2, воп.1, спр.116, арк. 1.

[2] Так, да прыкладу, заснаванне ссыпных магазінаў, што адбывалася на захадзе беларускіх земляў па ініцыятыве А.Тызенгаўза, сутыкнулася з актыўным адпорам сялян, нягледзячы на ўяўныя выгады ад гэтай навацыі. Не апошнюю ролю тут, пэўна, згуляла непапулярнасць сярод сялян асобы гродзенскага старасты, які замяніў чынш паншчынай.- Kośсiaikowski St. Dz.cyt. - T.II. - S.29-31.

[3] Дубянецкі Э. Менталітэт беларусаў:спроба гісторыка-псіхалагічнага аналізу.// Беларусіка-2. - С.195.

[4] Грицкевич А.П. Социальная борьба горожан Белоруссии XVI-XVIII вв.- Мн., 1979. - С.101.

[5] Мемуары князя Л.Сапеги.Предисл.С.Тарновского и Б.Павловского.- Пг.,1915. - С.71.

[6] Герцен А.И. Былое и думы.// Избранные сочинения. - М., 1987. - С.226-227.

буйных гаспадарках заставалася актуальнай рысай сялянскага менталітэту і ў часы Асветніцтва. Яна часам пераходзіла на новых уладароў - расійскіх вяльможаў, якім аддадзены былі былыя магнацкія землі і дзяржаўныя маёнткі. Для былых дзяржаўных сялян, падараваных расійскім саноўнікам, часцей за ўсё змянялася толькі прозвішча і месцазнаходжанне чалавека, які стаяў над арэндатарамі і эканомамі і да якога можна было апеліраваць у выпадку свавольства апошніх[1]. Але па меры ўзмацнення прыгонніцтва, як можна меркаваць, недавер да панскай ласкі ўзрастаў, што адбівалася на стаўленні сялян да асветы з панскіх рук. Гэта, пэўна, было адной з прычын таго, што сяляне з неахвотай адпускалі дзяцей у школы, адкрытыя панамі, ці з іх дапамогай мясцовым святарствам. На наяўнасць такога стаўлення сялянства да парафіяльных і ланкастарскіх школ указвае Д.Бавуа.[2] Нежаданне часткі сялянства, асабліва з бедных ваколіц, аддаваць сваіх дзяцей у парафіяльныя ці маёнткавыя школы, як ужо адзначалася, абумоўлена было таксама спецыфікай сялянскай гаспадаркі - кожныя працоўныя рукі, нават дзяцячыя, былі на ўліку, асабліва ў час напружаных сельскагаспадарчых работ. Колькасць вучняў у школах пастаянна вагалася, памяньшаючыся ў канцы навучальнага года. Беларускамоўныя сялянскія дзеці, асабліва уніяцкага, ці праваслаўнага вераспавядання не адчувалі сябе камфортна ў польскамоўным асяроддзі пачатковых школ. У рускіх жа малых народных вучылішчах сялян было нямнога, а праваслаўнае святарства не абцяжарвала сябе настаўніцтвам.

Калі ў галіне асветы яшчэ існавалі нейкія «мосцікі» паміж сялянствам і адукаванай элітай, дык усе астатнія галіны ардадамінантнай субкультуры заставаліся на ўбоччы сялянскага жыцця, толькі выпадкова паведамляючы аб сваім існаванні. Архітэктура палацаў і грамадзянскіх забудоў заставалася для яго чужой, аб чым сведчыць адсутнасць наследвання яе ўзорам у тагачаснай сялянскай забудове, хаця менавіта сялянскія рукі будавалі панскія сядзібы і вясковыя храмы. Таксама маргінальны характар мелі для сялянскай культуры прыгонны тэатр і прыдворная музыка, што стваралася прыгоннымі музыкантамі і спевакамі. Што ж датычыцца інстытутаў новай культуры - камерцыйнага тэатра, публічных канцэртаў - яны ўвогуле былі недасяжны для селяніна, зважаючы на высокі кошт квіткоў і

[1] Калі ўладаром Крычаўскага староства быў Радзівіл, сяляне не раз шукалі ў яго справядлівасці ў сваіх канфліктах з арэндатарамі і эканомамі. - Мялешка В. Лойка П. І ўзняўся люд просты - Мн.,1992. - С. 55-57. - Тую ж тактыку яны выкарысталі, змяніўшы гаспадара. Калі ў 1777 г. суседні шляхціч прадпрыняў наезд на іх зямлю, сяляне, зрабіўшы складку, адправілі дзевяць дэпутатаў да Пацёмкіна ў Пецярбург шукаць абароны. - РГАДА, ф. 248, оп.126, д.5669, л. 244.
[2] Beauvois D. Dz.cyt. -T. II. - S.406.

лакалізацыю гэтых культурных з'яў у гарадах[1]. Творы выяўленчага мастацтва, створаныя ў рэчашчы новых ідэйна-стылявых накірункаў, маглі трапіцца на вочы селяніну ў каталіцкіх храмах, але там яны, акрамя эстэтычнай функцыі, выконвалі яшчэ ролю культавых рэчаў, што адпаведна ўплывала на ўспрыняцце іх гледачом. У праваслаўных жа і уніяцкіх храмах па-ранейшаму панаваў іканапіс, у якім кананічныя традыцыі перапляталіся з уласцівай беларускай школе этнаграфічнасцю.

Г.Галенчанка асобна вылучае, як адну з асаблівасцей духоўнага жыцця сялянства, наяўнасць своеасаблівай прававой культуры.[2] Сялянства - найменш дынамічная варства насельніцтва, схільная захоўваць старадаўнія традыцыі і лад жыцця. Для XVIII-першых дзесяцігоддзяў XIX стст. цяжка гаварыць аб уяўленні сялянствам сутнасці палітычных падзей, якія адбываюцца на ягонай Бацькаўшчыне. Гэта яшчэ не «палітычны народ», нягледзячы на пашырэнне гэтага паняцця ў часы Рэчы Паспалітай,[3] далягляд «сярэднестатыстычнага» селяніна абмяжоўваўся бліжэйшай ваколіцай і не такім далёкім мястэчкам, паняцце законнасці спалучалася з паняццем даўніны («старыны»).[4] Як адзначаюць сучаснікі, ў народнай памяці ў той час замацавана было ўяўленне аб іхняй колішняй вольнасці і незалежнасці ад паноў.[5] Сялянства мела надзвычай мала магчымасці, каб выказаць

---

[1] Кошт квіткоў на тэатральныя паказы ў большасці гарадоў Беларусі на працягу першай паловы XIX ст. заставаўся амаль стабільным: месцы ў ложу каштавалі 4-6 рублёў, месцы ў крэслах - 1 - 1,5 рублёў, партэр - 75 капеек, галерэя - 15-25 капеек. - НГАБ у Гродна, ф.1, воп.1, спр.59, арк.14; НГАБ у Мінску, ф.295, воп.1, спр.728, арк. 411-412, ф.1416, воп.6, спр.956, арк.137. Такім чынам, кошт ложы, напрыклад, пераўзыходзіў памер гадавога чыншу, што выплочвалі сяляне-аброчнікі ў канцы XVIII-пачатку XIX ст., або амаль дасягаў ўзроўню дзяржаўнага падатку, што выплачваўся штогод селянінам. - Гісторыя сялянства Беларусі. - Т.1. - С.306-309.

[2] Гісторыя сялянства Беларусі. - Т.1. - С.395.

[3] Канстатацыя змены ў дзяржаўных дакумантах і публіцыстыцы апошніх гадоў Рэчы Паспалітай паняцця «народ палітычны», пад якім разумелася шляхта і магнатэрыя, на дэфініцыю «люд паспаліты», што азначала ўсіх жыхароў краіны, у тым ліку і сялян, стала ўжо класічнай у польскай гістарыяграфіі.- Bardach J. Leњnodorski B. Pietrzak M. Historja ustroju i prawa polskiego. -Warzsawa, 1994. - S.280-287. Аднак не ўсе беларускія даследчыкі схільны бачыць наяўнасць зрухаў у адносінах нобіляў да сялянства.-Анішчанка Я. Яны баяліся беларускага народа...// Беларуская мінуўшчына.- 1997, № 6. - С.26-30.

[4] Згадаем спасылку сялян гродзенскай эканоміі ў час рэформы Тызенгаўза на прывілей караля Яна Сабескага, які замяніў прыгон чыншам. - Koњciaikowski St. Dz.cyt. -T.II. - S.24.

[5] Здзіўлены пачуццём незалежнасці беларускіх сялян, Г.Дзяржавін пісаў: «...такі польскіх (г.зн. жыхароў былых зямель Рэчы Паспалітай - С.К-С.) сялян лад жыцця паходзіць, здаецца, ад старажытнай іх волі, калі вольна ім было пераходзіць ад аднаго пана да другога, што плацілі яны тады вельмі лёгкія падаткі..». - Державин

сваю волю ў рашэнні ўласнага лёсу. Спробы ўвядзення сялянскага самакіравання ў дзяржаўных уладаннях, што прадпрымаліся на беларускіх землях пасля далучэння іх да Імперыі, не стваралі якасна новую сітуацыю ў становішчы сялянства. Функцыі такіх ворганаў абмяжоўваліся, галоўным чынам, фіскам і шэрагам паліцэйскіх паўнамоцтваў, пры чым пад наглядам чыноўнікаў ці шляхты-арандатараў.[1]

Бурлівыя палітычныя падзеі другой трэці XVIII-першых дзесяцігоддзяў XIX стст. не маглі быць увогуле не заўважаны беларускім сялянствам. Яны праходзілі, так бы мовіць, цераз сялянскую гаспадарку, руйнуючы яе ваеннымі дзеяннямі, мабілізацыямі, канфіскацыямі. На ўсходзе Беларусі сялянская гаспадарка да пачатку падзелаў так і не змагла аднавіцца пасля ваенных завірушэнняў першай паловы XVIII ст. На захадзе яе руйнавалі канфедэраты і расійскія войскі.[2] Некалькі галодных гадоў у канцы стагоддзя вынішчылі сялянскае насельніцтва шэрагу уездаў на ўсходзе Беларусі. І ўсход, і захад беларускіх земляў быў разрабаваны ў час вайны 1812 г. Да гэтага дадаваліся яшчэ вынікі права прапінацыі, пакінутага за нобілямі беларускіх земляў і пасля далучэння іх да Імперыі. Нішчылася не толькі культурнае асяроддзе - разбураўся генафонд будучай нацыі.

Асаблівасці менталітэту літвінскага сялянства з найбольшай выразнасцю выявіліся ў час паўстання 1794 г. Тут упершыню сялянства пачало гуляць ролю фактара, які абодва бакі - расійскі і літвінска-польскі - імкнуліся выкарыстаць у палітычнай барацьбе. Удзел сялянства ў паўстанні не быў масавы, але дастаткова аказалы. Гэта не было паўстанне супраць прыгнёту, якое ў часы феадалізму здольна ахапіць вялікую сялянскую грамаду, аб чым у тыя часы засведчыла Каліїўшчына на Украіне. Паўстанне 1794 г. па сваім характары было нацыянальна-взвольным, патрыятычным. Як слушна адзначае Ул.Емельянчык, для беларускага селяніна ў той час былі больш важнымі сацыяльныя і рэлігійныя пытанні, а не палітычныя. «Хто б убачыў у ім

---

Г.Р. Записки об евреях.// Архив исторических и практических сведений, относящихся до России. - Кн.4 - СПб, 1862. - С.61.

[1] Анішчанка Я.К. Беларусь у часы Кацярыны ІІ. - С. 138. Расійскі даследчык М.Ярошкін назваў гэтыя ўстановы «дадатковым і бясплатным звяном да ўрадавага адміністратыўна-паліцэйскага апарата» - Ерошкин Н.П. Указ.соч. - С.132.

[2] Аб скаргах сялянства на бяскарнае рабаўніцтва расійскіх войскаў неаднаразова паведамлялася на сеймах. У час Таргавіцы для суцішэння сялянскіх бунтаў, выкліканых падвышэннем паншчыны і разбурэннем гаспадаркі чужымі салдатамі, часам прыцягваліся размешчаныя ў ВКЛ расійскія войскі, што выклікала варожую паставу насельніцтва да іх. - Końsciaikowski St. Dz.cyt.- T.I - S.87-88; Емельянчык Ул. Згад. твор. - С.9.

чалавека, запрасіў бы яго да змагання за сапраўдную волю - за тым бы і паўшоў, таго б і падтрымаў».[1] Магчыма, пры іншым павароце сітуацыі праграма Касцюшкі і ягоных адзінадумцаў па сялянскаму пытанню змагла бы здзейсніца, але ў той час Паланецкі універсал і адозвы Літоўскай Рады не маглі напрасткі дайсці да сялянства. Сяляне-касінеры траплялі ў паўстанцы па розных прычынах, не заўсёды іх удзел у паўстанні можна кваліфікаваць, як выраз патрыятызму. Гэта была і ўласцівая некаторай частцы сялянства падтрымка асобных «добрых» памешчыкаў, і магчымасць ўцякчы з прыгонніцкай вёскі, і прымусовая мабілізацыя, якая праводзілася ў час паўстання. Пэўна, не бракавала і тых, хто ўсведамляў мэты паўстання і ведаў намеры Касцюшкі і ягоных паплечнікаў-«якабінцаў» адносна сялянства. Аб наяўнасці такіх настрояў у літвінскіх сялян сведчыць замацаваўшыйся ў беларускім фальклоры вобраз Касцюшкі-сялянскага заступніка.[2]

У сялянскі сусвет у гэты час ўвайшло мноства новых паняццяў і ўяўленняў. Значная частка іх была звязана з уключэннем беларускіх земляў у склад Расійскай імперыі. Гэта былі і новыя дзяржаўныя органы, з прадстаўнікамі якіх цяпер сутыкаліся сяляне, новая судовая сістэма, новыя назвы адміністратыўных адзінак і інш. Новым ва ўяўленні ўсходнебеларускага селяніна была ўзнікшая пагроза продажу яго і ягонай сям'і другому ўладальніку без зямлі, што стала магчымым у сувязі з увядзеннем на Беларусі расійскага заканадаўства. У Рэчы Паспалітай фармальна гэта было дазволена, але практыкавалася надзвычай рэдка, што павінны былі прызнаць і расійскія ўлады.[3]Да 1775 г. вёўся масавы продаж за межы Беларусі пераважна тых сялян, якія калісці збеглі сюды з Расіі і асталяваліся ў мясцовых памешчыкаў. Прадавалі не толькі на вываз для пасялення ў вёсцы, але таксама ў залік за рэкруцкія квітанцыі памешчыкам і нават сялянскім грамадам расійскіх губерняў. Хаця сяляне-беларусы рэдка траплялі ў склад праданых без зямлі, прэцыдэнт быў створаны, што безумоўна зафіксавана было ў сялянскай свядомасці, знайшло ўвасабленне ў фальклоры. Ва ўмовах Расійскай імперыі сяляне адчувалі сябе меньш абароненымі ад усяўладдзя сваіх паноў, чым гэта было ў межах Рэчы Паспалітай. Такое становішча было абумоўлена распаўсюджаннем на беларускую шляхту правоў расійскага дваранства. Навіной для бларускага селяніна была рэкрутчына, уведзеная фармальна ў 1794 г.[4]

[1] Там жа. - С.123.
[2] Fiedorowski M. Lud bialoruski na Rusi Litewskiej. - T.3 - Krakyw, 1903. - S.10-11.
[3] Белоруссия в эпоху феодализма. - Т.III - С.50.
[4] Указам ад 7 верасня 1794 г. абвяшчаўся набор рэкрутаў з беларускіх губерняў у егерскія карпусы з дваццацігадовым тэрмінам службы.- ПСЗРИ - Собр.I - Т. XXIII - СПб, 1830 - № 17249. 15 верасня гэтага ж года расійскім памешчыкам, атрымаўшым

Рэкрутчына таксама знайшла свой адбітак у сялянскім фальклоры. Рэкруцкія песні, невядомыя раней беларускаму селяніну, цяпер трывала ўваходзяць у побыт.[1] Нязвыклай была магчымасць прымусовага перасялення ў расійскія маёнткі новага пана, дзе беларускага селяніна чакала іншамоўнае асяроддзе , іншы побытавы лад і іншая культура.[2]

Замкнёны сялянскі сусвет пастулова разбураўся дзякуючы адыходніцтву, неабходнасці плаціць падушавы падатак звонкай манетай, што прымушала выходзіць на рынак, ростам маёнткавых мануфактур, на якіх працавалі прыгонныя. Але пакуль на вёсцы пераважала натуральная гаспадарка, новыя эканамічныя павевы не маглі кардынальна змяніць склаўшыйся лад жыцця і сялянскую ментальнасць.

Найважнейшую ролю ў сялянскім сусвеце адыгрывала рэлігія. Канфесійнае самавызначэнне ляжала ў аснове этнічнага самавызначэння асобы, царква ці касцёл былі месцамі грамадскага жыцця, асяродкамі, дзе селянін мог сустрэцца з праявамі розных галін культуры; святар, асабліва каталіцкі ці ўніяцкі, часцей за ўсё быў адзінай на ваколіцу адукаванай і асветленай (у параўнанні з селянінам) асобай. На хрысціянстве, «разбаўленым» даўнейшымі паганскімі традыцыямі і звычаямі, будавалася фактычна ўся традыцыйная беларуская культура[3]. Больш таго, канфесійная прыналежнасць акрэслівала не толькі побытавыя асаблівасці, але і вытворчы працэс - тут сваю ролю адыгрывалі рэлігійныя святы. Важнае значэнне для фармавання традыцыйнай сялянскай культуры на беларускіх землях мела розніца ў канфесійнай прыналежнасці сялянства дзвюх рэгіёнаў - на ўсходзе пераважвалі ўніяты і праваслаўныя; на захадзе - уніяты і каталікі[4].

---

землі на Беларусі, было дазволена здаваць беларускіх сялян у залік за рэкрутаў іх велікарускіх маёнткаў.- Там жа.- № 17268.

[1] Па акрэсленню ўлад, некаторыя з гэтых песняў былі напісаны «у дёрзкіх выразах на конт урада». - НГАБ у Гродна, ф.1, воп.27, спр.549, арк. 2.

[2] Перасяленне ў расійскія маенткі, напрыклад, практыкаваў у стасунку да сваіх беларускіх прыгонных Г.Дзяржавін.- Букчин С.Указ.соч. - С.30-31.

[3] Конан Ул. Архетыпы беларускага менталітэту:спроба рэканструкцыі паводле нацыянальнай міфалогіі і казачнага эпасу// Беларусіка -2. - С.22-28.

[4] Такое ўяўленне аб канфесійным размеркаванні насельніцтва Беларусі падмацоўваецца больш-меньш дакладнымі статыстычнымі выкладкамі толькі для сярэдзіны XIX ст. Большасць аўтараў зыходзяцца на такім меркаванні або па рэтраспектыўных развагах, або зыходзячы са звестак аб наяўнасці парафій і канфесійных асяродкаў.- Koibik W. Koњсioiy Wschodnie na ziemiach dawnej Rzeczypospolitej:1772-1914 - Lublin,1980; Litak S.Struktura terytoryalna Koњсioia iacicskiego w Polsce w 1772 roku.-Lublin, 1980; Litak S.Stosunki koњсielne na ziemiach litewsko-ruskich// Ziemie Pyinocne Rzeczypospolitej...- S.67-81; Клачоўскі Е. Беларусь,Літва і Украіна ў Атласе» грамадска-рэлігійнай гісторыі Рэчы Паспалітай многіх народаў// Беларусіка-3. - С.157 і інш.

На працягу паловы стагоддзя канфесійная сфера сялянскага жыцця дазнала мноства супярэчлівых змен і ўплываў. Антырэлігійная і антыклерыкальная дзейнасць асветнікаў была ў гэтых зменах, бадай што, найменьш значным фактарам. Атэізм і антыклерыкалізм рэзерваваўся імі для асветленай часткі грамадства, для сялянства ж рэлігія павінна была па-ранейшаму заставацца падставай фармавання этасу, неабходнай часткай светаўспрымання. Больш, чым новая ідэалогія, на дэфармаванне звыклага для сялян рэлігійнага светаўспрымання паўплывалі палітычныя фактары. Тут, бадай што, наймацней, чым у іншых сферах сялянскага жыцця, праявілася спаборніцтва паміж заходняй і ўсходняй цывілізацыйнымі мадэлямі, якое ўвасаблялася не толькі ў ідэалагічнай барацьбе паміж каталіцызмам і праваслаўем, але таксама ў стаўленні дзвюх дзяржаў - Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі - да выбару сродкаў і метадаў, якімі належыць вырашаць канфесійныя праблемы.

Наступленне на праваслаўе ў Рэчы Паспалітай вялося на працягу некалькіх стагоддзяў і было справай звыклай. У другой палове XVIII ст.да тых сродкаў і метадаў, якімі яно праводзілася раней, далучылася сістэма сялянскай адукацыі, паколькі адкрытыя КНА парафіяльныя школы дзейнічалі пад патранатам каталіцкага і уніяцкага святарства. Можна меркаваць, што схільнасць сялянства да касцёла і уніяцкай царквы ў гэты час магла нават павялічыцца, грунтаваная на дабрачыннай і асветніцкай дзейнасці асветленага святарства, найперш, каталіцкага. Новым тут было наданне некаторых правоў дысідэнтам, але і гэта - найперш, удзел у самакіраванні - у большасці закранула шляхту і мяшчан.

На ўсходзе Беларусі змены ў канфесійным становішчы сялянства былі больш радыкальныя і гвалтоўныя. Масштабнай акцыяй царскага ўраду быў перавод уніятаў у праваслаўе, прадпрыняты ў 1780-я-пачатку 1790-х гг. Гэтая падзея мае абшырную гістарыяграфічную традыцыю, складзеную на працягу стагоддзя, у якой ацэнкі вагаюцца ад скрайняй апалагетыкі (Н.П.Бацюшкаў, П.Карнілаў і іншыя «западно-русы») да скрайне негатыўных (М. Ільяшэвіч). Найбольш падмацаваныя крыніцамі работы з’явіліся напярэдадні і ў час святкавання 400-х угодкаў Брэсцкай уніі[1], а таксама дзякуючы намаганням Я.Анішчанкі.[2]

---

[1] Сяховіч В.А.Рэлігійная абстаноўка на Беларусі ў сувязі з далучэннем уніятаў да праваслаўя ў 90-х гадах XVIII ст.// Брэсцкай царкоўнай уніі - 400 (Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі). - Брэст,1997. - С.47-51; Філатава А. Палітыка царскага ўраду ў адносінах да уніяцкай царквы.// Там жа. - С.84-85; Анішчанка Я.К.Канфесійнае становішча ў Магілеўскай і Полацкай губернiях (70-80-я гады XVIII ст.).// Весці АН Беларусі.Сер.гуманитарных навук.-1994 - № 4. - С.51-60 і інш.

[2] Анішчанка Я.Беларусь у часы Кацярыны II. - С.147-163.

Перавод уніятаў, большасць якіх складала сялянства, у праваслаўе і задумываўся, і праводзіўся як шырокамасштабная акцыя палітычнага характару.[1] Апрача ідэалагічных мэтаў (расійскае праваслаўе мела характар дзяржаўнай рэлігіі, было залежным ад дзяржавы і працавала на яе карысць), тут таксама вырашаліся задачы уніфікацыі рэгіёну. Для беларускага сялянства за два стагоддзі уніяцтва, абапіраючыся на ўяўленне даўніны, стала звыклым і складаючым аснову светаўспрымання, на ім грунтавалася у значнай ступені ягоная традыцыйная культура. Сялянскія выступленні супраць пераводу ў праваслаўе, адзначаныя як афіцыйнымі асобамі, так і мемуарыстамі[2], хоць і не набылі характар масавага руху, але паказалі ступень прывязанасці гэтай групы беларускага насельніцтва да уніі. У гэтых дзеяннях яны часта салідарызаваліся са сваімі памешчыкамі, выступаючы ці пад патаемным кіраўніцтвам апошніх, ці пры іх падтрымцы.[3] Прымусовая змена канфесіі павінна была мець сваім вынікам дэфармацыю светаўспрымання селяніна. Яна магла прывесці ў скрайніх сваіх праявах або да ўзмацнення рэлігійнасці ў найбольш упартых у сваей самабытнасці сялян; або да разбурэння рэлігійных пачуццяў, да рэлігійнага індэферэнтызму.[4] Гвалтоўнае «пераварочванне» ў праваслаўе прывяло, у канечным выпадку, да падзення аўтарытэту гэтай канфесіі ў вачах сялянства. Да гэтага прычыніліся і паводзіны прыехаўшых на Беларусь расійскіх святароў, якія сваім п’янствам і разбэшчанасцю кідалі цень і на мясцовае праваслаўнае святарства.[5] Можна меркаваць, што перавод у праваслаўе, хоць і блізкае, але не тоеснае уніяцтву, павінен быў прывесці да дэфармацыі склаўшайся на

---

[1] Сувязь масавага пераводу уніятаў у праваслаўе з пачаткам паўстання 1794 г. адзначаў яшчэ І.Нікольскі - Никольский Н.М. История русской церкви - Мн,1990. - С.288-289.

[2] Сяховіч В.А Указ.твор. - С.50; Добрынин Г. Указ.соч. - С.300-303.

[3] «...памешчык Галынскі Клімовіцкай акругі Кушалёўскай царквы наставіў нованавернутых праваслаўных сялян выгнаць прыбыўшага туды для асвяшчэння царквы святара...Мсціслаўскага уезда памешчык Кабылінскі пад пагрозай пакарання забараніў нованавернутым сялянам прыймаць трэбы ад праваслаўных святароў..». - піша Беларускі епіскап Афанасій. Па ягонаму сведчанню, памешчыкі ў сваіх маёнтках патаемна праводзілі ўніяцкія службы і прыхоўвалі уніяцкіх святароў. - ПСЗРИ - Т. XXVI, № 19263.

[4] Шмат выпадкаў, ілюструючых гэта, прыводзіць у сваім паданні ў Сенат у 1800 г. вышэй згаданы Беларускі епіскап Анастасій. «...селянін Далжанскага пагоста памешчыка Зброжака адзін з усяго прыхода застаўся уніятам,- у прыватнасці піша ён, - і называў веру праваслаўную д’ябальскаю, а прастол і ахвяры брыдка лаяў...І іншыя тых месцаў жыхары таксама адважваюцца не толькі святароў уціскаць, але і саму праваслаўную царкву лаяць».- Там жа.

[5] Сяховіч В.А. Указ.твор.-С.49.

ўсходзе Беларусі традыцыйнай субкультуры, якой належала цяпер адаптаваць і пераасэнсоўваць новыя догмы і рэлігійныя правілы, выпрацоўваць новыя звычаі, пачынаючы ад святочнага каляндара і заканчваючы малітвамі. Прыгадаем пры тым, што ў канцы XVIII-першыя дзесяцігоддзі XIX ст. уніяцтва, якое павінна было адпаведна рашэнням Брэсцкага сабору выкарыстоўваць праваслаўную абраднасць, далёка ад яе адышло. З набажэнства амаль знікла стараславянская мова, якую замяніла старабеларуская, пачалі ўжывацца малітоўнікі для прыхаджан, што не практыкавалася праваслаўем, і г.д. Нездарма ў 1827 г. расійскія ўлады мусілі спецыяльным загадам вяртаць уніяцкую царкву да «древних обрядов богослужения, народами русского племени свято почитаемых».[1] Масавае вяртанне вернікаў ва ўлонне уніяцкай царквы ў часы паўлаўскага «каталіцкага рэнесансу»[2] паказала не толькі ступень ягонай рэлігійнасці, але таксама ступень правязанасці да традыцыйнай культуры, побыту, светаўспрымання. Разам з тым, на вёсцы з-за шматлікіх канфесійных «пераварочванняў» (уніяты некаторых прыходаў за дзесяць год паспелі пабыць і праваслаўнымі, і каталікамі, і зноў уніятамі) рэлігійны індыферэнтызм глыбока пусціў свае карані, што неаднаразова адзначалася сучаснікамі.[3]

Пункт сутыкнення і ўзаемадзеяння ардадамінантнай і традыцыйнай вясковай культур ляжаў у гэты час не столькі ў намаганнях асветнікаў прыўнесці адукацыю ў сялянскую хату, колькі ў іншай плоскасці - ва ўздзеянні сялянства на фармаванне вобразнага ладу, сюжэтаў, мастацкіх прыёмаў новай культуры. Традыцыйная культура тут выступала свайго рода «донарам», які аддаваў назапашаныя стагоддзямі каштоўнасці ў агульны фонд новай культуры. Вусная народная творчасць, сялянская музычная культура, з якімі штодня сутыкалася панская сядзіба, былі той глебай, на якой узрасталі Адам Міцкевіч, Ян Чачот, Станіслаў Манюшка і іншыя творцы новай культуры. Адгукалася вусная народная творчасць і на падзеі палітычнага і сацыяльнага жыцця краіны, з'яўляючыся ў той час найбольш дынамічнай галіной традыцыйнай сялянскай культуры. Менавіта фальклор адаптаваў шмат якія творы прафесійнай літаратуры, як

---

[1] Батюшков П.Н. Указ.соч. - С.350.

[2] Аб вяртанні ва унію цэлых прыходаў нованавернутых праваслаўных згадваецца ў справаздачах уніяцкіх святароў біскупу Лісоўскаму. Адначасова ідзе масавы пераход у каталіцтва уніятаў і нованавернутых праваслаўных. - Описание документов архива западно-русских униатских митрополитов. 1701-1839. Т.II - СПб, 1907. - С. 544-615.

[3] Так, у сярэдзіне 1820-х гг. віцебскі губернатар Хаванскі пісаў: «... у некаторых месцах цёмнасць сялян такая вялікая, што яны не ведаюць нават галоўных хрысціянскіх малітваў». - НГАБ у Мінску, ф.2001, воп.1, спр.64, арк.1 адв.

наўмысна напісаныя ва ўласцівых сялянскай культуры формах (гутаркі), так і створаныя ў жанры травестацыі («Энеіда навыварат»). Выступаючы захавальнікам беларускай мовы і беларускіх культурных традыцый, сялянства цераз пасрэдніцтва нараджаючайся інтэлігенцыі ўносіла сваю, менавіта гэтак нацыянальна афарбаваную плыню ў культуру Новага часу.

Другім па колькасці саслоўем беларускіх земляў было мяшчанства. Напярэдадні падзелаў жыхары гарадскіх паселішчаў markрознага тыпу складалі 13,9% насельніцтва ВКЛ.[1]

Гісторыя мяшчанства і гарадоў не адно дзесяцігоддзе знаходзіцца ў сферы ўвагі беларускіх даследчыкаў. Грунтоўна распрацавана сацыяльна-эканамічная гісторыя, зроблены спробы даследваць духоўную культуру і светаўспрыманне гараджан.[2] Праблемы прававога становішча мяшчан, іх удзел у палітычным і грамадскім жыцці, асаблівасці культуры і побыту гараджан здавён цікавяць і польскіх гісторыкаў (згадаем фундаментальныя даследванні М.Багуцкай і Х.Самсановіча, работы К.Зенкоўскай, Т.Зяліньскай і інш.[3]). На жаль, за рэдкім выключэннем, (праца М.Багуцкай і Х.Самсановіча, вышэй названыя работы Ю.Бардаха), даследванні польскіх гісторыкаў маюць сваім прадметам пераважна мяшчанства Варшавы і некаторых буйнейшых польскіх гарадоў.

Нягледзячы на багатую гістарыяграфію, шмат якія праблемы гісторыі гарадоў і мястэчак Беларусі да сёняшняга дня застаюцца дыскусійнымі. Даследчыкі так і не прыйшлі да адзінага крытэрыя вызначэння гарадскога паселішча, розныя погляды існуюць і ў пытанні акрэслення розніцы паміж горадам і мястэчкам, мястэчкам і вёскай. Гэта выклікае несупадзенне колькасці гарадскіх паселішчаў і іх жыхароў, якую называюць навукоўцы для другой паловы XVIII-першых дзесяцігоддзяў XIX стст. Да таго ж адміністратыўныя пераўладкаванні, якімі багата была мяжа стагоддзяў, неаднаразова змянялі статус

---

[1]Bogucka M. Samsonowicz H. Dzieje miast i mieszczacstwa w Polsce przedrozbiorowej. - Wrociaw i in., 1986. - S.385.

[2]Грицкевич А.П.Частновладельческие города Белоруссии в XVI-XVIII вв. - Мн., 1975; Он же. Социальная борьба горожан Белоруссии XVI-XVIII вв.; Лютый А.М. Социально-экономическое развитие городов Белоруссии в конце XVIII - первой половине XIX века.- Мн., 1987; Соркіна І.В. Роля мястэчак у сацыяльна-эканамічным і культурным развіцці Беларусі ў канцы XVIII - першай палове XIX стагоддзяў. Аўтарэферат.. . канд.гіст. навук. - Мн., 1998; Марзалюк І.А. Магілёў у XII-XVIII стст. - Мн-Магілёў, 1998 і інш.

[3] Bogucka M. Samsonowicz H. Dz. cyt.; Zieckowska K. Siawetni i urodzeni. Ruch polityczny mieszczacstwa w dobie Sejmu Czteroletniego.-Warszawa, 1976; Zielicska T. Szlacheccy wiaњciciele nieruchomoњci w miastach XVIII w. - Jydџ, 1987.

гарадскіх паселішчаў, часам, як гэта было, напрыклад, з Беліцай, ствараючы гістарыяграфічныя кур'езы[1]. Мала распрацавана і гісторыя мяшчанства другой паловы XVIII ст., паколькі вышэй названыя працы беларускіх гісторыкаў ці амаль абмінаюць гэты час (А.Грыцкевіч, А.Люты і інш.), ці не закранаюць гісторыю мяшчан-хрысціян (Я.К.Анішчанка).

Пакуль яшчэ нельга сцвярджаць, што беларускія ўрбаністы выпрацавалі метадалогію вывучэння культурнага жыцця машчанства данага часу. І. Соркіна, напрыклад, даследуючы гэтую сферу дзейнасці гараджан, абмяжоўваецца толькі пералічэннем навучальных ўстановаў, тэатральных труп, бібліятэк і г.д., называе асаблівасці горадабудаўніцтва і архітэктуры, прыходзячы ў выніку да агульных высноў аб значнай ролі мястэчак у культурным жыцці. Якім чынам функцыянавалі ўсе гэтыя інстытуты і як яны ўплывалі на культурнае жыццё мяшчанства - гэтых звестак у рабоце няма. А.Марзалюк у сваёй кнізе, наадварот, імкнецца намаляваць унутраны сусвет «сярэднестатыстычнага» магілёўчаніна, але прынятыя ім храналагічныя межы (XVI- XVIII стст.) надзвычай разлеглыя. Улічваючы дынамізм гісторыі Магілёва на працягу трох стагоддзяў і асаблівасці сацыяльнага і этна-канфесійнага складу мяшчанства, такая карціна не можа быць дакладнай.

Даследванне культурнага сусвету мяшчанства беларускіх земляў выдаецца адначасова вельмі важным і надзвычай складаным. Першае абумоўлена той роллю, якую ў еўрапейскім Асветніцтве гуляла тагачасная буржуазія - яна была ініцыяркай і натхніцелькай працэсу стварэння культуры Новага часу, генератаркай новага этасу і рухавіком нацыянальнай кансалідацыі народа. Другое звязана са спецыфікай сацыяльнага, эканамічнага і этнаканфесійнага становішча беларускіх гарадоў і мястэчак.

Напярэдадні падзелаў гарадская грамада далёка ўжо не нагадвала дастаткова маналітнае ўтварэнне, уласцівае XVI і нават XVII стст. На працягу апошняга стагоддзя ішло паступовае памяньшэнне правоў гараджан на карысць шляхты, гарадская грамада губляла сваю былую моц і аднастайнасць з-за пашырэння юрыдык і адасаблення кагалаў і прыкагалкаў. Моцна пацярпеўшы ў час разбуральных войнаў XVII і пачатку XVIII стст., гарады ўжо не здолелі цалкам аднавіць ні палітычны, ні культурны патэнцыял. Гэта найбольш датычыла ўсходнебеларускіх гарадоў. Апрача таго, і на склад гарадскога насельніцтва, і на культурнае асяроддзе беларускіх гарадоў моцна паўплываў падзел Беларусі на працягу чвэрці стагоддзя паміж дзьвюма

[1] Кіштымаў А.Гісторыя з геаграфіяй: Беліца старая і новая.//Палессе - 1997 - №2 - С.143-146.

дзржавамі. Дзве цывілізацыйныя мадэлі - Усход і Захад - пазначыліся тут у большай ступені, чым на вёсцы.

Безумоўна, найбольш значным фактарам у дынаміцы становішча мяшчанства Беларусі ў гэты час была дзяржава. Нават вынікі вайны 1812 г. не так кардынальна змянялі склаўшуюся ў гарадах сітуацыю. Большасць пераўладкаванняў, закрануўшых сацыяльнае жыццё градоў і мястэчак, адбылося ў апошнюю трэць XVIII ст.[1] Паўлаўскія і аляксандраўскія часы былі толькі працягам радыкальных змен XVIII стагоддзя. Не пераказваючы ўсіх захадаў, прадпрынятых як уладамі Рэчы Паспалітай, так і Імперыі, пазначым толькі тыя, што, як можна меркаваць, аказалі найвялікшы ўплыў на фармаванне культурнага сусвету месцічаў.

У пераўтварэннях, якія адбываліся ў становішчы гарадоў на захадзе і на ўсходзе Беларусі можна знайсці шмат паралеляў. Як на ўсходзе, так і на захадзе змены ў сацыяльным, прававым і культурным становішчы мяшчанства не былі вынікам намаганняў прадстаўнікоў самой гэтай варствы грамадства. У першым выпадку ініцыятыва зыходзіла з боку дзяржавы; у другім - з боку найбольш асветленай часткі нобіляў. На ўсходзе Беларусі рэфармаванне гарадскога жыцця, апрача іншага, падмацоўвалася памкненнем нівеліраваць розніцу паміж далучанымі землямі і ўласна расійскай тэрыторыяй.

Пераўладкаванні і на захадзе, і на ўсходзе ішлі па некалькіх накірунках: упарадкаванне статуса гарадоў і мястэчак у дзяржаве, ліквідацыя рэшткаў іх аўтаноміі; стварэнне новага заканадаўства, якое рэгулюе жыццё гараджан; рэарганізацыя органаў самакіравання; вырашэнне «яўрэйскага пытання».

Наступ на аўтаномнае становішча гарадоў і на ўсходзе, і на захадзе Беларусі адбыўся амаль адначасова. На захадзе ў 1775 г. дзеля ўпарадкавання падаткаабкладання ўводзілася класіфікацыя гарадоў у адпаведнасці з іх памерамі і заможнасцю, большасць мястэчак і некаторыя гарады былі пазбаўлены магдэбургскага права, што тлумачылася іх неадпаведнасцю еўрапейскаму эталону горада. На ўсходзе беларускія гарады былі падданы класіфікацыі па тых жа, што і

[1]Цалкам можна пагадзіцца з меркаваннем расійскіх гісторыкаў, што Кацярына II, надаючы грамадзянскія правы дваранству, збіралася паступова пашырыць іх і на мяшчанства, ствараючы тым самым апірышча для правядзення ліберальных пераўтварэнняў у краіне. Ужо ў «Наказе» Улажэннай камісіі імператрыца прысвяціла некалькі раздзелаў развіццю «рукоделий» і лібералізацыі адносін да тых, хто імі займаецца.Гэтаму ж адмыслова былі прысвечаны складзеныя ею «Рассуждение о мануфактурах», «Проект Законов о Правах Жителей» і некалькі іншых нататок. - Леонтович В.В.Указ.соч. - С.28-33; Худушина И.Ф. Указ.соч. - С.26-33.

на захадзе крытэрыях, атрымаўшы статус губернскіх, уездных, заштатных; значна звужаны былі кампетэнцыі магістратаў - толькі ўпарадкаванне гарадской гаспадаркі, нагляд за выплатай падаткаў і г.д. Правамоцтвы магістрата абмяжоўвала мясцовая расійская адміністрацыя, суды, скарбовыя палаты і паліцыя. Падобнымі па сваім функцыям былі складзеныя з чынавенства управы дабрачыннасці[1] і шляхецкія камісіі добрага парадку. І ў адным, і ў другім выпадку кіруючыя пасады ў гэтых установах не даручаліся мяшчанам. І на захадзе, і на ўсходзе быў прадпрыняты «разбор мяшчанства». У межах Рэчы Паспалітай ён быў праведзены ў каралеўскіх гарадах у час выбараў да ворганаў самакіравання (гэтае права атрымалі толькі пасесары - тыя, хто мелі, або арэндавалі нерухомасць у межах горада), на ўсходзе «разбор» таксама быў праведзены па маёмаснаму прынцыпу шляхам дабравольнага запісу ў мяшчанства ці купецтва адпаведна прынятай ў 1785 г. «Грамоте на права и выгоды городам Российской империи».

У дадзеным выпадку мы зноў сутыкаемся з вонкавым падабенствам захадаў, прадпрынятых паабапал дзяржаўнай мяжы 1772 г. Калі ў Расійскай імперыі палітыка ў дачыненні да мяшчанства прывяла да большай падпарадкаванасці яго дзяржаве, у Рэчы Паспалітай гэты працэс ішоў у бок кампраміса паміж шляхтай і мяшчанствам пры падтрымцы дзяржавы і паступовага пераўтварэння феадальных саслоўяў у капіталістычныя, дзе сацыяльны статус акрэслівала не столькі паходжанне, сколькі наяўнасць капіталу.[2] Важнай падзеяй на гэтым шляху быў дазвол мяшчанам Польшчы і Літвы набываць зямлю ва ўласнасць, а шляхце займацца гандлёвымі і фінансавымі аперацыямі. Прынятце ў 1791 г. чатырох «Канстытуцый» па мяшчанскаму пытанню, як можна лічыць, было толькі першым крокам на шляху прававога замацавання замены саслоўнага падзелу маёмасным. Найвялікшую ролю тут згуляла не літвінская, а варшаўская буржуазія.[3] На ўсходзе беларускіх земляў мяшчанства, наадварот, дзякуючы палітыцы ўлад усе больш пераўтваралася ў закрытае саслоўе, выхад з якога веў толькі праз своеасаблівы «сацыяльны ліфт» - «Табель о рангах»[4]. Дарэчы, і на

[1] У «Наказе», які акрэсліваў функцыі гэтых установаў, апошнім прапанавалася сачыць не толькі за добраўпарадкаваннем горада, гарадскімі святамі і выконваць іншыя паліцэйскія абавязкі, але таксама наглядаць за прыватным жыццём гарадскіх жыхароў.- ПСЗРИ, Т.XXI, 1782, № 15379.

[2] Bardach J. Leњnodorski B. Pietrzak M. Dz. cyt.- S. 289-290.

[3] Zieckowska K. Dz. cyt.- S.583.

[4] Дзякуючы ўтварэнню гільдый і дазволу купецтву паступаць на дзяржаўную службу па камерцыйнай, ваеннай частках і займаць некаторыя службовыя пасады, звязаныя з інтэлектуальнай працай (настаўнік, доктар, архітэктар і інш.), стала магчымым атрымаць пажыццёвае, ці нават спадчыннае дваранства. Гэткім чынам, як трапна

захадзе прадугледжана была магчымасць набілітацыі мяшчанства, але там яна ішла не праз дзяржаўную службу, як у Імперыі, а шляхам надання шляхецкіх правоў па хадайніцтву нобіляў найбольш заможным і аўтарытэтным буржуа. Прыгадаем, што «Канстытуцыі» 1791 г. прадугледжвалі штогадовую набілітацыю 160 найбольш заможных мяшчан.

Перабольшваць прагрэсіўнасць змен, што адбываліся ў Рэчы Паспалітай, не варта, зважаючы на іх дэкларатыўны, а не практычны характар. Наколькі мяшчанства беларускіх земляў Рэчы Паспалітай было задаволена сваім становішчам, высветліла паўстанне 1794 г. Толькі найбольш заможныя мяшчане-хрысціяне, найперш віленскія, прынялі дастаткова актыўны ўдзел у яго падрыхтоўцы і ваенных дзеяннях.[1] Мяшчанства заходняй і цэнтральнай Беларусі і не магло быць моцна заангажаваным у барацьбу шляхты за незалежнасць Рэчы Паспалітай - гэтая дзяржава была, найперш, «шляхецкай рэспублікай», законы і дзяржаўны лад якой накіраваны былі на забеспячэнне дабрабыту прывілеяванага саслоўя. Нават добраўпарадкаванне гарадоў, якое праводзілі шляхецкія камісіі добрага парадку, накіравана было не на паляпшэнне дабрабыту мяшчанства, а на забеспячэнне камфорту шляхце, якая валодала значнай колькасцю гарадскіх плошчаў. Мяшчанства не магло адчуваць сябе адзіным народам з нобілямі Рэчы Паспалітай: гэтаму перашкаджалі не толькі сацыяльныя і маёмасныя межы, але таксама і канфесійныя.

Склад насельніцтва гарадоў і мястэчак у гэты час адрозніваецца вялікім дынамізмам, як у колькасным, так і ў этна-канфесійным плане. На ўсходзе Беларусі за апошнюю чвэрць XVIII стагоддзя колькасць жыхароў гарадскіх паселішчаў, асабліва мястэчак, скарацілася ў 2,6 разы[2], што было абумоўлена не толькі міграцыяй насельніцтва, але і выключэннем з мяшчанства асоб, якія стала жылі на вёсцы і раней уваходзілі ў склад гараджан. Дазвол запісвацца ў мяшчанства вярнуўшымся з-за заходняй мяжы расійскім уцекачам і міграцыя яўрэйскага насельніцтва за межы Беларусі ў дужай ступені

---

зўважыў Е.Карновіч, гільдзейскае купецтва паступова набліжалася ў правах да расійскага дваранства. - Карнович Е. Наше купечество в прошлом веке.// Русский архив. - М., 1992 - № 2. - С.142.

[1] У ліку прыняўшых актыўны ўдзел у паўстанні дакументы Смаленскай следчай камісіі называюць віленскіх купцоў Мілера, Пецера, Вайновіча, Фрыбаса, Готліба, Сейдляра і Лойку. - ГАРФ, ф.1165, оп.1,д.490,.л.26-26 об.

[2] Анішчанка Я.К.Яўрэі ўсходняй Беларусі ў канцы XVIII ст. паводле ўрадавага ўліку (крыніцазнаўчыя аспекты)// Весці АН Беларусі - 1993.Сер. грамадскіх навук, №4. - С.61.

зрусіфікавалі мяшчанства ўсходнебеларускіх гарадскіх паселішчаў.[1] Гэта ўзмацнялася прыездам у беларускія гарады расійскіх купцоў і рамеснікаў, якім аддавалася перавага ў атрыманні падрадаў на будаўніцтва і пастаўкі[2]. Насычэнне беларуска-яўрэйскага асяроддзя ўсходнебеларускіх гарадоў рускімі купцамі, рамеснікамі, вайскоўцамі, чынавенствам паклала пачатак стварэнню тут своеасаблівага «фарпоста» рускай культуры. Невыпадкова менавіта Віцебск і Магілёў у далейшым сталі тымі асяродкамі, якія пастаўлялі зрусіфікаваныя кадры для школы, тэатра, літаратуры і іншых галін культуры Беларусі. На захадзе ў гэты час важнай прыкметай гарадскога жыцця, асабліва ў цэнтрах магнацкіх латыфундый і каралеўскіх гарадах, было павышэнне колькасці іншаземцаў з заходніх краін. Гэта былі майстры, прадстаўнікі інтэлігенцкіх прафесій, якія ўносілі ў гарадскія паселішча своеасаблівы каларыт.[3] У першыя дзесяцігоддзі XIX ст. найбольш паўплывала на дэмаграфію гарадоў і мястэчак прымусовае перасяленне яўрэяў, якое двойчы прадпрымалася за гэты час. Штучная «урбанізацыя» іўдзеяў у першую чаргу стала прычынай амаль падвойнага росту гарадскога насельніцтва Беларусі з 1786 г. па 1811 г.[4] і колькаснай перавагі іх над прадстаўнікамі іншых веравызнанняў.[5]

Беларускае яўрэйства складала неад’емную частку сацыяльнай і этнаканфесійнай структуры насельніцтва. На працягу стагоддзяў яўрэі здолелі знайсці сваю «нішу» у эканамічным жыцці беларускіх земляў, стварыць своеасаблівую субкультуру, якая з-за канфесійных прычын была значна адасоблена ад навакольнага культурнага асяроддзя. Выступаючы адзінай супольнасцю ў стасунку да хрысціянскага наваколля, яўрэйская грамада была моцна стратыфікаванай як у маёмасным, так і ў сацыяльным сэнсе.

Не будзе памылкай сцвярджаць, што і ў Рэчы Паспалітай, і ў Расійскай імперыі палітыка ў стасунку да яўрэяў канчаткова так і не была распрацавана. З аднаго боку, у ёй назіралася памкненне да

---

[1] Там жа.

[2] У Магілёве, у прыватнасці, значныя будаўнічыя падрады мелі пецярбургскія купцы П.Чыр’еў, Леснікаў, вяземскі купец Зуеў і інш. - РГАДА, ф.248, оп 126, д. 5777, лл. 3-9, 370, 543 и об. Наяўнасць скаргаў некаторых магістратаў беларускіх гарадоў аб выцісканні з рынка мясцовых купцоў прыезджымі падцвярджае гэту выснову. - НГАБ у Мінску, ф. 2567, воп.1, спр.12.

[3] Найбольш выразна гэта праявілася ў Гродна, дзе паселішча замежных майстроў склалі адасоблены раён на Гарадніцы, куды ўваходзілі не толькі «басняцкія дамы», але і кірха з могілкамі. Па дадзеных С.Касцялкоўскага, іншаземцаў у гарадах і мясцечках, у прыватнасці, літоўскай эканоміі, налічвалася сотні чалавек.- Końściaikowski St. Dz.cyt. -T.II. - S.17.

[4] Люты А.М.Згад.твор. - С.31-32.

[5] Соркіна І. Згад.твор. - С.11.

зліквідавання межаў, адасабляючых гэтую частку насельніцтва ад навакольнага грамадства. З другога - супярэчылі прынятай генеральнай лініі кансерваванне інстытута кагалаў, які быў сродкам выпампоўвання грошаў з яўрэйскай грамады, а таксама ўвядзенне мяжы яўрэйскай аселасці.

Надзвычайная сацыяльная і этнаканфесійная стракатасць гарадскога насельніцтва, якая не толькі не была пераадолена, але нават паглыбілася на працягу пяцідзесяцігоддзя, абумовіла спецыфічныя рысы яго культуры. Яна не ўяўляла адзінага, выразнага тыпу, накшталт традыцыйнай культуры вёскі, эклектычна спалучаючы ў сабе скібы рознай этнічнай, сацыяльнай, канфесійнай афарбоўкі. Нават пры самых вялікіх намаганнях немагчыма стварыць «абагульнены партрэт» жыхара беларускіх гарадоў і мястэчак часоў Асветніцтва. Ён, так бы мовіць, «раскладваецца» на шэраг «эскізаў» рознай сацыяльнай, культурнай і этнаканфесійнай прыналежнасці. Адпаведна гэтай «афарбоўцы» вызначалася і ступень адукаванасці, культурныя запатрабаванні, стасунак да рэлігіі і іншыя кампаненты духоўнага жыцця.

У адрозненні ад сялянства, мяшчане мелі больш магчымасцей далучыцца да шмат якіх галін ардадамінантнай культуры. Гэта, найперш, датычыць асветы, паколькі менавіта ў гарадах і мястэчках канцэнтравалася пераважная большасць навучальных установаў. Да пачатку другога дзесяцігоддзя XIX ст. амаль ніякіх заканадаўча замацаваных абмежаванняў на атрыманне адукацыі мяшчанамі не мелася. Іншая справа, наколькі патрэбна была навука юнаку ці дзяўчыне з мяшчанскага асяроддзя і ці хапала ў бацькоў грашаў, каб гэтую навуку аплаціць. Акрамя таго, сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы да 1772 г. знаходзіліся ў руках каталіцкіх законаў і базыльян, што ставіла праваслаўнае мяшчанства перад выбарам паміж навукай і канфесіяй.

Новай з’явай у мяшчанскім жыцці было стварэнне свецкіх школ за ўласныя грошы гараджан, прадпрынятае расійскімі ўладамі на ўсходзе Беларусі адпаведна «Гарадавому усталяванню» 1775 г. Адзначым пры тым, што тут, у адрозненні ад расійскіх гарадоў[1], ужо існавала традыцыя гарадскіх школ, якія ствараліся на сродкі братстваў, але з таго часу, як яны зніклі, прайшло ўжо больш стагоддзя. Нягледзячы на падтрымку ўладаў і нават прымус з боку чынавенства, колькасць гэтых школ была невялікай, а ўзровень выкладання, як ужо адзначалася, быў нізкі.

[1] «Добрае выхаванне дзяцей наколькі патрэбна, вядома кожнаму разумнаму чалавеку, - адзначалася ў адным з наказаў Улажэннай камісіі, -.. . яго (выхавання - С.К-С.) ў гарадах усёй імперыі, а асабліва ў стасунку да сярэдніх і дробных сялян зусім няма..». - Сборник материалов для истории просвещения в России, извлеченных из Архива Министерства народного просвещения. - Т. 1. - С.XXIX.

Сымптаматычным можна лічыць, што ў той час некаторыя з членаў магістратаў на ўсходзе Беларусі былі непісьменнымі[1]. Сітуацыя не вельмі змянілася пасля правядзення школьнай рэформы 1786-1789 гг. У народных вучылішчах мяшчане складалі 35-37% ад колькасці вучняў (г.зн. 100-150 чалавек), а ў навучальных установах, утрымліваемых каталікамі і базыльянамі, іх былі адзінкі.[2] Школы КНА былі агульнадасяжнымі і ўлік саслоўнай прыналежнасці ў іх не вёўся. Нават у справаздачах, пададзеных расійскаму Міністэрству асветы ў 1802 г., нягледзячы на існуючую ў Імперыі пільную ўвагу да саслоўных перагародак, віленскія асветнікі не напісалі аб гэтым ані слова.[3] Праўда, сярод асветнікаў стаўленне да асветы мяшчанства не было аднастайным. Г.Калантай, да прыкладу, настойваў на неабходнасці агульнадасяжнай школы, дзе шляхціч будзе сядзець побач з мешчанінам, Чацкі жа лічыў асвету мяшчанства таксама неабходнай, але садзіць за адну парту нобіля і буржуа не імкнуўся.[4] Калі атрыманне пачатковай адукацыі цераз рознага тыпу навучальныя ўстановы для мешчаніна было лёгкім, то сярэдняя адукацыя па-ранейшаму заставалася дасяжнай нямногім. На пачатку стагоддзя мяшчане пераважалі ў народных вучылішчах на ўсходзе Беларусі - у Чэрыкаве, Мсціславе, Рагачове, што ж датычыць заходняй і цэнтральнай яе частак, то тут у сярэдніх навучальных установах выхадцы з падатных саслоўяў складалі не больш сотні чалавек[5]. Такая прапорцыя заставалася і пасля ўвядзення абмежаванняў на вучобу. У 1826 г. у гімназіях акругі вучылася 87 мяшчанскіх дзяцей, не лічачы выхадцаў з так званых «вольных станаў» (з обер-афіцэрскіх, яўрэйскіх і інш. сем'яў).[6] Адпаведна складвалася і карціна ў галіне вышэйшай адукацыі. Таксама, як ў стасунку да гімназій і уездных вучылішчаў, напачатку стагоддзя цяжка вызначыць колькасць мяшчан, якія вучыліся ва універсітэце ў Вільні - такі ўлік проста не вёўся або быў недакладным.Трэба таксама дадаць, што падробка дакумантаў аб шляхецкім паходжанні была пастаўлена на Беларусі на «масавую вытворчасць», таму пад пытанне можна ставіць шляхецкае паходжанне нават тых, хто пісаў аб гэтым у рэгістрацыйных кнігах. На думку

---

[1] Як прыклад прывядзем цытату са справаздачы Люцынскага магістрату аб колькасці школ за 1784 г.: «к сему вместо подписки крижики поставили» - Сборник материалов по истории просвещения в России, извлеченных из Архива Министерства народного просвещения. - Т.І. - С. 889.
[2] Самусік А.Ф.Згад.твор. - С.10.
[3] Сборник материалов по истории просвещения в России - Т.ІІ - №.169.
[4] Beauvois D. Dz.cyt -T. II - S.263-265.
[5] Ibidem - S. 263.
[6] LVIA, f. 721, ap.1, b.249, lp.61-64.

Д.Бавуа, ва ўсялякім выпадку, зважаючы на сітуацыю ў школах, шляхта складала каля 90% студэнтаў універсітэта.[1]

У мяшчанскім асяроддзі стаўленне да асветы залежала не толькі ад ступені заможнасці асобных граджан, але і ад агульнай эканамічнай сітуацыі ў краіне і ў даным населеным пункце. Напачатку кацярынінскіх пераўладкаванняў на ўсходзе Беларусі ўлады павінны былі прымушаць мяшчанства засноўваць гарадскія школы. Калі ж адкрыты былі народныя вучылішчы, грошы, якія даваў на іх утрыманне скарб, часцяком пускаліся магістратамі на іншыя мэты.[2] І ў далейшым школы, што ўтрымліваліся з гарадскіх даходаў, калі толькі не дапамагаў мецэнат, ці мясцовае святарства, знаходзіліся ў занядбаным стане. Шмат прыкладаў сапраўднага жабрацкага стану такіх школ знаходзіцца ў справаздачах настаўнікаў і візітатараў.[3] Абыякавасць да асветы была на пачатковым этапе фармавання новай культуры адметнай рысай не толькі беларускіх мяшчан, але і іх расійскіх калег.[4] Разам з тым, неабходнасць асветы, зважаючы на перамены ў грамадстве, не магла не быць зразумелай мяшчанству, асабліва эканамічна развітых гарадоў. У 1818 г. мяшчане Оршы і Рагачова самі звярнуліся да губернатара з пасьбай адкрыць тут вучылішча, спасылаючыся на хадайніцтва універсітэта і наяўнасць памяшканняў. Але гэта ўжо былі часы, калі ўлады непрыхільна ставіліся да «падатных інтэлектуалаў», і губернатар адмовіў.[5] Без залішняга імпэту паставіліся гараджане да ланкастарскіх школ, аб чым ужо згадвалая ў дадзенай рабоце. Пэўна, сваю ролю ў «астракізме» школ узаемнага навучання згуляў той факт, што яны былі

---

[1] Beauvois D. Dz.cyt -T. I - S.283.

[2] Сборник материалов по истории просвещения в России, извлеченных из Архива Министерства народного просвещения. - Т.I - С.194-198.

[3] Шэраг з іх прыводзіць у сваей манаграфіі Д.Бавуа - Beauvois D. Dz.cyt -T.II - S.138-144. Дададзім да гэтага вытрымку са справаздачы Чэрыкаўскага народнага вучылішча за 1820 г. - «Гэтае вучылішча, - піша настаўнік Шчацінскі,- не мае нават патрэбнай нерухомасці і знаходзіцца у дзвюх мураваных скарбовага корпуса пакоях зусім для класаў непрыдатных, халодных, ад цечы мокрых і ад абвалу столі небяспечных». Вучылішча знаходзілася ў будынку ніжняга земскага суда побач з астрогам для злачынцаў, не мела бібліятэкі і неабходных дапаможнікаў. - НГАБ у Мінску, ф.2277, воп.1, спр. 2, арк.12-13;спр.3, арк.1. У Полацку мясцовая дума на працягу дзесяцігоддзяў не вылучала належныя мясцоваму народнаму вучылішчу грошы, запазычыўшы 3 тыс. руб., і толькі пасля ўмяшальніцтва ўлад мусіла адрэмантаваць ягоны не крыты трыццаць год дах. - Там жа, ф.1430, воп.1, спр.346, арк.3,10-11 адв.

[4] Прашэнні мяшчанства велікарускіх губерніяў аб закрыцці народных вучылішчаў з-за непатрэбнасці для іх дзяцей адукацыі і неапраўданнасці расходаў на яе былі звычайнай справай у 1790-х гг.- Россия.Энциклопедический словарь. - С.384.

[5] НГАБ у Мінску, ф.2001 воп.1, спр.36, арк.3, 5,11,20.

прызначаны, найперш, для гарадской галоты, адукацыю якой зусім не важыўся фінансаваць заможны мешчанін з ратушы. Акрамя таго на Беларусі хапала навучальных установаў, куды дзеці гэтага «заможнага ратмана» маглі пайсці вучыцца, абмінаючы ланкастарскую школу.

Набыццё адукацыі для выхадца з мяшчанскага асяроддзя зусім не азначала, што ён зможа значна палепшыць свой эканамічны і сацыяльны статус. Як і ў выпадку сялянства, жорсткія сацыяльныя рамкі, што ўсё больш замацоўваліся пасля ўваходжання Беларусі ў склад Расійскай імперыі, абмяжоўвалі гэтай частцы грамадства магчымасць дзяржаўнай ці грамадскай кар'еры. Большасць мяшчан на дзяржаўнай службе займала ніжэйшыя пасады ў мясцовых судовых і адміністратыўных органах (кур'ера, паліцэйскага, наглядчыка памежнай стражы, ляснічага і г.д.[1]), пасля 1810 г. рэдка падымаючыся да чыноў, якія маглі бы даць дваранства. Што ж датычыцца навук, якія выкладаліся ў гімназіях і большасці факультэтаў універсітэта, яны былі мала прыдатныя ў працы рамесніка ці купца. Талент мог даць магчымасць атрымаць мастацкую адукацыю, ці праявіць сябе ў навуцы. Але і ў гэтых галінах культуры мяшчан былі адзінкі.

Цяжка акрэсліць, у якой ступені ўваходзілі ў мяшчанскі сусвет элементы іншых галін ардадамінантнай субкультуры. Патэнцыяльна, заможны гараджанін, маючы адукацыю, мог фармаваць бібліятэку, наведваць камерцыйны тэатр ці заказваць карціны. Безумоўна, багатыя буржуа Вільні, Гродна, Мінска і другіх буйных гарадоў не толькі мелі такую магчымасць, але і выкарыстоўвалі яе. На жаль, характар крыніц, якія ёсць у распараджэнні даследчыкаў, дазваляюць падмацаваць гэтае меркаванне толькі асобнымі фактамі. Так, напрыклад, кнігагандаль на беларускіх землях паступова пераходзіць з рук святароў у веданне мяшчанства. Кніжныя крамы ў першыя дзесяцігоддзі XIX ст. утрымлівалі купцы Адам Макарэвіч, Фелікс Каліноўскі (Мінск), Ціхан Зайцаў і Міхал Мацюшын (Вільня), Сабольшчыкаў і Шубін (Віцебск), Ян Пехоўскі (Гродна), гандлем, пераважна, яўрэйскімі выданнямі займаліся Файбішовіч і Іцкавіч (Копысь), Ёсель Іофе (Вільня), Лейба Гурвіч (Нясвіж) і іншыя.[2] А купец 2-й гільдзіі з Брэста Іван Скварцоў, з'яўляючыся камісіянерам аднаго з буйных пецярбургскіх выдаўцоў Свешнікава, выяжджаў у 1820-я гады для продажу кніг у Варшаву.[3] Безумоўна, гэтыя людзі па спецыфіцы сваёй працы мусілі мець адукацыю і ўласныя кнігазборы. Тое ж датычыць і ўтрымальнікаў ці

[1] У час згаданай ужо праверкі ўстановаў Гродзенскай губерні ўсе непрывілеяваныя служачыя былі з мяшчанства.- НГАБ у Гродна, ф.2, воп.1, спр.116, арк. 1.
[2] ГАРФ, ф.1165, оп.1, д.245, лл.3-51.
[3] AGAD, Kancelaria Nowosilcewa, szgn.482, k.141.

гаспадароў камерцыйных друкарняў. Тэатр прыватнай антрэпрызы нездарма меў адной з крыніц даходу выступленні на кірмашах, разлічваючы, пэўна і на нерадавітую публіку. Такі разлік, магчыма, рабіўся і ў час выступленняў аб'яздных труп ва уездных цэнтрах, дзе «чыстай» публікі было нямнога. Што ж датычыць архітэктуры - яна нават па-за жаданнем беларускіх месцічаў уводзіла ў іх жыццё ўяўленні аб новых стылях і тыпах пабудоў. Буйныя будаўнічыя пачынанні, асабліва на ўсходзе Беларусі, прыводзілі часам да карэннай змены гарадской планіроўкі і выгляда прыватных дамоў гараджан і местачкоўцаў.

Павевы Асветніцтва, закрануўшы гарадскую грамаду, не здолелі цалкам змяніць светаўспрыманне мяшчанства. Як і раней, значную ролю ў ягоным жыцці адыгрывала рэлігія. Парафія, прыход з'яўляліся срыжнем аб'яднання гарадскога мяшчанства, рэлігійная ўстанова - касцёл, царква, сінагога, кірха - па-ранейшаму выконвала ролю культурнага цэнтра гарадской грамады. Менавіта тут гараджане сустракаліся з тэатральным мастацтвам у выглядзе тэатралізаваных абрадаў, тут быў асяродак прыгожага мастацтва, прадстаўлены сакральным жывапісам, скульптурай і г.д. Для гарадской галоты гэта быў, бадай што, адзіны цэнтр прафесійнай культуры. Менавіта рэлігійныя ўстановы ігралі найбольш важную ролю ў фармаванні ментальнасці і вызначалі ступень адукаванасці гэтай варствы насельніцтва.[1] Рэаліяй паўсядзённага жыцця мяшчанства была поліканфесійнасць - у горадзе ці мястэчку побач жылі іудзеі, уніяты, праваслаўныя, каталікі, стараверы, лютаране, мусульмане і г.д. Стракатасць канфесійнага складу адбівалася на архітэктурным абліччы гарадскога паселішча, уплывала на гарадскі побыт, фармавала шмат якія элементы культурнага жыцця. Часам яна станавілася прычынай канфліктаў.[2] Таксама, як і сялянства, мяшчане дазналі на сабе наступствы «пераварочвання» з уніяцтва ў праваслаўе. Іх стасунак да гэтага быў, як можна меркаваць, такі самы.[3].

Яўрэйскае грамадства, нягледзячы на акасцянеласць традыцый і скрайнюю рэлігійнасць, таксама перажывала часы пераменаў. Спробы пераадолець закрытасць яўрэйскай грамады прадпрымаліся як самімі яе

---

1 Bogucka M. Samsonowicz H. Dz. cyt.- S.566.

2 Анішчанка Я.К.. Яўрэі ўсходняй Беларусі ў канцы XVIII ст. паводле ўрадавага ўліку. - С.67.

3 У вышэй ужо цытаваным паданні епіскапа Анастасія між іншым згадваецца мястэчка Любавічы Аршанскай акругі, жыхары якога, нованавернутыя праваслаўныя, ў 1795 г. выгналі з былой уніяцкай царквы праваслаўнага святара ў час службы (пры гэтым здзекваліся з яго) і запрасілі служыць былога уніята Какіноўскага - ПСЗРИ - Т. XXVI, № 19263.

членамі, так і ўладамі, хаця мэты ў іх не супадалі. Праекты пераўладкавання жыцця кагалаў, што з'яўляліся з самаго яўрэйскага асяроддзя[1], камітэты з удзелам яўрэйскіх дэлегатаў, якія ствараліся ў Пецярбургу на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў, сведчаць, між іншым, аб жаданні яўрэйскага патрыцыята скарыстаць з новых палітычных абставін, каб палепшыць не толькі сацыяльнае і эканамічнае, але і культурнае становішча іудзеяў. Рэлігійная барацьба, што разгарнулася паміж хасідамі і міснагдамі ў той час сігналізавала не толькі аб неабходнасці пераменаў у дагматах веры, але аб пачатку рэфармавання ўсяго яўрэйскага сусвета, у тым ліку, і традыцыйнай яўрэйскай культуры. Узгадаем таксама досыць моцныя ўплывы Асветніцтва. Дзейнасць М.Мендэльсона, погляды С.Маймона не засталіся незаўважанымі ў яўрэйскім асяроддзі Беларусі, знайшоўшы тут сваіх прыхільнікаў. Такім былі не толькі згадваны ўжо Цэйтлін, вядомы палітычны дзеяч і фінансіст Нота Ноткін, але і далучыўшаяся да «мендэльсонаўскага руху» частка яўрэйскага грамадства Магілёва на чале з Я.Гіршам. Як паведамляе апошні ў сваім прашэнні на імя Кацярыны ІІ, мясцовае яўрэйства, узяўшы за прыклад хрысціян (маюцца на ўвазе школы, адкрытыя пры магістратах), жадала за уласны кошт заснаваць у цэнтры намесніцтва галоўную, а ў іншых гарадах - сярэднія яўрэйскія школы, запрасіўшы для выкладання ў іх «посредством Моисея Мендельсона» настаўнікаў-іудзеяў з Германіі.[2] Разгалінаваная сістэма іудзейскіх школ, моцна прасякнутых рэлігіяй, была, бадай што, адным з галоўных фактараў культурнага адасаблення яўрэяў, што разумелі і яўрэйскія асветнікі, і ўлады.[3] У Рэчы Паспалітай яўрэйская адукацыя не турбавала асветнікаў, занятых больш важнымі, на іх погляд, праблемамі. КНА рэкамендавала ўвогуле не прыймаць яўрэяў у агульнаадукацыйныя ўстановы, каб «не паддаваць іх пагардзе з боку хрысціянскіх вучняў».[4]

---

[1] Анішчанка Я. Беньямін Шпеер і праект арганізацыі беларускіх кагалаў// Беларусіка-4. - С.55-59.

[2] Сборник материалов для истории просвещения в России,извлеченных из архива министерства народного просвещения. - Т.1- С.1-7. Я.К.Анішчанка называе Я.Гірша браслаўскім купцом і прыводзіць матэрыялы аб арэндзе ім фальварка на Магілёўшчыне з мэтай стварэння ўзорнай гаспадаркі і фінансавання яўрэйскай асветы. - Анищенко Я.К. Черта оседлости.(Белорусская синагога в царствование Екатерины II) - Мн.,1998. - С.39-40.

[3] Г.Дзяржавін - першы «ідэолаг» яўрэйскай палітыкі ў імперыі, у прыватнасці пісаў: «...найбольш нязручныя для грамадства малітоўныя школы, дзе рабіны вучаць няпрыхільнасці да іншых народаў...Там дзяцей сваіх яны выхоўваюць з найвялікшай руплівасцю рэлігіі і іхнім забабонам, а больш ніякіх ведаў не даюць». - Державин Г.Р. Записки об евреях. - С.68.

[4] Kot S. Dz. cyt. - S. 37.

У Імперыі памкненне «упісаць» адасобленае яўрэйскае грамадства ў межы існуючай сістэмы прымусіла ўлады звярнуць на яе ўвагу. Адным з захадаў створанага ў Пецярбургу яўрэйскага камітэта было праведзенае цераз Міністэрства асветы ў 1805 г. распараджэнне аб дазволе іўдзеям вучыцца ва ўсіх тыпах свецкіх навучальных устаноў.[1] Але з гэтага дазволу карысталі адзінкі. У Вільні, напрыклад, у 1815 г. гімназію наведвалі толькі два іудзея,[2] у 1826 г. з 1593 гімназістаў Віленскай навучальнай акругі толькі адзін быў іўдзеям[3], універсітэтская статыстыка за 1822/23 навучальны год падае толькі чатырох студэнтаў-іудзеяў, якія вучыліся на медыцынскім і фізіка-матэматычным факультэтах.[4]

Таксама, як і сістэма асветы, адасоблена была і яўрэйская кніжная культура. Рэлігійная літаратура на іўрыце, як гэта ўжо адзначалася, была на Беларусі надзвычай распаўсюджанай ў яўрэйскім асяроддзі. Але свецкай яўрэйскай мастацкай літаратуры, як з’явы культуры Новага часу, яшчэ не існавала. Тэатр і выяўленчае мастацтва паводле рэлігійных традыцый не ўваходзілі ў кола дазволеных відаў мастацтва, бадай што, толькі музыка была больш адкрытай для новых павеваў і мастацкіх сродкаў.

Такім чынам, і на прыканцы Асветніцтва яўрэйская грамада заставалася таксама адасобленай ад астатняга грамадства, як і на золку яго, прыўносячы толькі элементы сваей традыцыйнай культуры ў агульны местачковы ці гарадскі сусвет. Прычынамі гэтага былі як унутраны стан яўрэйскай грамады, абумоўлены шматстагоддзевымі традыцыямі і скрайней рэлігійнасцю, так і палітыкай ўладаў у «яўрэйскім пытанні». Месца яўрэяў і іх культуры ў тагачасным грамадстве можна было б акрэсліць паводле пазднейшых назіранняў К.Шаняўскага: «Жывучы на адной зямлі, мы павінны былі б ведаць адзін аднаго лепей, але ці гэта так? Наша гарамадства ведае яўрэйскіх арандатараў, гандляроў, рамеснікаў, ліхвяроў, але яно не ведае яўрэя. Яно не ведае, які ён у хаце, у школе, сярод братоў сваіх у сінагоге. Яўрэй і хрысціянін сустракаюцца на кірмашы, у краме - і заўсёды з нагоды агульнай справы. Справа заканчваецца, і яўрэй зноў знікае ў сваёй хаце, аддзеленай ад хрысціянскай грамады Вялікая кітайскай сцяной».[5]

---

[1] Beauvois D. Dz.cyt -T. II - S.269.
[2] Ibidem - S. 267.
[3] LVIA, f. 721, ap.1, b.249, lp.64.
[4] Beauvois D. Dz.cyt -T. I - S.283.
[5] Цыт па.: Мочалова В.В.Евреи в Польше: история в зеркале литературы.// Славяне и их соседи. Вып.: Еврейское население Центральной, Восточной и Юго-Восточной Европы. Средние века- Новое время. - М., 1994. - С. 160.

Таксама, як і сяляне, гараджане мелі ўласную прававую культуру. Гарадское права, што існавала ў Рэчы Паспалітай, было надзвычай заблытаным і супярэчлівым. Статут ВКЛ толькі ў агульных рысах вызначаў стасункі гарадскіх жыхароў з іншымі саслоўямі і дзяржавай. У кожным горадзе ці мястэчку, у тым ліку прыватнаўласніцкіх, мелася свая прававая традыцыя ў выглядзе прывілеяў, разнастайных пагадненняў і г.д., якая акрэслівала характар і сутнасць гарадскога жыцця. Спробы ўпарадкаваць існуючую прававую сістэму прадпрымаліся і ў Рэчы Паспалітай, і ў Расійскай імперыі. Але ў абодвух выпадках у даследуемы перыяд яны не былі даведзены да канца. У Рэчы Паспалітай гэта было выклікана бурлівымі палітычнымі падзеямі і недахопам часу. У Імперыі адзінае заканадаўства для гарадоў распрацоўвалася паступова і прыняло аднастайнасць толькі пасля канчатковага скасавання Літоўскага Статута. Заблытанае прававое становішча мяшчанства, адсутнасць аднастайнага заканадаўства ў гэтай галіне з'явілася важным пунктам стасункаў паміж новымі ўладамі і гараджанамі. Апошнія імкнуліся выкарыстаць дадзеныя абставіны для паляпшэння свайго становішча ў новай дзяржаве. Паказальна ў гэтым сэнсе справа, вёўшаяся па ініцыятыве полацкага магістрата ў 1778-1781 гг. Полацкія гараджане прасілі забараніць не ўваходзячым у гарадскую грамаду асобам займацца гандлем у горадзе. У абгрунтаванне сваіх правоў магістрат, спасылаючыся на маніфест імператрыцы, пакінуўшай гарады «на іх былым праве», склаў падрабязную гістарычную даведку, у якой згадваліся ўсе прывілеі, атрыманыя горадам з XVI ст.[1] Каб прыйсці да нейкага кансэнсуса ў гэтай справе, мясцовая адміністрацыя вымушана была правесці грунтоўнае крыніцавае і прававое даследванне, вынікам якога з'явіўся надзвычай цікавы дакумант - супастаўленне законаў ВКЛ і Расійскай імперыі па мяшчанскаму пытанню.[2] Як высветлілася, расійскае заканадаўства, падставы якога закладзены былі Пятром 1, давала гараджанам ў некаторых момантах (права на набілітацыю, сацыяльны статус дзяцей у выніку шлюбу двараніна і мяшчанкі і інш.) больш свабоды. Канчаткова пытанне аб тым, па якім праве разглядаць статус беларускага мяшчанства, не было высветлена, што тлумачылася, пэўна, падрыхтоўкай ў той час новага Гарадавога ўсталявання. Нават пасля прыняцця «Дарчай граматы гарадам» заставалася пытанне прававога становішча яўрэяў, якое вельмі часта прыводзіла да разнастайных юрыдычных калізій. Да таго ж «Грамата» была адменена Паўлам І і зноў падцверджана ў пачатку XIX ст. Нягледзячы на гарантыі расійскага ўрада захаваць прывілегіі буйнейшых гарадоў, нават у

[1] НГАБ у Мінску, ф. 2567, воп.1, спр.12, арк. 1-31.
[2] Там жа., спр.13, арк.15-21.

выбары ў мясцовае самакіраванне мясцовыя ўлады ўносілі свае папраўкі, а ў некаторых гарадах увогуле іх не праводзілі[1]. Няпэўнасць прававога становішча мяшчанства беларускіх гарадоў на працягу дзвюх дзесяцігоддзяў ускладняла жыццё гэтага саслоўя, выклікала бяздзейнасць гарадской грамады і пачуцце безабароннасці шэраговых яе сяброў. Нягледзячы на наяўнасць самакіравання, гараджане заставаліся цалкам залежнымі ад свавольства мясцовай расійскай адміністрацыі, усеўладдзе і хабарніцтва якой ў краі дарасло да нябачных памераў.[2] Стасунак расійскіх улад да мясцовых мяшчан абагульніў Г.Дабрынін, характарызуючы саветніка пры магілёўскім губернатары Палянскага: «...з грубіянамі мяшчанамі не хацеў і слова сказаць, загадваючы ім выконваць моўчкі ўсе іх абавязкі».[3] Прававая культура, сфарміраваная гараджанамі на працягу стагоддзяў, аказалася незапатрабаванай у новых палітычных умовах: у жорсткай бюракратычнай сістэме Расійскай імперыі не было месца незалежным гарадам і абароненым гарадскім правам месцічам.

У параўнанні са сфармаваным за часы Асветніцтва тыпам буржуа на Захадзе беларускае мяшчанства было яшчэ цалкам сярэднявечнай з'явай. Раз'яднанае, уціснутае ў сціслыя рамкі бюракратызаванага феадальна-прыгонніцкага грамадства, пазбаўленае палітычных правоў і маючае вельмі хісткія магчымасці авансу на больш высокую ступень адукаванасці і грамадскай значнасці, яно не магло выпрацаваць скольki-небудзь аказалую, арыгінальную гарадскую субкультуру, з распрацаваным этасам, формамі, традыцыямі .

Адметную ролю ў культурным жыцці беларускіх земляў гуляла святарства. Гісторыі рэлігіі і царквы ў час, які нас цікавіць, прысвечаны многія дзесяткі работ, гэтая праблема разгледжана з розных пазіцый і ў розных аспектах. Адзначым тут вышэй цытаваныя фундаментальныя працы М.Підліпчак-Маяровіч, Ю.Паплатка; работы М.Ларэта,

---

[1] Bajra?auskaite T. System rz№dyw carskich na ziemiash litewskich do roku 1815// Ziemie Pyinocne Rzeczypospolitej Polsko-Litewsikiej w dobie rozbiorowej. - S.57.

[2] Яскрава гэта высветліла гучная справа пецярбургскага купца Чыр'ева, які трымаў у Магілёве два цагляных завода, будаўнічыя падрады і г.д. Нават гэты буйны прадпрымальнік, меўшы хадайнікаў у сталіцы, не змог даць рады хабарніцтву мясцовых чыноўнікаў. Заблытаўшыся ў фінансавых справах, абцяжараны пазыкамі і абавязацельствамі, ён быў пасажаны ў «смирительный дом», адкуль беспаспяхова некалькі год дасылаў скаргі ў Сенат і імператрыцы. Мясцовае чынавенства, у тым ліку, губернатар Чарамсінаў, якія раней закрывалі вочы на афёры Чыр'ева, маючы ад гэтага адпаведныя дывідэнты, засталося беспакараным. - РГАДА, ф.248, д.5777, л.3-758.

[3] Добрынин Г. Указ.соч. - С.205. В.Палянскі быў адным з найбольш адукаваных і здольных чыноўнікаў, да таго ж масон.

Е.Саковіча, якія да сёння не згубілі сваей навуковай вартасці;[1] шматлікія артыкулы польскіх, беларускіх і расійскіх даследчыкаў - Е.Клачоўскага, С.Марозавай, А.Мірановіча, А.Філатавай, Е.Александроўскай, В.Грамбецкай і іншых. Большасць з іх тым ці іншым чынам закранае праблему ўдзелу святарства розных канфесій у культурным жыцці эпохі Асветніцтва. Надзвычай каштоўнай для мэтаў даследвання з'яўляецца манаграфія Г.Дылянговай, напісаная на падставе багатых крыніц.[2]

Вырашэнне праблемы ролі святарства ў часы падзелаў і першыя дзесяцігоддзі XIX ст. не пазбегла блытаніны і тэндэцыйнасці, што назапасіліся, ў тым ліку, дзякуючы некаторым работам гісторыкаў і публіцыстаў мінулага стагоддзя[3].

Хрысціянскае святарства беларускіх земляў, безумоўна, нельга разглядаць як адзіную маналітную варству. Падзел на асобныя групы ў ім праходзіў па некалькіх лініях: канфесія, месца ў царкоўнай іерархіі, прыналежнасць да белага ці чорнага святарства. У часы падзелаў Рэчы Паспалітай да гэтага яшчэ дадалася падданства, якое на працягу чвэрці стагоддзя ў значнай ступені абумоўлівала ролю святарства розных канфесій у грамадскім і культурным жыцці беларускіх земляў паабапал дзяржаўнай мяжы. Феноменам Беларусі можна лічыць тое, што канфесійнаму падзелу святарства ў значнай ступені адпавядаў сацыяльны і этнічны падзел вернікаў, якіх яно абслугоўвала. Адметнасцю было і геаграфічнае размеркаванне праваслаўных, каталіцкіх і уніяцкіх парафій на Беларусі. [4]

Найменш падрыхтаваным да працы на ніве пабудовы новага культурнага асяроддзя апынулася праваслаўнае святарства, што было абумоўлена, найперш, становішчам, у якім праваслаўная царква знаходзілася ў Рэчы Паспалітай. Умовы існавання праваслаўных у дзяржаве, дзе каталіцтва з'яўлялася пануючым веравызнаннем, не патрабуюць тут тлумачэння, паколькі гэтае пытанне мае ўжо больш чым стогадовую гістарыяграфічную традыцыю. Для задач нашага

---

1 Loret M. Koњсуi katolicki a Katarzyna II. 1772-1784. - Krakyw-Warzawa, 1910; Sakowicz E.Koњсiуi prawosiawny w Polsce w epoce Sejmu Wielkiego - Warszawa, 1935.

2 Dyl№gowa H. Duchowiecstwo Katolickie wobec sprawy narodowej (1764-1864). - Lublin, 1983.

3 Прыкладам могуць служыць работы М. Каяловіча або П.М.Бацюшкава,- Коялович М. История воссоединения западно-русских униатов старых времен. - Спб, 1887; Батюшков П.Н. Указ соч.

4 Паводле падлікаў Ю.Туронка, з 430- 440 тыс. каталікоў, што жылі на беларускіх землях ў канцы XVIII ст., на ўсходзе Беларусі было толькі няпоўных 16%. - Туронак Ю. Фарміраванне сеткі рыма-каталіцкіх парафій на Беларусі ў 1387-1781 г.// Наша вера - 1995 - №1. - С.28.

даследвання больш істотным выдаецца аналіз узроўню адукаванасці праваслаўнага святарства,  а таксама яго дзейнасць у галіне культуры ў даследуемы час.

Праваслаўныя святары, што выконвалі пастырскія абавязкі на беларускіх землях, рэкрутаваліся, пераважна, з святарскіх сем'яў.

Да 1768 г., калі дзякуючы намаганням Р.Каніскага ў Магілёве была адкрыта духоўная семінарыя, шлях да духоўнай адукацыі паповіча мог ісці дзьвюма накірункамі. Найлягчэйшы ляжаў праз сямейную адукацыю, здачу экзамена па пачатках навук у праваслаўнай кансісторыі і «давучванне» пры брацкім вучылішчным  манастыры (у Магілёве ці Кіеве) ці епіскапскай кафедры. Другі вёў у Кіеў, у духоўную акадэмію, якая магла ў далейшым забяспечыць нават епіскапскую кафедру. Выхаванцамі Кіеўскай акадэміі былі епіскапы Арсені Берл і Рыгор Каніскі, выкладчыкі Магілёўскай семінарыі Д.Чугаевіч[1]; С.Цвяткоўскі, рэктар Магілёўскай семінарыі; бацька вядомага гісторыка царквы І.Грыгаровіча Іаан Грыгаровіч[2] і інш. Аднак святароў, скончыўшых акадэмію, на Беларусі налічваліся адзінкі. Кіеў да 1770-х гадоў быў адзіным цэнтрам падрыхтоўкі вышэйшай праваслаўнай іерархіі для Расіі, Украіны і Беларусі, зразумела, што ў гэтых умовах забяспечыць адукаванымі кадрамі патрэбы праваслаўнай царквы было немагчыма. Стварэнне семінарыі ў Магілёве і дзвюх  духоўных вучылішчаў, у чым значную ролю адыграла фінансавая падтрымка Расіі[3], не магло карэнным чынам змяніць агульны стан адукаванасці праваслаўнага святарства. Нявуцтва, непісьменнасць і нават няведанне царкоўнага чыну было з'явай распаўсюджанай. Як адзначае Я.Анішчанка, «з-за малазямелля святары карміліся з уласнай працы на палетках і вылучаліся пагэтаму паўсюдным нявуцтвам. Прычэтнікі ведалі толькі пачаткі веры, у большасці чыталі і пісалі па-польску..».[4] Непісьменнасць была звыклай не толькі ў асяроддзі прыходскіх святароў, але нават у вышэйшых іерархаў.[5] На захадзе Беларусі ў часы падзелаў дзякуючы

---

[1] Аб ягонай вучонасці і чалавечых якасцях з вялікай цяплынёй адзываўся Г.Дабрынін. Пасля далучэння ўсходнебеларускіх земляў да Імперыі Д.Чугаевіч перайшоў на дзяржаўную службу. - Добрынин Г. Указ.соч.  - С.221.

[2] Грыгаровіч І.І.Згад.твор.  - С.34

[3] Там жа..  - С.33.

[4] Анішчанка Я.К. Беларусь у часы Кацярыны ІІ. - С.150. Па-польску вялося нават справаводства ў Беларускай праваслаўнай епархіі. - НГАБ у Гродна, ф.525, воп.1, спр.2,4,6.

[5] Аб пасланым у беларускія губерні пасля першага падзелу на пасаду епіскапа Афанасіі Вальхоўскім Г.Дабрынін пісаў: «па натуры быў такім няўдалым, што знаёмае яму Евангелле не мог чытаць без памылак і частых павольных прыпынкаў». - Добрынин Г.Указ.соч.  - С.296.

ціску з расійскага боку праваслаўнаму святарству ўдалося адкрыць духоўную семінарыю ў Слуцку. Але там вучылася не больш 50 чалавек[1] і забяспечыць у хуткім часе ўсе прыходы адукаванымі папамі яна не магла.

У другой палове XVIII ст.-першыя дзесяцігоддзі XIX ст. дзякуючы намаганням асветленага сталічнага святарства, найперш, маскоўскага мітрапаліта Платона і пры падтрымцы дзяржавы перабудавана была ўся сістэма падрыхтоўкі праваслаўных святароў. Сутнасць і змест рэформы падрабязна апісвае ў сваёй манаграфіі М.Нікольскі.[2] Згодна з планамі пераўладкавання на Беларусі былі адкрыты пяць уездных духоўных вучылішчаў, якія павінны былі рыхтаваць кадры для семінарый.[3] Для святарскіх дзяцей адкрываецца доступ у шматлікія духоўныя навучальныя ўстановы ў Расіі, у тым ліку і ў сталічныя духоўныя Акадэміі.[4]

Пасля далучэння беларускіх земляў да Імперыі праваслаўнае святарства не толькі адчула на сябе «смак» ролі пануючай у дзяржаве канфесіі, але і жорсткасць бюракратычнай дзяржавы. Калі ў Рэчы Паспалітай галоўнай прычынай ягонага жабрацтва была адсутнасць апекі з боку дзяржавы[5], то цяпер гэтай «апекі» было нават залішне многа. Праваслаўная царква яшчэ з пятроўскіх часоў ператварылася ў частку бюракратычнага апарату дзяржавы і на гэтай падставе выконвала ролю ідэалагічнага апірышча самаўладдзя. Святарства з’ўлялася афіцыйна адным з саслоўяў, паколькі да гэтай катэгорыі залічаліся не толькі самі святары, але таксама іх дзеці, жонкі, ўнукі і г.д. Нягледзячы на фармальнае залічэнне ў разрад прывілеяваных, на самой справе яно разглядалася як свайго рода прамежкавае паміж дваранствам і падатковым насельніцтвам саслоўе. Да 1801 г. святар мог быць падданы цялеснаму пакаранню[6], за разбэшчаныя паводзіны яго маглі здаць у

---

[1] Самусік А.Згад.твор. - С.9-10.
[2] Никольский Н.М. Указ.соч. - С.278-282.
[3] Самусік А. Згад.твор. - С.13.
[4] Выхаванцам Пецярбургскай духоўнай акадэміі быў выдатны гісторык царквы і адзін з першых беларусістаў І.Грыгаровіч, вучобу якога аплочваў М.Румянцаў. - М.Нікалаеў. Прадмова// Грыгаровіч І.І. Згад.твор. - С.7.
[5] Палітычныя правы праваслаўнага святарства, праўда, былі павялічаны ў апошнія дзесяцігоддзі Рэчы Паспалітай, дзякуючы чаму праваслаўныя іерархі нават атрымалі доступ у сейм, але часу не хапіла, каб правесці ў жыццё ўсе пастановы і рашэнні, прынятыя ў час Вялікага сейма і паўстання. Між іншым, такі лёс напаткаў распрацаванае спецыяльнай камісіяй і прынятае сеймам у 1791 г. палажэнне аб становішчы праваслаўнай царквы ў Рэчы Паспалітай. - Mironowicz A. Cerkiew prawosiawna na obszarze Wielkiego Kskstwa Litewskiego w latach 1772-1795.// Ziemie Pyinocne Rzeczypospolitej Polsko-Litewsikiej w dobie rozbiorowej. - S.87-88.
[6]Софронов М.М. Указ.соч. - С.85.

рэкруты, прызначэнне на пасады белага святарства праводзілася пры ўзгадненні з адміністрацыяй і г.д. Статус святарства ў Імперыі падкрэсліваўся самой арганізацыяй царкоўнай іерархіі, паколькі Сынодам кіраваў дзяржаўны чыноўнік - обер-пракурор, які з 1817 г. узначальваў таксама і сістэму асветы ў дзяржаве.

Святарскія дзеці, у большасці, абіралі духоўную кар'еру. Але напачатку XIX ст. для іх адкрыліся і іншыя шляхі. Адукацыю можна было атрымаць ва уездных вучылішчах і гімназіях. Тут, аднак, была нябеспека «совращения» у каталіцтва ці ўнію, паколькі шмат якія сярэднія навучальныя ўстановы ўтрымлівала каталіцкае святарства і ўводзіла ў іх свае правілы.[1]

У адрозненні ад вялікарускіх губерняў на Беларусі не адчуваўся наплыў паповічаў ва універсітэт.[2] Гэта тлумачыцца, найперш, характарам самой вышэйшай школы ў Вільні, дзе пануючай мовай была польская і ўвесь змест выкладання прасякнуты быў польска-літвінскім патрыятызмам, а каталіцтва неафіцыйна з'яўлялася пануючай рэлігіяй. Для выхадцаў з беларускага святарства, жадаючых абраць грамадзянскую службу, месцам атрымання вышэйшай адукацыі маглі стаць Маскоўскі, Пецярбургскі, Казанскі універсітэты. Але з другога дзесяцігоддзя гэты шлях ускладняўся ўведзенымі саслоўнымі абмежаваннямі, якія, дарэчы, не ў апошнюю чаргу былі выкліканы памкненнем паповічаў праз набыццё чыноў павысіць свой сацыяльны статус.

У параўнанні з папярэднім стагоддзем ў першым і асабліва другім дзесяцігоддзях XIX ст. узровень адукаванасці праваслаўнага святарства заўважальна павысіўся. Дзякуючы распаўсюджанню семінарый і духоўных вучылішчаў, а таксама пашырэнню сеткі свецкіх навучальных установаў, улады нават атрымалі магчымасць увесці для прызначэння на пасаду пастыра адукацыйны цэнз. Павышэнне ўзроўня адукаванасці святарства было важным чыннікам культурнага жыцця праваслаўнай вёскі, паколькі прыходскія школы заставаліся тут адзіным цэнтрам асветы.

Праваслаўнае святарства згуляла галоўную ролю ў шмат якіх культуртрэгерскіх пачынаннях расійскага ўрада. Гэта стасуецца да народных вучылішчаў, першымі настаўнікамі ў якіх былі выхаванцы духоўных семінарый. Сувязь святарства з сістэмай асветы ішла таксама

[1] На гэта, у прыватнасці, скардзіўся ў 1824 г. Віцебскаму генерал-губернатару саборны протаіерэй Страціновіч. Ён, між іншым, згадаў выпадак, калі дзеці праваслаўнага святара не толькі наведвалі касцёл разам з іншымі праваслаўнымі вучнямі даміканскага вучылішча, але нават выконвалі абавязкі клірыкаў у час набажэнства. - НГАБ у Мінску, ф.1297, воп.1, спр.253, арк.10-11.

[2] Beauvois D. Dz.cyt -T. I - S.280.

праз выкладанне Закона Божага ва уездных вучылішчах і гімназіях на ўсходзе Беларусі, дзе пераважалі праваслаўныя. Зварот цэнтральных улад да рэлігіі ў другой палове царавання Аляксандра I выклікаў увядзенне ў праграму выкладання катэхізіса, дзякуючы чаму, па акрэсленню М.Нікольскага, «закон божы ў школе станавіўся прыладай палітычнага выхавання моладзі».[1] Праваслаўнае святарства паступова станавілася сілай, на падтрымку якой расійскае самаўладдзе магло разлічваць у выпадку палітычных завірушэнняў у краі.

Узровень адукаванасці і агульнай культуры праваслаўнага святарства, нягледзячы на пазітыўныя зрухі ў гэтай сферы, і ў пачатку XIX ст. заставаўся ніжэйшы, чым у іх калег-каталікоў. Высокай адукаванасцю вылучаліся вышэйшыя іерархі, выкладчыкі семінарый, што ж датычыць прыхадскога святарства - у агульнай масе яно не магло канкурыраваць з каталікамі ні заможнасцю, ні адукаванасцю. Безумоўна, сярод праваслаўнага святарства сустракаліся такія асобы, як І.Грыгаровіч - адзін з першых беларусазнаўцаў, але гэта былі шчаслівыя выключэнні з агульнага правіла. Праваслаўнае святарства не стала варствай, з якой выхадзілі б культурныя навацыі: нават у галіне асветы, дзе ягоная дзейнасць на Беларусі была найбольш значнай, яно не ішло далей існуючых ужо метадаў і традыцый. Друкарская ж справа, якая яшчэ напярэдадні падзелаў развівалася дзякуючы намаганням Р.Каніскага, пасля далучэння да Імперыі ўвогуле была тут прыпынена. Значнай дзеючай сілай у фармаванні культуры Новага часу яно не стала і не магло стаць, зважаючы на кансерватызм самой канфесіі і яе хісткія ў той час пазіцыі сярод беларускіх вернікаў.

З усіх хрысціянскіх канфесій уніяцтва ў гэты час было, бадай што, у самым няпэўным становішчы. Палітычныя калізіі, якія разгортваліся вакол ягонага статусу і ў Рэчы Паспалітай, і ў Расійскай імперыі, займаюць ужо не адно пакаленне навукоўцаў і добра асветлены ў гістарыяграфіі[2]. Не пераказваючы вядомыя гісторыкам факты, адзначым, што ў гэты час на першы план для уніяцкага святарства высоўваецца праблема выжывання, асабліва пасля далучэння беларускіх земляў да Імперыі.

Уніяцкае святарства не ўяўляла адзінай сацыяльнай варствы ні па паходжанню, ні па адукаванасці, ні па свайму статусу ў грамадстве. Мяжа падзелу тут праходзіла паміж белым і чорным святарствам, парафіяльнымі святарамі і вышэйшай іерархіяй. Сярод манахаў-

[1] Никольский Н.М. Указ. соч. - С.282.
[2] Гістарыяграфічны агляд праблемы з пункту гледжання беларускага гісторыка гл.: Таляронак С.В. Палітыка царызму ў адносінах да каталіцкай і уніяцкай царквы на Беларусі.// Весці АН Беларусі. Сер. грамадск. навук - 1992 - №2. - С.60-61.

базыльянаў было шмат выхадцаў са шляхты, белыя ж святары, у большасці, паходзілі са святарскіх сем'яў.[1] Часам парафіі пераходзілі «у спадчыну» да святарскіх сыноў і нават унукаў.

Сістэма падрыхтоўкі уніяцкага святарства для нясення службы і выкладчыцкай работы была дастаткова разгалінаванай. Уяўленне аб ёй дае аналіз характарыстык святароў у час прызначэння іх на пасаду, або прыняцця сану. Як правіла, пачатковую адукацыю будучы святар атрымліваў у хаце, дзе засвойваў пачаткі пісьма і чытання - «па-польску і па-руску», а таксама пачаткі рэлігійнай навукі. Да адукацыйнай рэформы ў Рэчы Паспалітай працяг адукацыі адбываўся, як правіла, у адным з базыльянскіх вучылішчаў, пасля яе - таксама і ў свецкіх школах. Пасля атрымання сярэдняй адукацыі шлях будучага святара ляжаў у адну з духоўных семінарый, ці базыльянскі манастыр, дзе вучоныя манахі выкладалі багаслоўе, красамоўства, філасофію і г.д. Шмат хто са святароў-уніятаў вучыўся ў Антопальскім манастыры, у манастырах базыльян у Вільні, Жыровіцах, Барунах і інш.[2] Працяг адукацыі мог быць у Віленскай акадэміі, а пасля яе пераўладкавання - у ГЛШ. Для будучых святароў у Вільні існаваў алюмінат, вучні якога наведвалі лекцыі ў Галоўнай Літоўскай школе. Пасля адкрыцця ў Вільні Галоўнай семінарыі яна стала адным з асноўных цэнтраў падрыхтоўкі будучых святароў, найперш, базыльян.[3] На вышэйшую ступень адукаванасці уніят мог узняцца, або атрымаўшы ступень доктара ў Вільні (такую ступень мелі А.Галаўня - біскуп аршанскі; К.Камінскі - ад'юнкт універсітэта, а затым ігумен; В.Палонскі - архімандрыт Гродзенскага манастыра[4]), або пасля вучобы ў Рыме, дзе існаваў спецыяльны фундуш папы для святароў-уніятаў.[5]

---

[1] Красамоўна гэта паказваюць біяграфічныя дадзеныя» чыноўнікаў» Літоўска-віленскай епархіі з белага і чорнага святарства за 1815 г. З 24 манахаў толькі чацьвёра былі са святарскіх сем'яў, астатнія - шляхцічы; з 26 белых святароў тры запісаны як шляхцічы, астатнія ж - дзеці святароў. - Описание документов архива западно-русских униатских митрополитов... - С.694-700.

[2] Так, белавіцкі капелан Іона Самовіч, пасля хатняга навучання ў 12 год паступіў у Свержанскую семінарыю, дзе вучыўся чатыры гады, затым удасканальваўся ў Халапенічах і Віленскай Акадэміі; Леў Фалевіч, які атрымаў святарскі сан у 1786 г., закончыў толькі курс у «бабруйскіх публічных школах»; Рыгор Беліновіч, адзін з чыноўнікаў Літоўскай епархіі, вучыўся ў Свержані, затым у школе КНА ў Мінску, быў, як можна меркаваць, некаторы час палестрантам, а затым прыняў сан святара; бальшасць свецкіх святароў -чыноўнікаў епархіі некаторы час вывучалі багаслоўе і філасофію ў Барунскім, Лаўрышаўскім, Бярэзвічскам базыльянскіх манастырах. - Там жа. С. 462,571,699-700.

[3] У 1823 г. тут вучылася 17 уніятаў. - Там жа. С. 745.

[4] Там жа. С. 692,698,705.

[5] Там жа. С. 381.

Сістэма падрыхтоўкі святароў-уніятаў дазнала зменаў у сувязі з канфесійнай палітыкай расійскіх улад пасля падзелаў. Пасля ўтварэння на ўсходзе Беларусі асобнай Полацкай епархіі, а ў цэнтры - Мінскай, натуральным стала пытанне аб адкрыцці ў іх асобных семінарый для уніятаў, што адпавядала рашэнням Замойскага сабору 1720 г. Але неаднаразовыя звароты да ўладаў па гэтаму пытанню біскупаў Смагаржэўскага і Лісоўскага засталіся без задавальнення.[1] У першым выпадку (1779 г.) гэта было звязана з палітыкай аправаслаўлівання уніятаў, у другім (1803 г.) - з жаданнем А.Чартарыйскага, які вырашаў пытанне аб семінарыі, узмацніць у краі ўплыў каталіцтва і сканцэнтраваць падрыхтоўку уніятаў у Віленскім універсітэце. Дарэчы, адкрыццё тут Галоўнай семінарыі абумоўлена было, не ў апошнюю чаргу, менавіта гэтымі меркаваннямі.

Часцей за іншых у асяроддзі уніяцкага святарства вышэйшай адукацыі дасягалі прыняўшыя пострыг. Менавіта базыльяне вылучаліся адукаванасцю і ангажаванасцю ў культурнае жыццё. Дзякуючы гэтаму яны выступалі ў ролі не столькі праваднікоў, ці спажыўцоў культурнага наватарства іншых, сколькі ў якасці генератара новых з’яў і традыцый.

Культурная дзейнасць базыльян на заходніх і ў цэнтральных землях Беларусі ў часы падзелаў усебакова і падрабязна вывучана польскай даследчыцай М.Підліпчак-Маеровіч[2]. Бадай што, адзінай заганай працы польскай даследчыцы з’яўляецца яе погляд на уніятаў, і ў прыватнасці, на базыльян, як на складаную частку каталіцкай канфесіі. Таму, менавіта, адну з галоўных заслуг уніяцкіх святароў М.Підліпчак-Маяровіч бачыць ва «узмацненні каталіцызма і патрыятызма»[3] (зразумела, польскага - С.К-С), з чым наўрад ці можна пагадзіцца. Уніяцкае святарства было галоўнай асветніцкай сілай, дзейнічаючай у беларускай вёсцы, і менавіта яно служыла праваднікам новых культурных павеваў у асяроддзі традыцыйнай культуры.

Апошняя палова XVIII ст. была пікам культурна-асветніцкай дзейнасці базыльянскага закону. Базыльяне былі, бадай што, найбольш лаяльнымі саюзнікамі КНА, уключыўшыся ў рэфармаванне сістэмы асветы адразу пасля скасавання ордэну іезуітаў. Змест навучання нават у іх «нелегальных» школах не выклікаў значных заўваг з боку візітатараў.[4] Высокі ўзровень адукаванасці выкладчыкаў-базыльян прыцягваў да іх не толькі мяшчан-уніятаў, але і каталіцкую шляхуту. На думку І.Шыбяк, не

---

[1] Там жа. С. 381; Сборник материалов по истории просвещения в России - Т.II - С.405-408.
[2] Pidlipczak-Majerowicz M. Dz. cyt.
[3] Ibidem, S.50.
[4] Szybiak I. Szkolnictwo Komisli Edukacji Narodowej w Wielkim Ksikstwie Litewskim. - S. 87-88.

апошнюю ролю ў гэтым адыграў сваеасаблівы «сантымент» мясцовай шляхты да святарскага мінулага адукацыйнай сістэмы.[1] Адметнасцю выкладчыцкай дзейнасці базыльян была іх увага да неспаланізаванай часткі мясцовага насельніцтва. Яны ўводзілі ў школах выкладанне царкоўнаславянскай і «рускай» (магчыма, старажытнабеларускай[2]) мовы, курсы чытання старых «рускіх» рукапісаў, стараліся забяспечыць гэтыя навацыі метадычнымі матэрыялам[3]. Базыльяне няблага парупіліся і на ніве пачатковай асветы, утрымліваючы некалькі дзесяткаў прафіяльных школ[4], і ў вышэйшай адукацыі. Ад'юнктам і віцэ-прафесарам астраноміі ў Вільні на працягу 17 год працаваў Кесарый Каменскі[5], адзначым пры тым, што астраномія была ў той час адной з найбольш развітых натуральных навук. Па падліках М.Підліпчак-Маяровіч, на тэрыторыі ВКЛ у другой палове XVIII ст. на ніве асветы працавала больш за 100 базыльян.[6]

Выдавецкая дзейнасць базыльянскага закону ў гэты час таксама, як і асвета, дазнала вяршыні свайго росквіту. Паказальна, што друкарні ў Вільні, Супраслі, Мінску і іншых беларускіх гарадах, мелі надзвычай багаты рэпертуар выданняў, друкуючы да таго ж на розных мовах, у тым ліку на царкоўнаславянскай і літоўскай. Менавіта базыльяне першымі аддалі свае друкарскія варштаты ў распараджэнне паўстанцкіх улад у 1794 г., выдаючы каля паўтары сотні адозваў, маніфестаў, улётак і іншай палітычнай літаратуры.[7] Апошняе перадвызначыла лёс базыльянскіх друкарняў пасля падзелаў - яны былі закрыты, а мінская друкарня перададзена ў рукі гарадскіх улад.

---

[1] Ibidem, S.87.

[2] У згаданых М.Підліпчак-Маеровіч фрагментах перакладу Ю.Дабрылоўскага «на славянскую мову» падручніка «Навука парафіяльная», якія акрэсліваюцца даследчыцай як сапсаваная «пальшчызнай» руская мова, нават невялікі знаўца з лёгкасцю пазнае беларускую мову не толькі асобных выразаў, але і ўсяго тэкста. - Pidlipczak-Majerowicz M. Dz. cyt.-S.112-113.

[3] Факты выкладання «рускай» мовы ў парафіяльных і сярэдніх уніяцкіх школах шырока прадстаўлены ў дакумантах.- Описание документов архива западно-русских униатских митрополитов... - С.399,571,617 і інш. Аб тым, што гэта была не «маскоўская» мова, можна сцвярджаць на падставе справы, узнікшай на Міншчыне ў 1798 г. Архіепіскап Іова запатрабаваў ад мясцовага уніяцкага святарства запісваць метрыкі па-расійску, на што мінскі сурагат Ян Яхімовіч адказаў: «Вядома, што нашыя капеланы рускага дыялекта не ведаюць». - Описание документов архива западно-русских униатских митрополитов... - С.578.

[4] Толькі ў Полацкай епархіі у 1807 г. яны ўтрымлівалі 10 прыходскіх школ, дзе вучылася больш сотні дзяцей.- Там жа. С. 656.

[5] Там жа. С. 698. М.Підліпчык- Маяровіч памылкова называе яго Інакенціям Княжынскім. - Pidlipczak-Majerowicz M. Dz. cyt.-S.52.

[6] Ibidem, S.53.

[7] Ibidem, S.65.

Пасля падзелаў становішча уніяцкага святарства значна пагоршылася. Шматлікія «пераварочванні» вернікаў-уніятаў - у праваслаўе на ўсходзе, у каталіцтва - на захадзе, адток вернікаў у каталіцтва ў час паўлаўскага «каталіцкага рэнесансу» значна паменьшылі фундушы, лічбу уніяцкіх прыходаў, колькасць святароў, якія масава пераходзілі ў іншыя канфесіі. «Хутка амбоны застануцца без прапаведнікаў, школы без настаўнікаў..» - сумна канстатаваў візітатар Літоўскай правінцыі Сільвестр Антановіч у 1796 г.[1]

Уніяцкія парафіі ніколі не адрозніваліся заможнасцю, паколькі вернікамі былі, галоўным чынам, сяляне і бяднейшае мяшчанства. Не дзіўна таму, што на прапанову Міністэрства асветы ў 1807 г. «пашукаць» ахвяраваныя вернікамі на адукацыю і не выкарыстаныя фундушы, уніяцкія святары паведамілі аб адсутнасці грошаў і кепскім матэрыяльным становішчы прыходаў.[2] Зразумела, што ва ўмовах, калі само існаванне канфесіі было пад пагрозай, разгортваць значныя культурныя акцыі было надзвычай цяжка, а часам і небяспечна. Але і ў гэты час уніятскія святары заставаліся значнай культуратворчай сілай на беларускіх землях. Па колькасці навучальных устаноў і вучняў у іх базыльяне пераўзыходзілі ўсе каталіцкія законы, пры чым колькасць вучняў няўхільна павялічвалася на працягу паловы стагоддзя.[3] Сярэднія школы, якія яны ўтрымлівалі ў Барунах, Бярэзвічы, Жыровічах, Брэсце, адрозніваліся высокім узроўнем выкладання і добрай арганізацыяй навучальнага працэса. Да прыкладу, Барунская школа, дзе у першыя дзесяцігоддзі XIX ст. вучылася каля 200 чалавек, дала Беларусі А.Адынца, І.Ходзьку і Л.Ходзьку, Ю.Корсака і іншых культурных дзеячоў. Толькі на тэрыторыі Літоўска-віленскай епархіі уніяцкія святары ўтрымлівалі 54 прыходскія школы[4], прычым некаторыя, як, да прыкладу, канонік Сасноўскі[5], засноўвалі іх за ўласны кошт.

У іншых, апрача асветы і друку, галінах культуры ўніяцкае святарства не адрознівалася наватарствам. Наадварот, яно ў значнай ступені было захавальнікам традыцый старажытнай сакральнай культуры - іконапісу, царкоўнага спеву.[6]

Уніяцкае святарства было адным з «мосцікаў», цераз які наладжвалася сувязь паміж ардадамінантнай і традыцыйнай культурай, паміж сялянствам і адукаванымі саслоўямі, што, дарэчы, разумелі і самі

---

[1]Описание документов архива западно-русских униатских митрополитов... - С.615.
[2] Там жа. С. 658.
[3] Beauvois D. Dz.cyt -T. II - S.147-148.
[4] Описание документов архива западно-русских униатских митрополитов...- С.683.
[5] Там жа. С. 740-741.
[6] Марозава С. Уніяцкая царква ў культурна-гістарычным развіцці Беларусі (1596-1839). - Гродна, 1996. - С. 46 - 55.

святары.[1] Акрамя таго, толькі гэтая варства святарскага саслоўя арганічна спалучала ў сваей дзейнасці «Усход» і «Захад», што было закладзена ў самім ладзе канфесіі.[2] Магчыма, пры іншых палітычных умовах уніяцкае святарства здолела бы значна пасунуць справу сялянскай асветы, на ніве якой шмат парупілася. Але ва ўмовах ганенняў, якія уніяцтва дазнала і ў межах Рэчы Паспалітай, і ў Імперыі, гэтыя магчымасці засталіся толькі ў патэнцыяле.

Сёння ўжо існуе адмысловы накірунак гістарыяграфіі, які распрацоўвае праблему ўдзелу каталіцкага святарства ў культурным жыцці ў межах даследуемага перыяду. Значна парупіліся на гэтай ніве Г.Дылянгова, Я.Паплатак, А.Краськовяк-Крвавіч і іншыя. Польскія даследчыкі, як правіла, канцэнтруюцца толькі на дадатных баках дзейнасці «інтэлігенцыі ў сутанах», а расійскія дарэвалюцыйныя і савецкія - на адмоўных. І першыя, і другія амаль адзінадушна залічаюць у разрад абскурантаў іезуітаў (выключэннем можа быць, пэўна, Я.Паплатак). З гэткай ацэнкай у пераважнай большасці кансалідуюцца і беларускія аўтары, найперш, Ул.Пасэ, які прысвяціў у сваей рабоце адмысловы раздзел барацьбе іезуітаў з кіраўніцтвам Віленскага універсітэту ў першыя дзесяцігоддзі XIX ст.

У адрозненні ад сваіх калег з іншых хрысціянскіх канфесій каталіцкае святарства на беларускіх землях з'яўлялася носьбітам заходніх культурных традыцый. Адметнасцю яго была агульная высокая, у параўнанні з іншымі канфесіямі, ступень адукаванасці.[3] Магутная і разгалінаваная сістэма адукацыі будучых каталіцкіх святароў пастаўляла не толькі тэолагаў, але і спецыялістаў у розных галінах ведаў.

Як адну з асаблівасцяў каталіцкага святарства належыць адзначыць яго сваеасаблівы патрыятызм, які грунтаваўся на сацыяльным паходжанні большасці з іх (шляхта) і падмацоўваўся ў час вучобы ў мясцовых навучальных установах. Выключэннем тут могуць быць, бадай што, іезуіты, у якіх касмапалітызм быў адным з прынцыпаў дзейнасці і рысай менталітэту.

---

[1] Менавіта гэта было галоўным аргумантам неабходнасці адкрыцця духоўнай семінарыі ў Полацкай епархіі, на які спасылаўся ў сваім паданні архіепіскап Лісоўскі. - Сборник материалов по истории просвещения в России, извлеченных из Архива Министерства народного просвещения. - Т.ІІ - С.405-408.

[2] Там жа. С. 11-23.

[3] Г.Дабрынін перасцярагаў ад пасылкі неадукаванага праваслаўнага святарства з цэнтральных губерняў у край «дзе ўсякі ксёндз гаворыць лацінскай мовай, а многія і на іншых замежных мовах, не лічачы польскай і рускай». - Добрынин Г. Указ. соч. - С.297.

Роля каталіцкага святарства ў культурным і грамадскім жыцці была неаднастайнай на пачатковым этапе Асветніцтва і ў канцы яго, у межах Рэчы Паспалітай і на тэрыторыі першага падзелу. Яна таксама дыферэнцыравалася ў залежнасці ад статуса святара, яго месца ў касцёльнай іерархіі.

На ўсходзе Беларусі найвялікшы след у духоўным жыцці другой паловы XVIII-першых дзесяцігоддзяў XIX стст. пакінулі, безумоўна, іезуіты. Іншыя каталіцкія законы, знаходзячыся ў становішчы «цярпімых», не важыліся разгортваць актыўную культуратворчую дзейнасць, стараючыся захаваць хаця бы ўжо здабытае.

Пакідаючы іезуіцкі закон насуперак папскаму брэве, Кацярына II не толькі паказвала Еўропе моц сваей ўлады (тое самае зрабіла і Прусія), але таксама акрэсліла для каталікоў новадалучаных земляў свае прэрагатывы ў стасунку да рэлігійных справаў і паставіла ў залежнасць ад сябе гэтую буйнейшую каталіцкую арганізацыю. У час першага падзелу Рэчы Паспалітай, калі лёс закону іезуітаў яшчэ не быў вядомы, частка з іх вярнулася ў краіну з аддзеленых ад яе земляў. Па дадзеных Я.Паплатка з усіх тэрыторыяў першага падзелу- не толькі расійскіх - да Рэчы Паспалітай прыбыла 26 іезуітаў.[1] Тыя, што засталіся на ўсходнебеларускіх землях - каля дзвюх соцен чалавек [2]- зрабілі свой выбар паміж былой Айчынай і новым падданствам, аддаючы перавагу абжытым месцам службы. Яны здолелі знайсці сваё месца ў новых для сябе палітычных умовах.

Ці былі ў пазіцыі сяброў закону, застаўшыхся ў Імперыі, элементы валенрадызма? Цяпер аб гэтым цяжка разважаць, бо падобных праяў ментальнасці не зафіксавана мемуарыстыкай. Абвінавачванні ў «каталіцкай інтрызе», якія на працягу поўстагоддзя - да забароны закону ў імперыі ў 1820 г. - неаднаразова чуліся ў адрас іезуітаў з боку расійскага афіцыёзу, не могуць служыць аб'ектыўным доказам гэтага. Пэўна, частка іезуітаў свядома засталася ва ўсходняй Беларусі дзеля падтрымкі тут «цярпімага» у імперыі веравызнання. Частцы не засталося іншага выбару пасля забароны закону летам 1773 г. Некаторыя асобы, як, да прыкладу, Ян Беніслаўскі[3], свядома перакрочылі ўсходнюю мяжу пасля першага падзелу, не безспадстаўна лічачы тут знайсці поле для дзейнасці. Некаторую ролю ў хуткай адаптацыі іезуітаў у новых палітычных умовах адыграў уласцівы сябрам закону касмапалітызм.

Іезуіты добра разумелі сваё становішча ў імперыі ў часы Кацярыны II. Прычыны свайго лаяльнага стаўлення да іх імператрыца

[1] Popiatek J. Dz.cyt.- S.31.
[2] Михневич Д.Е. Указ.соч. - С.299.
[3] Popiatek J. Dz.cyt.- S.283.

акрэсліла трапнай фразай : «Трэба прызнацца, што гэтыя прайдзісветы - выдатныя людзі. Нідзе яшчэ не маглі наладзіць што-небудзь падобнае іх школам, хаця і абрабавалі іх дзеля гэтай мэты».[1] Таму ўдасканаленне сістэмы асветы ў іезуіцкіх калегіюмах пасля далучэння да Імперыі выклікана было, як можна меркаваць, не толькі жаданнем адпавядаць патрэбам часу, але і палітычнымі матывамі. Пакуль іезуіты маглі даць высокую на тыя часы адукацыю мясцовым нобілям, яны былі патрэбныя дзяржаве, нягледзячы на сваю рэпутацыю празелітаў каталіцызму. Менавіта на гэтым шляху праяўлялася іхняя грамадская актыўнасць. Дынамізм ментальнасці, выказаны здольнасцю прыстасавацца да змяняючыхся палітычных умоваў, захаваў у той час за іезуітамі першае месца сярод іншых каталіцкіх законаў. У адрозненні ад дамініканаў, францысканаў, бернардынаў і г.д., якія, нягледзячы на забарону мець непасрэдныя стасункі з Рымам, падтрымлівалі сувязі са сваімі братамі з-за заходняй мяжы, іезуіты ў гэтым сэнсе апынуліся ў ізаляцыі і маглі разлічваць толькі на свае сілы. У гэтых умовах іезуіцкія калегіюмы не маглі даць таго напалу польска-літвінскага патрыятычнага выхавання, што давалі каталіцкія навучальныя ўстановы за заходняй мяжой. Існуючы дзякуючы новым уладам, так ці інакш яны павінны былі выказваць лаяльнасць у стасунку да іх і адпаведна гэтаму кшталтаваць ідэйны змест сваей выхаваўчай праграмы.

Іезуіты, як і большасць каталіцкіх манахаў, не складалі аднастайнай варствы ні ў сэнсе адукаванасці, ні па асабістых якасцях. На адным полюсе знаходзіліся асобы еўрапейскага інтэлекту і строгіх звычаяў, як, да прыкладу, рэктар Полацкага калегіюма прафесар архітэктуры Габрыель Грубер; на другім - постаці накшталт віцебскіх іезуітаў Г.Жылінскага, Ф.Новачка і Г.Іваноўскага, якіх у п’янстве і разбэшчанасці абвінавачвалі іх калегі.[2]

Наступ на заваёвы Асветніцтва, распачаты іезуітамі пасля 1795 г., цалкам лагічна кладзецца на ролю, якую закон узяў на сябе ў Імперыі. Захоўваючы закон, Кацярына II разлічвала набыць добрую прыладу для барацьбы з вальнадумствам у каталіцкім асяроддзі. Менавіта ў якасці такой прылады іезуіты былі выкарыстаны і Паўлам I, і ў час, калі Аляксандр I пачаў адыходзіць ад рэфарматарскага курсу. Але, калі ў першым выпадку іезуіты адчувалі сваю патрэбу як айцоў-настаўнікаў, то ў аляксандраўскія часы, зважаючы на імклівы рост свецкай адукацыі, гэта роля паступова зыходзіла на нішто. Забарона закону ў 1820 г., выкліканая, найперш, знешнепалітычнымі прычынамі (аднаўленне

---

[1] Сборник материалов для истории просвещения в России, извлеченных из Архива Министерства народного просвещения. - Т. 1 - С.LI.
[2] Блинова Т.Б.Иезуиты в Белоруссии.- М.1990. - С.38-39.

закону папам у 1815 г.) і зменай палітыкі ў бок падтрымкі праваслаўя, азначала ў тым ліку, што іезуіцкая культуртрэгерская дзейнасць ужо не задавальняла ўлады ні па форме, ні па зместу. Прывілегіі, нададзеныя іезуітам спачатку Кацярынай II, а затым Паўлам I, нягледзячы на некаторыя іх абмежаванні ў аляксандраўскія часы, паставілі закон у аўтаномнае становішча ў стасунку да грамадзянскіх улад[1]. Неаднаразовыя спробы ўключыць іезуітаў у агульную сістэму кіравання каталіцкай канфесіяй, не прывялі да станоўчых вынікаў.[2] У час узмацнення палітыкі уніфікацыі такая аўтаномная структура ў дзяржаве была непатрэбнай і небяспечнай.

У культурным сусвеце беларускіх земляў іезуіты з'яўляліся ўвасабленнем адыходзячай эпохі, архаізмам, які, аднак, не жадаў саступаць сваіх пазіцый. Пакуль асвета на ўсходзе Беларусі знаходзілася ў руках іезуітаў, усходнебеларускай шляхце, складаўшай пераважную частку выхаванцаў калегіюмаў, наканавана было адставаць ва ўзроўні адукаванасці і асветленасці ад сваіх заходніх кампатрыётаў.

На заходніх і цэнтральных землях Беларусі роля каталіцкіх святароў у культурных пераўтварэннях была надзвычай значнай. Пазіцыя касцёла ў рэфармаванні не толькі культурнага жыцця, але і ўсяго грамадскага ладу акрэслівалася, найперш, статусам каталіцтва, як дзяржаўнай рэлігіі Рэчы Паспалітай. Нягледзячы на тэндэнцыю да размежавання касцёла і дзяржавы, да канца існавання Рэчы Паспалітай і ў свядомасці насельніцтва, і ў штодзённым палітычным і грамадскім жыцці гэтая сувязь заставалася вельмі трывалай.[3] Вышэйшыя каталіцкія іерархі займалі важныя дзяржаўныя пасады і з'яўляліся дэпутатамі Сейму. Крах Рэчы Паспалітай азначаў для каталіцкага святарства страту пануючай ролі ў дзяржаве.Таму, менавіта, рэфармаванне краіны, у тым ліку, сістэмы асветы, і для яго было жыццёва важным.

Рэфармаванне сістэмы асветы прыносіла шмат каму з вышэйшых каталіцкіх іерархаў фінансавыя і палітычныя набыткі. Паколькі ў распараджэнне КНА былі аддадзены паіезуіцкія фундушы, тыя, хто

---

[1] «...тут у губерні, - пісаў ў 1816 г. у час свайго падарожжа па Беларусі будучы імператар Мікалай I, - 37 каталіцкіх кляштараў, з іх амаль палова іезуіцкіх, выхоўваючых юнацтва ўсіх веравызнанняў... усякі дзень наварочваюць яны ў сваю веру маладых людзей і паколькі цалкам аддзелены ад грамадзянскіх улад, нават іхнія маёнткі, то што дня адбываюцца завірушэнні і непарадак». - Корф М. Материалы и черты к биографии императора Николая I и к истории его царствования. Рождение и первые двадцать лет жизни.// СИРИО. - Т.98 - СПб, 1896. - С.93.

[2] Спробы падпарадкавання каталіцкіх законаў уладзе арцыбіскупа, які сам залежаў ад Сынода, беспаспяхова рабіў С.Богуш-Сестранцэвіч. - Дневник Сестренцевича... - Ч.1 - С.8.

[3] Dyl№gowa H. Dz.cyt. - S.16-21.

паспеў далучыцца да гэтай «кармушкі», няблага на ёй зарабілі. Дастаткова ўзгадаць біскупа Масальскага, які ў час работы ў раздатачнай камісіі, ствараючы парафіяльныя школы, адкрываючы семінарыю і г.д., адначасова не забываўся і пра ўласную кішэнь[1]. Існаванне вялізарных паіезуіцкіх фундушаў, з якіх іншыя каталіцкія законы маглі скарыстаць у выпадку іх удзелу ў пачынаннях КНА, адыграла, безумоўна, важную ролю ў далучэнні святарства да распачатай ў Рэчы Паспалітай рэформы.

З усіх каталіцкіх законаў, што займаліся навучаннем, найбольш важкім на пачатковым этапе Асветніцтва быў даробак піяраў.[2] Піяры здавён былі канкурэнтамі іезуітаў на ніве асветы, што вымагала іх імкнуцца да ўдасканалення формаў, метадаў і зместу навучання. Менавіта з піярскага асяроддзя выйшлі першыя спробы рэфармавання асветы ў Рэчы Паспалітай (Рыцарская школа Канарскага). З усіх законаў піяры па колькасці школ саступалі толькі бызыльянам[3], гэта пры тым, што яны не былі самым заможным манаскім аб’яднаннем. Ангажаванасць закону ў справы асветы тлумачылася, канешне, самім характарам аб’яднання - гэта быў закон навучальны. Піяры далі асвеце І.Страйноўскага, С.Юндзіла, К.Нарбута, А.Паплаўскага, Багуслаўскага і многіх іншых буйных дзеячоў. У адрозненні ад сваіх калег з іншых каталіцкіх законаў, шмат хто з манахаў-піяраў быў схільны да вальнадумства. Не даходзячы да адкрытага атэізму, І.Страйноўскі, А.Паплаўскі, А.Доўгірд і некаторыя іншыя схіляліся да дэізму, а ў грамадскіх навуках былі прыхільнікамі фізіякратаў.[4] Стасунак да веры каталіцкага святарства паказвае і іх удзел у масонскіх арганізацыях, ідэалагічныя прынцыпы якіх толькі ў пэўнай ступені адпавядалі вучэнню каталіцкай царквы.[5] Піяры выступілі саюзнікамі КНА і прытрымліваліся гэтай пазіцыі на працягу ўсяго часу яе дзейнасці.

Астатнія каталіцкія законы ў большай ці меньшай ступені таксама прычыніліся да стварэння новага культунага асяроддзя. З іх найвялікшы даробак на гэтай глебе мелі дамінікане, бернардыны, кармеліты.

---

[1] Ibidem, S.14.

[2] Праца піяраў у галіне асветы, кніжнай справы і навукі грунтоўна прааналізавана полскімі навукоўцамі ў спецыяльнай рабоце.- Wkiad pijaryw do nauki i kultury w Polsce XVIII-XIX w. /Pod red. Ireny Stasiewicz-Jasiukowej. - Warszawa-Krakyw, 1993. Яна, на жаль, носіць рысы апалогіі, што зразумела, зважаючы на выданне яе самім законам піяраў.

[3] Beauvois D. Dz.cyt -T.II - S.147-148.

[4] Creњkowiak-Krwawicz A. Wkiad pijaryw w ksztaitowanie politycznej kultury szlachty w czasach stanisiawowskich.// Wkiad pijaryw do nauki i kultury w Polsce XVIII-XIX w. - S. 133.

[5] Dyl№gowa H. Dz.cyt. - S.30.

Асобныя з іх, як, да прыкладу, марыявіткі, «спецыялізаваліся» у асобных галінах асветы. Апошнія, апрача навучання дзяўчынак, асвятлялі таксама навернутых у хрысціянства іудзеяў. Гэтым жа займаліся і місіянеры.

У час правядзення рэформы асветы ў Рэчы Паспалітай каталіцкія законы, за выключэннем піяраў, занялі неспрыяльную, ці нейтральную ў стасунку да КНА пазіцыю, што вылівалася ў адкрыццё «нелегальных» школ і ўвядзенне ўласных навучальных праграм.[1] Але гэта, хутчэй, быў не столькі абскурантызм, сколькі звычайная канкурэнцыя: утрымліванне школ давала аўтарытэт і прыносіла фінансавыя набыткі ў выглядзе ахвяруемых фундушаў і выплат за ўтрыманне шляхецкіх дзяцей. Па падліках В.Смаленскага з 100 настаўнікаў-ксянзоў, якія дзейнічалі на тэрыторыі Рэчы Паспалітай, 80 былі ўяўнымі прыхільнікамі змен у сістэме і змесце навучання.[2] Г.Дылянгова лічыць, што нават улічваючы памяркоўнасць ксянзоў-рэфарматараў, манаскія школы здолелі даць сваім выхаванцам падставы навук, а астатняе зрабіла тагачасная публіцыстыка.[3] Што ж датычыцца экс-іезуітаў, яны паставіліся да рэформы асветы па-рознаму. Адныя з іх, як М.Пачобут-Адляніцкі, Г.Пірамовіч рупліва працавалі на карысць свецкай школы. Не бракавала і тых, хто прафанаваў праграмы і рэкамендацыі КНА. С.Кот менавіта ў экс-іезуітах бачыць галоўных натхніцеляў адступлення ад рэфарматарскага курса ў канцы 1788 -х гадоў, калі былі павялічаны курсы рэлігійных дысцыплін і класічных моваў за кошт натуральных і грамадазнаўчых навук.[4]

Роля каталіцкага святарства ў асвеце на завяршальным этапе Асветніцтва - у 1810-я-1820-я гг. - значна паменьшылася. Гэта было натуральна, зважаючы на з’яўленне вялікай колькасці свецкіх настаўнікаў і развіццё свецкай школы. Захоўваючы манаскія школы, кіраўніцтва Віленскай навучальнай акругі пакідала за святарствам толькі права іх фінансавання, усё ж астатняе, уключаючы прызначэнне выкладчыкаў, пераходзіла ў рукі універсітэта і школьнай адміністрацыі. Аб страце святарствам кіруючых пазіцый у асвеце сведчаць тэмпы росту навучальных установаў у акрузе: за два дзесяцігоддзі ў свецкіх навучальных установах колькасць вучняў павялічылася ўдвая, у манаскіх жа засталася на ранейшым узроўні.[5] Выцісканне законаў са сферы сярэдняй і вышэйшай адукацыі дакладна прааналізавана Д.Бавуа,

---

[1] Самусік А.Ф.Згад.твор. - С.9.
[2] Smoleński W. Przewryt umysiowy w Polsce wieku XVIII.- Warzsawa, 1926. - S. 164.
[3] Dyl№gowa H. Dz.cyt. - S.28.
[4] Kot S. Dz.cyt. - S. 14-15.
[5]Beauvois D. Dz.cyt. -T. II - S.148.

які робіць выснову аб свядомым і мэтанакіраваным дзеянні ў гэтым накірунку кіраўніцтва Віленскай навучальнай акругі. Пры чым такая пазіцыя стасавалася не толькі ў стасунку да іезуітаў, але і да «саюзнікаў» віленскіх асветнікаў - піяраў, дамініканаў і інш.[1]

Не апошнюю ролю ў «выцісканні» каталіцкага святарства з кіруючых роляў у культурным жыцці ў XIX ст. адыграла іх становішча ў новай дзяржаве. Толькі ў выпадку, калі каталіцкі святар шматразова падцвярджаў сваю лаяльнасць да ўладаў і сваеасаблівы расійскі патрыятызм, ён мог стаць значнай постаццю ў культурным і грамадскім жыцці рэгіёна. Найбольш красамоўны прыклад гэтага С.Богуш-Сестранцэвіч, мемуары якога красамоўна сведчаць аб ягоным шчырым жаданні служыць мэтам урада і не ўтрымліваюць настальгіі па былой Рэчы Паспалітай. Менавіта С.Богуш-Сестранцэвіч на працягу дзесяцігоддзяў быў, бадай што, найбольш значнай сярод каталіцкіх святароў фігурай у палітычным і культурным жыцці Імперыі .

Падобна да становішча ў асвеце складвалася друкарская дзейнасць каталіцкіх законаў. У апошнія дзесяцігоддзі Рэчы Паспалітай ільвіная доля ўсёй друкарскай прадукцыі выдавалася ў каталіцкіх друкарнях. У іх рэпертуары, калі ўлічваць і судовыя дакументы, было больш свецкіх, чым рэлігійных выданняў. Існавала друкарская клерыкальная цэнзура, але часцей яна мела фармальны характар. У першыя дзесяцігоддзі XIX ст. свецкія прыватныя друкарні пачынаюць паспяхова канкурыраваць з манаскім друкам, урэшце адбіраючы ў яго прыярытэт у гэтай галіне.

Свецкі клір меньш адзначыўся на ніве асветы, на ім, галоўным чынам, ляжаў абавязак утрымання парафіяльных школ, дзе патрэбны былі толькі элементарныя веды. У час КНА адкрыццё парафіяльных школ першапачаткова было ўспрынята ксяндзамі без энтузіязма. Праграмы, якія рэкамендаваліся Камісіяй, былі накіраваны не на падрыхтоўку «служак для касцёла», а менавіта на свецкую адукацыю. Каб прымусіць белае святарства да адкрыцця школ, ваенна-грамадзянскія камісіі, створаныя згодна рашэнню Вялікага сейма, нават абавязалі свецкі клір складаць спецыяльныя рапарты аб колькасці дзяцей, якія наведваюць школу ў яго парафіі.[2] Але і тут сустракаліся высокаадукаваныя асобы, сапраўдныя руплівцы народнай асветы і працаўнікі на ніве літаратуры. Прыгадаем у іх ліку М.Карповіча, Ю.Касакоўскага, Ю.Леговіча і іншых.

Па падліках Е.Александроўскай, каталіцкія святары - белыя і манахі - складалі значную частку пісьменнікаў, якія працавалі ў Рэчы Паспалітай на пачатковым этапе Асветніцтва. З 534 літаратараў,

---

[1] Ibidem, S.150-154.
[2] Kot S. Dz.cyt. - S. 45.

улічаных даследчыцай, святарамі былі 195 чалавек (36,9%), з іх дзве трэці з’яўляліся белымі ксяндзамі ўсіх рангаў.[1] Каталіцкае святарства абслугоўвала, галоўным чынам, духоўныя запатрабаванні мясцовай шляхты. Толькі на захадзе Беларусі, дзе была сканцэнтравана большая частка католікаў-сялян і мяшчан, дзейнасць каталіцкіх святароў пашыралася і на гэтыя варствы насельніцтва.

Ангажаванасць каталіцкага і уніяцкага святарства ў працэс фармавання новай культуры, якая, апрача іншага, несла з сабой рэлігійны індэферэнтызм і нават атэізм, з’яўлялася адметнасцю Адраджэння на беларускіх землях. Святары ўласнымі рукамі рыхтавалі ў сваіх навучальных установах людзей, якім перадвызначана было ў будучым адсунуць іх з першых роляў у культурным жыцці.

Культурны сусвет шляхты ў другой палове XVIII ст.- першыя дзесяцігоддзі XIX ст. быў больш дынамічны, чым у іншых варстваў грамадства. Разам са святарствам шляхта на беларускіх землях з’яўлялася захавальніцай і стваральніцай ардадамінантнай культуры.

Гісторыя шляхты знайшла ўсебаковае і грунтоўнае асвятленне ў польскай і беларускай гістарыяграфіі. Фактычна, амаль уся палітычная гісторыя Рэчы Паспалітай гэтых часоў - матэрыял для аналізу жыцця, светаўспрымання «палітычнага народу», пад найменнем каторага выступала ў XVIII ст. шляхта. Хапае тут і спецыяльных работ, прысвечаных ацэнцы ролі нобіляў у культурным і грамадскім жыцці і аналізу іх менталітэту.[2] Грунтоўна і шматбакова вывучалася беларускімі, літоўскімі і расійскімі даследчыкамі сацыяльнае і матэрыяльнае становішча шляхты далучаных па першаму падзелу беларускіх земляў.[3]

---

[1]Aleksandrowska E. Pijarzy w њrodowisku pisarzy polskiego Oњwiecenia.// Wkiad pijaryw do nauki i kultury w Polsce XVIII-XIX w.- S. 37.

[2] Гл.напыкл.:Smoleński W. Przewryt umysiowy w Polsce; Topolski J.Rozbiory Polski i ich wpiyw na mentalnoњж Niemcyw i Polakyw.// Studja Historica slawo-germanica.-T.4 - Poznac, 1975. - S.3-14; Tazbir J. Kultura szlachecka w Polsce.Roskwit, upadek, relikty.- Warzsawa,1979; Jedlicki J. Polskie nurty ideowe lat 1790-1863.//Swojskoњж a cudoziemszczyyna w dziejach kultury polskiej - Warszawa, 1973- S.110-128; Свирида И.И. Культура польского Просвещения и ее адресат// Славянские и балканские культуры XVIII-XIX вв.- М.,1990. - С.90-104;

[3] Кернажыцкі К.І. Гаспадарка прыгоннікаў на Беларусі ў канцы XVIII- першай палове XIX ст.- Мн.,1935; Жукович П.Н. Управление и суд в Западной России в царствование императрицы Екатерины II// Журнал министерства народного просвещения. № 2-5, 7, Ч.49 - СПб,1914; Ючас М.А. Литовская шляхта и царизм в XVIII в.(по материалам шляхетских сеймиков).// Феодальная Россия во всемирно-историческом процессе.- М.,1972; Козловский П.Г. Магнатское хозяйство Белоруссии во второй половине XVIII в. - Мн.,1974; Он же. Землевладение и землепользование в Белоруссии в конце XVIII - XIX вв. - Мн., 1985; Туміловіч Г.Н.

Найвялікшы і найбольш падмацаваны крыніцамі задзел па гэтай праблеме зрабіў у апошнія гады Я.Анішчанка.[1] Гэтыя дадзеныя дазваляюць з дастатковай дакладнасцю ўявіць той матэрыяльны і прававы падмурак, на якім будавалася шляхецкае жыццё, і засяродзіць ўвагу на асобных праблемах культурнай дзейнасці нобіляў.

У асяроддзі шляхты больш за іншыя варствы беларускага грамадства вызначыўся падзел на Усход і Захад, уласцівы сацыяльна-палітычнай і культурнай сітуацыі на беларускіх землях апошніх дзесяцігоддзяў XVIII ст. Усход і захад Беларусі яшчэ напярэдадні падзелаў адрозніваліся па колькасці прывілеяаванага насельніцтва, ягонай заможнасці, характары і памерах землеўладання. Колькасць шляхты, якая пражывала ў беларускіх уездах далучаных па першаму падзелу тэрыторый, паводле дадзеных К.Анішчанкі складала каля 20 тыс. чалавек мужчынскага полу[2]. Большасць сярод іх - дробныя і сярэднія, маючыя 1-4 вескі, памешчыкі[3]. Заможнымі лічыліся Салагуб, Шчыт, Сілістроўскі, Корчак, Лускіны, Платар і некалькі іншых. Найбольш вялікія зямельныя ўладанні - Агінскага, Радзівіла, Паца, Мнішка, Чартарыйскага былі секвестраваны.

На захадзе і ў цэнтры Беларусі шляхта і магнаты складалі ад 8 да 12% усіх жыхароў.[4] Маёмасная і сацыяльная стратыфікацыя нобіляў тут была надзвычай вялікай. На гэтай тэрыторыі месціліся найбуйнейшыя латыфундыі і былі радавыя гнёзды літвінскіх магнатаў, тут жа знаходзілася значная колькасць «шарачковай» шляхты, большасць з якой была кліентамі мясцовай магнатэрыі.

Далучаючы землі ўсходняй Беларусі да імперыі, Кацярына II абвяшчала нетыкальнымі раней існуючыя маёмасныя і прававыя

---

Дваранства на Беларусі ў канцы XVIII- першай палове XIX стстС.// Беларускі гістарычны часопіс- 1997- №4. - С.53-59 і інш.

[1] Анішчанка Я.К. Прававы статус беларускіх земляў у палітыцы адміністрацыі Кацярыны II.// Весці АН Беларусі. Сер.грам.навук. 1994,№2 - С. 61-70; Ён жа Сеймавы праект 1788 года і яго рэалізацыя царызмам// Там жа., 1991- № 5. - С.56-65 і інш.

[2] Туміловіч Г.Н. Указ.твор. - С. 55. Дадзеныя камеральнага апісання сярэдзіны 70-х гг. даюць лічбу ніжэйшую на парадак -1552 шляхціча- (РГАДА, ф. 12, д.159, л. л. 137, 167.), але тут, магчыма, ідзе гаворка аб памешчыках, якія мелі акрэсленую колькасць зямлі і прыгонных

[3] Там жа, лл.2,7, 9-13. Гэтыя дадзеныя падцвярджаюцца маёмасным станам дваранскіх выбаршчыкаў Полацкай губерні 1789 гг. - Анішчанка Я.К. Дваранскія выбары ў Полацкім намесніцтве 1789 г.// Весці АН Беларусі.Сер.гуманіт.навук. № 3-4. - С.51.

[4] Грыцкевіч А. Беларуская шляхта// Спадчына, 1993,№ 1 - С.13. Лічбу ў 10 -12% называе А.Грыцкевіч для Слуцкага павета.- Грыцкевіч А.Рэгіянальная культура Случчыны ў XVI-XVIII стст.// Беларусіка -3 - С.25.

прывілегіі мясцовай шляхты.[1] На самой справе, як і многае іншае, гэтая акцыя мела, хутчэй, рэпрэзентатыўны характар. Рэгламентацыя і уніфікацыя грамадскага жыцця Усходняй Беларусі, якая праводзілася новымі ўладамі з першых гадоў панавання, не пакідала месца былой шляхецкай вольнасці.[2] На некалькі дзесяцігоддзяў гэтыя землі фактычна знаходзіліся на ваенным становішчы, паколькі ў гарадах і буйных мястэчках былі расквятараваны значныя вайсковыя сілы.[3] Шляхі і спосабы абмежавання правоў шляхты, якія праводзіў урад, падрабязна падаюць ў сваіх працах Я.Анішчанка і І.Ільяшэвіч. [4]

Шляхта ўсходніх земляў Рэчы Паспалітай пасля першага падзелу дазнала, карыстаючыся выразам А.Кемпиньскага, пэўны «культурны шок»[5]. Той сусвет, які раней уяўляўся замежжам, цяпер імкліва ўкрочваў у паўсядзённае жыццё. Гвалтоўныя палітычныя пераўтварэнні нізводзілі мясцовых нобіляў да ролі статыстаў, не дазваляючы праявіць ні грамадскую, ні сацыяльную, ні палітычную актыўнасць. Шляхта была адсунута ад кіруючых пасадаў у новаўтвораных адміністратыўных адзінках, куды прызначаліся расійскія чыноўнікі. Шляхецкае самакіраванне выконвала толькі рэпрэзентатыўныя функцыі, знаходзячыся пад наглядам расійскай адміністрацыі.[6]

Ва ўмовах, калі сацыяльна-палітычнае жыццё дазнавала значных зменаў, да якіх цяжка было адразу прызвычаіцца, шляхціч павінен быў знаходзіць пацеху ў касцёле, у хаце і ў карчме. Вольны час нобіля часцей займала «паляванне і баляванне». «Шляхта, - пісаў аб гэтых

---

[1] Белоруссия в эпоху феодализма.Т.3 - Мн,1961. - С.26.

[2] Палітыка прыхаванай уніфікацыі далучаных тэрыторый, прыкрытая дэкларацыяй аб захаванні былых традыцый і правоў, не была вынаходніцтвам толькі расійскага ўраду. У тым самым накірунку дзейнічаў і Фрыдрых II ў сваей частцы забраных земляў Рэчы Паспалітай. - B?melburg H-J.Przemiany mientalnoњci elit stanowych w Prusach Krylewskich-Prusach Zachodnich (1772-1806)//Ziemie Pyinocne Rzeczypospolitej Polsko-Litewskiej w dobie rozbiorowej. - S.13-22.

[3] Па дадзеных на 1772-1775 гг. у кожным з іх было размешчана па батальёну з 5 рот і інвалідныя каманды. Ва ўсіх гарнізонах, не лічачы інвалідных каманд, вайсковай і паўвайсковай адміністрацыі і г.д. налічвалася каля 7 тыс. чалавек. - РГАДА, ф. 12, д.159, л. л. 127-129, 156 об.

[4] Анішчанка Я.К. Прававы статус беларускіх земляў у палітыцы адміністрацыі Кацярыны II.; Ён жа. Дваранскія выбары ў Полацкім намесніцтве 1789 г.; Ільяшэвіч І. Указ. твор.- С.23-24.

[5] Ккpicski A. - Dz.cyt.- S.68.

[6] Шелкопляс В.А. Асаблівасці мясцовых органаў кіравання і суда ў Беларусі ў канцы XVIII- пач. XIX ст.// Весці АН БССР. Сер. грамадскіх навук, 1972. - № 2. - С.52-53; Анішчанка Я.К.Беларусь у часы Кацярыны II. - С.116-128.

часах Г.Дабрынін, - выключаючы магнатаў, разышоўшыся па корчмам, тракцірам, ела, піла, забаўлялася і ў карты гуляла».[1]

На ўсходзе Беларусі ў апошнія дзесяцігоддзі XVIII ст. не было ні адзінай значнай сферы культурнага жыцца, дзе мог бы малады шляхціч праявіць свой талент і здольнасці. Адсутнічала публіцыстыка, якая на захадзе выконвала важную выхаваўчую функцыю. Тэатральнае мастацтва фукцыянавала ў выглядзе прыгонных і школьных (калегіюмы) тэатраў. Першыя мелі закрыты характар і не працавалі на асвету, другія былі яшчэ цалкам барочнай з'явай і, у адрозненні ад камерцыйнага тэатру Рэчы Паспалітай, не выконвалі сацыяльнага заказу.

Асветніцтва, не закрануўшае на ўсходзе Беларусі глыбінныя варствы набілітэту, не прынесла значных зменаў у іх светаўспрыманне, не паўплывала карэнным чынам на «сарматскую» ментальнасць шляхты. Дрэнна адукаваны (вяршыняй адукацыі тут мог быць іезуіцкі калегіюм, у лепшым выпадку - Шклоўскі кадэцкі корпус, выхаванцы якога, праўда, не затрымліваліся ў Беларусі), разгублены ў новай сацыяльна-палітычнай сітуацыі - такі чалавек не адпавядаў тыпу асветленай асобы, здольнай на мецэнатства, прадпрымальнасць і творчасць. Да таго ж праявы самастойнага мыслення рашуча душыліся з дапамогай мясцовай адміністрацыі.[2] Фактычна, гэтае пакаленне нобіляў, якое ва ўмовах Асветніцтва магло даць значны культурны плён, было страчана для Беларусі. Больш таго, страчаным апынулася і пакаленне, якое нарадзілася ўжо пасля падзелу. На працягу амаль дваццаці год (да адкрыцця першага народнага вучылішча) мясцовыя шляхцічы не маглі атрымаць паўнавартасную свецкую адукацыю, не мелі магчымасці сацыяльнага авансу (выключэннем магла быць вайсковая кар'ера, але яе абіралі адзінкі, пераважна, выхаванцы Шклова), што абумоўлена было становішчам беларускіх земляў ў Расійскай імперыі. Ды і пасля адкрыцця вучылішчаў месцам адукацыі для мясцовай шляхты па-ранейшаму заставаліся манаскія навучальныя ўстановы, дзе навучанне заснавана было на старых прынцыпах.

Не дзіўна таму, што ўсход Беларусі не даў ніводнага значнага дзеяча шляхецкага паходжання ні ў адной галіне культурнага, палітычнага, грамадскага жыцця на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў.

---

[1] Добрынин Г.Указ.соч. - С.194.

[2] Прыгадаем справу сталаначальніка Магілёўскай скарбовай палаты Сімановіча, які за вершы супраць імператрыцы быў сасланы ў Сібір. - Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. - С.272. Паказальна і справа, звязаная з «фрондай» мясцовай шляхты ў час выбараў у 1789 г., аб якой ужо згадвалася.

Выключэннем тут можа быць С.Богуш-Сестранцэвіч[1], ды і ён пасля прыняцця сану не аднасіўся ўжо да шляхецкага саслоўя.

Буйныя зямельныя дараванні, зробленыя Кацярынай II, прывялі да стварэння на ўсходзе Беларусі новага тыпу ўладальнікаў - расійскіх саноўнікаў, былых і актуальных імператрыцыных фаварытаў, вышэйшага расійскага чынавенства. Частка з іх - Зорыч, Чарнышоў, Пасек - жылі стала, ці часта бывалі ў сваіх беларускіх уладаннях, частка - Румянцаў, Панін і іншыя - кіравалі цераз давераных асоб і здавалі зямлю і прыгонных у арэнду. Менавіта гэтыя асобы маглі быць на ўсходзе Беларусі носьбітамі асветніцкай ідэалогіі, мецэнатамі. Але ні Зорыча, ні Чарнышова, якія былі тут утрымальнікамі тэатраў, рэфарматарамі школьнай справы (Зорыч) і г.д., нельга ў поўным сэнсе лічыць часткай тагачаснага беларускага грамадства. Яны былі тут маргіналамі, эксперыментавалі ў новаатрыманых маёнтках, не клапоцячыся аб уплыве сваёй дзейнасці на стан асветленасці навакольнага грамадства. Шклоўскі кадэцкі корпус, у прыватнасці, не быў уласна мясцовай навучальнай установай - ён размяшчаўся на беларускіх землях, але ў склад ягоных вучняў рэкрутаваліся падлеткі з усёй тэрыторыі імперыі і нават з-за яе межаў. Прыгонныя тэатры расійскіх саноўнікаў мелі закрыты характар, або дзейнічалі толькі ў час прыбыцця на Беларусь высокіх асобаў. За рэдкім выключэннем расійскія вяльможы, якія жылі на Беларусі, выконвалі тут адміністратыўныя функцыі, што ставіла іх у асобны стасунак да мясцовай шляхты. Выхаванне, мова, стан гэтай асобы як прадстаўніка чужой адміністрацыі - усё гэта рабіла немагчымым іх арганічнае ўключэнне ў мясцовае культурнае асяроддзе. Расійскае чынавенства ўсіх рангаў утварала ў той час на беларускіх землях замкнёную групу, са сваімі карпаратыўнымі інтарэсамі, іерархіяй, ладам паўсядзённага жыцця і г.д. Падзел расіянамі навакольнага асяроддзя па прынцыпу «свае-чужыя», у якім ролю чужых выконваюць мясцовыя жыхары, а ролю «сваіх» - прыезжыя расійцы, добра прасочваецца ў мемуарах.[2]

У адрозненні ад усходнебеларускіх земляў у Рэчы Паспалітай другая трэць XVIII ст. была часам нязвыклай палітычнай актыўнасці ўсіх варстваў набілітэту. Калі ў першыя гады Станіслава Аўгуста палітычная барацьба ў краіне была, найперш, барацьбой магнатаў, і менавіта яны адыгрывалі найбольш важную ролю ў лёсах краіны, у

[1] Ф.Князьнін і Ф.Багамолец, хоць і нарадзіліся на ўсходзе, але стала жылі на заходніх землях Беларусі.
[2] Пишчевич А.С. Жизнь Пишчевича, им самим описанная. 1764-1805 - ЧОИДР - Кн.2, отд.1. - С.113-273.; Лубяновский Ф.П.Воспоминания. - М.,1872; Добрынин Г.Указ.соч. и др.

канцы стагоддзя назіраецца хуткі аванс шляхты. Апошняе меркаванне падмацоўваецца лёсамі Т.Касцюшкі, Я.Ясінскага, іншых дзеячоў паўстання 1794 г. Вастрыня праблемаў, якія стаялі перад грамадствам Рэчы Паспалітай, складанасць сацыяльна-эканамічнай і палітычнай сітуацыі прыводзіла да ўзнікнення сярод набілітэту груповак рознай палітычнай арыентацыі. Далучэнне да любой з іх, незалежна ад мэтаў, дзеля якіх гэта рабілася, з'яўлялася асабістым і, за рэдкім выключэннем, свабодным волевыяўленнем шляхціча. Яно вымагала ад асобы актыўнай грамадскай паставы. Не ўсе без вынятку нобілі былі захоплены палітычнай барацьбой, хапала і тых, хто жыў толькі праблемамі сваёй гаспадаркі.[1] Але такіх было няшмат. Традыцыя сеймікавання, не скасаваная тут, як на ўсходнебеларускіх землях, давала прастору палітычнай актыўнасці і нават мімаволі ўцягвала шляхту ў палітычнае жыццё краіны. А ўдзел у палітычным жыцці патрабаваў адукацыі, калі толькі чалавек не хацеў заставацца на ролі статыста. Асабліва ўзрастае палітычная і грамадская актыўнасць шляхты ў час, калі на арэну палітычнага і грамадскага жыцця выходзіць новае пакаленне, узгадаванае ў часы Асветніцтва.

Адаптацыя ідэалогіі Асветніцтва і новых культурных інстытутаў шляхецкім грамадствам ВКЛ не была раптоўнай. Інэрцыя мыслення, уласцівая правінцыйнай шляхце, запавольвала прадпрынятую асветнікамі адукацыйную рэформу. Пасля секулярызацыі іезуіцкіх навучальных установаў колькасць вучняў у адкрытых на іх месцы свецкіх школах паменьшылася амаль на трэць. У свецкія школы пайшлі, у большасці, дзеці дробнай і беззямельнай шляхты, а магнатэрыя лічыла за лепшае пасля хатняга выхавання пасылаць нашчадкаў за мяжу.[2] Але ўжо праз дзесяць год сітуацыя пачала змяняцца. У 1780-я гг. новае пакаленне нобіляў пайшло ў ГЛШ, значна павялічылася колькасць вучняў у школах КНА. Змены, што адбыліся ў свядомасці і ўзроўні адукаванасці шляхты, былі настолькі значнымі, што кідаліся ў вочы сучаснікам. «За дзесяць год, - піша Я.Ахоцкі[3],- відавочны ўжо быў у Польшчы яе (КНА- С.К.-С.) дабратворны ўплыў - край меў людзей, якіх

---

[1] Так, браслаўскі пісар Жаба прасіў расійскія улады перанесці на захад межы другога падзелу, каб усе ягоныя маёнткі, падзеленыя мяжой, апынуліся ў складзе адной дзяржавы.- Емяльянчык Ул. Згад. твор - С.67.

[2] Kot S. Dz. cyt. - S.37.

[3] Нататкі Я.Д.Ахоцкага былі выдадзены ў літаратурнай апрацоўцы Крашэўскага і таму лічацца не столькі гістарычнай крыніцай, сколькі творам белетрыстыкі. Але, як адзначалася ў прадмове да рускага выдання 1874 г., яны «даюць вельмі яскравую і разам з тым вельмі трапную карціну хатняга і ў некаторым сэнсе грамадскага жыцця вышэйшых класаў Польшчы..». - Рассказы о польской старине. Записки XVIII века Яна Дуклана Охотского. - Т.1 - СПб, 1874. - С.338.

можна было заклікаць да справы, і шляхта патрохі пачала пакідаць двары вяльмож і вызваляцца ад маральнага рабства перад магнатамі... З гэтых школ выйшлі людзі, што ўдзельнічалі ў Сейме 1788 г».[1]

У фармаванні менталітэту заходнебеларускай шляхты важную ролю адыгрывала публіцыстыка, развіццё якой грунтавалася на амаль поўнай адсутнасці цэнзурных абмежаванняў. Выхаванне ва ўмовах свабоды слова спрыяла фармаванню свабоднай, творчай асобы, упэўненай у сваіх сілах і магчымасцях.

Паказальнікам змены густаў, ступені адукаванасці і ладу мыслення нобіляў ВКЛ з'яўляецца шырокае развіцце інстытута мецэната, змены яго сутнасці. Фундаванне культавых установаў, звыклае для літвінскіх нобіляў з часоў сярэднявечча, цяпер дапаўняецца, а паступова і замяняецца філантрапічнай дзейнасцю ў галіне свецкай культуры. Да дзейнасці Агінскіх, Тызенгаўза, Сапегаў, Ябланоўскіх, Лапацінскіх і многіх іншых вяльможных мецэнатаў дадаюцца філантрапічныя захады меньш заможных нобіляў. Традыцыі мецэнатства і філантрапічнай дзейнасці перайшлі ў XIX ст. і сталі звычайнай праявай «добрага тону» у шляхецкім асяроддзі.

Шпаркае развіццё ўсіх галін ардадамінантнай культуры - ад тэатру да дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва - сведчыла, найперш, аб існаванні попыту на гэтую галіну чалавечай дзейнасці ў асяроддзі набілітэту. Знакам перамены ў мысленні шляхты і магнатэрыі стала шырокае распаўсюджанне аматарства: валоданне музычнымі інструментамі, прыватныя і публічныя канцэрты, удзел у аматарскіх і прафесійных тэатральных калектывах, літаратурная творчасць і г.д. цяпер займаюць вольны час многіх нобіляў замест былога «сарматскага» «балявання і палявання». Да падобных прыкмет належыць аднесці таксама абранне шляхтай інтэлігенцкіх прафесій, што ў барочныя часы было рэдкасцю. Безумоўна, перамены ў побыце і светаўспрыманні былі ўласцівы не ўсёй шляхце і магнатэрыі. Але менавіта яны вызначалі на захадзе і ў цэнтры Беларусі магістральную тэндэнцыю развіцця шляхецкай ментальнасці.

Захад, у адрозненні ад усходу Беларусі, даў прыклады наватарства набілітэту ва ўсіх галінах чалавечай дзейнасці. У эканоміцы адзначаюцца і буйныя пачынанні, накшталт рэформы дзяржаўных уладанняў, прадпрынятай па ініцыятыве Тызенгаўза, ці рэфарматарскай дзейнасці Храптовіча ў сваіх маёнтках, і меньш радыкальныя, як адкрыццё мануфактур княгіняй Ябланоўскай, ці Сапегамі. Не спыняючыся на пераказе ўсіх пераўтварэнняў у эканамічным жыцці краіны, адзначым, што эксперыментатарства, эканамічная творчасць,

[1] Там жа. С. 310.

прадпрымальнасць стала ў той час на захадзе і ў цэнтры Беларусі паўсядзённай з’явай. Гэта тлумачылася не толькі жаданнем уласнікаў павялічыць даходнасць сваіх маёнткаў, але і сведчыла аб іх адукаванасці, аб мабільнасці мыслення. Ідэі фізіякратаў трапілі тут на добрую глебу, падмацаваныя наяўнасцю дастаткова буйных капіталаў і спрыяльнай грамадскай атмасферай.

Тэндэнцыі, вызначыўшыеся ў культурным жыцці нобіляў у другой палове XVIII ст., знайшлі свой працяг у першыя дзесяцігоддзі XIX ст. Розніца ў ступені адукаванасці, ангажаванасці ў справы культуры, якая назіралася паміж літвінскай і беларускай шляхтай, пачала ў гэты час паступова нівеліравацца, але цалкам так і не была пераадолена. Яна падтрымлівалася, найперш, адрозненнямі ў сістэме адукацыі: калі на захадзе панаваў Віленскі універсітэт, на ўсходзе па-ранейшаму «тон задавалі» іезуіцкія калегіюмы.

XIX ст. стала часам фармавання з шляхецкага «матэрыялу» новай сацыяльнай варствы - інтэлігенцыі.

Адной з праяў дэмакратызацыі культуры стала яе фемінізацыя. Удзел жанчын у культурным жыцці і ў якасці спажыўцоў культурных каштоўнасцей, і ў ролі іх стваральніц павялічваўся на працягу эпохі Асветніцтва. Знакам гэтага працэсу з’явілася развіццё жаночай адукацыі, даступнай не толькі шляхцянкам і мяшчанкам, але часам і сялянскім дзяўчынам; на мяжы стагоддзяў з’яўляюцца літаратурныя творы і публіцыстыка, напісаныя жанчынамі. Тагачасныя часопісы друкуюць творы заходнееўрапейскіх пісьменніц, маючыя выразныя рысы «жаночай літаратуры» і па сюжэту і па дзеючым асобам; жанчынам былі адрасаваны і друкаваныя ў папулярных выданнях парады па вядзенню гаспадаркі, выхаванню дзяцей і г.д. Жаночае аматарства ў галіне музыкі, тэатру не саступала, а часам пераўзыходзіла гэтую дзейнасць мужчын. Фемінізацыя пазначылася таксама і наяўнасцю буйных тэатральных антрэпрыз, прыватных навучальных установаў, якія ўтрымлівалі жанчыны.

Павелічэнне ролі жанчыны ў культурным жыцці прывяло да змены вобраза кабеты ў прыгожым мастацтве і літаратуры. Фармуюцца новыя стэрэатыпы, жанчына ўсё часцей становіцца галоўнай гераіняй твора, узорам для наследвання не толькі для сваіх сёстраў, але і для мужчын. Для беларускіх земляў фемінізацыя культуры мела падмурак у склаўшыхся тут традыцыях: статус жанчыны як поўнапраўнай адзінкі грамадства, што грунтаваўся на яе маёмасных правах, быў замацаваны Статутам ВКЛ. Закладзеныя тэндэнцыі знайшлі свой працяг у палітызацыі і сацыялізацыі жаночага жыцця і далейшай фемінізацыі культуры.

## Стваральнікі культуры

Другая палова XVIII- першыя дзесяцігоддзі XIX стст. былі адным з этапаў працэса фармавання інтэлігенцыі. Ён з'яўляўся тыпалагічнай рысай соцыякультурнай сітуацыі, прыкметай фармавання культуры Новага часу. Другая палова XVIII ст. толькі пазначыла гэты працэс, паколькі значнае месца ў духоўным жыцці грамадства яшчэ займала святарства. Большую выразнасць ён атрымаў у першыя дзесяцігоддзі XIX ст.

У беларускай гістарыяграфіі пакуль што не існуе абагульняючых работ па гісторыі інтэлігенцыі дакастрычніцкага перыяду, не разгледжаны спецыяльна нават асобныя яе групы. Час ад часу на небасхіле беларускай гістарычнай навукі з'яўляюцца працы, прысвечаныя персаналіям, у лепшым выпадку ўтрымліваючыя абагульненыя звесткі аб асобных катэгорыях прадстаўнікоў інтэлігенцкіх прафесій, часцей за ўсё, у парадку выбудоўвання «факталагічнага раду». Менавіта такім чынам апісваецца акцёрскае асяроддзе ў абагульняючых работах па гісторыі тэатра, выяўленчага мастацтва, асветы. Што ж датычыцца, да прыкладу, архітэктараў - тут пануе амаль што пустэча, паколькі беларускіх гісторыкаў архітэктуры больш цікавяць будынкі, чым дойліды. Некаторыя звесткі пра архітэктараў можна знайсці ў энцыклапедычным выданні «Архітэктура Беларусі», у працах, прысвечаных асобным архітэктарам, але там яны пададзены толькі па персаналіях, і не ўтрымліваюць аналітычных распрацовак.[1] Ігнараванне аналітычных даследванняў, апрача іншага, стварае пэўную нішу ў вывучэнні ўсяго гісторыка-культурнага працэса. Часткова яе можа запоўніць аналіз фармавання «праінтэлігенцыі» - групы прадстаўнікоў інтэлігенцкіх прафесій, не складаўшай яшчэ асобнай сацыяльнай варствы, але патэнцыяльна меўшай усе тыпалагічныя рысы інтэлігенцыі.

Сярод працаўнікоў культуры найвялікшую, дастаткова кансалідаваную групу складалі настаўнікі.

Найбольш выразным адрозненнем гэтай варствы праінтэлігенцыі можна лічыць наяўнасць ў яе шэрагах духоўных асобаў. Пачатак XIX стагоддзя быў адзначаны працягам працэса паступовай замены «інтэлігенцыі ў сутанах» свецкімі настаўнікамі і выкладчыкамі, якая

[1] Архітэктура Беларусі.Энцыкл. давед.- Мн., 1993. - С.574-612; Калнін В.Архітэктура Яна Самуэля Бекера// Спадчына, 1998.- №3. - С. 65-85.

пачалася яшчэ ў часы дзейнасці КНА. Па падліках Д.Бавуа напачатку стагоддзя свецкія настаўнікі складалі адну чвэрць ад усёй колькасці педагогаў, якія працавалі ў гімназіях і вучылішчах Віленскай навучальнай акругі, а ў канцы першага дзесяцігоддзя - ужо палову.[1] Прыкладна такая ж прапорцыя засталася да часу ліквідацыі каталіцкіх вучылішчаў. На Беларусі колькасць настаўнікаў-святароў была больш, чым на іншых землях Віленскай навучальнай акругі, з-за вялікшай лічбы навучальных установаў, што ўтрымлівалі каталіцкія законы і базыльяне. Наяўнасць у складзе настаўнікаў вялікай лічбы святароў, бясспрэчна, была архаізмам, але аб'ектыўныя і суб'ектыўныя прычыны - найперш, недахоп фінансаў для ўтрымання свецкай школы і саюзніцкія стасункі з касцёлам - вымушалі кіраўніцтва Віленскай навучальнай акругі з ім пагаджацца.

Колькасць настаўнікаў ва ўсіх навучальных установах Віленскай навучальнай акругі па падліках Д.Бавуа не перавышала 500 чалавек.[2] Выдаецца, аднак, што гэтая лічба павінна быць значна большай, паколькі французскі навуковец не ўключае сюды настаўнікаў, якія працавалі ў прыватных пансiёнах, педагогаў-святароў парафіяльных школ, настаўнікаў ланкастарскіх вучылішчаў, выкладчыкаў кадэтскіх карпусоў і г.д. Дзве трэцці з гэтай лічбы прыпадала на беларускія землі.

Асноўнай крыніцай рэкрутацыі свецкіх настаўнікаў была дробная шляхта. Мяшчане і іншыя варствы грамадства давалі школе адзінкавых сваіх прадстаўнікоў. Большасць з іх былі іншаземцы, выкладаўшыя ў вучылішчах і гімназіях дадатковыя курсы. На ўсходзе, дзе прафесія настаўніка не лічылася прэстыжнай для шляхціча (свой адбітак тут накладвалі асаблівасці эпохі Асветніцтва на гэтых землях), выхадцаў з мяшчан сярод педагогаў было больш. Яны, галоўным чынам, працавалі ў народных вучылішчах. Колькасць іх павялічылася на некалькі асоб пасля дазволу паступаць у настаўніцкія семінарыі выхадцам з непрывілеяваных саслоўяў, выключаючы прыгонных сялян, выдадзенага ў 1812 г.[3] Уяўленне аб сацыяльным паходжанні настаўнікаў напачатку XIX ст. даюць матэрыялы, прадстаўленыя па загаду Міністэрства асветы кіраўніцтвам ГЛШ ў 1802 годзе. Так, у віленскай школе да яе пераўладкавання ў гімназію з дзевяці настаўнікаў восем было са шляхты, адзін - француз са «шляхецкім» прозвішчам.[4] З васьмі

[1] Beauvois D. Dz. cyt. - T.2. - S.213-214.
[2] Ibidem.
[3] Ibidem. - S. 215.
[4] Сборник материалов для истории просвещения в России, извлеченных из Архива Министерства народного просвещения. - Т.1. - С.227. Д.Бавуа паддае сумненню шляхецкае паходжанне большасці французаў-настаўнікаў Віленскай навучальнай акругі.- Beauvois D. Dz. cyt. - T.2. - S.216.

выкладчыкаў барунскай школы толькі два не пазначаны як шляхцічы, пры чым адзін з іх - базыльянскі святар з Валыні. З сямі выкладчыкаў у Наваградку са шляхты паходзіла сем чалавек, таксама і ў Лідзе ў гэты час усе выкладчыкі былі шляхецкага паходжання. Такая ж карціна назіраецца і ў іншых школах[1]. Падобная сітуацыя захавалася ў школах акругі ў наступныя дзесяцігоддзі.

Педагогі ўяўлялі вельмі стратыфікаваную групу па матэрыяльным становішчы, пасадах, узросце і педагагічным вопыце. Паходжанне - мяшчанскае, шляхецкае, святарскае - не ўплывала на месца, якое ў выніку педагагічнай дзейнасці мог заняць выкладчык сярод калег. Тут адрозніваліся толькі стартавыя ўмовы педагагічнай кар'еры. Найбольш важкім аргументам станавіліся здольнасці і працавітасць. Безумоўна, з гэтага правіла былі выключэнні ў выглядзе пратэкцыянізма з розных прычын, у тым ліку і палітычных, але яны траплялiся дастаткова рэдка.[2]

Матэрыяльнае становішча педагогаў было разнастайным. Вышэйшы аклады атрымлівалі прафесары універсітэта і дырэктары гімназій. Аклад прафесара складаў 1000 руб. у год за асноўны курс і даплату ў 500 руб. за чытанне дадатковага курса.[3] Апрача таго, прафесары мелі бясплатную кватэру, ацяпленне, магчымасць павысіць сваю кваліфікацыю за дзяржаўны кошт, пенсію і іншыя ільготы. Такі даход набліжаў гэтую групу працаўнікоў інтэлігенцкіх прафесій да заможных варстваў грамадства і дазваляў не толькі весці бязбеднае жыццё, але адкладваць грошы для набыцця нерухомасці.[4] Адным з прывілеяў выкладчыкаў-святароў было права займаць бенефіцыі, гарантаванае універсітэцкім Статутам, што значна павялічвала іх даходы.[5] На наступнай прыступцы матэрыяльнай забяспечанасці стаялі

[1] Сборник материалов для истории просвещения в России, извлеченных из Архива Министерства народного просвещения - Т.1. - С.228 - 238.

[2] Своеасаблівай пратэкцыяй па палітычным прычынам можна лічыць, да прыкладу, запрашэнне ў Вільню А.Чартарыйскім Я.Снядэцкага, які павінен быў умацаваць патрыятычны лагер ва універсітэце.

[3] ПСЗРИ - Т.XXVII, № 20701.

[4] Так, прафесар універсітэта, вядомы медык Шпіцнагель змог набыць маёнтак Загор'е ля Барунаў - Палуцкая С. Барунская базыльянская школа і яе выхаванцы// Ашмяншчына: гісторыя і сучаснасць - Гродна-Ашмяны, 1995. - С.32. Тут, безумоўна, адыгралі сваю ролю прыбыткі з прафесійнай практыкі, але і аклад прафесара таксама меў важнае значэнне.

[5] ПСЗРИ - Т.XXVII, № 20701. Часам кіраўніцтва бенефіцыямі так захоплівала прафесараў, што адсоўвала універсітэцкія справы на другі план, як гэта было з прафесарам Нарвойшам, каторы напачатку стагоддзя кіраваў адной з каталіцкіх парафій у ваколіцах Вільна. Здаралася, што наданне багатай плебаніі набывала выгляд узнагароды за паспяховую педагагічную дзейнасць і адданасць

ад'юнкты і дырэктары гімназій. Аклад іх складаў ад 500 да 800 руб. у год. Настаўнікі, у залежнасці ад пасады (старэйшы, ці малодшы настаўнік, мэтр), стажа і месца працы атрымлівалі ад 300 да 30 рублёў у год. Апошняя мізэрная сума выплачвалася настаўнікам-святарам небагатых каталіцкіх законаў.[1] Аклад настаўнікаў мог быць павялічаны за кошт чытання дадатковых курсаў, ці вядзення заняткаў у некалькіх класах.[2] Выкладчыкам таксама належала мець бясплатнае жыллё і ацяпленне. На ніжэйшай прыступцы знаходзіліся выкладчыкі парафіяльных і ланкастарскіх школ. Апошнія павінны былі мець 80 рублёў гадавога заробку, але атрымлівалі яго вельмі нерэгулярна, асабліва ў час згортвання ланкастарскага руху.[3] У парафіяльных і прыходскіх школах святары часцей увогуле працавалі задарма. У прыватных пансіёнах аплата настаўніка залежала ад прэстыжу навучальнай установы і месца яе размяшчэння. У Вільні, да прыкладу, за чытанне курса малады настаўнік мог атрымаць 50 руб. серабром.[4] Столькі ж у сярэднім мог зарабіць хатні настаўнік.[5] Каб уявіць сапраўдную вартасць гэтых грошаў, паведамім, што, да прыкладу, Адам Міцкевіч у час свайго настаўніцтва выдаваў на ежу штомесяц 10 руб.[6], сярэдні кошт часопіса ў той час складаў 3-5 рублёў,[7] фунт ненайлепшага тытуня - рубель[8]. Зразумела, што пры месячным акладзе ў 25-30 руб. утрымліваць сям'ю, ці нават самаму жыць больш-менш прыстойна было цяжка. Да выдаткаў дадаць трэба яшчэ грошы на прыслугу - прачку, кухарку і г.д., паколькі настаўніку было «не па чыну» абслугоўваць сябе самому.

---

універсітэцкім уладам. - Balicski M. Pamiktniki o Janie ?niadeckim, jego ïyciu prywatnym i pyblocznem i dzieiach jego. - T.1 - Wilno, 1865. - S.375.

[1] Beauvois D. Dz. cyt. - T.2. - S.229-230.

[2] Так, у народным вучылішчы ў Чэрыкаве на працягу дзесяці год змянілася два настаўніка. Кожны з іх вёў заняткі ў абодвух класах вучылішча і атрымліваў падвойную плату - 390 руб. у год. - НГАБ у Мінску, ф.2277, воп.1, спр.2, арк.11; спр.3, арк.4.

[3] Грошы павінны былі вылучацца магістратамі з «рэштавых» сум, якіх заўсёды не заставалася. Каб выжыць, настаўнікі імкнуліся павялічыць колькасць вучняў, атрымліваючы ад гэтага дадатковую плату. Часта здаралася, што зарплата не плацілася месяцамі. - НГАБ у Гродна, ф. 1, воп.1, спр.1801 - арк.209, 216, 217,228.

[4] Tomasz Zan do Onufrego Pietraszkiewicza. 23 sierpnia 1820// Korespondencja filomatyw (1817-1823). - Warszawa, 1989. - S.139.

[5] Jan Czeczot do Onufrego Pietraszkiewicza. 7 listopada 1821.// Ibidem. S.252.

[6] Adam Mickiewicz do Jyzefa Jeïowskiego. 9 paџdziernika 1820.// Ibidem. S.164.

[7] «Dziennik Wiliecski» каштаваў у 1816 годзе 3 руб. 60 кап., калі купляўся ў выдаўца, і 5 руб., калі высылаўся па падпісцы; такія ж цэны былі на «Dzieje dobroczynnoњсі» у 1819-1823 гг.

[8] Korespondencja filomatyw. - S.322.

Стратыфікацыя па матэрыяльнаму прызнаку дапаўнялася розніцай у месцы выкладання, памеры педагагічнага стажа, свецкім ці духоўным станам выкладчыка і г.д. Асобнае значэнне набывала сістэма чыноў, якія атрымлівалі свецкія педагогі, што знаходзіліся на дзяржаўнай службе. Уключэнне гэтай варствы насельніцтва ў «саслоўны ліфт» «Табели о рангах», з аднаго боку, давала магчымасць пасоўвання па сацыяльнай лесвіцы найбольш здольным і працавітым, з другога - уцягвала выкладчыкаў у бюракратычную сістэму феадальнай дзяржавы. Пасада прафесара давала VII чын, доктара - VIII, магістра - IX. Пасля заканчэння універсітэта настаўнік, не маючы навуковай ступені доктара, ці магістра, пачынаў службу з ніжэйшага - XIV чына.[1] Чыны набывалі значэнне, калі педагог пачынаў клапаціцца аб пенсіі, памер якой абумоўліваўся стажам і чынам. Набыцце чыноў было важна для настаўнікаў-выхадцаў з непрывілеяваных саслоўяў, бо давала ім магчымасць атрымаць спадчыннае шляхецтва.

На працягу першых дзвюх дзесяцігоддзяў XIX ст. у школах адбылася паступовая змена настаўніцкіх кадраў. На працу прыйшло новае пакаленне, атрымаўшае адукацыю ва універсітэце і іншых навучальных установах Віленскай акругі. Большасць выкладчыкаў, што працавалі ў свецкай школе, у адрозненні ад педагогаў-святароў, мела вышэйшую адукацыю. Асобную групу, якую па ступені кваліфікаванасці цяжка паставіць на адзін узровень з настаўнікамі гімназій і вучылішчаў усіх тыпаў, складалі выкладчыкі парафіяльных пачатковых школаў і ланкастарскіх вучылішчаў. Гэта былі, галоўным чынам, святары або свецкія асобы, што мелі найвышэй сярэднюю адукацыю. Практыка прыцягвання «выпадковых людзей» да выкладання ў ніжэйшых звёнах адукацыйнай сістэмы склалася яшчэ з часоў парафіяльных школак біскупа Масальскага, калі да выкладання дапускаліся арганісты, нясконьчыўшыя курс студэнты, адстаўныя вайскоўцы і г.д.[2]

Адметнай рысай гэтай групы «праінтэлігенцыі» было яе геаграфічнае паходжанне. Калі настаўнікі старэйшага пакалення, чыя кар'ера пачалася напрыканцы XVIII ст., як правіла, паходзілі з той жа мясцовасці, дзе працавалі, то пасля стварэння Віленскага універсітэта, у якім значную большасць студэнтаў складалі выхадцы з заходніх губерняў Беларусі, настаўніцкія кадры, што прыходзілі ў школы, таксама, у большасці паходзілі з Гродзенскай, Мінскай і Віленскай губерняў. Гэта асабліва датычыла гімназій і уездных вучылішчаў. У ніжэйшых тыпах навучальных установаў выкладчыкі, як правіла,

---

[1] ПСЗРИ - Т.XXVII, № 20701.
[2] Kot S. Dz. cyt. - S.45.

паходзілі з той самай мясцовасці, дзе месцілася парафіяльная школа, або малое народнае вучылішча.

У другой палове XVIII-першыя дзесяцігоддзі XIX стст. пачынае складвацца прававая база дзейнасці гэтай групы «праінтэлігенцыі». У часы КНА падставы яе былі выкладзены ў школьных статутах, абагульненне і падсумаванне якіх адбылося ў 1783 г., іх дапаўнялі рашэнні сеймаў па пытаннях асветы. У Расійскай імперыі ў часы падзелаў гэта былі ўказы імператрыцы і Статуты народных вучылішчаў, а ў аляксандраўскія часы - універсітэцкі і вучылішчны статуты. У далейшым корпус дакумантаў, што рэгламентаваў розныя сферы дзейнасці педагогаў, уключаючы нават прыватнае жыццё і этыку, павялічваўся за кошт царскіх указаў, цыркуляраў міністэрства асветы, якія ў той час мелі фактычна сілу закона, рашэнняў Сената і іншых актаў. Фармаванне прававой базы дзейнасці асветы, што пачалося яшчэ ў XVIII ст., цяпер паступова набірае паскораны і надзвычай актыўны характар. Свой адбітак на гэты працэс накладвалі асаблівасці дзяржавы - бюракратычнай імперыі, у якой рэгламентацыя ўсіх бакоў жыцця падданых была падставай існавання існуючага парадку.

Перабудова сістэмы адукацыі, распачаўшаяся ў часы Асветніцтва, паступова змяняла настаўніцкі побыт, сістэму стасункаў іх паміж сабой і з навакольным грамадствам. Замест былых законных традыцый - агульнае жыллё, агульнае харчаванне, адпаведная закону іерархія і г. д. - прыходзілі больш свабодныя адносіны. Жанаты настаўнік у XVIII ст. быў з’явай рэдкай і заслугоўваў папрокі ў разбэшчанасці, а ў пачатку XIX ст. становіцца звычайнай асобай у школах і універсітэце. Жонкі настаўнікаў часам нават прымалі ўдзел у выхаванні вучняў, як гэта было ў Свіслачы.[1] Разам з тым, педагогі, асабліва, выкладчыкі ўніверсітэта, у значнай ступені захоўвалі рэшткі даўнейшых рытуалаў, уласцівых даасветніцкім часам. Гэта дазваляла падтрымліваць карпаратыўныя стасункі, уздымала іх у вачах грамадства. Каларытны рытуал прысваення навуковай ступені апісвае ў сваіх успамінах аб універсітэце С.Мараўскі.[2] Гэтым жа мэтам павінна была служыць вопратка

[1] В.Гельтман пісаў аб жонках выкладчыкаў: «...іх жонкі клапаціліся пра мяне калі я быў малы, маё няшчасце (сіроцтва - С.К-С.) не магло не крануць іх..». - AGAD, Kancelaria Nowosilcewa, sygn.823, kart. 209.

[2] Рытуал уключаў у сябе ўрачыстае выйсце ў вялікую універсітэцкую залу ў адпаведных касцюмах рэктара, дэканаў і выкладчыкаў універсітэта, дыспут, а затым прысягу новаабранага калегі. Пасля абрання доктар атрымоўваў чырвоны бярэт, мантыю і пярсцёнак, пасля чаго дэкан цалаваў яго ў лоб і гучна абвяшчаў доктарам. - Morawski S. Dz. cyt.- S.132-133.

прафесароў і ад'юнктаў, што нагадвала аб старажытнасці ўстановы,[1] свецкія ж настаўнікі гімназій насілі адмысловыя мундзіры.

У навакольным грамадстве выкладчыкі складалі асобную групу, якая, нягледзячы на фармальную роўнасць з іншымі чыноўнікамі і шляхтай, была ва ўяўленні апошніх ніжэй за іх на сацыяльнай лесвіцы. Шматлікія прыклады такой паставы да настаўнікаў прыводзіць у сваей працы Д.Бавуа.[2] Праца ў школе, нягледзячы на ўсе намаганні асветнікаў ўзняць яе прэстыж, не лічылася нобілямі і чынавенствам надзвычай шанаванай: беднасць, якая спадарожнічала настаўніку ва ўвесь час ягонай работы ў школе, прыніжала ў іх вачах гэтую прафесію. Барацьба за пасады, за лепшае месца працы, за прыватныя ўрокі, за лепшую скарбовую кватэру, што бесперапынна вялася сярод настаўнікаў, параджала інтрыгі, выпрацоўвала гнуткасць сумлення і часам ператварала выкладчыка ў даносчыка.[3] Але былі і прыклады, калі праца ў школе пераўтваралася ў служэнне высокім ідэалам. Д.Бавуа, як выдаецца, залішне песімістычна ацэньвае значэнне ўплыву на настаўніцкае асяроддзе ідэй Асветніцтва і ўзровень патрыятызму настаўнікаў, знаходзячы педагогаў-наватараў толькі ў асяроддзі філаматаў.[4] У апошніх таксама былі свае школьныя настаўнікі, без якіх філаматы не сталі бы філаматамі. В.Гельтман, да прыкладу, з вялікай цяплынёй і павагай згадваў педагогаў Свіслацкай гімназіі, дзе вучылася шмат будучых філаматаў.[5] У той жа Свіслацкай гімназіі працаваў настаўнікам малюнку і рускай мовы Ж. дэ Нявіль, якога гімназісты прыцягнулі да ўдзелу ў сваім тайным таварыстве.[6] Добрыя ўспаміны аб настаўніках Барунскай гімназіі пакінулі І.Ходзька і А.Адынец.[7] З вялікай

---

[1] С. Мараўскі згадвае шыты золатам аксамітны плашч і скіпетр рэктара, падораныя, як казалі студэнты, яшчэ Стэфанам Баторыем. Прафесары насілі пунсовыя мантыі і белыя тогі, ад'юнкты - пунсовыя мантыі і чорныя тогі. - Ibidem.

[2] Beauvois D. Dz. cyt. - T.2. - S.244 -246.

[3] Шэраг такіх выпадкаў прыводзіць у сваей рабоце Д.Бавуа - Ibidem. Дадазім да іх справу выкладчыка Віленскай гімназіі Сухадольскага, які на працягу многіх год пісаў паклёпніцкія даносы на сваіх калег і не супакоіўся нават тады, калі быў за гэта звольнены з пасады. - НГАБ у Мінску, ф.1430, воп.1, спр.50600, арк.1.

[4] Beauvois D. Dz. cyt. - T.2. - S.246.

[5] «Вяртаючыся з лагера ў Шарашэве, - пісў ён у 1823 г., - рота нашая праходзіла праз Свіслач і там спынялася на дзень. Атрымаўшы дазвол наведаць старых сваіх прафесараў, быў я ў Вольскага, Якубовіча, і Крусінскага. Усе гэтыя прафесары жанатыя, яны першае юнацтва мае асветлілі..». - AGAD, Kancelaria Nowosilcewa, sygn.823, kart. 209.

[6] LVIA f. 378,b.S.,1803, b. 266, lp.1-2.

[7] Найлепшыя ўспаміны ў І.Ходзькі пакінуў «ксёндз-фізік» Ю.Спірыдовіч, а А.Адынец з вялікай павагай узгадвае гувернёраў Б.Брадоўскага, І.Ясюковіча.- Палуцкая С. Барунская базыльянская школа і яе выхаванцы. - С.28-32.

удзячнасцю ўзгадвае выкладчыка Слуцкай гімназіі мастака Т.Гесе (Геса) К.Карсалін.[1] І ўсё ж такі, мала хто з выкладчыкаў мог пераадолець руціну, беднасць, што спадарожнічалі працы настаўніка, многіх адштурхоўвала няўдзячнасць і інэртнасць маладых шляхцюкоў, часта разбэшчаных і занадта дарослых для школы. Пэўна, найбольш красамоўнае сведчанне цяжкасці і няўдзячнасці настаўніцкай працы пакінуў А.Міцкевіч, які напрацягу некалькіх год працаваў у ковенскай гімназіі. Узнёслыя мары аб высакароднай настаўніцкай місіі, жаданне эксперыментаваць на педагагічнай глебе, ствараючы новыя метады выкладання, што песціў малады настаўнік у верасні, ужо праз паўгода змяняюцца адчаем і горыччу. «Прыходжу са школы, - піша ён сябрам у студзені 1819 г., - амаль заўсёды засмучаны або недысцыплінаванасцю, або глупствам вучняў. Дарэмная праца! Кідаюся на ложак і ляжу некалькі гадзінаў, не думаючы, толькі злую і кісну. Часам злосць і горыч такія вялікія, што дастаткова дадаць яшчэ дзве унцыі іх, каб звар'яцець ці павесіцца».[2]

У невялікіх гарадах і мястэчках, дзе месціліся вучылішчы і гімназіі, настаўніцкія кватэры, як правіла, знаходзіліся побач, або ў адным доме. Нават у вялікіх гарадах, як Мінск, ці Вільня, настаўнікі жылі непадалёк адзін ад аднаго. Шэрасць настаўніцкага жыцця лагодзілі сяброўскія сустэчы і вечарыны. Аб такіх сустрэчах узгадваюць у сваіх лістах філаматы.[3]

Настаўнікі ўяўлялі сабой дастаткова кансалідаваную групу. Некаторую ролю ў гэтым адыгрывалі асаблівасці прафесійнай дзейнасці, паколькі школа складала адзіны арганізм, дзе не толькі педагагічная праца, але і асабістае жыццё кожнага было навідавоку. Трывалымі былі сувязі ў межах усёй гэтай групы «праінтэлігенцыі». Да гэтага прыводзіла сістэма арганізацыі асветы, дзе ўсе звёны былі цесна ўзаемазвязаны паміж сабой. Дырэктараў гімназій абіралі на савеце універсітэта, настаўнікі там жа праходзілі конкурс на замяшчэнне пасады, ва універсітэце абмяркоўвалі вынікі візітацый і г.д. У сваю чаргу гімназіі назіралі за дзейнасцю уездных вучылішчаў, а тыя - за пачатковай адукацыяй у сваім уездзе. Універсітэт з'яўляўся галоўным цэментуючым фактарам, «альфай і амегай» усёй адукацыі, ён кансалідаваў і звязваў настаўніцкі сусвет. Аднакурснікі падтрымлівалі сувязі і пасля заканчэння вучобы.

[1]РГИА, ф. 789, оп. 14, д. 72-К, л. 21.
[2] Adam Mickiewicz do filomatyw. 27 stycznia 1820 r.// Korespondencja filomatyw.- S.78-79.
[3] Teodor Jozinski do Adama Mickiewicza. 11 grudnia 1819 r. - Tamïe. - S.48.

Адной з прычын групавога адзінства на прафесійнай глебе былі палітычныя ўмовы працы педагогаў: большасць з іх адчувалі сябе носьбітамі і прапагандыстамі польска-літвінскіх традыцый ва ўмовах іншаземнага панавання. Місія педагога набывала такім чынам палітычнае гучанне, а ўзаемная падтрымка і дапамога разглядаліся часам як салідарнасць ў барацьбе. У якасці адной з праяў такой салідарнасці паміж выкладчыкамі, студэнтамі і выпускнікамі універсітэта, што працавалі настаўнікамі, можна, пэўна, разглядаць дзейнасць Віленскага цэнзурнага камітэта. Прафесары-цэнзары «прыкрывалі» сваіх маладых калег ад палітычнага пераследавання ўлад, бяручы на сябе не толькі функцыі цэнзараў, але таксама рэдактараў і літаратурных кансультантаў. Прыкладам салідарнасці настаўнікаў у палітычнай справе можна, пэўна, лічыць стасунак іх да падручнікаў. Многія з школьных кніг былі выдадзены ці напісаны яшчэ ў часы КНА, маральна састарэлі, але ніводзін настаўнік не напісаў аб гэтым ні ў Камітэт пры міністэрстве, што займаўся падручнікамі, ні ў другія расійскія інстанцыі. Абвясціць аб састарэласці падручнікаў значыла ініцыіраваць іх замену на новыя, дзе ўжо не будзе «польскага духа», закладзенага туды асветнікамі з КНА.

Настаўнікі ў гэты час не стварылі нейкіх адмысловых прафесійных саюзаў ці аб'яднанняў. Але, пэўна, у некаторай ступені іх функцыі выконвалі масонскія ложы, у якіх настаўнікі актыўна ўдзельнічалі.[1]

Педагогі былі, бадай што, больш за іншыя групы «праінтэлігенцыі» ангажаваны ў грамадскае і палітычнае жыццё. Роля асветы як рухавіка змен у грамадстве, нададзеная ей у XVIII ст., не змянілася і на познім этапе Асветніцтва. Віленская навучальная акруга, за выключэннем народных вучылішчаў на ўсходзе Беларусі і іезуіцкіх калегіюмаў, уяўляла сабой фактычна «майстэрню», дзе выхоўваліся будучыя дзеячы нацыянальна-вызваленчага руху. У дакумантах Смаленскай следчай камісіі захаваліся характарыстыкі шмат каго з педагогаў, складзеныя расійскімі чыноўнікамі і ілюстрыруючыя іх палітычную пазіцыю. «Страйноўскі, - піша чыноўнік, - вельмі каварны чалавек... Галянскі - піярыст, святар у маёнтку Пацея - вялікі мяцежнік... Міцкевіч, абат, быў членам следчай дэпутацыі ў Вільні. Чалавек вельмі непакойны, вучоны і вялікі ўхваляльнік абуральных правілаў... Карповіч, абат, акадэмік віленскі... Усе ягоныя казанні напоўненыя былі адзінае

[1]У склад варштату «Паўночная паходня», напрыклад, уваходзіла 11 выкладчыкаў мінскай гімназіі і іншых педагогаў, яшчэ два прафесара універсітэта з'яўляліся ягонымі ганаровымі сябрамі.- Рыбчонак С. Менскія варштаты у 1-й чвэрці 19 стагоддзя (нарысы з гісторыі вольнамулярскага руху на Беларусі// Годнасць - 1994 - №1. - С.8-13.

правіламі якабінскімі ад самой Вільні да Варшавы..» «Прафесары школ, - піша ён далей, - знаходзячыся ў залежнасці ад акадэміі Віленскай, кіраваліся па ўзору акадэміі і пасялялі ў вучнях правілы, адпаведныя намерам мяцежнікаў».[1]

Як ужо адзначалася, уключэнне ў склад Расійскай імперыі выклікала разгубленасць у асяроддзі шляхты, не прызвычаянай да жорсткага абыходжання з боку дзяржаўнай улады. Не рэдкімі былі выпадкі, калі шляхетныя асветнікі, не ўяўляючы сабе магчымых наступстваў сваіх учынкаў, зважаліся паводзіць сябе ў адпаведнасці з даўнейшымі вольнасцямі. Яскравым прыкладам гэтага служыць справа перадачы Галоўнай Літоўскай школы іезуітам. Тагачасны рэктар Страйноўскі адважыўся выступіць супраць волі манарха, што, улічваючы характар і рэпутацыю Паўла І, для расійскіх саноўнікаў было справай смяротна небяспечнай. Акадэмік, праўда, быў пакараны толькі тым, што быў пасажаны пад арышт «на хлеб і ваду».[2]

Патрыятызм выкладчыкаў праяўляўся па-рознаму, пачынаючы ад ідэалізацыі былой Рэчы Паспалітай на ўроках гісторыі, літаратуры і заканчываючы падбухторваннем да стварэння вучнёўскіх і студэнцкіх арганізацый, ці прыкрывання іх ад цікаўнасці ўлад. У патуранні тайным таварыствам гімназістаў абвінавачваліся не толькі прафесары Віленскага універсітэта, але таксама выкладчыкі Свіслацкай гімназіі і гімназіі ў Крожах. Справа філарэтаў і філаматаў добра асветлена ў літаратуры і таму не патрабуе тут адмысловага асвятлення. Нагадаем толькі, што і рэктар універсітэта Ш.Малеўскі, і дырэктар Свіслацкай гімназіі Крусінскій не толькі ведалі аб існаванні тайных таварыстваў, але нават былі знаёмыя з іх праграмнымі дакумантамі і некаторы час дазвалялі ім легальную дзейнасць[3]. Апазіцыйнасць настрояў выкладчыкаў універсітэта і шмат каго з настаўнікаў, асабліва маладых, добра была вядома ўладам, але рэпрэсіі ў стасунку да іх пачаліся толькі пасля разгрому М.Навасільцавым Віленскага універсітэта.

Асобную групу працаўнікоў інтэлігенцкіх прафесій складалі мастакі, скульптары і гравёры.[4] Адметнасцю гэтай групы стваральнікаў

[1] ГАРФ, ф.1165, оп.1,д.490, л. 24, 25, 37.
[2] Balicski M. Pamiktniki o Janie ?niadeckim. .. - T.1. - S.372.
[3] РГИА, ф. 735, оп.10, 1825, д.11а, л. 101.
[4] Першакласны матэрыял для вывучэння іх лёсаў даюць біяграфічныя слоўнікі, складзеныя польскімі і літоўскімі мастацтвазнаўцамі - Siownik artystyw polskich; Rastawiecki E. Siownik malarzyw polskich tudzieї obcych w Polsce osiadiych lub czasowo w niej przebywaj№cych - Warszawa - T.1, 1850, T.2,1851, T.3, 1857; Ten їe. Siownik rytownokyw polskich tudzieї obcych w Polsce osiadiych lub czasowo w niej przebywaj№cych; Siownik malarzyw polskich tudzieї obcych w Polsce osiadiych lub czasowo w niej przebywaj№cych - Poznac, 1886.

культурных каштоўнасцей быў падзел на пакаленні: прадстаўнікі старой генерацыі адрозніваліся ад маладзейшых сацыяльным паходжаннем, прафесійнай падрыхтоўкай, ангажаванасцю ў палітычныя падзеі краю, мастацкімі прыхільнасцямі. Колькасны склад гэтай часткі мастакоў, народжаных ў 1750-1770-я гады, акрэсліць цяжка, паколькі сюды можна аднесці і тых, хто працаваў ананімна ў буйных маёнтках і не пакінуў подпісаў пад сваімі творамі.[1] Да нас дайшлі толькі вельмі сціслыя звесткі аб майстрах-іканапісцах і аздабляльніках каталіцкіх касцёлаў. Майстры-іканапісцы з 1763 г. рыхтаваліся ў Кіева-Пячэрскай лаўры. Некаторых з іх прыгадвае В.Высоцкая: Л. і П.Сілінічаў, што працавалі ў Магілёве напрыканцы XVIII ст., І.Лема (Сягневіча) з Брэста, І.Трывага і В.Маркіялавіча са Слуцка, Я.Маргуна і В.Сушчэўскага з Магілёва і іншых.[2] У Жыровічах у канцы 1770-х гг. дзейнічаў Р.Мядвецкі.[3] Гэтыя мастакі працавалі ў найбольш кансерватыўным жанры жывапісу - іканапісу, і паходзілі, за вельмі рэдкім выключэннем, з непрывілеяваных саслоўяў, або са святарства.

Сацыяльнае паходжанне мастакоў і скульптараў старэйшага пакалення было надзвычай разнастайным. Не бракавала тут выхадцаў з мастацкіх дынастый: Ф.Смуглевіч паходзіў з сям'і мастака Л.Смуглевіча; з дынастыі прыдворных мастакоў яўрэйскага паходжання, што працавалі ў Радзівілаў, быў І.Гескі. Кароль Ельскі і Антоній Главацкі - мастакі старэйшага пакалення, паклалі пачатак мастацкім дынастыям: іх дзеці працавалі ў той самай галіне мастацтва (скульптура, тэатральная дэкарацыя), што і бацькі. Людзі духоўнага стану складалі тут значную частку. Адзначым сярод іх Гундыслава Эйманта - аўтара першага і найлепшага на той час на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай падручніка малюнку, які працаваў у дамініканскай школе ва Ушачах, а затым - у Гродна;[4] базыльяніна Антона Главацкага (цезка тэатральнага дэкаратара), які прыехаў на Беларусь па запрашэнню Р.Каніскага. Мяшчанамі былі ўжо згаданы вышэй К.Гескі і, пэўна,

[1] У Мінску, напрыклад, у 1800 г. у ліку рамеснікаў зафіксавана 10 нецэхавых мастакоў, сярод якіх было 6 хрысціян і 4 іўдзея. - Белоруссия в эпоху феодализма - Т.3. - С.106.

[2] Высоцкая Н.Ф. Іконапіс Беларусі XV- XVIII стагоддзяў. Мн, 1992. - С.17,139.

[3] Описание документов архива западно-русских униатских митрополитов. - С. 384.

[4] Аб працы Г.Эйманта «Nauka pocz№tkowa regui proporcyj znaczniejczych z rozmaitem sposobami rysunek uiatwiaj№cymi», выдадзенай ў Гродна ў 1802 г., «Dzeicnik Wilecski» пісаў як аб «найлепшым у сваім родзе ў нашай літаратуры творы» - Dzeicnik Wilecski. - 1816 - № 23 - S. 477. Эймант нарадзіўся ў 1761 г., быў дамініканскім святаром, займаўся гравюрай на медзі і малюнкамі на шкле. Памер у 1846 г. у Данілавічах пад Вілейкай. − Siownik artystyw polskich... - T. 2 - S.179.

майстар-мініяцюрыст Міхельсон[1], мастак і прадавец карцін Я.Малінары[2]; прыгоннымі, магчыма, дэкаратар А.Главацкі, К.Аттасельскі, які працаваў тэатральным дэкаратарам у Дзярэчыне і Нясвіжы.[3] На рубяжы стагоддзяў на беларускіх землях працавалі майстры, прыехаўшыя сюды з-за мяжы: А.Ле Брун (Лябрэн), рэзчык І.Вейс, выкладчык віленскай школы да яе пераўладкавання ў гімназію В. д’Арэнкурт[4], згаданы ўжо вышэй Малінары і інш. Гэта былі людзі, так бы мовіць, магнацкага і каралеўскага «набора» - тыя, хто прыехаў яшчэ ў Рэч Паспалітую і застаўся тут працаваць пасля яе заняпаду.

Мастакі старэйшага пакалення рэпрэзентавалі, фактычна, усе магчымыя шляхі набыцця мастацкай адукацыі - ад Акадэміі св.Лукі ў Рыме (Ф.Смуглевіч) і Акадэміі мастацтваў ў Парыжы (А.Ле Брун), да самастойнага авалодання пачаткамі малявання (Ф.Тулаў). У большасці мастакоў шлях да прафесіі быў традыцыйным для XVIII ст. - праз майстэрню вядомага вопытнага мастака, скульптара, або гравёра. Ф.Смуглевіч пасля вучобы ў бацькі, займаўся ў М.Чаховіча, што быў ягоным дзядькам, Кароль Ельскі вучыўся ў К.Спампані, Ю.Пешка - у Д.Эстрэйхера ў Кракаве і Ф.Смуглевіча ў Варшаве, Я.Рустэм -у Норбліна і Ф.Смуглевіча, І.Гескі - у К.Гескага і г.д. Шматварыянтнасць адукацыі, не толькі па ўзроўню яе, але і па геаграфічнаму прызнаку, прыводзіла да разнастайнасці манераў пісьма, адрозненняў у стылі, у кампазіцыйных і каларытных прыхільнасцях. Усё гэта павінна было прывесці да адсутнасці на беларускіх землях той з’явы, што ў мастацтвазнаўстве называецца мастацкай школай. Выключэннем можа быць, бадай што, толькі іконапіс, рэпрэзентаваны беларускай школай.

Сацыяльны статус мастакоў старэйшага пакалення залежаў не толькі ад іх паходжання, але і ад месца, якое пад націскам Асветніцтва пачаў займаць чалавек інтэлігенцкай прафесіі ў грамадстве. У сярэдзіне XVIII ст. мастакі лічыліся майстравымі і ўваходзілі ў адну цэхавую арганізацыю разам з мулярамі і тынкоўшчыкамі. Напрыканцы яго, артымаўшы, да прыкладу, пасаду ад’юнкта і чын можна было ўвайсці і прывілігіраванае саслоўе .

---

[1] Siownik artystyw polskich... - T. 5 - S.523.

[2] Ibidem. - S. 620.

[3] Канстанцін Атасельскі (каля 1739 - 1809 гг.) - тэатральны дэкаратар і мастак, у пачатку 1780 -х гадоў працаваў у Радзівілаў у Нясвіжы, затым да 1793 г. жыў у Дзярэчыне. Астатнія гады жыцця правёў у Вільні, дзе працаваў дэкаратарам у Віленскім тэатры. - Егорова И.Ю. Театральное искусство Белоруссии XVIII - первой полвины XIX вв. - Дисс.. .. канд. искусствоведения. - М., 1983. - С. 126.

[4] Сборник материалов для истории просвещения в России, извлеченных из Архива Министерства народного просвещения. - Т.1. - С.227

Стварэнне кафедры, а затым аддзялення прыгожых мастацтваў у Віленскім універсітэце карэнным чынам змяніла сітуацыю ў выяўленчым мастацтве на беларускіх землях. Гэтаму спрыяла і ўвядзенне ў праграму вучылішчаў і гімназій урокаў малюнку, што дазваляла выяўляць таленты і здольнасці падлеткаў, якія далей маглі быць развіты ў вышэйшай школе. Для большасці будучых мастакоў пачатковая мастацкая адукацыя пачыналася менавіта ў гімназіі і вучылішчы, некаторыя, як, напрыклад, Міхал Падалінскі з Аршаншчыны, ці Фартунат Чарнеўскі з Чачэрска, пачаткі малюнка праходзілі ў іезуіцкім калегіюме.[1]

Дакладную колькасць студэнтаў, што наведвалі розныя класы Віленскай школы за першыя два дзесяцігоддзі яе існавання, падлічыць цяжка. Запісвацца на лекцыі жывапісу, малюнку або скульптуры мог кожны жадаючы, але не ўсе наведвалі іх цэлы год. Некаторыя са студэнтаў імкнуліся атрымаць толькі пачаткі навукі, каб выкарыстоўваць іх у час вучобы на іншых факультэтах. Некаторую інфармацыю аб колькасці студэнтаў даюць экзаменацыйныя спісы, але яны паказваюць толькі тых, хто ўжо прайшоў курс і жадаў здаць экзамен. Па нашых прыблізных падліках за ўсю гісторыю існавання Віленскай школы жывапісу (з 1803 па 1832 г.) тут вучылася каля 300 чалавек[2], за два дзесяцігоддзі XIX ст. яе наведвала каля паўтары сотні студэнтаў[3], трэць з іх вучылася ў скульптурным класе.[4] Поўны курс заканчвалі найбольш таленавітыя, а таксама тыя, хто абіраў настаўніцкую кар'еру. Дастаткова часта гэта супадала. У настаўніцкай семінарыі, дзе студэнты маглі вучыцца за скарбовы кошт, ніколі не было больш, чым 20 месцаў, таму нават у найлепшыя гады дзейнасці школы жывапісу студэнтаў-семінарыстаў у ёй было не больш трох чалавек.[5] Асобныя ўмовы існавалі для гравёраў: існавала тры стыпендыі па 50 руб. на год кожная[6]. Настаўнікі малюнку і гравёры павінны былі пасля заканчэння універсітэта адпрацаваць заінвеставаныя ў іх вучобу грошы.

Праграмы навучання ў Віленскай школе жывапісу былі складзены па найбольш распаўсюджанаму ў той час у еўрапейскіх мастацкіх школах плану. Галоўнае месца ў падрыхтоўцы будучых скульптараў,

---

[1] VUBRS, F. 2, K? 73, lp.29,57.
[2] Падлічана па спісах студэнтаў, што наведвалі факультэт літаратуры і прыгожых мастацтваў -VUBRS, F. 2, K? 73, K?. 74, K?75, K? 76, K? 77, K? 78, K? 79, K? 80, K? 81, K? 84.
[3] LVIA f. 721, ap. 1, b. 1119.
[4] VUBRS, F. 2, K? 7, lp.86.
[5] У 1821 г. кандыдатамі на настаўніцкую працу былі В. Смакоўскі, К. Кавалеўскі і Т.Мілакоўскі.- LVIA f. 721, ap. 1, b. 1119, lp.118.
[6] Beauvois D. Dz. cyt. - T.1. - S. 257.

мастакоў і гравёраў займалі малюнак і жывапіс. Толькі пасля авалодання навыкамі малюнку можна было спецыялізавацца ў адной з мастацкіх прафесій. Таму праграмы класа жывапісу былі найлепш распрацаваны і мелі сістэмны характар. Першая з іх, падрыхтаваная Ф.Смуглевічам і разлічаная на 3-4 гады, складалася з трох этапаў: капіраванне карцін, малюнак з гіпсавых скульптур, малюнак з жывой натуры[1]. Гэтая праграма затым была ўдакладнена і дапрацавана Я.Рустэмам і Дж.Саўндэрсам.[2] Прапанаванае Ф.Смуглевічам маляванне натуршчыкаў з-за недахопу апошніх было ўведзена толькі ў 1816 г.[3] У адрозненні ад Акадэміяў мастацтваў, дзе «выхаванцы вывучалі «гісторыю для жывапісу», «міфалогію для жывапісу» і г.д.[4], выхаванец Віленскай школы меў магчымасць наведваць лекцыі па самым разнастайным галінам навук, нават не звязаных з яго будучай прафесіяй.[5] Пасля заканчэння курса ён мог, здаўшы адпаведныя экзамены, прэтэндаваць на ступень магістра прыгожых мастацтваў, якую універсітэт меў права надаваць згодна са Статутам 1803 г.

Як ужо адзначалася, Віленская школа жывапісу давала толькі сярэднюю мастацкую падрыхтоўку. Для больш высокай прафесійнай адукацыі належыла працягваць навучанне ў іншых мастацкіх цэнтрах. Найбольш зручным для студэнтаў з беларускіх земляў было бы ўдасканаленне ў Пецярбургу, але гэта патрабавала значных сродкаў, якія меў мала хто з будучых мастакоў. З выпускнікоў Акадэміі мастацтваў, не звязаных з універсітэтам (яго няма ў спісах студэнтаў), на беларускіх землях працаваў у той час Ж. дэ Нявіль, які прыехаў у Свіслацкую гімназію ў 1810 г.[6] На працяг вучобы за граніцай і ў Расіі згодна са Статутам універсітэта вылучалася 3 тыс. руб. штогод, але для школы

[1] Цалкам праграма апублікавана ў: Bielicski J. Uniwersytet Wilecski. - T.2. - S. 245-246.

[2] У першы год будучыя мастакі вывучалі малюнак і жывапіс, тэорыю і гісторыю прыгожага мастацтва, французскую мову; другі год - малюнак і жывапіс, оптыку і перспектыву, нямецкую мову; трэці - малюнак і жывапіс, анатомію; чацьверты - малюнак і жывапіс, усеагульную гісторыю, міфалогію і археалогію (у тагачасным разуменні гэтага тэрміну), рыторыку і паэзію. −LVIA f. 721, ap. 1, b. 1114, lp. 3.

[3] Ibidem; b. 721, lp. 16.

[4] Молева Н. Белютин Э. Русская художественная школа первой половины XIX века. - М, 1963. - С.48.

[5] Да прыкладу, Т.Мілакоўскі разам з заняткамі ў школе жывапісу наведваў лекцыі лацінскай мовы, філасофіі, расійскай мовы і літаратуры, статыстыкі.- LVIA f. 721, ap. 1, b. 1119, lp.243. К.Ельскі за гады вучобы ва універсітэце вывучаў фізіку, хімію, прыродазнаўства, мінералогію і фізіялогію. - Siownik artystyw polskich... - T. 2 - S.279.

[6] Жан дэ Нявіль нарадзіўся ў 1778 або 1779 г., да 1824 г. выкладаў у Свіслачы малюнак і рускую мову. - LVIA f. 378,b.S.,1803, b. 266, lp.1-2.

жывапісу з гэтых грошаў выпадала мала. Кіраўніцтва універсітэту лічыла больш важным накіроўваць сродкі для стажыровак на іншыя факультэты, лічачы жывапіс другараднай дысцыплінай.[1] У 1811 г. на грошы мецэнаткі К. Броэль-Плятэр у Пецярбургу тры месяцы вучыўся К.Ельскі.[2] У 1817 у сталіцу быў накіраваны для ўдасканалення Славецкі, якога рыхтавалі на выкладчыка класа гравюры. Можна яшчэ згадаць архітэктара К.Падчашынскага, які вучыўся ў Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў ў 1814 - 1817 гг. Вышэй названыя асобы, акрамя К.Ельскага, якi не залежаў у сваей вандроўцы ў Пецярбург ад універсітэцкіх фундушаў, накіроўваліся ў сталіцу з мэтай падрыхтоўкі для педагагічнай дзейнасці ва універсітэце і мусілі затым адпрацаваць атрыманыя 300 рублеў гадавога пенсіёна.[3] Шлях у еўрапейскія мастацкія школы для ўраджэнцаў беларускага краю быў яшчэ больш недасяжны. У першыя дзесяцігоддзі XIX ст. у Еўропу на вучобу за грошы А.Хадкевіча выязджаў І.Аляшкевіч; на сабраныя дзякуючы князю Длускаму сродкі ў Парыжскай Акадэміі мастацтваў у 1808-1809 г. вучыўся К.Бароўскі,[4] ад універсітэту ж пенсіён для кшталтавання за мяжой атрымаў у гэты час толькі К.Падчашынскі[5].

Сацыяльнае паходжанне студэнтаў Віленскай школы жывапісу ў першыя дзесяцігоддзі не было вельмі разнастайным. На жаль, дакладныя статыстычныя звесткі скласці амаль немагчыма - на пачатку стагоддзя студэнты школы жывапісу рэдка прад'яўлялі ва універсітэт сведчанні аб сваім сацыяльным статусе. Аднак многае гаворыць на карысць таго, што большасць іх складала шляхта - сапраўдная, ці не маючая адпаведных дакумантаў. Прадстаўнікоў іншых варстваў насельніцтва, адпаведна запісам у рэгістрацыйных кнігах і іншым матэрыялам, было нямнога - ксёндз Фартунат Чарнеўскі; прыгонны Ціт Бычкоўскі; некалькі курляндскіх мяшчан, у тым ліку Я.Дамель і Г.Кіслінг. Аўтары «Гісторыі беларускага мастацтва», спасылаючыся на словы А.Шэмеша аб бедным выглядзе студэнтаў школы жывапісу, сцвярджаюць, што «мастацкія класы часцей наведвалі малазабяспечаныя студэнты з сацыяльных

---

[1] Гэты аргумент, у прыватнасці, паслужыў повадам для адказу ў фінансавай падтрымцы для вучобы за межамі Віленскай навучальнай акругі К.Бароўскага ў 1808 г. - LVIA f. 721, ap. 1, b. 453, lp.8.

[2] LVIA f. 721, ap. 1, b. 102, lp. 5.

[3] Аб вучобе ў Пецярбургу К. Падчашынскага і ўмовах, на якіх ён быў пасланы піша ў сваей грунтоўнай манаграфіі В.Левандаўскас -Levandauskas V. Architektas Karolis Pod?a?inskis- Vilnius 1994 - S. 15-18.

[4] Siownik artystyw polskich... - T. 1 - S.214.

[5] Ёсць звесткі, што ў 1807-1808 гг. у Берлін і Вену на вучобу выязджаў таксама памочнік Ф.Смуглевіча Я.Хрусціцкі (Siownik artystyw polskich... - T. 5. - S.523.), але яны не падцвярджаюцца дакумантамі універсітэта.

нізоў».[1] Але ў той час да «сацыяльных нізоў» адносілася сялянства і бяднейшыя мяшчане. Такіх ва ўніверсітэце былі адзінкі. У гэтым сцвярджэнні можна пагадзіцца толькі з тым, што мастацкую прафесію, сапраўды, часцей абіралі малазабяспечаныя людзі, але не з «сацыяльных нізоў», а са збяднелай шляхты. Шляхцічам быў і сам А.Шэмеш. За вучобу ва універсітэце трэба было плаціць, а перад гэтым належала атрымаць адукацыю ў межах гімназічнага курса, што для выхадцаў з «сацыяльных нізоў» было амаль немагчымым. Для асоб непрывілеяваных станаў шлях у Віленскі ўніверсітэт, нягледзячы на вонкавый лібералізм ягонага Статута, быў абмежаваны. Каб трапіць туды на вучобу выхадцам з прыгоннага сялянства трэба было мець дазвол свайго ўладальніка, мяшчане таксама не вельмі віталіся ў ягоных сцёнах, хіба толькі яны былі замежнага паходжання, або паходзілі з гарадскога патрыцыята. Для гэтых асоб заставаліся ранейшыя шляхі, у тым ліку, іканапісныя майстэрні, у адну з якіх, да прыкладу, у дванаццацігадовым узросце ўпершыню прыйшоў К.Карсалін.[2] Але для большасці майстроў з беларускіх земляў, хто пакінуў адметны след у гісторыі мастацтва, шлях да мастацкай адукацыі ляжаў цераз Вільню.

Падзел тэрыторыі па прынцыпу «Усход і Захад», што вызначаў галоўную адметнасць соцыякультурнай сітуацыі на беларускіх землях у XVIII ст., працягваў «працаваць» і на пачатку XIX ст., уплываючы на рэкрутаванне мастацкіх кадраў. Па дадзеных Д.Бавуа, у 1822/ 1823 навучальным годзе выхадцы з Віцебскай і Магілеўскай губерній складалі толькі 6,65 % ад агульнай колькасці студэнтаў універсітэта.[3] Блізкую да гэтага карціну (паходжанне некаторай часткі студэнтаў дакладна вызначыць не ўдалося) назіраем і ў Віленскай школе жывапісу. Аналіз тэрытарыяльнага паходжання найбольш вядомых мастакоў Беларусі першай паловы XIX ст. таксама падмацоўвае тэзіс аб больш інтэнсіўнай рэкрутацыі мастацкіх кадраў з заходняга рэгіёну.У першыя дзесяцігоддзі XIX ст. землі былога першага падзелу Рэчы Паспалітай не далі ніводнай значнай фігуры ў выяўленчым мастацтве, якую можна было б паставіць у адзін шэраг з В.Ваньковічам (Мінск), Я.Дамелем (Вільня), К.Ельскім (Эйсманты каля Гродна), В.Смакоўскім (Вільня), І.Аляшкевічам (Радашковічы), іншымі буйнымі мастакамі і скульптарамі. Адну з прычын гэтага трэба шукаць у тэрытарыяльнай дыспрапорцыі размяшчэння спецыяльных навучальных установаў. Магілёўская і ўсходнія уезды Віцебскай губерні знаходзіліся здалёк ад Вільні, і незаможнай шляхце гэтага рэгіёну нязручна было дасылаць

[1] Гісторыя беларускага мастацтва - Т.3. - С.106.
[2] РГИА, ф. 789, оп. 14, д. 72-К, л. 21.
[3] Ibidem. - S.279.

туды сваіх дзяцей. Таксама далёкім быў і Санкт-Пецярбург. Але справа яшчэ і ў стаўленні да прафесіі мастака, якое на ўсходзе, у адрозненні ад захаду, не прыцярпела значных зменаў з часоў барока.

Сацыяльны статус большасці прадстаўнікоў мастацкіх прафесій быў на беларускіх землях дваісты. Ягоныя асаблівасці пазначаліся ўмовамі рэкрутацыі, узроўнем адукацыі і спецыфікай прафесійнай дзейнасці гэтай групы насельніцтва. У Расіі мастакі і скульптары ў пераважнай большасці паходзілі з непрывілеяваных саслоўяў.[1] Выхадзец з гэтых саслоўяў, нават пасля заканчэння Акадэміі мастацтваў, мог атрымаць дваранства ў выпадку прысуджэння ему ступені прафесара ці акадэміка, ці пры ўладкаванні на дзяржаўную пасаду, што давала чын. На Беларусі галоўнай крыніцай рэкрутацыі мастакоў і скульптараў была дробная і беззямельная шляхта. Да 1811 г. вучоба ва універсітэце аўтаматычна надавала выхадцу з непрывілеяваных варстваў асабістае, а ступень доктара - спадчыннае шляхецтва (адпаведна VIII чыну «Табели о рангах»). Такім чынам, мастак, скульптар, а часам і гравёр[2] мог карыстацца ўсімі карысцямі, якія адпавядалі гэтаму статусу: набываць зямлю і прыгонных, свабодна пражываць у любым месцы Імперыі, удзельнічаць у шляхецкім самакіраванні, паступаць на дзяржаўную службу адпаведна свайму чыну, быць вызваленым ад падаткаў і рэкруцкай павіннасці і г.д. Безумоўна, ўсё вышэй сказанае стасуецца толькі да тых мастакоў, хто набыў мастацкую адукацыю ва універсітэце, ці, не атрымаўшы яе, быў радавітым шляхцічам. Выключэннем тут могуць быць таксама мастакі-святары. З другога боку, праца на рынак або заказчыка набліжала прадстаўнікоў мастацкіх прафесій да майстравых, людзей наёмнай працы, слугаў. Ва ўмовах Беларусі, дзе традыцыйна ў магнацкіх і заможных шляхецкіх дварах у якасці эканомаў, пасыльных і г.д. служыла беззямельная шляхта, сацыяльная «ніша» для мастакоў-шляхцічаў была ўжо падрыхтавана, мела распрацаваную сістэму ўзаемастасункаў, уключаючы прынцыпы аплаты, этычныя нормы, этыкет і г.д. Гэта стасуецца і да прадстаўнікоў іншых інтэлігенцкіх прафесій.

---

[1] У Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў значная большасць студэнтаў паходзіла менавіта з гэтых варстваў насельніцтва. Прыток іх забяспечваўся да 1830 г. існуючым пры Акадэміі Выхаваўчым вучылішчам для дзяцей падатных саслоўяў і вялікай колькасцю скарбовых пенсіянераў. - Молева Н.Белютин Э. Указ. соч. - С.252.

[2] Клас гравюры у Віленскім універсітэце ў гэты час знаходзіўся ў стадыі фармавання, да 1818 г. так і не было вызначана, якога кшталту дыпломы павінны артымаць ягоныя вучні, большасць з якіх паходзіла з мяшчан.- Beauvois D. Dz. cyt. - T.1. - S.267-268.

У першыя дзесяцігоддзі XIX ст. перад мастаком, скульптарам ці гравёрам пасля заканчэння вучобы адкрываліся тры шляхі прафесійнай дзейнасці: паступленне на дзяржаўную службу ў якасці настаўніка малюнку; праца на мецэната; самастойная творчая дзейнасць і існаванне на сродкі ад продажу вырабаў сваіх рук.[1] Найбольш стабільным і ў сацыяльным, і ў матэрыяльным сэнсе было становішча мастакоў, што знаходзіліся на дзяржаўнай службе. Гэта былі, амаль выключна, настаўнікі вучылішчаў і гімназій, прафесары і ад'юнкты універсітэта. Колькасць іх была мізэрнай: па аднаму чалавеку ў гімназіях і вучылішчах, чатыры прафесары (Дж.Саўндэрс, Ф.Смуглевіч, Я.Рустэм, А.Ле Брун), ад'юнкт К.Ельскі, што складала не больш за два-тры дзесяткі чалавек, улічваючы змену кадраў на працягу дзвюх дзесяцігоддзяў. Заработная плата, умовы працы, пенсіі, чыны, другія асаблівасці прафесійнай дзейнасці у гэтай групе былі такія самыя, як і ў іншых настаўнікаў і выкладчыкаў. Адрозненне было ў дадатковых крыніцах даходаў: большасць з іх працавала для прыватных заказчыкаў, бралася за аздабленне касцёлаў, грамадзянскіх установаў, тэатральных паказаў і інш. Так, у час працы ў Віленскай гімназіі пісаў партрэты на заказ Я.Дамель, работы для касцёлаў у Сакулцы і Вялікіх Эйсмантах каля Гродна рабіў настаўнік Беластоцкай гімназіі К.Бароўскі; Ігнат Бжушкевіч у час працы ў Мінскай гімназіі, а затым на Валыні займаўся аздабленнем грамадзянскіх установаў і часам выконваў функцыі архітэктара; Восіп Хршчановіч, мастак і графік, у час працы ва уездным вучылішчы ў Маладзечна рабіў ілюстрацыі на заказ для віленскіх выданняў і г.д. Не адмаўляліся ад дадатковых заробкаў выкладчыкі універсітэта. Так, Ф.Смуглевіч, як вядома, працаваў па запрашэнню Паўла І над аздабленнем Міхайлаўскага палацу ў Пецярбургу, пісаў абразы і дэкор для Кафедральнага сабора ў Вільні; многа разоў упрыгожваў святочныя залы з нагоды розных урачыстасцей Я.Рустэм; К.Ельскі аздабляў скульптурамі касцёлы і грамадзянскія памяшканні, у тым ліку, універсітэт. Пазаслужбовыя заказы не толькі давалі грошы, але часта павышалі аўтарытэт мастака, дазвалялі яму набыць мецэнатаў для далейшай вучобы і г.д. Месца выкладчыка давала дастаткова трывалы заробак і гарантавала у выпадку выслугі лет забяспечаную старасць і пенсію ўдаве і дзецям. Дзяржаўная служба таксама павышала сацыяльны статус мастака, які такім чынам вылучаўся з кагорты «прыдворных» і «майстравых». Каб атрымаць пасаду, кандыдат павінен быў прайсці прафесійны конкурс. Штогод савет факультэта літаратуры і прыгожых мастацтваў ацэньваў прадстаўленыя кандыдатамі на настаўніцкія месцы работы - карціны, напісаныя алеем, гравюры і г.д. Не

[1] Свирида И.И. Польская художественная жизнь....- С.110-111.

ўсе гэты конкурс вытрымлівалі.[1] Часам на адно месца прэтэндавала некалькі кандыдатаў, як гэта было ў 1813 г., калі на на пасаду настаўніка віленскай гімназіі імкнуліся ўладкавацца Я.Дамель і К.Бароўскі.[2]

Неразвіты рынак мастацкай прадукцыі абмяжоўваў мастаку магчымасць утрымліваць сябе цалкам за кошт свабоднага продажу сваіх твораў. Адсутнасць у першыя дзесяцігоддзі XIX ст. публічных выстаў, адкрытых карцінных галерэй і г.д., дзе бы мастак мог прадставіць свае работы для продажу, абмяжоўвала попыт. Больш магчымасцяў давала работа на заказ, але дзеля гэтага трэба было мець папулярнасць і пратэкцыю мецэната.Часам, каб набыць заказчыкаў на карціны, майстар даваў аб'яву ў мясцовай прэсе, але гэта было з'явай рэдкай і рабілася часцей прыезжымі мастакамі. Для гэтага часу цяжка вызначыць майстра, які б не меў, акрамя продажу карцін, іншых крыніц дахода. Часцей за ўсё, мастакі браліся за разнастайныя работы - ад дэкарыравання тэатральных паказаў, сядзібаў заможнай шляхты і магнатаў, да напісання партрэтаў цара для «присутственных мест». Здаралася, яны наймаліся эканомамі, арандатарамі, настаўнікамі ў прыватныя дамы і г.д.[3]

Напачатку стагоддзя ў жыцці працаўнікоў мастацкіх прафесій прыкметную ролю адыгрывала мецэнатства. У папярэднім стагоддзі атрымала распаўсюджанне «індывідуальнае» мецэнатства, калі пры магнацкіх сядзібах утрымліваўся цэлы штат мастакоў, музыкантаў і акцёраў. Цяпер часцей існавала мецэнацтва «па падпісцы», калі на карысць беднага мастака ці музыканта збіраліся грошы сярод заможных нобіляў. Падобную падтрымку аказвалі сваім сябрам масонскія ложы, найперш, «Gorliwy Litwin» («Руплівы літвін»), куды ўваходзілі прафесары і некаторыя студэнты універсітэта. На сродкі ложы ва універсітэце вучыўся М.Янушкевіч, сябры-масоны дапамагалі таксама Я.Дамелю, М.Кулешы, М.Кавалеўскаму, Місевічу. У 1819-1820 гг. масоны меркавалі адкрыць агульнадасяжную школу малюнку з ланкастарскай сістэмай выкладання, дзеля падрыхтоўкі ў Пецярбургу

---

[1] Так,у 1816 г. не атрымаў жаданае месца настаўніка П. Шыманьскі - LVIA f. 721, ap. 1, b. 1113, lp.89.

[2] Sіownik artystyw polskich... - T. 1. - S.214.

[3] А.Бялькевіч, напрыклад, пасля вучобы ў Я.Рустэма, выкладаў музыку ў прыватных дамах, А.Анджееўскі праектаваў мэблю, рабіў эскізы дэкарацый для свят у магнацкіх і мяшчанскіх сядзібах, Я.Ельскі, брат К.Ельскага, выконваў рамы для карцін у палацы Д.Радзівіла ў Нясвіжы, мастак-партрэтыст Брыкоўскі маляваў таксма шыльды, а ў канцы жыцця працаваў рэвізорам і г.д. - Ibidem. - T. 2. - S.36, 254; T. 3 - S.278.

настаўнікаў для яе сабрана было па падпісцы 1500 руб.[1] Аднак забарона масонскіх ложаў у 1822 г. перакрэсліла гэтыя планы. Вядомымі мецэнатамі была сям'я Гюнтэраў, у якіх у час вучобы ва універсітэце і пасля яе жыў К.Бахматовіч, падтрымку мастакам аказваў Храптовіч і інш. З расіян, якія мелі маёнткі на тэрыторыі Беларусі, найбольш вядома мецэнатская дзейнасць Румянцава і Шахаўскога, ў доме якога жыў Ф.Тулаў. Меньшы, чым у XVIII ст. размах мецэнацтва на беларускіх землях можна, пэўна, патлумачыць эканамічнымі цяжкасцямі. Не апошнюю ролю адыгралі і змены сацыяльнага статусу чалавека творчай працы. У мінулае паступова адыходзіць фігура мастака-прыгоннага, які жыве і працуе па міласці ўладальніка і толькі для яго. Узамен яго прыходзіць постаць майстра, які варты павагі і падтрымкі. Як адзначае І.Свірыда, у часы Асветніцтва сфармаваўся погляд на мецэнацтва не як на «спосаб умацавання свайго прэстыжу, але як на абавязак асветленага грамадзяніна перад Айчынай».[2] Таму ў гэты час мы сустракаемся з формай мецэнатства, калі мастак не працаваў на свайго фундатара, а проста карыстаўся ягонай падтрымкай, удасканальваючы за яго кошт сваю прафесійную падрыхтоўку, атрымліваючы заказы па яго пратэкцыі, жывучы ў яго доме і г.д.

Адпаведна з прафесійнай кар'ерай складваўся матэрыяльны дабрабыт мастакоў. Найбольш заможнымі былі мастакі-выкладчыкі Віленскага універсітэта, атрымліваючыя адпаведны аклад. Выкладчыкі малюнку ў штатным раскладзе гімназій і вучылішчаў лічыліся малодшымі настаўнікамі і атрымоўвалі меньш за сваіх калег - ад 80 да 300 руб.[3] Большасць мастакоў па іх матэрыяльнаму становішчу належыць аднесці да людзей сярэдняга дастатку. Ні адзін з іх не набыў у выніку сваей працы вялікіх каштоўнасцей, пражываючы тое, што зараблялася. Нават такія здольныя і працавітыя майстры, як Я.Дамель і К.Ельскі і ў канцы жыцця жылі працай сваіх рук.[4]

---

[1] Maiachowski-Jempicki S. Wolnomularstwo na ziemiach dawnego Wielkiego Kskstwa Litewskiego. - S.11-12.

[2] Свирида И.И.Польская культура// Культура народов Центральной и Юго-Восточной Европы в эпоху Просвещения. - С.20.

[3] ПСЗРИ - Т. XXVIII, № 21428.; Сборник материалов для истории просвещения в России, извлеченных из Архива Министерства народного просвещения. - Т.1. - С.228 - 238.

[4] Я.Дамель пасля вяртання з сібірскай ссылкі жыў у доме мінскага маршалка Кабылінскага, зарабляючы маляваннем шматлікіх партрэтаў навакольнай шляхты; К.Ельскі пасля закрыцця універсітэту майстраваў «ангельскія кухні» у дамах заможных мяшчан. Мастакі, што мелі маёнткі - В.Ваньковіч, Я.Сухадольскі, - атрымалі іх у спадчыну.

У першыя дзесяцігоддзі XIX ст. прафесіянальнымі мастакамі, скульптарамі і графікамі былі выключна мужчыны. Гэта было абумоўлена традыцыяй і асаблівасцямі адукацыі: універсітэт, вучылішчы і гімназіі былі прызначаны толькі для мужчын. Разам з тым, аматарскае захапленне прыгожым мастацтвам сярод жанчын віталася. Найбольш вядомай мастачкай-аматаркай таго часу была Аляксандра Гюнтэр, дачка Ігнація Тызенгаўза і Мар'яны Пшаздзецкай, жонка вядомага мецэната Адама Гюнтара.[1]

Мастакі, скульптары і гравёры не ўяўлялі сабой кансалідаваную карпарацыю, або саюз. Гэта былі працаўнікі-індывідуалы. Умовы працы стваралі падставы для канкурэнцыі: спаборніцтвы ішлі за лепшыя заказы, добрае месца ў гімназіі ці вучылішчы, магчымасць працягваць адукацыю. Неразвітасць мастацкай крытыкі ў правінцыі, адсутнасць спецыяльных мастацкіх часопісаў, выстаў і публічных галерэй яшчэ больш раз'ядноўвала гэтую групу працаўнікоў мастацтва.

Блізкую да мастакоў па прафесіянальнай кар'еры і месцы ў грамадстве групу складалі архітэктары. На жаль, таксама, як і ў выпадку мастакоў, многія імены архітэктараў засталіся невядомымі. Аднак, на падставе нават фрагментарных дадзеных можна зрабіць некаторыя абагульненні.

Колькасць архітэктараў на беларускіх землях, нягледзячы на дастаткова шырокае будаўніцтва ў той час, была нязначнай. На мяжы стагоддзяў у гэтай групе працаўнікоў мастацкіх прафесій было многа іншаземцаў, якія, таксама, як мастакі, прыехалі сюды ў часы Рэчы Паспалітай па запрашэнню магнатаў і караля. Сярод іх - Г. Марконі, Дж дэ Сака, Ф. Накс, К.Хібл, К.Спампані, Л.Фолвіл,[2] І.Мараіна, Я.Бой[3] і інш. Многія з іх паходзілі з Саксоніі і перабраліся ў Рэч Паспалітую ў часы Семігадовай вайны разам з усім саксонскім дваром. Сярод іх - Ш.Б.Цуг, Я.С.Бекер, Э.Шрэгер, Я.Х.Камзэтцэр і інш. Гэтыя архітэктары, працуючы пры Саксонскім будаўнічым дэпартаменце, належалі да саксонскай архітэктурнай школы, многія з іх былі вучнямі дрэздэнскага архітэктара Я.К.Кнофеля.[4] Частка архітэктараў-іншаземцаў была каталіцкімі манахамі, якія працавалі на Беларусі па накіраванню сваіх законаў. Сітуацыя не вельмі змянілася і напачатку XIX ст. Сярод архітэктараў, як тых, што знаходзіліся на дзяржаўнай службе, так і працаваўшых па прыватных заказах, заставалася шмат іншаземцаў.

---

[1] Siownik artystyw polskich. .. - T. 2 - S.279.
[2] Страчаная спадчына./ Т.В.Габрусь, А.М.Кулагін, Ю.У.Чантурыя і інш. - Мн., 1998. - С.176, 178, 192, 195, 204, 211.
[3]Караткевіч В.Б.Кулагін А.М. Помнікі Слоніма. - Мн, 1983 - С.16
[4] Калнін В.Згад.твор. - С. 70-71.

Прафесійная адукацыя архітэктараў-выхадцаў з беларускіх земляў вылучалася разнастайнасцю. Шэраг з іх пачаткі архітэктуры праходзіла ў Полацкім іезуіцкім калегіюме, дзе курс архітэктуры вялі Г.Грубер і Г.Лянкевіч. Першы з іх адукацыю атрымаў у Вене, працаваў у шмат якіх еўрапейскіх краінах па накіраванню закону, а з сярэдзіны 1780-х гг. да 1800 г. жыў ў Полацку.[1] Другі быў выхаванцам Віленскай Акадэміі.[2] Тут для будучых архітэктараў выкладаліся не толькі пачаткі архітэктуры, але і некаторыя ваенныя дысцыпліны, у тым ліку фартыфікацыя і балістыка. Пачаткі архітэктуры выкладаліся таксама ў Віцебскім іезуіцкім калегіюме, дзе гэты курс чытаў пэўны час К.Агіяліні[3], і ў Оршы, дзе выкладаў Ф.Каро. Іезуіцкія калегіюмы давалі толькі пачаткі прафесійных ведаў архітэктарам. Для ўдасканалення належала ехаць за мяжу, ці ў Пецярбург. Выхаванцамі Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў былі В.Зражэўскі, які працаваў на пасадзе губернскага архітэктара ў Магілёве, К.Хршчановіч, П.Лукін, што працаваў на Гродзеншчыне, К.Падчашынскі і інш.

Першыя дзесяцігоддзі XIX ст. пазначаны паступовым фармаваннем уласнай прафесійнай школы архітэктуры на базе Віленскага універсітэту. Архітэктура выкладалася тут з часоў іезуіцкай акадэміі. Тады гэты курс чытаў Л.Гуцэвіч (Стуока-Гуцявічус). Пасля яго смерці ў 1798 г. курс архітэктуры ўзяўся весці доктар філасофіі прафесар Міхал Шульц, здольнасці якога як выкладчыка і архітэктара не вельмі высока ацэньваліся сучаснікамі.[4] М.Шульц паходзіў з Курляндыі, вучыўся ў Мітаве, а затым у Гуцэвіча ў Вільні.[5] Архітэктура выкладалася ў якасці «дадатка» да матэматыкі, гурс гэты слухалі таксама студэнты школы жывапісу. Пасля трагічнай смерці М.Шульца архітэктура некалькі год не выкладалася. И толькі пасля вяртання з Пецярбурга К.Падчашынскага пачала паступова фармавацца віленская архітэктурная школа. Адной з прычын пашырэння курса архітэктуры ва універсітэце і надання яму самастойнага характара была забарона закону іезуітаў у імперыі, што азначала, у тым ліку, закрыццё кафедры архітэктуры ў Полацку. Росквіт віленскай архітэктурнай школы прыпадае на другую палову 1820-х гг.

[1] Грубер Габрыэль.// Архітэктура Беларусі.Энцыкл.даведн. - С.582-583.
[2] Лянкевіч Габрыэль.// Там жа. С.595.
[3] Агіяліні Каэтан.// Там жа. С.574.
[4] Большасць ягоных пабудоў завалілася яшчэ пры жыцці праектанта, у дзвюх выпадках гэта прывяло да смерці людзей. Урэшце пасля яшчэ адной падобнай катастрофы ў 1812 г. архітэктар скончыў жыццё самагубствам.- Beauvois D. Dz. cyt. - T.1. - S. 241.
[5] Сборник материалов для истории просвещения в России, извлеченных из Архива Министерства народного просвещения. - Т.1 - С.212.

Прафесійная кар'ера архітэктараў у другой палове XVIII - пачатку XIX стст. мела многа агульнага з жыццёвым шляхам мастакоў. У часы Рэчы Паспалітай яны ў большасці працавалі на мецэната, якім мог быць магнат, або кароль. Такі архітэктар лічыўся «прыдворным» і знаходзіўся на поўным утрыманні заказчыка. Паказальны ў гэтым плане лёс Я.С. Бэкера. З сярэдзіны 1770-х гадоў і да сярэдзіны 1790-х гэты выхаванец саксонскай архітэктурнай школы быў прыдворным архітэктарам Сапегаў, складаючы праекты пабудоў для іх уладанняў у ВКЛ, найбольш - у Ружанах. З 1794 г., калі яго на гэтай пасадзе змяніў М.Кадо, і да смерці Я.С.Бэкер атрымліваў ад сваіх працадаўцаў пенсію ў памеры 120 руб. у год. Ён меў у Ружанах уласны дом, прызначаны для яго Сапегамі.[1]

У пачатку XIX ст. архітэктары атрымалі магчымасць праявіць сябе на дзяржаўнай службе. У складзе губернскай адміністрацыі была пасада архітэктара, на якую маглі прэтэндаваць асобы, што мелі спецыяльную адукацыю. У абавязкі гарадскога архітэктара ўваходзіла не столькі распрацоўка арыгінальных праектаў, сколькі нагляд за станам забудоў у губерні, рамонтам і г.д. Часам асобы, маючыя дасведчанне ў архітэктуры, ішлі працаваць землямерамі, што, хоць і не было прэстыжна, але давала магчымасць заробку. Землямеры таксама, акрамя непасрэдных абавязкаў, маглі займацца і архітэктурнымі заказамі, як гэта, напрыклад, рабіў віцебскі землямер Мацыноўскі.[2] Матэрыяльнае становішча архітэктараў залежала ад пасады і папулярнасці. На дзяржаўнай пасадзе гарадскі архітэктар атрымліваў аклад у памеры заработнай платы сярэдняга чыноўніка - ад 300 да 500 руб у год. Ён таксама меў прыбыткі ад прыватных заказаў, кватэру, камандзіровачныя грошы для праезду па губерні і г.д.

У адрозненні ад мастакоў ці настаўнікаў, колькасць архітэктараў у агульнай варстве «праінтэлігенцыі» была невялікай. Многае з таго, што будавалася ў той час на Беларусі, праектавалі дойліды з Пецярбурга, Варшавы, былі тут і прыезжыя архітэктары-вайскоўцы, часам рабіўшыя грамадзянскія заказы. У адрозненне ад іншых прадстаўнікоў інтэлігенцкіх прафесій, архітэктары былі вельмі мабільнай групай, а індывідуальны характар працы пазбаўляў іх магчымасці стварыць які-небудзь саюз.

У сацыяльным становішчы архітэктараў, таксама, як і мастакоў, вызначыліся змены ў бок падняцця іх прэстыжа ў грамадстве. Архітэктар, які ў мінулым стагоддзі разглядаўся заказчыкамі-нобілямі як

---

[1] Калнін В.Згад. твор. - С. 75.
[2] НГАБ у Мінску, ф. 1430, воп.1, спр. 200, 217.

майстравы, цяпер мог даслужыцца да высокіх пасад  і спадчыннага дваранства, як гэта было ў выпадку К.Падчашынскага.

Складванне прафесійнай групы працаўнікоў тэатру пачалося ў 1770-я гг. разам са стварэннем першых нацыянальных камерцыйных труп. Акцёры прыгонных тэатраў, на наш погляд, не могуць цалкам залічацца ў гэтую групу, паколькі яны па волі свайго ўладальніка ў любы момант маглі быць вернуты ў асяроддзе, з якога выйшлі.  У Рэчы Паспалітай у другой палове XVIII ст. было дастаткова замежных камерцыйных труп - французскіх, італьянскіх і нямецкіх[1], але гэтыя людзі прыяжджалі ў краіну на некаторы час і таксама свабодна пакідалі яе, рэдка ўваходзячы на доўга ў навакольнае культурнае асяроддзе. Таму менавіта толькі прафесійныя тэатральныя дзеячы, працуючыя ў камерцыйным тэатры,  маючыя ў сувязі з гэтым адпаведны сацыяльны статус, уключаныя ў мясцовае культурнае і сацыяльнае асяроддзе могуць у дадзеным выпадку разглядацца як прадстаўнікі «праінтэлігенцыі».

Умовы прафесійнай падрыхтоўкі тэатральных дзеячоў  вылучалі іх з агульнай варствы «праінтэлігенцыі». У першыя дзесяцігоддзі XIX ст., у адрозненне  ад часоў панавання прыгонных тэатраў,  на тэрыторыі Беларусі не існавала спецыяльных установаў для навучання акцёрскаму майстэрству. Адкрытая В.Багуслаўскім у Варшаве ў 1811 г. «Драматычная школа» рыхтавала кадры амаль выключна для карэннай Польшчы, ва ўсякім выпадку, першыя яе выпускнікі трапляюць на беларускія землі толькі ў 1830-я гады.[2] Тое самае стасуецца і да варшаўскай школы Ф.Ле Ду. Шлях на сцэну  часцей за ўсё цягнуўся праз выступленні ў аматарскіх калектывах і прахадных ралях у камерцыйных тэатрах. Такім чынам пачыналі сваё акцёрскае жыццё ў напоўпрафесійнай трупе А.Бончы-Тамашэўскага З.Анчыц і К.Скібінскі[3], на другарадных ралях у тэатры В.Багуслаўскага ўпершыню паказалася перад публікай С.Дзешнер[4]. У дзесяцігадовым узросце ў французскім балеце дэбютавала на віленскай сцэне І.Гурская.[5] У гэтых умовах многае залежала не толькі ад здольнасцей пачынаючага акцёра, але таксама ад стасунку да яго антрэпрынёра і мастацкага ўзроўню трупы. Для кшталтавання навыкаў акцёрскай гульні неабходна было «назапашваць рэпертуар» - г.зн. гуляць разнастайныя ролі, вучыць тэксты, каб затым,

---

[1] Аб умовах і змесце іх дзейнасці гл.:Wierzbicka-Michaiowska K. Dz. cyt. - S.68-279.
[2] Маюцца на ўвазе сям’я Ашпергераў, у якой  выпускнікамі варшаўскай школы былі В.Ашпергер і дзве ягоных жонкі -  К. і А.Ашпергер, а таксама танцаўшчык І.Балдзі і інш. - Siownik biograficzny teatru poskiego. - S.10,11, 15.
[3]  Skibicski K. Dz.cyt. - S.67
[4] Bogusiawski W.Dzieje teatru narodowego w Polsce. - Warszawa, 1820 - S.268.
[5] Rulikowski M. Dz.cyt.- S. 29.

маючы адпаведны багаж, прэтэндаваць на работу ў буйных антрэпрызах. Невялікія трупы давалі магчымасць маладому акцёру паспрабаваць сябе ў многіх ролях. У першай палове XIX ст. у тэатры яшчэ адсутнічала пасада рэжысёра, яго функцыі часцей за ўсё браў на сябе антрэпрынёр, ці найбольш вопытны акцёр. У час тэатральнага сезона трупа мусіла амаль штодня паказваць новую п’есу, каб прывабіць у тэатр нешматлікую, нават у вялікіх гарадах, публіку. У гэтых умовах важнай постаццю ў тэатры быў суфлёр, а акцёрскі вопыт і веданне роляў станавілася ўмовай прафесійнага авансу. Як і ў мінулым стагоддзі, у першыя дзесяцігоддзі XIX ст. важную ролю ў тэатры адыгрывала сістэма амплуа. Без валодання прыёмамі ўвасаблення на сцэне стэрэатыпных характараў пры тагачаснай практыке амаль штодзенных прэм’ер тэатр проста не мог бы існаваць. Пачынаючыя акцёры, як правіла, спрабавалі сябе ў амплуа інжэню, субрэткі, травесці, наперсніка, прастака, толькі з часам пераходзячы да амплуа рэзанёра, героя-каханка, грандамы ці характарных роляў. Як правіла, менавіта характарныя ролі станавіліся асноўным амплуа пажылых актрыс. Асобы, што прыходзілі на тэатральныя падмосткі, павінны былі мець пачатковую музыкальную падрыхтоўку, паколькі ў рэпертуары пераважалі музычныя спектаклі.

У першыя дзесяцігоддзі XIX ст. яшчэ не складіся разгалінаваныя акцёрскія дынастыі, як гэта было пазднй. Часта ў тэатры працавалі сямейныя пары, а сярод дзяцей акцёраў шлях на сцэну ў большасці абіралі дочкі. Акцёры - адна з нямногіх груп працаўнікоў інтэлігенцкіх прафесій, дзе маглі ў той час працаваць жанчыны. Тут таксама, як ў іншых катэгорыях «праінтэлігенцыі», большасць складала шляхта. У выпадку мужчынскага складу калектываў гэта было бадай што правілам. Што ж датычыцца жанчын, сярод іх, па сцвярджэнню З.Рашэўскага, маглі трапляцца і мяшчанкі.[1] На жаль, паходжанне большасці актрыс вызначыць цяжка. З дакумантаў таго часу засталіся, за рэдкім выключэннем, афішы, якія падаюць толькі прозвішчы, без азначэння сацыяльнага стану.[2] У нашым распараджэнні ёсць падцверджаныя дакумантамі звесткі аб сацыяльным паходжанні толькі дзвюх актрыс, што выступалі ў той час на Беларусі. Дачкой прыдворнага шпалерніка гетмана Браніцкага была С.Дзешнер, якая так і не набыла шляхецкай годнасці, хаця ўтрымлівала на працягу шасці год тэатр у Гродна. З роду

[1] Raszewski Z. Dz.cyt. - S.82.
[2] У афішах перад прозвішчамі, не залежна ад сапраўднага сацыяльнага становішча акцёра, звычайна пісаліся «J.Pan», «J. Pani», «J.Panna», што адпавядала шляхецкаму стану.

Карвэлаў была жонка Д.Мараўскага, антрэпрынёрша Мараўская.[1] Становішча жанчыны ў тэатры было досыць складаным. Многія з іх заставаліся паннамі, не знайшоўшы сабе абранніка ў акцёрскім асяроддзі. Сярод такіх можна ўзгадаць вядомых антрэпрынёрак С.Дзешнер і І.Горскую (Гурскую). Большасць актрыс была замужам за сваімі калегамі, бо ў іншым выпадку яны амаль заўседы мусілі пакінуць сцэну.[2] Сямейных пар багата было ва ўсіх трупах. У антрэпрызах Навіцкага ў Беластоку, Дзешнер у Гродна, Мараўскай у Вільні, М.Кажынскага ў Мінску і Вільні гулялі сямейныя пары Фіялкоўскіх, Наймалоўскіх, Жукоўскіх, Рагоўскіх, Скібінскіх, Аснікоўскіх, Тарноўскіх, Здановічаў і інш.

Матэрыяльнае становішча акцёраў не было стабільным і залежала ад тэатральных збораў, сумленнасці антрэпрынёра, месца, якое яны займалі ў трупе і іншых прычын. У гэты час назіраецца вялікая дыферэнцыяцыя ў заробках і дабрабыце працаўнікоў сцэны. Побач з заможнымі антрэпрынёрамі, як М.Кажынскі, каторы мог дазволіць сабе выдаць амаль 11 тыс. рублеў на набыццё тэатра (хаця гэтая выплата вялася з адтэрміноўкай і частку грошаў ён не вярнуў), былі вельмі бедныя пачынаючыя акцёры накшталт маладога К.Скібінскага, які атрымоўваў у трупе Шыманскага 3 дукаты ў месяц (каля 6 рублёў).[3] Для акцёра вельмі многае вырашала сумленнасць антрэпрынёра. Так, К.Скібінскі, даючы характарыстыку трымальнікам антрэпрыз, абавязкова засяроджвае ўвагу на выплаце зарплаты, падкрэсліваючы сумленнасць у фінансавых справах С.Дзешнер і М.Кажынскага.[4]

Матэрыяльнае становішча трупы не ў апошнюю чаргу залежала ад стасункаў яе антрэпрынёра з уладамі. На ўсходзе Беларусі, паводле ўспамінаў Г.Дабрыніна, ні водны тэатральны паказ не пачынаўся раней прыбыцця ў тэатр мясцовага начальства.[5] У Гродна шчаслівае сцячэнне абставін - паспяховае выступленне ў прысутнасці цара ў час святаў з нагоды адкрыцця губерні ў 1802 г. - дало акцёрам труп Шыманскага і Дзешнер магчымасць бясплатна карыстацца тэатральным будынкам на працягу 10 год[6], а С.Дзешнер - манапольнае права на вельмі выгадныя

---

[1] Rulikowski M. Dz.cyt.- S. 27.

[2] Прыкладам стасунку да жонкі-актрысы не звязанага з тэатральным жыццём мужа можа служыць справа Паліны Дзянісавай., муж якой - фельдшар Дынабургскага шпіталю - вярнуў жонку з гастроляў у Гродна з дапамогай паліцыі. - НГАБ у Гродна, ф.1, воп.2, спр.1701.

[3] Skibicski K. Dz.cyt. - S.14.

[4] Ibidem.- S.49,43.

[5] Добрынин Г.Указ.соч.- С.319.

[6] НГАБ у Гродна, ф.1, воп. 4, спр.618, арк.3.

гастролі ў Зэльве ў час кірмашу.[1] У Вільні напачатку стагоддзя справамі тэатра па ўласнай ініцыятыве часта займаўся гёнерал-губернатар М.Галенішчаў-Кутузаў, які быў вядомым тэатралам. Ён часам правіў анонсы на спектаклі, што з’яўляліся ў «Kurjerze Litewskim», а таксама дазваляў мясцовым акцёрам гуляць забароненыя цэнзурай касавыя п’есы, пры ўмове змены іх назвы.[2] У Мінску тэатральную трупу М.Кажынскага падтрымліваў мясцовы губернатар Карнееў, дзякуючы прыхільнасці якога антрэпрынёр змог назапасіць грошы на віленскую антрэпрызу.[3] У той час тэатральная цэнзура яшчэ не была шматступеннай, не існавала сістэмы нагляду за рэпертуарам, за паводзінамі акцёраў, не было практыкі прысутнасці паліцэйскіх агёнтаў на паказах. Антрэпрынёры маглі абмяжоўвацца самымі агульнымі патрабаваннямі, выкладзенымі ў §§11 і 12 Статута аб цэнзуры 1804 г.

На працягу пяцідзесяцігоддзя паступова складваецца прававая сістэма функцыянавання камерцыйнага тэатра, у тым ліку, фармуецца корпус дакумантаў, якія акрэсліваюць стасункі ў самім акцёрскім асяроддзі. Ужо з першых крокаў камерцыйнага тэатра ў практыку ўваходзяць кантракты, што заключающца паміж трымальнікам антрэпрызы і акцёрамі, афармляецца арэнднае права ў галіне тэатральнага прадпрымальніцтва (арэнда і субарэнда), падатковае права таксама фармуе свае падставы - памер падатку, тэрміны яго ўнясення ў гарадскі скарб, прынцыпы налічэння падатковых выплат і г.д. Юрыдычныя нормы ў галіне тэатральнага прадпрымальніцтва неслі на сябе адбітак існуючага грамадскага ладу: канечнай інстанцыяй, у якой разбіраліся спрэчкі паміж тэатральнымі працаўнікамі, была адміністрацыя, часцей за ўсё, губернатары і генерал-губернатары.

Нягледзячы на агульныя спрыяльныя ўмовы дзейнасці тэатральных труп у першыя дзесяцігоддзі XIX ст., матэрыяльнае становішча акцёраў і антрэпрынёраў у агульнай масе не было стабільным і набліжалася, хутчэй, да беднасці, ці, у лепшым выпадку, да сярэдняй заможнасці. У прашэннях антрэпрынёраў з розных прычын неаднаразова згадваюцца «мізэрныя даходы» ад паказаў, скаргі на дрэнны стан тэатральных будынкаў, на «нешматлікую і малазаможную публіку».[4] Пэўна толькі віленская антрэпрыза магла даць больш-меньш

[1] LVIA f. 378, ap. 1, b.S.,1803, b. 266, lp.1-2.
[2] Skibicski K. Dz.cyt. - S.49-50.
[3] Rulikowski M. Dz.cyt.- S.32.
[4] Аб прыбытках адной з найбольш вядомых на захадзе Беларусі трупы С.Дзешнер мясцовы архітэктар пісаў, што яна настолькі мала атрымлівае даходу, што не здольная нават зрабіць прадугледжаны кантрактам касметычны рэмонт тэатральнага будынка. - НГАБ у Гродна, ф. 1, воп.1, спр.59, арк.3.; аб немаемасным стане антрэпрынёра Шыманьскага паведамляе чыноўнік гродзенскай скарбовай палаты ў

трывалы прыбытак, але для гэтага антрэпрынёр мусіў мець вялікі пачатковы капітал. Мараўская тут магла за сезон зарабіць да 2000 руб. золатам.[1] Але асноўная маса антрэпрынёраў не была багатай. Сярэдні даход ад паказаў у губернскім горадзе за выключэннем усіх абавязковых выплат на захадзе Беларусі мог складаць 400 рублеў у год.[2] Пастаяннае знаходжанне камерцыйных тэатраў на мяжы банкруцтва тлумачылася, найперш, невялікім памерам гарадоў, дзе яны месціліся. Патэнцыяльных гледачоў было нямнога і прывабіць іх штовечар у тэатр было дастаткова цяжка. Да таго ж накладваліся страты, звязаныя з перапынкамі тэатральнага сезона ў час пастоў і ў летнія месяцы, калі шляхта раз’яжджалася па сваіх маёнтках. Знаходзячыся ўвесь час у раз’ездах, акцёр рэдка меў сталае месца жыхарства, часцей за ўсё, ён асталёўваўся ў адным месцы на некалькі год, каб пасля з’ехаць у іншы горад і іншую трупу. Адзін-два дзесяткі гадоў акцёры маглі затрымацца ў буйным тэатральным цэнтры. Мабільнасць таксама не спрыяла набыццю значнага маёнтку.

Геаграфічнае паходжанне дзеячоў камерцыйнага тэатру на Беларусі на мяжы стагоддзяў было амаль аднастайнае - яны паходзілі з заходняй часткі краю, а таксама з Польшчы. Трупы, што выступалі ў той час на Магілёўшчыне і ўсходзе Віцебшчыны, таксама прыяжджалі сюды з захаду. Тут яшчэ існавалі рэшткі былой эпохі гісторыі тэатру - прыгонныя трупы, што, праўда, перажывалі ўжо свой заняпад. Гулялі таксама і аматары, пры чым час ад часу на рускай мове, як гэта было ў 1813 г. у Віцебску.[3]

Двaістае становішча працаўнікоў камерцыйнага тэатру - таксама, як і мастакі, яны былі шляхцічамі і адначасова «майстравымі» - прыводзіла да фармавання няпростых адносін да іх у грамадстве. Бацькі-шляхцічы не вельмі прыхільна ставіліся да абрання іх дзецьмі акцёрскай кар’еры. З.Анчыц мусіў збегчы ў тэатр патаемна[4], а К.Скібінскага адпусцілі ў трупу Бончы-Тамашэўскага пры ўмове, што

---

1805 г. - LVIA f. 378, ap. 1, b.S.,1802, b. 151, lp.3.; аб беднасці беластокскага антрэпрынёра Навіцкага піша гродзенскі губернатар у 1802 г. - Ibidem, b. 307, lp. 2.

[1] Rulikowski M. Dz.cyt.- S. 32.

[2] У 1802 г. антрэпрынёр Шыманьскі, што перад гэтым здымаў тэатральны будынак у Гродна напалам з С.Дзешнер, вярнуўшыся з трохгадовых гастроляў, прымушаў антрэпрынёрку вярнуць яму палову атрыманых за гэты тэрмін даходаў - 600 рублёў. - LVIA f. 378, ap. 1, b.S.,1802, b. 151, lp.3. На падставе гэтай лічбы акрэслена прыкладная сума даходаў трупы.

[3] Пашкин Ю.А.Русский драматический театр в Белоруссии XIX века. - Мн.,1980. - С.12.

[4] Siownik biograficzny teatru poskiego. - S.5.

там ён адначасова з выступленнямі пройдзе пачатковы курс навук.[1] Аднак калі акцёр набываў вядомасць сваім майстэрствам, ён станавіўся кумірам публікі, яго паважалі, ён быў пажаданым госцем у лепшых шляхецкіх дамах. Так, напрыклад, Ледухоўская і Вяроўскі былі кумірамі філаматаў, за іх выступленнямі ў Варшаве сачылі ў Вільні, а калі яны наведалі горад напачатку 1820-х гг., іх прымалі з вялікім энтузіязмам.[2] Як нацыянальнага героя сустракалі ў Вільні ў 1812 г. В.Багуслаўскага.[3]

Публіка на захадзе Беларусі, дзе працавала большасць камерцыйных труп, рэдка забывалася на тое, што акцёры па свайму сацыяльнаму паходжанню ў большасці належаць да шляхты і таму маюць адпаведныя свайму стану правы.[4] У адрозненне ад Расіі, дзе з мінулых часоў засталося пагардлівае стаўленне да акцёраў, як да «блазнаў», людзей ніжэйшага стану, якімі пагарджалі[5], на Беларусі, асабліва ў заходняй яе частцы, моцна прасякнутай каталіцкім стаўленнем да тэатралізацыі жыцця, а таксама прайшоўшым «горан» Асветніцтва, акцёр быў у грамадстве шанаванай асобай. Над ім маглі жартаваць, пасміхацца з ягоных слабасцяў, як гэта часцяком рабілі філаматы ў сваіх лістах і шубраўцы ў сваей газэце, але працаўнік тэатру разглядаўся як паўнавартасная адзінка шляхецкага супольніцтва. Пэўна, на дастаткова высокі сацыяльны статус акцёраў у тагачасным грамадстве накладвала свой адбітак і традыцыя - у час падзелаў Рэчы

---

[1] Skibicski K. Dz.cyt. - S.10.

[2] Komorowski J. Shakespeare w Wilnie.// Pamiktnik teatralny. 1986.- Z.2-3, S.188. С.Мараўскі пісаў у захапленні, што Ледухоўская і Вяроўскі» закруцілі ў галовах» віленскай моладзі. - Morawski S. Dz.cyt. - S.129.

[3] Rulikowski M. Dz.cyt. - S.46-47.

[4] Красамоўнай ілюстрацыяй такога стаўлення служыць справа антрэпрынёркі Мараўскай. Калі тэатральныя служачыя па яе загаду пабілі трапіўшага за кулісы без дазволу студэнта- шляхціча, як адзін з варыянтаў пакарання антрэпрынёркі студэнты прапанавалі» цялеснае пакаранне на падушцы», што згодна са звычаем, магло ўжывацца толькі ў стасунку да шляхцічаў. - Rulikowski M. Dz.cyt.- S. 30.

[5] У расійскіх скарбовых тэатрах перад прозвішчамі прыгонных акцёраў ў афішах ставілася літара г.(«господин»), што пазначала іхні сацыяльны статуС. За правіннасць такія акцёры маглі паддавацца цялесным пакараням і толькі ў сярэдзіне 1820-х гг. гэта было адменена для тых, хто гуляў на сцэне манархаў. 21 кастрычніка 1824 г. атрымалі вольную акцёры, праслужыўшыя 10 год на сталічнай сцэне. У 1810 г. было прадпісана дазваляць паступаць на сцэну чыноўнікам толькі з дазволу іх міністра, пры чым яны гублялі ў гэтым выпадку чыны і прывілегіі. - Жихарев С.П.Записки современника. Дневник студента.Дневник чиновника./ Под ред. С.Я.Штрайха. - Т.1 - М.-Л., 1934. - С.53,421-422. Той жа Жыхараў згадвае абурэнне, якое выклікала ў яго і ягоных сяброў жаданне аднаго знаёмага чыноўніка выступіць на сцэне. «Адзін з лепшых выхаванцаў універсітэцкага пансіёну... будзе гуляць ролю закаханага краўца... Ёсць з чаго звар’яцець!» - Абураецца ён.- Там жа. С. 48.

Паспалітай тэатр, з’яўляючыся сродкам патрыятычнага выхавання шляхты, выконваў важную палітычную і сацыяльную функцыю, якая засталася нязменнай і ў першыя дзесяцігоддзі XIX ст. Гэта абумовіла і стаўленне акцёраў да палітыкі: удзел працаўнікоў тэатру ў палітычным жыцці абмяжоўваўся амаль выключна сцэнай. Падбор рэпертуару адпаведна падзеям, што турбавалі грамадства, пазначаў не толькі палітычныя сімпатыі антрэпрынёра, але таксама даваў неблагія матэрыяльныя прыбыткі. Адсутнасць шматступеннай цэнзуры тэатральных паказаў давала магчымасць не толькі ставіць п’есы з палітызаванымі сюжэтамі («Вяртанне дэпутата» Ю.У.Нямцэвіча, «Каханне ў Сібіры»і «Вяртанне Айчыны» невядомых аўтараў і інш.), але змяняць тэкст, устаўляючы вострыя палітычныя рэмаркі.

Сацыяльнае становішча музыкантаў, умовы іх прафесійнай падрыхтоўкі і іншыя асаблівасці фармавання і дзейнасці гэтай групы дзеячоў культуры ўвабралі ў сябе многае з уласцівасцей жыццёвага шляху і прафесійнай кар’еры ўсіх груп праінтэлігенцыі. Музыка зяўлялася найбольш распаўсюджаным і найбольш дасяжным відам мастацтва ў тыя часы. Яна была неад’емнай часткай паўсядзённага жыцця шляхецкай сядзібы і частай госцяй у мяшчанскіх і сялянскіх дамах. Магчыма таму так шматаблічныя ў сацыяльным сэнсе постаці музыкантаў - ад вясковага самавука да прафесара музыкі ва універсітэце. Асветніцтва прынесла змены ў стасунак да музыкі ў грамадстве. У гэты час цэнтральнай постаццю ў свеце музыкі становіцца музыкант-аматар, які часта віртуозна валодаў некалькімі інструментамі, а часам і спрабаваў свае сілы ў кампазіцыі. Такое становішча засталося актуальным і для першых дзесяцігоддзяў XIX ст. Без перабольшвання можна сказаць, што музычны сусвет беларускіх земляў фармавалі ў той час аматары, паколькі менавіта яны штодня выступалі ў салонах, давалі публічныя канцэрты, а часам - як М.К.Агінскія - станавіліся буйнейшымі кампазітарамі. Сярод музыкантаў-аматараў, якія мала саступалі ў сваім мастацтве прафесіяналам, можна прыгадаць рэчыцкага маршалка Ракіцкага, які іграў першую скрыпку ва ўласным аркестры разам з запрошаным скрыпачом В.Казлоўскім[1], скрыпача Кароля Ельскага з вядомага роду Ельскіх з Дудзічаў, графа Станіслава Тышкевіча, які спяваў ў дабрачынных канцэртах у Вільні разам з графіняй Патоцкай, графа Антонія Плятэра, які таксама прымаў удзел у дабрачынных канцэртах, дзе іграў на кларнэце[2] і інш.

Прасачыць лёсы народных музыкаў, што фармавалі ў той час музычны сусвет вёскі і мястэчка, з’яўляецца амаль што немагчымай

---

[1] AGAD w Warszawie. Archiwym Prozoryw i Jelskich. Sygn. 137.
[2] Rulikowski M. Dz.cyt.- S.35.

задачай: для гэтага няма належнай крыніцавай базы. Стыхія народнага меласу, зафіксаваная сучаснікамі, была ананімнай, што ўвогуле характэрна для традыцыйнай культуры. Бытаванне музыкі ў сялянскім і мяшчанскім асяродззі, асабліва ў першым з іх, добра вывучана беларускімі этнографамі, але і яны, у большасці, абапіраюцца на запісы і сведчанні, што стасуюцца найраней да другой паловы XIX ст. Выдаецца, аднак, што постаці вясковага музыканта-самавука беларуса і местачковага яўрэя-музыкі, якія ўвайшлі ў беларускую літаратуру дзякуючы творам яе класікаў, не змяняліся на працягу стагоддзяў. Характэрнай асобай у музычным свеце ў той час быў таксама прыгонны музыкант, які атрымліваў музычную падрыхтоўку на грошы ўладальніка ў касцёльным аркестры, ці ў прыватнага настаўніка, а затым выкарыстоўваўся панам у якасці хатняга музыкі, ці ў мясцовым касцёле.[1] Музыка ў вясковае і местачковае асяроддзе трапляла таксама пры пасрэдніцтве святарства. Як заўважае С.Марозава, адмысловую музычную традыцыю на беларускіх землях сфармавала ўніяцкая царква. У шэрагу храмаў існавалі арганы (пазітыў, рэгал), іншыя музычныя інструменты. У семінарыях выкладанне музыкі, найперш, царкоўнага спеву, з’яўлялася абавязковым, а ў некаторых з іх меліся спецыяльныя музычныя бурсы.[2] Аднак не царкоўныя музыканты ў той час былі носьбітамі тых музычных навацый, што несла з сабой культура Новага часу. Знакам новай эпохі ў музычным жыцці станавілася фігура высокаадукаванага музыканта-прафесіянала, або аматара, стваральніка культурных каштоўнасцей, уласцівых ардадамінантнай культуры. Менавіта гэтыя людзі прыцягнуць ніжэй нашую ўвагу.

Музычная адукацыя мела розныя формы і ўзроўні.[3] Як правіла, пачаткі валодання музычнымі інструментамі дзеці атрымлівалі дома, дзе з імі займаліся крэўныя, ці запрошаны мэтр. Так, да прыкладу, пачынала

[1] Некалькі такіх прыгонных музыкаў згадваюцца, да прыкладу, у справах полацкіх езуітаў. У мясцовым касцеле Св.Іосіфа з 1669 г. згодна з фундушам К.Сужылоўскага павінен быў утрымлівацца аркестр. У другім дзесяцігоддзі XIX ст. у ягоным складзе было дзевяць прыгонных музыкантаў і тры вольных. Сярод прыгонных асаблівымі здольнасцямі вылучаўся хлопчык Амелька Арышын, якога меркавалася падрыхтаваць на арганіста. Але паколькі грошаў на гэта з паіезуіцкіх фундушаў вылучана не было, адукацыя хлопчыка, як можна меркаваць, закончылася разам з роспускам полацкага аркестра. - НГАБ, ф.1430, воп.1, спр.368, арк.158-169.

[2] Марозава С. Уніяцкая царква ў культурна-гістарычным развіцці Беларусі.- С.54-55.

[3] Музычнай адукацыі на Беларусі прысвечана адмысловая работа: Масленікава В.П. Музычная адукацыя ў Беларусі. - Мн, 1980. На жаль, у гэтай працы большасць матэрыялаў прысвечана другой палове XIX ст., а цікавы для нас перыяд дадзены толькі ў агульных рысах.

сваю музычную адукацыю маці С.Манюшкі і сам кампазітар[1]. Дзяўчынкі авалодвалі пачаткамі музыкі таксама ў прыватных пансіёнах. Малады шляхціч мог атрымаць пачатковую музычную адукацыю ў гімназіі. Выкладанне музыкі не ўваходзіла ў лік абавязковых прадметаў, што выкладаліся ў гімназіі, мэтры - пераважна, іншаземцы[2] працавалі за дадатковую плату. Не надта добра складваліся справы і з набыццём музычных інструментаў. Часам тут дапамагаў мецэнат, як гэта было ў маладзечанскай гімназіі, дзе ноты і інструменты былі падараваны М.К.Агінскім.[3] Больш грунтоўную музычную адукацыю давала вучоба ва універсітэце. Хаця лекцыі музыкі ўваходзілі ў склад аснюўных прадметаў, але за іх студэнтам належала плаціць індывідуальна. Шмат гадоў ва універсітэце вучыў музыцы Ян Давід Голанд (Холанд). Тэрмін вучобы не быў дакладна акрэслены, часцей за ўсё ён вагаўся ад аднаго да трох гадоў. Лекцыі музыкі наведвала звычайна не больш 20 чалавек, а часцей - 8-11.[4] Толькі нязначная частка студэнтаў наведвала лекцыі музыкі 2-3 гады, большасць абмяжоўвалася пачатковым курсам. [5] З тых, хто вучыўся музыцы ва універсітэце, ні адзін чалавек не стаў прафесійным музыкантам.

У той час, як і ў папярэднія стагоддзі, прафесійныя музыканты займаліся індывідуальна ў настаўнікаў музыкі, часам удасканальваючы сваё майстэрства за межамі Беларусі. На беларускіх землях працавалі дзесяткі музыкантаў-педагогаў. У Вільні, да прыкладу, на надзвычай высокім узроўні прыватна выкладала музыку жонка прафесара Франка вядомая італьянская спявачка Крысціна Жэрардзі, падрыхтаваўшая для віленскай сцэны дзвюх таленавітых актрыс Багуслаўскую і Вайцулевіч.[6] Тут жа выкладала музыку і спевы Казлоўская, у якой вучылася спявачка Рык.[7] У Мінску ўрокі музыкі давалі згадваны ўжо П.Карафа-Корбут, А.Дрозд, Ю.Лазінскі, А.Пятрыкоўскі, К.Тржцынскі, М.Фрэйст,

[1] Адзін з першых даследчыкаў творчага шляху кампазітара З.Яхімецкі называе ў якасці першых настаўнікаў Манюшкі яго маці «тыповага правінцыяльнага віртуоза» П.Карафа-Корбута, які да гэтага вучыў маць кампазітара і мог іграць на «ўсіх інструментах». - Jachimiecki Z. Stanisiaw Moniuszko. - Krakyw, 1961.- S.18.
[2] Beauvois D. Dz. cyt. - T.2. - S.365.
[3] Ibidem.
[4] У 1809 г. іх было 16, у 1811 - 8, у 1815 - 11, у 1816 - 6, у 1817 - 9 чалавек. - LVIA f. 721, ap. 1, b. 1118, lp.11, 44, 55, 63, 75.
[5] Сярод тых, хто вучыўся ў Я.Голанда ў 1809-1817 гг., толькі П.Рабцевіч займаўся ігрой на скрыпцы на працягу трох гадоў, два гады вывучалі музыку І.Ляўковіч, І.Князевіч, З.Вішнеўскі.- Ibidem.
[6] Rulikowski M. Dz.cyt. - S.40.
[7] Puzynina G. Dz. cyt. - S.93.

В.Шалькевіч, М.Стравінскі[1], у Полацку - Д.Міладоўскі і А.Нікалаі і іншыя.

Прафесійны музыкант у той час мог знайсці нямнога месцаў сталай працы. Многіх з іх прываблівалі тэатральныя аркестры, што былі амаль у кожным буйным тэатральным цэнтры. Як правіла, такі аркестр працаваў стала ў дадзеным тэатры, не пакідаючы горад разам з ад’яжджаючай трупай. Часам прафесійны музыкант мог уладкавацца ў маёнткавы аркестр, іграць у касцёле, выкладаць музыку ў прыватным пансіёне.[2]

Дабрабыт гэтай групы працаўнікоў культуры залежаў, таксама, як і ў іх калег, ад месца працы і папулярнасці. Арганіст-прафесіянал мог атрымліваць у месяц да 60 руб., не лічачы бясплатнай кватэры і харчавання.[3] Але часцей заробкі былі больш мізэрныя. Бацька вядомага музыканта Міладоўскага Дамінік Міладоўскі, працуючы кіраўніком аркестра пры іезуіцкім калегіюме ў Полацку ў 1819-1820 гг., атрымліваў у год 195 руб.[4] У тэатральным аркестры ў першай палове XIX ст. памочнік капельмайстра, да прыкладу, мог атрымліваць да 20 руб. у месяц.[5] Даходы ад канцэртаў, што давалі гастраліруючыя музыканты, былі прыблізна роўныя прыбыткам ад тэатральных паказаў. У выпадку, калі канцэрт даваўся з дабрачыннымі мэтамі, збор мог дасягаць 1200 руб., як гэта было ў Вільні ў 1807 г., калі разам з гастраліруючым капельмайстрам і спеваком Эльменрэйхам спявала Крысціна Жэрардзі.[6] Жэрардзі.[6] За выкладанне музыкі мэтр мог атрымаць да 50 руб, а арганіст - да 15 руб. у месяц.[7] Даход свабодных музыкантаў-прафесіяналаў, што працавалі ў маёнткавым аркестры, залежаў ад заможнасці гаспадара. Так, у Сапегаў прыдворны капельмайстар Фінучы атрымаў за чатыры месяцы 1812 г. каля 70 руб.[8], у М.К.Агінскага спевакі і музыканты ў канцы XVIII ст. атрымлівалі ў месяц ад 18 злотых да 14 дукатаў, што, згодна з падлікамі А.Ціханавецкага, з’яўлялася шчодрай аплатай.[9] Лёс музыканта, што працаваў у маёнткавым

[1] Рыбчонак С.Згад.твор. - С. 8-12.
[2] Тыповай фігурай у гэтым сэнсе выдаецца А.Бончы-Тамашэўскі, які пачаткова іграў на скрыпцы ў аркестры Радзівіла, а затым ездзіў па маёнтках, пераважна, на Навагрудчыне, са скрыпкай, іграючы на сямейных святах і іншых імпрэзах. Асабліва быў вітаны з-за віртуознага выканання варыяцый на тэмы беларускіх народных танцаў.- Morawski S. Dz.cyt.- S.318.
[3] НГАБ у Мінску, ф.1430, воп.1, спр.368,л.164.
[4] Там жа. Л.186.
[5] LMA, f.44, ap.1, b.10, lp.3.
[6] Rulikowski M. Dz.cyt. - S.35.
[7] НГАБ у Мінску, ф. 1430, воп. 1, спр.368,л.164.
[8] Калнін В. Згад.твор.- С.76.
[9] Ціханавецкі А.Згад. твор. - С.118-120.

аркестры, залежаў ад жадання і магчымасцей гаспадара. Калі аркестр ці капэла ліквідаваліся з-за банкрутства, смерці ўладальніка ці іншых прычын, не ўсе з іх маглі знайсці належнае месца працы. Таксама, як і мастакі, прыдворныя музыканты часам заканчвалі сваё жыццё гувернёрамі, эканомамі, арандатарамі і г.д.[1]

Пры вялікай колькасці музыкантаў і спевакоў рознага ўзроўню і таленту, сёння, на жаль, мы маем у сваім распараджэнні толькі некалькі дзесяткаў імёнаў - гэта амаль выключна толькі самыя папулярныя, што мелі персанальныя канцэрты, або кіравалі вядомымі аркестрамі, у тым ліку, тэатральнымі. Не шмат захавалася і іменаў музыкантаў-настаўнікаў. Лепш прадстаўлены персаналіі прыгонных аркестраў, найперш, М.К.Агінскага і А.Тызенгаўза. Але статус гэтых музыкантаў не вельмі адпавядае прыкметам «праінтэлігенцыі». Гэта ў значнай ступені ўскладняе вывучэнне дадзенай групы працаўнікоў інтэлігенцкіх прафесій. На падставе няпоўных дадзеных можна меркаваць, што значную частку прафесійных музыкантаў у той час складалі іншаземцы. На Беларусі выступалі віяланчэліст Ромберг, спявакі Тарквінья і Каталані[2], музыкант К.Нікалаі[3], спявак Паліяні[4] і інш. Сярод вядомых музыкантаў-прафесіяналаў можна назваць М.Гузікава - віртуоза-ксілафаніста, кампазітара Ю.Эльснера, скрыпача і педагога В.Казлоўскага, В.Дзяшчынскага, што кіраваў аркестрам маршалка Ракіцкага[5], Д.Міладоўскага, П.Карафа-Корбута, дырэктара віленскага тэатральнага аркестра Немаеўскага, скрыпача І.Рэўта, віртуоза-піяніста і арганіста Рэнера[6], першую скрыпку радзівілаўскага аркестра, а затым свабоднага музыканта і тэатральнага дзеяча А.Бончы-Тамашэўскага, арганіста-аматара А.Ходзьку[7] і інш.

Музыканты, у адрозненні ад іншых працаўнікоў інтэлігенцкіх прафесій, мала былі ангажаваны ў палітыку. Па меньшай меры,

---

[1] Так, В.Пелікан, прыдворны музыкант М.К.Агінскага і бацька будучага рэктара Віленскага універсітэта, закончыў жыццё наглядчыкам Слонімскай рэзідэнцыі, таксама скончыў і вядучы музыкант аркестра А.Тызенгаўза Я.Д.Гіблер. - Там жа. С.102.

[2] Puzynina G. Dz. cyt. - S.22,93.

[3] ГАРФ, ф.. 1165, оп.1, д.159, л.47, 66.

[4]Трепет Л.В.Иванова Л.В.Там, где звучали полонезы. - Мн., 1986. - С.14

[5] AGAD w Warszawie. Archiwym Prozoryw i Jelskich. Sygn. 137.

[6] Аб Рэнеры С.Мараўскі пісаў: «У кнігарні Завадскага у вялікай зале стаялі два раялі, якія прыцягвалі туды арганіста Рэнера...Ён быў геніям, апярэдзіўшым свой чаС. Тое, што тады яму ставілі ў загану - шмат жорсткіх і дысаніруючых акордаў - цяпер бы палічылі прыўкрасным. Берлёз карлік у параўнанні з Рэнерам, але толькі тады, калі ён імправізаваў. Ягоныя апрацаваныя рэчы варты нямногага». - Morawski S. Dz.cyt.- S.139.

[7] Ibidem - S.272,318.

падобных звестак у архіўных дакумантах не сустракаецца.[1] Актыўным быў іх удзел у масонскіх ложах, дзе згодна з статутам меліся пасады «дырэктара гармоніі» і «брата гармоніі»[2]

Найбольш выразнай адметнасцю дадзенай групы праінтэлігенцыі была наяўнасць у ёй вялікай колькасці іншаземцаў і надзвычай стракаты сацыяльны склад.

У адрозненне ад іншых груп дзеячоў культуры, літаратарамі ў той час былі амаль выключна аматары - асобы, меўшыя іншыя, па-за літаратурнай працай крыніцы даходу. Е.Кавецкі, праўда, сцвярджае, што «некаторыя літаратары маглі жыць на прыбытку ад пяра», але падмацоўвае сваю выснову толькі прыкладам Ю.У.Нямцэвіча, які працаваў у «Gaziecie Narodowej».[3] Аднак Ю.У.Нямцэвіч меў радавыя маёнткі, у тым ліку, на Гродзеншчыне, да таго ж, выконвачы абавязкі сакратара пры Т.Касцюшцы, меў пенсію. «Зарабляць пяром» на жыццё маглі тыя, хто быў звязаны з выдавецкімі фірмамі, выконваючы разам з літаратурнымі работамі абавязкі карэктара, кнігара і г.д.

Нягледзячы на адрозненні ў галіне прафесійнай дзейнасці, сацыяльным паходжанні, адукацыі і г.д., працаўнікі інтэлігенцкіх прафесій пачалі ў гэты час складвацца ў адзіную сацыяльную групу. Крытэрыі, прыведзеныя намі вышэй для высвятлення спецыфікі гэтай варствы грамадства, у большай частцы былі дастаткова рэалізаваныя.

Аснову дабрабыту пераважнай большасці прадстаўнікоў інтэлігенцкіх прафесій складала ўласная праца, але для некаторых з іх (мастакі ) па-ранейшаму актуальнай была падтрымка мецэнатаў. Пачынае фармавацца сістэма падрыхтоўкі кадраў прафесійнай інтэлігенцыі, арыентаваная на «масавую вытворчасць». На змену існаваўшай у мінулыя стагоддзі індывідуальнай вучобе, часцей за ўсё спалучаўшайся з рэлігійным навучаннем, цяпер прыходзіць свецкая прафесійная школа. Гэта адпаведна для большасці груп «праінтэлігенцыі», за выключэннем, бадай што цэха акцёраў.

---

[1] У 1812 г. па палітычных матывах быў высланы ў Арол музыкант К.Нікалаі, але ўся ягоная віна заключалася ў ягоным прускім паходжанні. Прыехаўшы ў Вільню напярэдадні вайны, ён трапіў ў хвалю «чыстак», што праводзіліся ў межах будучага тэатра ваенных дзеянняў. - ГАРФ, ф.1165, оп.1, д.159, л.47.

[2] У Вільні гэтыя абавязкі выконвалі К.Курчынскі, Л.Дмушэўскі, Ю.Эльснер, А.Сакульскі і іншыя. - Maiachowski-Jempicki S. Wolnomularstwo polskie a muzyka. - Warszawa - 1926. - S. 5-11. У Мінску - М.Фрэйт, А.Пятрыкоўскі, К.Тржцынскі і інш. - Рыбчонак С. Згад. твор.- с 10-11.

[3] Kowiecki J. U pocz№tkyw nowoczesnego narodu..// Polska w epoce Oњwiecenia. Pacstwo.Spoieczecstwo. Kultura./ Pod. Red. B.Lieњnodorskiego. - Warszawa, 1971. - S.147.

У гэты час паступова фармуецца прававая база дзейнасці працаўнікоў культуры: складваецца заканадаўства ў галіне цэнзуры, выдаюцца школьны і універсітэцкі статуты, іншыя ўказы і распараджэнні, што рэгулююць стасункі «праінтэлігенцыі» з дзяржавай і прадстаўнікамі іншых грамадскіх варстваў. Але ва ўмовах існуючага прыгоннага права і саслоўнага падзела грамадства гэтае заканадаўства несла на сабе адбітак нарадзіўшай яго сістэмы: працаўнікі інтэлігенцкіх прафесій не былі абаронены ад свавольства ўладаў, правы іх былі мізэрнымі, многія палажэнні заканадаўства заставаліся на паперы, перакрэсленыя адміністратыўнымі распараджэннямі, цыркулярамі і іншымі актамі, не маючымі юрыдычна сілу закона.

Ва ўмовах існавання прыгоннага ладу, наяўнасці саслоўнага падзелу грамадства і няразвітасці таварна-грошавых адносін наёмная праца інтэлектуалаў мела абмежаваны попыт. Нягледзячы на гэта, ужо выкрышталізаваліся асноўныя прынцыпы злучэння працаўнікоў інтэлігенцкіх прафесій у адзіную групу. Адной з важнейшых прыкмет гэтай варствы была агульнасць крыніцы рэкрутацыі (дробная і сярэдняя шляхта), адначасова з гэтым ідзе фармаванне ўнутранай іерархіі на падставе  поспехаў у інтэлектуальнай дзейнасці з дадаткам уведзеных дзяржавай чыноў і званняў (для дзяржаўных служачых), складваюцца мастацкія дынастыі.

Межы гэтай групы былі моцна «размытыя», а сама група стратыфікаваная і па матэрыяльнаму, і па сацыяльнаму прызнакам. Разам з тым, гэта ўжо быў падмурак для стварэння ў будучым варствы буржуазнага грамадства, чыёй галоўнай сацыяльнай задачай з’яўляецца выпрацоўка, захаванне і распаўсюджанне культурных каштоўнасцей.

Нягледзячы на асблівасці прафесійнай дзейнасці, большасць «праінтэлігенцыі» свядома ці несвядома, была моцна ангажавана ў палітычнае жыццё грамадства. Заканамернасць гэтая  абумоўлівалася роллю, што надавалася культуры ў эпоху Асветніцтва, а таксама асаблівасцямі сацыяльна-палітычнай сітуацыі на беларускіх землях. Выходзячы ў большасці сваёй са шляхты, прадстаўнікі інтэлігенцкіх прафесій не маглі не салідарызавацца з ёю ў сваіх палітычных поглядах. Наяўнасць сацыяльных перагародак паміж рознымі саслоўямі, якія, пачаўшы разбурацца ў апошнія дзесяцігоддзі Рэчы Паспалітай, ва ўмовах Расійскай імперыі свядома ўмацоўваюцца ўладамі, рабіла дасяжнымі інтэлігенцкія прафесіі пераважна для прадстаўнікоў прывілеяванага саслоўя. Не меньш важную ролю ў гэтым мела «перавытворчасць шляхты» на беларускіх землях - значная колькасць беззямельных і маламаёмасных нобіляў шукала ў інтэлектуальнай працы сродкі для існавання. У адрозненне ад уласна расійскіх тэрыторый, дзе інтэлігенцыя ад пачатку яе ўтварэння была «разначыннай», сацыяльны

статус працаўнікоў культуры на беларускіх землях быў вышэйшы. Гэта стварала адносную незалежнасць інтэлектуала ад дзяржавы - атрыманне чына для набілітацыі было большасці з іх непатрэбна; і дабратворна адбівалася на свабодзе творчасці. Разам з тым, гэтыя людзі патэнцыяльна былі выразнікамі інтарэсаў шляхты, з якой былі звязаны генетычна. Інтарэс да традыцыйнай культуры, да духоўных патрэб сялян і мяшчанства мог тут праяўляцца пераважна як свядомая грамадская пастава.

## Глава 3. Новы ідэйна-стылявы і сутнасны лад культуры

### Змены ў структурнай пабудове і стылявым абліччы

Яшчэ на золку Асветніцтва акрэсліліся галоўныя дамінанты будучай культуры, пазначыліся асноўныя накірункі рэвізіі існуючых этычных і эстэтычных нормаў. Культуролагі і гісторыкі амаль адзінадушна вылучаюць у якасці дамінантных працэсаў гісторыка-культурнага развіцця секулярызацыю, дэмакратызацыю, палітызацыю, прысяшэнне змены ідэйна-стылявых накірункаў, фармаванне нацыянальнага аблічча культуры, яе новай кодавай сістэмы. Кожны з гэтых працэссаў на беларускіх землях меў свае асаблівасці, утвараючы непаўторны па зместу тып культуры.

Вызначальнай тыпалагічнай рысай культуры Асветніцтва было завяршэнне дамінацыі рэлігіі ў духоўным жыцці. Пераасэнсаванне погляду на яе ролю ў грамадстве і светаўспрыманні асобы мела сваёй падставай глыбінныя працэсы, што адбываліся ва ўсіх галінах чалавечай дзейнасці на працягу XVIII ст. Іх сутнасць і змест падрабязна разглядалася ў працах беларускіх гісторыкаў, найбольш грунтоўна яны, на наш погляд, асветлены ў рабоце А.Бірало, прысвечанай філасофскай і грамадска-палітычнай думцы Беларусі і Літвы канца XVII-сярэдзіны XVIII ст.[1]

Адыход ад барочнай рэлігійнасці ажыццяўляўся паступова і меў на сваім шляху перыяды прысяшэння і адступлення. У кожнай з галін культуры ступень секулярызацыі была рознай, праявы гэтага працэсу таксама мелі шмат мадыфікацый.

На працягу ўсёй эпохі Асветніцтва рэлігія не пакідала сцэны навучальных установаў, знаходзячы сабе месца і ў адукацыйным, і ў

[1] Бирало А.А. Философская и общественно-политическая мысль в Белоруссии и Литве в конце XVII - середине XVIII вв. - Мн., 1971. - С.89-93.

выхаваўчым працэсе. Пакінуты былі катэхізіс і свяшчэнная гісторыя, ранішнія набажэнствы і абавязковае адзначэнне рэлігійных святаў. «Рэлігія і правілы набожнасці, - пісалася ў XI раздзеле выдадзеных ў 1783 г. «Статутаў» КНА, - з'яўляючыся падставай хрысціянскага жыцця і захавальнікамі ўсякіх цнот - найважнейшая частка адукацыі».[1] Гарантыяй сувязі рэлігіі і асветы было даручэнне навучання ў школах усіх ступеняў побач са свецкімі настаўнікамі - святарству. Выкладанне рэлігійных прадметаў, рэгулярнасць споведзяў і набажэнстваў у школе, таксама, як і іх заходніх калег, клапаціла заснавальнікаў народных вучылішчаў. Асноўная мэта выхавання і адукацыі ў гэтых установах паводле іх Статуту акрэслівалася дэвізам «Бог, цар, любоў да Айчыны».[2] Як бачым, «Бог» тут стаяў на першым месцы. У канцы XVIII ст. і з другога дзесяцігоддзя XIX ст. назіраецца нават пасіленне ўплыву рэлігіі ў асвеце. У 1780-я гг. у гэтым накірунку перагледжаны былі навучальныя праграмы, складзеныя КНА. У апошнія гады панавання Кацярыны II на заходніх землях Беларусі пачалося «выкараненне шкадлівага вальнадумства» з навучальных установаў. Пасля другога падзелу імператрыца загадвала генералу Крачэтнікаву пільна сачыць за навучальнымі ўстановамі на далучаных землях, паколькі яны з'яўляюцца распаўсюджальнікамі «шкадлівага вучэння, заснаванага на шалёных пачатках найноўшага французскага марнадумства, што разбурае ўсе сувязі добраўладкаваных грамадстваў і ўрадаў».[3] Пасля трэцяга падзелу ў загадзе на імя М.Рапніна, акрэсліваючы кірунак ягоных дзеянняў у далучаных землях, яна прадпісвала звярнуць адмысловую ўвагу на выхаванне моладзі. Галоўным прынцыпам яго, на думку імператрыцы, павінна было стаць падпарадкаванне «Божаскаму і грамадзянскім законам». Сярод шматлікіх навучальных установаў увагу М.Рапніна, згодна з загадам Кацярыны II, мусілі прыцягнуць Віленская Акадэмія (ГЛШ) і піярскія школы. Імператрыца загадвала выкараніць з іх дух вольнасці, не зважаючы на сродкі і метады.[4] Гэтую ж палітыку працягнуў і яе наступнік. У аляксандраўскія часы першым знакам пасілення ролі рэлігіі ў адукацыі было пераўладкаванне ў 1817 г. Міністэрства народнай асветы, выхавання юнацтва і распаўсюджвання навук у Міністэрства духоўных спраў і народнай асветы, на чале якога быў пастаўлены обер-пракурор Сынода князь Галіцын, што атрымаў у сучаснікаў красамоўную мянушку «асветы згубіцель». З гэтага часу ў

---

[1] Notowski B. Jezuici a Komisja Edukacji Narodowej. //Z dziejyw szkolnictwa jezuickiego w Polsce. Wybyr artykulyw. - Krakyw, 1994. - S.213.

[2] ПСЗРИ -T.XXII, № 16421.

[3] Сборник документов, касающихся административного устройства Северо-Западного края при императрице Екатерине II. (1792-1796). - С.7.

[4] Там жа. С.29.

расійскіх гімназіях пачынаецца скарачэнне школьных гадзін, адведзеных на «палітычныя» навукі ( палітэканомія, эстэтыка, пачаткі філасофіі і г.д.), і павялічываюцца курсы рэлігіі і моваў, найперш, класічных.[1]

Прыкмет прысутнасці рэлігіі ў навучальных установах шмат, але яны паказваюць толькі вонкавы бок праблемы. Працэс секулярызацыі ў дадзеным выпадку ляжаў у вызначэнні самаго паняцця рэлігійнасці і яе месца ў тагачасным этасе. Вера ў бога разумелася асветнікамі як адна з рысаў высокамаральнай асобы. Хрысціянскія прадметы (свяшчэнная гісторыя, катэхізіс) дапаўнялі курсамі свецкага права і маралі і спалучалі з імі, пры чым апошнія былі падмуркам, першыя - надбудовай.[2] У выніку цалкам змяняўся падыход да веры ў бога як неабходнай часткі ментальнасці: замест фанатычнай веры як ідэала часоў барока ўмацоўваецца этычная канцэпцыя рэлігійнасці. Наперад высоўваліся этычныя нормы хрысціянства, адпаведныя гуманістычнай маралі асветнікаў. Замест былога разумення: «хто веруе, той высокамаральная асоба»; прыходзіць іншае: «маральны чалавек, як правіла, чалавек веруючы». Такі падыход да пытанняў веры зрабіў магчымым спалучэнне даследванняў у галіне натуральных навук і рэлігійнасці, фармальнае выкананне рэлігійных абавязкаў не толькі свецкімі настаўнікамі, але нават клірыкамі і г.д. Выкладанне рэлігійных прадметаў у школе часта мела фармальны характар, а вучняў больш за лекцыі свяшчэннай гісторыі прываблівалі службы ў касцёле - там можна было паслухаць спеў і пакінуць на некаторы час абрыдлы класны пакой.[3] Першаступенную ролю рэлігія павінна была выконваць у выхаванні народа, паколькі на думку тагачасных педагогаў простым людзям неабходныя не столькі навуковыя веды, колькі высокія маральныя якасці і практычныя навыкі. Менавіта гэтым не ў апошнюю чаргу тлумачыцца перадача прыходскіх школ на воткуп святарству і адпаведнае ўладкаванне іх праграм. Разбэшчанасць нораваў сялянства (г.зн. непадпарадкаванне памешчыкам і ўладам) рэкамендавалася згодна з гэтай канцэпцыяй «лячыць» шляхам умацавання рэлігійнасці: «навучыць малітвам, выхаваць пастырскімі размовамі... пасяліць у іх дух смірнасці і паслухмянасці».[4]

Ступень секулярызацыі адукацыі залежала не толькі ад агульнай канцэпцыі навучання, складзенай асветнікамі, але і ад тых асоб, якія яе

---

[1] Beauvois D. Dz.cyt. - T.2 - S. 329.
[2] Notowski B. Dz.cyt. - S.215.
[3] А.Адынец, узгадваючы свае школьныя гады ў Барунах, параўноўваў касцёл з раем, а школу з пеклам. «У царкве гімны і песні, паўтараемыя гучным хорам, мілыя сэрцу і вуху студэнта,. .. у школе штодзённы плач і архіплач кожную суботу». - Палуцкая С. Барунская базыльянская школа і яе выхаванцы. - С. 29.
[4] НГАБ у Мінску, ф.2001, воп.1, спр.64, арк.64 адв.

ажыццяўлялі. Прыналежнасць да святарства зусім не гуляла тут першаснай ролі. Свецкую праграму навучання з поспехам выкарыстоўвалі, да прыкладу, піяры, а першым рэктарам свецкай ГЛШ быў эксіезуіт М.Пачобут-Адляніцкі.

«Свабоднае» абыходжанне дзеячоў культуры з рэлігіяй адной са сваіх праяў мела захапленне іх масонствам, моцна прасякнутым містыкай і забабонамі. Наколькі масонства не адпавядала рэлігійным уяўленням артадоксаў, паказвае, да прыкладу, справа брашуры «Ліст лісабонскага равіна равіну брэсцкаму» віленскага каноніка М. Длускага, што ўбачыла свет у 1817 г. Кніжка гэтая ўтрымлівала палеміку з праціўнікамі масонства і, як паведамляў у Віленскі цэнзурны камітэт раззлаваны міністр асветы Галіцын, свабодна абыходзілася з рэлігійнымі дагматамі.[1] Пакараць аўтара брашуры было ўжо немагчымым - М.Длускі, абвінавачаны ў супрацоўніцтве з французамі і адбыўшы год ссылкі, памер у 1813 г. ад старасці і хвароб.[2] Але прафесар Гродэк, што прапусціў кніжку ў друк, атрымаў вымову ад міністра.[3]

Свабоднае абыходжанне з рэлігійнымі дагматамі «бацькоў» пераймалі «дзеці». Красамоўным прыкладам гэтага могуць служыць праграмныя дакументы філаматаў «Ойча наш» і «Катэхізіс», травеступочыя каталіцкія арыгіналы (травестацыя біблейскіх сюжэтаў была звычайнай з’явай у літаратуры пачатковага этапа Асветніцтва, якая распаўсюджвалася ў рукапісах[4]).

Найбольш прычынілася да паступовага выціскання рэлігіі з першых роляў у духоўным жыцці навука. Даставерныя веды можна было атрымаць толькі на шляху пераасэнсавання рэлігійных уяўленняў аб сусвеце. Пераважная большасць навукоўцаў не была атэістамі, многія, як М.Пачобут-Адляніцкі, Г.Страйноўскі, А.Доўгірд, заставаліся святарамі. Але цяпер разуменне Бога зводзілася да дэізма, а сам Бог уяўляўся «Майстрам», які вызначыў законы сусвету і дазволіў чалавеку іх вывучаць.[5] «Бог-Архітэктар, - піша П.Шані, - паступова быў

---

[1] «...аўтар, разважаючы аб масонстве, - пісаў Галіцын, - гаворыць у не стасоўным для законаў хрысціянскай рэлігіі звычае і дае гэтым падставу да непатрэбных аб гэтых законах спрэчак». - LVIA, f. 721, ap. 1, b. 73, lp.17.

[2] Morawski S.Dz. cyt.- S.10-14.

[3] Скабичевский А.М. Указ. соч. - С. 128.

[4] Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. - С.291-293.

[5] «...Асветніцтва, - піша І.І. Свірыда, - пакінуўшы бога толькі ў якасці першапрычыны ўсяго існуючага, шляхам «правільнага» выхавання утапічна спрабавала аднавіць страчаную раўнавагу, ідучы ў след «натуральным законам». - Свирида И.И. Введение // Культура народов Центральной и Юго-Восточной Европы. XVIII - XIX вв. - С.7.

прымушаны да тэхналагічнага беспрацоўя»[1], паколькі ў галіне натуральных і фізіка-матэматычных навук запанавала перакананне аб непарушнасці існуючых законаў прыроды, дадзеных Богам-стваральнікам раз і назаўсёды. Усявышняму была пакінута для ўмяшальніцтва толькі сфера міжчалавечых адносін, у тым ліку, мараль і палітыка.

У іншых галінах культуры рэлігія таксама хоць і захавала дастаткова моцныя пазіцыі, ужо не вызначала іх тыпалагічныя асаблівасці. Усе без выключэння мастакі і скульптары, што працавалі на беларускіх землях на завяршальным этапе Асветніцтва, аддалі даніну рэлігійнаму жанру. Гэта было не толькі пісанне абразоў і лепка скульптур для касцёлаў, але таксама і выкананне карцін на біблейскія матывы. Рэлігійны жывапіс даваў неблагі заробак і карыстаўся попытам, што ва ўмовах абмежаванага мастацкага рынку мела вялікае значэнне для дабрабыту майстра. Секулярызацыя мастацтва праявілася, найперш, у змене жанравай дамінацыі: пакінуўшы рэлігійны жывапіс як адзін з жанраў выяўленчага мастацтва, Асветніцтва змяніла ягонае месца ў жанравай іерархіі. У часы барока побач з партрэтам дамінавала рэлігійная сцэна, тут побач з ім дамінуюць свецкія сюжэты, а рэлігійныя страчваюць сваё значэнне.[2] Рэлігійны індэферэнтызм мастакоў праяўляўся часам у захапленні містыкай, як гэта здарылася з І.Аляшкевічам, ці нават схілення да атэістычнх поглядаў і антыклерыкалізма, як гэта было ў Я.Траяноўскага.[3] Віленская школа жывапісу адрознівалася свецкім характарам сваіх праграм, у тым ліку тых, што задаваліся на конкурс.[4] Рэлігійны жывапіс і скульптура, падставы якіх выкладаліся ў Вільні, з’яўляліся дадаткам да свецкага мастацтва, хаця і гулялі важную ролю ў прафесійнай адукацыі будучых мастакоў і скульптараў. Выдаецца, што не апошнюю ролю ў гэтым адыграла стаўленне да рэлігіі як саміх прафесароў школы, так і кіраўніцтва універсітэта.

Асветніцтва пакінула культавыя пабудовы ў архітэктуры, містычную літаратуру, духоўную музыку не толькі ў касцёле і царкве,

---

[1] Chaunu P. Dz.cyt. - S.25.

[2] Malarstwo polskie. - S.10.

[3] Падрабязней аб лёсе і поглядах Я.Траяноўскага гл.: Мараш Я.Н.Очерки истории экспансии католической церкви в Белоруссии XVIII века. - Мн,1971. - С.271-272.

[4] Аналіз работ выхаванцаў Віленскай школы жывапісу, што прадстаўляліся імі для атрымання ступеняў кандыдата і магістра, паказвае, што з 1805 па 1817 гг. не было прадстаўлена ніводнай работы на рэлігійную тэматыку, пераважалі партрэты і бюсты. - LVIA, f. 721, ap. 1, b. 1113.

але ў класе і на канцэрце[1]. Але гэта былі натуральныя праявы тагачаснага амбівалентнага стаўлення да рэлігіі, падмацаваныя эстэтычнымі, а часам і меркантыльнымі матывамі.

Захаванне ўплыву царквы і касцёла на культуру беларускіх земляў, апрача іншага, абумоўлена было палітычнай сітуацыяй. Палітызацыя канфесійнай барацьбы моцна пазначылася ў часы падзелаў Рэчы Паспалітай. Як памятаем, менавіта канфесійнае пытанне складала вонкавую абалонку тэрытарыяльных прэтэнзій дзяржаваў-захопніц. І ў самой Рэчы Паспалітай напярэдадні першага падзелу канфедэрацыі гуртаваліся па канфесійнаму прынцыпу. Антыклерыкальныя выступленні, меўшыя месца ў Рэчы Паспалітай на працягу першага дзесяцігоддзя рэформаў, адыходзілі ў нябыт па меры ўскладнення знешнепалітычнай сітуацыі. У 1794 г. упершыню свядома паўстанцкія ўлады праводзілі палітыку прыцягнення ксяндзоў, найперш, парафіяльных, на свой бок, уключаючы іх у кіруючыя органы розных узроўняў. Склаўшаяся соцыякультурная структура грамадства рабіла шляхту і святарства асноўнай крыніцай афіцыйных навін на вёсцы. Цераз гэтае «сіта» праходзіла толькі тое, што было зручна памешчыку і святару ў залежнасці ад іх грамадскай паставы. Таму, менавіта, прыцягненне кліра на бок паўстання азначала ў нейкім сэнсе і пашырэнне ўплыву на сялянства. Уваходжанне тэрыторыі Беларусі ў склад Расійскай імперыі, дзе праваслаўе было дзяржаўнай рэлігіяй, змяніла сацыяльную пазіцыю каталіцкага касцёла і ўніяцкай царквы. На ўсходніх межах былой Рэчы Паспалітай каталіцызм і «польскасць» былі мацней звязаны паміж сабой, чым у іншых яе рэгіёнах. [2] Менавіта тут «каталік» быў сінонімам «паляка». Такое становішча прымушала асцярожна ставіцца да крытыкі касцёла польска-літвінскіх патрыетаў, у тым ліку, і працаваўшых на ніве культуры. Умацаванне ўплыву каталіцкага касцёлу, асабліва той ягонай часткі, што разам з Рэччу Пспалітай перажыла часы падзелаў ( выключэннем тут будут іезуіты), магло разглядацца ў сувязі з вышэй адзначанымі абставінамі, як узмацненне пазіцый «польскай культуры» на далучаных да Імперыі тэрыторыях і ў нейкай ступені станавілася гарантыяй існавання «польскай нацыі». Адной з праяў гэтага, як ужо адзначалася, было захаванне навучальных установаў, што ўтрымліваліся каталіцкімі

---

[1] Прыгадаем хаця бы грандыёзную пастаноўку араторыі Гайдна «Стварэнне сусвету», якая двойчы прагучала ў віленскай ратушы ў 1807 г. у выкананні калектыву спевакоў-аматараў і прафесіяналаў, касцёльных і царкоўных хораў, вялізарнага аркестра. Пастаноўкай кіраваў прафесар віленскага універсітэта Франк, а дзейсную дапамогу аказвалі віленскі каталіцкі біскуп і праваслаўны архіепіскап з Мінска. -Rulikowski M. Dz. cyt. - S. 36-37.

[2] Dylągowa H. Dz.cyt. - S.43.

законамі, падпарадкаваных, аднак, свецкаму кіраўніцтву Віленскай навучальнай акругі. З другога боку, падтрымка царквы была адной са складаных частак палітыкі ўлад, якія бачылі ў рэлігіі ідэалагічную падпору, а ў праваслаўнай царкве - саюзніка. Жорсткае супрацьстаянне касцёла і ўлад пачнецца праз некалькі дзесяцігоддзяў, але ўжо напачатку XIX ст. былі навідавоку першыя ягоныя праявы. Культура, нават свецкая яе частка, з якой касцёл быў моцна звязаны, станавілася сваеасаблівай арэнай канфесійна-палітычнай барацьбы. Сляды яе назіраліся ў асвеце, выяўленчым мастацтве, архітэктуры, літаратуры, мелі шмат абліччаў і форм. Можна расцэньваць не толькі як чыста канфесійную барацьбу, але і як сваеасаблівую палітычную акцыю, прыцягненне некатолікаў-вучняў да службы ў касцёле, паколькі наварочванне праваслаўных і уніятаў ў каталіцтва было забаронена. Чыста палітычнай акцыяй, у якой ужыта была сувязь рэлігіі і школы, з'явіліся падзеі ў Свіслацкай гімназіі ў 1818 г., калі вучні Антон Глазер і Павал Зямковіч закрэслілі слова «государь» у тэксце штодзённай малітвы, што вісеў у класе.[1]

Асабліва абвастраецца палітычна-канфесійная барацьба на «культурнай арэне» у другім дзесяцігоддзі XIX ст., калі Аляксандр I, важыўшыйся гуляць «першую скрыпку» у Свяшчэнным саюзе, бярэ курс на выкараненне вальнадумства шляхам умацавання рэлігійнасці, і найперш, праваслаўя ў расійскім грамадстве. Адной з падзей, ілюстрыруючых метады палітычна-канфесійнай барацьбы на глебе культуры, была ў гэты час справа Біблейскага таварыства. Утворанае па ініцыятыве і пры падтрымцы ўрада, галоўнай задачай яно ставіла распаўсюджванне Бібліі і ўмацаванне рэлігійных пачуццяў у насельніцтва. Менавіта з часу яго ўзнікнення кіраўніцтва Віленскай навучальнай акругі вымушана было ўвесці штодзённыя ранішнія чытанні Бібліі ў школах, хаця гэтае рашэнне выклікала шмат нараканняў з боку працаўнікоў асветы. Адказам на дзеянні ўлад у канфесійным пытанні была выдадзеная ў 1817 г. брашура «Меркаванні, ці дазволена ўсім без выключэння чытаць кнігі Свяшчэннага пісання на простанароднай мове». Напісаная, на думку Д.Бавуа, на літоўскай мове, яна ўбачыла свет адразу пасля ўтварэння ў Вільні аддзялення «Біблейскага таварыства» і такім чынам была накіравана супраць прынцыпаў ягонай дзейнасці, а значыць, і супраць урадавай палітыкі. Змест брашуры абурыў цэнтральныя ўлады, найперш, міністра асветы Галіцына. Прапусціў брашуру да выдання цэнзар ксёндз-піяр выкладчык універсітэта Галянскі. Як тлумачыў апошні, брашура была дазволена да друку на той падставе, што яна датычыць толькі каталіцкай рэлігіі, а каталіцызм, як вядома, не дазваляе свабодна чытаць Свяшчэннае

[1] НГАБ у Гродна, ф.1, воп.2, спр.246, арк.144.

пісанне.[1] Прафесар Галянскі быў вызвалены ад пасады цэнзара, а сама кніжка знішчана.

Месцам найбольш зацятай палітычна-канфесійнай барацьбы была асвета. Аддаўшы школу на воткуп польска-літвінскім патрыётам, якія ў сваю чаргу, прыцягнулі да гэтай справы касцёл, урад, як быццам спахапіўшыся, пачынае з другога дзесяцігоддзя XIX ст. палітыку ўмацавання ў асвеце пазіцый праваслаўнай царквы. Захады ў гэтым накірунку падрабязна прааналізаваў у сваёй рабоце Д.Бавуа. Найбольш важкім мерапрыемствам, на ягоную думку, было прызначэнне ў 1823 г. праваслаўных святароў для навучання падставам рэлігіі ў кожную школу, дзе было хаця б некалькі праваслаўных вучняў, пры чым выкладанне павінна было весціся на рускай мове.[2]

Канфесійна-палітычная барацьба захапіла, апрача асветы, і іншыя галіны культуры. У выяўленчым мастацтве, да прыкладу, рэлігійныя сюжэты выконвалі калі-некалі ролю формы для выказвання палітычных сімпатый. Прыкладам можа служыць сюжэт Юдзіфі і Алаферна, да якога, у прыватнасці, звярнуўся ў адной са сваіх карцін, зробленых не на заказ, а «для сябе», Ф.Смуглевіч. Апазіцыйнае адценне ў стасунку да пануючай у Імперыі рэлігіі меў факт існавання ў Віленскім універсітэце (таксама, дарэчы, як і ў Варшаве) скульптурнага класа. Ягоныя выхаванцы і кіраўнік ад'юнкт К.Ельскі шмат працавалі для касцёлаў. Невыпадкова таму ў мікалаеўскія часы, калі пасілілася наступленне на каталіцызм на беларускіх землях, скульптурны клас быў закрыты, а на захады К.Ельскага па яго аднаўленню цар адказваў - «закрыты, паколькі непатрэбны, а скульптуры можна вучыцца ў Пецярбургу»[3]. Пазначым пры тым, што ў Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў не выкладаліся нават падставы сакральнай скульптуры.

Змена ролі царквы і рэлігіі ў культурным жыцці грамадства была толькі адным са знакаў фармавання новага тыпу культуры. Рэвалюцыйны пераварот адбываўся ў гэты час ва ўсіх без выключэння «вымярэннях» і спосабах духоўнага самавыяўлення асобы. Кожная з галін культуры выпрацоўвала новыя жанры, накірункі, стылі, формы свайго існавання, рабіла рэвізію старых, пераглядала іх структуру і іерархію. Па-новаму ўладкоўваліся сувязі паміж рознымі галінамі культуры. На першае месца па сацыяльнай значнасці цяпер высоўваецца асвета, не меньш важную ролю гуляюць навука і літаратура. Ім, таксама, як і тэатру, надаюцца не толькі выхаваўчыя, эстэтычныя і рэкрэацыйныя функцыі, але і палітычныя. Архітэктура, якая была найвышэйшым

[1] Скабичевский А.М. Указ. соч. - С. 128.
[2] Beauvois D. Dz.cyt. - T.2 - S. 335.
[3] LVIA, f. 721, ap. 1, b. 728, lp.9.

дасягненнем эпохі барока, цяпер губляе першынства ў іерархіі галін выяўленчага мастацтва, саступаючы месца жывапісу.

І на захадзе, і на ўсходзе Беларусі ўжо ў часы падзелаў радыкальна змяніўся змест выхавання і адукацыі. На тэрыторыі, падпарадкаванай КНА, карэнным чынам памянялася праграма пераважнай большасці навучальных установаў[1], на ўсходзе - новыя праграмы выкладання ўласцівыя былі народным вучылішчам[2]. Замест класічных моваў, якія раней дамінавалі ў школах і калегіюмах, прыярытэт быў аддадзены натуральным навукам, матэматыцы, геаграфіі, свецкай гісторыі. Уведзена было выкладанне сучасных замежных моваў; на захадзе значнымі сталі курсы польскай мовы і літаратуры, на ўсходзе - рускай. Адмяняліся курсы тэалогіі. Грамадзянскую пазіцыю вучняў павінна была выхоўваць «маральная навука», якая была часткай свецкай этыкі на захадзе, а на ўсходзе гэтую функцыю выконваў курс «Аб абавязках грамадзяніна і чалавека».[3] Згодна з меркаваннямі фізіякратаў, якімі была большасць асветнікаў, школа павінна была даць выхаванцам практычныя веды, пры чым рыхтаваць іх не толькі для грамадскай і палітычнай дзейнасці, як гэта было раней, але і для працы ў галіне эканомікі: у ваяводскай школе натуральныя і матыматычныя навукі

[1] Прыкладам распрацаванай асветнікамі з КНА праграмы навучання для прывілігіраванай часткі насельніцтва можа служыць праграма шасцікласнай Віленскай ваяводскай школы. У першым класе - чытанне, пісьмо, пачаткі граматыкі і арыфметыкі, геаграфія, мараль, катэхізіс. У другім - працяг вышэй названых прадметаў і «тлумачэнне антычных аўтараў». У трэцім - граматыка, гісторыя, геаграфія, пачатковая матэматыка, мараль, пачаткі натуральных навук, «агульныя паняцці аб усіх навуках». У чацьвертым - тэарэтычная і практычная матэматыка, грэчаская гісторыя, пачаткі фізікі, натуральнае права, красамоўства, паэтыка, «тлумачэнне антычных аўтараў». Пяты - агульная фізіка, алгебра, старажытная гісторыя, рыторыка і паэтыка, натуральная гісторыя, палітычнае права, «тлумачэнне аўтараў, якія пісалі аб гэтых навуках». Шосты - права народаў, усеагульная гісторыя, натуральная гісторыя, «агульныя разуменні аб усіх мастацтвах і рамёствах», логіка, рыторыка і паэтыка, «тлумачэнне антычных аўтараў». - Сборник материалов для истории просвещения в России, извлеченных из Архива Министерства народного просвещения. - Т. 1. - С.221-222.

[2] У малодшых класах галоўнага народнага вучылішча вывучаліся чытанне, пісьмо, закон божы, руская граматыка, арыфметыка і малюнак. У дзвюх старэйшых -закон божы, граматыка, арыфметыка і геаметрыя, механіка, фізіка, натуральная гісторыя, расійская і ўсеагульная гісторыя, расійская і сусветная геаграфія, архітэктура. Скразным быў курс «Абавязкі чалавека і грамадзяніна», які вывучалі на працягу ўсёй вучобы. - ПСЗРИ - Т.XXII, № 16421; Очерки истории школы и педагогической мысли народов СССР. - С.150.

[3] Сборник материалов для истории просвещения в России, извлеченных из Архива Министерства народного просвещения - Т. 1. - С.33-35,221-222.

складалі амаль палову ўсіх адведзеных на заняткі гадзін.[1] Падобна складвалася праграма народных вучылішчаў. Тут у падставы праграм былі закладзены рэкамендацыі еўрапейскіх асветнікаў, у тым ліку М.Грыма, Д.Дзідро і іншых, але найвялікшую ролю адыграў Ф.Янкавіч дэ Мірыева. Кацярына II таксама прыняла ў гэтым непасрэдны ўдзел, выступаючы галоўным рэдактарам праграм. Розніца паміж праграмамі школ КНА і народных вучылішчаў ляжала у пашыраным курсе палітычных дысцыплін, якія вывучалі на захадзе Беларусі. «Гібрыдам» старога і новага была праграма іезуіцкіх калегіюмаў пасля ўнесеных у яе ў 1780-я гады зменаў. Новым тут было выкладанне рускай мовы і крыху пашыраныя курсы фізікі і матэматыкі.[2] Паказальна, што ў праграму выкладання ў іезуітаў былі ўключаны анталогія і этыялогія - часткі метафізічнай філасофіі эклектыкаў, характэрныя, хутчэй, для сярэдзіны, чым для канца XVIII ст.[3] Ж.дэ Местр, які добра ведаў становішча ў гэтых навучальных установах, пісаў у сваіх лістах, што жыхары Расійскай імперыі безумоўна не навучацца ў іх замежным навінкам, каторыя паграджаюць маральнаму здароўю вучняў, такім як прырода, гісторыя, хімія, астраномія, эстэтыка, тэорыя паходжання сусвету, правы чалавека і народаў.[4]

Добра распрацаваная праграма яшчэ не гарантавала абавязковы прагрэс у выкладанні. Да яе было неабходна належнае метадычнае забеспячэнне - падручнікі, карты і іншы дыдактычны матэрыял. Але самае галоўнае - кадры, якія маглі б ажыццявіць новыя прынцыпы навучання на практыцы. І першае, і другое было ў дэфіцыце паабапал

---

[1] Siedler G.L. W nurcie Oњwiecenia - Lublin.,1984. - S.164.

[2] У Полацку выкладаліся наступныя дысцыпліны: першы - трэці класы: правілы рускай і лацінскай моваў, мараль, «гісторыя аб першых манархіях» (старажытная гісторыя), геаграфія «аб імперыях Расійскай, Турэцкай, Рымскай», «тлумачэнне старажытных аўтараў», катэхізіс, паэтыка; чацьверты: руская і лацінская мовы, пачаткі алгебры і геаметрыі, паэтыка і рыторыка, гісторыя Рымскай імперыі ад старажытнасці да XVIII ст., геаграфія «сферычная і палітычная», мараль, натуральная гісторыя; пяты: тыя ж мовы, механіка тэарытычная і практычная «розным мастацтвам патрэбная», рамёствы, архітэктура грамадзянская і ваенная, балістыка і піратэхніка, гідраўліка, натуральная гісторыя; шосты: тыя ж мовы, анталогія, этыялогія, псіхалогія, або «навука аб бесцялесных духах», касмалогія або «навука аб сусвеце», астраномія, пачаткі оптыкі, эксперыментальная фізіка, сферычная геаметрыя, алгебра, этыка, натуральная гісторыя. Сёмы - багаслоўскае аддзяленне, дзе выкладаліся спецыяльныя тэалагічныя дысцыпліны. - Сборник материалов для истории просвещения в России, извлеченных из Архива Министерства народного просвещения. - Т. 1. - С. 123-130.

[3] Цукерман А.Я. О сущности перехода от схоластики к философии Нового времени.// Философская и общественно-политическая мысль Белоруссии и Литвы. - С.244.

[4] Beauvois D. - Dz. cyt. - T.II. - S. 164.

мяжы першага падзелу. У школах КНА ў першыя гады рэформы настаўнікі, у большасці звыклыя да старых метадаў выкладання, вельмі цяжка прыстасоўваліся да новых праграм і патрабаванняў, не маючы падручнікаў і дадатковай літаратуры, часта прафаніравалі натуральныя навукі. Недахоп падручнікаў і адукаваных кадраў адчувальна прыніжаў якасць выкладання і на ўсходзе, асабліва ў малых народных вучылішчах[1].

На захадзе і ў цэнтры Беларусі з прычыны ваенных завірушэнняў, рэакцыйных тэндэнцый у палітыцы расійскага ўрада і абскурантызму часткі святарства першапачаткова закладзеныя асветнікамі з КНА ў падмуркі адукацыйнай сістэмы прагрэсіўныя прынцыпы дазналі значных скажэнняў. Вынікі візітацый, праведзеных напярэдадні рэформы 1803-1804 гг. К.Богушам, Ф.Галянскім і Б.Севяргіным, а таксама рапарты каталіцкіх святароў аб стане навучання ў іхніх вучылішчах далі вельмі незадавальняючую карціну. У большасці навучальных установаў будучай акругі праграмы, распрацаваныя КНА, былі «перакручаны» і скарочаны ў выніку ўмяшальніцтва ўправаў дабрачыннасці, нядбайнасці настаўнікаў і іншых прычын. У малых народных вучылішчах на ўсходзе адукацыя звялася да праграм прыходскіх школ. Іезуіцкія ж калегіюмы, за выключэннем Полацкага, не давалі нават праграму гімназій.[2]

Рэформа асветы пачатку XIX ст. не прынесла значных зменаў у распрацаваныя КНА праграмы навучання. Новыя праграмы фактычна паўтаралі яе распрацоўкі як па раскладу навучальных гадзін, так і па пераліку прадметаў. Адметнасцю гэтых праграм быў іх рэальны накірунак і энцыклапедычнасць, асабліва ў сярэдняй школе.[3] Таксама, як і ў папярэднім стагоддзі, першапачатковыя гімназічныя і вучылішчныя курсы навук дазнавалі змен і скарачэнняў па меры ўзрастання рэакцыйных тэндэнцый у палітыцы ўлад. У 1819 г. з навучальнага плана былі выключаны паліталагічныя і эканамічныя дысцыпліны, філасофія і

[1] Усёй навучальнай і метадычнай літаратуры, дасланай ў народныя вучылішчы пры іх заснаванні, было 2821 асобнік. Яны трапілі, пераважна, у галоўныя вучылішчы. - Сборник материалов для истории просвещения в России, извлеченных из Архива Министерства народного просвещения. - Т. 1. - С. 33-35.

[2] ПСЗРИ - Т. XXVIII, № 21428.

[3] У праграму гімназіі згодна са Статутам 1804 г. уваходзілі замежныя і лацінская мовы, матэматыка (алгебра, геаметрыя, трыганаметрыя), геаграфія расійская і ўсеагульная, гісторыя айчынная і ўсеагульная, статыстыка, натуральная гісторыя, тэхналогія і камерцыя, філасофія, палітычная эканомія, прыгожыя мастацтвы (уключаючы літаратуру), малюнак. - Очерки истории школы и педагогической мысли народов СССР. - С.200.

частка эстэтычных навук.[1] Аднак асноўная накіраванасць праграм - рэальныя і энцыклапедычныя веды - не была канчаткова знішчана.

Пералік прадметаў, якія ўключаліся ў навучальныя праграмы на працягу паловы стагоддзя, яшчэ не дае поўнае ўяўленне аб змесце навучання. Больш інфармацыйным быў бы ў дадзеным выпадку аналіз падручнікаў і тэкстаў лекцый, якія чыталіся ва універсітэце і гімназіях. Часткова эту работу ажыццявіў Д.Бавуа ў сваёй манаграфіі.[2] Зыходзячы з ягоных назіранняў, можна зрабіць выснову, што змест большасці школьных кніг, асабліва тых, што рыхтаваліся польскамоўнай часткай асветнікаў, адпавядаў найноўшым дасягненням педагогікі і ўлічваў здабыткі натуральных і гуманітарных навук. Навуковы ўзровень школьных кніг гарантаваўся тым, што іх у большасці складалі навукоўцы, што былі карыфеямі ў сваіх галінах - Я.Снядэцкі, Юндзіл і іншыя. Бяда тут была не столькі ў навуковым узроўні школьных кніг, сколькі ў іх недахопе, паколькі большасць з падручнікаў каштавала дорага, да таго ж іх наклады не маглі паспець за павелічэннем колькасці вучняў у школах і вучылішчах. Асабліва моцна гэта адчувалася на ўсходзе Беларусі, дзе выкладанне многіх прадметаў вялося на рускай мове і падручнікі дасылаліся з Пецярбурга.[3] Недахоп падручнікаў кампенсавалі прыцягненнем разнастайнай літаратуры, уключаючы выданні матэматыкі Эўкліда, або дыктавалі вучням уласныя канспекты.

Нягледзячы на ўсе перашкоды і цяжкасці, змест выкладання ў навучальных установах на працягу паўстагоддзя набыў новае, у параўнанні з папярэдняй эпохай, аблічча. Цяпер ён больш адпавядаў патрабаванням часу, даваў вучням шырокі спектр ведаў у розных галінах навукі, лепш прыстасоўваў іх да грамадскай і эканамічнай дзейнасці. Малады чалавек, атрымаўшы адукацыю ў навучальных установах сярэдзіны XVIII ст., і чалавек, які выходзіў з гімназіі праз поўстагоддзя - гэта дзьве розныя асобы. «Закончыўшы школу выхаванец, пісаў аб першым з іх Я.Д.Ахоцкі, - ведаў лацінскую мову лепш за родную, умеў біцца на палках і нават на саблях, быў прывучаны да сляпой паслухмянасці, і ўсё гэта складала падставу для ягонага будучага развіцця жыццём і абставінамі».[4] У 1820-я гады малады шляхціч валодаў падставамі фізікі, матэматыкі, ведаў гісторыю, геаграфію, прыгожае пісьменства і яшчэ з дзесятак розных дысцыплін. Такая пазіцыя цалкам адпавядала логіцы і дыдактыцы асветнікаў:

[1] Там жа. С.206.
[2] Beauvois D. - Dz. cyt. - T.II. - S. 299-366.
[3] «Да навучання ніякіх дапаможнікаў няма акрамя расійскіх друкаваных пропісаў і малюнкаў,» - пісаў, да прыкладу, настаўнік Чэрыкаўскага вучылішча. - НГАБ у Мінску, ф.2277, воп.1, спр. 3, арк. 12.
[4] Охотский Я.Д. Указ. соч. - С.3.

прынятая ў той час мадэль адукаванай асобы прадугледжвала яе свабодную арыентацыю ў галіне натуральных і філасофскіх ведаў, а таксама ўменне выкарыстоўваць іх на практыцы.[1] Адукацыя набыла сацыяльную вартасць нават у тых з нобіляў, якім, у прынцыпе, яна не была жыццёва неабходна. С.Мараўскі пісаў: «...у Літве кожны лічыў справай гонару хаця б год правучыцца ва універсітэце, тым больш, што апошні быў пад бокам».[2]

Паспяховае развіццё асветы гарантавалася і падмацоўвалася навуковым прагрэсам. Культура эпохі Асветніцтва была «запоўнена» навуковымі ведамі. Менавіта ў сферы навукі пачалося фармаванне новага светапогляду, навука станавілася актыўнай стваральнай сілай, якая акрэслівала выбар стылю жыцця і дзейнасці.[3] Другая палова XVIII ст. была часам «перавароту ў розумах»[4], які знайшоў сваё ўвасабленне не толькі ў інтэнсіўным развіцці розных галін навукі, але, найперш, у пераарыентацыі накірункаў даследванняў, змене методыкі, метадалогіі і мэтаў навуковых пошукаў. Адной з важных тэндэнцый у развіцці навукі ў той час была змена прыярытэтаў у іерархіі навуковых дысцыплін. Адказваючы на запатрабаванні эканамічнага і сацыяльнага жыцця, навука выходзіла на якасна новы ўзровень разумення сусвета і грамадства.[5] Навуковая думка ў Рэчы Паспалітай ў другой палове XVIII ст. хуткімі тэмпамі асвойвала здабыткі еўрапейскіх навукоўцаў, назапашаныя з часоў Рэнесанса, прыстасоўваючы іх да патрэб краіны.[6] На гэтай падставе стала магчымым праводзіць арыгінальныя даследванні. Гуманітарныя дысцыпліны, панаваўшыя ў часы барока, у другой палове XVIII ст. пачынаюць вызваляць месца для прыродазнаўчых навук, перад усім тых, што маглі прынесці карысць развіццю эканомікі - медыцына, хімія, біялогія, матэматыка, фізіка ў гэты час пазначаны іменамі буйных навукоўцаў і фундаментальнымі працамі: Ж. Э.Жылібера, С. Л. Бізіа па медыцыне і батаніцы; Е.Снядэцкага па арганічнай хіміі; М.Пачобута-Адляніцкага па астраноміі і іншых.

[1] Беньковский Т. Формирование научного сознания Нового времени в Польше в эпоху Просвещения.\\ Культура народов Центральной и Юго-Восточной Европы. XVIII - XIXвв. - М., 1990. - С.98.
[2] Morawski S. Dz. cyt. - S. 171.
[3] Беньковский Т. Указ.соч. - С.97.
[4] Smoleński W. Przewrót umysiowy w Polsce wieku XVIII. - Warzsawa, 1926. - S.5.
[5] Падрабязней аб прычынах гэтай з'явы, яе выніках і супярэчлівасцях гл.:Кертман Л. Е. Указ соч. - С.85-88, Каган М.С. Указ.соч. - С.321-323, Chaunu P. Dz. cyt. - S.23-25.
[6] Gierowski J. Dz.cyt. - S. 52.

Гэтая тэндэнцыя была ўласцівай і пачатку XIX ст. Віленскі універсітэт, што акумуляваў у сабе лепшыя навуковыя сілы беларускіх і літоўскіх земляў, з'яўляўся буйным цэнтрам прыродазнаўчых навук, медыцыны і матэматыкі. На думку М.Балінскага, асабліва хуткімі тэмпамі гэтыя навукі пачалі развівацца пасля прызначэння на пасаду рэктара Я.Снядэцкага, выдатнага астранома і матэматыка.[1] Нават само прызначэнне Я.Снядэцкага замест былога эксіезуіта Г.Страйноўскага, каторы «не ведаючы прыродазнаўчых навук, не даваў ім зусім развівацца»[2], сведчыла аб змене прыярытэтаў і дамінацыі рацыяналізму. У другім дзесяцігоддзі XIX ст. пальму першынства у прыродазнаўства зноў паступова пачынаюць адбіраць гуманітарныя навукі, найперш, права і гісторыя. Адкрыцці ў галіне натуральных навук, адказваючы на запатрабаванні эканамічнага развіцця, падштурхоўвалі філасофскую і грамадазнаўчую думку, якія павінны былі скласці ідэйны і метадалагічны падмурак фармуючагася ў нетрах феадальнага грамадства новага сацыяльнага і эканамічнага ладу. Новая парадзігма мыслення, характэрная для эпохі Асветніцтва, менавіта ў гэтых галінах праявілася найбольш яскрава. «...пры ўсім значэнні прыродазнаўства для духоўнай атмасферы XVIII ст., - адзначае Л.Кертман, - грамадская ўвага эпохі выспявання буржуазных рэвалюцый была ўсе ж такі засяроджана на праблемах сацыяльна-палітычнага характару, у якіх пазіцыі навукоўцаў непасрэдна адлюстроўвалі класавыя інтарэсы пануючага класа або розных класаў, ўваходзячых у трэццяе саслоўе».[3] Развіццё гуманітарных навук, перад усім, гісторыі, не апошняй сваёй прычынай мела своеасаблівасць палітычнай сітуацыі, якая склалася на беларускіх землях, а таксама глыбінныя сацыяльныя працэсы, што паступова набіралі моц. Памкненне да дэмакратызацыі грамадства, адлюстроўваючы натуральныя сацыяльныя працэсы, знайшло адбітак, у прыватнасці, ў новым поглядзе на праблему прыгоннага права і грамадзянскай роўнасці жыхароў Рэчы Паспалітай, уласцівым Т.Касцюшцы, Я.Ясінскаму, І.Яленскаму, І.Храптовічу, М.Карповічу і другім грамадска-палітычным дзеячам і публіцыстам.

Для развіцця гісторыі, бадай што, найвялікшым штуршком паслужылі падзелы Рэчы Паспалітай, выклікаўшыя свайго рода шок у тагачасным грамадстве. В.Смаленьскі адзначае, што з канца XVIII ст. усе без выключэння гісторыкі, што займаліся вывучэннем мінулага Рэчы Паспалітай, нягледзячы на храналагічныя межы прадмету іх даследвання, найчасцей шукалі адказ на пытанне - што прывяло да яе

[1] Balicski M. Pamętniki o Janie Sniadeckim... - T.1. - S.373, 451-452.
[2] Ibidem. - S.373.
[3] Кертман Л.Е. Указ.соч. - С. 87.

заняпаду?[1] Цікаўнасць да гісторыі, расцвіўшая ў эпоху рамантызма, падпітвалася набіраючым размах працэсам фармавання сучасных этнасаў. Шукаючы свайго месца сярод суседніх народаў у новых сацыяльных умовах, палякі, беларусы і літоўцы, звярталіся да свайго мінулага, каб звязаць яго з днем сёняшнім, асэнсоўваючы такім чынам сваю саматоеснасць. З пачатку другога дзесяцігоддзя гісторыя пачынае паступова станавіцца галоўнай гераіняй літаратуры, тэатра, выяўленчага мастацтва. У часы рамантызма яна ўжо пануе самаўладна.

Гісторыя гістарычнай навукі другой паловы XVIII - першых дзесяцігоддзяў XIX ст. на Беларусі ўжо разглядалася айчыннымі навукоўцамі. Найвялікшы даробак у гэтай галіне зрабілі Дз.Караў і Г.Каханоўскі, работы якіх ужо згадваліся ў нашай працы. Шмат парупіліся тут і польскія навукоўцы.[2] Грунтуючыся на іх назіраннях і ўласных матэрыялах, адзначым толькі найбольш значныя зрухі ў яе кшталтаванні.

Развіццё гістарычнай думкі ў гэты час на беларускіх землях рухалася па шляху, увогуле ўласціваму еўрапейскай гістарычнай навуцы - гісторыя складвалася як дысцыпліна, фармуючы метадалогію, методыку навуковых даследванняў, закладваючы навуковыя школы, адкрываючы асобныя галіны гістарычных ведаў (дапаможныя гістарычныя дысцыпліны, гісторыю эканомікі, палітычную гісторыю і інш.) Ад апісання гістарычных падзей яна паступова пераходзіла да іх аналіза. Секулярызацыя інтэлектуальнага жыцця пазначылася ў эвалюцыі ад правідэнцыялізму, уласцівага сярэднявечнаму ладу мыслення, ў бок пазітывізма, першыя праявы якога з’явіліся ў гістарычнай навуцы рэгіёна амаль услед за работамі Конта. У гэтых працэсах лідарства, несумненна, меў захад беларускіх земляў, найперш, Вільня. Гістарычнае аддзяленне на факультэце маральных і палітычных навук універсітэта развівалася з цяжкасцямі, што было абумоўлена суб’ектыўнымі прычынамі (нязгода паміж А.Чартарыйскім і І.Лялевелем, які пакідаў універсітэт і зноў вяртаўся ў Вільню, вакантнасць кафедры напрацягу васьмі гадоў і г.д.). Але ў другім і асабліва напачатку трэццяга дзесяцігоддзя, калі ва універсітэце працавалі І.Лялевель, Т.Баброўскі, І.Анацэвіч і іншыя гісторыкі,

---

[1] Smoleński W. Patryotyzm historiografji polskiej w czasach porozbiorowych.// Przegl№d historyczny. - 1921. - Z.1- - S.11-12.

[2] У абагульненым выглядзе вынікі гэтай працы прадстаўлены Я.Тапольскім у біяграфічным даведніку - Gret Historians of the Modern Age. An international dictionary. - New York/Westport, Connecticut-London, 1996. - S.465-502. Гл. таксама агляд польскай гістарыяграфіі ў:Maternicki J. Cztery dziesikciolecia badac nad dziejami historiografii // ?rodowiska historyczne II Rzeczypospolitej. Cz-II - Warszawa, 1987. - S. 439-489.

віленская гістарычная школа здолела выпрацаваць трывалыя гістарыяграфічныя традыцыі. Характэрная асаблівасць школы - вылучэнне гісторыі Беларусі і Літвы ў асобны накірунак гістарычных даследванняў. У гэтым жа рэчашчы працаваў і Т.Нарбут. Ужо ў гэты час акрэслілася большасць праблемаў, якія ў далейшым будуць займаць айчынных гісторыкаў. Сярод іх - гісторыя ўтварэння Рэчы Паспалітай, старажытная гісторыя балтаў і славян, гісторыя хрысціянства на беларуска-літоўскіх землях, гісторыя асветы і інш. Пачала фармавацца крыніцавая база гістарычнай навукі, вяліся росшук і аналіз рукапісаў, публікацыя асобных дакумантаў, першыя археалагічныя вышукі; выпрацоўваюцца метады работы з рукапіснымі і археалагічнымі крыніцамі. Імклівае развіццё гістарычных даследванняў падмацоўвалася ўзростам палітычных функцый гісторыі, шырокім удзелам гісторыкаў-аматараў, многія з якіх ахвяравалі на гэтыя мэты не толькі свой час, але і грошы.

Новай галіной навукі становіцца фалькларыстыка, падставы якой закладзены былі Зарыянам Даленга-Хадакоўскім (А.Чарноцкім). З'яўленне яе было з'явай заканамернай, зважаючы на цікаўнасць да «сялянскай праблематыкі» і гісторыі.

Актыўная стваральная роля навукі ў грамадстве ажыццяўлялася, апрача іншага, шляхам шырокай папулярызацыі навуковых ведаў сярод адукаваных варстваў насельніцтва. Дзеля гэтага выкарыстоўваліся не толькі школьныя праграмы, падручнікі, але і іншыя формы, характэрныя ўжо для новай культуры. Сярод іх - публічныя лекцыі прафесароў, аб якіх паведамлялася ў прэсе, друкаванне навуковых артыкулаў і рэфератаў у папулярных часопісах і г.д. Значнай папулярнасцю пачынаюць карыстацца шматлікія конкурсы на вырашэнне навуковай праблемы, што абвяшчаліся разнастайнымі навуковымі ўстановамі (Расійскай Акадэміяй навук, варшаўскім Таварыствам сяброў навукі) і цікавілі не толькі навукоўцаў-прафесіяналаў, але і аматараў.[1] Навуковымі выданнямі былі поўныя кнігарні і друкарні.

Няма патрэбы перабольшваць памеры распаўсюджвання навукі ў тагачасным грамадстве. Ва ўмовах існавання сацыяльных перагародак навуковыя веды рэзерваваліся і адрэсаваліся эліце і не маглі быць

[1] Так, да прыкладу, у «Dzienniku Wilecskim» шматлікія артыкулы па гісторыі, геаграфіі, аграноміі, правазнаўству, мінералогіі, батаніцы і іншым гуманітарным і натуральным навукам значна пераўзыходзілі літаратурную частку часопіса. Навуковыя матэрыялы, найперш з галіны грамадазнаўства і гісторыі, шырока публікаваліся ў «Dziejach Dobroczynnoњсі», асабліва з тых часоў, калі рэдактарам іх стаў Ю.Завадскі. Зважаючы, што дадзеныя выданні існавалі за кошт сваёй папулярнасці, і матэрыялы, што ў іх друкаваліся, павінны былі зацікавіць чытача, выдаўцы ведалі, што друкаваць.

дасяжнымі для тых, хто стаяў на ніжэйшых прыступках сацыяльнай лесвіцы і не меў магчымасці атрымаць вышэйшую адукацыю.

У развіцці літаратуры, выяўленчага мастацтва, тэатру на працягу паловы стагоддзя розніца ў тэмпах перабудовы жанравай структуры і сутнаснага ладу праходзіла па мяжы першага падзелу. Усход беларускіх земляў выразна адставаў ад цэнтра і захада. Большасць твораў, узнікшых на Магілёўшчыне і Віцебшчыне ў другой палове XVIII ст. адпавядала традыцыям рускай асветніцкай літаратуры (выключэннем могуць быць творчасць С.Богуша-Сестранцэвіча, К.Жэры). Гэта, бадай што, найбольш уласціва «Одам» І.Сакольскага - выхаванца Пецярбургскага галоўнага вучылішча. Дастаткова моцнымі былі тут уплывы барока: амаль цалкам барочнай з'яўляецца «Торба смеху» К.Жэры, яшчэ больш архаічнымі можна лічыць «Записки игумена Ореста», пачатыя ў канцы XVIII ст.[1] З жанравых асаблівасцяў усходнебеларускай літаратуры трэба адзначыць адсутнасць друкаваных палемічных твораў, так характэрных для літаратурнага і палітычнага жыцця заходніх і цэнтральных рэгіёнаў Беларусі другой паловы XVIII ст. Апошняе тлумачыцца іншым палітычным ладам і ступенню свабоды слова. У адрозненні ад захаду, дзе цэнзура і праследванне па палітычных матывах былі надзвычай рэдкімі, на ўсходзе гэта было з'явай звычайнай.[2] Характэрнай прыкметай літаратурнага жыцця Віцебшчыны і Магілёўшчыны можна лічыць адсутнасць значных твораў мемуарыстыкі, пакінутых мясцовымі ўраджэнцамі[3]. Магчыма, яны яшчэ будуць знойдзены ў архівах, але, улічваючы тагачасную грамадскую атмасферу і ўзровень адукаванасці мясцовага насельніцтва, такія знаходкі павінны быць унікальнымі. На захадзе стваралася асветніцкая класіка - творы Нарушэвіча, Нямцэвіча, Багамольца, Крашэўскага увайшлі ў «залаты фонд» польскай і сусветнай літаратуры, неаднаразова перавыдаваліся. Тое, што пісалася на ўсходзе, сёння ведаюць, бадай што, спецыялісты-літаратуразнаўцы. «Нішу», якая ўтварылася на ўсходзе Беларусі з-за адсутнасці арыгінальных твораў мясцовых аўтараў, часткова запаўнялі кнігі расійскіх літаратараў, якія дасылаліся ў школьныя бібліятэкі і распаўсюджваліся па падпісцы.

---

[1] Записки игумена Ореста// Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. - Т. II - Вильна, 1867. - С. I-CI.

[2] У дадатак да ўжо названых, прыгадаем справу магілёўскага масона Палянскага ( Добрынин Г. Указ. соч. - С.204-205); абвінавачванне ў дзяржаўным злачынстве за некалькі вершаў магілёўскага канцэлярыста Пасека, або забарону твораў Радзішчава, Новікава, Вальтэра пасля 1789г.

[3] Найбольш вядомыя мемуары С.Богуша-Сестранцэвіча з'яўляюцца, хутчэй, дыярыушам і ахопліваюць толькі некалькі гадоў, калі аўтар жыў у Пецярбургу.

Розніца ў інтэнсіўнасці літаратурнага жыцця, склаўшаяся паміж заходнім і ўсходнім рэгіёнамі Беларусі ў часы падзелаў, не была пераадолена і ў першыя дзесяцігоддзі XIX ст. Па акрэсленню Р.Падбярэскага, які, мабыць, першы ахарактэрызаваў літэратурны рух пачатку стагоддзя на Магілёўшчыне і Віцебшчыне, мясцовыя пісьменнікі «падхопленыя вірам заходніх ідэй, драбнеючы ў пераймальніцтве, не развівалі ўласнага духу, не ткалі канвы з саміх сябе, а слепа трымаючыся славутых узораў, ніколі не выказвалі народнага духу, бо самі яго не мелі і не разумелі».[1] Апошняе, пэўна, стасуецца да аўтараў «Mieskcznika Poiockiego», прыхільнікаў класіцызму ў літаратуры, а таксама - што часцей супадала - выкладчыкаў Полацкай акадэміі Я.Мігановіча, М.Мусьніцкага і інш. Не падпадаюць пад характарыстыку Р.Падбярэскага літаратары, якія цесна былі звязаны з мясцовым асяроддзем і пакінулі след у прыгожым пісьменстве - Я.Аношка, І Манькоўскі, Ф.Рысінскі. Усход Беларусі ў гэты час яшчэ толькі збіраў сілы, каб выгадаваць буйных літаратараў, абвясціўшых аб сабе ў другой трэці XIX ст. - Яна Баршчэўскага, А.Вярыга-Дарэўскага, А.Грот-Спасоўскага, Т.Лада-Заблоцкага і інш. У гэты час захад і цэнтр Беларусі склалі моцную літаратурную традыцыю, начале якой стаіць А.Міцкевіч і літаратары-філаматы.

На думку А.І.Мальдзіса, аналізаваўшага стан беларускамоўнай літаратуры часоў Асветніцтва, яна ў сваім развіцці рабіла «крок назад», пачынаючы прыкметна адставаць ад суседніх славянскіх літаратур.[2] Асноўныя ж здабыткі ў фармаванні новай жанравай структуры, сюжэтаў, мастацкіх прыёмаў былі зроблены на беларускіх землях ў рэчашчы польскамоўнай літаратуры. Да сярэдзіны 1820 -х гг. яна фармуе новыя віды мастацкай творчасці - літаратурную крытыку, драматургію, журналістыку; развівае жанры гістарычнага рамана і аповесці, распрацоўвае новую семантыку.

Цалкам новае аблічча набывае тэатр, дзе адбываецца пераход ад схематызма ва ўвасабленні вобразаў да іх паступовай псіхалагічнай распрацоўкі, з'яўляюцца і развіваюцца новыя жанры - меладрама, вадэвіль і інш. У выяўленчым мастацтве таксама назіраецца развіццё новых жанраў, гэта, найперш, пейзаж (у тым ліку, вядута), жанравы жывапіс; кшталтуюцца цалкам новыя па мастацкіх сродках партрэтны і гістарычны жанры. Закладваюцца першыя камяні ў падмурак новых сінтэтычных галін культуры - мастацкай крытыкі, эстэтыкі;

[1] Падбярэскі Р. Беларусь і Ян Баршчэўскі.// Баршчэўскі Я.Шляхціч Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях. - Мн, 1990. - С.332-333.
[2] Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. - С.340.

напаўняюцца новым зместам тэорыя мастацтва і літаратуры.[1] Сінтэтычны падыход да мастацтва, як і культуры ў цэлым, быў творчым крэда шмат каго з тагачасных творцаў. Спалучэнне розных галін культуры ў адзіным творы (да прыкладу, мастацкі аздобленая інсцэніроўка вядомага літаратурнага твора) было адным са знакавых сімвалаў тагачаснай эпохі.

Важнай складанай часткай ардадамінантнай культуры беларускіх земляў, у значнай ступені аккумулюючай адметнасці сацыяльнага, эканамічнага і палітычнага ладу грамадства, была прававая культура набілітэту. Гэтая галіна ардадамінантнай культуры ў эпоху Асветніцтва была надзвычай дынамічнай, што абумоўлівалася як імклівымі сацыяльна-эканамічнымі працэсамі, так і бурлівымі палітычнымі падзеямі. Не апошнюю ролю тут адыграла свядомая і мэтанакіраваная дзейнасць асветнікаў. Многія элементы культурнага коду, якія фармаваліся ў той час, мелі свае карані менавіта ў гэтай галіне духоўнага жыцця.

Найбольш значнай трансфармацыі прававая культура набілітэту дазнала ў часы падзелаў Рэчы Паспалітай, пры гэтым з асаблівай выразнасцю тут пазначылася наяўнасць дзвюх цывілізацыйных мадэляў - Захада і Усхода.

Паняцце святасці і непарушнасці існуючых спрадвек законаў складала падмурак светаўспрымання «сярэднестатыстычнага» шляхціча. Да эпохі Асветніцтва, адзначае А.Крэськовяк-Крвавіч, ілюзія аб ідэальным палітычным уладкаванні Рэчы Паспалітай была з'явай агульнараспаўсюджанай.[2] Палітычныя і прававыя нормы, у тым ліку, Статут ВКЛ, разнастайныя канстытуцыі і прывілеі былі свайго рода «табу», якіх нельга было рушыць. «Omnis nowitas semper nociwa» (кожная навіна аднолькава шкодная) - з'яўлялася распаўсюджаным прыслоўем.[3] У той час звяртанне ў судовыя ўстановы прадпрымалася шляхтай Рэчы Паспалітай у любых больш-меньш значных выпадках. Судовыя працэсы і цяжбы цягнуліся часам дзесяцігоддзямі, запаўняючы шляхцічу ці магнату вольны час і ствараючы ўражанне насычанасці жыцця. Вакол судовых установаў кармілася безліч разнастайных

[1] Падрабязней аб гэтым гл.: Софронова Л.Теория культуры и некоторые проблемы польского искусства XVIII-XIX веков.//Советское славяноведение. - 1982. - № 6. - С.56-65.

[2] Crzeњkowiak-Krwawicz A. Wkiad pijaryw w ksztaitowanie politycznej kultury szlachty w czasach stanisiawowskich.// Wkiad pijaryw do nauki i kultury w Polsce XVII-XIX w. - Warzawa-Krakyw, 1993. - S. 134.

[3] Michalski J. Konstytucja 3 Maja.-Warszawa. - 1985. - S.5.

клеркаў, тут набіраліся ведання жыцця маладыя шляхцічы.[1] Выключнасць прававога статусу шляхты і магнатэрыі ў дзяржаве стварала падставы для скрайняга індывідуалізму і эгацэнтрызму ў крыўду другім саслоўям Рэчы Паспалітай. Сеймы і сеймікі ператвараліся ў спаборніцтвы розных магнацкіх груповак, якія мелі на мэце не вырашэнне надзённых пытанняў, а адстойванне прыватных інтарэсаў магнатаў і іх кліентаў.

Бадай што, найбольш значнай новай прыкметай у прававой свядомасці шляхты ВКЛ была змена паняцця права, традыцыі, даўніны. Важным было не толькі тое, што ў судовым справаводстве і на сеймах загучала чыстая польская мова, а выхаванцы навучальных установаў замест былога квяцістага красамоўства цяпер выступалі разумна і сцісла. Справа была ў самім разуменні законаў - калі права недасканалае, яго трэба змяніць, засноўваючыся на рацыянальным падыходзе да існуючай сацыяльнай, палітычнай ці эканамічнай сітуацыі. Нестасоўнасць заканадаўства Рэчы Паспалітай да склаўшыхся ў дзяржаве сацыяльных стасункаў выклікала спробы ягонай рэформы. Адным з галоўных яе накірункаў была кадыфікацыя заканадаўчых актаў, выданне зводу законаў, які быў бы пазбаўлены супярэчнасцяў і ўяўляў сабой адзіную сістэму. Захады па ўпарадкаванню прававых нормаў, што дзейнічалі ў Рэчы Паспалітай, прадпрымаліся яшчэ на золку Асветніцтва. Дзякуючы намаганням С.Канарскага ў першай палове XVIII ст. быў выдадзены шасцітомны збор заканадаўчых актаў і соймавых рашэнняў за 1347-1739 гг. - «Volumina Legum». Але гэтае выданне ўтрымлівала шмат супярэчнасцяў, многія юрыдычныя нормы патрабавалі перагляду і дапаўнення, яно было нязручным для штодзённага выкарыстання ў судах. «Volumina Legum» можна было, хутчэй, разглядаць як гістарычную крыніцу, чым як дзейнічаючае заканадаўства. Спроба стварыць новы звод законаў, прадпрынятая па ініцыятыве Замойскага і Страйноўскага у другой палове XVIII ст., аказалася няўдалай, найперш, з-за канфедэратыўнага ладу Рэчы Паспалітай. Існаванне асобнага заканадаўства ў выглядзе Статута ВКЛ 1588 г. падкрэслівала аўтаномію беларуска-літоўскіх земляў. Ягонае скасаванне азначала разбурэнне адной з важных рысаў літвінскай ментальнасці. Таму, менавіта, у большасці разумеючы недасканаласць Статута 1588 г., літвінскія

[1] Гэты бок шляхецкага жыцця добра паказаны Я.Ахоцкім і асабліва ў М.Залескім: Охотский Я.Д. Указ.соч. - Т.2 - С.22-25; Pamiktniki Michaia Zaleskiego,wojskiego Wielkiego Kskstwa Litewskiego, posia na sejm czteroletni. - Poznac, 1879. - S.28-33;

дэпутаты адхілілі высунутую на сейме 1776 г. прапанову кадыфікацыі законаў Рэчы Паспалітай.[1]

Адной з галоўных заган існуючага права было выключэнне з прававога поля сялянства, якое разглядалася ў юрыдычных актах толькі з пункту гледжання ягоных абавязкаў адносна ўладара, ці дзяржавы. «Пераварот у розумах», выкліканы эпохай Асветніцтва, прымушаў шляхту пераглядзець свой стасунак да сялянства, змяніць некаторыя нормы былога заканадаўства, што, у тым ліку, увасобілася ў палажэннях Канстытуцыі 3 траўня[2], у адозвах і ўніверсалах часоў паўстання. Трансфармацыя паняццяў «народ» і «люд», якая адбывалася ў той час, сведчыла аб змене стасунку да «простых станаў» і ўключэнні іх у лік грамадзянаў краіны.[3] Гэта быў крок да дэмакратзму грамадскіх адносін, уласціваму Новаму часу. Але не толькі па гэтым накірунку адбывалася эвалюцыя паняцця права. Зафіксаваны былі новыя віды злачынстваў, сярод якіх адзначым «здраду народу»[4]. Зменены былі працэсуальнае права, функцыі і прэрагатывы асобных судовых устаноў і г.д. Важнае значэнне мела папулярызацыя прававых ведаў, якая праводзілася цераз навучальныя ўстановы, а таксама шляхам масавага выдання прававых актаў і юрыдычнай літаратуры.[5]

Ужо ў канцы XVIII ст. месца табуіраванага погляду на традыцыі шляхецкай вольнасці сарматскіх часоў у маладога пакалення нобіляў займаюць ідэі, блізкія меркаванням Русо, Вальтэра, Мантэск'е, паняццям класічнага лібералізма.[6]

Адной з адметнасцяў сацыяльнага жыцця Рэчы Паспалітай у часы падзелаў было разбурэнне дыферэнцыяцыі прывілеяванага саслоўя па радавому прызнаку, змяняліся прававыя стасункі ў яго межах. Гэтая з'ява мела шмат аблччаў і праяў: абмежаванне выбарчых правоў

---

[1]Malec C. Walka szlachty litewskiej o zashowanie III Statutu w drugiej poiowie XVIII wieku. //Czasopismo Prawno-Historyczne. - XLIV - 1992. - Z. 1-2 - S. 65-72.

[2] Сялянства, хоць і не атрымала палітычных правоў, але названа было грамадзянамі Рэчы Паспалітай. Не вызваліўшы іх ад прыгону, Канстытуцыя гарантавала ім апеку дзяржавы і закону. - Konstytucja 3 Maja 1791/ Oprac.J.Kowecki -Warszawa,1981.

[3] Як адзначае В.Леантовіч, ў Расійскай імперыі пытанне аб наданні грамадзянства сялянам нават не магло ў той час узнікнуць, паколькі ў краіне не існавала ніводнага вольнага саслоўя, якому падыходзіла бы еўрапейскае значэнне паняцця «грамадзянін». Нават дваране былі ў залежнасці ад дзяржавы.- Леонтович В.В. История либерализма в России. - С.36-37.

[4] Bardach J. Leњnodorski B. Pietrzak M. Dz. cyt. - S..302.

[5] С.Канарскі, Г.Страйноўскі, Г.Калантай і іншыя ідэолагі Асветніцтва настойліва рэалізоўвалі праграму палітычнага выхавання моладзі і выдання кніг «асабліва з матэрыяламі, якія датычаць улады, заканадаўства, патрэб і інтарэсаў народу». - Crzeњkowiak-Krwawicz A.Dz.cyt. - S.139.

[6] Леонтович В.В. Указ. соч. - С.2-22.

беззямельнай і маламаёмаснай шляхты, няхай і радавітай; спыненне свавольства магнатаў у вырашэнні палітычных спраў і інш.[1] У час паўстання і напярэдадні яго гэты працэс дасягнуў найвышэйшага пункту. Не апошнюю ролю тут адыграў прыклад Францыі і Паўночнай Амерыкі, што рэвалюцыянізіраваў у той час усю Еўропу. Як адну з характэрных прыкмет разбурэння саслоўных перагародак можна адзначыць зварот «грамадзянін», які ўжываўся паміж дзеячамі паўстання не залежна ад іх тытулаў і маёмаснага стану.[2] Замест традыцыі роўнасці ў межах шляхецкага саслоўя пачынае ўмацоўвацца ідэя роўнасці ўсіх, незалежна ад паходжання (найбольш прагрэсіўныя прадстаўнікі шляхты ўключалі сюды і сялянства), рэальнай уяўляецца магчымасць сацыяльнага авансу на падставе карыснасці чалавека як грамадзяніна. Далёка не ўся шляхта падзяляла погляды польскіх і літвінскіх «якабінцаў», вышэй згаданыя з'явы пазначыліся ў гэты час, хутчэй, як тэндэнцыя. Але нават само іх існаванне сведчыла аб карэннай змене ў свядомасці нобіляў. Важнай прыкметай інтэлектуальнага жыцця прывілеяванага саслоўя было паступовае фармаванне новага этасу.

Змены адбыліся ў разуменні дзяржаўнага права. Рэч Паспалітая многімі шляхцічамі яшчэ ў сярэдзіне стагоддзя не разглядалася як класічная манархія.[3] Паняцце «рэспубліка», якое мела сваісты сэнс у XVIII ст., пераносілася многімі прадстаўнікамі набілітэту на Рэч Паспалітую і ў поўнай меры было рэалізавана ў гэтым значэнні пасля прыняцця Канстытуці 3 траўня[4]. Тут ўмацоўваецца стасунак да манархіі як да інструмента кіравання дзяржавай, якім ў сваіх інтарэсах карыстаецца народ. Узмацняецца перакананне аб магчымасці абмежавання каралеўскай улады з дапамогай парламентарызма і Канстытуці, пры чым, у адрозненне ад часоў «сарматызма», Парламент і Канстытуцыя павінны былі адлюстроўваць інтарэсы не толькі прывілеяванага саслоўя, а ўсяго народа.

На ўсходзе беларускіх земляў у часы падзелаў можна знайсці шмат аналагаў заходнебеларускіх працэсаў трансфармацыі прававой культуры: прававое абмежаванне шляхецкай анархіі, уладкаванне заканадаўства і працэсуальнага права, перагляд прававых нормаў, рэгламентуючых стасункі ў межах пывілеяванага саслоўя і інш. Але пры

---

1 Gierowski J.A. Dz.cyt. - S.47-48.

2 Гл. лісты Ю.У.Нямцэвіча і Я.Ясінскага да М.К.Агінскага, загады Т.Касцюшкі і рапарты генералаў паўстання - РГВИА, ф.ВУА, д.2726, т.10-11; д.2728, т.1.

3 «Польшча на самой справе не з'яўляецца манархіяй і мае начале не манарха, а караля з абмежаванай Канстытуцыяй ( Pakta Conwenta) ўладай..». - пісаў М.Залескі. - Pamiktniki Michaia Zaleskiego,wojskiego Wielkiego Ksksтwa Litewskiego. - S.16.

4 Rostworowski E. Maj 1791-maj 1792. Rok monarchii konstytucyjnej. - Warszawa,1985. - S.5-8.

ўсім вонкавым падабенстве значная розніца існавала тут у іх мэтах, метадах і выніках.

Фармальна не скасоўваючы ўсіх былых прававых інстытутаў і нормаў, царскія ўлады прадпрынялі паступовую грунтоўную перабудову найбольш важных галін права. Уводзячы ў далучаных тэрыторыях адміністратыўны і прававы парадак, прыняты ў Імперыі, новая ўлада пазбавіла шляхту магчымасці ўдзельнічаць ў кіраванні дзяржавай, што было раней яе спрадвечным правам. За ёй была пакінута толькі вузкая сфера шляхецкага самакіравання і частка судовых спраў, якія датычылі маёмасных і асабістых канфліктаў. Распаўсюджваючы на шляхту далучаных земляў «Даравальную грамату дваранству», урад падцвердзіў гэтае становішча, нізводзячы былыя шляхецкія вольнасці да правоў і абавязкаў расійскага дваранства. Сеймікі, якіх была пазбаўлена цяпер шляхта, складалі дагэтуль важную частку грамадскага і культурнага жыцця. Рэгламентаваныя дваранскія выбары, што знаходзіліся пад поўным наглядам расійскай адміністрацыі, не маглі замяніць былую традыцыю «сеймікавання». У дадзеным выпадку, акрамя наступа на звыклыя для шляхты палітычныя правы, адбывалася разбурэнне сістэмы суседскай салідарнасці, якая была адным са слупоў партыкулярызму і юрыдычна-адміністратыўнага рэгіяналізму часоў Рэчы Паспалітай.[1] Не вельмі адпавядала шляхецкаму ўяўленню аб праве кіравання краінай магчымасць удзельнічаць у рабоце «Уложенной комиссии», дараваная Кацярынай II усходнебеларускай шляхце ў 1773 г.[2]: як вядома, камісія мела толькі дарадчыя правы і так нічога і не вырашыла. Адсунутая ад удзелу ў грамадскім і палітычным жыцці, шляхта, такім чынам, губляла адзін з найважнейшых сваіх заняткаў, які ў часы Асветніцтва мог стаць штуршком для самаўдасканалення, набыцця адукацыі, для праяўлення талентаў і амбітнасці.

Яшчэ адным важным вынікам дзейнасці ўладаў была замена заканадаўчай базы, на якой грунтавалася ў сваім сацыяльным быцці шляхта. Кацярына II, афіцыйна не скасоўваючы Статут 1588 г., фактычна адмяніла ягонае дзеянне, як і дзеянне многіх іншых юрыдычных актаў былой Рэчы Паспалітай. Захады расійскіх уладаў па скасаванню гэтых юрыдычных актаў большасцю шляхты перажывалася як трагедыя.[3] Неакрэсленасць заканадаўча-прававой базы сеяла

---

[1] Закшэўскі А.Б. Юрыдычна-адміністратыўны рэгіяналізм ў І Рэчы Паспалітай// Беларусіка-3 - Мн.,1994. -С.16-23; Wyczacski A. Polska - Rzecz№ Pospolit№ szlacheck№. - Warszawa, 1965. - S.399.

[2] Белоруссия в эпоху феодализма. – Т.3 – С.36.

[3] «Кнігі Woluminum legum, Статут Вялікага княства Літоўскага, паводле якіх дагэтуль спрэчка паміж бакамі ў судзе вырашалася, закрытыя, са стала справедлівасці скінутыя, пыл іх пакрывае і моль грызе». - Пісаў аб скасаванні

разгубленасць сярод усіх варстваў пывілеяванага саслоўя. Скасаванне былых законаў выклікала свайго рода «прававы шок», калі чалавек губляў адэкватнае праваўспрыманне. Гэтую сітуацыю акрэслівае наступны пасаж з адной са шматлікіх у канцы 1770-х гадоў шляхецкіх скаргаў на адрас Сената: «судзіце мяне па расійскім, польскім, або якім заўгодна законам - я не вінаваты».[1] У гэтым рэчашчы трэба разглядаць здольнасць шляхцічаў на ўчынкі, якія раней расцэньваліся як звычайныя свавольствы або неад'емныя правы шляхецкага стану, а ва ўмовах Расійскай імперыі былі па-за законам. Гэта, найперш, датычыцца наездаў і канфедэрацый супраць мясцовай адміністрацыі.

Наезды у першай палове стагоддзя былі ў Рэчы Паспалітай звычайнай з'явай. Як правіла, судовыя справы аб іх цягнуліся вельмі доўга, часцей пакрыўджаны, не чакаючы выраку суда, сам рабіў наезд на крыўдзіцеля. Выпадкі, калі за такія свавольствы «каралі горлам» былі даволі рэдкімі, хаця паводле Статута ВКЛ наезд з забойствам караўся смерцю.[2] Ступень адказнасці залежала ад маёмаснага стану злачынцы, ягонага сацыяльнага і дзяржаўнага статусу, вельмі часта справу вырашала наяўнасць у яго магутнага патрона, які мог заступіцца за кліента.[3] Ва ўмовах Расійскай імперыі наезд стаў разглядацца як дзяржаўнае злачынства, якое падлягае юрысдыкцыі не земскага і гарадскога судоў, дзе засядала мясцовая шляхта, а расійскай адміністрацыі. Вінаватыя паддаваліся пакаранню без фармальнага суда, абскардзіць яго ў Сенаце было амаль немагчыма.[4] Таксама жорстка караліся спробы ўтварэння канфедэрацый, права на якія ў Рэчы Паспалітай гарантавалася яшчэ з часоў Генрыха Валуа. Я.Анішчанка паведамляе аб адным з такіх выпадкаў, калі спроба магілёўскай шляхты стварыць канфедэрацыю ў адказ на валюнтарызм губернатара Кахоўскага была кваліфікавана як бунт.[5] Прысуд Сената па гэтай справе, ствараючы прэцыдэнт, абавязаў шляхту надалей «някіх паміж сабой

---

заканадаўства Рэчы Паспалітай адзін з сучаснікаў. - Pamiktnik Franciszka Mickiewicza. - S.36.

[1] РГАДА, ф.248, оп.126, д.5669, л. 203.

[2] Статут ВКЛ 1558 г. - С.508.

[3] Некалькі такіх выпадкаў прыводзіць А.Мальдзіс - Мальдзіс А.І. Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя. - С.144-145.

[4] Красамоўным прыкладам можа служыць справа шляхціча Галынскага. За наезд на падараваныя Пацёмкіну землі былога Крычаўскага староства, які абышоўся без забойстваў і падпалаў, ён быў «на страх другім» прысуджаны да смяротнага пакарання. Па асабістаму рашэнню імператрыцы гэты прысуд замянілі высылкай у аддаленыя правінцыі Расіі з пазбаўленнем шляхецкіх правоў і накладваннем буйнога спагнання. - РГАДА, ф.248, оп.126, д.5669, лл.1 - 305 об.

[5] Анішчанка Я.К. Прававы статус беларускіх земляў у палітыцы адміністрацыі Кацярыны II. - С.68-69.

суполак і рад без ведання начальнікаў сваіх рабіць і агульных паданняў падаваць не адважвацца».[1]

Для ўсходнебеларускай шляхты доўгі час заставаўся незразумелым яе статус у новай дзяржаве. Пры ўсёй маёмаснай дыферэнцыяцыі і стратыфікацыі шляхецкага саслоўя, прынцып роўнасці быў адной з найбольш шанаваных і ахоўваемых традыцый[2]. Менавіта на гэтым прынцыпе трымалася самапавага дробнай і сярэдняй шляхты, іх пачуццё чалавечай і шляхецкай годнасці. Ва ўмовах жорсткай іерархіі служылага саслоўя, якая характэрна была для Імперыі з часоў «Табели о рангах», традыцыі прававой роўнасці нобіляў дазнавалі значнай трансфармацыі. Прызвычайванне да новай сацыяльнай структуры, у тым ліку, да прынцыпаў, на якіх у Расійскай імперыі будаваліся стасункі паміж дваранствам і манархам, патрабавала перабудовы многіх звыклых для беларускага шляхціча ўяўленняў.

У Рэчы Паспалітай кароль, які абіраўся шляхтай, лічыўся «primus inter pares» (першым сярод роўных), што падкрэслівалася заканадаўствам і ўсім ладам прыдворнага этыкету. Абраны шляхтай на пасаг, ён мусіў прыносіць прысягу, гарантуючы ёй захаванне вольнасцей і існуючых прававых нормаў. Нязвыклым для беларускай шляхты быў стасунак да манарха як да «богопомазанника». Гэта ўжо ў паўлаўскія часы, жывучы ў Пецярбургу, заўважыў С.Богуш-Сестранцэвіч: «... у Магілёве глядзяць на рэчы яшчэ так, як даўней, а тут у сёняшні час усё робіць Адзін».[3] Пішучы ў паданнях на імя імператрыцы выраз, звычайны ў расійскім грамадстве - «ново и верноподданные рабы Ваши»[4] - шляхціч ішоў насуперак свайму светаўспрыманню і сваёй шляхецкай годнасці. Змяненне стасункаў паміж манархам і нобілямі акцэнтавалася ў тэксце прысягі, якую мусілі скласці шляхцічы на далучаных землях, каб не паставіць пад пагрозу канфіскацыі свае ўладанні. Прысягалі персанальна самаўладцам, новая Бацькаўшчына, народ і г.д. не згадваліся ў тэксце прысягі.[5] Цяжка адаптавалася сітэма

---

[1] Там жа.

[2] Мальдзіс А.І. Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя - С.78-79.

[3] Дневник Сестренцевича... - Ч.1 - С.25.

[4] РГАДА, ф.248, оп.126, д.5669, л.203. «Рефрен: в России все рабы, был, пожалуй, самым характерным для самосознания русского общества конца XVIII-первой половины XIX века». - адзначае І.Худушына. - Худушина И.Ф. Указ.соч. - С.49-50.

[5] Поўны тэкст прысягі ў перакладзе з польскай на беларускую мову гучаў наступным наступным чынам: «Я, які ніжэй падпісаўся, прысягаю ўсемагутнаму Богу перад святым Евангеллем Яго і абяцаю дабравольна яе Імператарскай Вялікасці маёй міласцівай імператрыцы Кацярыне Аляксееўне, самаўладцы ўсёй Расіі, а таксама яе імператарскай вялікасці найлюбаму сыну цэсарэвічу і Вялікаму князю Паўлу Пятровічу дзедзічнаму пераемцы пасагу ўсёй Расіі верна і аддана служыць і ва ўсім

чыноў і пасад, прынятая ў Расійскай дзяржаве. Надзвычай заблытаная тытулатура Рэчы Паспалітай, не маючая часам рэальнага зместу, была, аднак, звыклай і зразумелай мясцовай шляхце. Уваходжанне ў новую іерархію выклікала непаразуменні і разгубленасць. Вельмі красамоўны прыклад падае ва ўспамінах Г.Дабрынін. Пасля выбараў на судовыя пасады ў Магілёўскім намесніцтве Кацярына II надзяліла новаабраных чынамі ў адпаведнасці з іх службовымі пасадамі. Некаторыя шляхцічы, якія ў часы Рэчы Паспалітай не ўздымаліся вышэй харунжага, адразу трапілі ў палкоўнікі. «Смешна было слухаць, - заўважае мемуарыст, - як многія з прызначаных, нязвыклыя да чыноў расійскіх, прыходзячы да намесніцтва ( г.зн. у канцылярыю - С.К-С.), пыталіся нас, служачых: «што такое «титулярный советник», што такое «надворный советник»? Я быў, - адзін кажа, - падстолі, другі - мастаўнічы,. .. каморнік ржэчаскі,... мечнік старадубаўскі,... рэент ашмянскі і г.д.»... «За што ў вас вылічваюць з жалавання, калі ўзнагароджваюць чынамі?»...а старшыня верхняй расправы Курч прапанаваў на разгадванне кожнаму, хто хацеў яго слухаць: «Гавораць, што я ў ранге падпалкоўніка. Дзе ж мой полк?».[1] Падобны гэтаму выпадак прыводзіць у сваім дзённіку і С.Богуш-Сестранцэвіч.[2]

Увядзенне расійскай сістэмы дваранскай іерархіі, з аднага боку, уносіла жорсткую рэгламентацыю ва ўнутрысаслоўны падзел шляхты, з другога боку, стварала магчымасць прасоўвання па чыноўнай лесвіцы для атрымання больш высокага сацыяльнага статуса. Але «дэмакратызм» гэтага прынцыпу даваў збоі ва ўмовах абсалютнай манархіі, а для ўсходнебеларускай шляхты не спрацоўваў з-за недасяжнасці высокіх адміністратыўных пасад у краі і ў Імперыі. У паўлаўскія і аляксандраўскія часы ўрад, ідучы насустрач пажаданням шляхты, пакінуў мясцовыя назвы пасад у шляхецкім самакіраванні.

Уяўленне аб недатыкальнасці маёмасці, якая раней з’яўлялася адным з падмуркаў шляхецкай прававой свядомасці, таксама дазнала на сябе цяжкія выпрабаванні. Секвестраванне і канфіскацыя маёнткаў пасля першага падзелу паказала, што ва ўмовах імперыі ніхто не гарантаваны ад гэтай страты. Ужо ў 1772 г. быў канстатаваны існуючы падзел землеўладання і абвешчана аб прыпыненні ўсіх непадмацаваных дакумантамі маёмасных прэтэнзій.[3] Нявырашанасць зямельных спрэчак, якія вяліся яшчэ ў часы Рэчы Паспалітай, і абвешчаная ў 1777 г.

---

быць настолькі паслухмяным, што апошняй кроплі крыві і жыцця майго не шкадаваць. У гэтым дапамажы мне Бог. У пацвярджанне гэтай маёй прысягі цалую словы і крыж Збавіцеля майго. Аман». - НГАБ у Мінску, ф.2567, воп.1, спр.9, арк.11.

[1] Добрынин Г. Указ.соч.- С.211.

[2] Дневник Сестренцевича... - Ч.1 - С.268-269.

[3] Белоруссия в эпоху феодализма. - Т.3 - С.28-29.

забарона вырашаць іх у судовым парадку дазвалялі ўраду безперашкодна пераразмяркоўваць зямельныя ўладанні. Механізм гэтай працэдуры паказаны Я.Анішчанкам.[1] Змены былі ўнесены ў вексільнае і пасесійнае права, а Генеральнае межаванне дадала яшчэ прэцыдэнт кругавой парукі, якой звязваліся маёмасныя правы шляхцічаў на зямлю і прыгонных.

І на тэрыторыі ВКЛ, і на ўсходзе беларускіх земляў у апошняй трэці XVIII ст. адбываўся наступ на традыцыі шляхецкай анархіі. На ўсходзе абмежаванне шляхецкай вольнасці ішло праз жорсткую дзяржаўную палітыку, мэтай яго было ўключэнне ўсходнебеларускай шляхты ў сацыяльную структуру імперыі, вынікам - зніжэнне палітычнай і сацыяльнай актыўнасці, рост апазіцыйнаых настрояў, гвалтоўнае разбурэнне традыцый і разгубленасць набілітэту. На захадзе наступ на шляхецкую анархію праводзіўся самім прывілеяваным саслоўем пры саюзе з каралём. Мэтай служыла ратаванне краіны, сродкі ж былі звычайнымі для грамадскага ладу Рэчы Паспалітай - рашэнні сеймаў, Канстытуцыя. Адну з найважнейшых роляў у гэтым павінна было адыграць палітычнае выхаванне шляхецкай моладзі. Вынік захадаў прагрэсіўна і патрыятычна настаўленай часткі грамадства Рэчы Паспалітай па абмежаванню шляхецкай анархіі стаўся відавочным у апошнія гады існавання краіны. Ягонае ўвасабленне вылілася ў Канстытуцыю 3 траўня, якая ў далейшым стала сімвалам нацыянальна-вызваленчага руху на землях былой Рэчы Паспалітай.

У першыя дзесяцігоддзі XIX ст. на беларускіх землях прававая культура нобіляў, з аднаго боку, працягвала адчуваць на сабе ўздзеянне феадальна-прыгонніцкай бюракратычнай Імперыі, з другога - культывавала гісторыю права, прапаганду юрыдычных ведаў, шукала магчымасці пагадзіць паміж сабой заблытаныя прававыя і працэсуальныя нормы, былое заканадаўства Рэчы Паспалітай і ВКЛ і расійскія законы. На беларускіх землях, у адрозненне ад большасці рэгіёнаў Імперыі, быў пакінут інстытут адвакатуры, які, праўда, меў сваім полем дзейнасці толькі частку цывільнага права (зямельнае, маёмаснае, сямейнае). Не аналізуючы падрабязна ўсе асаблівасці прававой культуры гэтага часу - яна з’яўляецца дзялянкай гісторыкаў права, - адзначым, што на беларускіх землях у гэты час паступова фармуецца свая юрыдычная школа. Выкладанне юрыдычных і палітычных навук складала асаблівы клопат кіраўніцтва Віленскай навучальнай акругі і універсітэта. У Вільні на факультэце палітычных і маральных навук гісторыю права ў гэты час выкладаў А.Капэлі,

[1] Анішчанка Я.К. Прававы статус беларускіх земляў у палітыцы адміністрацыі Кацярыны II. - С.65-68.

здольнасці якога як выкладчыка і навукоўца сучаснікі ацэньваюць неадназначна,[1] у галіне расійскага права спецыялізаваўся Ю.Даніловіч, які некаторы час быў на стажыроўцы ў Маскве. Гэтыя курсы дапаўняліся царкоўным правам, палітычнай эканоміяй і г.д. Апрача выкладання ішла актыўная работа па кадыфікацыі заканадаўства, праўда, пакуль што не маючая практычнага прымянення. Дзякуючы намаганням прафесараў Зноскі, Лялевеля, Лабойкі прадпрынята была перапрацоўка Літоўскага статута 1588 г., які ў новай рэдакцыі павінен быў пагадзіць нормы мясцовага і расійскага права, збіраліся і рыхтаваліся да выдання актавыя матэрыялы ВКЛ. Як і ў папярэднім стагоддзі, у першыя дзесяцігоддзі XIX ст. прававыя веды распаўсюджваліся праз выкладанне палітычных дысцыплін у навучальных установах, шляхам выдання актавых дакументаў, у тым ліку, адвакатскіх прамоваў і іншых судовых матэрыялаў.[2]

Адметнасцю прававой культуры нобіляў у першыя дзесяцігоддзі XIX ст. была яе супярэчлівасць. Застаўшыяся з часоў Рэчы Паспалітай уяўленні аб праве нобіля, дапоўненыя ліберальнымі ідэямі французскіх асветнікаў, не стасаваліся да існуючага ў Імперыі ўсеўладдзя царскай адміністрацыі. У прынцыпе, любая справа, ўключаючы нават дзяржаўнае злачынства, магла быць вырашана шляхам подкупа або заблытана ў разнастайных адміністратыўных і судовых інстанцыях і цягнуцца гадамі. Аднак часам невялікі праступак, накшталт дзяцячага свавольства ў Віленскай гімназіі, мог прывесці да вялізарнай справы, у дадзеным выпадку - справы філаматаў і філарэтаў, у якую замешана было каля двух соцен чалавек. Усё залежала ад паставы мясцовай адміністрацыі, наяўнасці сувязей, грошаў, а таксама, не ў апошнюю чаргу, ад палітычнай сітуацыі ў краіне. Прыгадаем амністыі ўдзельнікаў паўстання 1794 г. і вайны 1812 г., паводле якіх прабачана было нават зламанне прысягі расійскаму самаўладцы. Сітуацыя, што склалася ў сістэме права на беларускіх землях у той час, вельмі трапна акрэслена ў мемуарах С.Мараўскага. «Літва з часоў яе далучэння да Расіі, - піша ён, - з пункту гледзішча прававога парадку была ў хаосе. Ёй пакінулі старыя правы ў грамадзянскім працэсе. У крымінальным - акрамя нормаў,

---

[1] М.Балінскі піша аб ім, як аб эрудыце і філосафе, выключна здольным чалавеку. – Balicski M. Dz.cyt. - S.374. Студэнты-філаматы, аднак, ловяць яго на кампілірванні лекцый. - Beauvois D. - Dz. cyt. - T.II - S. 299-366.

[2] Згодна з рашэннем сейма Рэчы Паспалітай з 1764 г. адвакатскія прамовы належалі абавязковаму друкаванню і распаўсюджванню паміж усімі зацікаўленымі асобамі. Цэнзураванне гэты від друкаванай прадукцыі, як ужо адзначалася, праходзіў у Віленскім цэнзурным камітэце, а ў 1827 г. дзеля гэтых мэтаў была заснавана яшчэ і спецыяльная цэнзура ў Гродна. - НГАБ у Гродна, ф.1, воп.2, спр.1906, арк. 1-3, 6-27, 30-34.

існаваўшых раней, краёвых, дадалі яшчэ расійскую працэдуру. Акрамя таго, у абодвух працэдурах прадпісана было абапірацца на загады, якія, адзін другому супярэчаўшыя, можна было да кожнага выпадку адпаведна падабраць. Загады гэтыя стагоддзямі выдаваліся ad casum (на выпадак, для прэцыдэнта - С.К-С.). У рэшце рэшт генерал-губернатар накладваў рэзалюцыю. Справа магла цягнуцца дзесяцігоддзямі, і выйграваў той, у каго былі магчымасці дабрацца да Сената».[1] У Пецярбургу нават склалася своеасаблівая калонія літвінска-беларускіх ураджэнцаў, якія займаліся хадайніцтвам па справах кліентаў-землякоў. «Вялікі гасудар, - пісаў у 1809 г. у паданні Аляксандру I невядомы шляхціч, - ты зацьвердзіў закон Літоўскі, а не разглядзеў, чым гэты закон харошы, а чым дрэнны: закон гэты патрабуе вялікіх выдаткаў і на супярэчнасцях ягоных адно паклёпніцтва... Чаму няма друкаванай кнігі, каб у адным месцы былі загады, і кожны мог бы для сябе яе набыць?»[2] Недасканаласць прававой сістэмы, існаваўшай і ў Імперыі, і на беларускіх землях, выклікала да жыцця шматлікія праекты адміністратыўна-прававога ўладкавання былой тэрыторыі Рэчы Паспалітай, якія выходзілі як з асяроддзя мясцовых нобіляў, так і з асяроддзя расійскага чынавенства. Падобныя праекты складалі А.Чартарыйскі, М.К.Агінскі, М.Навасільцаў і інш. Да гэтых захадаў далучаліся і расійскія грамадскія дзеячы. Прыгадаем тут увагу да ўладкавання статуса беларускіх земляў у праектах дзекабрыстаў.[3] Але рэфарматарскія памкненні сутыкаліся з інэрцыяй феадальна-бюракратычнага ладу Імперыі і часцей заставаліся на паперы.

Нягледзячы на ўсю недасканаласць і супярэчлівасць прававой культуры часоў Асветніцтва, яна ў параўнанні з часамі барока зрабіла значныя крокі на шляху да фармавання буржуазнага права. Пачынаюць больш выразна кшталтавацца і дыферынцыравацца асобныя галіны права, акрэсліваецца эвалюцыя ад феадальных прававых нормаў, у падставе якіх ляжалі інтарэсы пывілеяванага саслоўя, да буржуазных шляхам паступовай адаптацыі ідэй роўнасці ўсіх перад законам. Аднак ва ўмовах феадальна-бюракратычнай Імперыі гэтая эвалюцыя набыла запаволены характар.

Своеасаблівасцю гісторыка-культурнага працэса на беларускіх землях было паскоранае развіцце ідэйна-стылявых накірункаў у літаратуры і мастацтве. Прычыны гэтага, як можна меркаваць, ляжаць у спецыфіцы геапалітычнага становішча рэгіёна. Варства людзей, якія

---

[1] Morawski S. Dz.cyt. - S. 315.
[2] РГАДА, ф.12, д.257, л.7 об.,13 об.
[3] Грыцкевіч А. Нацыянальнае пытанне ў праграме дзекабрыстаў.// Декабристские чтения -1. - Гродно, 1990. - С.7-11.

працавалі на ніве мастацтва і літаратуры, не была значнай, таму тут мастацкія школы не маглі цалкам увасобіць асобны мастацкі накірунак. Часцей за ўсё нават у творчасці аднаго майстра можна прасачыць перапляценне розных стыляў, якія пераважаюць у той ці іншы перыяд ягонай дзейнасці, або існуюць побач, пазначаючыся ў розных жанрах, да якіх звяртаецца дзеяч культуры. Супрацьстаянне прадстаўнікоў розных стылявых накірункаў, што ўвасаблялася ў дыскусіях, разготваючыхся на старонках перыядычнага друку - гэта асабліва датычыць спрэчкі паміж класіцыстамі і рамантыкамі - на беларускіх землях не мела вастрыні, не было ярка акрэслена. І такое становішча выдаецца натуральным: увесь запал гэтай дыскусіі відавочны быў ці ў Пецярбурзе і Маскве, ці (што бліжэй культурнаму жыццю тагачаснай Беларусі) у Варшаве. Апошняя, і пасля падзелаў застаючыся культурнай сталіцай земляў былой Рэчы Паспалітай, акумулявала ў значнай ступені і асноўныя сілы мастацкай крытыкі, на яе арыентаваліся культурныя дзеячы беларускіх земляў. А.Міцкевіч, у прыватнасці, пішучы свой «маніфест» аб сутнасці рамантызму, спрачаўся, найперш, з варшаўскімі крытыкамі. Гэтым жа мэтам служыла і пазднейшая містыфікацыя, звязаная з публікацыяй у «Gaziecie Warszawskiej» зацемкі аб поспехах пецярбургскіх імправізацый А.Міцкевіча. [1]

Эпоха Асветніцтва для культуры беларускіх земляў, таксама як для суседніх з ёй польскай і рускай культур, была часам росквіту класіцызму і сентыменталізму і паступовага фармавання рамантызму. У культуралагічнай літаратуры ступень акрэслення зместу і храналагічных межаў гэтых ідэйна-стылявых накірункаў неаднолькавая. Калі ў стасунку да класіцызму храналагічныя межы вызначаны больш дакладна, акрэслены асноўныя ягоныя прыкметы, то для сентыменталізму і рамантызму няма пэўнай дэфініцыі, фармулёўкі, якая бы ахоплівала ўсе бакі гэтых культурных з'яў. У беларускім літаратуразнаўстве і мастацтвазнаўстве праявы ўсіх вышэй названых накірункаў добра апісаны і прааналізаваны, выпрацаваны больш-меньш аднастайныя мяркаванні. У абагульненым выглядзе вынікі гэтай працы прадстаўлены ў артыкулах, змешчаных у «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі», падрыхтаваных калектывам навукоўцаў розных галін гісторыка-культуралагічных навук.[2] Дзякуючы такому становішчу ствараецца магчымасць прадставіць толькі некаторыя, найбольш стасоўныя для тэмы даследвання меркаванні.

---

[1]Гл. аб гэтым наш артыкул: Cenzura na ziemiach litewsko-biaioruskich za czasyw Mickiewicza. //Rocznik literacki, 1998. - №2 - S.413-414.

[2] Класіцызм.// ЭЛіМ - Т.3 - Мн.,1986. - С.65-68; Сентыменталізм.//Там жа - Т.4 - Мн.,1987. - С.704-705; Рамантызм.//Там жа. - С.491-495.

Нараджэнне класіцызму звязваюць з пачаткам эпохі Асветніцтва, звяртаючы ўвагу на адну з найбольш характэрных ягоных рысаў - «нармаванне» мастацкай творчасці, што было звязана з павышэннем ролі рацыянальнага пачатку ў жыцці грамадства і асобы.[1] Грунтуючыся на ідэалогіі асветнікаў, класіцыстычная эстэтыка прадпісвала асноўныя рысы, уласцівыя мастацтву: гарманічнасць, адзінства ўсіх частак твора і іх суразмернасць; наследванне акрэсленым ідэальным узорам, якімі былі творы антычнасці.[2] Найбольш трапна, на наш погляд, сутнасць класіцызму і сентыменталізму, як узаемна дапаўняючых ідэйна-стылявых накірункаў, у беларускай літаратуры сфармулявана А.Мальдзісам. «Першы з іх, - піша ён, - апеліраваў да чалавечага розуму, другі - да сэрца, пачуццяў. Але і класіцысты, і сентыменталісты падзялялі асветніцкі пастулат аб дзейснасці мастацкага слова, яго здольнасці навучыць і пераканаць чалавека.. .. Разыходжанні пачыналіся толькі ў вызначэнні канкрэтных шляхоў, якімі ён ( творца - С.К-С.) павінен уздзейнічаць на «вучня». Класіцызм бачыў «норму паводзін» у «разумным», сентыменталізм - у «натуральным».[3]

Росквіт класіцызму прыпадае на апошнія дзесяцігоддзі XVIII ст., калі ён трывала замацаваўся ў літаратуры, жывапісу, скульптуры, на тэатральных пляцоўках, у музыцы і іншых галінах мастацтва. Як адзначае А.Мальдзіс, у новай беларускай літаратуры гэты ідэйна-стылявы накірунак не стаў з’явай значнай, пераплятаючыся з барочнымі традыцыямі і элементамі іншых накірункаў.[4] Класіцызм не мог стаць той асновай, на якой у той час здолела бы сфармавацца новая беларуская літаратура. Беларуская мова, адсунутая ў сферу традыцыйнай культуры, пры наяўнасці жорсткага падзелу на высокія і нізкія жанры, уласцівага класіцызму, магла быць выкарыстана ягонымі прыхільнікамі толькі для травестацыі, а для «высокіх» жанраў - трагедыі, оды і г.д., больш павінны былі падыходзіць, зважаючы на логіку класіцыстаў, «высакародныя» мовы: мова навукі - латынь, мова нобіляў - польская або ( на ўсходзе) руская. Не дзіўна таму, што сярод шматлікіх класіцыстычных твораў літаратуры часоў Асветніцтва на беларускіх землях знаўца эпохі А.Мальдзіс называе ў ліку найбольш значнай з’явы новай беларускай літаратуры «Камедыю» Марашэўскага[5], у якой

[1] Коваленко А.В.Теория видов искусства в русском классицизме первой четверти XIX в.// Проблема художественного творчества в истории русской эстетической мысли XIX - начала XX в. - М.,1983. - С.24.

[2] Tatarkiewicz W. Sztuka Stanisiawa Augusta a klasycyzm Klasycyzm.Studia nad sztuk№ polsk№ XVIII-XIX wieku. - S.7-10.

[3] Мальдзіс А.І. Указ.твор. - С.228-229.

[4] Там жа.

[5] Там жа.

беларуская мова гучыць у вуснах селяніна Дзёмкі. Той жа самы Марашэўскі трагедыю «Свабода ў няволі» напісаў па-польску, што адпавядала канонам класіцызму ў стасунку да ўжывання «высокай» мовы для «высокіх» жанраў. Выдаецца невыпадковым, што менавіта ў жанры камедыі, а дакладней, травестацыі, напісана ў першыя дзесяцігоддзі XIX ст. беларускамоўная «Энеіда навыварат», у значнай ступені твор класіцыстычны, як па сюжэту, так і па форме.

Нават пры нераспрацаванасці класіцызму як ідэйна-стылявой плыні ў беларускай літаратуры, ён стаў эпохай у культурна-гістарычным працэсе, акрэсліваючы характар і формы развіцця літаратуры і мастацтва на Беларусі на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў. У Рэчы Паспалітай класіцызм атрымаў у 1760-1780-х гг. характар дзяржаўнай культурнай дактрыны і прапагандаваўся ў гэтай якасці на старонках варшаўскага «Monitora».[1] Носьбітамі класіцыстычных традыцый у літаратуры былі творы заходнееўрапейскіх, польскіх, рускіх аўтараў, а таксама польскамоўных літаратараў з беларускіх земляў. Такая сітуацыя панавала і ў іншых галінах культуры.

Класіцыстычная трагедыя пераважала на прыгоннай сцэне, у тэатры прыватнай антрэпрызы большым поспехам карысталіся камедыйныя творы класіцыстаў. Трагедыі Расіна, Вальтэра і іншых драматургаў-класіцыстаў часцей уваходзілі ў рэпертуар буйных антрэпрыз. Так, у рэпертуар віленскага тэатра ўваходзілі трагедыя Вальтэра «Смерць Цэзара»[2], «Свята брамінаў» В.Мюлера і В.Багуслаўскага, «Карл Вялікі і Вітыкінд» Т.Любеньскай, «Саўл» В.Альфіеры і інш. [3] У меньшых трупах часцей ставіліся класіцыстычныя камедыі Мальера, Паізіела і іншых аўтараў. Такое становішча зразумела, калі ўзяць пад увагу невялікі склад правінцыйных труп, беднасць дэкарацый, а таксама густы мясцовай публікі. Класіцыстычны рэпертуар не зыходзіў са сцэн вельмі доўга, яшчэ ў 1830-х-1840-х гадах у рэпертуарных спісах труп, што выступалі на беларускіх землях, можна было сустрэць трагедыі В.Альфіеры, Расіна, Карнэля, але яны губляліся ў шматлікіх вадэвілях, меладрамах, камедыях і аперэтах рамантычнага і рэалістычнага накірункаў.[4]

---

[1] Свирида И.И. Концепции польской художественной культуры. От Просвещения к романтизму.//Концепции национальной художественной культуры. - С.30.

[2] Timoszewicz J. Dz.cyt. - 223.

[3] Rulikowski M. Dz.cyt. - S.42-46.

[4] Так, у рэпертуары трупы В.Вяржбіцкага, што выступала ў Гродне і гарадах Гродзенскай губерні, з 92 назваў п’ес было 8 трагедый; у рэпертуар буйнейшай трупы В.К. фон Шмідкофа, якая гуляла на сцэнічных пляцоўках Вільні, Гродна і Мінска, уваходзіла 238 п’ес, з іх толькі 7 былі класіцыстычнымі трагедыямі; трупа Шыпяньскага, што выступала ў Мінску і Гродна, залічыла ў свой рэпертуар з 65

Аналіз рэпертуара тэатральных труп, што выступалі на беларускіх землях у канцы XVIII - першых дзесяцігоддзях XIX ст., прыводзіць да высновы аб «універсальным» характары некаторых п'ес: які б ідэйна-стылявы накірунак ні панаваў у тэатральным мастацтве, яны заўсёды заставаліся «цвіком» рэпертуара як у тэатральнай сталіцы края, так і ў правінцыі. Да ліку такіх твораў трэба аднесці п'есы У.Шэкспіра, Мальера, а таксама В.Багуслаўскага. Хаця вонкавае падабенства тут можа прывесці да думкі аб аднолькавых прычынах, што выклікалі гэтую з'яву, усё ж такі, яны не тоесныя. У стасунку да твораў Шэкспіра і Мальера папулярнасць выклікалася, найперш, мастацкімі якасцямі п'ес, якія ў роўнай меры падыходзілі і для класіцыстычнай, і для рамантычнай сцэны. Што ж тычыцца твораў В.Багуслаўскага, якія на працягу дзесяцігоддзяў не гублялі сваёй папулярнасці, не зважаючы на свой класіцыстычны, ці сентыментальны характар, тут спрацоўваў сваісты патрыятызм, рабіўшы п'есы «Кракавякі і горцы», «Генрых VI на паляванні», «Модныя спазмы» і іншыя, сімвалам існавання самабытнай польскай драматургіі. Выключны лёс п'есы В.Багуслаўскага «Уяўны цуд або Кракавякі і горцы» - яна была пастаўлена ў час паўстання 1794 г. і ўспрынята як заклік да барацьбы - рабіў і яе, і самаго В.Багуслаўскага легендай польскага нацыянальна-вызваленчага руху. Нездарма гэтая п'еса, нягледзячы на дастаткова наіўны сюжэт, зроблены ў жанры пастаралі, адсутнасць рэвалюцыйнага пафаса і адкрытых патрыятычных заклікаў, ставілася ў найбольш напружаныя моманты нацыянальна-вызваленчай барацьбы. Між іншым, яе неаднаразова гулялі ў Вільні летам-восенню 1812 г., яе паказывалі артысты М.Кажынскага ў Пецярбургу для мясцовых суайчыннікаў, яна трымалася ў рэпертуары большасці польскамоўных калектываў у час паўстання 1830 г.

Класіцызм, як сістэма эстэтычных прынцыпаў, значна паўплываў на развіцце выяўленчага мастацтва, акрэсліўшы асаблівасці некалькіх яго жанраў, найперш, гістарычнага жывапісу і скульптуры. Амаль цалкам вызначыў ён стылявыя асаблівасці архітэктуры, працягваючы ўплываць на яе развіццё і пасля таго, як у іншых галінах мастацтва ўжо змяніўся другімі ідэйна-стылявымі накірункамі.

У жывапісу найбольш выразна класіцызм праявіўся ў творчасці мастакоў старэйшага пакалення, найперш, Ф.Смуглевіча і Ю.Пешкі, што абумоўлена было не толькі часам, калі адбывалася іх фармаванне як майстроў, але таксама ў значнай ступені месцам, дзе праходзіла гэтае фармаванне. Да прыкладу, жыццёвы шлях Ф.Смуглевіча - вучоба ў

---

назваў толькі адну трагедыю - «Смерць Цэзара» Вальтэра. - НГАБ у Гродна, ф.1, воп.2, спр. 879, арк. 40-50; Там жа, воп.10, спр.514, арк.44; НГАБ у Мінску, ф. 1430, воп.1, спр.14423, арк.6.

Акадэміі Св.Лукі ў Рыме і ўдзел у археалагічных росшуках у Вечным горадзе, калі на свет здабываліся творы антычнасці, што адразу станавіліся ўзорамі для класіцыстаў, - наканаваў панаванне класіцызму ў ягонай творчасці. Захапленне класіцыстычнай эстэтыкай адбілася не толькі на прынцыпах і прыёмах кампазіцыйнай пабудовы карцін, перавазе малюнка над каларытам і іншых складаных частках мастацкай манеры Ф.Смуглевіча і яго бліжэйшых вучняў, але таксама на выбары сюжэтаў работ. Гісторыя грэкаў і рымлян, якая станавілася тэмай не толькі асобных карцін, але і цыклаў работ («Жыцце Аляксандра Македонскага» ў роспісах Міхайлаўскага замка) прываблівала Ф.Смуглевіча не меньш, а можа нават больш, чым сучасныя мастаку гістарычныя падзеі. Але гэта не дае падставы гаварыць аб адарванасці творчасці Ф.Смуглевіча, як і ягоных вучняў, ад праблем тагачаснага палітычнага і грамадскага жыцця. Антычная гісторыя, згодна з меркаваннямі асветнікаў, давала ўзоры для выхавання патрыятызму, сяброўскай адданасці, павагі да бацькоў і г.д.

У выяўленчым мастацтве класіцызм не мог стаць тым ідэйна-стылявым накірункам, які б спрыяў фармаванню новай беларускай культуры. Ягоная арыентацыя на антычныя ўзоры выключала зварот да сялянскага побыту ў ягоным рэальным аблічча, прымушала ідэалізаваць сялянскі сусвет, апранаць у старажытнарымскую вопратку нацыянальных герояў. Апошняе, бадай што, найбольш характэрная рыса скульптурных і жывапісных партрэтаў пачатку XIX ст. Уплыў Ф.Смуглевіча на першых мастакоў-выхаванцаў Віленскай школы жывапісу працягваўся і пасля смерці майстра, паколькі школа першага прафесара сфармавала Я.Рустэма, што быў ягоным наступнікам на гэтай пасадзе. У гістарычных кампазіцыях, як сцвярджае большасць мастацтвазнаўцаў, Я.Рустэм - яшчэ цалкам класіцыст, у адрозненні ад ягонай творчасці ў жанры партрэта. Што ж датычыцца скульптуры, тут склалася такая самая сітуацыя дзякуючы пераемнасці эстэтычных прынцыпаў класіцыста А.Ле Бруна ягоным наступнікам К.Ельскім, да таго ж умацаваўшымся ў сваіх мастацкіх прыхільнасцях у час стажыроўкі ў Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў.

Архітэктура часоў Асветніцтва - адна з найбольш касмапалітычных галін мастацтва. У значнай ступені з’яўленне новых тыпаў пабудоў, новых падыходаў да арганізацыі архітэктурнай прасторы, ландшафта і інш. дыктавалася у той час не толькі і не столькі традыцыямі мясцовага дойлідства, сколькі модай, наследваннямі найноўшым еўрапейскім узорам, якія самі апеліравалі да здабыткаў антычнасці. Бадай што, найлепшы прыклад гэтага - Іосіфаўскі сабор у Магілёве. Гэты помнік звычайна ўключаюць у

гісторыю архітэктуры Беларусі[1], хаця ён увасабляе абсалютна дасканалы прыклад перанясення расійскіай школы архітэктуры і дойлідства на беларускія землі.[2] У часы панавання класіцызму большасць архітэктараў на беларускіх землях былі іншаземцамі, што таксама адбівалася на стылявых асаблівасцях пабудоў. Панаванне класіцызму ў архітэктуры на працягу дзесяцігоддзяў было абумоўлена і характарам тагачаснага будаўніцтва. Распаўсюджанне тыпавых і паўторных праектаў (для якіх класіцызм даваў добрую прастору сваёй эстэтыкай - гарманічнасцю, упарадкаванасцю, суразмернасцю), імкненне да аднастайнасці і «ранжыроўкі», характэрнае для бюракратычнага ладу Імперыі; шырокае грамадскае будаўніцтва, найперш, пабудова адміністратыўных будынкаў - складалі падставу для замацавання гэтай ідэйна-стылявой плыні ў архітэктуры.

У адрозненні ад класіцызму, сентыменталізм ствараў лепшую глебу для прафесіяналізацыі традыцыйнай культуры. Звяртаючыся да сусвету пачуццяў, ён не цураўся праяў штодзённасці ў мастацтве, ідэалізуючы іх, надзяляючы больш высакародным сэнсам. Менавіта ў рэчашчы сентыменталізма ствараліся першыя творы новай беларускай літаратуры, у тым ліку вершы Я.Чачота і п’есы М.Дуніна-Марцінкевіча.

Сетыменталізм вельмі моцна быў пераплецены з першымі праявамі рамантычнага светаўспрымання. На беларускіх землях, у адрозненні ад Заходняй Еўропы, ён уплываў на гісторыка-культурны працэс на працягу ўсёй першай паловы XIX ст.[3]

У канцы 1810-1820 -х гг. у культурным жыцці беларускіх земляў праяўляюцца першыя парасткі рамантызма.

У сучаснай культуралогіі няма адназначнага акрэслення гэтай культурнай плыні. Разнастайнасць праяў і супярэчнасці рамантызма не дазваляюць навукоўцам знайсці адназначную дэфініцыю, акрэсленні разыходзяцца, падкрэсліваючы супярэчнасці ў самім рамантызме: рэакцыйны-рэвалюцыйны, прагрэсіўны-кансерватыўны, актыўны-пасіўны, аптымістычны-песімістычны і г.д.

Час нараджэння рамантызма як ідэйна-стылявой плыні дакладна не вызначаны. У беларускай гістарыяграфіі культуры найбольш аўтарытэтным, як выдаецца, з’яўляецца меркаванне Ул.Калесніка, які

---

[1] Чантурия В.А.Указ соч. - С.274; Магілёўскі Іосіфаўскі сабор.// Архітэктура Беларусі. Энцыкл. даведнік. - С.288-289.

[2] Праект, распрацаваны М.Львовым і дапрацаваны італьянцамі Буарэлі і Менеласам, ажыццяўлялі выключна расійскія майстры, якіх спецыяльна прывозілі з Тарапца,Вязьмы, Масквы, Смаленска і Пецярбурга. Яны рабілі ўсё - ад мулярскіх работ да заціркі падлогі пад мармур. - РГАДА. ф.248, оп.115, д.5777, л.543-551.

[3] Сентыменталізм.// ЭЛіМ - С.704-705

прымяркоўваў гэтую падзею да 1770-х гг.[1] Самі рамантыкі, а найперш А.Міцкевіч, які па праву лічыцца ідэолагам рамантызму ў славянскіх землях, шукалі вытокі яго ў сярэднявеччы.[2] На польскіх і беларускіх землях рамантызм быў цесна звязаны з нацыянальна-вызваленчым рухам, падмацоўваўся этнічнымі працэсамі, што адбываліся ў гэтым рэгіёне, і ў значнай ступені ўвасабляў іх.

Эпоха рамантызму з'яўляецца на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў аб'ектам пільнай увагі беларускіх літаратуразнаўцаў і мастацтвазнаўцаў, што тлумачыцца яе значнасцю для працэсса фармавання тыпалагічных асаблівасцей беларускай культуры. «Справа датычыць перыяда, у які закладвалася... «кодавая» аснова нацыянальнага мастацтва» - тлумачыць прыроду гэтай цікаўнасці А.Яскевіч.[3]

Дзякуючы намаганням дзесятка беларускіх навукоўцаў часы Я.Чачота, В.Дуніна-Марцінкевіча, Я.Баршчэўскага і іншых пачынальнікаў нацыянальнай беларускай культуры сёння вывучаны дастаткова добра. Большасць з тыпалагічных рысаў новай беларускай культуры акрэслівалася працяглы час, найбольш інтэнсіўна гэты працэс пайшоў з канца 1820-х гадоў. Мяжа першага і другога дзесяцігоддзяў XIX ст. з'явілася часам беларускага «перададраджэння», калі выспявалі ўмовы для далейшага шпаркага развіцця гэтага працэса. Рамантызм і сентыменталізм як раз і з'яўляліся тымі ідэйна-стылявымі накірункамі, якія давалі прастору для фармавання новай беларускай культуры.

Поўстагоддзя Асветніцтва, такім чынам, унеслі значныя карэктывы ў структурную пабудову ардадамінантнай культуры і яе ідэйна-стылявы лад. Рэлігія, якая дыктавала каноны развіцця культуры на працягу многіх стагоддзяў, паступова адсоўваецца на перыферыю духоўнага жыцця. Вядучае месца сярод галін культуры набываюць асвета, навука, літаратура, тэатральнае мастацтва, жывапіс - менавіта ў гэтых відах духоўнай творчасці Асветніцтва дало найбольш значныя здабыткі. Перабудоўваецца і «унутраная» структура асобных галін культуры: узнікаюць новыя віды і жанры творчасці, на новым узроўні

[1] Калеснік Ул. Указ.твор. - С.261.

[2] Міцкевіч А.Пра рамантычную паэзію.// Філарэты і філаматы. - С. 108-110. «Што ж такое рамантычная школа ў Германіі? - Пісаў Г.Гейнэ. - Ні што другое, як абуджэнне сярэднявечнай паэзіі, якой гэта паэзія праяўляецца ў песнях, у творах жывапісу і архітэктуры, у мастацтве і жыцці». - Гейне Г. Салон. Ч.4. Романтическая школа.//. Полное собрание сочинений. -Изд.2-е. - СПб., 1904. - С.264.

[3] Яскевич А.С.Становление белорусской художественной традиции.- Мн., 1987. - С.76.

адбываецца іх сінтэз (мастацкая і тэатральная крытыка, гістарычная літаратура і інш.). На беларускіх землях працэс структурнай перабудовы меў сваю спецыфіку, абумоўленую як сацыльна-эканамічнымі, так, у большай ступені, палітычнымі і этна-канфесійнымі прычынамі. Да адметнасцяў тут трэба аднесці кансерваванне рэлігійнага ўплыву з-за палітычных памкненняў мясцовых польска-літвінскіх патрыётаў і ахоўніцкіх захадаў улад, развіццё палітызаваных галін культуры - гуманітарных навук, прававой культуры набілітэту.

Важнай тыпалагічнай рысай гісторыка-культурнага працэсу была дыспрапорцыя ў ступені распрацаванасці асобных галін культуры на ўсходзе і на захадзе Беларусі. Лідарства ў дадзены перыяд, несумненна, было на баку захаду, які апярэджваў усходнебеларускія землі не толькі па інтэнсіўнасці культурнага жыцця, але таксама і па ступені прагрэсіўнасці культурных з’яў. Асаблівасці геапалітычнага становішча беларускіх земляў - паміж дзвюма моцнымі культурнымі традыцыямі (польскай і рускай), а таксама тонкая варства працаўнікоў культуры абумовілі паскоранасць змены і недастатковую распрацаванасць ідэйна-стылявых накірункаў: класіцызм, сентыменталізм, рамантызм былі, так бы мовіць, «неаддыферынцыраваны», існуючы не толькі ў адным часе і на адной культурнай прасторы, але і ў творчасці аднаго майстра.

Нягледзячы на рэшткі барочнай культуры, якія выспачкамі сустракаліся ў агульным культурным моры Асветніцтва, да сярэдзіны другога дзесяцігоддзя XIX ст. культура беларускіх земляў уяўляла ўжо цалкам новы тып культуры і па сваёй структурнай пабудове, і па стылявому ладу.

## Ідэі і традыцыі

Асаблівасці ідэйнага зместу культуры часоў Асветніцтва на працягу дзесяцігоддзяў з’яўляюцца полем навуковых пошукаў. Тут амаль ўжо не засталося цалкам недаследваных дзялянак і разлеглых «белых плямаў». Многа парупіліся на гэтай ніве Л.Сафронава, І.Свірыда, распрацаваўшыя абагульненую канцэпцыю ідэйнага зместу мастацкай культуры другой паловы XVIII-першых дзесяцігоддзяў XIX стст.[1] На жаль, пры ўсёй распрацаванасці праблемы, адкрытым застаецца шэраг пытанняў, у тым ліку, праблема этнічнай прыналежнасці ардадамінантнай культуры.

[1] Свирида И.И. Типы и направления национальных культурных процессов в Центрально - и Юго - Восточной Европе.// Культура народов Центральной и Юго-Восточной Европы. XVIII - XIXвв. - С.25; Она же. Концепции польской художественной культуры. От Просвещения к романтизму. - С.23-55; Она же. Польская художественная жизнь первой трети XIX в.; Софронова Л.Теория культуры и некоторые проблемы польского искусства XVIII-XIX веков.-С.56-65; Она же. Польская театральная культура эпохи Просвещения. і інш.

Шмат хто з беларускіх даследчыкаў, найперш, А.Мальдзіс, Г.Кісялёў, А.Лойка, С.Яскевіч, Ул.Мархель, работы каторых ужо згадваліся, вылучылі крыніцы фармавання элементаў, ці асобных галін (літаратура, драматургія, фальклярыстыка) беларускай нацыянальнай культуры. Але, як правіла, пошук гэтых крыніц праводзяць у межах эпохі рамантызма (Ул.Мархель[1],С.Яскевіч, А.Лойка). Айчынная гісторыя культуры акцэнціруе ўвагу, у большасці, на тых з'явах ардадамінантнай культуры беларускіх земляў, дзе сляды новай беларускай культуры відавочны і не вымагаюць глыбокіх семантычных пошукаў. Часцей за ўсё даследчыкі займаюцца беларускамоўнымі творамі аўтараў, якіх звычайна беларуская гістарыяграфія вызначае як польска-беларускіх (Я.Чачот, В.Дунін-Марцінкевіч, В.Сыракомля, Я.Баршчэўскі і інш). Гэта зразумела, зважаючы на задачы, што высоўвае перад айчыннымі гісторыкамі сучасны этап этна-культурнага развіцця беларусаў. Але пры такім падыходзе суцэльную карціну духоўнага існавання беларускіх земляў другой паловы XVIII - першай паловы XIX стст. утварыць складана. З другога боку, расійскія і польскія даследчыкі, прадставіўшы агульную карціну ідэйнага ладу культуры Рэчы Паспалітай эпохі Асветніцтва, толькі ў апошнія гады пачалі асцярожна згадваць, што ў ёй ёсць месца і для ўласна беларускіх культурных традыцый, адзначаючы пры тым гэтае месца як вельмі сціплае.[2]У пераважнай большасці польскія і расійскія навукоўцы схільны разглядаць ардадамінантную культуру беларускіх земляў часоў Асветніцтва як этнічна польскую, маючую некаторыя рэгіянальныя асаблівасці. Дыскусійны характар пытання, на наш погляд, у значнай ступені звязаны з тэрміналогіяй, якой карыстаюцца сучасныя даследчыкі для этнічнага вызначэння культурных традыцый, фармаваўшыхся на тэрыторыі Беларусі ў часы Асветніцтва («беларуская», «польская»). На нашу думку, правамоцным будзе ў гэтай сувязі ўзняць пытанне аб існаванні ў ардадамінантнай культуры Рэчы Паспалітай арыгінальнай літвінскай культурнай традыцыі, якая па ідэйна-сутнаснаму ладу не была тоеснай ні польскай, ні этнічна-беларускай (у сучасным разуменні), хаця з'ўлялася роднаснай гэтым абодвум, і якую сёння імкнуцца ўкласці ў межы

---

[1] Мархель Ул. Беларускі фальклор у творчасці польскіх і беларуска-польскіх паэтаў-рамантыкаў. //Studja polsko-litewsko-biaioruskie. Warszawa,1988. - S.313-344.

[2] Bardach J. O dawnej i niedawnej Litwie. - Poznac, 1988. - S. 191-208; Zasztowt L. Dz. cyt. - S.32-37; Radzik R. Rozwyj narodowy spoiesznoњci polskiej i biaioruskiej w okresie zabioryw.// Historycy wobec problemyw teïsamoњci narodowej i europiejskiej. Mikdzy nacjonalizmem a uniwersalizmem XVIII-XX wiekyw. - Lublin, 1992. - S.37-44; Свирида И.И.Польская культура.// Культура народов Центральной и Юго-Восточной Европы в эпоху Просвещения. - С.16. і інш.

польскай або беларускай культуры[1]. Як складаная частка агульнай для Рэчы Паспалітай ардадамінантнай культуры, яна ўвасабляла многія ўласцівыя апошняй тыпалагічныя рысы, укладываючы ў іх уласны змест.

Безумоўна, уплыў этнічна польскіх культурных традыцый на фармаванне тыпалагічных рысаў ардадамінантнай культуры беларускіх земляў быў значны. Прычынай гэтага, як можна меркаваць, з»яўляліся не толькі асаблівасці папярэдняга гістарычнага шляху беларускага народа, які на працягу стагоддзяў знаходзіўся ў адной з больш шматлікім польскім этнасам дзяржаве. Польская культура, маючы толькі саслоўную стратыфікацыю, была дастаткова маналітнай, а значыць, больш здольнай для этна-культурных пераўтварэнняў, больш магутнай. У Рэчы Паспалітай утварэне нацыі-дзяржавы дапаўнялася працэсам фармавання польскай «культурнай нацыі»[2]. Дамінантамі гэтага працэса былі польская мова, каталіцтва, культурныя і гістарычныя традыцыі Польшчы і Рэчы Паспалітай. Але ступень насычанасці духоўнага жыцця беларускіх земляў этнічна польскімі культурнымі традыцыямі нельга перабольшваць. Іх роля ў кшталтаванні культурнага асяроддзя была неаднолькавай на працягу другой паловы XVIII-першай чвэрці XIX стст., змяняючыся як у геаграфічным, так і храналагічным вымярэннях. Акрамя таго, выключна важную ролю ў дадзенай праблеме мае гістарычная семантыка паняццяў «паляк» і «польская культура», якімі карыстаюцца сучасныя даследчыкі ў дачыненні да шляхецкай культуры беларускіх земляў часоў Асветніцтва.

Найбольш выразна адрозненне літвінскай культурнай традыцыі ад этнічна польскай, на наш погляд, прасочваецца ў разуменні яе прадстаўнікамі сутнасці патрыятызму, які з'яўляўся адной з найбольш характэрных рысаў новай культуры.

Эпоха Асветніцтва ў якасці адной з першасных задач культуры высоўвала выхаванне грамадзяніна і патрыёта. Ва ўсіх краінах, якія перажылі дадзены этап гісторыка-культурнага працэса, гэтая задача была неад'емнай часткай праграмы культурнай дзейнасці, але яе вастрыня залежала ад унутры - і знешнепалітычнага становішча краіны, а таксама стану, у якім знаходзіўся працэс этнічнай кансалідацыі яе насельніцтва. Для Рэчы Паспалітай такая задача была надзвычай актуальнай у сувязі з пагрозай знікнення краіны з гістарычнай арэны.

---

[1] Пытанне аб існаванні літвінскай палітыка-культурнай традыцыі ў беларускай гістарыяграфіі было ўжо пастаўлена А.Цвікевічам. - Цвікевіч А. «Западно-руссизм». Нарысы з гісторыі грамадскай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в. - Мн., 1993. - С.13.

[2] Radzik R. Rozwuj narodowy spoiecznoњсi polskiej i biaioruskiej w okresie zaboryw. - S.37.

«...асветніцкая думка, - адзначае І.Свірыда, аналізуючы стан культуры Рэчы Паспалітай часоў падзелаў, - была прасякнута ідэямі нацыянальнай дзяржаўнасці, а праграма культурнай дзейнасці стала праграмай мацавання айчыннай культуры. Яе рэалізацыя служыла яднанню польскай нацыі, выпрацоўцы нацыянальнай самасвядомасці».[1]

Накірунак на патрыятычнае выхаванне жыхароў краіны, найперш, «народа палітычнага» - шляхты вызначыўся пасля першага падзела, які ўскалыхнуў грамадства Рэчы Паспалітай. Задачы культурнай дзейнасці дзяржавы ў склаўшыхся палітычных умовах трапна акрэсліў дэпутат Ф.Арачэўскі ў сваёй саймавай прамове ў траўні 1773 г.: «Трэба нам людзей зрабіць палякамі, а палякаў грамадзянамі».[2] Культура Асветніцтва, увогуле заклаўшая ў прынцыпы сваёй дзейнасці дыдактычныя функцыі, ва ўмовах Рэчы Паспалітай даводзіла іх амаль да абсалюту: усе галіны - ад адукацыі да жывапісу - павінны былі, згодна з канцэпцыяй асветнікаў, служыць справе выхавання патрыётаў і грамадзян.

У накірунку стварэння нацыянальнай школы, здольнай выхаваць карыснага для краіны чалавека, вялося пераўладкаванне сістэмы адукацыі. На выхаванне патрыятызму ў новых адукацыйных праграмах рабіўся адмысловы націск, што ўвасаблялася і ў падручніках, і ў рэкамендацыях для пазакласнай работы; задача выхавання патрыятызму ставілася і перад выпускнікамі настаўніцкіх семінарый і Галоўных школ. Гэта быў патрыятызм, так бы мовіць, новага тыпу: «трэба яго шукаць пад стрэхамі сялян, у загонах добра апрацаванай раллі, у талентах гарадскіх жыхароў, у працы кросен і варштатаў, у абрачэнні грошаў і тавараў...» - пісалася ў матэрыялах КНА.[3]

У гэтым жа накірунку фармавалася ідэалагічная праграма нацыянальнага тэатра. Ён быў люстэркам палітычных падзей і сацыяльных пераўтварэнняў, «адным з цэнтраў, дзе складваліся новыя формы грамадскага жыцця, выяўляліся новыя ўяўленні аб ім».[4] У часы падзелаў найвялікшую выхаваўчую нагрузку на польскамоўнай сцэне неслі камедыі, што было абумоўлена асаблівасцямі дадзенага этапа развіцця польскай драматургіі. Л.Сафронава, аналізуючы іх ідэйны змест, падкрэслівае, што, выводзячы на сцэну заганы грамадства і вуснамі дадатных персанажаў прапагандуючы ўласцівыя Асветніцтву ідэі, польскамоўная камедыя выконвала тую ж дыдактычную функцыю,

---

[1] Свирида И.И.Польская культура. - С.11.
[2] Kot S. Dz. cyt. - S.12.
[3] Kurdybacha L. Dz. cyt. - S. 17.
[4] Софронова Л.А.Польская театральная культура эпохи Просвещения. - С.235.

што і асвета.[1] Па меры ўзмацнення патрыятычных настрояў у грамадстве Рэчы Паспалітай крытыка сарматызма замянялася сатырай на наследванне еўрапейскім густам, а пазітыўную этычную нагрузку ў п'есах пачынаў несці вобраз «асветленага сармата». «Вяртанне дэпутата» Ю.У.Нямцэвіча, вяршыня айчыннай драматургіі часоў падзелаў - адкрыты маніфест нацыянальна-вызваленчага руху і праграма дзеяння сапраўднага грамадзяніна Рэчы Паспалітай. Галоўнай дадатнай рысай усякага чалавека два цэнтральныя персанажы п'есы «асветленыя сарматы» Падкаморы і Валеры лічаць грамадзянскія пачуцці, патрабуючы ад кожнага ўсвядоміць сваю прыналежнасць да нацыі: кожны павінен зразумець, што ён паляк.

Патрыятызм, як першааснова ідэйнага ладу мастацтва і літаратуры, пастуліраваўся тагачаснай публіцыстыкай, тэорыяй мастацтва, літаратурнай крытыкай. «Чытай айчынную гісторыю, хронікі, законы». - Заклікаў у 1790 г. будучага мастака аўтар трактата «Верш аб жывапісу» А.Альбертрандзі.[2] Шматлікія трактаты і публіцыстычныя выступленні, прысвечаныя розным галінам літаратуры і мастацтва - «Мастацтва вершаскладання» Ф.Дмахоўскага, «Грамадзянская архітэктура для нацыянальнай моладзі» і «Музычнае мастацтва для айчыннай моладзі» В.Серакоўскага, «Красамоўства і паэзія» Ф.Галянскага і інш. - абгрунтоўвалі неабходнасць развіцця айчыннай культуры, дзеля чаго, апрача іншага, раілі ў пошуках сюжэтаў і вобразаў звяртацца да ўласнай гісторыі. Сюжэты, пазычаныя з гісторыі Польшчы, ВКЛ, Рэчы Паспалітай паступова высоўваліся на першае месца ў «высокіх» жанрах класіцыстычнага мастацтва і літаратуры. «Усе польскія трагедыі, - канстатуе Л.А.Сафронава, - былі напісаны аб «страчанай польскай славе», выхоўвалі нацыянальную годнасць».[3]

Уздыму айчыннай культуры павінна была служыць адаптацыя лепшых узораў заходнееўрапейскай культуры, засваенне мясцовымі майстрамі і літаратарамі яе здабыткаў і развіццё на гэтай падставе ўласных літаратурных і мастацкіх традыцый. У часы Асветніцтва на тэрыторыі Рэчы Паспалітай змяняюцца формы і шляхі адаптацыі іншаземнай культуры. Ад перакладаў мясцовыя творцы пераходзяць да выкарыстання сюжэтаў, ідэй, мастацкіх прыёмаў, выпрацаваных замежнымі калегамі, «абгортваючы» іх у «нацыянальную абалонку». Сюжэтныя паралелі з творамі французскіх драматургаў няцяжка

---

[1] Там жа, С.163-233.

[2] Цыт. па: Свирида И.И. Концепции польской художественной культуры... - С.32

[3] Софронова Л.А. Польская театральная культура эпохи Просвещения. - С.136. У ліку гэтых трагедый - «Казімір Вялікі» і « Уладзіслаў пад Варшавай» Ю.У.Нямцэвіча, «Юдыта або Баляслаў Храбры» Ф.Карпіньскага, «Жыгімонт Аўгуст» Ю.Выбіцкага.

адшукаць у тагачаснай польскамоўнай драматургіі, найперш, у камедыі; ідэі Вальтэра, Русо, Дзідро і іншых французскіх асветнікаў пакладзены ў падставы публіцыстычных разважанняў Г.Калантая, Г.Страйноўскага, В.Жэвускага і іншых.

Адным са знакаў эпохі, як ужо адзначалася, было захапленне старажытнай, найперш, антычнай гісторыяй.[1] Гэта была спадчына пачатковага перыяда Асветніцтва, але цяпер акцэнты растаўляліся ў ёй інакш, чым у папярэдні перыяд. Са старажытнай гісторыі абіраліся і ўключаліся ў культурны код тыя факты, падзеі, міфы, якія «працавалі» на выхаванне патрыятызму і любові да свабоды. Прыкладамі гераізму і самаадданасці грэкаў і рымлян у барацьбе за незалежнасць і веліч Бацькаўшчыны поўніліся школьныя падручнікі красамоўства і старажытнай гісторыі. Рэспубліканскі лад старажытнай Грэцыі, паданы ў ідэалізаваным выглядзе, атаесамляўся з дзяржаўным ладам, які хацелі мець асветнікі ў іншай рэспубліцы - у Рэчы Паспалітай. [2] Значэнне сімвалаў набываюць імёны Цэзара, Аўгуста, Арыстыда, Эпамінонда, Аляксандра Македонскага, Гарацыя і інш.[3]

Адным са знакавых сімвалаў эпохі стала слова «грамадзянін», якое ў гэты час набывае акрэсленую семантку. Грамадзянін - гэта не толькі жыхар адпаведнай краіны, але патрыёт, чалавек, пазбаўлены пагарды да іншых сацыяльных станаў, асоба актыўная і адукаваная. Слова набыло выразнае рэвалюцыйнае гучанне пасля Вялікай Французскай рэвалюцыі, калі ў Францыі яно замяніла раней існаваўшую сістэму зваротаў паводле феадальнай іерархіі. Як ужо адзначалася, у час паўстання 1794 г. зварот «грамадзянін» шырока выкарыстоўваўся ў ліставанні паміж вышэйшымі асобамі Рэчы Паспалітай, уключаючы караля. Нагадаем, што менавіта

---

[1] Агляд формаў адаптацыі антычнай спадчыны на Беларусі зроблены К.Рэвякам. На жаль, аўтар, у большасці, засяроджвае ўвагу на вывучэнні антычнасці тагачаснымі гісторыкамі і філосафамі, паказваючы астатнія галіны культуры толькі фрагментарна. -Рэвяко К.А. Антычная спадчына на Беларусі. - Мн., 1998. - С.27-34.

[2] Прыводзячы ўзоры прамоў старажытнагрэчаскіх аратараў, Г.Страйноўскі, да прыкладу, падкрэсліваў, што толькі ў свабоднай рэспубліканскай краіне можа выспець сапраўднае красамоўства. «...рабства сляпое, - заўважаў ён, - павінавацца людзям, а не самаму праву, ярэм тыранства і самаўладдзе знішчаюць сапраўднае красамоўства». - Сборник материалов для истории просвещения в России, извлеченных из Архива Министерства народного просвещения. - Т. 1. - 339-340.

[3] Т.Вянгерскі заўважыў гэтую з'яву яшчэ ў 1770-х гг. і трапна выкарыстаў яе ў сваіх сацірах. « Як сын, дык Аляксандр. І ўсе сябе б'юць у грудзі: каб нарадзіўся ён крыху раней, дык ворагі праклятыя наўрад ці ў нас такія землі захапілі». - Піша ён, да прыкладу, у вершы «Паэтам». Пыхлівага сенатара Вянгерскі з усмешкай параўноўвае з Цэзарам і Аўгустам, а цнатлівую і прыгожую дзяўчыну называе Лукрэцыяй. - Стихотворения Томаша Каетана Венгерского.//Бобрик Н.П.Указ.соч. - С.298-317.

рэвалюцыйнае гучанне гэтага слова выклікала забарону яго ўжывання ў Расійскай імперыі.

Поруч з праблемай патрыятычнага выхавання грамадзян Рэчы Паспалітай у ардадамінантнай культуры была пастаўлена праблема айчыннай мовы. Ні ў ВКЛ, ні, тым больш, у Кароне не ўставала пытанне, якая мова павінна разглядацца ў якасці айчыннай і якую мову трэба развіваць. Польская мова яшчэ з XVII ст. была дзяржаўнай мовай Рэчы Паспалітай, што ж датычыцца беларускай, а ўласна, старабеларускай - яна заставалася ў хатнім ужытку, ва уніяцкай царкве, у старажытных дакумантах і г.д. Полілінгвізм Рэчы Паспалітай добра ўсведамляўся культурнымі і палітычнымі дзеячамі і ў той час не лічыўся «шкодным» для пашырэння аўтарытэту і папулярнасці польскай мовы. «Княства Жмудскае, - пісаў, да прыкладу, Г.Калантай, - мае сваю мову, ні на водную у Еўропе непадобную. Ваяводствы, што складаюць сапраўдную, карэнную Літву, захавалі да гэтага часу мову літоўскую, якая з'яўляецца сумессю старажытнай скіфскай і славянскай... на Вылыні, Падоліі і ў некаторых ваяводствах літоўскіх гавораць па-руску, але зусім іншым, чым расійскі, дыялектам».[1] Моўныя асаблівасці ўсходніх земляў Рэчы Паспалітай імкнуліся ўлічваць, нягледзячы на свой агульны «польскі характар», і новыя адукацыйныя праграмы: у выдадзеных у 1783 г. «Статутах», якія падсумоўвалі шматлікія пастановы і рашэнні КНА, прапанавалася на землях ВКЛ выкладаць «мову славянскую з навукай чытання старых рукапісаў»[2]. У дакумантах зафіксавана выкладанне гэтых прадметаў у Брэсце і Шчорсах.[3] М.Підліпчак-Маеровіч паведамляе, што ў Рэчы Паспалітай у другой палове XVIII ст. чытанню старажытнабеларускіх рукапісаў вучылі ў 21 базыльянскім манастыры.[4] У гэты час нават пазначыліся шляхі ўзаемадзеяння польскай і іншых славянскіх моваў Рэчы Паспалітай: крыніцай узбагачэння дзяржаўнай мовы дзеячы асветы раілі абраць старажытныя славянскія мовы, а таксама сучасную ім простую гаворку.[5] Таму спробы асобных літвінскіх нобіляў ці святароў пісаць па-беларуску або макаранічнай польска-беларускай мовай не маглі выклікаць усмешку ці пагарду з боку асветленай эліты. Барацьба за ачышчэнне дзяржаўнай мовы ішла ў іншым накірунку: яна мусіла вызваліцца ад шматлікіх лацінскіх, французскіх, нямецкіх выразаў, якія ў часы барока шчодра ўключаліся ў польскі тэкст без перакладу і адаптацыі. «Варварскай латынню» называў

---

[1] Koii№taj H. Dz.cyt. - S. 32-33.
[2] Kurdybacha L. Dz. cyt. - S. 34.
[3] Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. - Мн.,1980. - С. 241.
[4] Pidlipczak-Majerowicz M. Dz. cyt. - S.40.
[5] Свирида И.И.Концепции польской художественной культуры. -С.34.

прамовы ў Сейме і Трыбунале Я.Д.Ахоцкі[1]; «польская мова, перасыпаная латынню»[2] была сваеасаблівым слэнгам палестрантаў, пры тым, чым больш было іншамоўных слоў, тым чалавек лічыўся больш вучоным. На працягу двух дзесяцігоддзяў - з 1760 па канец 1780-х - аўтарытэт польскай мовы ў грамадстве значна павысіўся. Павелічэнне гадзін выкладання польскай мовы ў навучальных установах усіх узроўнеў, шматлікія выступленні ў друку аўтарытэтных дзяржаўных і культурных дзеячоў, заснаванне нацыянальнага тэатра і ўзнікненне нацыянальнай драматургіі, павелічэнне колькасці і якасці арыгінальных літаратурных твораў далі свае плёны. Цяпер польская мова пануе не толькі ў дзяржаўных дакумантах, але нават у прыватнай перапісцы, выціскаючы паступова з гэтай сферы французскую.

Заходнія і цэнтральныя землі Беларусі здолелі за чвэрць стагоддзя сфармаваць тып асобы, характэрны для эпохі Асветніцтва. На месца былога ўзору - рыцара-сармата, абыякавага да навук, неабазнанага ў пытаннях эканомікі, прыходзіць ідэал чалавека адукаванага, асветленага, мецэната, які руплiва займаецца гаспадаркай. Падкрэслім, што гэта быў толькі ўзор, які ў рэальным жыцці дазнаваў значных трансфармацый і належаў, хутчэй, да вобласці маралі і тэорыі педагогікі, чым да практыкі. Ніводнага чалавека тых часоў нельга прадставіць як ідэальны ўзор асветніцкай эпохі. Тут былі і асветлены авантурыст А.Тызенгаўз, і рамантычны, захапляючыся марнатравец М.К.Агінскі, і не вельмі лічыўшыйся з сумленнасцю пры набыцці бібліятэчных калекцый І. Храптовіч, і недакладны ў фінансавых справах біскуп Масальскі, і многія іншыя. Але «ідэальная асоба», складаючыся з многіх дадатных якасцяў шматлікіх прадстаўнікоў прагрэсіўнай часткі літвінскага гармадства, паўстае перад намі чалавекам адукаваным, прадпрымальным, мецэнатам ці стваральнікам культурных каштоўнасцей, патрыётам, актыўным у грамадскім і палітычным жыцці, вызначыўшымся ў этнічным сэнсе (паляк па нацыянальнасці, літвін па паходжанню), рацыяналістам у справах веры. Быў выпрацаваны, карыстаючыся тэрмінам М.Асоўскай, «нарматыўны ўзор асобы», які, безумоўна, не цалкам рэалізоўваўся ў практычнай дзейнасці кожнага шляхціча, але які быў зафіксаваны ў свядомасці пакалення. Гэты нарматыўны ўзор адпавядаў патрабаванням еўрапейскіх асветнікаў і меў свой адметны каларыт - патрыятызм у ім займаў вельмі значнае месца. «Асветлены сармат» - пазытыўны стэрэатып, які склаўся ў канцы 1780-х гг., - гаварыў на айчыннай мове, насіў нацыянальнае польскае ці

---

[1]Рассказы о польской старине. - Т.2. - С.115.
[2]Pamktniki Michaia Zaleskiego. - S.33.

літвінскае адзенне і шукаў узоры для наследвання сярод постацей айчыннай гісторыі.

Вышэй прыведзеныя меркаванні, як няцяжка заўважыць, пабудаваны ў большасці на матэрыялах, каторыя ў сучаснай навуковай літаратуры прынята называць спадчынай польскай культуры. Але як суадносяцца тэрміны «польская культура» і «паляк» з рэаліямі соцыяпалітычнай, канфесійнай і этнакультурнай сітуацыі Рэчы Паспалітай XVIII ст.? Семантыка паняцця «паляк» змянялася на працягу часу, і перанясенне сёняшняга зместу гэтага тэрміна - калі палякі склаліся як нацыя, з усімі адпаведнымі гэтай з'яве атрыбутамі - у часы, калі працэс нацыяўтварэння знаходзіўся на пачатковай стадыі, неправамоцна. Для жыхароў заходнебеларускіх земляў XVIII ст. слова «паляк» было, найперш, азначэннем грамадзяніна Рэчы Паспалітай, якое мела не столькі этнічны, сколькі палітычны, а часам канфесійны сэнс. Гэтае меркаванне можна абгрунтаваць маючыміся ў мемуарнай літаратуры і дакумантах XVIII ст. тэрмінамі, якімі самакрэслівалі сваю этнічную, палітычную і канфесійную прыналежнасць нобілі ВКЛ, а таксама назвамі, якія яны ўжывалі для акрэслення сваіх суседзяў.

У другой палове XVIII ст. яшчэ канчаткова не склаўся этнонім ці палітонім, якім бы ўвогуле акрэсліваліся жыхары ўсіх беларускіх земляў. Розніца ў этнаканфесійным і этнапалітычным самавызначэнні шляхты ВКЛ у залежнасці ад месца яе жыхарства - на захадзе, на ўсходзе Беларусі, ці ў этнічна літоўскіх землях - неаднойчы адзначалася даследчыкамі.[1] Звычайнымі саманазвамі нобіляў заходнебеларускіх земляў былі «літвін» і «паляк» у розных спалучэннях.[2] Выраз «Gentis Lithuaniae, natione Polona» найбольш дакладна перадаваў у той час самаакрэсленне шляхты і магнатэрыі заходніх ваяводстваў ВКЛ.[3] Тэрмін «польская нацыя» у дазеным выпадку азначаў дзяржаўную, канфесійную і ў некаторай ступені сацыяльную (шляхціч) прыналежнасць. Ускосна гэта таксама падмацоўваецца азначэннямі, якія ўжывалі расіяне ў стасунку да жыхароў беларускіх земляў. У Расіі ў той час увогуле было мала вядома аб асаблівасцях далучаемых тэрыторый, не склаўся і адзіны погляд на этнічную прыналежнасць яе жыхароў. Беларускія землі ў афіцыйнай перапісцы называлі то польскай Беларуссю і Літвой, то проста Польшчай, а часцей, асабліва ў публікаваных дакумантах, «землямі, ад Польшчы вернутымі». У стасунку да шляхты

[1] Мальдзіс А.І.Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя. - С.86-101; Піліпенка М.Змест і формы першапачатковай этнічнай самасвядомасці беларускага народа.// Беларусіка -2 - Мн.,1992. - С.70-73; Насевіч В. Да пытання пра саманазву беларусаў у перыяд ВКЛ.// Там жа. -С.99-100. і інш.

[2] Мальдзіс А.І.Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII ст. - С.86-100.

[3] Bardach J. O dawnej i niedawnej Litwie. - S. 200-201.

ўсходнебеларускіх земляў ва ўрадавых дакументах часцей за ўсё ўжываюцца тэрміны «беларуская шляхта», «мясцовыя памешчыкі», у публікаваных дакумантах - «Наказах», «Маніфестах», «Плакатах» - тэрмін «польская шляхта» адсутнічае. У стасунку ж да шляхты-літвінаў тэрмін «палякі» ужываецца час ад часу і ў справаводстве, і ў прыватных паперах побач з найменнямі «мясцовыя жыхары» («местные обыватели»), «літоўскія памешчыкі». Так, да прыкладу, М.Рапнін палякамі ў прыватнай перапісцы называў жыхароў карэннай Польшчы, а таксама літвінскіх нобіляў-удзельнікаў «польскай інтрыгі» - паўстання 1794 г. і канспірацый канца 1790-х гг. Канцлер А.Безбародка азначаў гэтым тэрмінам усіх шляхцічаў, што жылі на землях, далучаных да Імперыі ў выніку падзелаў.[1] А ў «Списке полякам, как в Санкт-Петербурге, так и по другим местам содержащихся», які падсумоўваў вынікі работы Смаленскай следчай камісіі, што разбірала справы паўстанцаў 1794 г., да ліку палякаў аднесены, у прыватнасці, «былы надворны літоўскі маршал Станіслаў Солтан,...Пінскай брыгады паручык Іосіф Копец,... беларускі (sic! - С.К-С) дваранін Антон Лаппа» і нават «... Магілёўскай губерні вотчыны графа Салагуба селянін Юры Елень».[2] «Літвінамі» называлі заходнебеларускую шляхту карэнныя палякі, што, дарэчы, трымалася ў свядомасці апошніх на працягу многіх дзесяцігоддзяў пасля падзелаў.

У польскай гістарыяграфіі шэраг даследчыкаў прытрымліваецца меркавання аб амаль поўным сціранні ў самавызначэнні шляхты ВКЛ этнапалітычных адрозненняў ад кароннай і прыняцці ёй польскай этнічнай свядомасці. Часам увогуле не звяртаецца ўвага на наяўнасць такіх адрозненняў.[3] Безумоўна, часы Асветніцтва, прыўносячы, асабліва на пачатковым этапе, моцную плынь касмапалітызму, спрыялі нівеліраванню этнічнай свядомасці пануючага саслоўя. Этнічная

---

[1] СИРИО. - Т.16 -Спб, 1875 - С.57-60, 69, 286, 432-433.

[2] ГАРФ, ф. 1165, оп. 1, д. 490, л.48-55.

[3] «Рэч Паспалітая, - піша, напрыклад, Р.Вапіньскі, - уяўляла сабой акрэсленую непадзельную еднасць, а падзел на Карону і Літву застаўся толькі як даўняя гістарычная традыцыя. Рэаліі, якія пазначаліся ў падзеле шляхты, падзеле рэгіянальным у апошнія дзесяцігоддзі існавання Рэчы Паспалітай, як можна меркаваць, датычылі, амаль выключна, звычаяў і спосабаў гаспадарання». – Wapicski R. Polska i maie ojczyzny polakyw. - Wrociaw-Warszawa-Krakyw, 1994. - S.32. На наяўнасць такога погляду ўказвае Я.Янушкевіч, спасылаючыся на думку М.Стользман - Januszkiewicz J. Pryba narodowego samookreњlienia na biaiorusi w latach 1832-1864.// Historycy wobec problemyw teïsamoњsci narodowej i europiejskiej... - S.27. Як аднародная ў этнапалітычным сэнсе варства грамадства прадстаўлена шляхта ў Ю.А.Героўскага. - Gierowski J. Dz.cyt. - S.45-48; Х.Віснер разглядае шляхту ВКЛ толькі як літоўскую (у этнічным сэнсе), не згадваючы яе шматэтнічнасць. - Wisnier H.Litwa -њwiadomoњж pacstwowa i narodowa.// Trudna toïsamoњж. - S.9.

кансалідацыя шляхты ўзмацнялася па меры росту патрыятычных настрояў у краіне, каторыя выступалі пад найменнем «польскасці». Можна прыгадаць яшчэ шэраг фактараў, што далучаліся да працэсу этнічнай кансалідацыі шляхты Рэчы Паспалітай. Але да канца XVIII ст. гэтыя працэсы не былі завершаны. Больш таго, частка шляхты і магнатэрыі новага пакалення яшчэ больш выразна, чым «сарматы» сярэдзіны стагоддзя, дэкларавалі сваё літвінскае паходжанне. Літвіны, засноўваючы сваё адрозненне ад уласна польскай шляхты не на моўных (хаця ўсе яны ведалі беларускую мову - мову стасункаў з сялянствам), ці канфесійных падставах, а на гістарычнай традыцыі, побытавых адрозненнях, этнічнай самасвядомасці, па меры магчымасці адстойвалі сваю палітычную аўтаномію (асобнае заканадаўства, судаводства, адміністратыўныя органы, войска, асобная сістэма прыдворнай іерархіі г.д.). Літвінскі птрыятызм знайшоў сваё адлюстраванне і ў светаўспрыманні дзеячоў культуры. Ствараючы асобны фундуш для асветы на землях ВКЛ, літвінскія сябры КНА імкнуліся пасунуць справу адукацыі тут больш далёка, чым гэта рабілася ў Кароне, падкрэсліваючы спаборніцкі характар сваіх захадаў у гэтай галіне.[1] Наяўнасць «рэгіянальных тэндэнцый у настроях віленскага грамадства» таго часу адзначае і С.Станкевіч на падставе даследвання літаратурнага працэсу на беларускіх землях.[2] Сваеасаблівым доказам існавання літвінскага патрыятызму можна лічыць і дзейнасць Тызенгаўза ў Гродна, Агінскага ў Слоніме, Радзівілаў у Нясвіжы: развіваючы культурнае жыццё рэзідэнцый, мецэнаты працавалі не толькі на ўласную карысць, але і для павышэння культурнага ўзроўня земляў ВКЛ. Вельмі дакладна праявы літвінскага патрыятызма паказвае А.Закшэўскі, аналізуючы матэрыялы сеймікаў XVII-XVIII стст. На ягоную думку, канечным вынікам захадаў літвінскай шляхты па захаванню сваёй аўтаноміі ў складзе Рэчы Паспалітай з'явілася падпісанае ў кастрычніку 1791 г. «Узаемнае заручэнне абодвух народаў», згодна з якім не толькі былі захаваныя ранейшыя падставы аўтаноміі ВКЛ, але пазіцыі яго у Рэчы Паспалітай нават узмацніліся.[3] Літвінскі патрыятызм яскрава праявіўся ў час паўстання 1794 г. і нават выклікаў абвінавачванне віленскіх «якабінцаў» у сепаратызме з боку варшаўскага кіраўніцтва.[4] Адзначым пры тым, што

---

[1] Zakrzewski A. Szlachta Wielkiego Ksкstwa Litewskiego wobec odrкbnoњci Litwy w ramach Rzeczypospolitej. // Senosios ra ?tijos ir tautosakos s№ vieka: kult?rine Lietuvos Didїiosis kunigai k?tystes patirtiS. Kn.6 - Vilnius 1998. - S.267.

[2] Станкевіч С. Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі.// Спадчына - 1999 - №4. - С.191.

[3] Zakrzewski A. Szlachta Wielkiego Ksкstwa Litewskiego wobec odrкbnoњci Litwy w ramach Rzeczypospolitej. - S. 261-278.

[4] Емяльянчык Ул. Указ.твор. -С.68-70.

сваіх кампатрыётаў з уласна польскіх земляў літвіны называлі «караняжамі»[1], падкрэсліваючы тым самым сваю асобнасць у агульным «польскім народзе» - «палітычным народзе» Рэчы Паспалітай - шляхце.

Вышэй прыведзеныя меркаванні аб значэнні наймення «паляк» надаюць зусім іншае гучанне тэрміну «польская культура» - для тагачаснага нобіля, ці святара з беларуска-літвінскіх земляў гэта, найперш, культура Рэчы Паспалітай і адначасова - шляхецкая, ардадамінантная культура (калі суадносіць яе з мясцовай традыцыйнай сялянскай культурай ). Дарэчы, тэрмін «культура польская» менавіта ў значэнні «шляхецкая культура» ужывае аўтарытэтная беларуская даследчыцца С.Кузняева[2]. Ардадамінантная культура Рэчы Паспалітай ў XVIII ст. складала адно цэлае. Па сваім адукацыйным узроўні, менталітэту, «сярэднестатыстычны» шляхціч з Гродзеншчыны быў бліжэй такому ж «сярэднестатыстычнаму» нобілю з Варшаўскага ваяводства, чым апошняму - польскі селянін. Тое, што пісалася, або ставілася на сцэне ў Варшаве, разлічана было не толькі на ўласна польскія землі, а на ўсю краіну. Адначасова Вільня была адным з цэнтраў агульнага культурнага жыцця Рэчы Паспалітай, і культурныя здабыткі заходнебеларускіх земляў укладваліся ў агульную дзяржаўную скарбонку. Таму разглядаць працэсы, што адбываліся ў ардадамінантнай культуры на беларускіх землях у часы Асветніцтва, у адрыве ад агульных культурных з'яў Рэчы Паспалітай неправамоцна. З другога боку, беларусы, як нашчадкі часткі насельніцтва гэтай краіны, маюць такое самае права шукаць свае культурныя карані ва ўсёй спадчыне шляхецкай культуры Рэчы Паспалітай XVIII ст., як і палякі, літоўцы, украінцы. Погляд на беларусаў, як на «сялянскую нацыю», які замацаваўся ў беларускай гістарыяграфіі ў часы панавання ў ёй марксісцкай метадалогіі, аўтаматычна выключае са спадчыны беларусаў культурныя здабыткі значнай часткі этнічна беларускага насельніцтва - шляхты, нашчадкі якой і сёння жывуць на беларускіх землях, і якая не заўсёды лічыла сябе этнічна польскай. Здабыткі літвінскай культурнай традыцыі, што развівалася на беларускіх землях у межах ардадамінантнай культуры, сёння правамоцна будзе лічыць менавіта той «страчанай» часткай беларускай культуры, якую звычайна адносяць да культуры шляхецкай.

---

[1] Мальдзіс А.І.Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII ст. - С.88.

[2] Кузняева С. Праблемы беларуска-рускага культурнага ўзаемадзеяння першай паловы XIX ст.// Беларусіка-6. Беларусь паміж Усходам і Захадам: Праблемы міжнацыян., міжрэлігійн. і міжкультур. узаемадзеяння, дыялогу і сінтэзу. - Ч.2 - Мн., 1997. - С.300.

Тэндэнцыі, што вызначыліся ў культуры беларускіх земляў у часы падзелаў, мелі свой працяг і ў канцы XVIII-першых дзесяцігоддзях XIX ст. «Карэнныя змены ў глыбінных аспектах жыцця, што адбываюцца ў час дзейнасці адной генерацыі, - піша Р.Вапіньскі, - знаходзяць свой выраз толькі ў ментальнасці наступнага пакалення..».[1] Згаджаючыся з гэтай высновай польскага гісторыка, дададзім, што ў нашым выпадку адаптаванне ідэй Асветніцтва новым пакаленнем адбывалася на падставе іх пераасэнсаваня і прыстасаваня да новых палітычных і сацыяльных рэалій. Некаторыя з пазначыўшыхся ў папярэднім стагоддзі тэндэнцый дазналі трансфармацыі, але генеральным накірункам па-ранейшаму засталася дыдактычная функцыя культуры, што было абумоўлена асаблівасцямі палітычнай сітуацыі, а таксама этнічнымі працэсамі.

Спецыфічную ролю ў фармаванні ідэйнага і нацыянальнага аблічча культуры адукаваных варстваў грамадства ў часы падзелаў і першыя дзесяцігоддзі пасля іх згуляла нацыянальная палітыка ўлад Расійскай імперыі.[2] У часы падзелаў Рэчы Паспалітай на ўсходзе Беларусі паслядоўна праводзілася палітыка уніфікацыі, накіраваная на паступовае сціранне адрозненняў ад уласна імперскіх земляў. Русіфікацыя, у тым значэнні, якое мае гэты тэрмін адносна больш позніх часоў, тут яшчэ не магла быць ажыццяўлена. Працэс кансалідацыі рускага этнаса ў нацыю ў той час яшчэ толькі пачынаўся, патрэбны былі дзесяцігоддзі, каб русіфікаваўся нават франкамоўны імператарскі двор. Паняцце русіфікацыі ў гэтых умовах атаесамлялася, найперш, з паняццямі аднастайнасці і строгай іерархіі ў адміністратыўнай сістэме, з дамінуючым становішчам дзяржаўнай царквы і г.д. Другімі словамі, гаворка ішла аб стварэнні ў межах Расійскай імперыі нацыі-дзяржавы без уліку этнічнай прыналежнасці народаў, якія яе насялялі. Падобны працэс назіраецца ў большасці еўрапейскіх краін, у тым ліку, і ў Рэчы Паспалітай, з адрозненнямі ў шляхах і метадах ягонага ажыццяўлення. Стрыжнямі гэтай тэндэнцыі ў Расійскай імперыі былі дзяржава, праваслаўе і руская мова, пры чым апошнія - як канфесія і мова тытульнага этнасу; як атрыбуты Расійскай дзяржавы. У гэтым сэнсе трэба разумець і тыя захады, якія рабіліся ўладамі на ўсходзе Беларусі, у тым ліку, і ў галіне культуры.

У беларускай гістарыяграфіі ўжо трывала замацавалася ацэнка палітыкі ўлад на беларускіх землях у першыя дзесяцігоддзі XIX ст. як

---

[1] Wapicski R. Problem pokolec w historii spoiecznej Polski XIX i XX wieku. Metamorfozy spoieczne.// Badania nad dziejami spoieczecstwa polskiego w XIX i XX wieku. - Warszawa, 1997. - S.39.

[2] Гістарыяграфія праблемы прадстаўлена аўтаркай у рабоце: Историография политики царизма в Белоруссии и национальное возрождение белорусов.// Славяноведение - 1996 - № 5. - С.3-17.

згодніцкай у дачыненні да мясцовай шляхты. У XIX ст. ад асабістай паставы тых, хто стаяў ля стырна ўлады, залежала вельмі многа. Структура бюракратычнай імперыі, у якой галоўным прынцыпам было безумоўнае падпарадкаванне ніжэйшых інстанцый - вышэйшым, а ніжэйшых на сацыяльнай лесвіцы - прывілеяваным, стварала магчымасць праводзіць у жыццё нават самыя адыёзныя ідэі тых, хто стаяў на самым версе. Аддаўшы кіраванне справамі культуры ў рукі папячыцеля Віленскай навучальнай акругі і куратара універсітэта палкага польскага патрыёта А.Чартарыйскага і ягоных адзінадумцаў, Аляксандр I такім чынам стварыў усе падставы для захавання ў культурным жыцці края традыцый былой Рэчы Паспалітай. Супярэчлівая, неакрэсленая палітыка расійскіх улад, прыпыніўшых у канцы XVIII-першыя дзесяцігоддзі XIX стст. палітыку уніфікацыі беларускіх земляў, стварыла глебу для мацавання тут асяродка новай польска-літвінскай культуры. Цэнтрам яе быў Віленскі універсітэт, а перыферыяй - установы Віленскай навучальнай акругі, журналістыка, тэатр, друкарні.

У першыя дзесяцігоддзі пасля падзелаў выразна акрэсліваюцца дзьве супрацьлеглыя тэндэнцыі ў этна-культурным развіцці беларускіх земляў. З аднаго боку, ардадамінантная культура ўсё больш трапляла пад уздзеянне этнічна польскіх культурных традыцый. З другога - працягваецца фармаванне ўласных культурных плыняў - літвінскай і беларускай, пры чым апошнія фармаваліся як сінтэз ардадамінантнай і народнай субкультур.

Кшталтаванне польскай нацыі, падмацаванае нацынальна-вызвольным рухам, пайшло надзвычай хуткімі тэмпамі ў Новы час. У яго арбіту аказалася ўцягнутай і літвінска-беларуская шляхта. Перад абліччам агульнай нядолі - страты ўласнай дзяржавы - даўнішняя спрэчка паміж дзвюма саюзнікамі за дамінацыю ў былой Рэчы Паспалітай была адсунута ўбок. Толькі час ад часу, як напярэдадні і ў ходзе вайны 1812 г., гэтая даўняя спрэчка сыгналізавала аб сваім прытоеным існаванні.[1]

---

[1] Адной з праяў гэтага была спроба аднаўлення ВКЛ напярэдадні вайны 1812 г. Праект стварэння аўтаномнага Вялікага княства Літоўскага, гісторыя якога была ўведзена ў беларускую гістарычную навуку А.Грыцкевічам (Памятныя запіскі Міхала Клеофаса Агінскага Аляксандру I у 1812 годзе.// Адраджэнне. Гістарычны альманах. - Мн., 1995 - С.195-212), і які польскія навукоўцы разглядаюць толькі як кампраміс з боку Агінскага пасля неўдалых спроб аднаўлення былой Польшчы (гл., напрыкл.: Wrotnowski A. Porozbiorowe aspiracje polityczne narodu polskiego. - Krakyw, 1898 - S.143 ), як нам удалося высветліць, не быў толькі асабістай ініцыятывай сенатара, але меў моцную падтрымку ў Беларусі і Літве. Аб гэтым сведчыць захаваўшыйся ліст да сенатара, падпісаны імем Эразма Цішынскага

У поглядах на паланізацыйныя працэсы ў першыя дзесяцігоддзі XIX ст., у адрозненні ад іншых праблем этна-культурнай гісторыі беларускіх земляў, і ў айчыннай, і ў замежнай гістарыяграфіі назіраецца амаль адзінадушша: працэс паланізацыі мясцовай шляхты, на думку даследчыкаў, ішоў у гэты час больш хуткімі тэмпамі, чым ва ўсе мінулыя стагоддзі. Як правіла, падставай для такой высновы з'яўляецца ступень распаўсюджання польскай мовы ва ўстановах Віленскай навучальнай акругі, у тэатры і друкарскай справе. Часам згадваюць яшчэ «польскі патрыятызм», выхаванне якога праводзілася пры пасрэдніцтве згаданых галін культуры. На нашую думку, такая выснова паказвае толькі адзін з накірункаў этна-культурнага працэсу, што ж датычыцца крытэрыяў - іх універсальнасць выклікае шэраг пытанняў.

Дзякуючы намаганням польска-літвінскіх патрыётаў у змест ардадамінантнай субкультуры былі закладзены спецыфічнае разуменне Радзімы і яе карысці: сінонімам гэтага паняцця станавілася былая Рэч Паспалітая, якая ўсё часцей называлася проста Польшчай (падкрэслім, аднак, што ў дадзеным выпадку Польшча палітычная не атаесамлялася з Польшчай этнічнай), а карысць разумелася як аднаўленне яе самастойнасці і непадлегласці. Ідэя неабходнасці самаахвярнай працы для аднаўлення незалежнасці радзімы закладвалася як праз непрыхаваную прапаганду, так і шляхам ідэалізацыі гістарычных падзей і постацей, набываўшых значэнне сімвалаў; фармаваннем новых стэрэатыпаў праз літаратуру, мастацтва, вусную традыцыю. У першым выпадку значную ролю адыгралі некалькі месяцаў 1812 г., калі беларускія землі знаходзіліся пад французскім панаваннем. З амбонаў і на плошчах, на сходах шляхты і гараджан, у прэсе гучалі заклікі да аднаўлення страчанай вольнасці, адраджэння незалежнай Рэчы Паспалітай, абагаўляўся імператар французаў і ягоныя пераможныя войскі, у тым ліку, набраныя ў польскіх і беларуска-літоўскіх землях.[1] Да гэтай прапаганды вельмі актыўна прычыніліся мясцовыя дзеячы

---

(псеўданім?) і датаваны чэрвенем 1811 г. У ім аўтар звяртаецца да Агінскага з разгорнутым праектам аднаўлення ВКЛ і адзначае, што ў Літве большасць шляхты выступіць на баку Расіі, калі гэты праект ажыццявіцца. Цішынскі папярэджвае свой ліст грунтоўнай гістарычнай даведкай аб даўніх правах ВКЛ, падкрэсліваючы аўтаномію яго ў Рэчы Паспалітай. - РГАДА, ф. 12, д.358, л.4-21.

[1] Святочныя набажэнствы праводзілі ў Вільні канонік М.Длускі, у Мінску біскуп Дзядзерка і канонік Жылінскі; у гарадах беларусі святкавалі дзень нараджэння Напалеона. – Morawski S. Dz.cyt. - S.12; Kowalewska Z. Dz.cyt. - S.10-11; «Kurjer Litewski» надрукаваў адозву да жыхароў «Белай Русі» з заклікам далучыцца разам з палякамі да пераможных войскаў Напалеона «пад сцягамі Хадкевічаў, Радзівілаў, Сапегаў, Сангушкаў». «З'яднаныя крывёй (хто ж з нас не ганарыцца тым адзінствам), мы заўсёды лічыліся адзіным народам незалежна ад межаў». - Пісалася ў адозве. - Смалянчук А.Дабрыян А. Указ твор. - С.26.

культуры, у тым ліку рэктар універсітэта Я.Снядэцкі і шмат хто з выкладчыкаў, а таксама мясцовыя акцёры і літаратары.[1] Уплыў гэтых месяцаў на далейшае фармаванне кодавай сістэмы культуры беларуска-літвінскіх земляў адчуваўся на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў пасля заканчэння вайны. Нездарма А.Міцкевіч і ягоныя сябры настолькі захапляліся постаццю імператара французаў, што ўжывалі імя Банапарта як свае асабістае другое імя[2], М.К.Агінскі прысвяціў імператару французаў сваю адзіную оперу («Банапарт у Каіры»), а напалеонаўская эпапея стала аб'ектам уважлівага інтарэса пакалення мастакоў, чыё творчае станаўленне прыпала на 1810-1820 -х гг. (гэтай тэматыцы аддаў даніну Я.Дамель, серыю карцін прысвяціў імператару французаў Я.Сухадольскі і г.д.). У шляхецкую свядомасць як своеасаблівы сімвал змагання за аднаўленне Радзімы ўвайшлі імя Ю.Панятоўскага і легіёны Я.Дамброўскага.[3]

Яшчэ пры жыцці дзеючых асоб падзей канца XVIII ст. паступова ствараўся ідэалізаваны вобраз былой Рэчы Паспалітай. Шляхі стварэння і складаныя часткі гэтага ідэалізаванага вобраза былі розныя. Шмат намаганняў прыклалі тут літаратары, мастакі, выкладчыкі. Вялікае значэнне мелі апавяданні жывых сведкаў, што часцей за ўсё схільны былі прыўкрашваць мінулае. Значэнне сімвалаў набылі Канстытуцыя 3 траўня 1791 г., прадмесце Варшавы Прага, дзе вяліся апошнія баі паўстання 1794 г., імя «Начальніка паўстання» (Naczelnika) Т.Касцюшкі, міфілагізіраваліся іншыя сапраўдныя гістарычныя падзеі і постаці.[4] У гэты час працягвае фармавацца сістэма стэрэатыпаў, тыповых вобразаў, што мацавалі міфалагізіраванае ўяўленне аб былым «залатым веку» Рэчы Паспалітай і дазвалялі падтрымліваць нацыянальны гонар. Мастацкая літаратура, публіцыстыка, выяўленчае мастацтва пачынаюць актыўна ствараць вобразы Старога Шляхціча, ветэрана, патрыёта, мудрага і высакароднага, што адрозніваўся гасціннасцю і вернасцю

[1] У 1812 г. пасля заняцця Вільні французамі мясцовыя акцёры разам з прыехаўшымі з Варшавы Дмушэўскім і Кудлічам паставілі нованапісаную п'есу «Вяртанне Айчыны», якая суправаджалася спяваннем патрыятычных песняў. «Гарачыя апладысменты сустракалі кожную патрыятычную сцэну... публікі было столькі, як ніколі дагэтуль у тэатры не збіралася». - пісаў «Kurjer Litewski» аб спектаклі. На працягу побыта напалеонаўскай арміі ў горадзе артысты паказвалі патрыятычныя п'есы, давалі дывертысменты з патрыятычных песняў. - Rulikowski M. Dz.cyt. - S.44.

[2] Korespondencja filomatyw (1817-1823) - S.19-23.

[3] Smoleński W. Dz.cyt. - S.11-12

[4] Аб шляхах стварэння і значэнні гэтых сімвалаў у гісторыі польскага нацыянальна-вызваленчага руху яшчэ ў XIX ст. пісаў А.Вратноўскі – Wrotnowski A. Dz.cyt. - S.85-87.

«сівой даўніне»; вобраз Маці Polkі, найперш, палымянай патрыёткі, глыбока веруючай і занятай выхаваннем сыноў-змагароў і дачок-патрыётак[1]; стэрэатыпам паступова станавіўся вобраз Дзяўчыны Полькі, самаахвярнай патрыёткі, чыстай і высакароднай у пачуццях і памкненнях і г.д. Вобразы-стэрэатыпы пачынаюць гуляць першасную ролю ў выхаванні новага пакалення беларуска-літвінскай шляхты, утвараючы тым самым своеасаблівую этычную сістэму. Праілюстрыраваць вышэй прыведзенае меркаванне могуць праграмы выхавання беларуска-літвінскіх шляхцянак, прапанаваныя рознымі людзьмі, але аднолькавыя па змесце і мэтах. « Як мне выдаецца, - пісала у 1816 г. жанчына, укрыўшаяся пад псеўданімам Невядомская, - пачатковая адукацыя павінна пачынацца з грунтоўнага вывучэння роднай мовы, з мацярынскім малаком няхай успрымаюць любоў да радзімы. Замест цытавання баек аб ангельскіх і французскіх каралях павінны яны ведаць напамяць гераічныя дзеі Пястаў, Ягелонаў, Сабескіх, а ў жыцці Хадкевічаў, Тарноўскіх, Жалкеўскіх, Замойскіх, Чарнецкіх знойдуць столькі прыкладаў годнасці, як і ў чужых краінах».[2] У 1831 г. аб праграме выхавання дзяўчын, прапанаванай ягоным папярэднікам на пасадзе куратара, М.Навасільцаў пісаў: «...Цэсарэвічу былі прадстаўлены правілы, што даў князь Чартарыйскі для выхавання дзяўчын, у якіх належала пасяляць паняцце аб самастойнай вольнай Польшчы дзеля таго, каб яны ў будучым стаўшы маткамі, перадавалі з мацярынскім малаком сынам сваім любоў да сваёй Бацькаўшчыны і нянавісць да рускіх».[3].

Згадка М.Навасільцава аб «нянавісці да рускіх», што імкнуўся выхаваць у маладога пакалення А.Чартарыйскі, раскрывае ўяўленне часткі беларуска-літвінскай шляхты аб «сваіх» і «чужых». Падзел па прынцыпу «свой-чужы» з'яўляецца адной са складаных частак кодавай сістэмы кожнай культурнай традыцыі і ствараецца, у тым ліку, на падставе фармавання тыповых вобразаў-стэраэтыпаў. Погляд на расіян, як на ворагаў і варвараў, што спакушаюцца не толькі на вольнасць Бацькаўшчыны, але і на здабыткі айчыннай і еўрапейскай культуры, пачаў мэтанакіравана складацца публіцыстамі і літаратарамі яшчэ ў

---

[1] Рэальнае жыццё часам давала постаці, што станавіліся жывой легендай і ў далейшым выконвалі ролю прыкладаў для наследвання. Адной з іх стала жонка віленскага ваяводы, маці паэта Антонія Гарэцкага і бабка мастака Тадэвуша Гарэцкага, сваячка мастака В.Ваньковіча Гарэцкая, аб патрыятызме якой яшчэ пры яе жыцці складваліся легенды. - Morawski St. Dz.cyt. - S.42-53; Puzynina G. Dz.cyt. - S.115-116.

[2] Niewiadomska. Dz. cyt. - S.397-398.

[3] РГИА, ф.733, оп.62, д.1082, л.3.

часы Рэчы Паспалітай.[1] Пасля яе заняпаду падзел на «свой-чужы» побач з раней існуючымі формамі (свой - шляхціч, каталік, чужы - праваслаўны, селянін; або свой - хрысціянін, чужы - іудзей; свая культура і культура замежная, чужая), набываў яшчэ адзін змест: свой - мясцовы літвін, паляк ці беларус, шляхціч, ці селянін, мешчанін, хрысціянін ці іўдзей, чужы - рускі (не чужаземец, але жыхар той самай краіны); чужая культура - руская, свая - мясцовая польская, беларуская, яўрэйская. Безумоўна, мастацкая літаратура, журналістыка і ўсё, што праходзіла цэнзуру, не маглі ў той час адкрыта прапагандаваць так званую «нянавісць да рускіх». Але адмоўны стэрэатып рускага, пад якім амаль выключна разумеўся рускі-вайсковец і рускі-чыноўнік, спакваля фармуецца шляхам «эзопавай мовы» ў падручніках, тэатральных паказах, шляхам вуснай творчасці - анекдотаў, прыказак, жартаўлівых вершыкаў, песенак і г.д. Шэраг такіх узораў вуснай творчасці, народжаных у шляхецкім асяроддзі, перадае ў сваіх мемуарах С.Мараўскі.[2] Што ж тычыцца падцэнзурных твораў, дык вынаходлівасць мясцовых стваральнікаў культуры была тут на высокім узроўні. Дзеля ілюстрацыі прывядзем некалькі красамоўных прыкладаў. Характэрнае ўяўленне аб стасунках паміж рускімі і іх заходнімі суседзямі ў мінулым фармавалі курсы гісторыі ў навучальных установах. «Маладым людзям распавядаюць аб старажытнай Русі, палякам падуладнай і здрадліва супраць сваіх уладароў выступаючай, далей хваляць знакамітых ваяроў, разумных каралёў, перамагаўшых расіян, рабіўшых аблогу Масквы, Пскова і іншыя падзеі старажытных міжусобіц паказваюцца скажона... з пункту гледжання нацыянальных забабонаў» - пісаў аб выкладанні гісторыі ў навучальных установах Віленскай акругі М.Навасільцаў.[3] На фармаванне адмоўнага стэрэатыпу новых уладароў «спрацоўвалі» і школьныя падручнікі, што засталіся на беларускіх землях з часоў КНА. Спроба замяніць іх у 1801 г. была перапынена з-за школьнай рэформы, прадпрынятай Аляксандрам І, і яны амаль без змен выкарыстоўваліся ў школах да пагрома Віленскага універсітэта. Аб гэтых падручніках, у прыватнасці, падручніку па гісторыі Скшэтускага, цэнзар пісаў: «...адныя з іх карысныя, а іншыя, асабліва гістарычныя і распавядаючыя аб правах, вельмі шкодныя, паколькі месцамі ўтрымліваюць правілы манархічнаму ладу кіравання вельмі нестасоўныя».[4] Тое, што падручнікі па гісторыі фармуюць адмоўнае ўяўленне аб рускіх, у 1824 г. заўважыў

---

[1] Kкpicski A. Lach i moskal. Z dziejyw stereatypu. - Warszawa-Krakyw, 1990. - S.41-42, 65-66.
[2] Morawski S. Dz.cyt. - S.42, 404.
[3] РГИА, ф.733, оп.62, 1824, д.696,л.1об.
[4] Сборник материалов для истории просвещения в России, извлечённых из Архива Министерства народного просвещения. - Т.1. - С.340.

М.Навасільцаў і настойліва прапанаваў замяніць іх.[1] Але на працягу чвэрці стагоддзя гэтыя вучэбныя кнігі фармавалі ўяўленне па крайней меры дзвюх пакаленняў вучняў. Другі прыклад дае нам гісторыя тэатру. Адным з першых драматычных твораў расійскіх літаратараў, перакладзеных на польскую мову ў Беларусі, была п'еса В.Капніста «Паклёп» («Ябеда»), надрукаваная ў Мінску ў 1808 г.[2] Аўтарам перакладу быў даволі вядомы на беларускіх землях літаратар М.Бонча-Тамашэўскі. Яшчэ да выхаду друкаванай версіі твор В.Капніста быў паказаны ў Гродна трупай С.Дзешнер (1806 г.)[3]. П'еса рускага драматурга выкрывала адну з самых тыповых і недарэчных рыс расійскай рэчаіснасці - усеўладдзе чынавенства і ягоную прадажнасць. Твор вельмі доўга прадзіраўся праз цэнзурныя забароны і быў дазволены ў Імперыі толькі пасля пераробкі яго аўтарам.[4] Выбар п'есы акцёрамі і перакладчыкам, як можна меркаваць, быў невыпадковы. Паказваючы расійскае грамадства з адмоўнага боку, мясцовыя дзеячы культуры замацоўвалі ў памяці грамадства ўжо пачаўшыйся складвацца стэрэатып, сведчанні аб існаванні якога даюць мемуары.[5] Дарэчы, у гэтых жа мэтах праз некалькі дзесяцігоддзяў мясцовыя тэатральныя трупы ставілі гогалеўскага «Рэвізора».[6] Адмоўны стэрэатып рускага актыўна фармаваўся ў час заняцця Беларусі французамі. Ю.У.Нямцэвіч летам і восенню 1812 г. выдаваў у Вільні «Listy Litewskie», у якіх апрача інфармацыі аб былых межах Польшчы, распаўсюджваў тэндэцыйны стэрэатып «маскаля» - усходняга варвара, для якога асвета часоў Кацярыны II была толькі водбліскам, што «прабіваецца праз зачыненае акно».[7]

Адмоўнае стаўленне да рускіх было адной з характэрных рысаў «сярэднестатыстычнага» шляхціча з цэнтральнай і заходняй Беларусі. У сакавіку 1812 г. Аляксандр I загадаў сякрэтным чынам сабраць звесткі

---

[1] РГИА, ф. 733, оп. 62, 1824, д.696,л.2.
[2] Woioszycski R. Dz. cyt. - S. 64-63.
[3] Makomacka E. Dz. cyt. - S. 345.
[4] История русской драматургии. XVIII - первая половина XIX в. - Л., 1982. - С.157.
[5] «Маскалі дзень па дню становяцца ўсё больш нязноснымі з-за накладвання новых падаткаў, пабораў, тыранскіх усталяванняў для забрання апошніх грошаў у рознага класа людзей. - Пісаў Францішак Міцкевіч аб мяжы стагоддзяў.- ... каб вырашыць якую-небудзь справу, належыць прайсці праз усе суды і інстанцыі, даць хабар..». - Mickiewicz F. Dz. cyt. - S.36-37.
[6] Пасля паказу п'есы на сцэне тэатра ў Вільні акцер Б.Малеўскі, што гуляў Гараднічага, атрымаў папярэджанне ад губернатара, што « нельга ярка высвечваць заганы, якія існуюць у дзяржаве, паказваючы п'есу ў нядружалюбным асяроддзі». – Deryng E. Z pamiktnikyw aktora wilecskiego. // Pamiktnik teatralny. - 1986. - Z.2-3. - S.377.
[7] Woioszycski R. Dz. cyt. - S. 67.

аб становішчы ў памежных губернях «не так даўно да Расіі далучаных». Данясенні мясцовых губернатараў красамоўны і не патрабуюць каментарыяў. Мінскі губернатар пісаў: «Каб выкрыць каго ва ўяўным супрацьстаўленні Расіі, таго сказаць не магу... але сярод дваран мясцовых немнога адданых Расіі, іншыя вагаюцца, а вялікшая частка непрыхільныя Расіі».[1] Віленскі губернатар занес у спіс «падазроных» усю шляхту, выключаючы толькі буйнейшых магнатаў.[2] Прычынай фармавання стасунку да рускіх як да чужых і «варвараў» некаторыя сучаснікі-расіяне лічылі слабае веданне жыхарамі новадалучанай тэрыторыі рускай гісторыі, мовы і культуры. «Аб поспехах асветы, заканадаўства і магутнасці Расіі, - пісаў, у прыватнасці, міністру ўнутраных спраў Лівену начальнік III аддзялення Бенкендорф, - яны зусім нічога не ведаюць. Ступень гэтага няведання даходзіць да невярыгодных памераў і вядома толькі тым, хто быў у тых краях. Застаючыся заўсёды чужымі, можна сказаць, іншаземцамі ў сваёй айчыне, яны напоўнены прадузятасцю і недаверам да адзінапляменнікаў сваіх расіян і самаго ўрада».[3]

Важнай часткай кодавай сістэмы ардадамінантнай культуры станавілася сакралізацыя радзімы. Як ужо адзначалася, касцёл выступаў саюзнікам польска-літвінскіх патрыётаў, а каталіцкая рэлігія, з'яўляючыся ў Імперыі «цярпімай» плыняй хрысціянскага веравызнання, разглядалася як складаны элемент польскіх культурных традыцый. Рэлігія, па-ранейшаму з'яўляючыся важнай часткай этасу, адначасова служыла крыніцай для пошуку сюжэтаў і аналогій. У канцы XVIII - першыя дзесяцігоддзі XIX стст. паступова кшталтуецца вобраз Польшчы «распятай на крыжы, як Хрыстос», вымушанай такім чынам адпакутваць і за свае мінулыя грахі, і за грахі ўсёй еўрапейскай супольнасці. Польскі месіянізм, канчаткова аформіўшыйся ў творчасці А.Міцкевіча, у далейшым развіты З.Красіньскім і дзеячамі эміграцыі, дазваляў не толькі растлумачыць прычыны заняпаду Рэчы Паспалітай, але і даваў надзею на будучае яе аднаўленне.[4] У гэтай частцы культурнага коду гэткім чынам новае жыццё атрымліваюць біблейская гісторыя і хрысціянская сімволіка. Апошняя трывала ўваходзіць у знакавую сістэму нацыянальна-вызваленчага руху, набываючы новую семантыку.

---

[1] ГАРФ, ф.1165, оп. 1, д.149, л.8об.

[2] Там жа, л.11.

[3] ГАРФ, ф.109,оп.4, 1830, д.444,л.3 об.

[4] Сярод работ, прысвечаных гэтай частцы культурнага коду, цікавай, на наш погляд, з'яўляецца невялікая праца Л.Сафронавай: Софронова Л.А. Тема богоизбранного народа в польском мессианизме. Мицкевич и Красиньский.// Славяне и их соседи. Вып.:Еврейское население Центральной, Восточной и Юго-Восточной Европы.Средние века-Новое время. М, 1993. - С.176-181.

Сімвалы і знакі, увогуле, былі адной з найважнейшых частак культурнага і палітычнага жыцця. Гэтую з’яву можна разглядаць і як спадчыну часоў барока, дзе сімвал, алегорыя выконвалі важную інфармацыйную функцыю. Разам з тым, ва ўмовах варожага асяроддзя сімвалы і знакі сталі часткай сістэмы самаабароны нацыянальна-вызваленчага і рэвалюцыйнага руху, што было характэрна не толькі для земляў былой Рэчы Паспалітай, але і для іншых еўрапейскіх краін. Арганізацыйныя формы тайных таварыстваў, а таксама значная частка іх сімволікі былі генетычна звязаны, апрача іншага, з масонствам. Мяжа XVIII - XIX ст. - час росквіту масонскага руху, аб уплыве якога не толькі на палітыку, але і на культуру, пакуль што сказана вельмі мала.[1] Выдаецца аднак, што вывучэнне не толькі гісторыі функцыянавання масонскіх арганізацый, але і ўплыву своеасаблівай масонскай ідэалогіі на светаўспрыманне тагачасных прадстаўнікоў інтэліктуальнай эліты можа даць ключ да разумення шэрагу дастаткова характэрных рыс гісторыка-культурнага працэсу. Не робячы спробу вычарпальна асвятліць гэтае складанае пытанне, адзначым толькі, што многія масонскія ідэалы - роўнасць сяброў масонскіх лож, узаемадапамога, самаўдасканаленне і інш. сталі неад’емнай часткай фармуючагася культурнага кода і заклалі падмуркі праграмных дакументаў большасці тайных таварыстваў таго часу. Тое ж датычыць і масонскай сімволікі, якая была агульнавядомай і побач з іншымі сімваламі і алегорыямі з’яўлялася часткай знакавай сістэмы тагачаснай культуры.[2]

[1] У беларускай літаратуры пакуль што ў наяўнасці ёсць толькі адна больш-меньш аб’емістая работа на гэту тэму - Бегун В.Рассказы о «детях вдовы» - Мн, 1986. - 141 С. На жаль, не з усімі высновамі яе аўтара можна пагадзіцца, зважаючы на тэндэцыйнасць ягоных падыходаў. Што ж датычыць гістарыяграфіі масонскага руху на Беларусі і ў Літве, створанай польскімі і расійскімім навукоўцамі, тут назапашаны дастаткова вялікі навуковы патэнцыял, але па-ранейшаму найбольш грунтоўнымі, як выдаецца, застаюцца працы С. Малахоўскага-Лемпіцкага, напісаныя ў міжваенны перыяд. - Maiachowski-Jkpicki S. Wolnomularstwo na ziemiach dawnego Wielkiego Ksikstwa Litewskiego; Ten ïe. Wolnomularstwo polskie a muzyka.Materyjaiy; Ten ïe.Wykaz dawnych iyï wolnomularskich oraz ich czionkyw w latach 1738-1821. - Krakyw, 1929.

[2] Масонская сімволіка, у якой сваістае значэнне набывалі «усход», «карабель», «сэрца», «катвіца» і інш., выкарыстоўвалася ў якасці алегорый у паэзіі і літаратуры, публіцыстыцы, прыватных лістах, аздабленні памяшканняў і г.д. Прыкладам ужывання такой сімволікі могуць быць лісты філаматаў, што выкарыстоўвалі сімвалічныя знакі, у тым ліку і масонскія, каб падмануць чыноўнікаў-перлюстратараў. Аб адным з такіх лістоў, адпраўленым у 1823 г. з Адэсы Ю.Яжоўскім да З.Малеўскай у Вільню М.Навасільцаў пісаў наступнае: « Пры першым поглядзе на вітальны лісток выдаецца ён толькі невялікай дрэнна намаляванай картай Чорнага мора, на берагах якога Юзаф Яжоўскі жыве. Але калі прыняць да ўвагі накірунак думак Яжоўскага... дык малюнак паўстае ў іншым

У першыя дзесяцігоддзі XIX ст. атрымала свой працяг захапленне антычнасцю, характэрнае для мінулага стагоддзя. Пошук узораў для наследвання прыцягваў да спадчыны старажытных грэкаў і рымлян многіх дзеячоў культуры і нацыянальна-вызваленчага руху, нават тых, чыім мастацкім крэда былі прынцыпы рамантызма. Антычнай гісторыяй і літаратурай захапляліся многія філаматы, у тым ліку А.Міцкевіч, які разглядаў старажытную Грэцыю ў ідэалізаваным святле.[1] Пераклады Гамера, Гарацыя, Эзопа рабілі многія маладыя літаратары-рамантыкі, у тым ліку, апрача А.Міцкевіча, Я.Чачот, А.Гарэцкі, Ф.Кулакоўскі і іншыя. Сюжэты з антычнай гісторыі і міфалогіі давалі плённае поле для стварэння арыгінальных палотнаў і скульптур, творы старажытных скульптараў былі ўзорамі для наследвання. Як і ў мінулым стагоддзі, антычная спадчына была крыніцай сімвалаў і знакаў, якія арганічна ўваходзілі ў новы культурны код, служачы дыдактычным і палітычным мэтам.[2] «У час выкладання старажытнай гісторыі, - пісаў згадваны ўжо М.Навасільцаў, - гавораць аб захопленых народах, аб дзяржавах, якія заняпалі і зноў паўсталі з нябыта, з палкасцю і з мэтай больш чым уяўнай. Дзеля чаго ўсё гэта служыць і да чаго у рэшце рэшт павінна прывесці, можна лёгка здагадацца».[3] Захапленню антычнасцю спрыялі школьныя праграмы, значную частку якіх складалі класічныя мовы і старажытная гісторыя, а таксама праводзімыя ў той час ў Еўропе, а асабліва, ў Італіі археалагічныя росшукі, што вярталі ў сусветную культуру творы старажытных майстроў.

Гісторыя, пачаўшая сваё трыумфальнае шэсце сярод іншых галін навукі, ідэалізаваная і часам «падпраўленая» літаратарамі, давала матэрыял для стварэння большасці стэрэатыпаў і сімвалаў.

---

выглядзе і дазваляе меркаваць, што пад мала значнымі сімваламі хаваецца тайны сэнс. Вядома, што Калантай і іншыя так званыя патрыёты складалі і раздавалі малюнкі, якія азначаюць даўнія межы Польшчы, або такія рубяжы, якія яна мець будзе, калі зноў працай іх адновіцца... Гэтыя апошнія намаляваны на картачцы Яжоўскага. Яна абкружана эмблемамі: наверсе графская карона, вызначальны знак ваявод польскіх, два скіпетры, кветкамі або лаўровым лісцём упрыгожаныя, па баках катвіцы, эмблемы надзеі, а ўнізе караблі, што плывуць пад ветразямі і пазначаюць поспех». - AGAD, Kancelaria Nowosilcewa, t. 822, kart. 94-96. Масонскія знакі - «Арол» і «Чаляднік» («Booz») - згадваліся і ў першай версіі «Дзядоў» А.Міцкевіча. - Mickiewicz A. Dziady. - Warszawa, 1970. - S.316.

[1] Міцкевіч А.Пра рамантычную паэзію.// Філаматы і філарэты. - С.107-109.

[2] С.Мараўскі згадвае, да прыкладу, што ў 1815 г., калі сярод літоўска-беларускай шляхты пачалі абмяркоўвацца праекты вызвалення сялянства, ковенскі маршалак А.Мейер разаслаў па уезду паперу, на якой было два сказы - «Згодзен вызваліць. Ціт». і «Не згодны. Нярон». Усе падпісваліся пад першым сказам, не хочучы праслыць няронамі. − Morawski St. Dz.cyt. - S.321.

[3] РГИА, ф.733, оп.62, 1824, д.696, л.1об.

Экстрапаліруючы на тагачасны літаратурны рух акрэсленне Ул.Калесніка адной з функцый беларускай літаратуры[1], можна назваць гэты працэс «тварэннем легенды». Бадай што, найбольш яскравы прыклад гэтага - «Гістарычныя спевы» Ю.У.Нямцэвіча, у якіх былі створаны ідэалізаваныя вобразы героя ў гісторыі Польшчы і Рэчы Паспалітай пачынаючы ад легенды аб Пясце і заканчываючы спевам «Пахаванне князя Юзафа Панятоўскага». Твор Ю.У.Нямцэвіча адразу пісаўся як «дыдактычна-выхаваўчы матэрыял», што, дарэчы, закладзена было ў патрабаваннях заказчыка - варшаўскага «Таварыства сяброў навукі». «Спевы» сталіся адным з найбольш папулярных выданняў другога дзесяцігоддзя XIX ст. Без перабольшвання можна сказаць, што на іх выхавалася пакаленне літвінска-беларускіх шляхцічаў, што «па Нямцэвічу» не толькі вучылі польскую мову, але таксама стваралі сваё ўяўленне аб гісторыі Рэчы Паспалітай.[2] Нездарма ў хуткім часе, калі ўлады павярнулі да рэакцыі і пачалася паступовая уніфікацыя і русіфікацыя беларускіх земляў, гэты твор, як «шкодны» сваім патрыятычным зместам, быў забаронены цэнзурай.[3] «Гістарычныя спевы» Нямцэвіча сталі падставай для ўзнікнення цэлай скібы культуры - музычных твораў, опер, жывапісных работ і г.д., напісаных на словы, ці сюжэты цыкла.[4] Без перабольшвання можна разглядаць вобразы, створаныя ў «Гістарычных спевах», як адну з важных частак кодавай сістэмы ардадамінантнай субкультуры беларускіх земляў першай паловы XIX ст., а нават і больш позніх часоў. Апрача Ю.У.Нямцэвіча ў літаратурна-гістарычным жанры выступіў у першыя дзесяцігоддзі XIX ст. яшчэ шэраг літаратараў, у тым ліку, і паходзячых, як і аўтар «Гістарычных спеваў», з беларускіх земляў. Сярод іх пісьменнікі старэйшага пакалення Міхал Д.Краеўскі (трагедыя «Лешак Белы»),

---

[1] Калеснік У. Тварэнне легенды.: Літ. Партрэты і нарысы. - Мн.,1987.

[2] Знаўца польскай літаратуры таго часу М.Інглот лічыць іх ролю ў фармаванні гістарычнай свядомасці польскай і паланізаванай шляхты большай, чым усіх іншых твораў польскай літаратуры першых дзесяцігоддзяў XIX ст. - Inglot M. Polska kultura literacka w edukacji szkolnej okresu romantyzmu (ze szczeguiowym uwzglkdnieniem twyrczoњсi Adama Mickiewicza).// Mickiewicz. W 190-liecie urodzin.Materujaiy z sesji naukowej. - Biaiystok, 1988. - S.266. Як ілюстрацыю да гэтага меркавання згадаем, што менавіта «Гістарычныя спевы» прасіў А.Міцкевіч даслаць у гімназію ў Коўна, каб адзначаць лепшых вучняў за іх поспехі, лічачы, што гэта будзе найлепшай і найбольш карыснай узнагародай. - Korespondencja filomatyw (1817-1823). - S.292.

[3] Алфавитный каталог книгам на польском и жмудском языках, запрещенным вполне и позволенным с исключениями с 1830 по июнь 1869 г. включительно. - Спб, 1869.-С.47-48.

[4] Сярод тых, хто ствараў музыку да «Спеваў» былі і землякі аўтара - Ю.Дяшчынскі, Т.Хадкевіч. - Бэлза И. История польской музыки - Т.2. - С.14-15.

Аляксандр Хадкевіч (трагедыя «Ягела ў Тэнчыне», 1820) Ян Ходзька, (трагедыя «Кракус», 1816 г.) і інш. Найбольш любімай гістарычная тэматыка стала для маладых пісьменнікаў-філаматаў: кожны з іх аддаў ёй даніну баладамі і вершамі. Сюжэты з айчыннай гісторыі паступова выціскаюць з гістарычнага жывапісу раней панаваўшыя ў ім біблейскія і антычныя сюжэты. Ю.Пешка, Я.Траяноўскі, Я.Дамель і іншыя мастакі новага пакалення ствараюць не толькі асобныя работы, але цыклы, прысвечаныя найбольш гераічным старонкам з гісторыі Літвы і Польшчы. Сваеасабліва праявілася захапленне айчыннай гісторыяй у М.Кулешы. Мастак яшчэ ў час вучобы ва універсітэце і пасля яго заканчэння прадпрымаў доўгія вандроўкі па Беларусі, фіксуючы ў сваіх работах помнікі даўніны, каб захаваць іх у памяці нашчадкаў.

Гісторыя дазваляла захаваць нацыянальную годнасць ва ўмовах няволі, вызначыць сваю адметнасць сярод іншых народаў. Абапіраючыся на гісторыю, можна было марыць аб аўтаноміі беларускіх земляў і ў складзе Расійскай імперыі. Нездарма прапановы аднаўлення Вялікага княства Літоўскага, якія рабіла група літвінскіх нобіляў напярэдадні вайны 1812 г., засноўваліся на гістарычнай традыцыі аўтаномнага існавання ВКЛ у межах Рэчы Паспалітай, што падмацоўвалася матэрыяламі хронік і летапісаў.[1]

Гонар за мінулую веліч Літвы, цікаўнасць да яе гісторыі, уяўленне аб сабе, як аб яе нашчадку, спалучалася ў мясцовага набілітэту з усведамленнем сваёй прыналежнасці да польскага народу (народу Рэчы Паспалітай) і адказнасцю за яго лёс.[2] Дваістасць самідэнтыфікаці нобіляў беларускіх земляў (літвін ці беларус па паходжанню, паляк «па нацыянальнасці»), якая была адметнай рысай ментальнасці ў папярэднія стагоддзі, набыла на этапе, калі фармаваліся нацыянальныя культуры, прынцыповы характар. У значнай ступені яна станавілася падмуркам для вызначэння нацыянальнай прыналежнасці культуры, якая культывавалася ў шляхецкім асяроддзі. Выбар паміж дзвюма

---

[1] Вышэй названы Э.Цішынскі, абгрунтоўваючы свой праект аднаўлення ВКЛ, спасылаецца на Длугаша, Каяловіча, Герберта, Стрыйкоўскага, Кромера, Шчарбатава, Сарнецкага з указаннем старонак у іх творах. - РГАДА, ф. 12, д.358, л.4-21.

[2] Так, мэтай таварыства філаматаў, як пісаў у сваіх паказаннях на следстве А.Ходзька, была «... усялякая ўзаемная дапамога для ўдасканалення розума моладзі навукай, каб... маглі ствараць творы польскія, якія бы ўзвялічвалі імя Палякаў..». - VUBRS, f. F-2, b. 107, lp.613. Сябры таварыства « Згодныя браты», існаваўшага ў Беластоцкай гімназіі і звязаныя з ім «Заране» са Свіслачы ў 1820-1827 гг. надавалі сабе «мянушкі па прозвішчах слвутых палякаў, пазычаныя з твору Станіслава Патоцкага «Pochwaia Polakom»...каб успамінам іменаў палякаў, якія праславіліся, галоўным чынам, ваеннымі дзеяннямі, падтрымліваць пачуцце патрыятызму ў сябрах таварыства». - РГВИА, ф.410, оп.1, д.61, л.13об.

тэндэнцыямі - выпрацоўкай уласнай, адметнай культурнай традыцыі і ўключэннем сваіх культурных каштоўнасцей і здабыткаў у межы роднаснай этнічна польскай культуры, якая ў гэты час афармляецца як нацыянальная польская культура - ускладняўся наяўнасцю выпрацаванага ва ўсходніх і заходніх суседзяў погляду на этнічную прыналежнасць мясцовага набілітэту.

Расіяне ў гэты час умацаваліся ў сваіх поглядах на шляхту беларуска-літвінскіх земляў, як на палякаў. Для пецярбуржцаў менавіта так называліся ўсе прадстаўнікі беларуска-польскай дыяспары ў сталіцы, уключаючы навагрудчаніна А.Міцкевіча, мінчаніна В.Ваньковіча, ураджэнца Радашчковіч І.Аляшкевіча і другіх.[1] Не апошнюю ролю ў гэтым адыграў, акрамя іншага, удзел шляхты беларускіх земляў ў нацыянальна-вызвольным руху, што праходзіў пад лозунгамі вызвалення Польшчы. Тайныя студэнцкія таварыствы ў афіцыйных дакументах называліся «польскімі зланамыснымі таварыствамі»[2], «горадам, населеным палякамі», называў Вільню ў афіцыйнай перапісцы М.Навасілцаў.[3] Разглядаючы беларуска-літвінскіх нобіляў, як палякаў, расіяне аўтаматычна пераносілі на іх уяўленні аб нацыянальным характары, захапленнях, ладзе жыцця суседняга з беларусамі народа.[4] Магчыма, ідэнтыфікацыя мясцовых нобіляў як «палякаў», якая паўсяместна была распаўсюджана сярод мясцовага і сталічнага расійскага чынавенства, пэўным чынам паўплывала і на самаідэнтыфікацыю беларуска-літвінскай шляхты. Такое ж уздзеянне, як можна меркаваць, аказвала на самасвядомасць беларуска-літвінскай шляхты і склаўшаеся ў палякаў з карэннай Польшчы ўяўленне аб іх, як аб этнічна роднасных людзях[5].

---

[1] Свирида И.И. « Польский день в жизни Пушкина»// Славяноведение - 1996 -№ 5 - С.47 -53;

[2] Гл., у прыватнасці, аб'ёмістую справу 1827 г. «О прикосновенных к делу о польских злоумышленных обществах» - ГАРФ, ф. 109, д.173.

[3] РГИА, ф.733, оп.62, 1824, д.696, л.4.

[4] «... цяпер усе пакорны і спакойны, - пісаў аб настроях шляхты мінскі губернатар фон Радзінг вясной 1812 г., - і гэтаму дзівіцца не трэба, знаючы характар палякаў, якія пакуль у руках - спакойныя і задаволеныя, ў адваротным выпадку даверыцца каму-небуць з іх я бы не раіў». - ГАРФ, ф. 1165, оп. 1, д.149, л.8 об. Граф П.Сухцялен ў 1824 г., займаючыся справай аб тайных студэнцкіх таварыствах, паведамляў начальству: « Адзін з іх (сяброў тайнага таварыства ў Крожскай гімназіі - С.К-С.), як сведчаць, нават меў жахлівыя намеры ў адрас Намесніка Цэсарэвіча. .. Астатнее адпавядае гэтаму і паказвае распусту і шаленства моладзі гэтага края, дзе ўвогуле можна заўважыць шматлікія сляды неспакойнага і разбэшчанага духа польскай нацыі мінулых часоў». - РГВИА, ф.410, оп. 1, д.36, л.2об.

[5] У гэтым сэнсе характэрна выказванне Тадэвуша Вароніча на надзвычайным сейме 1812 г. у Варшаве: « Нягледзячы на залішне доўгае раз'яднанне не перасталі быць

Усё ж літвінская самідэнтыфікацыя набілітэту пазначаецца ў першыя дзесяцігоддзі XIX ст. усё больш выразна. С.Кузняева, разважаючы аб гэтай асаблівасці свядомасці літвінска-беларускіх нобіляў, спасылаецца на агульнавядомую ролю «літвінскай» ментальнасці ў творах А.Міцкевіча.[1] Таксама, як ён, называлі ў вершах сваёй Айчынай Літву Ануфры Петрашкевіч, Тамаш Зан і другія філаматы.[2] На думку С.Станкевіча, накірунак у рамантызме, «рэпрэзентаваны паэтамі мясцовага паходжання, арганічна звязанымі з тутэйшай тэрыторыяй ды асяроддзем, і падмацаваны перакананнем пра больш высокі ўзровень інтэлектуальнага і літаратурнага жыцця ў Вільні, чым у іншых асяродках Польшчы, а таксама пра пэўную ягоную лакальную адметнасць, быў спантанны й, як на тыя часы і ўмовы, зусім натуральны і зразумелы».[3] Невыпадкова ў гэты час закладваецца гістарыяграфія ВКЛ, над якой працуюць лепшыя сілы Віленскага універсітэта, пачынаецца мэтанакіраванае вывучэнне гістарычнай і культурнай спадчыны. « У літоўцаў, - пісаў сучаснік, падкрэсліваючы розніцу паміж літвінамі і «караняжамі», - усе яшчэ Айчынаю Літва, законам - Статут, вярхоўнаю заканадаўчай уладай - Сейм».[4] У літвінскую культурную традыцыю арганічна былі ўключаны постаці і з’явы, якія для этнічна польскай культуры з’яўляліся чужымі. У кодавую сістэму гэтай традыцыі натуральна ўвайшлі, набываючы знакавы сэнс, імены першых князёў ВКЛ - Міндоўга, Гедыміна, Альгерда, Вітаўта; старажытная сталіца Наваградак, герб Пагоня, мясцовыя, не адзначаныя ў Польшчы, абрады Дзядоў і Купалля і многае іншае.

Фармаванне сваістай літвінскай традыцыі, як можна меркаваць, было складанай часткай этна-культурных працэсаў, што адбываліся на беларускіх землях у Новы час. Пры спрыяльных умовах яна магла б развіцца ў самастойную нацыянальную культуру, адаптуючы і перапрацоўваючы традыцыйную народную субкультуру беларусаў і літоўцаў. Дзеячамі гэтай літвінскай традыцыі, што развівалася ўжо як з’ява культуры Новага часу, маглю бы стаць пакаленне рамантыкаў, найперш, выхадцы з філарэцкага асяроддзя, калі б для гэтага яны мелі час і магчымасць. Літвінская культурная традыцыя, пазначыўшаяся на

---

нашымі жыхары Літвы, Русі, Украіны, Падоліі, Валыні: яны таксама, як і мы, палякі, і таксама, як мы маюць права падцьвердзіць сваё імя». - Цыт па.: Wapicski R. Dz. cyt. - S.42.

1 Кузняева С. Культурныя ўплывы і нацыянальная свядомасць. Беларусь у першай палове XIX ст.//Беларусіка = Albarutenica: Кн.3. - С.53.

2 Зан Т. У Альбом Стафана Дамброўскага. Петрашкевіч А. Роздум каля руінаў Гедымінава замка.// Філаматы і філарэты. - С.220,239-240

3 Станкевіч С.Указ. твор. - С.191.

4 РГАДА, ф. 12, д.358, л.20.

мяжы стагоддзяў і ў першыя дзесяцігоддзі XIX ст., больш выразна акрэслілася ў яго другой трэці. Усе вышэй пазначаныя элементы культурнага коду - стэрэатыпы, вобразы, сімвалы і знакі, міфы і легенды, - лёгка ідэнтыфіцыруюцца ў творчасці В.Дуніна-Марцінкевіча, К.Русецкага, Н.Орды, С.Манюшкі і іншых прадстаўнікоў культуры западна - і цэнтральнабеларускіх земляў 1830-1850-х гг. Тут можна знайсці выпрацаваныя ў папярэднія часы стэрэатыпы ( Стары Шляхціч ў Я.Баршчэўскага, Селянін - Навум Прыгаворка ў «Сялянцы» В.Дуніна - Марцінкевіча, расійскі Чыноўнік-хабарнік у ягонай жа «Пінскай шляхце», вобраз Сялянкі ў творах К.Русецкага і г.д.), цікаўнасць да гісторыі сваёй Бацькаўшчыны - гістарычнай Літвы ( прыклад гэтага - Віленскі музей старажытнасцяў, канцэнтраваўшы менавіта літвінскія гістарычныя каштоўнасці), патрыятызм, увагу да пытанняў мовы і г.д. Далейшае развіццё літвінскай традыцыі, якая ўвасабляла фактычна беларускую і літоўскую плыні ў ардадамінантнай культуры, магло бы пры спрыяльных умовах прывесці да кшталтавання цалкам іншага аблічча сучаснай нацянальнай беларускай культуры. Яна бы не выглядала толькі як «сялянская» і «фальклорная», а натуральна бы змяшчала ў сваім культурным кодзе здабыткі шляхецкай культуры ВКЛ і Рэчы Паспалітай. На жаль, гэты працэс быў перапынены пасля паўстання 1863 г. гвалтоўнай русіфікацыяй і фактычным вынішчэннем шляхам высылкі з краю варствы беларускага грамадства, якая была носьбітам гэтай традыцыі. Нашчадкамі яе можна лічыць «краёўцаў», апеліраваўшых на мяжы XIX і XX стст. да гістарычнай і культурнай спадчыны ВКЛ.

Новае гучанне на схіле Асветніцтва атрымала пытанне нацыянальнай мовы. Моўная сітуацыя, што склалася ў той час на беларускіх землях, адрознівалася надзвычайнай стракатасцю. У якасці ўжываных насельніцтвам моў былі польская, беларуская, руская, яўрэйская (ідзіш). У адміністратыўным і судовым справаводстве як спадчына гістарычнага мінулага і традыцый траплялiся яшчэ дакументы на старабеларускай, латыні, нямецкай (захад Гродзеншчыны і Віцебшчыны), французскай мовах.

Пасоўванне рускай мовы на беларускія землі пачалося адразу пасля першага падзелу. Ужо ў 1772 годзе яна была абвешчана на ўсходзе Беларусі мовай справаводства з удакладненнем, што судовае справаводства па маёмасных справах можа весціся на польскай мове.[1] Руская мова не зусім была незразумела беларускай шляхце, але свабодна карыстацца ёю маглі адзінкі. Паданні ў органы расійскай адміністрацыі

---

[1] Гл. аб гэтым: Сяльверстава С. Паміж Польшчай і Расіяй: Моўная сітуацыя ў Беларусі ў канцы XVIII-XIX ст// Беларусіка -6. - С.123-132.

ў часы падзелаў для шляхцічаў пісаліся розныміасобамі, уключаючы праваслаўнае святарства і ніжэйшыя чыны расійскіх войскаў.[1] Для паразумення з расійскім чынавенствам часам выкарыстоўвалася беларуская мова, якую шляхта добра ведала і якая была зразумела рускім.[2] Навучыцца рускай мове сталаму пакаленню не было дзе, а маладыя шляхцюкі маглі атрымаць яе пачаткі толькі ў Полацкім іезуіцкім калегіюме. Адкрыццё народных вучылішчаў не вельмі палепшыла сітуацыю - шляхцічаў тут было немнога. Толькі наступнае пакаленне - тыя, хто ў час першага падзелу былі падлеткамі, або нарадзіліся пасля яго, змаглю без значных цяжкасцяў упісацца ў новае напоўрускамоўнае асяроддзе. Пасля завяршэння падзелаў справаводства толькі часткова было пераведзена на рускую мову. Нават канцылярыі генерал-губернатараў значную колькасць папераў пісалі па-польску. Расійскія чыноўнікі, якія прыяжджалі на Беларусь, імкнуліся, як пісаў С.Мараўскі «для ветлівасці»[3], вывучыць польскую мову. Руская мова выкладалася тут ў народных вучылішчах і факультатыўна - у астатніх навучальных установах усіх узроўняў. Першапачаткова апрача рускай мовы ў першых з іх загадана было ўвесці выкладанне латыні і той замежнай мовы якая « па суседству кожнага намесніцтва, дзе галоўнае вучылішча знаходзіцца, быць можа карысней для ўжытку»[4]. Для беларускіх земляў прадугледжвалася выкладанне не польскай, хаця менавіта з Рэччу Паспалітай межавалі ў той час гэтыя наместніцтвы, а латыні і нямецкай. У хуткім часе, аднак, па просьбам бацькоў і ініцыятыве мясцовага начальства і тут пачалі выкладаць польскую мову ў якасці асобнага прадмета, дзеля чаго запрашалі настаўнікаў з каталіцкіх навучальных установаў. Калі на ўсходзе Беларусі, дзякуючы народным вучылішчам і больш інтэнсіўнаму культурнаму і эканамічнаму абмену з расійскімі землямі, руская мова займала дастаткова моцныя пазіцыі, то на захадзе і ў цэнтры яна ў большасці заставалася для нобіляў чужой. «Скончыўшыя поўны курс вучобы ва універсітэце юнакі, - канстатаваў М.Навасільцаў, - ледзь маюць разумення аб расійскай граматыцы, сачыняць жа або гаварыць на рускай мове не могуць..»..[5]

Польская мова да сярэдзіны 1820-х гг. панавала не толькі ў асвеце, але і ў іншых галінах культуры. У першыя дзесяцігоддзі XIX ст.

---

[1] У вышэй ужо згаданай справе Галынскага паданне ў Сенат па просьбе шляхціча пісаў «первого морского батальона сержант Афанасий Инащинской». - РГАДА, ф.248, оп.126, д.5669, л.206.

[2] Мальдзіс А.І. Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя. - С.91.

[3] Morawski St. Dz.cyt. - S. 403.

[4] ПСЗРИ, Т.XXII, № 16421.

[5] РГИА, ф.733, оп.62, 1824, д.696, л.3.

фармаванне польскай літаратурнай мовы ўваходзіць у сваю завяршальную фазу. Вынікі гэтага працэсу былі падведзены падрыхтаваным у 1806-1815 гг. слоўнікам польскай мовы С.Б.Ліндэ. У гэтай сітуацыі выкарыстанне беларусізмаў у літаратурных творах, якое раней не выклікала абурэння ў польскіх патрыётаў, цяпер разглядалася як «забруджванне» чыстай польскай мовы рэгіяналізмамі. Зварот да беларускай мовы, які вызначыўся ў першыя дзесяцігоддзі XIX ст., адбываўся на падставе мясцовай «польскай», а хутчэй, «літвінскай» мовы, якая адрознівалася ад чыстай польскай мовы наяўнасцю вялікай колькасці беларусізмаў і рэгіяналізмаў. На думку С.Станкевіча, паэты-рамантыкі, найперш, А.Міцкевіч, свядома і мэтанакіравана ўводзілі іх ў мову сваіх твораў, клапоцячыся «падкрэсліць сваю лакальную адметнасць».[1] «Смаргоньшчынай» называла варшаўская літаратурная крытыка напоўненую беларусізмамі мову Міцкевіча[2], якая, фактычна, з'яўлялася мовай літвінскай культурнай традыцыі. Даследваўшая асаблівасці літаратурнай мовы заходнебеларускіх літаратараў польская мовазнаўца С.Курзова прыйшла да высновы аб наяўнасці адметнага «паўночнакрэсавага» дыялекта польскай мовы, характэрнымі асаблівасцямі якога былі шырокае ўжыванне беларускай лексікі, вымовы, прыёмаў словаўтварэння і словазмянення, характэрных для беларускай мовы. На яе думку, гэты дыялект з'яўляўся «дыялектам культурным», увасабляючы адметную мясцовую культурную традыцыю,[3] што адпавядае і нашым назіранням.

Аднім з важных элементаў ідэйна-сутнаснага ладу ардадамінантнай культуры была, так бы мовіць, «сялянская праблематыка». На беларускіх землях, дзе сацыяльны і этнаканфесійны падзел грамадства ў асноўным мелі аднолькавыя межы, сялянства было варствай, захоўваючай традыцыйную культуру беларускага этнасу. Таму ідэалы, стэрэатыпы, вобразы, ўяўленні і іншыя часткі культурнага коду, што выпрацоўвала ардадамінантная культура ў гэтым накірунку, даюць магчымасць вызначыць шляхі, якімі рухаўся працэс паступовага разбурэння саслоўнай стратыфікацыі культуры, фармавання беларускай нацыянальнай культуры ў часы Асветніцтва і спалучэння яе з фармуючайся літвінскай культурнай традыцыяй.

Уяўленні аб стасунках паміж панамі і сялянамі ў даасветніцкі час будаваліся ў значнай ступені паводле антыноміі «свой-чужы», а менавіта, «уладар - падуладны». У падмуркі яе быў пакладзены міф аб

---

[1] Станкевіч С. Згад.твор. - С.138.
[2] Цвірка К. Адам Міцкевіч.// Філарэты і філаматы. - С.31.
[3] Kurzowa Z. Jkzyk polski Wileczszczyzny i kresyw pyinocno-wschodnich XVI-XX w. - Warszawa-Krakyw, 1993.

сармацкім паходжанні шляхты, якая валодала сялянствам па праву заваёўніка і пераможцы. Гэты міф заставаўся элементам самасвядомасці часткі беларуска-літвінскай шляхты і напачатку XIX ст.[1] Уяўленне аб поўнай уладзе над сялянствам, уключаючы смяротнае пакаранне, было замацавана заканадаўча яшчэ ў XVI ст. Статутам ВКЛ 1588 г. і «Уставай на валокі». Да погляду на падуладных, як на нашчадкаў ваеннапалонных, дадаваліся патрыярхальныя адносіны па прынцыпу «сеньёр - васал», якія давалі прыгонніку не толькі права выціскаць з сялян сродкі для свайго бязбеднага існавання, але і вымагалі клапаціцца аб іх дабрабыце і абараняць іх маёмасць і жыццё.

Яшчэ на золку Асветніцтва пачынае кшталтавацца ідэя аб неабходнасці вызвалення сялянства і нестасоўнасці прыгонніцтва для грамадства, што лічыць сябе цывілізаваным. Як падкрэслівае П.Г.Казлоўскі, патрэбнасць перагляду становішча сялянства ў Рэчы Паспалітай абумоўлівалася ўплывам антыфеадальнай барацьбы і эканамічных зрухаў, што адбываліся ў апошняй трэці XVIII ст.[2] Сялянскае пытанне неаднойчы паўставала на сеймах Рэчы Паспалітай, станавілася адной з тэм публіцыстыкі.[3] Практычнымі вынікамі гэтай тэндэнцыі ў сацыяльна-эканамічным жыцці краіны была спачатку адмена панскага права смяротнага пакарання, прынятая ў 1768 г., а затым Канстытуцыя 3 траўня і Паланецкі універсал. Для даследуемай намі праблемы важна тое, што у свядомасці шляхты паступова кшталтуецца ўяўленне аб правах сялянства на дабрабыт і шчасце, на асабістую свабоду. Згодна з назіраннямі А.Мальдзіса, у тагачасных мемуарах мясцовай шляхты прысутнічае толькі лагоднае стаўленне да сялян, няма ні пагарды, ні адмовы ў яго праве на «натуральнае шчасце».[4] У гэтым рэчашчы ішла і змена семантыкі тэрміну «палітычны народ», які паступова распаўсюджваўся на ўсё насельніцтва Рэчы Паспалітай.

---

[1] У час спробы ўнесці праект аб вызваленні сялян на сейміке віленскай шляхты ў 1817 г. дэпутат упіцкага уезда Завіша, абапіраючыся на міф аб колішнім захопе беларускіх земляў сарматамі-шляхтай, гаварыў: « Калі нават нашыя сяляне з'яўляюцца патомкамі ваеннапалонных нашых прапрадзедаў, калі яны вялікай сваёй працай не даслужыліся да шляхецтва, ці не ім мы абавязаны ўсімі выгадамі і прывілегіямі нашымі?» - ГАРФ, ф. 1165, оп.1, д.93, л.3.

[2] Козловский П.Г. Землевладение и землепользование в Белоруссии... - С.150.

[3] « Перамяшаны з мякінай і асцюкамі хлеб, якім сілкуюцца літоўскія прыгонныя, - пісаў, да прыкладу, у той час у брашуры «Аб польскіх прыгонных» Ю.Паўлікоўскі, - хіба ж гэта прыстойная страва для земляроба, які здабывае яго з зямлі? Такі хлеб не дадае моцы, таму праца тутэйшых сялян, хоць яны працуюць аднолькава з каронными, меньш дае карысці, бо слабей сілы». - Цыт. па: Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. - С.221.

[4] Там жа. С.158.

Пасля далучэння беларускіх земляў да Імперыі сялянскае пытанне атрымала новае гучанне ў сувязі з супярэчлівай палітыкай расійскіх улад[1] і тагачаснымі палітычнымі падзеямі. Мадэлі вырашэння яго, прапанаваныя указам аб вольных аратых 1803 г., Кодэксам Напалеона, уладкаваннем сялян у Прыбалтыцы, падштурхоўвалі эканамічную і палітычную думку і часам самі былі яе вынікам. Безумоўна, інэрцыя мыслення большай часткі нобіляў з цяжкасцю дапускала змену склаўшыхся сацыяльных адносін, аб чым сведчыць умацаванне прыгонніцтва на беларускіх землях на працягу паловы стагоддзя, і што зафіксавана ў дакумантах[2]. Але ўяўленне аб неабходнасці перагляду ідэалагічнага падмурка стасункаў паміж нобілямі і сялянствам была ўжо закладзена ў свядомасць асветленай часткі пывілеяванага саслоўя.

Фармаванне поглядаў на актуальнае і пажаданае становішча сялянства ў дзяржаве ішло ў дзвюх накірунках: у падмурак першага з іх былі пакладзены сентыментальныя ўяўленні аб вясковым жыцці; другі абапіраўся на рэалістычныя веды і улічваў патрэбы эканомікі.

Сутнасць сентыментальнага погляду раскрывае, да прыкладу, наступны пасаж з прамовы віленскага біскупа Корвін-Касакоўскага на ўрачыстасці, прысвечанай адкрыццю Віленскага дабрачыннага таварыства ў 1807 г.: «Калі па дзённай працы, гарычыні і спякоце земляроб вяртаецца да сваёй хаткі, дзе абкружаны дзеткамі з іхняй нявіннай радасцю вясёла спажывае запрацаваны ўласным потам хлеб і сном спакойным падмацоўвае страчаныя сілы, гэтая хвіліна ў ягоным жыцці вартая лепшай долі на свеце».[3] У рэчашчы сентыментальнага погляду на сялянскае быццё ішлі пастаральныя сюжэты, што ў другой палове XVIII ст. культывавалі літаратура, тэатр, выяўленчае мастацтва. Шматлікія «Вясковыя балеты», оперы аб пастухах і пастушках, прыдворныя святы ў «вясковым стылі» ў значнай ступені былі яшчэ спадчынай барока, але працягвалі ўплываць на фармаванне ў свядомасці набілітэту стэрыатыпа селяніна, задаволенага сваім бесклапотным жыццём. Элементы пастаралі атрымалі «прапіску» ў творах першых класікаў нацыянальнай польскай літаратуры, драматургаў і мастакоў.

---

[1] Ваганні расійскага ўрада ў выбары метадаў вырашэння сялянскага пытання найбольш яскрава, на наш погляд, паказаў у сваёй рабоце С.Міраненка: Мироненко С.В. Самодержавие и реформы. Политическая борьба в России в начале XIX в. - С.66-67, 74 - 84.

[2] Красамоўны прыклад гэтага дае ліст ананімнага аўтара Аляксандру І, дасланы пасля Тыльзіцкага міру, у якім апошні папярэджвае імператара, што «польскія ( г.зн. «беларускія» - С.К-С) сяляне і іх паны, заахвочаныя прыкладам вольнасці, што атрымалі іх суседнія суайчыннікі ад Напалеона, могуць паўстаць у выпадку вайны з Францыяй». - РГВИА, ф. 410, оп.1, д.125, л.3.

[3] Dzieje Dobroczynnoњci - 1820 - №1 - S.7.

Характэрнымі прыкладамі тут могуць служыць «Кракавякі і горцы» В.Багуслаўскага, апрацоўкі народнай музыкі Ю.Эльснера, цыкл жанравых карцін Ф.Смуглевіча ( «Літоўскія сяляне», «Сяляне за сталом» і г.д.) і іншыя творы. У будучым на гэтым падмурку вырасла «Ідылія» В.Дуніна-Марцінкевіча. Прыхільнікі сетыментальнага погляду на вясковае жыццё, нават асэнсоўваючы неадпаведнасць сваіх уяўленняў рэчаіснасці, прапанавалі адпаведныя сваім перакананням шляхі вырашэння «сялянскага пытання», у пераважнай большасці, утапічныя. Цалкам рэальнай лічылі яны магчымасць пагадзіць інтарэсы пана і селяніна. Да прыкладу, згадваная ўжо Невядомская настойліва заклікала памешчыкаў кінуць горад і пераехаць на пастаяннае жыццё ў маёнткі, каб шляхам рацыянальнага падыходу да гаспадаркі, разам з іншым, палепшыць і быццё сваіх падуладных.[1] Невядомская, таксама, як і многія дзеячы тагачасных дабрачынных таварystваў, заснавалінікі ланкастарскіх школ, тыя, каго захапляў прыклад І.Храптовіча з ягонай узорнай гаспадаркай ў Шчорсах, лічыла, што пан-уладальнік маёнтку, руплівa займаючыся асветай сваіх прыгонных, паляпшаючы шляхам добрага ўладкавання сваёй гаспадаркі і іх жыццё, можа спадзявацца на любоў і адданасць падуладных. Шырокае распаўсюджанне такога меркавання сярод асветленай эліты падмацавана мемуарнымі крыніцамі[2], а таксама дало аб сабе знак у час паўстання 1831 г., калі памешчыкі прыцягвалі на падставе асабістай вернасці ў паўстанцкія атрады падуладных ім сялян. Неабходнасць захавання прыгонніцтва тлумачылася філантропамі тым, што без панскага кіраўніцтва сяляне разгубяцца ў жыцці, не змогуць самі паклапаціцца аб сваім дабрабыце.

Іншы погляд выказвалі на «сялянскую праблему» тыя, хто добра ведаў яе стан і рэальна асэнсоўваў неабходнасць скасавання прыгону для далейшага развіцця эканомікі. Традыцыі прагрэсіўнай публіцыстыкі, закладзеныя па гэтай праблематыцы ў часы Рэчы Паспалітай, ярка паказаны А.Мальдзісам на падставе аналізу творчасці І.Яленскага.[3] У першыя дзесяцігоддзі XIX ст. яны набылі новае гучанне. Выступленні па сялянскаму пытанню, зважаючы на ягоную вастрыню і спецыфічны характар гэтай праблемы ў палітыцы ўлад, павінны былі рабіцца асцярожна і ўзважана. Публіцыстычня творы, прысвечаныя «сялянскай тэматыцы», выклікалі шэраг гучных палітычных спраў. Найбольш вядомай была справа брашуры Валерыяна Страмень-Страйноўскага «Дамовы памешчыкаў з сялянамі». Змест гэтай работы і яе лёс

[1] Niewiadomska. - Dz. cyt. - S.394-398.
[2] Мемуары князя Сапеги. Предисловие С.Тарновского и Б.Павловского. - Петроград, 1915. - С.71; Potocki L. Dz. cyt. - S.149.
[3] Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. - С.299-303.

уяўляюцца у святле нашай праблемы асобліва цікавымі, паколькі ўвасабляюць вельмі характэрныя праявы эпохі.

Першае выданне брашуры ўбачыла свет ў Вільні ў 1808 г. на польскай мове. Праз год з'явіўся пераклад В.Анастасевіча на рускую мову, які таксама быў надрукаваны ў Вільні. Аўтар брашуры - брат рэктара Віленскага універсітэта, вядомы палітычны і культурны дзеяч Валерыян Срамень-Страйноўскі зрабіў у ёй грунтоўны аналіз стасункаў паміж сялянамі і памешчыкамі на беларуска-літоўскіх і ўкраінскіх землях, абапіраючыся на некаторыя статыстычныя выкладкі і ўласныя назіранні. « Некалькі толькі год таму можна адзначыць пункт адліку, з якога мы пачалі асвойвацца ў нашых размовах з выразамі «свабода сялян, іх уласнасць, асабістая і маёмасная іх бяспека». - Пісаў аўтар. - Не ўсе яшчэ і цяпер ( і хутчэй, нямногія) згаджаюцца з тым, што чалавек не можа быць такой уласнасцю іншага чалавека, як адкормленыя ў хаце, або набытыя конь ці бык».[1] Прасочваючы гісторыю сялянскага пытання ў Рэчы Паспалітай, В.Страйноўскі адзначыў замацаваўшыеся ў памяці сучаснікаў захады па ўладкаванню жыцця прыгонных, найперш, праект А.Замойскага 1780 г., прызнаны Сеймам ў 1788г. Не абмінае ён і крокі на гэтым шляху, зробленыя Аляксандрам І, а таксама «Кодэкс Напалеона», што ўведзены быў у той час у Княстве Варшаўскім.[2] «Рабства, - піша ён, - павінна быць знішчана там, дзе яшчэ застаецца».[3] В.Срамень-Страйноўскі на падставе ўласных вылічэнняў абгрунтоўваў эканамічную выгаду ад справядлівай дамовы памешчыка з вызваленымі ад прыгону сялянамі аб памеры іх работы за дадзеную ім зямлю. Паказальна, што сярод іншых формаў эксплуатацыі сялян, найболш карыснай ён лічыць адпрацоўку. На ягоную думку, аплата натурай або грашыма пазбаўляе памешчыцкую гаспадарку працоўных рук, а наёмная праца на беларускіх землях не можа шырока выкарыстоўвацца з-за адсутнасці свабоднай рабочай сілы. Адпрацовачная павіннасць, якую выконваюць сяляне, павінна быць збалансавана такім чынам, каб не прыводзіла да руйнавання сялянскай гаспадаркі. Апошняе меркаванне прагрэсіўнага для свайго часу чалавека давала магчымасць пагадзіць паміж сабой дзьве супярэчлівыя, на першы погляд, з'явы, характэрныя для першай паловы XIX ст.: узмацненне прыгонніцтва і пашырэнне гуманістычных поглядаў на стасункі селяніна і памешчыка сярод асветленай часткі набілітэту. В.Страйноўскі, заклікаючы да вызвалення сялян, адначасова абгрунтоўваў і апраўдываў іх эксплуатацыю з прыцягненнем буржуазных метадаў.

---

[1] О условиях помещика с крестьянами графа В.Стройновского. - С.8.
[2] Там жа. С.9, 155.
[3] Там жа . С.8.

Васіль Анастасевіч - правая рука А.Чартарыйскага ў рэфармаванні ГЛШ, а затым супрацоўнік П.Сперанскага ў камісіі законаў, дадаў да працы В.Страйноўскага дакументы з выдадзенай Новікавым «Руской Вивлиофики», якімі падмацоўваў тэзіс аб былой вольнасці сялянства. У выніку ўмяшальніцтва пецярбургскай цэнзуры брашура была забаронена, а В.Анастасевіч вымушаны быў пакінуць месца працы. [1]

Барацьба вакол сялянскага пытання, што ішла ў тагачасным адукаваным грамадстве, адбілася таксама і ў справе артыкула «Машынка для біцця мужыкоў», што быў надрукаваны шубраўцамі ў «Wiadomoњciach Brukowych». Погляды В.Страмень-Страйноўскага на ўладкаванне стасункаў паміж панам і селянінам, як можна меркаваць па крыніцах, мелі дастаткова прыхільнікаў сярод асветленай часткі памешчыкаў. Амаль тымі ж самымі словамі, што і В.Страйноўскі, піша аб гэтым Аляксандру I у 1809 г. небагаты шляхціч з Беларусі, пажадаўшы застацца невядомым: «...забарані, ўсяміласцівы гасудар, атрымліваць, прадаваць і дарыць людзей...загадай вызваліць сялян, уладкаваць іх лад жыцця, яны ж разам з бедным дваранствам утрымліваюць войска. Паміж панамі і сялянамі зрабіць належыць справядлівыя стасункі: у сёняшніх няма справядлівасці».[2]

Наяўнасць «сялянскай праблематыкі» ў літаратуры, мастацтве, публіцыстыцы беларускіх і польскіх земляў не была з’явай выключнай. Тое самае назіраецца і ў рускай культуры, і ў іншых еўрапейскіх культурах на этапе Асветніцтва. Сялянскае пытанне імкнулася вырашыць Вялікая Французская рэвалюцыя. Жанравыя сцэнкі з сялянскага жыцця, прыўкрашанага і дастасаванага да эстэтычных густаў асветленай публікі, былі моднай тэмай у еўрапейскай літаратуры, тэатры, выяўленчым мастацтве мяжы стагоддзяў. У рускай культуры дастаткова прыгадаць М.Радзішчава, а пазднейшых - В.Трапініна, В.Жукоўскага, А.Пушкіна, А.Крылова і іншых літаратараў і мастакоў, якіх так ці інакш займала «сялянская праблематыка». Але ва ўмовах Расійскай імперыі, дзе прыгонніцтва ляжала ў падмурках самаўладдзя, вырашэнне сялянскай праблемы адбывалася марудна, захады асветленай эліты ў гэтым накірунку ўспрымаліся хваравіта і ўладамі, і кансерватыўнай часткай набілітэту.

Прысутнасць «сялянскай» тэматыкі ў публіцыстыцы паступова рыхтавала глебу да ўзнікнення новых падыходаў да народнай культуры і разумення абавязкаў прадстаўнікоў інтэлектуальнай эліты ў стасунку да

---

[1] Скабичевский А.М.Указ.соч.- С.104, Beauvois D. Dz. cyt. - T. 1 - S. 166; Cybulski R. - Dz. cyt.- S. 74.

[2] РГАДА, ф.12, д.257, л.11об.

неасветленага народа. На гэтай глебе дарасталі філаматы і філарэты з іх цікаўнасцю да гісторыі свайго краю, павагай да народнай мовы, народных традыцый, перакананнем аб неабходнасці апрацоўкі народнай спадчыны прафесіянальнымі дзеячамі культуры. Сувязь фальклора і літаратуры, а таксама этапы яе развіцця добра прадстаўлены ў беларускай навуковай думцы дзякуючы намаганням А.Лойкі, Г.Кісялёва, А.Яскевіча, Ул.Калесніка і многіх іншых беларусазнаўцаў. Адзначым, што ў апошнія дзесяцігоддзі XVIII-пачатку XIX ст. ардадамінантная субкультура выбірала шляхі для злучэння з раней адмежаванай ад яе традыцыйнай субкультурай. Згодна з адным меркаваннем, лічылася неабходным «прыстасоўваць» творы, што прызначаліся для сялянскага ўжытку, да ўспрыняцця адрасатамі. Прыкладам такога падыходу служыць «Песня беларускіх жаўнераў 1794 г»., тэксталагічны аналіз якой зроблены А.І.Мальдзісам.[1] У гэтым рэчашчы пісаў і Я.Чачот, прысвячаючы свае вершы «любым сялянам з-над Нёмана і Дзьвіны». Цяжкасць стварэння твораў у «народным стылі» выклікалася не толькі нераспрацаванасцю літаратурнай беларускай мовы, але і асаблівасцямі самаго матэрыялу, на які арыентаваліся Пачынальнікі. « Прызначаны для вуснага ўспрыняцця і вуснага распаўсюджвання ўвогуле, фальклор, бясспрэчна, не мог развіць такой складанай фармальнай структуры твора, якой пазднеей дасягнула мастацкая літаратура ў выніку скрайней прафесіяналізацыі». - Піша А.Яскевіч.[2] Арыентацыя на фальклорныя формы у большасці выпадкаў вяла да спрашчэння сюжэтных ліній і мастацкіх прыёмаў. Разам з тым, як адзначае вышэй ужо цытаваны А.Яскевіч, асаблівасці метрыкі беларускага вершаванага фальклора дала магчымасць пачынальнікам літаратуры ўвесці ва ўжытак новыя для польскамоўнага асяроддзя прынцыпы пабудовы паэтычных твораў.[3] Аўтары, глыбока звязаныя з народным асяроддзем, і на гэтым шляху рабілі значныя крокі: «Рабункі мужыкоў» Я.Баршчэўскага, «Энеіда навыварат» Равінскага і шмат якія ананімныя творы, узнікшыя не ў сялянскім асяроддзі, сведчаць на карысць такога меркавання.

Другім шляхам была прафесійная апрацоўка аўтэнтычных фальклорных узораў і выкарыстанне выпрацаваных традыцыйнай культурай сюжэтаў, вобразаў, мастацкіх прыёмаў у прафесійных літаратуры і мастацтве. Мова, якая служыла інструментам для ўключэння ў кодавую сістэму ардадамінантнай субкультуры элементаў культурнага коду традыцыйнай субкультуры не мела тут прынцыповага значэння. Аднолькава добра тут магла паслужыць і польская, і руская, і

---

[1] Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. - С. 287-290.
[2] Яскевич А.С. Указ. соч. - С.194.
[3] Там жа. С. 195-197.

нараджаючаяся новая беларуская мова: усе яны прысутнічалі ў моўным асяроддзі беларускіх земляў, выконвалі інфарматыўныя функцыі і патэнцыяльна былі сродкам захавання духоўных каштоўнасцей. Важна было, што традыцыі, якія захоўвала народная культура, станавіліся неад’емным элементам кодавай сістэмы ардадамінантнай культуры. У гэтым рэчашчы працавалі паэты і пісьменнікі з асяроддзя Міцкевіча.

Часткай культурнага коду ардадамінантнай культуры стаў стэрэатып селяніна. Ён хаця і далёкі ад ідэала, але пазначаны ўяўнымі дадатнымі рысамі. Гумарам і шчырасцю надзелены вясковыя хлопцы і дзяўчаты ў «Яжовых імянінах» Я.Чачота, працавітасцю і рахманасцю - сяляне ў ягонай жа баладзе «Узногі», нават у травестыйнай «Энеідзе навыварат» багі-сяляне паказаны з цёплым гумарам. Такі ж вобраз складваецца і ў польскамоўнай частцы літаратуры беларускіх земляў. Тут дастаткова прыгадаць першую частку «Дзядоў» А.Міцкевіча. Адзначым, што ў рускай літаратуры ў гэты час паступова кшталтуецца іншы стэрэатып беларускага селяніна. Г.Дабрынін, да прыкладу, наступным чынам характэрызуе мясцовых сялян: «простой белорусский народ, который очень похож на американцов доколумбовых времен».[1] Адмоўны вобраз беларускага селянства малюе Г.Дзяржавін у «Записке о евреях»:«...ленивы в работах, непроворны, чужды ото всяких промыслов и нерадетельны в земледелии; не заботятся о будущем, но ищут как бы прогулять время и отлынять от трудов».[2] Са стэрэатыпам «забитого белорусского крестьянина», які фармаваўся ў рускай літаратуры, у далейшым прымушаны былі змагацца рускія пісьменнікі-дэмакраты.[3]

Пачатак фармавання беларускай нацыянальнай культуры быў абумоўлены працэсамі этнагенеза і з’яўляўся заканамернай з’явай ў гісторыі беларускага народа. У ягоных падмурках ляжалі змены ў сацыяльным і эканамічным жыцці беларускіх земляў, што сыгналізавалі аб нараджэнні новага, буржуазнага грамадства ў нетрах феадальнага ладу. Гэтыя палажэнні з’яўляюцца для беларускай гістарыяграфіі аксіёмай і не патрабуюць падрабязнага тлумачэння. Разам з тым, выдаецца лагічным бачыць падставы гэтага працэса таксама і ў логіцы развіцця самой культуры як сацыяльнай з’явы. Ні ў часы барока, ні на пачатковым этапе Асветніцтва існуючыя культурныя інстытуты, сацыяльнае становішча стваральнікаў культурных каштоўнасцей, ідэйна-стылявыя асаблівасці культуры, іншыя тыпалагічныя яе рысы не стваралі належнай сітуацыі для пераадолення размежавання паміж

[1] Добрынин Г.Указ соч. - С.221.
[2] Державин Г.Р.Указ. соч. - С.60.
[3]Добролюбов Н.А.Черты для характеристики русского простонародья.// Добролюбов Н.А. Собр. соч. в 9 т. - Т.6. - М-Л, 1963. - С. 226.

традыцыйнай культурай і культурай адукаванай часткі насельніцтва, прафесійнай. Толькі на мяжы XVIII-XIX стст. логіка развіцця гісторыка-культурнага працэса прывяла да становішча, калі ў культуры беларускіх земляў сфармаваліся ўмовы, што падрыхтавалі магчымасць зліцця гэтых дзвюх, раней значна адасобленых субкультур. Гэта, найперш, дэмакратызацыя культуры, што акрэслілася яшчэ на золку Асветніцтва. Пашырэнне асветы на значную, у параўнанні з часамі барока, частку насельніцтва, паступовае фармаванне інтэлігенцыіі, якая складала, так бы мовіць, прамежкавую ступень паміж прывілеяванымі і падатнымі варствамі грамадства, развіццё больш пластычных і «пачуццёвых» ідэйна-стылявых накірункаў - сентыменталізма і рамантызма - усё гэта, побач з іншымі праявамі новай культуры, стварала магчымасць увасобіць «беларускі змест» у «прафесійныя формы». Не апошнюю ролю ў звароце інтэлектуалаў да народнай культуры адыграла атмасфера, якая склалася на беларускіх землях на мяжы стагоддзяў. Адным з прынцыпаў фармавання «культурнага коду» быў зварот да гісторыі, падмацаваны ў дадзеным выпадку патрыятычнымі пачуццямі пасля падзення Рэчы Паспалітай. Захапленне гісторыяй неадменна прыводзіла да «знаходжання» у мінулым саматоеснаснай гісторыі Літвы, якая ўяўлялася не толькі часткай былой Рэчы Паспалітай, але асобным палітычным і этна-культурным утварэннем. Нездарма тых, хто рабіў першыя крокі на шляху нараджэння новай беларускай культуры, прыцягвала тая частка гісторыі беларускага і літоўскага народаў, калі існавала моцнае, непадуладнае Польшчы Вялікае княства Літоўскае. Фармуючаяся ў гэты час літвінская традыцыя была адной з прыступак у працэсе складвання нацыянальнай беларускай культуры, увасабляючы яе ардадамінантную частку. Сваю ролю ў выспяванні ўмоў для прафесіяналізацыі беларускай культуры адыграла эвалюцыя «сялянскага пытання» у культуры і сацыяльна-палітычным жыцці: ад пагарды і занядбання ў час барока, праз пераасэнсаванне паняцця «палітычнага народа» на пачатковым этапе Асветніцтва, цераз ідэалізацыю ў часы сентыменталізма, захаплення і замілавання ў часы рамантызма да сур'eзнай і руплівай збіральніцкай і адаптацыйнай дзейнасці ў часы рэалізма.

## Заключэнне

Другая палова XVIII-першыя дзесяцігоддзі XIX стст. на беларускіх землях былі часам карэннага пераўладкавання ўсіх бакоў культурнага жыцця. З'явы, якія назіраліся ў культуры і гарамадстве - Асветніцтва,

пачатак складвання сучасных этнасаў; дапаўняліся лёсаноснымі пераменамі ў палітычным жыцці рэгіёну - падзеламі Рэчы Паспалітай. Усё гэта прывяло да супярэчлівасці і складанасці гісторыка-культурнага працэсу.

Падзел тэрыторыі Беларусі паміж Рэччу Паспалітай і Расійскай імперыяй, абумовіў уплыў на яе культурнае жыццё дзвюх тыпаў Асветніцтва, дзвюх цывілізацыйных мадэляў - Усхода і Захада.

На працягу паловы стагоддзя - ад 1772 па 1820-я гг.- на беларускіх землях былі пабудаваны падмуркі інстытутаў, у якіх павінна была функцыянаваць культура Новага часу, ўласцівая буржуазнаму грамадству. У гэтым працэсе захад і цэнтр Беларусі выразна апярэджвалі ўсход і па колькасці новых устаноў, і па ступені іх прагрэсіўнасці. Розніца ў інстытуцыянальнай пабудове культуры паміж заходне-, цэнтральнабеларускімі землямі і тымі, што першымі ўвайшлі ў склад Расійскай імперыі, не была канчаткова пераадолена і ў першыя дзесяцігоддзі XIX ст. Захад і цэнтр Беларусі на працягу канца XVIII- першых дзесяцігоддзяў XIX ст. мелі лідарства ў інтэнсіўнасці культурнага жыцця і паступальнасці працэсаў, што ў ім адбываліся.

Безумоўна, усходнія землі Беларусі, з'яўляючыся на працягу стагоддзяў арэнай ваенных дзеянняў, моцна разбураныя, спустошаныя, і ў пачатку дадзенага перыяда адставалі ў сваім развіцці ад захада і цэнтра Беларусі. Але, магчыма, перажыўшы разам з усім Вялікім Княствам часы Асветніцтва, яны бы маглі ўзняцца не толькі ў сацыяльна-эканамічным, але і ў культурным плане. Бадай што, найбольш разбуральным былі вынікі падзелу для працэса фармавання беларускага этнасу. Чвэрць стагоддзя для існавання этнасу невялікі час, але ў дадзеным выпадку гэта была эпоха, калі закладваліся падмуркі якасна новага ўзроўню ў развіцці еўрапейскіх народаў, гэта была эпоха Асветніцтва. Наступствы падзелу беларускага этнасу на дзьве часткі, кожная з якіх дазнала на сабе розныя мадэлі соцыякультурнага развіцця, перадвызначыла ў многім супярэчнасці працэсу фармавання беларускай нацыі і яе культуры.

Працэс пабудовы адзінай соцыякультурнай прасторы, пазбаўленай саслоўных перагародак, уласцівых феадальнаму грамадству, на беларускіх землях меў выразныя адступленні ад агульнаеўрапейскай, «класічнай» мадэлі. У адрозненне ад большасці еўрапейскіх краін, дзе пабудова адзінай соцыякультурнай прасторы адбывалася шляхам адваёвы трэццім саслоўем уласнага месца ў ардадамінантнай культуры, у кіраванні грамадствам, тут гэты працэс ішоў праз свядомае саступленне набілітэтам часткі сваіх правоў на карысць буржуа і ўключэнне элементаў традыцыйнай субкультуры ў культуру нобіляў і святарства. Уваходжанне беларускіх земляў у склад Расійскай імперыі

запаволіла гэты працэс. Наяўнасць жорсткіх саслоўных перагародак, якія не размываліся, а мацаваліся па меры кансервавання феадальна-прыгоннага ладу імперыі, закрывала доступ непрывілеяваным варствам грамадства да адукацыі і іншых здабыткаў прафесійнай культуры. На беларускіх землях, у адрозненне ад Расіі, фармаванне інтэлігенцыі ішло не шляхам рэкрутацыі прадстаўнікоў трэццяга саслоўя ў яе шэрагі, а шляхам пераходу часткі незаможнай і маламаёмаснай шляхты ў сацыяльную групу працаўнікоў інтэлігенцкіх прафесій. Побач з наяўнасцю перашкод для атрымання адукацыі ніжэйшымі варствамі грамадства, гэта тлумачылася таксама «перавытворчасцю» шляхты: інтэлігенцкія прафесіі забяспечвалі яе сродкамі для існавання. Дваістасць сацыяльнага становішча (шляхціч і інтэлігент) абумовіла палітычную паставу, месца ў грамадстве, этнічную і канфесійную прыналежнасць інтэлігенцыі беларускіх земляў. Інтарэсы шляхты былі ёй генетычна роднымі. Увага да народных патрэб, да традыцыйнай культуры ў гэтых умовах была амаль выключна свядомай паставай мясцовых працаўнікоў інтэлігенцкіх прафесій. Гэта абумовіла таксама і асаблівасці стварэння новай беларускай культуры. Яе пачынальнікі фармавалі сваю, літвінскую культурную традыцыю, у якую арганічна ўключалі мастацкія прыёмы, сюжэты, этас і іншыя элементы традыцыйнай народнай культуры.

У перыяд росквіту і завяршэння эпохі Асветніцтва выразна пазначылася перабудова ідэйна-стылявога, сутнаснага ладу ардадамінантнай культуры, змянілася яе структурная пабудова. Рэлігія, якая ў даасветніцкія часы дамінавала ў духоўным жыцці грамадства, саступае свае пазіцыі, не знікаючы, аднак, цалкам з культурнай прасторы. Захаванне некаторага ўплыву рэлігіі на свецкую культуру было абумоўлена, апрача іншага, і асаблівасцямі палітычнай сітуацыі ў рэгіёне. Мясцовыя патрыёты бачылі ў касцёле і уніяцкай царкве саюзнікаў у барацьбе за існаванне Рэчы Паспалітай, а пасля падзелаў - за яе аднаўленне. З другога боку, пасля падзелаў расійскі ўрад, абапіраючыся на традыцыю падпарадкавання царквы дзяржаве, разглядаў царкву, найперш праваслаўную, як прыладу для кантролю над духоўным жыццём грамадства і таму аказваў ёй падтрымку..

Эпоха Асветніцтва прынесла змены ў іерархію галін культуры: на першае месца высоўваюцца асвета, навука, літаратура, тэатр, выяўленчае мастацтва. Менавіта ў гэтых галінах культуры былі зроблены найвялікшыя культурныя здабыткі тых часоў. Адбываюцца змены ў жанрах і стылях літаратуры і мастацтва, узнікаюць новыя галіны навукі, сінтэтычныя віды духоўнай творчасці. Паскорана ідзе працэс змены стылявых накірункаў. Да канца перыяда ардадамінантная культура па сваёй структурнай пабудове, шматлікасці відаў і галін,

стылявому абліччу ў значнай ступені адпавядала тыпу культуры, уласціваму буржуазнаму грамадству.

Асаблівасцю ідэйнага ладу ардадамінантнай культуры беларускіх земляў быў ярка акрэслены патрыятызм. Дыдактычная роля культуры, дэкларуемая еўрапейскім Асветніцтвам, ва ўмовах беларускіх земляў атаесамлялася з неабходнасцю выхавання патрыёта і грамадзяніна. Сфармаваўшыся ў апошнія дзесяцігоддзі Рэчы Паспалітай, гэтая функцыя культуры яшчэ пасілілася пасля яе заняпаду. Нягледзячы на моцнае ўздзеянне этнічна польскай культуры, якое павялічылася ў сувязі з фармаваннем польскай нацыі, ардадамінантная культура беларускіх земляў да канца перыяда захавала сваю адметнасць, кшталтуючы ўласную традыцыю, хоць і звязаную з польскай культурай, але не тоесную ёй. Гэтая літвінская традыцыя несла ў сабе зерні будучых нацыянальных беларускай і літоўскай культур, ствараемыя ў рэчашчы ардадамінантнай культуры.



**Навуковае выданне**

**Куль-Сяльверстава Святлана Яўгенаўна**

